

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



# ЁН МАЛІЎСЯ ЗА БЕЛАРУСЬ

Сапраўднае прозвішча выдатнага беларускага хрысціянскага пісьменніка ХХ ст. Вінцука Адважнага — Язэп Германовіч (4.3.1890–26.12.1978). Ён належыць да той слаўнай кагорты беларускіх святароў-адраджэнцаў, якія актыўна і самаахвярна працавалі на ніве адраджэння нацыянальнай культуры і духоўнасці. Кола яго найбліжэйшых сяброў складалі ксяндзы Адам Станкевіч і Кастусь Стэповіч (паэт Казімір Сваяк), айцы-марыяне Фабіян Абрантовіч і Андрэй Цікота; аднадумцамі-паплечнікамі былі таксама ксяндзы-паэты Янка Семашкевіч (Янка Быліна) і Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля). У адрозненне ад сяброў, пераважная большасць якіх заўчасна пакінулі гэты свет з-за хваробаў або па-пакутніцку загінулі ў сталінскіх лагерах, Язэпу Германовічу ўдалося прайсці праз усе выпрабаванні, выжыць і пражыць доўгае жыццё, скончыўшы яго ў апошняй чвэрці ХХ ст. на эміграцыі, у Лондане.

Апрача душпастырскага паклікання Язэп Германовіч быў адораны немалым літаратурным талентам, які выявіўся ў розных жанравых формах і непаўторным стылі. Як сведчаць бібліяграфічныя і мемуарныя крыніцы, ён пачаў свой літаратурны шлях у 1919 г. з публіцыстычнай нататкі «Думкі аб Уніі», дасланай у газету «Крыніца». Тут на працягу наступнага 1920 г. рэгулярна змяшчаліся яго допісы на тэмы станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, падпісаныя псеўданімам *Хлопчык з-пад Гродны*. Але найбольш вядомым і папулярным як пісьменнік ён стаў у канцы 1920-х – 1930-я гады, калі адно за другім, пераважна ў Вільні, пачалі выходзіць асобныя выданні яго твораў — паэзія і проза, якія папярэдне звычайна друкаваліся ў той жа «Крыніцы» (на той час газета ўжо мела назву «Беларуская крыніца», але па-ранейшаму працягвала друкавацца пераважна лацінкай). Жывую цікавасць на той час у заходнебеларускага чытача выклікалі яго аповесці-гутаркі «Як Казюк сабраўся да споведзі» (1928) і «Казюкова жанімства» (1929), дзе ставіліся пытанні маральнага выхавання моладзі ў духу вернасці хрысціянскім ідэалам любові і дабрачыннасці, супрацьстаяння распуснасці і апушчанасці чалавечых памкненняў. Аўтар без залішняй дыдактыкі — на жывых прыкладах з жыцця свайго героя — даводзіў праз літаратурны твор тыя ісціны, якія ён прамаўляў таксама падчас пастырскіх казанняў, расказваючы пра сутнасць хрысціянскіх прынцыпаў жыцця.

Творы выходзілі пад крыптанімам *В. А.*, а наступныя выданні: вершаваная гутарка «Як Ануля збіралася ў Аргенціну» (1930) і апавяданне «Адам і Анэлька» (1931) пад поўным псеўданімам — *Вінцук Адважны*, з якім аўтар фактычна і ўвайшоў у беларускую літаратуру. У наступныя гады былі выдадзеныя вольная вершаваная апрацоўка вядомай расійскай казкі «Канёк-гарбунёк» (1932), палемічная вершаваная гутарка «Унія на Палессі» (Альбертын, 1932), зборнік вершаў «Беларускія цымбалы» (1933), аповесць «Хлапец» (1935). Адам Станкевіч, як правіла, быў першым крытыкам і даследчыкам творчасці сваіх калег — святароў-пісьменнікаў. Хто ж, як не ён, таксама ксёндз-пісьменнік, мог як найлепш адчуць і зразумець ідэйна-мастацкую сутнасць іхніх твораў?! Менавіта А. Станкевіч напісаў у якасці прадмовы да кнігі «Беларускія цымбалы» крытычны нарыс — «Аб жыцці і творстве В. А. (Вінцука Адважнага)», дзе зрабіў першы найбольш поўны агляд і аналіз яго творчасці. Першая частка нарыса была «аб жыцці», другая — «аб творстве»: у ёй паслядоўна разглядаліся ўсе выдадзеныя на той час творы В. Адважнага. Адносна яго месца ў літаратуры і псеўданіма А. Станкевіч пісаў наступнае: «Сярод беларускіх сучасных у Зах[одняй] Беларусі пісьменнікаў і паэтаў В. А. займае адно з найбольш пачэсных мяйсцоў. З-пад пяра В. А. выйшаў дагэтуль значны лік твораў, якія сапраўды маюць літэратурную, а такжа і грамадзка-народную вартасць. В. А. — гэта ў Беларусаў, здаецца, адзіны літэрат, які сяння йшчэ ня то што ня хоча, але ня можа назвацца ўласным імем і мусіць крыцца пад азначанай у загалоўку мянюшкай. У гэткіх жывём мы грамадзка-палітычных варунках!..»

Адам Станкевіч падаў кароткі жыццяпіс Вінцука Адважнага, падкрэсліваючы яго статус каталіцкага святара і тую мэтанакіраванасць, з якой ён ішоў па абранай сцяжыне свайго жыцця: «В. А. — гэта каталіцкі духоўнік. Радзіўся ў 1890 г. у вадным з мястэчкаў Ашмянскага пав. Паходзіць з беднай пралетарскай сям'і, глыбока рэлігійнай і шчыра адданай Каталіцкаму Касцёлу. В. А. гадаваўся ў горы і недастатку. На самай зары дзяцінства памёр яго бацька. Увесь цяжар узгадавання і ўтрымання лёг на матку і старшую сястру, якія, зарабляючы з працы рук сваіх, атулілі стараннаю апекай будучага духоўніка і паэта і далі яму ў меру сіл сваіх адпаведнае ўзгадаванне і навукі… Першае школьнае знаёмства з навукай было ў народнай расейскай школе, пасля ў школе меставай у Ашмяне. Скончыўшы гэтую школу ў 1909 г., В. А. аб далейшым кірунку свайго жыцця і навукі доўга не думаў…» А далейшай вельмі важнай вяхой яго жыццёвага шляху была вучоба ў Віленскай духоўнай семінарыі, дзе сустрэўся і пасябраваў з аднагодкам і таксама будучым святаром-паэтам Казімірам Сваяком. З ім жа пазней будуць зводзіць шляхі і ў душпастырскай працы: напрыклад, у 1919 г., вяртаючыся ў Клюшчаны, К. Сваяк наведаў Лапеніцу — месца тагачаснай

службы свайго сябра. Тут, як вядома з яго дзённіка «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», адпраўляючы імшу, ён «прамаўляў па-беларуску».

Пазней, у сталыя эміграцыйныя гады жыцця Язэпа Германовіча, некалькі падрабязных біяграфічных матэрыялаў аб ім надрукаваў у лонданскім часопісе «Божым шляхам» яго вучань і беларускі святар Часлаў Сіповіч. У артыкуле «Айцец Язэп Германовіч — жыццё і творчасць» (1964) ён падаваў дакладнае месца яго нараджэння — Гальшаны, згадваў аб тым, што пасля сканчэння пачатковай школы хлопца хацелі аддаць вучыцца канкрэтнаму рамяству — «на шаўца», але жаданне далейшай навукі перамагло, і ён, сапраўды, трапляе ў гарадскую школу ў Ашмяне, дзе адбылася вельмі важная падзея. «Тут першы раз у сваім жыцці спатыкаецца з беларускім друкаваным словам — «Дудкай» Багушэвіча, якую дае яму і ягонай сястры Людвіні беларускі каталіцкі святар Гуневіч, — піша Ч. Сіповіч. — Гэтая кніжачка адчыніла ім вочы, што яны Беларусы, з гэтай пазіцыі яны не зыйшлі праз усё жыццё». Заўважым тут таксама, што творы Францішка Багушэвіча распаўсюджваў менавіта святар, які выдатна разумеў, якое значэнне мае творчасць Мацея Бурачка для беларускага адраджэння і якой высокай хрысціянскай духоўнасцю яна прасякнута! Гэта было разуменнем таго, што творы Багушэвіча сапраўды нясуць святло Божай Праўды для беларусаў, навучаюць іх шукаць тую Праўду, каб быць людзьмі паводле Боскіх прыказанняў, а не цацкамі ў гульні чалавечых прыхамацяў і амбіцый, дзе мацнейшы топча слабога.

Менавіта з гэтай прычыны Багушэвічава «Дудка» аказала такі магутны жыватворчы ўплыў на ўсю далейшую беларускую літаратуру, на кожнага пісьменніка пачатку XX ст. і ў тым ліку на Вінцука Адважнага, што таксама надзвычай яскрава бачна з яго зборніка вершаў «Беларускія цымбалы». Не абмінуў гэтую акалічнасць і яго першы крытык А. Станкевіч, які звярнуў увагу найперш на «музычную» пераемнасць загалоўкаў кніг, што было сімвалічным і азначала «прарочае пракананне Фр. Багушэвіча, што прыйдзе час, калі пасля яго пачатку на беларускім Парнасе паявяцца многія і разнародныя паэты, песняры беларускага народа, што будуць граць хоць кожны сваім складам — як музычныя інструменты ў аркестры — але йграць будуць у згодзе з сабой, іграць будуць гармонійны гімн, пабудку і славу беларускаму народу».

Не толькі знешняе падабенства сімвалічных назваў лучыла творчасць Вінцука Адважнага з традыцыяй Багушэвіча, але і сам дух. «Унікнуўшы ў змест «Цымбалаў», можна лёгка спасцерагчы, што дух Фр. Багушэвіча, затаены ў «Дудку» і «Смык», у пэўнай меры адбіўся ў «Цымбалах» В. А. Выглядае нават так, што аўтар «Цымбалаў» стараўся наследаваць свайго слаўнага папярэдніка», — адзначаў А. Станкевіч. Галоўнымі рысамі ідэйна-мастацкага зместу паэтычных твораў Вінцука

Адважнага Станкевіч слушна называў «жывы патрыятызм» і «глыбокі рэлігійны настрой», якімі прасякаюцца ўсе «разважанні аб жыцці беларускім» аўтара. Падабенства да Багушэвіча, засцерагаў крытык, ні ў чым не змяншае самастойнасці твораў і сведчыць аб арыгінальнасці таленту «цымбаліста», аб развіцці і паглыбленні «чутых матываў». Асабліва выразны перагук з творамі Багушэвіча ўяўляюць сабой вершы Вінцука Адважнага «Панскае ігрышча на новы лад» і «Адказ Юрцы на «Панскае ігрышча на новы лад», якія з'яўляюцца прамымі парафразамі вядомых твораў Багушэвіча са зборніка «Смык беларускі» і кранаюць канцэптуальныя пытанні мастака і яго творчасці ў грамадстве. Высокая ацэнка зборніка «Беларускія цымбалы» Вінцука Адважнага, дадзеная Станкевічам, і на сённяшні час не састарэла, бо сапраўды гэта творчасць, якая вылучаецца «асаблівым адпячаткам суцэльнасці, супакою, жыццёвай мудрасці».

Плённая літаратурная праца Вінцука Адважнага спалучалася з паўсядзённай святарскай службаю, нялёгкай, адказнай, насычанай турботамі, неспрыяльнымі акалічнасцямі і выпрабаваннямі. У 1913 г. малады ксёндз Язэп Германовіч адправіў сваю Прыміцыйную Імшу ў Вільні ў касцёле Св. Духа пры ўдзеле сваіх сяброў Кастуся Стэповіча і Адама Станкевіча. Першае месца душпастырскай службы было Далістова (тагачаснага Беластоцкага пав.), пасля Беласток, ізноў Далістова, іншыя мясціны, а ў 1919 г., як ужо згадвалася, ён быў святаром у в. Вялікая Лапеніца, дзе заснаваў таксама беларускую школу, якая, праўда, праіснавала нядоўга з-за неспрыяльных грамадска-палітычных умоў. Абставіны змусілі яго пакінуць Лапеніцу, і з 1920 г. ён на працягу трох гадоў служыць у в. Луконіцы Слуцкага пав. Там падчас улады бальшавікоў ксёндз Германовіч быў арыштаваны, але неўзабаве выпушчаны. Паэтычным водгукам душпастырскай працы ў Луконіцы пазней стане вядомы верш-дыспут В. Адважнага «Спрэчка пад касцёлам», змешчаны ў зборніку «Беларускія цымбалы».

Як і яго сябры святары-адраджэнцы, Язэп Германовіч у сваёй душпастырскай дзейнасці стараўся заўсёды паслугоўвацца роднай беларускай мовай, прапагандаваў яе сярод сваіх парафіянаў, знаходзячы заўсёды ўдзячны водгук у іхніх душах або натыкаючыся на супрацьстаянне непрыяцеляў беларушчыны, якіх таксама хапала. Гэта не расхалоджвала і не адпалохвала ксяндза-асветніка, хоць і слала яму цярністы шлях выпрабаванняў. Верш-сцэнка «Спрэчка пад касцёлам» адлюстроўваў гэтую сітуацыю вельмі яскрава і быў створаны ў стылі калісьці вельмі папулярных у Беларусі інтэрмедый. Яго герой — просты беларус Сымон, чалавек глыбокай веры і свядомы патрыёт Бацькаўшчыны, які адстойвае сваё права размаўляць на роднай мове, выслаўляць на ёй Бога, шанаваць родную мову як дадзеную Богам «апратку душы». Гэты свядомы «просты беларус» ведае таксама і

айчынную гісторыю, нагадваючы яе хворым на гістарычную амнезію «панам». У сваім дыялогу з «панам Яцэнтым», які пагарджаў беларушчынай, ён даводзіць, што ў даўнія часы беларуская мова была «шляхоцка і князёва» і што на ёй размаўляла ўся арыстакратыя краю: «У ёй гаварылі Радзівілы, / І князь Сапега, і вяльможы, / І шляхта ўся, і народ Божы…»

У 1924 г. Язэп Германовіч уступае ў закон айцоў марыянаў і трапляе ў Друю. Тут у садружнасці з а. Андрэем Цікотам і а. Фабіянам Абрантовічам працягваецца яго актыўнае душпастырскае служэнне на беларускім грунце. Як вядома з успамінаў яго вучня а. Ч. Сіповіча, скончыўшы навіцыят, напачатку ён працуе пробашчам у Друі, затым магістрам навіцыяту, а таксама настаўнікам Закону Божага і лацінскай мовы ў Друйскай гімназіі, якой апекаваліся айцы-марыяне. Асветна-выхаваўчая праца а. Язэпа сярод навучэнцаў гімназіі таксама заўсёды палягала на тым, каб у Божай запаведзі Любові ніколі не губляўся матыў любові да роднай мовы. Моладзь гарнулася да свайго настаўніка. Асабліва выразна выявіліся такія цёплыя, шчырыя пачуцці да яго падчас развітання, калі ў 1932 г. Язэп Германовіч быў накіраваны як місіянер на Далёкі Усход, у Маньчжурыю, куды крыху раней ужо выехаў Фабіян Абрантовіч. Сіповіч піша: «Усе былі ўсхвалёваныя, пачынаючы ад а. Цікоты, супэрыёра Друйскага Дому, а канчаючы на наймалодшым хлапчуку з інтэрната. […] Шчымела сэрца не толькі таму, што пакідае нас дарагі наш чалавек, які не для аднаго з нас стаўся новым бацькам, але й таму, што наша краіна траціла яшчэ аднаго святара і дзеяча, якога нельга было заступіць».

Месцам прабывання айца Язэпа стаў Харбін — фактычна на той час ужо кітайскі горад, у якім было таксама шмат расійскіх перасяленцаў і ўжо даволі працяглы час працавала каталіцкая духоўная місія. Тут яго чакала тая ж справа ўзгадавання моладзі: ён, як адзначаў Сіповіч, «выконваў абавязкі дырэктара гімназіі, спаведніка жаночых манастыроў, выхаваўцы інтэрната, настаўніка». Апрача асноўнай душпастырскай і выхаваўчай дзейнасці, якая адбірала практычна ўсе сілы, стараўся знаходзіць час для літаратурнай працы, пісаў і адсылаў на радзіму закончаныя творы. Менавіта там была напісана яго славутая аповесць «Хлапец», што стала ў свой час сапраўдным бестселерам у заходнебеларускай літаратуры. Пра яе гаварылі, спрачаліся, пісалі ў друку. Аповесць друкавалася часткамі ў «Беларускай крыніцы» з мая 1934 г. па чэрвень наступнага года і ў тым жа 1935 г. выйшла асобным выданнем. У часопісе «Калоссе» ў 1936 г. з’явіўся крытычны артыкул пра гэты твор за подпісам Ад. Саладух. Гэта быў літаратурны псеўданім вядомага ў тым часе сваёй грамадскай актыўнасцю каталіцкага дзеяча, ксяндза-беларуса Уладзіслава Талочкі, які лічыўся вельмі прыдзірлівым крытыкам. Аўтар досыць высока, хоць і не без крытычных закідаў,

ацэньваў ідэйныя і мастацкія вартасці твора, падкрэсліваў — у піку іншым крытыкам — абсалютную дарэчнасць у ім «нацыянальнага і рэлігійнага элементу», асабліва адзначаў псіхалагізм аповесці, дасканальную праўдзівасць у паказе жыцця. «З пункту псіхалагічнага повесць вытрымана і, як на першую пробу, здаваляюча. Папяровых людзей аўтар сусім не паказаў. Усе тыпы — гэта жывыя асобы, добра падгледжаныя і адтвораныя, часамі з дакладнасцю люстра. Такой, не іншай была перадваенная беларуская вёска ў нашым краі», — пісаў Ад. Саладух. Сучасныя беларускія даследчыкі таксама высока ацэньваюць аповесць Вінцука Адважнага «Хлапец», ідэйны змест якой заснаваны на злучаных паміж сабой патрыятычных і хрысціянскіх ідэалах. «Аповесць уяўляе з сябе тэарэтычна абгрунтаваную, паслядоўную, цэласную праграму беларускага адраджэння», — піша Алена Манкевіч*. Аповесць «Хлапец» прасякнута рысамі аўтабіяграфізму, у ёй адчуваецца вопыт святарскай дзейнасці аўтара.

Захаваўся ліст Язэпа Германовіча да Адама Станкевіча з Харбіна ад 5 сакавіка 1935 г., у якім ён апісваў свой тагачасны настрой, літаратурныя памкненні і клопаты: «Туга па Бацькаўшчыне прытупілася, бо й наагул прытупіўся дух ад гэтых абавязкаў. Прыходзяць парывы да вершавання; хочацца часамі пісаць прозай, пасланць якую-колечы карэспандэнцыю ў газету, але гдзе ж там! Каб не выезд залеташні ў Цынг-Тао, дык мой «Хлапец» не радзіўся б на Божы свет. Я магу пісаць толькі ў поўным скупленні духу, што магчыма пры поўным вонкавым супакою. Тагды магу працаваць па некалькі гадзін без адпачынку, а фантазія проста не вычэрпваецца! Вельмі хацелася б скончыць пачатыя паэмы: прысланую з Вільні значна падагнаў («Казюк»), увайшоў у другую часць і… затармазіўся! Чаму? Прычына ўжо апісана. Можа, як-колечы давяду да канца? Як там друкуецца «Хлапец»? Нешта «Крыніца» да нас не даходзіць, дык і не ведаю, у якім палажэнні «Хлапец» знайходзіцца. Ці скора скончыце яго друкаваць? Сколькі будзе страніц? Як выпадае крытыка? […] Апішы ўсё дакументна; напішы аб сваіх і грамадскіх па-дзеях…». Далей а. Германовіч прапануе наладзіць выданне беларускіх кніжак у Кітаі, бо там гэта можна зрабіць даволі танна. Як бачна з ліста, на Далёкім Усходзе, нягледзячы на цяжкія абставіны, ён шмат працаваў на літаратурнай ніве, рупіўся аб выданні сваіх твораў, гарэў жаданнем наладзіць выдавецкую справу дзеля дабра Бацькаўшчыны і беларускай асветы. На жаль, многае з напісанага тады засталося неадасланым і хутчэй за ўсё, як мяркуюць біёграфы, беззваротна згубілася.

У 1936 г. неабходнасць папправіць здароўе прывяла Язэпа Германовіча зноў на радзіму. Падарожжа з Харбіна было доўгім, па сушы

* Манкевіч А. «Бо людзям прыхіліць неба хоча…»: Паэт і святар Вінцук Адважны // Роднае слова, 2010, № 3. — С. 9.

і моры: праехаўшы цягнікам ледзь не ўвесь Кітай, ён «параплавам» прыбыў праз Сінгапур, Суэцкі канал, Міжземнае мора ў Францыю — у г. Марсель. Сярод усіх уражанняў галоўным было наведванне Санктуарыя Божай Маці ў Люрд! Пазней ён успамінаў аб гэтым: «А мне Бог дазволіў наведаць Люрд перад веснавым сезонам пільгрымак, які пачынаецца 11 лютага, а я прыбыў у Люрд 1936 г. 5 лютага. […] І цяпер горача ўспамінаю тую мілую нагоду і дзякую Багародзіцы, што мне ласкава дазволіла адведаць тое святое месца, якое сама выбрала, дзе я сапраўды ўсцешыўся і ўзмоцніўся духова і фізічна».

На радзіме Язэп Германовіч працуе ў Вільні кіраўніком беларускага марыянскага Дому Студэнтаў, які, як пісаў Ч. Сіповіч, «быў парасткам Друйскага Дому і меў за мэту прыгатаванне будучых святароў». Як літаратар у гэты час (1936–1938) ён плённа супрацоўнічае з беларускімі часопісамі «Шлях моладзі», «Калоссе», «Хрысціянская думка», друкуючы там вершы і байкі. Цяпер, апрача свайго сталага літаратурнага імя Вінцук Адважны, ён падпісваецца таксама новым псеўданімам *Лявон Ветрагон*. Менавіта пад такім прозвішчам у часопісе «Хрысціянская думка» з’явілася рубрыка «І дзіўна, і страшна», дзе змяшчаліся вершаваныя сатырычныя «агляды» сусветных палітычных падзей, газетнай палемікі, дзейнасці вядомых асоб. Гэта была актуальная вершаваная крытыка шматлікіх бакоў тагачаснага грамадска-палітычнага жыцця. У якасці ілюстрацыі пакажам, як у 1937 г. Лявон Ветрагон ставіўся да «волі» і «калгасаў» у «Саветах»:

У Саветах — поўна воля,
А ў калгасах — свішча поля.
Мужык — пан! Ён толькі знае,
Што машыну падганяе.
А машына, хай Бог крые,
Аж пацее — зямлю рые!
Растуць дыні, як падушкі;
На вярбе — чырвоны грушкі…
Адным словам, ўсё як трэба:
Не хапае толькі… хлеба*.

Аднак неўзабаве Язэп Германовіч ізноў аказаўся ў Кітаі, бо ў канцы 1930-х гадоў паўсюдна ўзмацніліся рэпрэсіі. Заходняя Беларусь не была выключэннем. Польская адміністрацыя зачыніла ў 1938 г. беларускі кляштар у Друі і марыянскі дом у Вільні. Язэп Германовіч разам з навучэнцамі быў выселены ў цэнтральную Польшчу, а адтуль праз Рым зноў адправіўся на службу ў Харбін.

* Хрысціянская думка. 1937. № 19. С. 7.

Самы страшны перыяд у жыцці святара-пісьменніка наступае з 1948 г., калі кітайскія ўлады арыштавалі яго разам з іншымі святарамі і навучэнцамі і перадалі савецкім органам бяспекі. Так айцец Германовіч быў асуджаны на 25 гадоў прымусовых работ у сталінскіх лагерах Сібіры. Яго жыццё, пакуты і выпрабаванні таго часу таленавіта апісаны ім ва ўспамінах «Кітай, Сібір, Масква», якія з'яўляюцца ўнікальнай мемуарнай крыніцай праўды аб трагізме тагачаснага жыцця і выжыванні ў бесчалавечных умовах таталітарызму. Успаміны былі выдадзены ў Мюнхене ў 1962 г., яны перакладаліся і выдаваліся на іншых мовах (польскай, літоўскай, італьянскай). У 1955 г. савецкія ўлады высылаюць звольненага з лагера Язэпа Германовіча ў Польшчу, адкуль ён праз чатыры гады выязджае ў Рым. Тут а. Германовіч напісаў кароткую гісторыю Харбінскай місіі, дзе ў прыватнасці адзначыў: «Мы, законнікі марыяне, прызначаныя для Місіі ў Харбін, былі ўсе беларусамі, і мы працавалі для Бога і для Царквы, і для бацькаўшчыны… чужое, менавіта Расеі, што ад вякоў была для нас варожаю…»*. Германовіч, як і яго паплечнікі айцы марыяне, жадалі працаваць для сваёй бацькаўшчыны — Беларусі, але праз увесь час мелі да гэтага вялікія перашкоды. Нягледзячы на цяжкасці з афармленнем дакументаў, у лютым 1960 г. айцец Язэп Германовіч, атрымаўшы ватыканскі пашпарт, прыязджае ў Вялікабрытанію, у лонданскі Дом айцоў-марыянаў (Марыян Гаўз), дзе застаецца да канца свайго жыцця.

На эміграцыі Язэп Германовіч не пакідаў сваіх літаратурных і святарскіх заняткаў. Ён шмат пісаў, рэдагаваў хрысціянскі часопіс «Божым шляхам», друкаваў там уласныя публіцыстычныя артыкулы, успаміны пра сяброў сваёй маладосці — ксяндзоў-адраджэнцаў, якія даўно ўжо спачылі ў вечнасці — пра Кастуся Стэповіча (паэта Казіміра Сваяка), Аляксандра Астрамовіча (паэта Андрэя Зязюлю), Зянона Якуця, Андрэя Цікоту, Віктара Шутовіча, Вячаслава Аношку ды іншых. Шмат творчых сіл ён прысвяціў вершаванай апрацоўцы біблейскіх тэкстаў: зрабіў вершаваны пераклад на беларускую мову «Пакутных псальмоў» (1964), а таксама пераказаў вершам «Прыповесьці паводле Эвангелляў Мацвея, Марка, Лукі, Яна» (1970) і стварыў цыкл старазапаветных вершаваных пераказаў: «Рай — першыя людзі», «Каін і Абэль», «Сім, Хам і Яфет», «Вавілонская вежа», «Садома і Гамора» (1971–1972). Усе разам гэтыя тэксты складаюць выключную ў сваім родзе папулярную беларускую Біблію ў вершах.

Цікавымі з'яўляюцца яго публікацыі, прысвечаныя важным падзеям тагачаснага рэлігійнага жыцця і разважанні на духоўныя тэмы (напрыклад, «Ватыканскі Сабор», 1965 г., «Следам за Хрыстом», 1967 г.,

* Цыт. па: Надсан А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: святар і беларус. Менск: БелФранс, 2004. С. 145.

«Слова аб пакуце», 1971 г.). Асаблівую ўвагу айца Язэпа Германовіча ў той час прывабіла постаць Тамаша Мэртана, які пакінуў у свой час кар’еру свецкага пісьменніка, уступіў у ордэн трапістаў у Злучаных Штатах Амерыкі і стаў вядомым пісьменнікам-тэолагам, творы якога і ў нашым сённяшнім часе карыстаюцца вялікай папулярнасцю ва ўсім свеце («Тамаш Мэртан», 1966 г.).

Таксама ў гэты перыяд (1960–1970-я гады) працягваў квітнець сатырычны і гумарыстычны талент Язэпа Германовіча, які амаль штонумар друкаваў у лонданскім часопісе «Божым шляхам» з’едлівыя байкі і сатырычныя вершы пад сваім даўнім псеўданімам Вінцук Адважны і ўтвораным ад яго крыптанімам В. А. Асобнымі кнігамі выйшлі «Байкі і іншыя вершы» Вінцука Адважнага (Лондан, 1973), а таксама сатырычная «сучасная казка» ў вершах «Князь і Лапаць» (1964), дзе аўтар падверг крытыцы савецкую рэчаіснасць з яе несвабодаю і дыктатам над чалавекам, што ён у поўнай меры зведаў, будучы вязнем сталінскага рэжыму. Як рэдактар часопіса «Божым шляхам» Вінцук Адважны часта ў гумарыстычнай форме пісаў вершаваныя звароты «Да паважаных чытачоў», заклікаючы апошніх да актыўнай падтрымкі часопіса сваёй падпіскай. Аўтару пры гэтым ставала добразычлівага гумару, а сам рэдактар у яго выглядаў камічным персанажам твора. Вось, напрыклад, як заканчвалася адна з баек на гэтую тэму «Наш часапіс» (1965): «Рэдактар еў з парожняй міскі — / Чакаем ВАШАЕ п а д п і с к і».

Гумарыстычная і духоўная паэзія, такім чынам, складалі дзве галоўныя і даволі рэдкія ў паэзіі галіны адметнага паэтычнага таленту В. Адважнага. Аднак вершы на біблейныя тэмы ён звычайна падпісваў уласным прозвішчам *а. Я[зэп] Гэрмановіч* або крыптанімам *а. Я. Г.* Важнае значэнне не толькі для беларускай літаратуры, але перадусім для практычнага набажэнства мела яго праца над перакладам малітоўных тэкстаў Кірылы Тураўскага. Пра тое сведчыць згадка ў кнізе «Святы Кірыла Тураўскі» айца Аляксандра Надсана: «Пазнаёміўшыся з малітвамі Кірылы, ён (Германовіч. — *І. Б.*) загарэўся думкай перакласці некаторыя з іх вершам на сучасную беларускую мову. Адной з гэтых малітваў была «Дай, добры Божа…». Вядомы сябра беларусаў і знаўца беларускай царкоўнай музыкі Гай Пікарда падабраў да яе музыку. Цяпер гэтую малітву спяваюць ва ўсіх каталіцкіх святынях у Беларусі, дзе толькі гучыць беларуская мова»*. Трэба дадаць, што вершаваныя тэксты «Малітвы Сьв. Кірылы Тураўскага (Пераклаў на навачасную белар[ускую] мову а. Я. Г.)» з’явіліся ў № 1 (100) часопіса «Божым шляхам» у 1967 г. і гэта былі тры тэксты: «Малітва да Божае Маці», «Малебны канон» у дзевяці песнях і «Малітва да Сьв. Тройцы», якая і ёсць сучаснай малітоўнай песняй «Дай, добры Божа», што

* Надсан А. Сьвяты Кірыла Тураўскі // Спадчына, 1996, № 2. — С. 284.

паўсюдна цяпер спяваецца ў каталіцкіх храмах Беларусі і з'яўляецца адной з найулюбёных рэлігійных песень вернікаў.

Ужо калі гэты том рыхтаваўся да друку, айцец Аляксандр Надсан, які наведаў восенню 2010 г. Беларусь, у асабістай гутарцы з укладальнікам згадаў, што галоўнымі рысамі айца Язэпа Германовіча, як ён яго памятае, былі глыбокая рэлігійнасць і невычарпальнае пачуццё гумару.

Пра той лад жыцця — можна сказаць, святога святарскага жыцця — які вёў Язэп Германовіч, пісаў сведка тых дзён а. Ч. Сіповіч ужо пасля смерці свайго настаўніка: «Апошнімі гадамі свайго жыцця а. Язэп быў вегетарыянцам. Умеў сабе прыгатаўляць мешаніну розных фруктаў і траваў. Кожнага дня рабіў гімнастычныя цвічэнні і прагулкі. Працаваў безупынна і шмат маліўся. Часта яго можна было ўбачыць сярод ночы ў капліцы перад Святымі Дарамі. Маліўся ён за ўсіх і асабліва за гаротную нашу Беларусь».

Ён маліўся за Беларусь. Пакінуў для будучых пакаленняў беларусаў найбагацейшыя жыццёвым досведам успаміны і шматлікія творы паэзіі і прозы. Сённяшнія беларусы-католікі са шчырым узрушэннем спяваюць «Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць…». Праз мастацкае слова вяртаецца да нас постаць святара-адраджэнца, для якога Слова Божай Праўды было святым і пад пяром і на амбоне, бо ў ім праз любоў да Бацькаўшчыны і роднай мовы выяўляецца таямніца і паўната Божай Любові, якая напаўняла яго святарскае сэрца.

Укладальнік кнігі выказвае **ўдзячнасць** *айцу Аляксандру Надсану* за рукапісы лістоў і ўспамінаў «Мае Тата і Мама», а таксама фотаздымкі а. Язэпа Германовіча з Лонданскай беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны; *айцам Сяргею Стасевічу і Алесю Аўдзеюку*, а таксама *Ірыне Дубянецкай* за спрыянне і дапамогу ў атрыманні гэтых матэрыялаў; загадчыку Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі *Аляксандру Стэфановічу*, дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва *Ганне Запартыка* і навуковаму супрацоўніку гэтага архіва *Таццяне Кекелевай* за падтрымку і спрыянне ў карыстанні рукапіснымі фондамі і рэдкімі друкаванымі матэрыяламі архіваў; даследчыкам-літаратуразнаўцам *Лідзіі Савік* і *Арсену Ліcу* за прадстаўленыя з асабістых бібліятэк выданні; *Валерыю Палсцюку* і Ашмянскаму краязнаўчаму музею за фотаматэрыялы; прафесарам *Адаму Мальдзісу* і *Мікалаю Прыгодзічу*, пісьменніцы і галоўнаму рэдактару часопіса «Наша вера» *Хрысціне Лялько*, даследчыку-лаціністу *Алесю Жлутку* за слушныя парады і кансультацыі падчас працы над гэтай кнігай.

*Ірына Багдановіч*



## БЕЛАРУСКІЯ ЦЫМБАЛЫ

### I

Зраблю сабе зычны цымбалы;
Пайду на крыжовы дарогі
І сяду пад крыжам убогім,
Зайграю для Божае хвалы.

Гэй, людзі усе падарожны!
Найбольш, хто бядою прыгнечан,
Нядоляю хто абязвечан —
Пабачце — дзядок тут пабожны.

Іграю, іграці я мушу.
Тут ноты жыццём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны:
Як струны жывыя парушу.

Дык смела ка мне прыступіце!
Мне грошыкаў вашых не трэба:
Я сэрца жадаю, не хлеба.
Жыццё мне сваё раскажыце.

Я зара цымбалы наладжу,
І хутка умелай рукою
Я струны да песні настрою;
Усіх вас пацешу, параджу.

Вось бачу, — прыходзяць грамады
Сярмяжна-працоўнага люду.
(Хвіліны я той не забуду!)
І песні маёй яны рады.

І слухаюць, словы хватаюць,
А песня даходзіць да сэрца,
А сэрца жывей адзавецца…
І болей, і болей жадаюць!

II

Пайшоў я з таёй грамадою;
З сялянамі блізка здружыўся;
З бядою народнаю зжыўся,
Як груша з сваёю мяжою.

І стаў я хадзіці па вёсках;
Блуджу так ад хаты да хаты,
Дзе бедны жыве, дзе багаты —
Па вузкіх, крывенькіх дарожках.

На прызбе засеўшы, іграю:
Багаты глядзяць неласкава,
А бедныя бачаць цікава,
А моладзь за сэрца хватаю.

Сабраўся народ, народ Божы:
Грамадка грамадою стала —
Усе тут ад стара да мала,
Тут хлопцы, дзяўчаткі прыгожы.

Цымбалы мае загудзелі:
Я моладзь вяскову пацешыў,
Я дзетачак мілых насмешыў,
Аж бабы, дзяды змаладзелі.

Азвалісь старэнькі бабулі,
Смяюцца, пяяць памагаюць,
Даўнейшы гады ўспамінаюць,
Як песню народну пачулі.

Азвалась душа у народзе;
А дзетак галоўкі, як хвалі;
Смяялісь ка мне і ківалі,
Як макі чырвоны ў гародзе.

## III

Пакінуўшы мілыя вёскі,
Нясу для мяшчан гэты словы,
А жыхар я сам местачковы.
Бягу нацянькі праз палоскі.

Ў мястэчку кірмаш велізарны:
Знайшоў я іх вельмі занятых;
Гармідар у душах, у хатах,
А дух там затруты і марны.

Засеў я пасярод кірмашу;
Хлапчукі мяне абступілі,
Дражнілі і чуць не пабілі —
За песню, за родну, за нашу…

Мяшчане мяне як пазналі,
Смяялісь, кляліся страшэнна;
Казалі: «Здурнеў, зрабіў дрэнна!»
Зубамі тако ж скрыгаталі.

Я змоўк, занямеў, скамянеўшы,
А сэрца заныла ад болю,
Да іх не прамовіў ніколі
І думаў, ў куточку засеўшы.

Цымбалаў не мог я даткнуцца,
Бо стогнуць, аж плачуць, галосяць;
І роднай мелодыі просяць;
Варожа к чужой адзавуцца.

Я бачу парадкі такія,
Задумаў цымбалы закінуць:
Няхай жа маўчаць ці загінуць!..
Ды сэрца ўсё ные і ные…

## IV

Неяк мне не спіцца уночы,
Бо песня душу разрывае,
Ці анел пры ложку іграе,
Як толькі зліпаюцца вочы.

Дык гэй на поле і на вёскі!
Дзе рэчанька быстра струіцца,
Дзе збожжа на сонцы ірдзіцца —
Шукаю знаёмай дарожкі.

Здалёку дарожаньку бачу:
Яна, хоць крывенька і вузка,
Між красак прыгожа, як стужка,
Ад шчасця смяюся і плачу.

Ізноў разыграліcь цымбалы:
Знайшлася і нота даўнейша,
Глыбейша, яшчэ прыгажэйша,
Свая — і для Божае хвалы!

Цяпер не баюся нікога:
Братоў сваіх родненькіх знаю,
Ім праўды зярно адкрываю,
Вяду да любові, да Бога.

Гэй, дружна! Браты як збяруцца —
Мы камень вугольны паложым,
Мы гора-бяду пераможам!
Дакуль жа, дакуль будзем гнуцца?!

Айчыну мы вольну збудуем:
Хай кожны свой камень прыложа!
Убачыць — і Бог нам паможа.
Дзяцей на людзей узгадуем.

*1932*

## НА 25 САКАВІКА

Світае дзень,
Адходзіць проч
Панура, цёмна, страшна ноч.
Знікае цень.
Устаў народ,
Ідзе, спяшаючы, на сход.

Куды, куды
Спяшыць, ідзе

Ў магутнай, дружнай грамадзе?
Ідзе туды,
Дзе сэрца б’е,
Дзе наша воля, доля дзе.

Заселі ўсе.
Тут кожны рад —
Адзін народ, друг другу брат;
Усе свае,
Свая тут браць:
Прыйшлі Айчыну будаваць.

Хоць льецца пот,
Фундамент ёсць —
Душа народна, кроў і косць!
Жыве народ,
Не есць, не спіць:
Работа йдзе, гарыць, кіпіць…

План ясны тут:
Дом родны свой
Будуй, старайся, ды не стой!
Свой родны кут,
Наш родны пляц
Мілейшы, чым чужы палац.

Ды, Божа ж мой!
Сусед пазнаў:
Нам волю адабраць жадаў.
З душой крывой
З крыніцы п’ю —
Ваду нам чысту замуціў.

Ваду змуціў,
А ў той вадзе
Расставіў сетачкі свае:
Народ зблудзіў,
Аслеп, змадзеў,
Сябе забыў і абгалеў…

Світае дзень,
Гарыць зара:
Ўставаць даўно, даўно пара!
Бо знікнуў цень:

Усе ўстаюць
І волю-долю б'юць-куюць.

Устань, устань!
Скарэй, скарэй!!
Раўнуйся да другіх людзей.
На сонца глянь,
Крылом удар —
Пазнай свабоды, волі цар!

*1932*

## ПРАРОК

Я быў узнесен на вышыні,
Там, дзе пануюць серафімы;
Над імі Бог Усёмагутны,
Дзе архангельскі голас чутны:
«Святы, святы, святы навекі!»

Прад Божым тронам выш-высокім
Стаяць з паклонам ніж-глыбокім,
Закрыўшы вочы, серафімы
І пяюць песню безупынна:
«Святы, святы, святы навекі!»

А я маўчаў — было мне стыдна,
І стала вельмі мне завідна,
Што я быў немы, неразумны,
Як мой народ — тупы, задумны…
А Бог глядзеў — святы навекі!

Паўстала там вяліка дзіва:
Анёлы ўсе глядзелі крыва,
Што я маўчаў, як пень-нямова,
Не мог сказаць разумна слова;
А Бог глядзеў — святы навекі!

А віджу — Бог… ах, моцны Божа!
Твой толькі Огляд гэта можа…
Даў знак анёлу-серафіму,
Каб ратаваў мяне-дзяціну.
Святы, святы, святы навекі!

І ўзяў анёл вуголь алтарны
З агню, што там гарэў ахвярны,
І тым вуглём гаруч-гарачым
Язык мне чысціў, вусны значыў.
І бачыў Бог — святы навекі!

І стаў я чысты, стаў вясёлы,
І рады ўсе былі анёлы,
І прынялі мяне за брата:
Было з таго у небе свята —
І бачыў Бог — святы навекі!

Аж праняла усіх трывога —
Мы ўсе пачулі голас Бога:
«Каго пашлю на свет нікчэмны,
Хоць будуць там труды дарэмны?»—
Прамовіў Бог — святы навекі!

«Не хочуць людзі зразумеці;
Благія ўсе, хоць мае дзеці:
Хто пойдзе да таго народу,
Што у грахох згубіў свабоду?» —
Прамовіў Бог — святы навекі!

Тут скалыхнулісь мае грудзі:
Благія, цёмны тыя людзі,
Але браты мае аднак жа —
Там кроў мая жывая такжа.
І слухаў Бог — святы навекі!

«Дык вось жа я, ах Божа мілы!
Слабы і цёмны, і пахілы:
Аднак запален і ачышчан,
Агнём нябесным я ахрышчан».
І слухаў Бог — святы навекі!

«Ідзі! — мне кажа. — Пасылаю;
Я тваю слабасць добра знаю:
Ты маёй сілай будзеш сільны,
Ты маёй праўдай — непамыльны…» —
Сказаў мне Бог — святы навекі!

«Ідзі!» Іду. «Паслухай!» Чую.
І хоць часіну меў ліхую,

Аднак казаць я праўду буду
Да цвёрдых сэрцаў свайго люду.
Сьвяты мой Бог — сьвяты навекі!

Я скалы цвёрдыя пакрушу,
Я сэрцы гордыя прымушу
Пазнаць ўсю праўду Божу з неба:
Што трэба нам, чаго не трэба!
Сьвяты мой Бог — сьвяты навекі!

*1932*

## МУДРАСЦЬ САЛАМОНА

### I

Усё свой час на свеце мае,
Усё пад сонцам прамінае:
Ёсць час радзіцца, час ўміраці;
Садзіць, расціць і час зрываці;
Ламаць і нішчыць, забіваці,
І час, каб раны папраўляці.
Такія Божыя законы,
Так кажа мудрасць Саламона.

Ёсць час псаваць, час будавацца
Паплакаць, после пасмяяцца.
І час ламаць ад жалю рукі,
І час на скокі і на штукі.
Так кажа цар найбольш вучоны,
Так кажа мудрасць Саламона.

Ёсць час каменні раскідаці,
І час — рассыпаны збіраці.
Ёсць час да мілай прытуліцца,
І час ў разлуцы засмуціцца…
Такі прыродныя законы,
Так кажа мудрасць Саламона.

Час зарабляць і час губляці;
Час сцерагчы і час кідаці;
А што падзёрта, зашываці;

Час гаварыць і час маўчаці…
Так гаварыў той цар натхнёны,
Так кажа мудрасць Саламона.

Ёсць час любіць, час ненавідзець;
Час ваяваць і іншых крыўдзіць;
Але ёсць такжа час мірыцца:
З людзьмі, як трэба, пагадзіцца…
Такі адвечныя законы,
Так кажа мудрасць Саламона.

II

Я відзеў шмат такой работы,
Як людзі, поўныя турботы,
Таўкліся, спорылі, спяшылі,
Не працавалі, ды… смяшылі.

На ўсё свой час. Бог свет устроіў
І так яго для нас прыкроіў,
Што жыць разумна лёгка дужа,
Бо чалавеку свет тут служа.

А людзі — проста непрытомны!
На мудрасць Божую няпомны:
Законаў Божых не пазналі —
На свой капыл перапраўлялі.

Адзін, замест быць справядлівым,
Хадзіў слядом крывым, фальшывым;
Другі судзіў-круціў страшэнна:
Рабіў людзям, сабе тож дрэнна.

На іхна глупства прыглядаўся —
Я вельмі, вельмі дзіваваўся.
І думаў часта: «Моцны Божа!
Тож ім нічога не паможа».

Усё свой час на свеце мае;
Як дым ўся хітрасць прападае;
Стаяць адвечныя законы —
Так кажа мудрасць Саламона.

*1932*

## ЭЛЕГІЯ

*(Паводле Ю. Славацкага)*

Сумна мне, Божа! Хоць пагода красна;
Зямелька увосень багацее дужа;
На небе сонца яшчэ свеціць ясна —
Прыродзе служа…
Мяне ўсё гэта пацешыць не можа,
Сумна мне, Божа!

Вунь брат пакінуў брата ў нядолі;
Там сіраціна тужыць пад парогам;
Удовы бедны, што без хлеба-солі,
Плачуць прад Богам,
Што злосць людская яшчэ беды множа.
Сумна мне, Божа!

Той для багацця, той для інтарэсу,
Іншы для славы працаваў бы вечна:
Як, безразумны, прадаюцца бесу,
Жывуць бяспечна.
Як гэта бачу, што ім не паможа,
Сумна мне, Божа!

Як воўк галодны, што ламае косці
Ваўку другому… людзі горш ад быдла —
Бо, сыты быўшы, толькі з сваёй злосці
Жруцца абрыдла.
Што жывуць людзі між сабой нягожа,
Сумна мне, Божа!

Увосень бачу, як бусел-сірота
Па полі ходзіць, грамадой пакінен:
Яму у вырай замкнёны вароты…
Хто яму вінен?
Пакуль хто праўду мне ў сэрца паложа,
Сумна мне, Божа!

Знаць я не знаю і не буду ведаць,
Скуль тыя смехі у людзей бяруцца,
Што так вясёла сядаюць абедаць —
Сыта нажруцца?..
Мяне не цешыць ні абед, ні ложа:
Сумна мне, Божа!

О, край наш родны! Хоць не маеш сілы,
Ты — наша маці — Беларусь святая!
Табе капае сырую магілу
Подласць людская.
Што наша слабасць ворагаў не зможа,
Сумна мне, Божа!

Мы — адзінокі, як той колас у полі:
Як збожжа зжалі — ён астаўся, сумны;
Іншы здружыліс, шукаючы долі —
Яны разумны!
Мы разлучыліс, дык хто нам паможа?
Сумна мне, Божа!

Але не страшна будзе злосць людская,
Калі мы станем дружна ў абароне:
Бо нам паможа Добрасць Тры-Святая —
Бог на Сіёне.
Пакуль мы братняй дружбы не заложым,
Сумна мне, Божа!

*1932*

## СПРЭЧКА ПАД КАСЦЁЛАМ

### I

С ы м о н

Скуль вы, паночку?

П а н   Я ц э н т ы

Я — аж з Велькей Околіцы,
Дзесенць вёрст од Луконіцы:
Я Плавскі з Плавскіх —
Сын Плавскего. А ты скондыць?

С ы м о н

Я, паночку,
Жыву недалёчку —
Тут у Луконіцы.

Я ц э н т ы
*(да сябе)*

Ага, хлоп! То трудна
Цо ту чуваць, нех пан рада?

С ы м о н

Жывём, пане мой, спакойна,
Працавіта, багабойна;
Касцёл блізка, дык вясёла:
Ходзім часта да касцёла.
А даўней не так бывала —
З гакам трыццаць вёрст — без мала:
Пакуль ў Слонім даскрабешся,
Дык начыста падаб’ешся,
Ды не толькі за дарогу, —
За ксяндза тож дзякуй Богу!
І даступны, і вясёлы,
І ў касцёле, і да школы
Прыбягае, дзетак вучыць —
Аж залішне часам мучыць.

Я ц э н т ы

Хоць вы хлопы, ды палякі,
А тэн ксёндз тут… нейкі, такі,
Цо он гэта… проста мова,
Навет хамске у ёй слова,
Зачол мувіць на амбоні.
А няхай нас Пан Буг броні!

С ы м о н

Ах, мой міленькі паночку!
Што ж ты валіш, як у бочку?!
То ж вы тут не за гарамі:
Мы вас добра знаем самі —
Ні па-руску ці французску,
Вы ж папросту, беларуску —
Тож гаворыце усюды.

*(Да сябе.)*

Не люблю такой аблуды!

Я ц э н т ы

А ты сконд веш, пане?
Хто так муві, кламе[1]!
Мувім тылько в дому
Часам покрыёму,
До паробка, дзевкі.
Але нашы дзеткі,
Хлопцы maладыя
І мы ўсе старыя
Далікатну мову —
Польскую размову —
Так мы палюбілі,
Што, каб нас забілі,
Яе не пакінем!
Хіба перш мы згінем.

С ы м о н

Ніхто вас не забівае;
Кожны гэта добра знае,
Што наш край для нас як маці:
Мы жывём у сваёй хаце.
Беларуска наша мова,
Хоць і просты у ёй словы,
Але родныя і мілы:
Ад калыскі да магілы
Гэтай мовай мы гаворым,
Ці жартуем, пяём, спорым;
На вяселлі ці ў патрэбе…

Я ц э н т ы

Бракавала яшчэ ў небе!
Ксёндз з навукай выязджае:
Хамску мову ўсюды пхае
І ў касцёле… тож адвага!
Гэта ж брыдка, стыд, знявага!
І не бачыць што-якое —
Гэта ж мейсца там святое!
Дачакаем яшчэ скора —
Ксёндз да Бога прагавора,
Як той кажа: проста з мосту,
Так, па-хамску ці папросту!

Сымон

А бадай вам было гола!
Не укусіць ксёндз касцёла:
А у небе, мой ты браце,
Месца досыць: хваце, хваце!..
Знаю я, чаго вам трэба:
Тут палітыка — не неба!

Яцэнты

Як ты хлоп, то сваё хваліш:
Толькі гэтага не знаеш, —
Што польска мова далікатна —
Яна ёсць пекна і прыятна:
Вось як бы з’еўшы хлеба з шмальцам.

Сымон

Ды гэты хлеб для нас з закальцам;
Нам проста мова наймілейша,
У кожнай справе найпярвейша:
Гаворыць ёю кожна матка
Да свайго роднага дзіцятка

Яцэнты

Ды ваша мова найпрасцейша,
А польска дужа шляхатнейша!

Сымон

Э, што да шляхты — лепш не рухай,
А калі хочаш, дык паслухай;
Вось нам гісторыя пакажа,
Якраз па-моему дакажа:
Што наша мова слова ў слова
Была шляхоцка і князёва.
Ў даўнейшы часы, браце мілы,
Ў ёй гаварылі Радзівілы,
І князь Сапега, і вяльможы,
І шляхта ўся, і народ Божы.

Яцэнты

То ж, мусіць, нашай не умелі?

Сымон

І не умелі, й не хацелі!
Ды што таіць! скажу тут смела,
Што князь літоўскі, сам Ягела,
Хоць каралём каранаваўся,
Іначай тож не адзываўся,
Як беларускай нашай мовай.
І у палаце тож замковай
Па-беларуску ўсе пісакі
Лісты складалі там усякі,
Пісалі акты, дакументы —
Ці чуеш, васпан, пан Яцэнты?

Яцэнты

Адкуль ты ведаеш ўсё гэта?

Сымон

Ў мяне ёсць кніжкі, ёсць газета;
І досыць многа я чытаю,
А як не ведаю, пытаю.
Не думай дрэнна пра Сымона:
Ён не такі, як… хто — варона!

Яцэнты

І я тэж ксёнжэк мам досьць веле:
Газеты не мам вось тыкеле.

Сымон

Каб пан больш думаў і чытаў бы,
Скарэй бы праўды дапытаў бы;
Пазнаў бы, пан, як то калісьці
Ці для тытулу, ці карысці
Тут наша шляхта і вяльможы
Стапталі ўсе законы Божы:
Зракліся ўсяго свайго дашчэнту.
І вось тагды, з таго маменту,
Пайшло вяліка разарванне,
А ў нас — чужынцаў панаванне.
Паны згубілі нашу волю,
А мы папалі у няволю.

Цяпер нас цягнуць за сабою,
Таёй дарогаю крывою:
Калечаць нас і мучаць вечна —
Работа гэта небяспечна.
Народ жывы: жывога ж есці…
У вас далёка розум дзесьці!
Дык вось наш ксёндз ў даступнай мове,
У нашым простым, родным слове,
Стаў Бога ўсім людзям тлумачыць:
Што кожна праўда веры значыць.
І як нам жыць, талкуе многа
І шмат тож іншага такога.
Цяпер мы сталі разбірацца,
Шырэй па свеце разглядацца:
Цаніць сябе і мову родну
І справу нашую народну.
Кідаем сваркі і лямэнты…
Што ж ты на гэта, пан Яцэнты?

Я ц э н т ы

Я тут нічога… То ест — многа
Тут нарабіў ксёндз гэты злога,
Бо народ просты ён бунтуе
І нас вось, шляхту, не шануе.

С ы м о н

А што зрабіў ён вам такое?

Я ц э н т ы

Ну, нібы гэта, нібы тое…

С ы м о н

Эх, годзе нам з табой спрачацца;
І, мусіць, лепей развітацца?..

Я ц э н т ы

Мы тэму ксёндзу не даруем:
Вось толькі мы яго шкадуем;
А то мы зара да дэкана,
Мы да біскупа, мы да пана

Старосты пойдзем, як захочам,
Мы хоць куды, як трэба, скочым.

С ы м о н

Так, так, вы добры! пажалелі…
Бадай вы самі тое з’елі!

Я ц э н т ы

Што, можа, мы малыя дзецi?
Мы будзем так сабе сядзецi —
А тут тым часам важна справа!
Якое ксёндз тут мае права,
Каб мову простую, паганску,
Ў касцёл уносiць? ды па-хамску
Каб нас вучыць? а мы не хлопы!

С ы м о н

Так, так — разумны! З Еўропы
Вы самы, самы наймудрэйшы!

Я ц э н т ы

Хто-о?

С ы м о н

Вы, шляхцюры ўсе тутэйшы!
Толькi ж вы крышачку лянiвы,
Як той жыдоўскi конь фальшывы:
Падскочыць ўгору i асядзе,
Хоць кол ламi яму на задзе.

Я ц э н т ы

Мы на ксяндза, хоць шкадавалi,
А ўсё ж, дзе трэба, напiсалi.

С ы м о н

Але ж ён шляхты не баiцца!

Я ц э н т ы

Дык мы гатовы хоць пабiцца!

С ы м о н

Як то — з ксяндзом? і дзе — ў касцёле?

Я ц э н т ы

А нам ўсё роўна: вось тыкеле,
Каб на сваім усё ж паставіць —
І, як захочам, дзела справіць.
Мы яму зробім яшчэ штукі:
Якраз падловім ў час навукі —
Ў запас людзей з сабою клікнем,
Як запяём, а после крыкнем…

С ы м о н

Ну, а як гэта не паможа?

Я ц э н т ы

Э, кожны штось ў кішэнь паложа…

С ы м о н

Тож ты казаў — касцёл шануеш?..

Я ц э н т ы

Цяпер кажу, ці добра чуеш?
Табе сказаў я пад сакрэтам,
Дык данясі ксяндзу аб гэтым:
І спаць у шапку мы не будзем!
Што падпісалі, то здабудзем!

С ы м о н

О, знаю, так — паны вы важны!
Вы пры бутэльцы тож адважны.
Як памагчы, дык вы тагды калекі.
А як захочаце зашкодзіць
Ці ашукаць каго, сазводзіць —
Тагды вы першы.

Я ц э н т ы

Што ты кажаш?

Сымон

А што ж на гэта мне адкажаш?

Яцэнты

Мужык ты, хлоп ты, дурань, хаме!
Няма больш дружбы паміж намі.
Ты што язык свой распускаеш?!
Я шляхціч — хлопе, ты не знаеш?
О, мне юж дзісяй досіць тэго —
Я Плавскі з Плавскіх — сын Плавскего!

*(Выходзіць.)*

II

Сымон
*(паківаўшы галавой у старану Яцэнтага, кажа ў старану публікі)*

Гавары з кабылай пацеры!..
Што тут памогуць аргументы,
Калі дурны сам пан Яцэнты!

*(Задумаўшыся, ходзіць па сцэне.)*

Але ж, мой моцны, добры Божа!
Чаго ж людская злосць не можа?
А мы з святою справай нашай,
Як тыя скваркі — з’есці з кашай
Даёмся, навет і не спорым —
Вось толькі часам пагаворым.
Ці паклянём, ці пабядуем
Або і так, як бы не чуем…
А кругом нас ўзяліся за рукі
І сталі нам даваць навукі,
І б’юць па носе, колькі ўлезе,
Як той каваль ды па жалезе.
Ўсе процiў нас… а дзе прычына?..
Ты, Беларусь — мая Айчына!

*(На адным калене; правая рука ўгару, да публікі.)*

Цябе, цябе у сэрцы маю,
Табе я вернасць прысягаю!
Не марны толькі дам я словы,
Але жыццё аддаць гатовы!
Ты — Беларусь, айчына, Маці,
Прымі прысягу ад дзіцяці!

*(Устае, адмахвае рукой.)*

Далоў, далоў усе спакусы!
Мы людзі тож, мы беларусы.
Не будзем жа усцяж баяцца:
Пара, пара за дзела брацца!

*(Аглядаецца.)*

Ага, вось нехта йдзе сюды.

III

С ы м о н

А вы, паночку мой, куды?
І з нейкай доўгаю паперай,
Так позна — а гадзіне шэрай?

В а л е н т ы

Ах, міленькі браток, Сымоне!
Патрэба, бачыш, мяне гоне:
Інтэрас гэты вельмі пільны —
Мы пасылаем аж да Вільні,
Каб згэтуль ўзяць ксяндза такога,
А нам прыслаць скарэй другога.
Да эксцэленцыі біскупа…

С ы м о н

Эх, доўбні вы, а васпан — ступа!
І чым ксяндзок наш вінаваты?
Запрацаваны і заняты:
Усё як трэба адпраўляе.
Касцёл, будынкі папраўляе.

І сам ахвярны, небагаты;
Заходзіць проста к нам у хаты…

Валенты

Якраз вось гэта непатрэбна!
Бо мова хамская — ганебна,
А тут сам ксёндз у ёй гавора.
Так мне казалі шляхты ўчора.
Вазьмі, браточак, падпішыся.

Сымон

Ці я здурнеў? лепш адчапіся.
Тут наша мілая Айчына…

Валенты

Скажы, каторая гадзіна?
Бо, відзіш, вельмі я спяшаю:
Яшчэ аблётаць многа маю.

Сымон
*(да сябе)*

Каб ты лятаў наперад задам!
Вось гаварэце з такім гадам!

Валенты

Пан нешта кажаш, мне здаецца?

Сымон

Я віджу — наша згода рвецца.
Але ж падумай, будзь ласкавы!

Валенты

Але ж я думаць не цікавы!
Як не падпішаш, тагды годзе —
Па нашай дружбе і па згодзе!

Сымон

Таксама плачу я праз гэта,
Як па тым снезе серад лета.

Калі, пан, розум яшчэ маеш,
Паслухай. Што ж ты мне мяшаеш?
Дапраўды, стыдна вам чапіцца:
За што гразіць, за што тут біцца?
Мы тут жывём ў адным народзе:
Дык можам жыць у мілай згодзе.
Вы — шляхта, добра — няхай будзе,
Але ж і шляхта такжа людзі.
Мы — людзі просты, што ж за дзіва?
Мы любім «проста», а вы — «крыва».
Я тож разумных шляхтаў знаю,
Жывуць між вамі, ў гэтым краі,
Што любяць родную Айчыну.
Знаў я такога малайчыну:
Быў ён праўдзівы патрыёта.
Ды ёсць, сказаць бы так — балота,
Што вось — крычаць, пісаць ці юдзіць
Ці справу чыстую забрудзіць —
Усюды першыя даскочаць.
І тут згубіць ксяндза нам хочуць.
Пабачце, што натура кажа,
Што звер ці птушка нам пакажа:
Усе, як ёсць, свой голас маюць
І згодна між сабой гукаюць;
І так вучымося з прыроды
Людові добрай, такжа згоды!
Што маеце да нас, скажыце,
Нам наша права уступіце:
Тагды збяромся, разам сядзем
І пагаворым, і парадзім —
І створым так адну сямейку,
Бяду прагонім ліхадзейку…

В а л е н т ы

Гадоў за тысяч будзе,
Як мы жывём у Прудзе.
Ніколі ж мы не снілі,
Аж да апошняй хвілі,
Каб ксёндз наш каталіцкі —
Наш пробашч Луканіцкі —
Пакінуў мову польску!
Каб навет па-японску
Ён стаў казаць навуку,

Дык я на гэту штуку
Сапраўды менш дзівіўся б;
А так я з толку збіўся.

С ы м о н

Не трэба таго баяцца,
А лепш за розум ўзяцца;
Бо справа вельмі ясна:
Старонка тут няшчасна —
Былі тут бітвы, войны —
Народ ціхі, спакойны,
Ён сам сябе баяўся;
Усіх кругом стыдаўся.
І мы вось разарваны:
Вы — важны «мосці-паны»,
Мы страцілі, што мелі —
Схлапелі, апрасцелі.
Аднак згадзіцца можна.

В а л е н т ы

Эй, браце, асцярожна!

С ы м о н

Пара нам спрэчкі кінуць.

В а л е н т ы

Яна павінна згінуць!

С ы м о н

Хто?

В а л е н т ы

Гэта мова проста.

С ы м о н

Чаму ж?

В а л е н т ы

Казаў староста,
Што ксёндз не мае права.

Сымон

То ўжо пачата справа?

Валенты

Я толькі з інтарэсам —
Прасіў на хату лесу.
Ён клікнуў мяне ў хату,
Прынёс на стол гарбату:
Сам служыць, вельмі просіць,
Я п’ю, аж покуль досыць.

Сымон

Ну, гэта нам не дзіва,
Што сляпы ходзіць крыва;
А воўк ягнё як свісне,
Дык, бедна, ані пісне…
Аднак вось наша мова —
Нам ясна кожна слова.
А ксёндз так, як дзіцяці,
Талкуе так, як маці.
Гаворыць нам аб Богу
І простую дарогу
Да неба нам пакажа.
Ніхто так не дакажа!

Валенты

Эй, не кажы мне болей!
Як не было ніколі,
Так і цяпер не будзе,
Пакуль жывём мы ў Прудзе!

Сымон

Чаму ж так, пан, праціўны?

Валенты

Парадак гэты дзіўны,
Што ксёндз завёў у касцеле,
Для нас, як горка зелле,
Ніяк прыстаць не можа.
Ратуй нас, Пане Божа!

С ы м о н

Пан розуму не маеш:
Ў касцёле не бываеш,
Дык мы дарэмна спорым.
Мы после пагаворым,
Як Васпан сам пачуеш.
А так дарэмна злуеш.

В а л е н т ы

О, я да касцёла скоры,
Ды быў учора хворы.

С ы м о н

Як-то, учора — кажаш?
Ты праўду з фальшам вяжаш —
Ты ж быў учора п’яны!

В а л е н т ы

Я быў у сведкі званы…
Ды досыць, адчапіся!
Вось лепей падпішыся.

С ы м о н

Дык пакажы ж мне бліжай!
Сюды дай! крышку ніжай…
Цяпер вось добра будзе!..

*(Хватае паперу і рве.)*

В а л е н т ы

Што робіш? гвалту, людзі!

С ы м о н

Вон, прападзі ты, Юда!
Ты фарызеуш, ты паскуда…

*(Выпіхае, са сцэны.)*

IV

С ы м о н

Іначай тут няможна.
Тлумачыў яму розна;
Аднак тут справа ясна —
Бліжэйша скура ўласна…

Айчына дарагая!
Ты для нас святая:
І наша мова родна,
І справа тож народна.

*1932*

## НАРОД БЕЛАРУСКІ

Народ беларускі ўсё чэзне, гібее…
Прыйдзі, Хрысце Божа, Ты наша надзея!
Народ губіць розум, зракаецца волі!
Народ, што не бачыў свабоды ніколі;
Народ, што адбіўся ад праўды, ад шчасця,
Народ, што век плача, не ўмее смяяцца,
Ніколі не можа да дзела прыбрацца —
Папасці на след сваёй долі не можа…
Даўно мы запалі у летарг глыбокі.
Дарэмна будзілі нас Божы прарокі:
Нам праўду казалі — мы праўды не чулі,
Нам ў вочы свяцілі, ад веку мы спалі,
Сваіх жа прарокаў яшчэ не пазналі:
Хоць крышку збудзілісь, ізноў жа заснулі.
Дык нашы прарокі, сказаці я смею,
Працуюць дарэмна, губляюць надзею;
Ды нават прарочыць не маюць ахвоты…
Сабою заняты, усцяж наракаюць,
А іншы, як Ёна[1], за мора ўцякаюць,
А іншы, змадзеўшы, ўпадаюць ў сухоты.
Так б’ецца гаротнік на полі цярністым,
На полі ад веку благім, камяністым.
А конік слабенькі, сам згорблен, пахілы,
Шнюрок вельмі вузкі, а сошка крывая;

Дык плён які будзе? Надзея малая!
Ад працы, ад гора ўжо сцёрліся сілы…
Народ беларускі ўсё чэзне, гібее…
Прыйдзі, Хрысце Божа, Ты наша надзея!

*[1932–1933]*

## ЛІСТ З ЧУЖЫНЫ

*Пасвячаю Брату J. G.*

Ой, бядую я, шкадую,
Што пакінуў родну Друю!
Сам жыву тут, як на лёдзе —
На Далёкім, на Усходзе…

Тут і сонца не такое:
Ваша — ясна, залатое;
Гэта — ярка і зірката,
Свеціць востра, зызавата;
Нейка — проста недарэчы —
На згрызоты чалавечы.

Там прыгожа, там вясёла!
Пяюць птушкі навакола;
Шум дубровы, запах кветак;
Смех і радасць нашых дзетак.

Удзень ясна і прасторна,
А ўвечар — ціш кляшторна;
У касцёле Божа служба,
А у хаце — брацка дружба…

А Дзвіна як разальецца,
Як на сонцы засмяецца, —
Аж мне сніцца — так прыгожа!
А тут сумна. Божа, Божа!
Між чужымі, адзінокі —
На Усходзе, на Далёкім…

Там вясна у родным Краю.
Я тут толькі ўспамінаю:
Там скаўронак адзавецца

Роднай песняй. Так, здаецца,
Паляцеў бы з ім да Краю,
Але волі тут не маю:
Жыву сумны, адзінокі,
На Усходзе, на Далёкім…

Тут і птушкі не такія:
Нейкі нудныя, нямыя;
Ўсё адменна, непрыгожа:
Іншы дрэвы, інша збожжа.
Людзі жоўты, касавокі —
Я між імі адзінокі…

Там прыгожа, як у раі!
Цвітуць кветачкі у маі,
Рана мыюцца расою.
Паміж кветак паласою
Дзвіна стужкаю віецца:
Блішчыць, свеціць, аж смяецца;
То да птушкі загаворыць —
Ціхім шумам песням ўторыць;
То бушуе, ў бераг б'ецца,
Ажно пенаю плюецца.

Ўвечар сціхне, як канае;
Ночай — проста заміраe;
Ранняй зоркай весялее,
Днём на сонцы прамянее.
Ўвосень сумная, заспана;
Зімой спіць замуравана;
Вясной ломіць, крышыць, спорыць;
Летам пацеры гаворыць…

Эх, вясёлы Край наш родны!
На ўсім свеце аніводны
З ім не можа стацца роўны:
Там бярозы так чароўны! —
Распускаюць свае косы;
Елі мкнуцца пад нябёсы,
А дубы, як веліканы…

Я ж жыву тут надламаны,
Як галінка ад пня ўзята —
Адарвана ці адцята.

Ў чужым краі, адзінокі, —
На Усходзе, на Далёкім…

Там лугі, там збожжа, збожжа!..
Як успомніш, мілы Божа! —
Таго жыта, як бы мора…
Колас з коласам гавора —
Табе ў пояс б’юць паклоны.
Там авёс яшчэ зялёны;
Там паспеў ячмень вусаты,
Там глядзіць гарох зіркаты…

Каса свішча, серп скрыгоча.
Пяюць жнейкі так ахвоча,
Так вясёла там смяюцца!
Пастушок на нашай дудцы
Нашу родну песню грае,
На лугу сядзіць ля гаю…

Я ж у сценах замурован,
Як той вязень, як закован:
Ў чужой хаце адзінокі, —
На Усходзе, на Далёкім…

Там лясы жывіцай пахнуць,
А тут людзі сохнуць, чахнуць.
Там сасна шуміць, як дыша,
І галоўкаю калыша.
Тут стаўбы тэлеграфічны,
Аўтабусы дыхавічны;
Скрыгот аўта, свіст машыны, —
А там песні салаўіны…
Там — браты, а тут чужыя,
Там магілы дарагія…

Каб я толькі крылля меў бы,
Так спяшаўся б, так ляцеў бы, —
Ўсё пакінуў бы на свеце,
Каб на Край свой паглядзеці!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дык чаго ж туды забраўся?
Аб сваіх пазабываўся —

Чаму кінуў шлях народны,
І пакінуў Край свой Родны
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ёсць ідэі так глыбокі,
Што, хоць свет такі шырокі,
Ім тут цесна, ім тут вузка.
Зямля наша Беларуска,
Хоць і родна, хоць і міла,
Ўсіх ідэяў не змясціла…

*1933*

## МАЛІТВА ДА СВ. ТРОЙЦЫ

Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць,
Тваёю ласкай захавай ад грэху:
К Табе ўздыхае маё сэрца, плачыць —
Дай ў Тваёй сіле мне знайсці пацеху!

Ты свет уладзіў на людскую службу —
Такі карысны і такі прыгожы,
Каб мы, ўвайшоўшы з гэтым светам ў дружбу,
Цябе хвалілі, найлепшы наш Божа!

Табе малюся, Божа міласцівы,
Дай мне убачыць свет Твой найяснейшы —
Цябе Самога і ўсе ў небе дзівы —
На векі вечны, Божа наймілейшы!

Тваёю моцай і я моцны стану —
Айца і Сына і Духа Святога —
Тройцу адзіну, калі ў неба гляну,
Хваліці буду Стварыцеля Бога.

Будзь слава Богу — ў Тройцы ўсемагутнай
І жыватворчай, вечнай назаўсёды,
І нераздзельнай і адзінасутнай —
У Божай моцы — знак любові-згоды.

*1967*

## ФАРЫСЕЙ І МЫТНІК
*(З прыповесцяў паводле Евангелляў*
*Мацвея, Марка, Лукі, Яна)*

Была адчынена царква,
Прышлі маліцца два:
Адзін быў фарысей набожны,
Другі быў мытнік падарожны.

Ну, фарысей стаў пасярод —
Там, дзе маліўся ўвесь народ;
А мытнік быў аж пад парогам —
Не смеў публічна стаць прад Богам.

І так абодва, як былі,
Маліцца шчыра пачалі.

*

Вось фарысей маліўся гэтак,
І за сябе, за жонку й дзетак:
«О, Божа дарагі, мой мілы,
Маліцца буду з цэлай сілы!

Найперш даю Табе падзяку;
Але прытым зраблю адзнаку,
Што я не грэшны, як другія —
Зладзеі, круцялі ліхія,
Няверныя ці ашуканцы,
Ды п’яніцы-паганцы,
Ці што стаіць там мытнік-чмут,
Махляр і баламут!

Бо я праз свой працяжны век
Зусім быў іншы чалавек, —
Не так, як кожны злыдзень:
Пашчу я двойчы ў тыдзень,
А за народныя правіны
Кладу законны дзесяціны;
Нясу царкоўныя падаткі
І розныя дадаткі.

А ўжо ж маліцца калі стану,
Дык смела Богу ў вочы гляну,

Бо я ўвесь чысты перад Богам —
Не то, што той там пад парогам!..»

*

А мытнік — «грэшнік!» — людзі знали
І яўна гэтак празывалі:
З народу з лішткай рваў падаткі
І стуль зрываў сабе астаткі.

Так гэта, як і ўсё другое,
Яму ў душы было цяжкое,
Дык ён прад Богам спавядаўся
І суду Божага баяўся.

Цяпер у гэтай Божай хаце
Не смеў ані вачэй падняці:
Не бачыў, як маліліся людзі,
Але пакорна біўся ў грудзі.

Казаў: «Я — грэшнік непамерны,
О Божа, будзь мне міласэрны!»

*

Як памаліліся гэтак Богу,
Пайшлі з царкоўнага парогу.

*

ХРЫСТОС казаў: «О, вы мяркуйце!
Сябе да гэтых двух раўнуйце —
І як жылі і што тварылі,
Як после з Богам гаварылі?

Хоць мытнік — грэшнік быў паганы,
Вярнуўся болей апраўданы,
Чым фарысей, што так хваліўся.
Ён тут мыліўся:
На Божым страшным Судзе —
Менш апраўданы будзе!»

*1970*



# АДАМ І АНЭЛЬКА

*Апавяданне*

## ПРАДМОВА

Я не меўся і пісаць прадмовы, але мае сябры кажуць: напішы, бо гэтак зграбней выглядаць будзе, ды і альшанцы не так будуць гневацца, бо яны, хоць, як той кажа, «панчошнікі і канаводы», але народ ганаровы. Ого! Альшаны — гэта не Крэва або што другое. У Альшанах нават гаворка інакшая; трэба казаць: «узяў сікеру і паліцеў па бірэзніку». А хто гаворыць: «сякера, паляцеў», той мужык, і больш нічога. Дык я, ужо скончыўшы пісаць гэты расказ, прычапіў да пачатку прадмову. Бо-такі, сказаўшы па праўдзе, люблю Альшаны: мястэчка мне вельмі падабаецца; вуліцы расходзяцца крыж-накрыж, а цэлае мястэчка расцягнена больш удаўжкі пры рэчцы, як ушыркі. Прызгорачкі цягнуцца ланцугом з левага боку, а з правага плыве змейкай рэчка, лясы відаць у водступе; далей, як за вярсту, цямнеюць яны на небасхіле. Рынак вялікі, шырокі, якраз добры на кірмашы. Хаты найбольш дзеравяныя, але будаваны па-местачковаму, асобна ад другіх будынкаў. У сярэдзіне нашага мястэчка красуецца касцёл, вялікі, высокі, белы. Касцёл харошы і знадворку і ўсярэдзіне. Асабліва прыгожа выглядае вялікі алтар. На Замкавай вуліцы стаіць мураваная царква, а на канцы гэтай самай вуліцы вялікі сад і мураваны замак нейкіх даўнейшых паноў, цяпер запушчаны. У старану Барун, вярсты паўтары ад Альшан, паміж прызгоркамі ўзносіцца вышэйшая гара — Гарадзішча. Паводле расказаў і легендаў, быў тут закляты замак, каторага ніхто не помніць, але старыя паказваюць, як выходзіла прыгожая паненка з лубкай грошаў, як Гарадзішча прабавалі салдаты раскапаць, але былі вялікія перашкоды: афіцэру прысніўся сон, каб перастаў капаць, бо залье паўсвету вадою ды крывёю. Толькі афіцэр нічога: капае і капае, хоць сон яму сніўся тры разы; толькі ж на чацвёрты дзень адзін жаўнер калі не засадзіць рыдлёўкі аж

па самую ручку, дык выцягнуў усю ў крыві. Усе спалохаліся, кінулі капаць, аднак дол астаўся глыбокі, а ўсярэдзіне дзіра, куды пастухі кідалі каменне і, прылажыўшы вуха, чулі, як камень доўга звінеў і пасля шлёпаўся ў нешта рэдкае.

Аб гэтым, можа, хто яшчэ будзе пісаць, а я намерыўся тут расказваць аб жывых людзях, а заклятых чапаць не буду.

Адам Якубель быў мой блізкі знаёмы. Ён нядаўна вярнуўся з Амерыкі. Анэльку Трэцячышку я таксама знаў і часта з ёю спатыкаўся.

Хто быў у Альшанах, хто гаварыў з людзьмі ды пазнаў альшанскае жыццё, той сказаў, што Альшаны — гэта бойкае беларускае мястэчка. Але знайшліся «хітрыя» падлічальнікі, што ў Альшанах нарахавалі 95 працэнтаў палякаў, адным словам, больш як у самой Варшаве. Аднак мы — беларусы, хоць гэтага яшчэ не зразумелі тупыя галовы, хоць ёсць паміж намі перакідчыкі, хоць хітрыя ворагі нас туманяць і зводзяць. Мы беларусы, бо наша гаворка беларуская, нашы звычаі, характар, адзежа, повесці, казкі і песні — беларускія.

Каб падняць душу народа беларускага, ужо ўстае маладзяж, каторая не стыдаецца гаварыць па-свойму, не выракаецца бацькоў, братоў, сёстраў і сваёй роднай хаты.

## I. СПЯКОТА

30 ліпеня. Ужо колькі дзён трывае спякота. Гарачыня страшэнная: 27 градусаў цяпла ў ценю. Трава пасохла. Пазнейшае збожжа спее ўваччу; але не то што спее — яно проста пасыхае; на зялёным фоне збожжа ўжо зарысаваліся круглыя плямы белыя перад часам даспеўшага аўса, ячменю. Аднак-такі сягоння крыху-крыху злягчэла. Ад стараны паўдня паказалася хмара, нейкая мутная, як бы ў пыле, нібы імгле; падымалася, страшыла і… адсела; стала расплывацца; часцю перайшла на ўсход сонца, часцю прапала; у народзе ўсё варыва павесіла лісце; безнадзейна апалі гарох і фасолі. Усё жывое прытаілася і заціхла. Птушкі замоўклі, нават вечна неспакойныя вароны і тыя, апусціўшы крылле, доўгімі гадзінамі сядзяць на прызгорачку, памлеўшы. Гаспадары спачатку былі рады з пагоды, хвалілі святога Ілью, што добра ў небе спраўляецца, бо і жыта высушыць можна, і рэшту сена давезці дадому. Калі ж з поля пазвозілі, дык зараз сталі наракаць на сонца, на гарачыню і на работу. А і праўда, проста выдзержаць нельга было ў полі.

Ды нікому так не цяжка, як жнейцы беднай, гаротнай удоўцы, сіраціне няшчаснай. Людзі сямейныя жніво пакончылі: жыта зжалі ды нават звезлі ўжо да гумнаў; ячмень ранейшы зжалі, авёс і пазнейшая ярына яшчэ не даспелі. Людзі сямейныя адпачываюць. Але ўдовы, бедныя кабеты з дробнымі дзеткамі, — ім няма часу адпачываць. Глянь! Вунь на горцы кабета дажынае жыта ў Вапніцы. Скрыжаваўшы тры кіёчкі, падвесіла калыску з малым плаксам, а сама жне, а сама ўвіхаецца. Рукі млеюць, крыж разбалеўся, галава цяжкая, як камень. Але ж такі дажаць трэба, бо назаўтра ячмень паспеў, а да жыта за тры вярсты прыбегла, каб скончыць. У старану недалёчка жне старая ўдава Агата: рукі дрыжаць, а сама — як той грыб трухлявы — жне на вузенькім шнурочку; жыта такое дрэнненькае, што на адзін сноп блізка паўганей прабяжыць яна нядужая. І больш не відаць нікагутынька: толькі пустое поле, толькі кучы камення, толькі сонца, як агонь гарачы, блішчыць на небе.

Гэтакай парою крышку ў старане, за горкай, жала Анэля Трэцячышка, адна. Спацеўшы была, як той кажа, як мыш, аж каптанік быў мокры. У горле засохла, але жала паспешна і шчыра, бо такі і жняя яна была першая: ніхто не мог з ёю справіцца, — жала складна, чыста; снапы вязала роўныя, моцныя. Хвалілі яе ўсе, але дзяўчаты завідавалі і абгаворвалі без ніякага міласэрдзя, а ўжо больш за ўсіх лапаталі на яе Уркелянкі, хоць тыя і далёка жылі, на другой вуліцы. Анэлька не баранілася, бо не баялася гэных злосніц ані крышкі: яна ведала, што другім не ўступае ані красой, ані спрытам.

На Беларусі ёсць шмат харошых дзяўчат. Аб гэтым мала ведаюць далейшыя людзі, а нават нашы сумежнікі. Але такі, хоць дзеля пробы, прыйдзі, васпан, да нашага касцёла — ну, у касцёле дык няможна на дзяўчат прыглядацца, — дык калі выйдуць з касцёла ды пастануць грамадкамі на цвінтары, ды гутараць вясёла, смяюцца, бы тыя макавы кветкі ў гародзе, шэпчуцца з сабою, — прыгледзься, кажу, васпан, дык зразумееш, што нашыя Марылі, Кастусі, Стэфкі нічуць не горшыя ад вашых начапураных, расхрыстаных, у кароткіх спаднічках варшавянак. «Убяры пень і той будзе харошы», але ў нас у простай адзежы спаткаеш праўдзівую, натуральную, без фарбаў і парашкоў, дзявочую красу.

Анэлька была сапраўды прыгожая дзяўчына: косы русыя, сама румяная, як яблычка, грудзі вот так, здаецца, і гойдаюцца, калі яна ідзе бойкай ступою. Вочы… ну, сапраўды, ужо

ж і сказаць не магу, бо ў харошай дзяўчыны няможна нават прыкмеціць, якой фарбы вочы. Я сам, раз едучы, спаткаў яе, як ішла са жніва, дык так загледзеўся, што наехаў на вялікі камень і чуць не перавярнуўся; а вот жа ж і не прыкмеціў гэтых вачэй Анэльчыных, тое толькі помню, што яны неяк прыемна шчыпаюць за сэрца. Росту яна была сярэдняга, не лішне ценькая. Голас мела харошы, як называлі «другі голас», крыху таўсцейшы ад другіх дзяўчат, але такі прыемны, што з ім кожная песня была харашэйшая. Не то што арганісты, але і простыя людзі гаварылі, што Анэля спявуха на ўсю парафію. Затое ж долю Анэлька мела горкую — была сіратою. Матка даўно памерла, калі Анэльцы было ўсяго тры гады, а бацька памёр летась. Жыла яна пры сваім дзядзьку; дзядзька быў удавец і меў трое дзяцей. Жыццё Анэлі было цяжкое, і яна часта плакала, але плач скора пераходзіў. На яе твары часта яснеў смяшок вясёлы, як сонца пасля дажджу. Ды і папраўдзе, яна бяды не баялася, усякую работу сама патрапляла, яшчэ складней, як хто другі.

Аднак сяння Анэлька была засмуціўшыся горш, як калі. Смага пякла ёй у горле і ў грудзях, а вада была далёка. Анэлька дажала да ўзгорка ды ўбачыла старую Агату; зараз пабегла да яе.

— Памажы, Божа, цётцы!

— А каб ты быць не ведала! Так мяне спалохала. Дзякуй, дзякуй! Дык і ты тутка жнеш?

— А вот недалёка, пад Гарадзішчам. Можа, цётка маеш вады свежай? Я сваю выпіла, а да ручая далёка.

— Ёсць там у збаночку пад мэндлем, прынясі сюды, дык і я нап’юся. От і добра. Сядзь, крышку адпачнем, бо ўжо лішне горача; каб яно быць не ведала, скуль гэты пал бярэцца?

— Праўду, цётка, кажаш; так пячэ сонца. А можа, будзем разам палуднаваць?

— Добра, чаму ж?

Анэлька пабегла па сваю ежу. Селі пад кустом у цяньку і ўзяліся да палудня. Хлеб, халаднік, каша — беларуская вясковая яда.

— Скуль жа ж ты, Анэлька, узяла гэту чырвоную хустачку?

Анэлька і сама пачырванела.

— Дзядзька, — кажа, — купіў. А ці яна мне да твару?

— Ды табе, мая ты дочанька, усё да твару, гэтакая ты ў нас харашуха. Каб цябе быць не ведалі, мо будзеш маёй нявесткай?

Анэлька засмяялася.

— Не, — кажа, — баюся, каб цётка мяне лішне работай не мучыла. Да таго перашкода, што вы рускія і Ясь цётчын такі дзіўны.

Памаўчала яна.

— Хоць мне і дрэнна ў хаце, але абы за каго не пайду.

Агата заплакала.

— Але, — кажа, — мы рускія… Ці я вінавата? Як сталі мяне бацькі гнаць, як сталі грызці, дык мусіла выйсці за свайго Сымона (вечны яму пакой!), хоць я на яго глядзець не хацела. Усадзілі мяне ў санкі і зацягнулі ў царкву, якраз у самую запусную нядзелю. Плакала я на голас, а поп кажа: «Нічаво, прывыкнеш, ідзі, спаведайся». Вось, мая рыбачка, якая я руская. А Ясь мой, кажаш, дзіўны? Каб ён быць не ведаў, што яму зрабілася. Як вярнуўся з войска, дык саўсім здурнеў: кажа — «я сацыяліст», да споведзі не ідзе, ані да цэрквы; спіць доўга, а пасля ўсё да Шлёмы цягаецца на нейкія стачкі і на п’янства. Што я ні рабіла: і сварылася на яго, і свечку паставіла святому Мікалаю, і на карты кідала, дык яшчэ горш, што я ўжо і з пуці збілася. — Яна пасядзела, памаўчала, а пасля пытае: — Што ж ты, Анэлька, так са жнівом асталася?

— Сягоння, цётачка, дажынаю. От тут было познае жыта і хацелася зарабіць які грош. Чатыры дні жала на Ашмянскай вуліцы ў Міхала Якубеля.

— Але, чула я, чула. Хвалілі цябе там, а найбольш стары, сам Міхал. Каб ён быць не ведаў, што гэта за чалавек?

— От, чалавек; другіх хваліць, а сябе такі падвышае. І на мяне перад людзьмі казаў: «Каб не Трэцячышка, дык была б добрая дзяўчына». Ён думае, што на Якубелях свет кончыцца.

Палудзень скончылі, але шмат чаго не дагаварылі, бо неяк не клеілася. Анэлька была разжалена на ўсіх, а найбольш на тых самых Якубеляў.

Трэба ведаць, што Анэльчына фамілія, Трэцякі, лічыліся ў Альшанах горшымі за другіх. Анэлька сама толькі нядаўна даведалася, што гэтая няслава выходзіць ад яе дзеда, каторы калісьці — даўно ўжо гэта было — украў у жыдоўкі колькінаццаць селядцоў; жыды сталі за ім гнацца, а ён, уцякаючы, рассыпаў селядцы… Ну, і больш нічога. Дзеці, падхапіўшы гэтую камедыю, сталі дражніць старога: «Трацяк-Ганчак». Стары лаяўся, ганяўся за дзецьмі. Ведама, не дагнаў ніводнага, а славу згубіў дарэшты.

Ніхто, аднак, з альшанскіх так не чапурыўся, як Міхал Якубель, і Анэлька яго шчыра не любіла. Але вось сын Міхалаў, Адам, што называюць Амерыканец, той дык быў саўсім інакшы. Перш-наперш ён з нікога не смяяўся, гаварыў мала, але так разумна; быў добры работнік і не стыдаўся працаваць, хоць казалі,

што шмат даляраў навёз з Амерыкі. І так Анэлька ненарокам крышачку загледзелася на Амерыканца, а цяпер часта думала і добра ўспамінала.

## II. АМЕРЫКАНЕЦ

Як толькі Адам вярнуўся з Амерыкі, яго адразу празвалі Амерыканцам; зараз бабы на яго і ўзваліліся: «Жаніся, — крычалі, — возьмеш багатую». Адзін раз сабраўся цэлы бабскі кагал з Ашмянскай вуліцы; адна радзіць, другая перайначыць, трэцяя папраўляе.

— Бяры Уркелянку, — казала суседка.

— Што Уркелянка! Вот Міхалевічы, дык другое дзела: тры гнязды, а ў каждым па тры пташачкі; адным словам, тавар на выбар; усе дзеўкі здаровыя і работніцы забіяцкія.

— Ані Уркелянкі, ані Міхалевічышкі яму нераўня, — перабіла трэцяя баба.

— Ты, Адам, слухай мяне: бяры шляхцянку.

— Якую шляхцянку? — пытаецца Амерыканец.

— Каб яе хрэн, як яна называецца? Ага, яна становіцца ў касцёле каля святога Антонія.

Тут ужо бабы прыпомнілі; апісалі, як выглядае: «Валасы на лоб абстрыжаны, чырвоная, з задзёртым носікам», але гэта нічога, бо багатая: бацька яе ўсё адно што і пан, варочае тысячамі. Згодным хорам бабы так усселіся на Амерыканца, што бядак падаўся: паехаў у сваты да шляхцянкі і заручыліся. Бабы рады былі, што не жарт, а наш Амерыканец хадзіў невясёлы. Стары Міхал Якубель хваліўся: «Ажаню сына не па-мужыцку», а сын стаў адкладаць і сцягнуў вяселле на восень. Кожную нядзелю, калі, бывала, «пан ойцец» ехаў з паненкай да касцёла, дык далікатна пытаецца Карусі, Міхаловай жонкі:

— Проша пані, ці пані сын, пан Адам, удому?

— А мае ж вы міленькія, ён ужо з гадзіну, як пайшоў да касцёла, — казала Каруся.

І так «пан ойцец» і паненка не маглі ўбачыць Амерыканца, аж ужо бацькі на яго сварыліся.

— Што ж ты, сынок, нам стыд робіш? — гаварыў Міхал.

— Але, так нядобра, — казала Каруся.

— Дайце мне супакой, — адказваў Адам і выходзіў з хаты.

Аднак сваркі ў іх не было, бо ўсе хатнія Амерыканца шанавалі, бо Амерыканец меў грошы.

Ой, гэтыя амерыканскія грошы! Шмат з іх дабра і пацехі, але ці не больш няшчасця, бяды, грэху. Вернецца чалавек з Амерыкі і думае тут знайсці супакой і перадышку. Паложыць грошы на пошту і давай цадзіць па дваццаць рублёў, а то і цэлых сорак. Трэба брычку ўстроіць, сястры сукенку, матцы хустку; пры гэтым дзеля адпачынку да Шлёмы зайдзецца, не дзеля п'янства — барані Божа! — так, адно толькі пасядзець; ну, пару піва паставіць суседу, каб не гаварыў; і гэтакім манерам сотні з пошты расплываюцца і… ужо іх і няма!

І наш Амерыканец палажыў грошы на пошту; ён таксама ўстроіў брычку на залежным ходзе, але бачыць — так кепска, бо грошы без абароту марнеюць, дык купіў каня і думаў паправіць гаспадарку. Але тут трэба было зрэзацца з бацькам, каторы гаспадарыў па-свойму і ніякай рэформы не разумеў.

Стары Міхал Якубель быў дасціпны да ўсякай работы: ці будоўлю паправіць, ці прыстроіць хлевушок або страху прылатаць, — быў на ўсё майстар; а нават хоць цабэрак зрабіць, нават лыжку і то сам зробіць. Сам любіў з гэтага пафарсіць.

— Ужо на што, — кажа, — мае рукі дык папраўдзе залатыя.

Сама пані Капусцінская яго за гэта хваліла. Ды не толькі за работу, але і так мела на Міхала добрае вока.

— Я ўжо старая, — гаварыла яна часта, — і «хлопам» не веру, бо яны ўсе круцялі і ашуканцы, але Міхала Якубеля я паважаю за яго здольнасць і розум.

Бог яго ведае, аб старым Якубелю гаварылі шмат і часта, не любілі яго блізка што ўсе, бо меў характар цяжкі; быў ганаровы і да гэтага скупы. Грошы ў яго людзі лічылі на тысячы, хоць ніхто іх ніколі не бачыў. Ну і пазычыць, бывала, нікому ані слухаць не хоча. Хоць ты яго рэж, хоць памірай; нават ксёндз раз, казалі, хацеў пазычыць у яго дзесяць рублёў, дык ён забажыўся, закляўся, што не мае. Усе былі перакананы, што Міхал багаты, як чорт, аднак жыў ён, не скажу, каб багата. Мяса ў іх бывала рэдка, — найбольш капуста і крупнік. І неяксьці гэтая скупасць дабра не спарыла. Каня дзяржаў аднаго і то дрэннага, араў дзедаўскай дзеравяннай сахою; дзеля гэтага зямля радзіла слаба, хоць стары да работы не ленаваўся. Дзецям шкадаваў грошы на адзежу і не пушчаў у школу. Сам быў няграматны і ў навуцы толку не бачыў. Пад рукой такога бацькі дарос малодшы сын, Франук. Нават сам ксёндз і пані Капусцінская сварыліся на старога:

— Чаму свайго Франука забраў са школкі? Гэта ж так бойка пачынаў вучыцца!

Але стары не любіў слухаць.

— Няма каму ў дому працаваць, — казаў ксяндзу, а прад людзьмі гаварыў: — Я і не вучыўся, а жыву не горш за другіх…

«А капейку маю», — гэтага ўжо ж не казаў людзям, але сам ціхенька думаў, успамінаючы капшук, схаваны за абразамі. Франук скора злаўчыўся і завёў ціхі гандаль са Шлёмам перш на цукеркі, а пасля на водку. Шлёма ўсё прымаў, і жыта і ячмень; толькі казаў прыносіць патроху і мукі не браць.

Убачыўшы гэтакія парадкі, Амерыканец зрабіўся асцярожны, па пошту хадзіў рэдка, хоць бацька крывіўся і не адзін раз дагаворваўся — то на работніка, то на снасць, то на што іншае.

## III. КРУЦІ НЕ КРУЦІ, ПРЫЙДЗЕЦЦА ЎМЯРЦІ

Дзядзька Анэлін паехаў на кірмаш, яна і сама добра не ведала, куды. Альшанцы калісьці, лет таму дваццаць назад, мелі вялікую славу на кірмашах: ніхто гэтак не патрапіў сагнаць дыхавіцу, паправіць зубы, каб конь быў малодшы, або на гэты раз падпаіць каня, як альшанскія канаводы. Красці, праўда што, рэдка важыліся; найбольш любілі мяняць. Колькі альшанец, бывала, за адзін кірмаш набажыўся, колькі накляўся — і на дзяцей, і на жонку, і на старую матку, што асталася ў хаце, дык гэтага, як той кажа, на валовай скуры не апісаў бы. Найбольш на жонку і на дзяцей прысягаліся нежанатыя. Такая практыка называлася махлярствам. Пры махлярстве заробляли нават такія, што прыходзілі без грошай. Гэтакі фактар падганяў цану, хваліў каня, таксама бажыўся, пры гэтым паказваў, што ён гэтага каня першы раз бачыць або сам хоча яго купіць і з гаспадаром саўсім незнаёмы. Пасля продажу фактар даставаў ад прадаўца рубля факторнага, а ад купца — рубля адступнога. Бывала, што бацька прадае каня, а сын, як бы чужы чалавек, пачынае таргаваць каня ў свайго ж роднага бацькі.

— Эй, мужык! — крычыць сын на бацьку. — Колькі хочаш за каня?

Пачынаюць абодва крычаць, лаяцца па-расейску; сын дае бацьку цану вышэйшую, чым тая падла варта, бацька просіць два разы больш і г. д. На гэтакі гармідар збіраюцца людзі, ну і канчыцца тым, што каня купляе ў старога пастаронні чалавек, купляе дыхавічнага, пераплачвае рублёў колькінаццаць, ды яшчэ сын дастае якія рублі тры адступнога.

Альшанцаў ужо добра ведалі па блізкіх кірмашах, дык яны сталі ездзіць далей: у Дзявенішкі, Тургелі, Іўе, нават у Любчу,

Лебедзева. Альшанцы патраплялі ашукваць жыдоў, цыганоў і гандляроў віленскіх. За маёй памяці слаўныя «махляры» сталі зводзіцца пакрысе; дзеля таго найбольш, што людзі, пазнаўшыся на альшанскіх штуках, сталі вельмі асцерагацца, не хацелі мяняць коней і «фактараў» не слухалі. Некаторыя «махляры» папрабавалі красці, дык умяшалася паліцыя: адны папалі ў турму, другіх тамтэйшыя людзі пабілі самасудам чуць не да смерці, і гэтак прыходзіў махлярству звод.

У адным суседнім мястэчку зрабілі на альшанцаў аблаву пасля кірмашу. Вечарам на альшанскім гасцінцы зроблена была застава і кожнаму альшанцу сыпнулі, чым хто меў, па плячах і ніжэй плечаў. Але альшанскія ўхітрыліся — не прызнаюцца; адзін кажа: «Я з Міхалоўшчыны», другі: «Я з Барун». Дык тыя — як пазнаць? Давай рабіць рэвізію: калі каторы мае каптан ваўняны, ручной работы, той альшанец, і спрачацца годзе. Кладуць на санкі і малоцяць, як па снапе. Усе акалічныя празвалі альшанцаў канаводамі, нягледзячы, ці хто вінен, ці невінаваты.

Вялікую ўдзячнасць трэба было б тут адзначыць новаму альшанскаму пробашчу. Ён без ніякага пардону ўпісаў усіх махляроў у «чорную кніжку» і прачытаў усіх у нядзелю з амбону; прыказаў на іх званіць і загадаў за іх гаварыць пацеры. Людзі, памаліўшыся за махляроў у касцёле, сталі пасля з іх нарugaцца і празвалі чарнакніжнікамі.

Нейкім цудам дзядзька Анэльчын выкруціўся ад «чорнай кніжкі», хоць таксама быў махляр першай гільдыі. Вылгаўся перад ксяндзом, а ксёндз пакрычаў, пакрычаў і паверыў. Дзядзька тады ўжо нікому не расказваў, куды едзе на кірмаш; выязджаў да дня і варочаўся ўночы. І сягоння Анэлька не ведала, куды дзядзька павалокся, але такі яна знала, што на кірмаш, бо тры дні каня пасвіў, чысціў і варыў яму нейкае зелле.

Дзень быў дажджлівы, ад самага рання было зацягнуўшы і не было магчыма ісці жаць. Анэлька страпала ў хаце, крыху шыла, а пасля палудня выбралася з дзяўчатамі ў грыбы, балазе дождж угаманіўся. Да дзяцей папрасіла цётку Агату.

## IV. У ГРЫБАХ. СУДЖАНЫ

— Хто бярэ вялікі кош, той з парожным вернецца, — смяяліся дзяўчаты, дык Анэля ўзяла сярэдні. Вясёла балтаючы языкамі, то прыпяваючы, зайшлі да лесу і рассыпаліся, загукалі. Грыбоў, праўда, сягоння было, як ніколі. Анэлька, разглядаючыся, без

паспеху, знайшла ўжо дзесяць баравікоў і крышку асталася; гукнула — адазвалася. Бачыць — сядзіць баравік каля елкі; падбегла, вырвала. Трэба шукаць «брата», падышла да елачкі, падняла сучок — два баравікі. Прыглядаецца больш: бачыць — адзін малюсенькі вылазіць з моху; рве яго, аж гэта спарыш, вот добра! Гукнула — як бы адказалі, а можа, толькі рэха? Яшчэ баравік, але трэба даганяць. Бяжыць яна, бяжыць, аж дзіву далася: сядзіць баравік, як шапка, кароль, відаць, быў іхнага роду. Пашукала — няма больш. Пачала ізноў гукаць — ніхто не адазваўся. Выйшла на пасеку — нейкая дарожка! Заблудзіла. Куды ісці, нямаведама. Дожджык пайшоў дробны, але неба раз'ясняецца. Ужо вечарэла. Вавёрка скакала па сасне, недзе стукаў дзяцел, зачырыкала пташачка. Анэлька гукала доўга, але ёй адказвала толькі рэха. Аж бачыць — на гэтай самай дарожцы ўводдалі паказаўся нейкі пан, росту вышэй як сярэдняга, у чорным убраўшыся і сам чарнявы, з парасонам і ў доўгіх ботах. Анэльцы зрабілася жудасна; перш падумала, што гэта аканом пані Капусцінскай, але не — не ён, той меншы і старэйшы, а гэты — мужчына малады. Анэлька хацела перш схавацца, але і так было кепска, бо была заблудзіўшы, а сонца на заходзе. Уздыхнула ціхенька: «Матачка Боская» і выйшла з-пад густой елі. Зараз да яго і пытаецца:

— Можа, пан паказаў бы дарогу ў Альшаны, я з Барунскай вуліцы.

— А я з Ашмянскай, — сказаў той.

— А Божа! Гэта пан Амерыканец, а я не пазнала. Дзякуй Богу! А я так баялася.

Ён тым часам прыкмеціў, што Анэлька прыгожая дзяўчына. Відзеў яе і перш, як у іх жала, але тагды не ўдалося яму так прыгледзецца, як цяпер. Яна была змокшы, што аж кафтанік прыліп да цела. Праз адзежу надта выразна рысаваліся яе дзявочыя плечы і грудзі, а яна стаяла, уцешыўшыся і пачырванеўшы, як спелая вішня сярод мокрых ліосточкаў. І яны так мінутку пастаялі.

— Чаго ж мы стаім? — сказаў Амерыканец. — Ідзём! Мы на альшанскай дарозе; зараз за лесам, упоперак праз палеткі, вярсты паўтары да Гарадзішча. Зойдзем разам пад Гарадзішча, а там ужо трафіш.

— Дзе ж гэта пан Адам спацыруе?

— Перш-наперш я не пан Адам, але проста Адам Якубель, ці Амерыканец; не люблю, калі хто мяне панам называе. І на спацыры часу не маю; хадзіў цяпер за інтарэсам у Засценак да знаёмых.

Анэлька задумалася, яна дагадалася, што Амерыканец хадзіў да сваёй шляхцянкі. Яны ішлі спачатку маўчком. Зараз выйшлі з лесу. Хмары сталі разыходзіцца, дожджык яшчэ крыху церушыў, але паказалася сонца яснае, вясёлае. Аж маладая наша пара павесялела. Ужо яны разгаварыліся, і было ім весела і добра. Хто б знячэўку глянуў на гэтую пару, дык мог бы падумаць, што яны або ўчора па шлюбе, або заўтра ідуць да алтара. Так яны былі да сябе падабраны. Ужо ён нёс кошык з грыбамі, а яна парасон. Аказалася, што Адам хадзіў да знаёмага, што анагдай прыехаў з Амерыкі, а пасля нават прызнаўся пад вялікім сакрэтам, што шляхцянку кінуў, а думае пашукаць каго-колечы ў Альшанах, бо такі сапраўды трэба жаніцца.

— А можа, — кажа Амерыканец, — з табой ажанюся?

— Калі я за пана не пайду? — смяялася яна.

Іх вочы спаткаліся, і яна пачырванела. Гэтак жартуючы, дайшлі да самага Гарадзішча. Так ім было сумна разыходзіцца! Сонца пачало заходзіць у хмару; яны стаялі на прыгорачку, задумаўшыся. Вось ужо сонца закацілася, але не — яшчэ праменьчык знайшоў шчылінку ў хмарцы ды проста засвяціў ім у вочы.

— Гэта на нашу долю сонца засвяціла, — сказаў Амерыканец.

— Як-то, на нашу? — пытае Анэлька.

— А вот як, — кажа Амерыканец і, лоўка схіліўшыся, пацалаваў яе ў самыя вусны. Яна задрыжэла, хацела пасварыцца, але нічога… Ён жа хацеў яшчэ раз, але Анэлька адскочыла і сказала:

— Няможна, што пан!..

Анэлька спешна ішла дадому. Яна была неспакойная, задумана. Не было ніякага сумніву, што яны адразу ўлюбіліся, хоць гэтага слова не сказалі; але гаварылі аб гэтым іхныя вочы, а сведкай быў той праменьчык сонца, што цікаваў з-пад хмары. Анэлька, пастрапаўшы ў хаце, па вячэры доўга забаўлялася з дзядзькавымі дзецьмі, а малую Мэлачку цалавала і туліла да сябе, як родная маці. Была яна як бы ў гарачцы і, лёгшы ў пасцель, горка плакала, аж заснула.

Любоў — гэта агонь. Без агню людзі не могуць жыць, але ёсць-такі людзі, каторыя шчыра не любілі нікога. Сэрца іхняе як бы з лёду, няма горш, як жыць з такімі.

Не ўсе людзі ўмеюць абходзіцца з агнём. І любоў часам балюча пячэцца, горш, як «жыжа», а ў другога так спаліць сэрца, што яно астаецца пустым, як нішчымная яда, як попел. Яшчэ іншыя, «новыя людзі» святую іскру любві топчуць нагамі, за-

пальваюць яе ў запаганеным сэрцы, безразумна загубліваюць чужую нявіннасць, а зусім не маюць супакою і шчасця. Бяда чалавеку адзінокаму, бо як упадзе, хто ж яго падыме? Але горшая бяда звязацца з чалавекам без Бога і сумлення, каторы ў няшчасці не паддзержыць, але сам папхне ў пропасць. Калі ж хто знойдзе шчырага прыяцеля, дык той гэтакі здабыў сабе скарб найдаражэйшы, важнейшы ад грошай, ад новых будынкаў, ад зямлі ўраджайнай.

Анэлька дагэтуль яшчэ нікога не любіла. Праўда, яна спярша крышачку загледзелася на старэйшага сына ўдавы Агаты, на Яся. Але хутка пераканалася, што ён недаверак ды паганы: гаворыць найгоршыя словы, лянуецца да работы, співаецца гарэлкай. Талкуе сялянам, што ён «сацыяліст», значыць такі, каторы хоча ўсіх людзей зраўнаваць, каб ані паноў, ані мужыкоў не было. Гэта шмат каму спадабалася, але Ясь стаў туманіць, што і Бога няма, што людзі радзіліся з малпы, што цэрквы і касцёлы саўсім непатрэбны. Ну, у гэтым дык ён знайшоў прыхільнікаў мала, апроч двух жыдкоў, больш ніхто не хацеў яго слухаць. А тую малпу ўзялі ў прыказку: «Разумны, як Яськава малпа».

Да Анэлькі Ясь часта падлізваўся. Аднаго разу залавіў яе ў гумне, але яна паказала, што мае вострыя пазногці, дык «сацыяліст» адступіўся з абдзёртым носам. Ад гэтага часу Анэлька збрыдзіла «сацыяліста», інакш яго не называла, як малпай. Сэрца яе было вольнае, затое тым больш яно цяпер загарэлася чыстай любоўю дзявочай, бы тая свечка васковая перад алтаром, полымем ясным, роўным. Яна пачула душою, што Адам ёй дарагі навекі, што ён ёй суджаны.

## V. ЯК СТАРЫ МІХАЛ ЯКУБЕЛЬ РАДЗІЎСЯ З ЖОНКАЙ КАРУСЯЙ

— Ведаеш, Каруся, наш Адам нешта задумаў; ад шляхцянкі адказаўся, хаты не пільнуе, у гаспадарцы лянуецца…

— І што яму зрабілася? Гэтакая багатая, харошая, а ён не хоча, — кажа Каруся.

— Відзіш, ты, дурная, нічога не ведаеш, а тут вунь што.

— А што?

— Ды тая Трэцячышка, што ў нас жала, каб ёй дна не было! Яна яго падманула.

— А мой ты Міхалачка, што ты кажаш? Гэта, мусіць, толькі плёткі або напасці на яго.

— Я табе казаў, што ты дурная, дык ты яшчэ не верыш. Але гэтага не будзе! Каб я так з гэтага месца не ўстаў, калі яна ў маю хату ўвойдзе! Дзівіцеся, людзі! Ці ж гэта быць можа, каб «Ганчакі» з намі ў фамілію мяшаліся? Каб ім дна не было!

— Мой Адамка, сынок наймілейшы! А я ж так яго з Амерыкі выглядала, — захліпала Каруся.

— Што мне з яго за карысць, што ён Амерыканец? Я кажу яму: «Дай, сынку, колькі рублёў, мне трэба новыя боты». А ён, ты, можа, думаеш, даў? Кажа: «У таты свае грошы ёсць». — «А ты, — кажу яму, — дык чужы ў нас, ці што?» Значыць, ён хоча сам тут быць панам у маёй хаце ды ўвесці сюды Трэцячышку без пасагу і з такой паганай фаміліі. Будзь ён сам цар амерыканскі, дык не хачу знаць ні яго, ні ягонай праклятай Трэцячышкі.

— Слухай Міхал…

— Што маю слухаць, ты старая, дурная баба, вот што! Ці ты не відзіш, што ён так часта выходзіць з хаты: гэта ён у яе прападае, а гаспадарку губіць. А ты павінна ведаць, што мы маем яшчэ двое дзяцей: Франук ужо дзяцюк і Кастуся пад дзеўку падбіраецца. Дзе ж я ёй вазьму на ўборы, на пасаг, калі Амерыканец з сваёй Трэцячышкай уссядуцца на мяне?

Старая выцірала слёзы, смаркалася ў фартух і не гаварыла нічога, бо стары пасля гэтакай гутаркі не цярпеў бабскай супраціўнасці, і — прагаворы яна хоць слоўка, — без лупцавання не абышлося б. Трэба, бачыце, знаць мужчынскую натуру: калі гэтакі гад разгаманіцца, дык дзяржы, баба, язык за зубамі, а калі хочаш адгрызціся, дык пільнуй клямкі, каб у пару выскачыць на двор.

Парадзіўшыся гэтак са старою, Міхал доўга яшчэ лаяўся, мармытаў сабе пад нос, пляваў і пасля да Амерыканца не прагаварыў дні тры ані слова. А той нічога. У гаспадарцы быў акуратны, нават у бабскай рабоце хватаўся матцы памагаць, пакуль сястра спала. Да часу цярпеў і ўступаў нават брату, каторы таксама стаў носа задзіраць і куражыцца. Матка як матка, стала пад сакрэтам Адаму ўгаворваць, хваліла шляхцянку, то сварылася на яго, то плакала.

— Сынок мой, — казала, — не губі нас і сябе не паніжай.

— Чым жа я вас згубіў? Каня купіў, брычку справіў, а маме, а Кустусі мала чаго ўсялякага накупляў? А з хатняга і капейкі не бяру і не патрабую.

— Але ж Трэцячышка без пасагу, ды з такой фаміліі!..

— Я хачу мець жонку, а не пасаг. Шляхцянка мае пасаг, але розуму ёй не хватае: яна ўмее толькі смяяцца; я гэта зразу

прымеціў, а работы сваёй не паказала. Усё пакупляў бацька. Благая фамілія не бяда; у Амерыцы на гэта не глядзяць. Чым Трацякі горшыя за Якубеляў? Бог роўны бацька ўсім людзям.

— Адамка, апомніся! Бацька кажа, што благаславенства не дасць.

— Як не дасць, дык і так будзе. Я бацьку крыўды не зрабіў, а жаніцца мяне прымусіць не мае права. Хто мне суджаны, тую і вазьму.

Каруся прабавала крыху ўняць старога, але той быў цвёрды, як камень, і чуць старой не аддубасіў. Хадзіла Каруся і да Агаты, удавы на Барунскую вуліцу, каб кінуць на карты; занесла крышку мукі і скварачку, бо Агата грошай не брала. Карта паказала памысна: варажылася, што Амерыканцу суджана русая, маладая, і Каруся ўсцешылася, што гэта на шляхцянку падходзіць, тым болей, што Агата казала: «Будзеш з яе рада». Прыйшоўшы дахаты, Каруся ўспомніла, што і Трэцячышка маладая і русая, дык яшчэ горш засмуцілася і спалохалася. Такі не вытрывала: давай ізноў гаварыць са старым.

— Міхал, а што будзе, як Адам без нашага благаславенства ажэніцца?

— Я ўжо ведаю, што будзе, табе і дзела няма.

— Як то «дзела няма»? А ці я яму не матка, ці я ўжо ў вас нічога?

— Дык мяркуй ты сама, дурная ты галава, што твой Амерыканец цябе не пытаецца і насупроць нашай волі бярэ Трэцячышку, каб запаганіць нашу фамілію.

— Божа, злітуйся! І чаго ж яна да нас прычапілася? — загаласіла Каруся.

Стары Міхал, відаць, быў нешта задумаўшы. Адзін раз сказаў малодшаму сыну ў сакрэце:

— Ты, Франук, не бойся: я цябе не скрыўджу.

І Франук патураў бацьку, як умеў.

## VI. ВЕЧАРУШКІ

У Альшанах прасці кудзелю і ткаць не ўмелі. Затое рабілі рукавіцы з воўны, а з гэтага заработку куплялі крамніну на адзежу. Заработак быў благі; плацілі жыды, як хацелі. За маёй памяці больш не плацілі, як па злотым за пару рукавіц, а бывала, па дванаццаць, па чатырнаццаць, па паўсямнаццаці грошаў. Пляскаюць, пляскаюць дзяўчаты і бабы іглiцамі, а прыйдзе ў суботу

вечарам, дык восем або дзесяць злотых за тыдзень выганяць. Адсчытай, што каштуе воўна, часальня, мыла, дык за работу астаецца саўсім дрэнь. Аднак альшанцы так увыклі, што нават малыя дзеці ад сямі гадоў і старыя мужчыны рабілі рукавіцы. Стары Міхал Якубель у кожны вечар асенні і зімовы, залезшы на печ і ўспёршыся на локцю, зробіць, бывала, пару рукавіц. Спрытныя дзяўчаты маглі за дзень зрабіць пяць пар, але тагды трэба было старацца. Праўда, што работа была тандэтная, а жыды вывозілі да войска. Доўгімі вечарамі дзяўчаты сыходзіліся разам на вечарушкі, каб не паліць газы ў кожнай хаце і каб было весялей у грамадзе. Ігліцы звоняць, як званы ў царкве, а яны спяваюць або старэйшая кабета расказвае сказкі. Хлопцы-расколы прыходзілі «памагаць»: паблытаюць, бывала, пражу або крадуць у дзяўчат рукавіцы, каб, знакам тым, «памыць». Насыплюць у начоўку попелу, сажы, нальюць вады, — адным словам, крыку, смеху бывала шмат, але работы мала.

Работа ў полі перарвалася, нават і грэчкі павырваны; лён парассціланы на сенажацях. Ідуць дажджы. Мужчыны малоцяць жыта на пасеў, зараз пойдуць сеяць. Бабы ўзяліся за рукавіцы.

Сягоння вечарушкі ў Якубеляў. Сабралася дзяўчат нешта з дваццаць. Амерыканец чытаў нешта пры агні па-польску, але яго мала хто стухаў, бо найбольш смяяліся, жартавалі. Сусед Андрэй Ганусевіч курыў папяросу і пачынаў малой дачцэ рукавіцу. Нарэшце не вытрываў.

— Дай пакой, Адам, з гэтым чытаннем. Або яны разумеюць, ты думаеш? Нам трэба навукі, а то цемната, брат, як той кажа: за вучонага дзесяць невучоных даюць, ды і то не бяруць.

— Як то мы не разумеем? А вот усё разумеем.

— Ну, калі разумееце, дык скажыце, аб кім учора ксёндз гаварыў навуку?

— Казаў, як Юдаша ўкінулі ў мора, ды яго рыба глынула, — сказала адна дзяўчына.

Амерыканец і Ганусевіч засмяяліся.

— А хто ж яго ў мора ўкінуў? — пытаецца Ганусевіч.

Тут дзяўчаты паспрачаліся: адны казалі, што жыды ўкінулі, другія — што апосталы, іншыя — што сам Пан Езус.

— Вот я вам казаў, што вы нічога не разумееце. Трэба нам навукі. У мора ўкінулі не Юдаша, а Янаша, прарока. Бог яго пакараў за тое, што ён не хацеў ісці да паганскага горада Нінівы, каб тых людзей нягодных заклікаць да пакуты. У бруху рыбы Янаш адумаўся, што зрабіў дрэнна, стаў маліцца, дык рыба яго выкінула на бераг.

— Тата, а што ён там еў, у тэй рыбе? — спыталася дачка Андрэя.

Усе засмяяліся.

Тым часам у сенях сталі стукацца. Расчыніліся дзверы, аж уязджае хлапец конна на чорным мядзведзі. Мядзведзь раве, а другі хлапец дзержыць яго на ланцугу ды лупіць бізуном. У хаце зрабіўся гвалт, піск. А мядзведзь стаў удыбкі і зароў страшным голасам; фурман з яго зваліўся. Тагды скамарох загадаў мядзведзю забрахаць па-сабачаму: мядзведзь брэша; зарыкаць па-быдлячаму: мядзведзь і тое патрафіў, нават па-аслінаму ўмеў; кашляў, як старая баба… Але загадалі мядзведзю стаць рагача: мядзведзь падымае заднія ногі ўгару, вышэй, вышэй, аж схіснулася пярэдняя лапа і мядзведзь гоцнуў вобземлю, як калода, толькі ж ад’ехалі кляпы і паказалася людская галава. Дык «мядзведзь» хутка ўцёк з хаты, каб не пазналі.

— Досыць вам дурыцца, — сказаў Андрэй Ганусевіч. — На гэта, бачыш, брат ты мой, і навукі не трэба. От лепш будзе за ўсё, раскажы, браток, як ты ехаў морам-акіянам, — звярнуўся ён да Амерыканца.

Усе зацікавіліся, а Адам стаў расказваць, як перабраўся праз граніцу; як салдат гнаўся конна, як ён прылёг у раллі, што той чуць-чуць не наехаў; але такі салдат не прымеціў, бо граніцу пераходзілі ўночы.

Найбольш цікавалі аб тым вялікім моры, што на ім няма дарогі, а шмат дзён не відаць берага, толькі вада і вада. І вада не такая, але горкая, густая, як у лужы і салёная, а яе ані піць, ані ў ёй што варыць няможна.

— Хвалі, — казаў ён, — ходзяць, як горы. Вот ідзе гэткая хваля, як наш касцёл, ужо, здаецца, залье, дык не; вот так параход у яе ўлезе і пераедзе.

— А мой ты сыночак, і табе нічога? — Каруся аж дрыжыць.

— Ці ж я там адзін быў? Там народу тысячы.

— Няўжо тысячы? — пытаюцца ў яго.

— А парахода не залье? — пытаецца другая дзяўчына.

— У нашым параходзе ехала тры тысячы народу. І вялікі ж той параход! Вот каб вам растлумачыць, тут скажу: параход будзе велічынёй, як Гарадзішча, а хвалі так, як тыя ўзгоркі каля Гарадзішча. Я нядаўна, стоячы на Гарадзішчы, так і ўспомніў, як стаяў на параходзе: хвалі, як горы, тоўпяцца, валкуюцца, а зашкодзіць яму не могуць.

Усе задумаліся, і сам Амерыканец замоўк, успомніўшы, як учора па набажэнстве стаяў на Гарадзішчы з Анэлькай, як расказваў ёй аб Амерыцы і таксама аб моры і параходзе.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! Што ж вы тут седзіцё? Пэўне, і не ведаеце, што ў Альшаны хтосьці новы прыехаў. Ну, згадайце? Э, куды вам згадаць! — залапатала, убегшы, Мальвіна Уркелянка.

— Ды ты не пляці тут, а кажы толкам, — сказаў Андрэй Ганусевіч.

— Скажу, скажу, бо вы самі не дагадаецеся. Прыехаў да нас новы ксёндз, малады вікарый.

— От, пэўне, выдумала, — кажа Ганусевіч.

— Якое выдумала? Я сама там была, пры плябаніі. Каб я так жыла, што прыехаў, — малады, харошы: крышку большы ад пробашча. А навёз усяго-ўсялякага, нейкія скрынкі, вялікі кош, ну і доўгую скрыначку з ручкай.

— А ці малады? — пытаюцца дзяўчаты.

— Я ж казала: малады, харошы. Як злазіў з воза, дык кашляў.

— Можа, хворы?

— Не ведаю, можа, і хворы, бо, увайшоўшы ў сені, ізноў кашляў. Ага! Я пыталася ў закрыстыяна, што ў той скрыначцы, дык ён казаў, што то, мусіць, скрыпка.

— Гэта ты прылгала, — кажа Ганусевіч.

— Каб я так жыла, што пыталася. А калі ён лгаў, дык і я лгу. Калі выйшаў ізноў да воза, як здымалі кош з векам, як нашыя куфры, толькі зроблены з белых дубцоў, дык як выйшаў ужо без шапкі, ага! Дык я падыходжу, хацела прывітацца, кажу: «Нех бэндзе пахвалёны…» А ксёндз кажа папросту, вот так, як мы гаворым, кажа: «Чаго хочаш?»

— Пэўне, пазнаў, што дурная, дык сказаў гэтак, — адазваўся Міхал Якубель з печы.

— Якое пазнаў? Ён жа мяне ніколі не бачыў; але так сказаў, Бог яго ведае, чаму? Ага! Ну дык я кажу — і сама не ведала, што сказаць — дык пытаюся, ці заўтра ксёндз будзе спавядаць, дык ксёндз ізноў папросту кажа: «Паглядзім, можа, і буду». Але бывайце здаровыя, я пайду дахаты.

І пабегла.

— Яна яшчэ дзесяць хатаў абляціць; от жа цемната ў нас! Без навукі народ прападае, — казаў Андрэй Ганусевіч.

Яго ўжо ніхто не слухаў, бо сталі расходзіцца, а дзяўчаты згаворваліся, каб заўтра ісці да маладога ксяндза да споведзі.

## VII. У ЦЁТКІ АГАТЫ

Дзень быў святочны. Агата сядзела на покуці і думала. Успамінала маладыя гады, нават прыпомніла, як свайго Сымона не любіла, а пасля такі прывыкла, і было добра. Біў ён яе часта, але ці ж аб гэтым сумаваць цяпер? Каб жыў, дык было б куды лепш. Во цяпер і жыццё — не жыццё: старшы: «сацыяліст», каб ён быць не ведаў, а малодшы балаўнік і абодва гультаі да работы. Білася, як той кажа, платалася, і на старасць няма прыпынку. «Пара і мне да Сымона, пара, годзе тут пакутаваць».

Скрыпнулі вароты, старая аж падскочыла.

— Пахвалёны Езус Хрыстус!

— Навекі! І чаго ж я спалохалася? Гэта ж ты, Анэлька, мая ягадка. Як жа я рада, што ты прыйшла; мяне, старую, усе забываюцца. Але што ж ты такая, што табе? Анэлька, маё ты золатка!

Анэлька плакала наўзрыд, аж дрыжэлі ёй вусны. Старая ўжо яе і не цешыла, а так толькі абдымала, цалавала, гладзіла па валасах. Доўга так сядзелі, а старая цярпліва чакала, бо яе сэрца чула, што ў Анэлькі вялізнае гора наспела на душы. І так Анэлька тулілася да старой, як малое дзіця, аж раптам засвяціліяе вочы новай сілай, надзея сышла ў душу і яна павесялела.

— Цётачка, ужо мне лягчэй.

— Весялуха ты мая, вот люблю цябе, як родную дачку! Ну, супакойся, годзе; яшчэ праз жыццё наплачашся.

І яны загаварылі; спачатку аб чым другім, абмінаючы балючую рану. Але такі прыйшлося раздзерці і самую балячку. Анэлька заплакала чуць не ўголас, аднак ужо стрымалася і расказала Агаце ўсё чыста ад пачатку да сённяшняга дня. Ну, і гора было, гора! Для беднай дзяўчыны, слабой сіраты, было не пад сілу.

Дзядзька, як вы помніце, быў гандляром і круціў бессумленна. Гэткім махлярствам зарабляў шмат грошаў. Карысці з іх для гаспадаркі не было, толькі была карысць Шлёму, бо дзядзька прапіваў на адзін раз па некалькі рублёў. На пасляднім кірмашы, ужо пад самую восень, дзядзьку пашанцавала. Ён прыехаў добра выпіўшы. Анэлька дзвярэй не зачыніла звечара і гэтак, чакаючы, заснула. Да таго была перапрацаваўшыся, дык спала як камень і не пачула, як дзядзька ўвайшоў у хату. П'яных часта водзяць чэрці, дык і дзядзьку чорт, мусіць, апутаў. Яна прабудзілася, аж замеціла, што дзядзька да яе падступаецца — а ўжо было пад дзень, — дык яна калі не дасць яму ў зубы, калі не дзергане пазурамі па вачах, што ён чуць нагамі не накрыўся. Дало ліха, у гэты самы дзень у дзядзькі прапаў капшук з табакай, а ў ім

было дзевяць рублёў і некалькі капеек. Дзядзька стаў спаганяць грошы ў Анэлькі. «Ты, — кажа, — украла; аддавай, бо заб’ю!»

У гэтакай сварбе прайшло дні тры, а сёння ўночы ён ізноў прычапляўся. Анэлька ледзь адбаранілася, разбудзіла ўсіх дзяцей, стала крычаць, дык ён кажа: «Я цябе апублікую, што ты зладзейка, калі мяне не будзеш слухаць».

Даведаўся дзядзька ад некага, што Амерыканец да яе прыходзіў; за гэта яшчэ горш уз’еўся, ды кажа: «Або табе смерць, або мне пагібель».

Яшчэ і перш дзядзька на яе ўскладваў розныя напасці: то як бы то збожжа брана было з мяшка, а пасля ўсклаў на яе і такую брыду: «Ты, — кажа, — набрахала на мяне ксяндзу; ходзіш на спевы і ўсё даносіш».

— Значыць, нібыта я нагаварыла, каб ксёндз упісаў дзядзьку ў «чорную кніжку» за махлярства. Дзякуй Богу, аб тым дзядзька быў забыўшыся, бо ўдалося яму выкруціцца ад «чорнай кніжкі», а нават купіў мне тую чырвоную хустачку, што цётка калісьці пры жніве відзела. Але цяпер, як на тое ліха, ізноў успомніў аб гэнай прыгодзе, ды стаў мяне клясці ад астатніх найгоршых слоў, што я, як жыву, і не чула гэтакіх. «Ты, — кажа, — мяне ўпісвала, цяпер жа я цябе ўпішу, будзеш і ты «чарнакніжніца». Я і так, я і сяк; прасіла яго на каленях — нічога. Аддала яму тыя грошы, восем злотых, што ў Якубеляў у жніво зарабіла; кінула яму ў вочы тую хустачку, дык дзядзька кінуўся мяне біць. Як даў пужаўном праз плечы, дык і цяпер паліць, як агнём, не магу на плячах легчы.

Яна паказала Агаце плечы: доўгі прыпухшы і аж прычарнеўшы знак ішоў праз цэлыя плечы ад правай рукі да левага боку, ускасякі, блізка аж да паясніцы.

— Каб ён быць не ведаў, каб яму Бог не дараваў! Мая ты ягадка; родны бацька ніколі гэтак цябе не біў. — У Агаты аж слёзы пасыпаліся.

— Цётачка, за што ж ён мяне гэтак? Каб я яму што якое? І працую, і дзяцей яго абшываю-абмываю. Ох, каб бацька відзеў маё гора! Ён так мяне любіў. Дай яму, Божа, светлую вечнасць! Учора якраз год скончыўся, як мой тата памёр. Думаю сабе: пайду памалюся хоць на чужой імшы. Хацела сама закупіць за татаву душу за тыя восем злотых, бо дзядзька іх адкінуў, як я аддавала, але неяк пабаялася, бо можа спаганяць, думаю сабе, будзе пасля, калі злая моц да яго прычэпіцца. Ведаеш, цётачка, абы я толькі на парог, дык зараз грызе, кляне, як бы тупой пілою пілуе па сэрцы. Гэтыя дні проста нічога не робіць, толькі сядзе

пры стале, курыць люльку і кляне, на чым свет стаіць. Але я ўжо забылася, што гаварыла.

— Як на імшу хадзіла, — прыпомніла Агата.

— Але, праўда. Дай, думаю, пайду да споведзі да маладога ксяндза. Яго так усе хваляць. Пайшла я, стала спавядацца, ведама, па-польску, а ксёндз гаворыць да мяне: «Слухай, нашто ты язык і мову ламаеш? Гавары так, як у хаце, дык і табе будзе лягчэй спавядацца і лепш уцяміш, што я скажу». Мне неяк спачатку прыкра было, але пасля аказалася, што і праўда…

— Вот дык ксёндз! — крыкнула Агата. — І наш бацюшка, той, што памёр, няхай яму Бог дае неба, дык рыхтык гэтаксама, бывала, папросту. Я гэта, бывала, раскажу яму ўсю сваю беданьку, а ён пацешыць, парадзіць, пашкадуе. І мне зараз лягчэй на сэрцы. А гэты новы, каб ён быць не ведаў: скажа штосьці, я пытаюся: «Што, бацюшка?» А ён мне: «Што, кажа, з табой талкаваць, кайся і ступай». Але, але, што ж табе гэты ксёндз сказаў?

— Казаў цярпець, маліцца. На Пана Езуса, кажа, вунь якія напасці ўскладалі, а Ён прыняў за нас грэшных. І табе, кажа, Бог цяжкі крыж ускладае, нясі, колькі можаш, не наракай, не праклінай, але ахвяруй Богу. Злосць людская ператрэцца, але пакуль што трэба адцярпець. Радзіў, каб расказала пробашчу ў плябаніі, можа, ён што парадзіць ці на дзядзьку насварыцца. Але я пробашча баюся і не ведаю, ці каб горш не было.

— Ведаеш, маё ты золатка, дай я кіну табе на карты.

— Не, цётка, не трэба; каб не было грэху, бо то кажуць чорт у картах паказвае.

— Каб ты быць не ведала, чаго ты баішся? І я некалісьці баялася, але мяне стары бацюшка навучыў, кажа: «Перахрысці карты і сама перахрысціся ды скажы: «Згінь, прападзі, нячыстая сіла». Я так і раблю. Шмат каму памагла, а чорт не смее прыступіцца.

Яна разлажыла карты.

— Во глядзі; тут чырвенны, жалудная дзясятка, добра; што ж тут будзе? Глядзі, глядзі! Званковая дама; ну, добра, а тут, відзіш, ага! Такі паказаўся: малады, чорны.

Яна змяшала карты: раскладала, варажыла, дык ізноў — малады, чорны. Анэльцы аж засвяціліся вочы, аж засмяялася, аж адлягло гора. Пацалавала Агату ў руку і пабегла да хаты.

## VIII. ШТО РАБІЦЬ, ШТО ЧЫНІЦЬ?

Зараз прыйшоў і дзядзька; быў крышку выпіўшы, але нялішне. Быў вясёлы і добры, гаварыў, расказваў аб кірмашах, аб войнах, аб страхах; забаўляў дзяцей, і Анэлю называў: «Мая ты Анэлечка». Анэлька была рада, але не давярала і баялася. Сцелючы свой ложак пасля вячэры, яна знайшла пад падушкай паперыну, у ёй закручаных горсць цукеркаў. Яе абліло, як полымем, але стрымалася, а цукеркі ўсе чыста аддала дзецям на вачах дзядзькі, сама і не пакаштавала. Дзядзька змоўк і паглядаў злосна, як воўк. Анэлька выслізнулася з хаты і ўжо з сяней сказала:

— Я ў хаце начаваць не буду; пільнуйце самі.

Дзядзька за ёй, але дагнаць не мог, толькі крыкнуў ёй услед:

— Помні, я табе гэтага не дарую!

Анэлька начавала ў сваім гумне, на жытнім тарпе, у куточку. Доўга малілася, плакала; нарэшце лягла, а сон не браў, бо вельмі баялася, каб дзядзька не знайшоў яе. Аднак моладасць усё пабівае — і страх, і няшчасце і слёзы. Яна заснула. Толькі відзіць, што да яе лезе чорны, страшны сабака; усадзіў зубы ёй у нагу і цягне. Яна хацела крычаць, але голасу нейк нямашака, у горле засохла. Толькі ж скуль што бярэцца, калі не падбяжыць малады чалавек у чорным, ды калі не дасць парасонам сабаку па галаве, дык сабака з торпу аб ток як гоцнуўся, аж зубы пасыпаліся. Яна ўстала паглядзець на тыя зубы, аж бачыць, што то грыбы ляжаць пад сасной, баравікі, а той чалавек у чорным падбірае іх у кошык. Яна пазнала, што гэта Амерыканец і засмяялася. І ён смяецца. Анэлька прыглядаецца, толькі бачыць, што Амерыканца няма, а яна сама сядзіць на снапах пад страхою, а левая нага запаўшы між снапарні. «Дзе я? — пытаецца. — Ах! Я ў гумне, і гэта быў сон».

Была ясная асенняя раніца. Сонца блішчэла ясным, белым светам, аж усё жывое прыжмурылася. Зямля паказвала апошнія свае прынады, красу прыстарэўшай удавы, каторая націрае шчокі, пасыпае твар белым парашком, каб паказацца маладзейшай. Але дарма твая праца, бабуся: і шчочкі твае паморшчаны, і скура на іх прыжаўцеўшы, і смех твой крывы… Прырода сілуецца паддзяржаць сваю летнюю красу: не пускае лісцяў з дрэва, але яны парадзелі, парыжэлі, жаўцеюць. Зацвітае апошняя краска, але нейкім брудным, бясплодным цветам. Птушак няма. Нават вароны не каркаюць — пайшлі на лясы. Толькі сава загукала, зачырыкала маленькая птушачка, каршун плыве ў паветры, куры крычаць і ўсё… Такое бабскае лета. Павуцінне

белымі ніткамі лётае па паветры і адчапіцца ад іх няможна. Неяк сумна на душы.

Анэлька думала і гадала, што рабіць, як жыць? Гэты паганы дзядзька быў страшнейшы ад нячыстай сілы. Дальш у хаце жыць няможна, але куды ж дзецца? Перш думала ўсё кінуць ды пайсці на службу ў Вільню; там былі знаёмыя альшанскія дзяўчаты, але яе нешта трымала. Той «малады ў чорным» усцяж быў на памяці. Праўда, гэта ж яна аб ім нават сніла, толькі чаму ён ані разачку не даведаўся, а можа, толькі зводзіць. Бог яго ведае; цяпер гэтакі свет і людзі папсаваныя. У тым тыдні на Гарадзішчы ён у яе ясна пытаўся:

— Анэлька, ці ты будзеш мая?

Тагды яна цвёрда сказала:

— Буду, калі Бог будзе судзіць.

Яны пацалаваліся некалькі разоў, а ён дакляраваў, што хутка будуць ізноў відзецца.

— Трэба ж, — казаў, — нам акурат рассудзіць, што і як мы будзем рабіць і жыць.

Яна тады не хацела яму дурыць галавы і дапытвацца аб усім, а тым часам вунь дзесяць дзён, а ён не прыходзіць. Толькі чула, што ў Якубеляў ідзе вайна ў хаце, чула і баялася. Цяпер у яе знайшліся свае беды, гэтыя нягодныя спакусы, напасць за пакрадзеныя грошы. Анэлька гаравала, бедавала, думала і пастанавіла пайсці да маладога ксяндза на раду. Калі толькі ён парадзіць, дык паедзе ў Вільню і больш нічога. А сэрца такі ёй гаварыла інакш: «Хоць табе і парадзіць у Вільню, але як пакінеш Амерыканца?» — «Я яго не кідаю: ён мяне пакінуў; анагдай я чула, што ён сватаецца да Мальвіны Уркелянкі». — «Што тая дурная Мальвіна? — казала сэрца Анэльчына. — Ён на яе глядзець не будзе». — «А чаму ж ён да мяне не прыйшоў ані разачку?» — «Як жа ён прыйдзе, калі там з бацькам вайну вядзе, а тут твой дзядзька ў перашкодзе?» — «Ну, ну, каб любіў, дык патрафіў бы прыйсці, вот што». — «Што ты гаворыш? Ці ж ты не помніш, як глядзеў на цябе тады, на Гарадзішчы? А такі ён харошы: вусы аж шумяць; выглядае на пана, толькі фанабэрыі панскай не мае. Гаворыць шчыра, як прыяцель. Каб з ім жыць, дык і гора было б не гора і бяда была б лёгкая. Ехаць у Вільню? Служыць? Быць на панскай ласцы? Каб яно быць не ведала, як Агата кажа. Досыць мне ўжо дзядзькавай ласкі».

Анэля часта сама з сабою спрачалася. Маркоцілася па Амерыканцы папраўдзе і такі ж пастанавіла пайсці да маладога

ксяндза на раду. Яна яму давярала, бо, казалі, ён надта доўга моліцца: вечарам ходзіць да касцёла і ўсё нешта размышляе; або калі касцёл зачынены, дык хоць пры вялікіх дзвярах укленчыць. Ага! І вот што казалі: як прыязджаюць госці, дык ён не хоча іграць у карты, кажа: «Я не ўмею», аж адзін раз пробашч на яго сварыўся. А ён сядзе лепш што чытае або піша. Гаворыць толькі папросту, кажа: «Гэта нашая родная мова, нашто ж яе стыдацца? Я, — кажа, — і роднага бацькі, і роднай маткі не стыдаюся, хоць яны простыя людзі, а для мяне яны лепш за якіх багатых паноў. Так жа простая мова для мяне прыямнейшая за панскую, за чужую». Другія аж смяяліся з яго, гаварылі: «Што гэта яму такое? Школы пакончыў, а па-польску гаварыць не ўмее». А другія казалі: «А ці ж вы не чулі, як ён навуку бойка гаворыць? Але, да навукі ён майстар, лепш за старога, а такі спакойны, добры».

І такі ж яго любілі, сходзіліся на раду, як да бацькі, а ён і з кабетай старэнькай і з малым дзіцяткам разгаворыцца і на нікога не крычыць, не сварыцца.

## IX. ЧОРНАЯ КНІЖКА

Анэлька крышку сумлявалася: як пачне гаварыць, ці сказаць ксяндзу ўсё? Але не, не трэба; толькі так скажа, што няможна вытрываць у хаце: дзядзька лаецца, крычыць і ўскладае пакражу на яе. «І гэтак ужо даўно, ад смерці таты мяне мучыць, а я працую, гарую…»

Прыйшоўшы ў плябанію, яна даведалася ад гаспадыні, што вікарый паехаў да хворага, але павінен зараз вярнуцца. Анэлька села ў ганку на лаўцы і чакае. Толькі чуваць было, як пробашч з некім крычаў. Што пробашч крычыць, дык гэта не навіна; такі ён меў характар. Добры быў чалавек, але як раскрычыцца, бывала, як раззлуецца, дык проста бяда. Адзін раз як крыкнуў на некага ў сваім пакоі, дык лёкай аж выпусціў вазу з крупнікам, што нёс у сталовы пакой. Ваза, ведама, разбілася, яда разлілася, а лёкай дастаў воўчы білет. І гэтак, бывала, ніхто яму не дагодзіць: кухаркі мяняліся адна за другой і пападала кожны раз горшая. Грэшнікаў пробашч наварочваў усякімі манерамі, а калі не было ніякай рады, дык запісваў у «чорную кніжку».

Анэлька чула, як пробашч крыкнуў у пакоі:

— Для чэго ты вудка піеш?

Аж той адказвае:

— Што ксёндз кажаш? Я не чую.

Ксёндз усё аб водку пытаецца, а той — «не чую» і «не чую», а пасля толькі:

— Ага! Гэта аб водку пытаеце? Не, — кажа, — я не п’ю, толькі як жывот забаліць.

Не дабіўшыся з ім толку, пробашч адчыніў дзверы і выпхнуў яго вон. Гэта быў стары чалавек, сухі, высокі, як жэрдка. Выйшаўшы ў ганак, стаў кашляць, смаркацца і набіваць люльку тытунём. Тут ксёндз замеціў Анэльку.

— А ты чэго? — спытаўся ў яе.

— Я да ксяндза вікарыя.

— Да вікарыя? А ў якой справе?

— От, маю інтэрас, — кажа Анэлька.

— Ходзь ту. — Пробашч заклікаў яе ў пакой і пытаецца строга: — Прызнайся, колькі ты ў свайго дзядзькі ўзяла грошай?

Анэлька аж збялела; дагадалася, што дзядзька ўжо паспеў на яе наскаржыцца.

— Я грошы не брала…

— Прызнавайся! — крыкнуў ксёндз. — Я ўсё знаю: ты дзядзьку губіш гаспадарку, выносіш з хаты, крадзеш, ды яшчэ звязалася з Адамам Якубелем, што нядаўна вярнуўся з Амерыкі. Прызнайся — усё дарую, а не, дык выганю з хору і яшчэ горай будзе.

— Я нічога не краду, я працую…

— Прызнавайся! — крычаў ксёндз.

— А вот не прызнаюся! — загарэлася і яна і зацялася; нават слёзы не ішлі з вачэй.

— Вон з хаты, ты такая, ты зладзейка!

У калідоры паказаўся вікарый. Пробашч і на яго накінуўся.

— Што, ксёндз, прымаеш такіх нягодных да сябе? Абкрадае дом — ужо я добра ведаю аб усім — ды яшчэ задумала баламуцтва ўсялякае.

Вікарый сказаў нешта па-нейкаму, хіба па-лацінску.

Анэлька не зразумела і не чула нават, бо слёзы падступілі ёй да горла; яна, як здзервянеўшы, стаяла пры дзвярах і сама не ведала, чаго яшчэ тут чакае. Аж агледзелася; як не пабяжыць у ганак, так і павалілася пры дзвярах касцельных, на плоскім, шырокім камені, і залілася горкімі слязьмі, слязьмі нядолі, сіроцкага гора пакрыўджанай дзяўчыны, адзінокай, гаротнай беларускі.

Вялікія дзверы ў альшанскім касцёле маюць нейкі цудоўны магнэс: хто ідзе міма касцёла, дык аж цягне, каб укленчыць і крыху памаліцца. І што яшчэ дзіўнейшае: хто шчыра памоліцца, дык, адходзячы, чуе ў душы супакой і адвагу да жыцця.

Мужчыны сваё гора ўносяць у дзверы карчомныя; там б’юць паклоны «шкляному богу», здымаюць жуду з сэрца, а кабета найбольш прыбягае да касцёла. Касцёл для беларусак — гэта Божы прыбытак, боская хата; дзверы да касцёла — гэта брама да шчасця і праўдзівага супакою. І такі ж праўда: у касцёле сапраўды нашыя дзяўчаты, кабеты, старыя бабы знаходзяць адпачынак, супакой і добрую патолю ў гаротным жыцці.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нядзеля. Народ ішоў, ехаў. Вясковыя збіраліся перад самай імшой. Ішлі грамадамі, спяшаючы. Боты і камашы неслі ў руках аж пад мястэчка; абуваліся найбольш пад крыжамі, сеўшы на камені або на калодзе. Найбольш вясковых ішло Ашмянскай вуліцай, бо ў той бок былі найпабажнейшыя вёскі — Норшты, Навасяды, Вашнарышкі. Шляхты ішло мала, але ўсе з вялікай фанабэрыяй, дык у мястэчку пачыналі гаварыць па-польску. Паноў у Альшанскай парафіі было даволі шмат, але да касцёла ленаваліся. Апроч пані Капусцінскай другіх не было. Калі каторыя, бывала, прыедуць, дык патрафяць якраз на канец імшы, як той кажа, свечкі гасіць.

Альшанцы любяць свой касцёл, бо ён сапраўды харошы. Працэсія ў Альшанах вялікая, а шыку і багацтва не менш, як у Гроўжышках. Толькі ў Гроўжышках спявалі харашэй. Дык альшанскі арганіст так стараўся, працаваў, каб не паддацца, што спевакоў чыста памучыў. Але-такі навучыў новую імшу на чатыры галасы. Сягоння меліся першы раз пяяць тую імшу. Арганіст прынёс ноты, спевакі сабраліся, толькі Анэлька не пайшла на хоры.

— Дзе Анэля Трэцячышка? — пытаецца арганіст.

— Вунь, каля філяра; чытае з кніжкі.

Арганіст паслаў спевака, каб яе паклікаў, але яна не пайшла. Тады сам арганіст пайшоў клікаць.

— Чаму паненка не ідзеш? — прашаптаў ён.

— Не пайду ўжо, бо мяне пробашч прагнаў.

— Анэлечка, гэты раз толькі; сягоння новая імша, без цябе не дамо рады. Хадзі, толькі сёння.

Аж у яго вочы ў слязах. Анэлька глянула: ёй стала шкада старога. Падумала: «Няхай будзе на хвалу боскую» — і пайшла.

Ну і спявалі сягоння — проста дзіва. Шмат каторыя людзі, не стрываўшы, аглядаліся на хоры. Найлепш такі выйшла «Глорыя». У арганіста аж пачырванела лысіна: ён быў вясёлы, падаваў тоны, месцамі сам падцягваў, ківаў галавой, у арганы іграў голасна, рэзка, па нейкаму новаму строю. Калі скончылі

«Глорыю», арганіст быў спацеўшы, але аж вочы свяціліся новым агнём, твар у яго быў раз'ясънеўшыся і ён сказаў:

— Ну, я не спадзяваўся. Вот малайцы! Дзякую!

Пачалася навука. Пробашч гаварыў, ведама, па-польску. Гаварыў нават добра, аж некаторыя плакалі. Старэйшыя кабеты не разумелі блізка што нічога, дык найбольш драмалі; ківаецца гэтак сабе бабуся, аж як ксёндз мацней крыкне, дык яна гляне, паслухае, аж ізноў пачынае ківацца.

Па навуцы стаў пробашч чытаць «чорную кніжку.» Тут дык усе слухалі і смяяліся, а ксёндз перабіраў грэшнікаў, як той кажа, па костачках. Былі ў той страшнай кніжцы п'яніцы, канаводы, махляры, зладзеі. Аж пры канцы ксёндз чытае: «Анэля Трэцячышка, спявачка, аказалася зладзейкай і жыццё вядзе лішне лёгкае». Усе аж ахнулі, зашапталі, захваляваліся, аглянуліся на хоры. Анэлька чуць не самлела: схіснулася, закрыла вочы і прытулілася за арганамі. Нарэшце, як без памяці, сышла з хору, прыкленчыла ў кутку каля філяру і так без чуцця здзервянеўшы, ані малілася, ані чула, ані ведала, дзе яна і што навакол робіцца. Не чула, як спявалі «Крэда», як у сярэдзіне збунтаваліся, папуталі, ды пасля саўсім не пялі; толькі адзін арганіст нейкім надарваным голасам спяваў «Санктус» і ўсё рэшняе да канца імшы. Ёй як бы малатам па галаве біла тое слова «зладзейка» перад людзьмі. Божа, Божа! За што, за якое? Толькі яна чуе — нехта да яе гаворыць, бярэ за руку, — яна глядзіць, прыглядаецца — Амерыканец. Як малое дзіця, вывеў ён яе за руку з касцёла. Тут нехта дае ёй вады напіцца, глядзіць — пазнала — арганіст, аж хацела ўсміхнуцца, дык толькі скрывілася. Пасля яны ўсталі, і яна пайшла з імі, трымаючыся за рукі Амерыканца. Прыйшлі ў нейкую харошую хату, арганіст быў тут і старая кабета. Хто яна, Анэлька не магла прыпомніць.

— Ты, Агата, улажы яе добра, — казаў арганіст.

«Але, Агата, яна, — думае Анэлька. — Толькі ці то тая Агата, цётка, ці то другая, іншая Агата?»

Пасля ўсё перамяшалася: арганы падскокваюць, арганіст ківае галавой, касцёл круціцца, ксёндз крычыць, а філяр на яе так і валіцца.

— Уцякай, ты, зладзейка! — нехта крычыць на яе.

Яна хацела ўцякаць, аж старая Агата не пусціла.

— Ляжы, маё золатка, засні крышку. Каб ты быць не ведала, што ж ты так зрываешся.

Старая прылажыла ёй на галаву мокрую хусцінку. Анэльцы зрабілася добра, прыемна, цёпла; яна на мінутку задрамала.

## Х. СТАРЫ МІХАЛ ЯКУБЕЛЬ

Стары ў касцёле не быў, але ўжо даведаўся, што Анэлька «чарнакніжніца». Першая прыбегла сказаць Мальвіна Уркелянка.

— Ксёндз, — кажа, — вот сварыўся, дык на нікога так. Кажа: «Зладзейка, распусніца, з хору, — кажа, — праганю». Яна думала, што мы без яе не дамо рады, а вот «Крэда» і без яе пераспявалі.

Мальвіна лапатала, а стары цешыўся.

— Добра ёй: Бог пакараў. Гэта, відзіш, «ганчакова» насенне: яны ад дзеда-прадзеда крадуць і не стыдаюцца.

Амерыканец прыйшоў дахаты вечарам. Усе на яго паглядалі, як на чужога, а стары меў генеральскую міну і сам да сябе смяяўся. Нарэшце такі пытаецца:

— Як жа здароўе тваёй паненкі?

— Лепш крышку, — адказаў Адам спакойна, хоць і ўцяміў, што бацька пытаецца дзеля наругання.

З'еўшы вячэру, Адам надумаўся разгаварыцца з бацькам, як мае быць, але без сварбы.

— Тата, я хачу вас паведаміць, што са шляхцянкай жаніцца не буду.

— А з кім будзеш?

— З кім буду, гэта пасля, але ані са шляхцянкай, ані з Мальвінай Уркелянкай не буду.

— Як сабе хочаш, мой сынок, — казаў Міхал, але губы яго дрыжэлі, і было відаць, што зараз пачне крычаць і клясці. — …Ты мяне ніколі не пытаешся, гаспадаркі не глядзіш, некуды ходзіш.

— Я хаджу, а тата ездзіш. Куды ж гэта тата ездзіў у сераду з Франкам?

— Гэта ўжо мне ведаць. Яшчэ тым часам я тут гаспадар.

— Што ж будзе, калі ты возьмеш якую без пасагу? — пыталася Каруся.

— Ты, дурная, не мяшайся, — крыкнуў Міхал.

— Як то, «не мяшайся»?!

Старыя паспрачаліся, Каруся заплакала і загаласіла.

Адам не выцерпеў і падумаў: «Трэба ўжо раз скончыць» — і сказаў:

— Тата і мама, не гневайцеся, я прашу ў Вас багаславенства, я хачу ажаніцца з Анэляй Трэцячышкай.

— З якой Анэляй, з «Ганчачышкай»? З чарнакніжніцай, з зладзейкай? Не, мой сынок, гэтага не было і не будзе.

— Не было, але будзе! — загарэўся і Амерыканец. — Вы мне не забароніце жаніцца, вот што!

— Я табе бараню? Ідзі, бяры сягоння, толькі не ў маю хату. Не, не дазволю хаты паганіць зладзейскай фаміліяй: я сам яе ставіў, сваімі, як той кажа, рукамі.

— А я пасылаў грошы з Амерыкі, ды мая тут дзедаўшчына, вы не маеце права мяне выкідаць з хаты.

— Я ўжо пытаўся аб права: у Ашмяне лепш ведаюць ад цябе. І ты мне тут маўчы, бо выкіну нанач на двор, як сабаку!

— А мой ты Міхалачка, Адамачка, дзеткі мае! — галасіла Каруся. Узбурыліся ўсе ў хаце, накінуліся на Амерыканца. А стары спагнаў злосць на жонцы і на ўсіх.

— Маўчы, — крычаў, — дурная! Я яму пакажу, як шанаваць роднага бацьку, я яму зараз дам багаславенства!

Але Адам не чакаў бацькоўскага «багаславенства»: націснуўшы шапку на вушы, пайшоў проста да арганіста.

Анэлька была ў гарачцы, што аж ад памяці адыходзіла, часта зрывалася, хацела бегчы, крычала: «Лавіце, вунь зладзейка!» або: «Ратуйце, бо ўкусіць». Амерыканец прасядзеў цэлую ноч. Агата лячыла, як умела, ды ўсё паплаквала, прыгаворваючы: «Ціха, мая ягадка, ціха. Не ўкусіць той злыдзень, я яму дам, няхай жа толькі падлезе». Толькі пад раніцу Анэльцы зрабілася лягчэй, і яна заснула спакойна. Агата прылягла на канапе і задрамала. Адам сядзеў на крэсле і думаў. «Чарнакніжніца» ляжала, дыхаючы часта; яе грудзі роўна хвалявалі, на твары былі чырвоныя плямы. Ён жа прысягаў у душы, што гэтую «зладзейку» возьме нават напроціў бацькі і маткі.

Назаўтра Адам пайшоў дахаты, але бацькі не было. Суседзі сказалі, што стары Міхал паехаў на кірмаш ды забраў каня таго, што Адам купіў, прыехаўшы з Амерыкі. Адам уцяміў, што з бацькам нічога не зробіш, калі заесца. Думаў, што рабіць, — і не мог надумацца. Да гэтай пары ён рабіў усякія пробы. Перш маніўся, узяўшы Анэльку, пайсці ў які-небудзь двор на ардынарыю; аднак, перабраўшы некалькі двароў, не выбраў аніводнага. У адных чваракі былі горш хлявоў быдлячых, як звярыныя ямы, цёмныя, сырыя, закурэўшы; у пані Капусцінскай, можа, і лепш было б, але яна нікому не верыла, усіх называла зладзеямі, а да таго — была лішне старая і як бы прыдурэўшы. За яе распараджалася ейная нянька, каторая нянчыла толькі катоў і сабак, карміла іх, купала і на ўсе патрэбы выводзіла. Адзін толькі двор быў да людзей падобны, двор Сальмановіча: там парабкоў і дзевак счыталі за людзей, але там ужо не было месца.

У сваю хату, да бацькі, Адам і не думаў, што ўдасца ўвесці Анэльку. Ён даведаўся ад суседзяў, што бацька ездзіў у Ашмяну з малодшым сынам, Франкам, робіць нейкія вопісы. Адным словам, абставіны былі дрэнныя, а грошы на пошце асталося нямнога. Трэба было прыдумаць якое-колечы становішча і то зараз. Аж галава ў яго кружылася, а тут чалавек без прыпынку і Анэлька хворая ляжыць у арганіста. З хаты, значыцца, нічога не дастанеш, бо і цяпер усё пазамыкана — і свіран, і камора, і куфар, а каня бацька прадасць, і пачынай жыць без нічога-ніякага. Вот доля, бадай на цябе звод!

## XI. ПА НЕШПАРЫ

Анэля неяксьці ўсцягнулася з ложка; першая гарачка мінула, але перайшла ў цяжкую трасцу. Калі пачне трэсці, дык зімна ломіць косці, аж трашчаць; што ні накладай, усё роўна мароз паліць, а зараз перакідвае ў пал, аж памяць адходзіць, нейкі сон — не сон, млосці і слабасць. І доктар прыходзіў, а парашкі дык аптэкар прыносіў самыя найпамацнейшыя — усё роўна трасе, паможа на нейкі час, але трасца на другі дзень варачалася.

— Каб яно быць не ведала, моц Боская; паслухай мяне, мая ягадка, мо і лепш ад гэтых дактароў памагу.

Агата нешта варыла, шаптала і жагнала. Казала піць, але такое было горкае, што аж дух забівала; аднак Агата не адступалася:

— Выпі, маё золатка, лягчэй будзе.

Ад Агаціных зёлак трасца ўнялася, але Анэлька была аслабеўшы начыста. У другую нядзелю пасля тае катастрофы яна такі не вытрывала.

— Пайду, — кажа, — па нешпары, паслухаю, што малады ксёндз дзецям гаворыць.

Малады ксёндз любіў дзяцей, ну, і дзеці за ім прападалі! Бывала, па нешпары збярэ грамаду каля касцёла, сядуць на камені і гавораць, гутараць, смяюцца. Ён што-колечы расказвае або чытае, а яны слухаюць. Але што найдзіўнейшае: ён ніколі не крычаў на дзяцей, хоць каторы смяецца або балуецца. І дзяцей была грамада вялікая, а яшчэ прыбывалі новыя.

Сягоння ксёндз сядзеў на камені пад клёнам; дзеці навокал, усеўшыся, шушукаюць, як тыя лісточкі на дрэве; і старшых людзей было многа, а нават хлопцаў і дзяўчат. Вянком акружыўшы дзяцей, слухаюць, што кёндз навучае.

Анэлька прыйшла, як ксёндз пытаўся:

— Дзеці, на чым я сяджу?

— На камені, — кажуць, а адзін крыкнуў: — На вялікім камені.

— Добра, на вялікім камені. А скуль ён тут узяўся?

— Яго нехта сюды прынёс.

— Добра. Але адкуль яго людзі ўзялі, каб сюды прынесці? — пытае ксёндз.

Маўчаць, думаюць.

— Відзіце, дзеці: гэтага каменя калісьці не было на свеце, ды не было і зямлі, не было сонца, ані зораў, анічога не было. Скуль усё гэта ўзялося?

— Пан Бог стварыў, — сказала адна дзяўчынка.

— Вот добра кажаш! — пахваліў яе ксёндз і аж пагладзіў па галаве. — Бог стварыў усё адным сваім словам. Сказаў: «Няхай расце трава», і трава зазелянела. «Няхай будзе сонца, няхай будуць зоры, няхай ходзіць месяц па небе», — і ўсё, як Бог хацеў, так яно і зрабілася. Скажыце, дзеці: што Бог стварыў?

— Сонца, месяц, траву, зоры, зямлю, дрэва, камень… касцёл, званіцу, калоду, крамы… — сталі здагадвацца дзеці.

— Так, так. Толькі тут мы крышачку памыліліся: касцёл, званіцу і хаты — гэта людзі паставілі. Бог стварыў дзерава, камень, пясок, гліну, а з гэтага людзі парабілі ўсялякія патрэбныя будынкі. А звяры, а птушкі скуль узяліся напачатку?

— Бог стварыў.

— Якіх вы ведаеце птушак або звяроў?

— Сабакі, ваўкі, вароны, ластаўкі, вераб’і, куры, гусі, коні, качкі, каровы… — гаварылі дзеці наперабой.

Ксёндз слухаў і смяяўся, і людзі, стоячы, цешыліся. Толькі тарціяркі стаялі, зморшчыўшыся, а найгорш крывілася тарціярская галава, што называлі «адвакаціха». Тая такі ўголас буркнула: «Каб мае дзеці вучыліся, дык я не дала б вучыць папросту». Нямаведама, чаму, але такі тарціяркі счыталі грэхам, што ксёндз да людзей папросту гаворыць. Бог іх ведае, скуль яны гэтакі грэх узялі, аднак мелі вялікае згаршэнне. Маладога ксяндза недалюблівалі за тое, што ён часта ім дапякаў. Раз нават пры людзях ім гаварыў:

— Вот вы і тарціяркі, а нічога не ведаеце аб сваім патроне, святым Францішку.

— Як не ведаем? Вемы, гдзе умар і цо был сьвенты.

— Так-то так. Але вы не ведаеце, што святы Францішак збіраў дзяцей і навучаў іх у простай, вясковай мове, складаў дзяціныя песні і пяяў разам з малымі дзецьмі.

Бабы не ведалі, як адказаць, толькі «адвакацiха» ўжо некалькі разоў скаржыла на вікарыя пробашчу, а казала, што і да дэкана пойдзе ў самую Ашмяну.

«Адвакацiха» счытала сама сябе за наймудрэйшую з цэлага свету. Не было аніводнага ксяндза ў Альшанах, на каторага б яна не пісала прашэнні. Адзін ксёндз насіў порткі навыпуск, што крышку былі відаць калошы з-пад сукні духоўнай. Яна ж гэта падмеціла і бах прашэнне да біскупа: «Так і так, — піша, — наш ксёндз порткі носіць». Шмат было смеху аб гэтым у Вільні, але «адвакацiха» нічога. Пасля неяк падлізалася і ўлезла на старшую ў тарціярстве; дык стала яшчэ больш куражыцца. Як чужы ксёндз гаварыў навуку на фэсце, дык яна запісвала ў сшытак, седзячы ў лавачцы. Усе тарціяркі аж у галаву скрабаліся: жарт, пісарыха! Як яна паспее ўсё запісаць? Праўда, нікому яна не давала чытаць, што напісала, але дзіва аставалася дзівам.

Малады ксёндз неяк не пазнаўся на яе розуме, толькі казаў:

— Проціў дуру ў нашай аптэцы няма лякарства.

## XII. У АРГАНІСТА

Анэлька больш тыдня жыла на кватэры ў арганіста; стала папраўляцца. Трэба было неяк выйсці з гэтага палажэння. Ужо яны з Амерыканцам угаварыліся, што шлюб будзе зараз, як яна паздаравее. Толькі яшчэ не было абдумана, дзе будуць жыць. Усе старанні Амерыканца не мелі да гэтай пары ніякага рэзультату; пры гэтым усім грошы было не лішне многа, каб адразу завесці ўсю гаспадарку, бо і доктар, і лякарствы, а пасля трэба справіць сякое-такое адзенне, бо Анэлька не мела пасагу. З «чорнай кніжкай» справа неяк уладзілася, бо малады ксёндз і арганіст пайшлі да пробашча і сказалі востра: «Калі пробашч не выкасуе Анэлькі з «чорнай кніжкі», дык мы яшчэ сёння паедзем да біскупа з жалабай». Пробашч крычаў, сварыўся, але больш Анэлькі не выклікаў з амбону. Справа зацёрлася, пайшла ў няпамяць, тым больш, што ўсе ведалі, які махляр дзядзька Анэльчын. Анэлька ўспакоілася, толькі вясёласці крышку менш паказвала. Думала яна, ці пайсці да дзядзькі пасля ўсяго гэтага. Пастанавіла парадзіцца са старой Агатай, акурат сягоння вечарам яна манілася прыйсці. Агата прынесла навіны.

— Пастыр, вунь той, што без рукі, дачуўся аб вашых спрэчках з дзядзькам, дык анагдай вечарам пытаецца твайго дзядзьку: «Ці ты, — кажа, — даваў свайму сыну грошы на цукеркі?» Дзядзька

кажа: «Не, не даваў». Тут зараз пачулі суседзі, сталі пытацца: «Што, якія грошы?» А пастар кажа: «Бачыце, вунь як было: яго сын… Як ён? Ага, Кастусь, адпасваў у мяне калейку; гляджу я: ён нешта хавае, смокча. Я пытаюся: «Што ты маеш?» Ён не хоча прызнацца. Дык пастухі яго злавілі ды знайшлі цэлую скрыначку цукеркаў, ды яшчэ цэлы рубель быў у яго за пазухай». Суседзі, значыцца, сталі на дзядзьку сварыцца за тую напасць на цябе, а ён, каб ён быць не ведаў, кажа: «Ага, я даў свайму Кастусю грошы, гасцінца пасля кірмашу». Дык суседзі ў смех, а дзядзька, значыцца, твой, калі не закляне, дык аж страх і пайшоў дахаты.

— Я адразу казаў, што гэта Шлёмава работа! — ускрыкнуў арганіст, каторы пачуў з бакоўкі аб гэтай гісторыі.

Прыйшоў і Амерыканец, Агата зараз і яму расказала, як дзядзькаў Кастусь украў тыя няшчасныя грошы ды ўсё занёс Шлёме за цукеркі, а толькі адзін рубель астаўся. Усе гаварылі, смяяліся, жартавалі; нарэшце арганіст кажа:

— Што ж, зап'ём заручыны! — выцягнуў бутэльку віна і паслаў некуды служанку, нешта нашаптаўшы ёй на вуха, толькі было чуваць: — …Але кажы, каб без адказу, канечне.

Пакуль шыкаваліся чаркі і закускі, уваходзіць малады ксёндз.

— Што вы гэта вырабляеце?

— Заручыны будзем піць, просім у кампанію, — жартаваў арганіст.

— А я думаў, што важнейшае ў вас, думаю, няшчасце, ці што якое, што так беспраменна заклікаеце, — гаварыў ксёндз, засядаючы пры стале.

Расказалі навіну аб грашах і цукерках.

— Ох, гэтыя жыды псуюць нам дзяцей і прычыняюць людзям няшчасце. А гэты Шлёма дык найгоршы круцель.

Заселі.

— Цяпер на павіншаванне я хацеў бы сказаць некалькі слоў, — пачаў ксёндз. — Маладая пара! Ваша доля — гэта доля цэлага нашага народа. Цемната і нясведамасць забіваюць душу народа, хоць ён і добры, але сляпы і дарогі не бачыць. Апекуны-суседзі замест паказаць нам праўду, смяюцца з нас і крыўдзяць. Ёсць яшчэ горшыя, бо цкуюць нас аднаго на другога, каб мы самі сябе заядалі, а яны каб панавалі над намі. Толькі ж гэтак не будзе: Маці наша, Беларуская зямліца, пачынае радзіць дзяцей лепшых, каторыя, самі пазнаўшы праўду, бяруцца прасвечываць братоў цёмных. Будзе нам цяжка, бо паўстануць процiў нас нават родныя браты або і бацькі нашы, але гэта нічога. Засвеціць і для нас яснае сонейка, немарасць адступіць і «будзе ўнукаў пана-

ванне там, дзе сягоння плача дзед». Вось жа і вы, маладыя мае другі, перайшлі вы ўжо цярністую дарогу, ды яна і не скончана, але такі ж ясная надзея і вам свеціць сягоння. Толькі ж не трэба сумлявацца: жыццё — гэта вайна, бой гарачы; трэба змагацца з нядоляй, працаваць без адпачынку, тады доля прыйдзе сама ў хату. Вашая сяўба была ў плачы і трывозе, але жніво будзе вясёлае: дасць вам Бог Сваё багаславенства, а яно лепшае будзе, як цёмных бацькоў і фамільятаў, — я перакананы, што Бог вам будзе багаславіць і ў гаспадарцы, і ў здароўі, і ў дзецях, і ўнуках.

Амерыканец стаў дзякаваць.

— Дзякую ксяндзу за павіншаванне, а яшчэ больш за апеку і ратунак і за добрыя словы. У Амерыцы гавораць: «Час — гэта грошы». Такі і праўда, бо чалавек працавіты і абучаны можа здабыць грошы і долю. У нашым краі тутака цяжэй людзям жыць, бо тут усё цёмныя людзі. Аднак упоцемках запальваюць лямпу, каб было светла, дык і ў нас маладыя людзі сталі запальваць святло і свяціць цёмнаму народу. Дзякуй Богу! Я аб Беларусі чуў яшчэ ў Амерыцы, хоць, прызнацца, толькі ад нашага ксяндза пазнаў, што я сам беларус, і гэтага ўжо стыдацца не буду, бо толькі подлыя або дурныя людзі стыдаюцца свайго народа. Дык няхай нан малады ксёндз жыве на доўгія леты!

— Plurimos annos!* — крыкнуў арганіст.

Выпілі.

— Яшчэ і мне трэба што-колечы сказаць, — гаварыў арганіст. — Відзіце, аб гэтай Беларусі я неяк сумляваўся і, праўду сказаць, на ксяндза быў крывы спачатку. Думаў я сабе: «Што гэта яму зрабілася»? А пасля я памеркаваў: «Можа, і праўда?» Гляджу: людзі тут убіраюцца ў белую адзежу, а валасы маюць русыя, як і наша Анэлька, вот і гатоў «беларус». А мой бацька інакш не выходзіў, бывала, з хаты, як у белым. Бывала, ідзе за сахою беленькі, як галубок, аж радасць глянуць, а ён арэ… арэ. Але што я казаў? Агата, каб ты быць не ведала, аб чым я гаварыў?

— Бог цябе ведае, мой ты галубок?

— Але… галубок, мой бацька, значыць. Дык і вы, двое галубкоў, жывіце згодна, любіцеся, а на злосць «чорнай кніжцы» мы будзем усе беларусы!

— Будзем, будзем! — усе смяяліся.

* Многія леты!

## XIII. «ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ»

Адам пакуль што жыў пры бацьку і памагаў у гаспадарцы, хоць жыццё было вельмі цяжкае. Бацька хадзіў злы, як гад, матка найбольш плакала і наракала, а брат і сястра паглядалі на яго спадылба. Вечарамі затое не сядзеў у хаце. Пойдзе, бывала, да Андрэя Ганусевіча — туды найчасцей збіраліся на вечарушкі — і там прасядзіць да позняй ночы. Было нейкае рускае свята, вучні з ашмянскай школы прыйшлі ў госці аж на тры дні. Адзін бойкі хлапец — той, што, казалі, матка на ксяндза будзе вучыць, толькі немаведама, скуль яна грошы возьме, дык той хлапец расказваў ашмянскія навіны: як людзі па паветры зачынаюць лётаць; як кажуць, што на зорах людзі жывуць; як ксёндз з папом у школцы паспрачаліся: ксёндз казаў, што тут Польшча, а поп — што Расея.

— А вы чулі? — пытаецца Андрэй Ганусевіч.

— А як жа, чулі пад дзвярыма, а яны ў канцыляры спрачаліся, а поп аж крычаў.

— Віш, ліха яму! — сказала адна баба.

— Гэта ксяндзу ліха, — перабіла праваслаўная і пайшла ў спор, чыя вера лепшая.

— Дайце спакой! — казаў Адам. — У Амерыцы ёсць шмат вераў, а ніхто за гэта не злуе, ані лаецца. Ты будзь такі, а я гэтакі, і нікому ніякага да мяне інтарэсу.

— Што ты там круціш у руках? — спытаўся Ганусевіч вучня.

— Паглядзіце, дзядзька, гэта мне ксёндз вікарый даў; па-нашаму пішацца.

— Пакажы, пакажы! — усе зацікавіліся.

Ганусевіч стаў чытаць:

Каб ты ведаў, брат кумішча,
Што учора відзеў я:
У паноў было ігрышча,
А якое, а-я-я!

— Па-нашаму, каб я так жыў! — аж крыкнуў Ганусевіч. — Толькі я не магу складна чытаць. Чытай ты, ты ж вучань.

Вучань стаў чытаць: выходзіла складна і да верша, а ўсе аж клаліся ад смеху: «Вот піша, дык піша, а каб на яго звод!» Хвалілі, слухалі, перабівалі; забыліся і рукавіцы рабіць; стоўпіліся каля вучня; ізноў смяяліся, бо такі і смешна, як жыды ігралі, а паны падскоквалі.

— Вот, каб гэтак усе кніжкі пісалі, дык было б усім панятна, — казала старая Міхалевічыха.

— Ат, паны самі гэта напісалі, каб з нас пасмяяцца, — сказаў Ганусевіч. — Нам, брат, трэба навукі, каб мы разумелі па-польску, па-руску.

Вучань стаў чытаць дальш: «Адказ Юрку на панскае ігрышча». Тут яшчэ больш смяяліся.

— Ну, гэта такі не паны пісалі, бо тут на паноў валіць, колькі ўлезе, — сказаў нехта.

Чыталі цэлую кніжку, а на самым канцы чыталі пачатак. Тут усе аж ахнулі.

— Чуеш, ён нашу мову хваліць, кажа, што людская і добрая. Вот штукі дык штукі!

— А бо і праўда: хай як хто хоча, так гаворыць, а я гавару папросту, дык для мяне і гэтак добра.

— У касцёле дык другое дзела, а ў хаце можна і папросту.

— А што ж там у касцёле? Вунь я чула, як малады ксяндзок вучыў дзяцей, дык аж слёзы самі ідуць, так ён неяк да сэрца гаворыць.

— Але, праўда. Стары ксёндз крычыць, толькі людзей разганяе, а гэты дык вот як трэба чалавек.

Гэтак бабы і дзяўчаты спрачаліся. Аж і Адам сваё слова сказаў.

— У Амерыцы гавораць па-ангельску, але апроч таго ёсць шмат моваў інакшых: французская, нямецкая, італьянская, польская.

— А папросту там гавораць? — пытаецца вучань.

Усе засмяяліся.

— Няма чаго смяяцца: гавораць і папросту, — адказаў Амерыканец, — толькі стыдаюцца папросту гаварыць. Адзін раз прыехаў наш альшанец, але фаміліі не скажу, і давай да мяне круціць языком па-польску, а не ўмее. Я кажу яму: «Вот ты разумны, адразу так лоўка па-польску гаворыш, а я не магу налажыцца і са сваімі толькі папросту гавару, як і ў хаце калісьці». Ён глядзіць мне ў вочы, як баран, ды ўсё на Польшчу заводзіць. «Цо ты мувіш?» — кажа да мяне. «Я кажу табе, што ты дурань», — плюнуў я і пайшоў. Па-мойму, дык наша мова таксама добрая, як і другіх людзей, а я вот і з маладым ксяндзом гавару папросту. Што ж там такое? Жыды сваёй паганай гутаркі не стыдаюцца. А наш чалавек кажа, што папросту брыдка; яно праўда, калі будзе лгаць або клясці, дык і слухаць брыдка, а калі гаворыш што-колечы добрае, дык нічога брыдкага няма.

— Яно, відзіш, брат, не тое; наша простая мова — яна паводле хаты, а дзеля навукі, дык трэба якой другой мовы, лепшай, польскай або расейскай, — казаў Ганусевіч.

Аднак Амерыканец растлумачыў усё, як мае быць:

— Мне ксёндз казаў, што простую мову сталі ўжо і да навукі прыхіляць, газету мне нават даў і кніжкі паказваў, але я дзеля клопатаў не меў часу і прызнаюся, што для мне з гэтых кніжак чытаць цяжкавата, хоць і папросту пішацца, ведама, не прывыкшы. А вот наш вучань адразу стаў бойка чытаць, хоць у школцы толькі па-расейску вучаць.

— Няхай сабе па-расейску, а мы такі беларусы, — сказаў вучань.

— Скуль ты, сынок, гэта ўзяў? Мы польскія, — гаварыла яму матка.

— Каб мы былі польскія, дык мы гаварылі б па-польску, а як мы гаворым папросту, дык мы беларусы.

— Чуеце людзі, што гэты малады ксёндз панарабляў? — бедавала матка.

— Дай, Васпані, спакой і не бойся: цяпер усе маладыя пацягнулі ў гэты бок; такое ўжо паветра. Вунь той, што прыязджаў клерык, я сам чуў, як з ксяндзом папросту гаварылі. Дасцё веры — так бойка гавораць, як рэпу грызуць, аж я дзіваваўся. Я гэта на смех пытаюся, ці то ўжо ў семінарыі папросту вучаць? А клерык мне кажа: «Яшчэ не вучаць, але і гэта некалі будзе. А нас, — кажа, — такіх беларусаў ужо многа ёсць. Што ж, — кажа, — тут дзіўнага? Палякі па-польску, літвіны па-літоўску, а мы — беларусы, дык нам трэба па-беларуску. Мы самі між сабою папросту гаворым, чытаем кніжкі, пяём нашыя беларускія песні».

— А ці ж на іх біскуп не насварыцца?

— Гэта і я пытаўся, — адказвае Амерыканец, — але клерык мне казаў, што біскуп нічога, бо, кажа, за гэта і грэху няма ніякага. Каждаму можна сваё любіць.

— Вот дзіва, а!..

## XIV. ЗА ГОД

У познюю восень вечарам сядзеў Адам пры печы, падкладваў дроўцы на агонь, гаварыў з Анэляй і забаўляў малога Міхася. Міхась смяяўся, разявіўшы бяззубую губу, і ёрзаўся. Анэля варыла вячэру. Яны жылі ў невялікім пакойчыку з двума вокнамі і падлогай. Было цемнавата і бедна, але парадачна і чыста. На паліцах талерка, міскі і іншае начынне было памытае і спарадкавана. Ложак засланы сівой капай, падушак дзве і адна малень-

кая. Калыска вісела на грубой спранжыне. У куце два абразы: Маткі Боскай Вастрабрамскай і святога Антонія. Пад абразамі на палічцы стаіць крыжык і ляжаць кніжкі да набажэнства. Вокны завешаны фіранкамі. У куце печка і пліта на тры фаеркі. У саганчыку варылася бульба. Адам чытаў нейкую газету.

— Досыць табе чытаць аб гэтым Бядулі: мы і так набедаваліся, — гаворыць Анэля.

— Набедаваліся, але цяпер лягчэй крыху.

— І цяпер такое дабро: то таго няма, то іншага не хватае, ты сабе ў кузні на адным месцы, а тут не разарвешся, ды яшчэ гэты плакса.

— А што, ужо ён табе надаеў?

— Ведама, што надаеў, — бедавала Анэля, але разам і смяялася; папраўляючы агонь, яна патрэсла Міхася за бародку і пацалавала.

— Як жа там было на магілках? Ты пачала расказваць і не кончыла, — спытаўся Адам.

— Шкада, што цябе не было. Дабраліся блізка ўсе суседзі. былі і з другіх вуліцаў знаёмыя, а нават чужыя. Мы думалі, што ксёндз не пойдзе на магілкі, бо было гразка і за пахаванне ніхто не плаціў, але малады ксёндз кажа: «Я Агату і без грошы пахаваю». Мяне такі жаль схапіў, што я ўсю дарогу плакала. А ведаеш, ляжала яна, як жывая; вот як бы смяецца. Дай Божа ёй неба, яна мяне любіла, як родную. І ксяндза нашага спадабала. «Вот, — гаварыла, — чалавек, якраз як той стары бацюшка, а гэты, каб ён быць не ведаў…» Усё на гэтага новага наракала. І спавядалася доўга: аж тры песні перапяялі.

— А як там на магілках?

— Ты ўсё аб тое, ну добра. Ксёндз сказаў цэлую навуку, але папросту. Гэтага дык ніхто не спадзяваўся, каб па цётцы Агаце ды была навука. Але ж і гаварыў, каб яму Бог даў здароўя! «Нябожчыца, — кажа, — Агата мела добрае сэрца; хоць сама была бедная, але памагала другім людзям, чым магла і як умела. Сама недаядаючы, дзялілася апошняй крошкай. У моладасці была прымушана гвалтам на праваслаўную веру, але не мела, — кажа, — супакою, аж пакуль не навярнулася да праўдзівай веры, каталіцкай». Як стаў ён гэтак гаварыць, дык усе плакалі, а нават некаторыя мужчыны. Я не магу табе пераказаць і не помню, бо не магла стрымацца з жалю. Яна ж мяне так любіла!

Анэля стала выціраць слёзы, аж тут бульба закіпела; яна стала адцэджваць бульбу.

— Ага! — успомніла Анэлька. — Была на магілках і «адвакаціха»; каб ты відзеў, як яна скрывілася, як ксёндз загаварыў папросту. Каб не ў такім месцы, дык проста смех браў!

— Як дурная, так благая: яна яшчэ гатова зараз у Вільню пабегчы, але там яе добра знаюць, — казаў Амерыканец.

Хоць вячэра была гатова, але яны яшчэ мінутку сядзелі, задумаўшыся. Міхась стаў плакаць, Анэля ўзяла яго ад мужа, аж нехта стаў стукацца. Адчынілі.

— Нех бэндзе пахвалёны…

— На векі! — кажуць. Глядзяць — аж сама «адвакаціха». Выклікае Анэлю да суседа на важную справу; толькі падпісацца, і больш нічога.

— Што ж там такое? — пытае Амерыканец.

— Нічога, так.

— Чаго ж баіцёся? Можна і тут распісацца, пакажыце сваю паперу.

«Адвакаціха» паказала. Амерыканец стаў чытаць на голас, хоць «адвакаціха» не была з гэтага рада. Аказалася, што гэта было прашэнне да біскупа на маладога ксяндза за тое, што ён гаварыў навуку на магілках па-беларуску.

«Наш ксёндз бялы рус, — пісалася ў гэтай паперы, — усендзя муві па-простэму, а Польшча ні любі, дык мы просім, зэб его забраць, а нам даць лепшэго. Бо і навука мувіл па-простэму, дык мы не хцэмі. Покорні слугі…» Дальш ішлі подпісы, найбольш па тры крыжыкі, а за ўсіх распісвалася сама «адвакаціха»; з важнейшых людзей былі падпісаўшыся пан Торт, альшанскі аптэкар, і пані Капусцінская.

— Што ж гэта васпані вырабляеш? — пытаўся Амерыканец.

— Альбо ж не было папросту? Ты ж сама чула, — сказала «адвакаціха» да Анэлі.

— Чуць-то я чула, але падпісвацца не буду, — кажа Анэля.

— Не будзеш, дык і не трэба, давайце маю паперу: не маю часу з вамі тут гаварыць.

— Пачакай, цётка, і я хачу падпісацца,— сказаў Адам.

— І ты падпішаш? — спалохалася Анэля, аж збялела яна. — А Божа! Што ж гэта будзе?

— А вот што будзе! — Амерыканец скруціў, змянтошыў паперу і ўсадзіў у пліту, на чырвоныя вуглі.

— А-ёй! — заенчыла «адвакаціха»; хацела выхваціць, толькі ж Амерыканец прытрымаў яе за рукі, а папера тым часам гарэла, папялела…

— А бадай на вас так, а бадай гэтак! — кляла тарціярская галава. — А каб вы гэтак у пекле гарэлі, каб вы Бога не аглядалі. Не дачакаеце вы! Пайду напішу яшчэ лепшую.

Яна бразнула дзвярыма і пабегла. Селі вячэраць невясёлыя, але зараз сталі смяяцца.

— Хіба зноў да аптэкара пабегла, а мо да пані Капусцінскай, — казаў Адам.

— За дурной галавой і нагам непакой.

— Слухай, Анэлька: заўтра нам трэба рана ўстаць; я заўтра пераношуся ад Лейбы ў сваю кузню.

— Дзякуй Богу! Хоць раз ужо.

— Што зробіш, трэба было прамучыцца. Амерыканскія грошы ўжо ўсе; за апошнія купіў кавальскія прылады, але такі ж нікому кланяцца не буду. Добра, што ў Амерыцы крыху да слясаркі прыламаўся ў варштатах: цяпер як знайшлося. Нават Лейба не спадзяваўся, што я за год перайду ў сваю кузню, але і ён добры майстар! Спачатку ад мяне хаваўся, але пасля ўбачыў, што гэта не паможа, дык стаў паказваць усё, як трэба. І я яму памог добра. Цяпер гаворыць: «Хоць ты мне, Адам, цаны не падбівай». Я яму кажу: «Не бойся, для нас у Альшанах работы хваце, абы была ахвота».

Анэля гушкала дзіця, а Адам гаварыў пацеры.

*1931*

# ХЛАПЕЦ
*Аповесць*

## Частка I

### I. ВІНЦУСЬ

— Што мне робіць з хлапцом? — пыталася маладая ўдава Гануля Якубіха ў старога дзядзькі, Аляксандры Матусевіча. — Парадзь мне, дзядзька, па-суседску і па-бацькоўску. Мой Вінцусёк, такі яшчэ хлопчык маленькі, а ўжо захацеў у школу ісці. І просіць, і назаляе, і плача, што і рады з ім даць не магу: «Пусці, мама, і пусці! Вунь, кажа, усе дзеці ходзяць, і я, кажа, пайду».

— Дай жа, васпані, яму рамянём! Дай, добранька дай, каб ведаў, пачом фунт ліха каштуе. Калі не маеш, я свой рамень пазычу: смаглы, шэльма, я ўсіх дзяцей ім пагадаваў. Або хоць розачкай ці простым дубчыкам яго пасцябай. Рамень — гэта найлепшая навука для дзяцей і найлепшае лякарства. Ужо ж як, бывала, мой бацька (вечная яму памяць!) мяне сек, дый то нічога не памагала. А ты, Гануля, я бачу, распусціла свайго хлапца, як дзядоўскую пугу, і што ж з гэтага будзе? Мала там чаго смаркатаму захочацца!.. Віш ты, такі-гэтакі, вучыцца ён хоча! Я ўжо даўно на вас гляджу і мяркую, што з хлапца нічога добрага не будзе. А ты вось, баба, вазьмі ды вывучы такую ягадку, дык адрыгнецца табе пасля горкім перцам. Ды скажы, васпані, сама: нашто ў нашай прастаце патрэбна навука? — закончыў дзядзька сваю раду такім пытаннем, думаючы, што тут ужо нічога і адказаць няможна.

— Як жа не патрэбна? Навука надта патрэбна… Так хоць бы, як святло для чалавека, — адказала Гануля, апусціўшы вочы.

— Гм! Віш, як ты мудра кажаш, а здаецца, простая баба. Але, бачыш ты, што мы вось век пражылі без ніякай навукі і… мусіць, да смерці дацягнем…

Тут неяк галоўная думка ў дзядзькі абарвалася. Матусевіч пыхнуў два разы люльку і задумаўся. Стары быў вельмі ўзбураны, бачачы ясна ўсю немарасць маладога пакалення, каторае шукала, як кажа пагаворка, «бобу ў гаросе». Дзядзька бачыў, што малады свет саўсім перамяняецца. Талкаваў ён аб гэтым досыць часта паміж суседзямі і цяпер Ганулі гаварыў ад сэрца; ён быў перакананы, што беднаму чалавеку навука немагчыма, дый непатрэбна, а нават бывае шкодна. Дык вось, пыхкаючы люльку, дзядзька Аляксандра бубніў пальцамі па стале, то церабіў лысіну, то папраўляў кіпцем агонь у люльцы… А ўжо далей тое самае талкаваў Ганулі.

— Ну і нашто простаму хлапцу навука? Ты, можа, думаеш, што я вучоных не бачыў? Я з вунь з самым старшым каморнікам, Замаслаўскім, тры месяцы ездзіў па палёх. Як стане ён, бывала, гаварыць табе і выводзіць, што з чаго ідзе і адкуль выходзіць, дык (адпусці, Божа, грахі!) чорт ведае, што пляце! І як яго, здаецца, зямля святая носіць? Хэ, хэ, брат ты мой, Гануля, кажаш — вучоны, вучоны!.. Кажаш: «навука — светласць табе ў вочы»… Каму светласць, а каму і цёмнасць… Вучоны толькі на неба паглядае і зоркі лічыць, — казаў, едка ўсміхнуўшыся, дзядзька Матусевіч. — А да работы вучоны не здатны. Вунь Сымонаў Язэп — аж сем класаў калісьці скончыў: бацька прадаў апошнюю кароўку, каб вывесці сына ў людзі; казаў: «Буду калісьці пры ім жыць спакойна на старасць, бо сын будзе вучоны». А што ж з яго выйшла? Быў басяк і астаўся басяк. Ні ён Богу, ні ён людзям: возік гною вёз на папар, дый той вывернуў. Затое ж ён вучоны… Вучонаму толькі есці хочацца і спаць, а працаваць вучонаму не хочацца: яму зара плечы баляць, млеюць рукі, дрыжаць калені… Хэ, хэ!..

Тут дзядзька сумна засмяяўся, безнадзейна махнуў рукой і пусціў з люлькі такі клубок дыму, што сам у ім схаваўся.

Аляксандра Матусевіч быў далёкім сваяком і блізкім суседам Ганулі Якубіхі. З сваёй неразлучнай люлькай добра надаеў ён самой Ганулі і другім суседзям у Замковай вуліцы. З твару Аляксандра быў падобны да старога, паморшчанага грыба-смаржка. Скура на твары жаўтаватая і пакарабачана, як губка, на лысіне была святлейшая, а на самым цемені blішчэла так ярка, што — як людзі смяяліся — можна было пры ім чытаць у найцямнейшую ноч. На самых віскох і на патыліцы, каля каўняра, дажывалі веку апошнія валасы, светла-мутнага колеру і скалмачаныя, як гнілы, прамоклы леташні лён. Прыжаўцелыя

ад люлькі вусы і даўно стрыжаная барада красілі твар, галаву і цэлую фігуру нашага дзядзькі.

— Ты, Гануля, адсцябай хлапца розачкай! — казаў Аляксандра. — Бо відзіш, тое і сёе… і гэта… а тагды — вунь што!

Але Гануля даўно ўжо перастала ўважаць на філасофію старога Аляксандры: ейныя думкі беглі сваёй дарогай; поўнай, праўда, выбоінаў, камяністай і цярністай, але затое сваёй… Бо і жыццё Гануліна было незавіднае: асталася ўдавою пяць гадоў таму назад, маючы ўсяго дваццаць два ці тры гады. Муж ейны, Якуб, чалавек здольны і добры майстар-каваль, перахварэў усе зарobленыя грошы і пакінуў жонку з двухлетнім сынком, як на лёдзе — «ні кала, ні двара» — ні хаты, ні кусочка зямлі. А сынок, Вінцук, малы, рэзвы хлапчына — усё Гануліна шчасце і багацце — валасы віхром, вочы як два яркія агеньчыкі — такі ўжо ўдаўся палятун! Але дзіця добрае і паслухмянае. На цэлае жыццё толькі раз яго біла. І любіла ж яго Гануля, любіла!..

Успомніла тут Гануля свае дзявочыя гады; маладога хлапца, Якуба, каторага любіла сакрэтна з маладых гадоў і каторы пасля цалком запаланіў ейнае сэрца і стаў мужам. А такі быў вясёлы, што і гора не адчувалася: біў молатам па жалезе, што аж дрыжэла кузня; а пяяў песні такім звонкім голасам, што аж дрыжэла сэрца; быў добрым мужам, бацькам гэтага дзіцяці; жылося памысна, дый так коратка… сышоў у магілу і толькі два разы прысніўся. Вось Гануля — удавою. Празываюць яе «Якубіхай» і «Каваліхай», а Вінцуся — «Якубёнак» або «Кавалёнак». Вінцусёк дарастаў: меў ужо восьмы гадочак; дзіця вельмі мілае, але нейкае асаблівае: такі яшчэ маленькі, а ўжо плача, каб ісці ў школу. І што ж з ім рабіць?

Ганулі ад самага шлюбу вельмі хацела, каб быў хлопчык: вымаліла яго ў Бога, тады выпесціла ненаглядную дзяціну, а пасля выхухала — сірaціну. Другі раз замуж не пайшла, хоць і мела добрых сватоў; а папраўдзе сказаўшы, трэба было ісці, бо не было ніякага жыцця ўдавою з сіратою… Але не пайшла, бо вельмі жалела Вінцуся і не хацела дзяліць свайго сэрца і скрыўдзіць сыночка.

— Ды ты яго добранька адсцёбай! — казаў ужо трэці раз Аляксандра, перабіваючы Гануліны думкі. — Ты, баба, дурань! — цягнуў стары хрэн. — Не тваёй сілай пасылаць яго ў школу… Мой дзед не ўмеў чытаць, мой бацька не ўмеў, а вось жылі, як усе добрыя людзі: мелі досыць хлеба і да хлеба. Мяне, праўда, пасылалі ў школку праз два гады, але я больш ганяўся за сінічкамі і снегірамі, як за кніжкамі. Эх, бывала, як украдзеш

бацькавы санкі ды калі пусцішся з гары, дык тут табе ўсё ў вачах памітусіцца! Хэ, хэ! Колькі разоў, бывала, я выбіваў сабе зубы; а раз дык так вывіхнуў сабе руку, што (не паверыш, можа?) яшчэ цяпер церхне ў гэтым месцы, а ўжо прайшло гадоў шэсцьдзесят.

Тут дзядзька ізноў абкадзіўся дымам: сядзеў і мроіў сабе, як яго калісьці злавіў сусед з украдзенымі санкамі і такога задаў перцу, што аж цяпер бакі засвярбелі; а пасля яшчэ бацька далажыў у хаце… Э-э-эх! Бывала тое, бывала гэта… Дзядзька аж купаўся ў дыме і ў тых думках-успамінах; аж смяяўся сам да сябе; аж, здаецца, чуў той жудасна-вясёлы свіст ветру ў вушах, калі то, бывала, нёсся стрымгалоў з самай высокай гары. Аж здрыгануўся-падскочыў цяпер, пасля капы гадоў, успомніўшы, як калісьці гакнуў санкамі аб вялізарны прыдарожны камень і як там накрыўся нагамі, абліўся юхай і чуць душой не загавеў…

— Ну, — казаў, апамятаўшыся, стары дзядзька, — што там гаварыць! Моладасць — дурнасць. Мала бацька мяне біў — дык вось і не ўмею ні чытаць, ні пісаць (падпісацца дык магу!), а вось жыву: хлебам сыты. Ды на каго ты, Ганулю, хочаш хлапца вучыць? Можа, на ксяндза, што? — пытаўся, развёўшы рукі, Матусевіч.

— Дзе ж там мне, такой беднай! Што гаварыць…

— А відзіш, я ж так і казаў, — гаварыў ужо ласкавей стары дзядзька. — Навучыш яго сама чытаць з польскага лемантара ды з набожнай кніжкі. Ты — баба чытальная і набожная: усіх трацціярак водзіш па касцёле. Падрасце хлапец, вывучыш на шаўца, а сама пры ім будзеш жыць, як паня. Што, можа, не праўду кажу? Шавец малатком стукне — яму і грошы нясуць? А шаўцу нашто школа? Пісаць шаўцу не трэба…

«Задавіся ты з сваёй “праўдай”»! — такая думка стукнула Ганулі ў галаву. Адкідала яе, як магла, бо яна ніколі нікога ні за што не праклінала; а тут проста як на злосць — лезе спакуса ў душу, і ўсё. Аднак жа скора Ганулі зразумела, што хоць і цвёрдая тая «праўда», дык жа цяпер іначай зрабіць няможна, як толькі па дзядзькавай радзе. Толькі ж біць Вінцуся няма за што: хлапец не вінаваты.

— Сынок, не плач! Ты яшчэ саўсім маленькі, — казала Гануля, вярнуўшыся дамоў. — Ты такі малюсенькі, а ў школе ўсе дзеці будуць большыя за цябе. Падрасці, сынок, да другога году; дый сёлета ўжо позна ісці ў школу: відзіш, якая дрэнная зіма! Залезеш дзе ў гурбу снегу і замерзнеш там. А як жа я адна без цябе астануся, адна-аднюсенькая на цэлым свеце?

— Гэта нічога! — казаў Вінцусь. — Як залезу, дык вазьму і вылезу, і дахаты прыйду.

— Ды ў цябе, сынок, вунь і боцікі саўсім благенькія.

— Дык, мама, купі мне новыя боцікі!

— Сынок, адкуль жа я грошы вазьму? Мы ж саўсім бедныя… А тата даўно памёр…

Гануля змоўкла, ламаючыся ў сэрцы, але слёзы перамаглі волю і буйна пасыпаліся на галаву Вінцуся. Вінцусь, увідзеўшы слёзы, абняў матку.

— Мама, не плач, не трэба так, мама! Я ўжо боцікаў не хачу: мне яшчэ і гэтыя добрыя. Мама, я ўжо і ў школу не хачу, — шапнуў Вінцусь матцы ў самае вуха. А сам тож абліўся слязьмі.

Так абышлося без рэменя і без розгі: Вінцусь туліўся да маткі; Гануля гладзіла яго па віхраватай галоўцы; песціла, туліла да сэрца, і вось малая сямейка была шчаслівая ў няшчасці, вясёла ў слязах.

* * *

Гануля Якубіха жыла кутам у сваёй сястры, Марылі Пятровічыхі. Марыля з сваім мужам Тамашом і з маленькай — яшчэ ў калысцы — дачушкай Юлечкай, жылі ў дзеравянай хаце пры Замковай вуліцы ў мястэчку Завалака. Мелі яны невялічкую гаспадарку: чвэртку зямлі ў васьмі вузенькіх, доўгіх шнурох, каторыя былі раскіданы па ўсіх акалічных палёх, як кажуць: «за вачамі», дзе суседзі «па-суседску» рабілі сабе наўзаем шкоды; спяшаліся навыперадкі зжаць і звазіць збожжа з поля, каб другія не стравілі і не зглумілі. За гэта, праўда, суседзі ніколі, па-суседску, не судзіліся; але вельмі часта і крэпка сварыліся і кляліся, таксама «па-суседску».

Тамаш дзяржаў заўсёды аднаго каня, а Марыля — адну карову. Марыля, маладая гаспадыня, саўсім заваявала свайго глухаватага, маламоўнага, але працавітага мужа Тамаша. З-пад жончынай апекі Тамаш выходзіў толькі на Запусты, калі, падпіўшы, з нейкай цікавай, але непанятнай песняй варочаўся дахаты. Тады пачыналася вельмі цікавая, а нават часам дужа страшная сцэна, на каторую Вінцусь паглядаў, залезшы на печ, з-за коміна. Тамаш упадаў у мнагаслоўе: даказваў усім у хаце і талкаваў, што ён мужчына-гаспадар…

— А ты, — кажа, — баба, і больш нічога! Волас у цябе доўгі, а розум кароткі — дык ты павінна мужа слухаць і маўчаць! Кажы: праўда ці не праўда? — звяртаўся Тамаш да печы, як бы да якога

разумнага чалавека. — Чуеш, кажы, чаго маўчыш? — крычаў Тамаш і тупаў нагою.

Але печ маўчала, і Тамаш не ведаў, што рабіць.

Вельмі збянтэжаны, Тамаш стаяў пасярод хаты, хістаючыся на непаслушных нагах. Валасы скалмачаны, вочы блудныя, твар чырвоны, вусны распалены. Ён быў страшэнна ўзбураны тым, што, калі яго не было дома, без яго ведама і пазвалення, хоць ён тут гаспадар, — усё ў хаце перамянілася. Найперш тое, што жонка — Марыля — чамусьці здумала: крычыць, б'ецца — ані яе здзяржаць, ані праканаць. І Ануля Якубіха таксама штосьці не так… маўчыць, уздыхае, а нават плача… І няведама чаго, бо нічога не гаворыць. Хацеў Тамаш яе супакоіць і пагладзіць па галаве, ды яна так адпіхнула яго, што чуць-чуць не паваліўся. Але найбольшае было дзіва і злосць, што ўсе рэчы ў хаце сталі жывымі і пачалі дурачыцца: печ і сафа сланяліся па хаце, як п'яныя; стол падскокваў на нагах, а цэлая хата кружылася і танцавала, як звар'яцеўшы. Тамаш быў праканаены, што ўсяму вінавата жонка Марыля і хацеў яе добра за гэта правучыць. А Марыля тым часам галасіла і кляла, на чым свет стаіць: то скакала да мужа біцца, то адскоквала набок, баючыся вялізарнага ягонага кулака.

Гэтая камедыя паўтаралася акуратна кожны год — на Запусты; нават часамі два разы на год: другі раз пад восень, калі Тамаш прадаваў ці мяняў каня. Назаўтра, бывала, Тамаш ляніўся ўставаць; часамі нават пробаваў спрачацца з жонкай, але яна засыпала яго цэлым градам словаў і закідаў, дык бедны Тамаш, не маючы ўчарашняй адвагі, пакорна маўчаў і ўступаў; ну, і пачыналася тады звычайная гісторыя: супакой у хаце і поўнае верхаводства цёткі Марылі.

Ануля, не маючы свайго кута, хадзіла па чужых кватэрах у Завалацы; апошнія гады два была асподніцай у Марылі. Вінцусь пільнаваў цётчыных курэй, пасля хадзіў за другой дробнай скацінай і аж нарэшце стаў ганяць на поле лысую карову з рабым цяляткам.

* * *

Мястэчка Завалака, якіх дзясяткі і сотні спаткаеш у Беларусі, адно з так называных «шэрых» мястэчак, было распалажана над рэчкай Валачанкай; мела пасярод вялікі квадратовы рынак, чатыры доўгія вуліцы крыж-накрыж, два ці тры вузкія, касыя і крывыя завулкі; каля рынка аграмадны белы касцёл з чырвоным дахам;

крышку далей таксама белую, круглую царкву з зялёным дахам, і яшчэ далей збоку дзве дзераўляныя жыдоўскія бажніцы — для дзвюх рэлігійных партыяў — хасідаў і міснагідаў. Царква была калісьці ўніяцкай і людзі жыва помнілі даўнейшую еднасць, калі было ўсё роўна, ці ісці да касцёла, ці да царквы: тады быў адзін Бог, адна вера і… адзін народ. А цяпер усё тое забылася і перамянілася.

Завалацкія вуліцы былі пераходнымі і праезнымі толькі летам: вясной і восенню былі пракляццем для коней, для калёс і для падарожных. Зрэшты, пяхотныя хадзілі гародамі. Зімой вуліцай мала хто ездзіў — ездзілі праз пазагуменні. Балота панавала тут спакон веку, хоць на палёх была пропасць каменняў, каторае гаспадары таксама клялі, як у мястэчку клялі тое няшчаснае балота.

Але Завалака мела таксама сваю красу, каторай так багата беларуская прырода, асабліва калі ўмелая і працавітая рука бывала ў згодзе з гэтай маткай-прыродай. Гэтая краса найбольш выяўлялася ўлетку, калі кожная новая хата, акружаная вянком зелені, выглядала як маладуха, устроеная да шлюбу; а старыя хатачкі прыхарошваліся таксама, як тыя свацці на вяселле або цёткі ці бабулі, і відаць было, што завідвалі тым маладухам, іхнай красы і асабліва гадоў.

Эх вы, гады маладыя гады, поўныя жыцця і буйной вясёласці, куды вы ўцякаеце? Так нядаўна і мы былі маладымі, а дзе ж яна цяпер, тая наша юнасць-маладосць? Тады то да чалавека ўсё гаварыла, і грэла, і смяялася… А цяпер?.. Тады смяялася да цябе пагоднае неба з ясным сонейкам і смяялася спелае збожжа, хвалюючы на вузенькіх палосках, як бы тыя разнацветныя стужачкі — на грудзях дзявочых; смяялася Валачанка, мяняючы колер вады на сонцы; смяяліся местачковыя хаты… Але асабліва міла смяяліся — смехам шчырым і звонкім — маладзенькія дзяўчаткі — краса, жыццё і гордасць беларускіх мястэчак і вёсак, і юрлівым вочкам шчыкаталі за сэрца. Дык вось, трапіўшы ў такое дзявочае кола, чалавек, хоць бы быў цвёрды як камень ці як закаптураны манах — і то, бывала, спалавее і счырванее, аб усім забудзе і сам засмяецца. А малады хлапец, як загледзіцца ў такія рассмяяныя вочы, дык мякне, як воск на агні, і не бачыць, што ў тым вясёлым вочку дзяўчаці ёсць глыбока скрыты і затоены кручок, каторым яна планава палюе на ягонае вольнае сэрца… Эх вы, гады маладыя, дзе вы, дзе вы?

## II. ЗАВАЛАКА

На самым відным месцы ў Завалацы, каля галоўнага рынка, красаваўся аграмадны касцёл, змураваны на пачатку XVII веку князем Сапегам. Пры касцёле быў збудаваны вялікі, на два паверхі, кляштар для айцоў францішканаў, пасля, у 1864 годзе, скасаваных і разагнаных маскалямі за тое — як было гаворана, — што памагалі польскім паўстанцам. Касцёл з паўкруглым фронтам, з адной вежай вышэйшай, дзе былі званы, і з дзвюма ніжэйшымі, дзе месціліся цэлыя хмары галубоў, успёрся на вельмі грубых сценах і вялізарных філярах. Сцяна за вялікім алтаром, каторы стаяў, адлучаны ад муру, была гладкая ад самай столі да зямлі і прыгожа размалявана: былі там нейкія адменныя дрэвы; цякла нейкая рэчка, як бы сіняя стужка, пры каторай сядзелі людзі, а пры іх стаяў вялікі чалавек з доўгім шастом, закончаным крыжыкам. Той чалавек нешта тым сядзячым гаварыў і паказваў кудысьці рукою. Адтуль здалёку ішоў нехта другі.

Ганулям з Вінцусём часта хадзіла да касцёла.

— Мама, хто там такі? — пытаўся малы Вінцусь, паказваючы Ганулі на тыя малюнкі.

А Гануля шчыра малілася.

— Гэта, сынку, св. Ян хрысціць людзей, — шаптала Гануля. — А гэна вунь плыве рэчка Ярдан.

— А на каго ён паказвае? — пытаўся Вінцусь.

— Там вунь здалёку ідзе сам Пан Езус.

Далей і вышэй, над гэтым абразом, ішлі аж пад суфіт разнаколерныя малюнкі: пакоі, філяры, ганкі і пераходы, па каторых гулялі і лятали вясёлыя маленькія анёлачкі, а пасярод іх нехта сядзеў і нешта пісаў. Вінцусь з вялікім дзівам разглядаў усе гэтыя цуды.

— Мама, хто там сядзіць? — паказваў Вінцусь пальцам на таго пісара.

Гануля не рада была ўваходзіць у разгаворы, бо занята была пакутнымі псалмамі, а тут хлапец перабіваў другі раз.

— Гэта св. Ян Евангеліст, што піша Евангелле.

— А гуся? — пытаўся яшчэ Вінцусь.

— Якая гуся, што ты пляцеш?

— Там вунь пры ім сядзіць. Ці, мама, не відзіш?

— Гэта арол: ён падказвае св. Яну, што трэба пісаць, каб не памыліцца. Але ты, сынок, маўчы, бо мы ў касцёле.

Гануля ведала ў касцельных справах больш за другіх траціерак, бо многа прачытала набожных кніжак і ўжо до-

бра разумела ксяндзоўскую навуку, у каторай другія бабулькі разбіраліся мала; бо навука ў касцёле ў тыя часы гаварылася ў Беларусі па-польску. Праўда, простым бабулям дагадзіць было даволі лёгка: ледзь ксёндз узлезе на амбон, пачынаюць, бывала, смаркацца; а калі з разгону ксёндз прыкрыкне, дык бабулькі плачуць і бляюць, як авечкі. Прытым былі такія пакорныя, што ніводная не ведала, чаго плакала. Дык вось і ксяндзы бывалі здаволены з сваёй працы, і бабы былі рады з такога набажэнства.

Але Вінцусь быў другога характару, бо ўсё хацеў ведаць і не згаджаўся з маткай.

— Мамачка, — казаў ён, — паглядзі добра: гэта ж сапраўды гуся, вунь аж разявілася!

— Ціха ты! Ці ты не бачыш, што мы ў касцёле? Тут гаварыць няможна. Вот зара выходзіць святая імша. Маліся, гавары пацеры!

— Я ўжо згаварыў пацеры.

Гануля пачала новы ражанец, а Вінцусь разглядаў абразкі ў матчынай набожнай кніжцы.

* * *

Да асаблівасцяў у Завалацкім касцёле, каторыя Вінцусь аглядаў штодзень, ходзячы з маткай на набажэнства, — трэба залічыць і амбон; над ім была зверху завешана як бы дзеравяная стрэшка, ці балдахін, дзе на самым вяршочку стаяў такі самы чалавек, выразаны з дрэва, як той, намалёваны на сцяне, — св. Ян Хрысціцель — з крыжам у левай руцэ, правай таксама кудысьці паказваў. Вінцусь часта задзіраў галоўку ўгару і пазіраў на ўсе касцельныя дзівы; асабліва ж часта дзівіўся на таго св. Яна і пытаўся ў маткі, як ён не зваліцца адтуль — так высака стаіць? І адзеты быў св. Ян толькі ў адну аўчынку, а сам голы, босы і без шапкі. «Мусіць, яму зімна?» — пытаўся сам сябе Вінцусь. Да самага амбону прычэплены былі чатыры чалавечкі (евангелісты), а пры іх былі таварышы: анёл, вол, леў і… арол. Вінцусю заўсёды думалася, што гэта гуся, але Гануля забараніла больш аб гэта пытацца, раз нават закруціла хлапца за вуха.

Была яшчэ адна цікавая рэч у касцёле: фігура св. Яна Нэпомуцэна, чэшскага ксяндза, мучаніка, каторага бязбожны чэшскі кароль прыказаў утапіць у рэчцы за тое, што той не хацеў выдаць тайніцы споведзі. Гэта быў ужо трэці Ян у Завалацкім касцёле: фігура была дзераўляная, ростам у высокага чалавека, убраны, як ксёндз, — у комжы і ў ксяндзоўскай рагатай шапачцы.

Вінцусь вельмі цікава прыглядаўся на гэтага святога, калі Ганулія, увайшоўшы ў касцёл, цалавала яго ў нагу. Найбольш займалі Вінцуся каронкі на ксяндзоўскай комжы св. Яна. «Мусіць-тыкі, яны цвёрдыя?» — думаў ён. Раз нават пашчупаў рукой, як Ганулія падняла яго, каб пацалаваў святога, — і праканаўся, што тыя каронкі былі сапраўды цвёрдыя.

Гэты апошні Ян не меў свайго пастаяннага мейсца ў касцёле: спакон веку стаяў ён у бабінцы, дзе жабрушчыя бабы бубнілі пацеры і абмаўлялі сваіх дабрадзеяў. Цяжкая доля была гэтага святога: працярпеўшы за жыццё за тое, што маўчаў і не выдаў каралю святой тайніцы споведзі, тут, у Завалацы, мусіў слухаць вечных бабскіх бурчэнняў і… таксама маўчаць. А старая, высокая і худая Рузя, што называлі «бабскі стараста», бо трымала ў гразі і паслушэнстве цэлы бабінец, вешала на руцэ св. Яна сваю запасную торбу. Дык вось аднаго разу, як перад святам мылі касцёл і адна з такіх шапятух падчапілася, каб абмыць і св. Яна — нейкім парадкам св. Ян зварушыўся з месца і, грукнуўшы на зямлю, прытоўк смелую бабу чуць не да паўсмерці — хоць гэтак памсціў ён усе свае крыўды. Гэта было прычынай, што св. Яна перанеслі ўжо ў касцёл і паставілі на алтары св. Антонія. Але вось прыйшлі навэнны[1] да св. Антонія, дык фігуру Яна перанеслі на алтар св. Францішка. Але зноў пад восень прыйшоў фэст св. Францішка, дык фігуру перанеслі на алтар св. Ёзафа з Купартыну. Гэты ўжо алтар быў у касцёле, так сказаць, не патрэбны; бо ў вялікім касцёле алтароў хватала, дык тут св. Ян прастаяў цэлы год. Але прыехаў новы пробашч, ксёндз Марціноўскі, каторы зара пачаў рэформы ў парафіі і ў касцёле: ён адразу змеркаваў, што фігура стаіць не на месцы, і хацеў паставіць назад у бабінец. Аднак жа бабы на чале з сваім «старастам» Рузяй паднялі такі страшэнны лямант і гармідар проціў святога, што св. Ян яшчэ год прастаяў на алтары св. Ёзафа. Аж нарэшце знайшоўся дабрадзей — просты чалавек, але талковы, — каторы сам зрабіў падстаўку і параіў пробашчу паставіць фігуру пры філяры, насупраць амбону: тут ужо св. Ян астаўся назаўсёды.

З правага боку касцёла быў збудаваны ў форме падковы вялізарны мураваны кляштар на два паверхі. Кляштар двума канцамі прытыкаўся да касцёла; пасярод крылляў кляштара быў кусочак гароду, дзе пры самым касцёле расла адна груша; уздоўж сценаў былі пароблены загончыкі для кветак, а на самай сярэдзіне — старасвецкая каменная студня, — для выгоды манахам і парафіянам. Крыло кляштара, са стараны рэчкі Валачанкі, было запушчана праз чатыры дзясяткі гадоў: дах працякаў як

сіта; вокны пагнілі; шыбы павымалі «добрыя людзі»; яны такжа паразбіралі і старасвецкія печы, а нават павыдзіралі цэглы з пасадкі. Некаторыя такія дабрадзеі прабавалі ламаць вуглы і сходы, але сцены не паддаваліся ніякай сіле, ані хітрасці: цэглы былі так крэпка спаяны паміж сабой старасвецкай вапнай, што лягчэй было цэглу разбіць, як адарваць ад другой. Гэтая часць кляштара давала прытулак толькі кажанам і вераб'ям, а такжа совам, каторыя, жудасна гукаючы па цэлых начах, наводзілі страх на ўсё суседства. Вераб'і, вечна неспакойныя, сварыліся з сабою за кожны ласкуточак, а рэха іхных вострых, зычных галасоў разносілася па цэлым кляштары. Падкасцельныя людзі гаварылі, што ў поўначы адбывалася тут нейкая таемная працэсія: памёршыя законнікі ў каптурах, шлёпаючы дзеравянымі туфлямі, абходзілі са сведкамі ўсе куты-закуткі, мармычучы пацеры, бразгочучы дзвярыма, а як певень апоўначы адзываўся — скрозь зямлю прападалі! Былі нават відавочныя сведкі: шпітальная баба Рузя — тая, што называлі «бабскі стараста» — прысягала, што на свае жывыя вочы бачыла, як стары лысы законнік выгнаў адтуль ражанцам цэлую стаду чарцей; гэта было якраз на жыдоўскую страшную ноч. Тагды ж царкоўнага дзячка чэрці вадзілі цэлую ноч па палёх, аж пад раніцу заперлі на магільнік і там упхнулі пад капліцу: а чалавек ён быў вельмі пабожны і толькі крышачку падпіўшы. Гаварылі тож яшчэ людзі і многа чаго іншага; але чаго гэта людзі не гавораць, асабліва бабы!..

Ксёндз Марціноўскі, чалавек не вялікай адвагі, замураваў канец калідора, што выходзіў на тое страшнае месца, а цэлы кляштар высвеціў і аддаў у арэнду featured рознаму зборышчу. Кляштар замяніўся на таўкучку: плач дзяцей, сакатанне курэй, бабскія галасы запоўнілі даўнейшы прытулак цішыні і малітвы. Святочнымі днямі кляштар ажыўляўся яшчэ больш: блізка палавіна мужчынаў выходзіла падчас навукі з касцёла на калідоры пабалтаць і пакурыць; дзяўчаты з хлапцамі адбывалі тут свае шпацыры; дзеці ганялі вераб'ёў… А пробашч страшэнна сварыўся ў касцёле на гэтыя беспарадкі; хоць тыя, што аставаліся ў касцёле на навуцы, зараблялі толькі на пахвалу.

У рагавым найбольшым пакоі, дзе даўней мясцілася бібліятэка айцоў францішканцаў, і цяпер яшчэ ляжалі старыя, друкаваныя і пісаныя, кніжкі, — зваленыя на зямлі ў адну вялікую горбу. Гэта быў плод жмуднай[2] працы некалькіх законных пакаленняў. Цяпер, паплесніўшы і прыгніўшы, старыя фаліялы не пацягвалі нікога — ані сваім вонкавым выглядам, ані зместам. Разбіраў іх, хто колькі жадаў. Арганісты абдзерлі лепшую скурку з аправаў,

каторай пасля латалі старыя арганавыя мяхі, бо ўжо ж вельмі скрыпелі і не было ведама, дзе лепш пішчыць — ці арган спераду, ці мяхі ззаду. Мышы шалясцелі ў бібліятэцы па паперах, рабілі гнёзды і ў поўнай бяспечнасці выхоўвалі многа пакаленняў. А гаспадыня ксяндза Марціноўскага — баба бывалая, каторая ведала цану кожнай рэчы, сабрала здатнейшы матэрыял і прадала кульгавай Сорцы на фунты: папера была старасвецкая, грубая і аказалася вельмі здатная для селядцоў. Бо і наагул паня гаспадыня не любіла ніякага марнатраўства: калі бачыла, што пробашч аб што не дбае, дык наводзіла парадак сама. Урэшце сам ксёндз Марціноўскі заапекаваўся бібліятэкай: пракапаўся ў ёй цэлы дзень, выбраў з цэлай горбы з паўтраці кніжкі, каторыя памясціў у сваёй шафе, а на рэшту сабраў дзядоў, закрыстыяна і арганіста і прыказаў перацягнуць усё на падстрэшша. Вялікі бібліятэчны пакой пробашч прыказаў вычысціць і выбеліць; аднак гэты пакой аказаўся-такі лішне вялікі: вось жа пробашч распарадзіўся раздзяліць яго на тры малыя цюпкі — для выгоды і бяспечнасці, дзе памясціў сваю канцылярыю, салончык і спальню. Усё гэта было ўладжана паводле новых вымогаў стылю, з адпаведнай выгодай: нароблена многа розных сховаў і патайных шафаў, асабліва ў спальні, у каторай была тож зроблена ў акне жалезная крата, а ў дзвярах крэпкія закалаткі.

* * *

На канцы мястэчка, у месцы, званым «Гарадзец», красаваўся старасвецкі замак. У гушчары старадаўніх высокіх і грубых ліп, ясеняў, кляноў і нейкіх іншых, няведамых з назовы, дрэваў, каторыя, планава рассаджаны, давалі цень, красу і абарону ад бураў, а такжа маладых тонкіх і высокіх асінаў, вербаў, а нават і звычайных кустоў, каторыя ўсюды паўлазілі і ўсё псулі — стары замак выглядаў як зачараваны. Гэта была сяліба калісьці магутных беларускіх князёў Сапегаў, каторыя пасля спольшчыліся, раздрабіліся і абяднелі. Пасля замак з валасцямі перайшоў да малаважных, але вельмі фанабэрыстых Карсакоў. У 1866 ці 67-м годзе замак з пасэсіяй, з млыном і з цэлым дзясяткам фальваркаў дастаўся ў рукі генерала Таўстапузава, катораму, разагнаўшы Карсакоў, расейскі цар перадаў гэта ўсё «за усмирение польского мятежа». Нарэшце па дачцэ таго ж генерала Таўстапузава замак перайшоў у рукі палкоўніка Сляпцова. Сляпцоў быў бяздзетны, дык замак апісаў сваёй выхаванцы Ксеніі Васільеўне Апрычнікавай. А Ксенія выйшла замуж за

праваслаўнага чэха, доктара Віпстрыкаля, і вось чэх асеўся тут надоўга, а падзамкавыя людзі казалі, што гарадзецкі замак «сапстрыкаўся» ў ліхі канец.

З чатырох абаронных вежаў, каторыя яшчэ да 1900 года красаваліся па чатырох вуглах замкавых муроў, чэх тры збіў, парваў порахам і разабраў да грунту. Цэгла, грубая і крэпкая, як камень, пайшла ў мястэчка на жыдоўскія корчмы; корчмы тыя, праўду сказаць, чэх будаваў сабе, а жыдам аддаваў іх толькі ў арэнду.

Чэх умеў збіраць грошы. Расказвалі падзамкаўцы, што кожную ноч лічыў іх акуратна пры святле чырвонай ліхтарні: паперы сушыў і варочаў на другі бок; золата мераў паўгарцоўкай; серабро проста кідаў у кадушку; штодзень падсыпаў у тую кучу новых грошаў і запісваў у доўгую кніжку. Дзеля грошай чэх пачаў такжа разбіраць замкавую абгароду, пасля часць замка і ўжо дабіваўся да чацвёртай вежы, але яе абараніла чэхава жонка, жалеючы буславага гнязда. Меў доктар клопат з замкавай капліцай, каторая была вельмі вялікая, уся размалявана, як цацачка, і магла даць вялікую карысць сваёй старасвецкай цэглай. Але тут стаў доктару на перашкодзе мясцовы праваслаўны поп Іван Кабылкін, каторы даказваў, што капліца як святое месца павінна належаць яму як Завалацкаму настаяцелю, праўда, не дзеля таго, што капліца была стылёвай будынінай, а дзеля таго, што поп хацеў з гэтай цэглы паставіць сабе хату. Спрэчка разгарэлася ў вялікае полымя: прытым поп закідваў доктару, што ён не глядзіць пастоў, не ходзіць у царкву і да споведзі; пісаў нават аб гэтым у Кансістор, што доктар «або скрыты масон», або «богупраціўны езуіт». Кансістор паручыў правесці следства павятоваму спраўніку з мясцовым благачынным. Спраўнік і благачынны адведалі Завалацкага папа, дзе выпілі гарбаты з каньяком, а пасля доктара Віпстрыкаля, дзе выпілі каньяку з гарбатай — і данеслі ў Кансістор, што ў Завалацы выйшла сумнае недаразуменне, бо доктар посціць, як патрэба, і ні ў якія масонствы ні езуіцтвы ніколі не пісаўся, а нават брыдзіцца гэтымі «ерасямі», як патрэба кожнаму рускаму праваслаўнаму чалавеку. Пасля месяца прыйшла з Кансістора такая пастанова: «Івана Кабылкіна перавесці на другі прыход, а доктара Віпстрыкаля ўдзяржаць ад нарушэння капліцы». Хоць капліца была каталіцкая, але меўся прыехаць агледзець яе сам архіерэй і пасля распарадзіцца. А як архіерэй вельмі марудзіў, дык доктар з капліцы зрабіў дрывотнік, дзе складалі, пілавалі і seклі дровы

на цэлы год — для замка і для ўсёй адміністрацыі. Капліца была вялікая, дык стала вельмі выгодным дрывотнікам.

Доктар Віпстрыкаль, ці, як яго тут скора празвалі, пан Пстрыкун, з году ў год запушчаў замак дарэшты; выкарыстоўваў, праўда, кожны кусочак зямлі: садзіў бульбу, наладзіў пры млыне крухмальню, гнаў алей, сеяў нейкае моднае зелле і збожжа, але без ніякай жаласці нішчыў усё старое, што зара не давала даходу. Выйграўшы справу з папом Іванам Кабылкіным, ён смела хваліўся сваімі пастамі знаёмым і незнаёмым: «У мяне, — казаў ён, — галава праваслаўная, а бруха чэшскае». Быў ён нават добрым доктарам, аднак жа лячыў рэдка: будучы заняты гаспадаркай, млыном, фабрыкай, грашмі ці ігрой на скрыпцы, проста не меў ахвоты да лячэння, дык хворыя мусілі доўга яго прасіць, чакаць і… часта адходзілі нават без добрага слова. Калі, аднак жа, хворы стукаўся ў дзверы не толькі з хваробай, але і з рублём, дык Віпстрыкаль знаходзіў час і ахвоту і лячыў акуратна.

## III. А-БЭ-ЦЭ

На пераломе вякоў, каля 1900 года, царская ўлада ў Расеі лічылася вонках усёмагутнай, але ўнутры ўрад пэўнасці не меў. Расея — гэта быў аграмадны дуб, каторы сваімі сукамі глушыў кругом усе слабыя дрэвы, але сам ужо ўнутры быў спарахнелы. Царскія ўрадоўцы перанюхвалі кожнага падазронага, выследжвалі нездаволеных, а ў Беларусі вельмі прыгняталі каталікоў беларусаў, за іх як бы «польскія інтрыгі». Гэтая вечная падазронасць паліцыі, а з другога боку — абарона каталіцкай веры праз ксяндзоў, — вытварылі паміж простым цёмным беларускім народам яркі падзел на «рускіх» — праваслаўных і «польскіх» — каталікоў. Нават самыя заядлыя маскалі заганялі беларусаў у польскі абоз: празывалі іх палякамі, а вядомую насмешку аб польскім паўстанні — «палякі, до лясу!» — заўсёды тасавалі да беларусаў-каталікоў. А ксяндзы тайна паддзержвалі ў беларусах памяць і любоў да няшчаснай Польшчы, прарочылі аб ейным уваскрашэнні і г. д. І вось так беларуская душа рвалася на дзве часткі.

Загубіўшы сваё народнае пачуццё і сваё імя, народ наш прыняў назову «тутэйшага», або «простага». І сапраўды, усё «крывое», хоць выходзіла з беларускага народа, адыходзіла ад яго назаўсёды. Інтэлігенцыя прымала, паводле веры, назову «рускай» або «польскай» і працавала з чужымі, а вельмі часта —

проціў сваіх. Звычайны Марцук-католік, пайшоўшы на ксяндза, называўся ўжо «Марціноўскі», а ягоны сусед праваслаўны, пайшоўшы на папа, называўся «Мартынов». Гэтак праз некалькі дзясяткаў гадоў натварылася многа новых прозвішчаў р-рускіх і п-п-польскіх; а хоць у некаторых прозвішчы асталіся старыя, то ўсё роўна дух заквасіўся і падфарбаваўся на чужы манер. Найбольшымі «рускімі» бывалі ўрадоўцы, так званыя «чынадралы», а найбольш «польскімі» бывалі набажнейшыя жанчыны-каталічкі. Беларускім аставаўся просты народ, але быў несвядомы.

Ганулья Якубіха была вельмі цвёрдай «польскай», але не «полькай», бо гэтага слова ў нас тагды не зналі. Сама Гануля чытала на ўсялякіх набожных кніжках і ўмела пяяць са дзве капы набожных песняў. У касцёле вадзіла па стацыях[3] усіх нечытальных завалацкіх бабулек; была прыпісана да нейкага, як казалі, закону і штодзень хадзіла да касцёла. У гэтакім вонкавым набажэнстве Гануля ўсё ж такі не загубіла глыбокай пабожнасці, што досыць часта здаралася з падкасцельнымі бабулькамі.

Ад нейкага часу Гануля стала прымаць дзяцей на навуку чытання. Пісаць Гануля не ўмела і сама, дый ніхто тады гэтага не дамагаўся. Гэтай зімою, калі Вінцусю скончылася сем гадоў, Гануля прыняла ў сваю школу дзясятак падросткаў — рознага веку, здольнасці і стану: найбольшая і найтупейшая вучаніца, Вікта, мела ўжо дванаццаць гадоў з гакам і вучылася ўжо год трэці. Найменшы быў Ганулін Вінцусь, а найадважнейшы з усіх быў Кастусь Юрэвіч, сын сталяра з Крывога перавулка.

Абсеўшы кругом стол, усе дзясяцера грызлі «дысціпулкі» і зубрылі абэцэду. Гануля пры гэтым прала на калаўротку воўну або рабіла простую рукавіцу на грубых прутках ці далікатную рукавічку на тонкіх іглiцах. У гэтай «школе» было столькі класаў, колькі вучняў: кожны меў свой лемантар ці набожную кніжку, паказваў «дысціпулкай» сам сабе сваю незалежную лекцыю і бубніў сабе пад нос. Гануля ад пары да пары заклікала па парадку ці на выбар хлапчука ці дзяўчынку «выдаваць лекцыю»: той падсядаў бліжэй да калаўрота, чытаў, бэкаў-мэкаў і… варочаўся назад. Калі лекцыя прайшла гладка, вучань дастаўаў новую порцыю — два радочкі далей; але часцей аставаўся на старым месцы праз цэлы дзень ці нават і назаўтра. А былі і такія «ўбоіны», што, перадлубаўшы дысціпулкай і горка пераплакаўшы пару бачынаў лемантара, селі макам і далей не пайшлі. Такія пасля года навукі адыходзілі «з воўчым білетам» дахаты. Тая ж дурная Вікта,

каторую бацькі ўпёрліся навучыць чытаць, яшчэ ў другім годзе не магла адрозніць «žet» ад «ziet», хоць здзёрла два лемантары.

Памагала Ганулі ейная сястра і гаспадыня гэтае хаты Марыля Пятровічыха. Яна ж затое брала палавіну ўсёй платы, як казала: «За сваю хату, а такжа за лаўкі, стол, за помач і беспакойства». Так яна растлумачыла Ганулі і так яно ўжо асталося, бо Марыля была гаспадыняй. Помач, праўда, была, так сказаць, ніякая, бо Марыля няньчыла дзіця, стаяла каля печы і даглядала гаспадаркі; а нават не згаджалася з Ганулян у праграме: выгаворвала «веньць» і «кршыш», калі Гануля вучыла казаць: «венць» і «кшыж». Гануля лічыла сябе пакрыўджанай і бывалі пры гэтым ціхія спрэчкі і далікатныя прытычкі; аж нарэшце, як прыехаў у Завалаку новы ксёндз вікарый — саўсім яшчэ малады, але вельмі пабожны і навучны — дык ён пагадзіў на споведзі ўсе спрэчныя пункты. Сёстры падзялілі дзяцей паміж сабою і пагадзіліся назаўсёды. І тут аднак жа Марыля пераважыла: узяла сабе трое дзяцей, але з багацейшых хатаў, што плату ўносілі акуратна. Ганулі дасталіся дзеці бяднейшыя і тупейшыя, з вялікай дурной Віктай, каторая вучылася дрэнна, а плаціла яшчэ горш.

Школа была ў супольнай хаце, дзе апроч сям'і гаспадарскай і Ганулі з Вінцусём, а такжа дзесяцярых вучняў, хадзілі яшчэ па хаце куры з сярдзітым пеўнем на чале. Дзеці бубнілі свае літары і склады, Ганулін калаўротак бурчэў сваю панурую песню, Марыліна Юлечка плакала ў калысцы, Тамаш курыў папяросу; Марыля хадзіла каля печы, дзе часта на патэльні сквірчэў блін і пахнуў на ўсю хату, а куры тым часам сакаталі і кудахталі і… ўсе свае патрэбы спраўлялі на месцы.

Найспакайнейшы ў цэлай грамадзе быў сам гаспадар, Тамаш, муж Марылі, чалавек працавіты, як вол, маламоўны і крыху глухаваты. Да таго — ён рэдка бываў у хаце; найчасцей працаваў у гумне, дзе сам-адзін доўгімі гадзінамі малаціў, выбіваючы раўнамерна сноп па снапе. Гумно было самым наймілейшым месцам Тамаша: там ён з нейкім асаблівым смакам і набажэнствам наводзіў парадак, чысціў і падмятаў; а меў такую зручнасць у руцэ і меру ў воку, што люба было паглядзець на ягоную работу! Бывала, Тамаш засядзе на калодачцы веяць жыта: мае міленькія, як ён веяў! Браў у веялку заўсёды раўнюсенькую меру, а пасля шпургаў збожжа ў паветра; зярняткі з нейкім мілагучным свістам і шумам саскоквалі з веялкі, вырываліся наперабой з мякіны і падалі ў канец току роўным і зграбным паўкругам. Мякіна без шуму, роўненька асядала на самай сярэдзіне току. Тамаш асцярожна разгранічваў чыстае зерне ад мякіны, адкідаў

далоў каменьчыкі і каласкі; ссыпаў чыстае збожжа ў белыя палатняныя мяшкі і пераносіў у сені, дзе ссыпаў яго ў вялікія кублы; а мякіну збіраў у горшыя мяхі і пераносіў у адмысловыя застаранкі.

Таксама парадкам умеў Тамаш гаспадарыць у хляве: з сваімі каньком і кароўкай жыў у найлепшай згодзе, гаварыў з імі, як з разумнымі людзьмі, а яны яго неяк добра разумелі. Свірна Тамаш не меў: у вялікіх сенях былі пароблены розныя склады і сховы для збожжа і стаялі куфры для рознай драбязы.

Часамі Тамаш прыносіў работу ў хату: тагды засядаў на калодачцы каля печы, шчапаў лучыну ці вязаў венікі, або… курыў папяросу. Але Марыля вельмі не любіла табачнага дыму; вечна з мужам сварылася за курэнне, аднак тут Тамаш быў цвёрды, як камень: маўчаў, але курыў пастаянна. Тагды Марыля як бы ненарокам падкідала мужу сваю работу: давала скубаць пер’е або воўну; гэта была досыць клапатлівая работа для мужчынскага характару і вельмі далікатная для Тамашовых грубых пальцаў. Аднак Тамаш рабіў гэта не горш, чым якая бабуля сваімі тонкімі пальчыкамі. Калі Юлечка пачынала плакаць, Марыля гаварыла мужу:

— Пакалышы дзіця, чуеш — вунь, як плача: тут жа і твая палавіна… Няўжо ж я адна павінна заўсёды пакутаваць?

Тагды Тамаш сядаў на ложка і раўнамерна гойдаў калыску, падпяваючы і гаворачы да Юлечкі. А як гэта не памагала, тагды вымаў яе з калыскі, песціў, цмокаў, смяяўся і так умеў развесяліць плаксу, што і яно пачынала смяяцца. Тагды садзіў дачушку на сваю вялізарную далонь, выігрываў губамі розныя маршы і танцы, выносіў яе на сярэдзіну хаты і, гойдаючы на далоні, круціў на адной руцэ, як цацачку, і ўзносіў угару аж пад самую столь. Пры гэтым не было ніколі ніякага выпадку: дзяўчынка смяялася сардэчна, а пасля навучылася ў такт пляскаць рукамі. Тагды ўсе дзеці забываліся аб сваіх лекцыях і лемантарах, гублялі свае дысціпулкі, выходзілі з-за стала; цмокалі і смяяліся да Юлечкі, і ўсім у хаце было весела.

Найбольшым героем у гэтай школе быў Кастусь Юрэвіч, сталяроў сын, вучань Марылі Пятровічыхі: ён біўся з усімі дзецьмі, даваў усім прозвішчы, часта плакаў, але яшчэ часцей смяяўся — і то так голасна, што гэта не падабалася анікому. Нават певень часта сварыўся на яго: «Куды ты, такі гэтакі!» Аднак, паміма ўсяго, Кастуся любілі: чырвоны, пуцалаваты, вечны палятун — ён быў адменным тыпам ад Ганулінага Вінцуся,

каторы таксама быў жывы і вясёлы, але з нейкай глыбокай задумай; стыдлівы і баязлівы пры чужых людзях.

А певень, як называлі «галаганскі», чуўся пасярод хаты поўным гаспадаром: лапатаў крылламі, пяяў закацiста, адводзячы ноту па складах, цвёрда і ясна, як бы хацеў прыстыдзіць дзяцей, каторыя на складах заікаліся ці абрываліся саўсім. Адпяяўшы сваё «ку-ку-ры-ку», певень адводзіў неяк асабліва другую карацейшую ноту мінаровым тонам, як бы аддаючы рэха сваёй песні, і зара пад'язджаў на адным крыле, ласкава ўхмыліўшыся, да чубатай курачкі. Як незалежны гаспадар, певень ані думаў дзецям уступаць з дарогі: лупіў дзюбаю па нагах і не даваў пераходу. Беднай Вікці (як то кажуць: «на каго Бог, на таго і людзі») раз нават скочыў на галаву. Толькі ўступаў і баяўся Кастуся, бо той вырваў яму адзін раз, як нікога не было ў хаце, самае найдаўжэйшае і найпрыгажэйшае пяро з хваста. Ад гэтага певень згубіў кусок фантазіі, спусціў тон і пачуваўся страшэнна пакрыўджаным. А Кастусь дастаў за гэта ад Марылі за вуха і стаяў цэлую гадзіну на каленках, але фантазіі не страціў.

## IV. ЗІМА

Той год была вельмі цяжкая зіма; адпавядала саўсім назовам месяцаў: снежань быў снежны, студзень — страшэнна зімны, а люты быў «люты», бо смаліў зімным, вострым ветрам, як агнём.

З самай восені марозік скаваў зямлю на бубен, а людзі ўтапталі, укачалі коламі і ўтаўклі дарогі, як ток. Тады паўночны вецер — барэй дзьмухаў на ўсю Беларусь: пасыпаўся дробны ледзяны дожджык; зямля зразу аслізла, але зара ад марозіку зледзянела, — дык вось зрабілася такая слізгаўка-галаледзь, што людзі і коні валяліся і многія калечыліся страшэнна. Нарэшце разгулялася беларуская мяцеліца: белая плянёнка лягла на зямлю і пачала пушэць, грубець і скора зраўнавала на палёх узгоркі з далінамі. Даўшы малую перадышку, каб людзі маглі асвоіцца і прывыкнуць да зімы, мяцеліца загудзела ізноў: засвістаў вецер, закруціў па палёх клубамі снегу і расхадзіўся-разгуляўся… перш мяцеліцай, пасля віхром, а ўрэшце бурай, аж здавалася, што і канца яму не будзе!

На Замкавай вуліцы, у мястэчку Завалацы, сфармаваўся доўгі снежны вал, як бы горны ланцуг, перарэзаны вузкімі перарывамі і глыбокімі ярамі. Дарога, што адвеку ішла Замкавай

вуліцай, цяпер загубілася саўсім: падарожнікі пасля той буры дарэмна прабавалі прабіцца старым шляхам — трэба было выцягваць назад санкі з коньмі і шукаць аб’езду. Дарога пайшла ўпрочкі: прагнаная з вуліцы, тулялася па гародах і загуменнях; часам перакрадалася паміж хат у мястэчка, але, напаткаўшы непасільную перашкоду — гурбу снегу, роўную з хатай — заварочвала зноў на гароды і, гэтак блудзячы, аж каля жыдоўскай бажніцы ўваходзіла на рынак.

Хата старога дзядзькі, Аляксандры Матусевіча, была так завеяна снегам, што, устаўшы рана, гаспадары не маглі аніяк вылезці на двор. Шчасцем, вонкавыя дзверы адчыняліся ўсярэдзіну і дровы былі ў запасе ў сенях, дык можна было жыць.

— Прынясі ж ты, стары, вады: трэба памыцца і есці варыць, — скамандавала мужу старая Антоля, як злезла з пасцелі.

— Сама ты прынясі, — адбуркнуў сярдзіта Аляксандра. — Паглядзі, што на дварэ: свету Божага не відаць, не чуваць…

Антоля ўскінула на сябе нейкі балахон і пайшла на двор, але, — ледзь адчыніла дзверы — так і ахнула, і загаласіла:

— А Божачка мой, Божачка! Гэта ж мы прапалі: нас тут ніхто не знойдзе і ніхто не паратуе — мы тут так і памром і жывыя засыпемся. Што ж мы тут рабіць будзем?

— Ціха ты, крыкуха, папалохаеш дзяцей! Няхай сабе спяць; а ты слухай мяне і зара вары есці: пакуль паміраць, перш наядзімся. — Аляксандра стаў камандаваць, як палкоўнік.

— А скуль жа я вады вазьму? — пыталася Антоля.

— Снег — не пясок, зробім і ваду.

Вось, запаліўшы ў печы, пачалі тапіць снег: аказалася, што на гаршчок вады трэба было ператапіць вялікі ахапак снегу. Так «нарабілі» вады, наварылі ежы, і Аляксандра, паснедаўшы і накурыўшыся, пайшоў длубаць у снезе тунэль. Найгорш было тое, што не было куды падзець скапанага снегу: пробаваў Аляксандра тапіць снег гарачай вадой, але расход быў вялікі, а карысць малая.

— Мусіць, вайна будзе, — казаў дзядзька, вярнуўшыся з тунэлю.

— Чаму, адкуль ты знаеш? — пыталася Антоля.

— Бо і тагды, як ішоў пранцуз на Маскву, былі такія снягі, маразы і мяцеліцы. Мой дзед паказваў, што пранцузы мерзлі, бывала, як мухі. Прыбяжыць, кажа, такі пранцузік у хату, а, кажа, — тоненькі і худзенькі, як розачка, ножкі проста птушыныя, а сам чорненькі як жыдзянётка, кажа, замахае рукамі, ды ўсё нешта, як па-жыдоўску: «Майсе, майсе! Фруя…» А сам як

сядзе кале печы на кортачкі, дык і капут!.. Колькі іх гэтак намарнавалася! Толькі аднаго нашы мужчыны адцёрлі снегам, а бабы неяк там выхухалі і адагрэлі. Ён пасля і ў лапцёх хадзіў, і гаварыў па-нашаму: я сам яго крышку помню. Нашы бабы знайшлі яму мармазельку і ажанілі, як трэба: вось гэна Зоська Дайсейка — ягоная ўнучка, бо і ён называўся, кажа, Дайсей… Дзіўная рэч, што жыдоўская гутарка падобна да пранцускай і да ўсіх заграничных: тагды жыды на вайне добра зарабілі ад пранцузаў, бо нашы не маглі з імі згаварыцца, а жыды «гэр-гэр» і згаварыліся!

Так разважаючы з жонкай і сам з сабою, Аляксандра накурыў поўную хату дыму. Але трэба было далей капаць тунэль; ды работа ішла няспорна: толькі пад вечар убачыў Божы свет і вельмі здзівіўся, бо ўвідзеў перад сабою Тамаша Пятровіча, каторы раскопваў снег на дзве стараны і праводзіў вялізарны роў-канаву проста на ягоную хату.

— Дзякуй, суседзе, за ратунак, а я думаў, што прападзём тут.

Аляксандра з радасцю патрос руку Тамашу, і было за што дзякаваць: гурба была роўная з хатай і заваліла ўсё падворка; дык вось Тамаш працаваў тут з самага рання. У сябе, праўда, ён не меў вялікай работы, бо ані хата, ані будынкі не былі крэпка завеяны, але ў Матусевічаў заўсёды завявала, а цяпер дык і патым таго! Вось Тамаш перш пракапаўся да іхнага гумна і хлява; накарміў і напаіў быдла, а пасля стаў ратаваць саміх. Прыйшлося яму працаваць аднаму, бо суседзі жылі воддаль і кожны меў досыць работы каля сваіх будынкаў. Тут Матусевіч з Пятровічам патапталіся, паахалі і падзівіліся з зімы і са снегу ды пайшлі дамоў, бо ўжо звечарэла. Аляксандра, згорбіўшыся і стогнучы, пашкрабаўся праз тунэль назад да хаты. А іншыя і саўсім не вылазілі на двор: балазе камора была на месцы, а снег навучыліся пераганяць на ваду; ды зрэшты — сені былі вялікія…

А студзень быў яшчэ горшы: праўда, мяцеліца сціхла, снег улёгся, зрабілася харошая санная [дарога], але ад Каляд пайшлі траскучыя маразы. Самыя найстарэйшыя людзі не помнілі такіх маразоў. На дварэ займала дух чалавеку; сцінала вада ў вядры, пакуль баба несла са студні; дый скора і ў студнях павымярзала. Трэба было бегаць па ваду аж да Валачанкі, што пры такіх маразах і глыбокіх снягах не было справай завіднай. Дык па ваду хадзілі найчасцей мужчыны.

Найгоршы, аднак жа, быў люты: да маразоў далучыліся частыя буры; ізноў папсаваліся дарогі, — хоць ты з хаты не вылазь! Уздымаліся такія мяцеліцы, што на Грамніцы (такое важнае

свята!) ледзь пара местачковых бабулек далезла да касцёла. Ганулявя Якубіха ўсё ж такі дайшла, але, ідучы з касцёла з новай грамніцай, ледзь душой не загавела. Ледзь пасля адцёрла снегам адмарожаныя рукі і ногі. Толькі Тамаш Пятровіч, закаліўшыся змоладу, не баяўся марозу: ён і ваду насіў, і быдла даглядаў, і ў млын ездзіў, і ніколі яму нічога ніякага не здаралася, — толькі курыў тагды крапчэй, бо казаў — ад гэтага цяплей робіцца. Ужо цяпер і Марыля не заліла мужу за папяросы.

Галодныя ваўкі сталі падбірацца пад Завалаку і пужаць палахлівых. Скора, аднак, і самыя смелыя сталі баяцца, як ваўкі загрызлі на дарозе жабрушчага дзеда, а пасля каня і жыда, што вёз селядцы з Мураванкі; а пасля ўзялі з Замкавай вуліцы двух сабак. Другія людзі казалі, што не аднаго жыда, але «цэлых пяць». А Антоля Матусевічыха, Аляксандрава жонка, гаварыла: «Мае міленькія, ужо, мусіць, будзе канец свету, бо, як мы ведаем, ваўкі пяць жыдоў зарэзалі. А колькі было яшчэ, як мы не ведаем, дык і саўсім нямаведама!»

Сухі трэск покаючых бярвенняў напаўняў жахам малых жэўжыкаў, што доўгімі зімовымі вечарамі туліліся да печы. Цёплая печ, а пры ёй так называная «лазанка» — гэта зімою наймілейшая дабрадзейка і адзіны ратунак у Беларусі. Там доўгімі вечарамі бабы і дзяўчаты вядуць ручную работу, дзеці гуляюць і спяць. Там пяюцца нашы старадаўнія беларускія песні, каторых краса і прыгажосць перавышае ўсё навамоднае і налётнае. Там будзіцца ў дзяцей першая цікавасць і фантазія; як з рукава сыплюцца дасціпныя жарты, цікавыя загадкі, вясёлыя ці жаласныя, або нават страшныя басні. Там уласне Вінцусь, праняты страшэннай постаццю ваўкалака, ці ваўкалюда, ці мядзведзя з жалезнымі пазурамі, брэдзіў ува сне, зрываўся ўночы з пасцелі, крычаў ці плакаў або цэлую ноч смяяўся, бачачы праз сон, як баламуціўся дурны Янка з разумнымі братамі. А цётка Марыля ўмела баяць вельмі цікава: бывала, як пачне, дык і пеўні прапяюць, а яна скончыць не можа. Вінцусь так любіў слухаць басні, што забываўся аб вячэры, і аб гульні, і аб сне, і аб усім на свеце.

А мароз трашчаў далей, а дзеці лічылі лысых. Бо трэба ведаць, што на дванаццатым лысым мароз мусіў здацца. Аднак трудна было знайсці дванаццаць саўсім лысых. Колькі, бывала, лысыя праз зіму нацерпяцца! Бо лічылі іх чуць не кожны дзень і ў кожнай хаце. «Арганіст лысы — мароз трэсь!» — пачынаў Вінцусь, але не мог далічыцца і да дзесяці. І дурная Вікта ведала, што арганіст лысы і што дзядзька Аляксандра Матусевіч такжа

лысы, але ўжо далей абрывалася. А Кастусь Юрэвіч налічаў поўны тузін: толькі ж вельмі спяшаўся і некаторых лысых лоўка ўстаўляў па два або і па тры разы, або нават і кудлатых прылічаў да лысых, каб толькі на сваім паставіць! Адзін раз прылічыў да лысых і цётку Антолю — проста ёй у вочы, бо якраз прыйшла тагды ў госці. «Ах ты, бясстыднік! — крычала Антоля. — Бога ты не баішся. Пачакай ты: скажу я бацьку». — «Цётачка, міленькая, даруй! — прасіў Кастусь. — Я памыліўся. Але я думаў, што цётка і сапраўды крышку лысая». Гэта ўжо перайшло праз меру: Антоля так расстроілася, што аж заплакала. Умяшалася ў гэта самае Марыля: прыказала Кастусю пацалаваць цётку ў руку і паставіла бясстудніка на калені. Кастусь перш заплакаў, а пасля засмяяуся. А ўстаўшы з каленяў сказаў: «Цётка Антоля ўсё ж такі лысая!»

А мароз трашчаў і трашчаў. Перасталі дзеці лысых лічыць, бо вось падыходзіла лютая бяда пад хату і лезла ў самую нават хату — бракавала ў хатах дроў: печ стыгла, зуб на зуб не пападаў… Дзеці, пасінеўшы, сядзелі ў кажухах на печы і не маглі сагрэцца. Нат ужо і дзядзька голад стаў закрадацца ў мястэчка: нават некаторыя багацейшыя гаспадары, што мелі коней і даволі збожжа, сядзелі ў зімных хатах і без хлеба. У спакайнейшую пагоду млыны былі завалены зернем, але бракавала вады. У замкавым млыне, каторы заўсёды быў багаты на ваду, чэх Пстрыкун падняў плату за моліва: мяшчане клялі яго на чым свет стаіць; клялі, але малолі і яшчэ дзякавалі Богу і Пстрыкуну, бо «голад — не цётка». Усе ўздыхалі да вясны, але вясна вельмі апазнілася.

Гануліна і Марылiна школа, з прычыны вострай зімы, перарывалася некалькі разоў. Бяда заглядала і ў іхнюю хату, а мароз таксама закрадаўся за печ. Толькі ж Тамаш бараніўся стойка і, як чалавек запаслівы, доўга змагаўся з марозам: меў заўсёды з восені вялікі запас пукоў і алешніку. Аднак сёлета ледзь дацягнуў да Запустаў: а тут мароз з мяцеліцай не выпускалі чалавека з хаты, дый конь у Тамаша быў з восені прададзены. Прыйшлося спаліць увесь плот ад вуліцы. А пасля магутныя плечы Тамаша перамаглі недастатак, хоць казённы лес пачынаўся за тры вярсты ад мястэчка.

З хлебам таксама было труднавата, дык і Вінцусю прыйшлося добранька спасцiцца. Паглядала на яго Ганулля з трывогаю ў сэрцы: гладзіла і песціла, але хлапец цянеў, бялеў і сохнуў. Радзілася Ганулля ў Марылі: ці не даць хлапцу ў Вялікім По-

сце есці з малаком? Але Марыля проста ўзбурылася на гэта: «Стыдайся, — казала, — аб гэтым гаварыць, такі ўжо вялікі хлапец — можа выпасціць, калі захоча!» І Вінцусь пасціў «сухім пастом», бо такія цвёрдыя законы з дзеда-прадзеда панавалі тады ў Беларусі. Не так, аднак жа, цярпеў хлапец ад пастоў, як ад холаду, каторага вельмі баяўся. У голадзе памагаў сабе хлебам, з каторым ніколі не разлучаўся, а пасля — бульбачкай, як хлеба нястала; а ў холадзе грэўся кажушком, з каторым проста зросся, — але цяпер і кажушок не памагаў.

І саўсім гэта нядаўнія часы, але аж не верыцца…

Ніколі вясна не была так пажадана, як у гэтым няшчасным годзе, і ніколі яна так не пазнілася. Аднак жа вось нарэшце зіма пачала нядужаць: ужо ад пачатку сакавіка пачала пацець і плакаць, а на св. Казімера так засвяціла яснае сонейка і так ласкава засмяялася, што ўсе сказалі: «Вясна ідзе, вясна будзе!» Аднак жа зіма яшчэ доўга не здавалася; яшчэ часам трашчала па начах марцовым марозікам ды раніцай падсыпала сняжком, а нават раз, разгуляўшыся, выпусціла з-за пазухі апошнюю марцовую мяцеліцу: сыпала снегам, пасля белымі крупамі, а нарэшце дажджом, бо ўжо вычарпала ўсе зімовыя запасы… Паўдзённае сонца з'ядала ўвесь ранішні сняжок; зіма плакала ўсімі стрэхамі, усімі голымі галузамі на сумных дрэвах: слёзы ліліся цурком і… зіма здалася. Ужо нават вароны каркалі на ейны адход; сарокі ківалі ёй доўгімі хвастамі, шпакі свісталі на яе і дражнілі. А як жаўранкі поўным хорам запялі гімн вясне, гімн радасці і перамогі, зіма пачала ўцякаць з цэлым багажом — з марозам, з лёдам і са снегам, — і ніхто яе не жалеў.

## V. МАРЦУК

Пробашчам у Завалацы быў ксёндз Міхал Марціноўскі. Бацька ягоны называўся таксама Міхал, але — хоць і родны бацька — меў прозвішча другое: называўся Марцук.

Нічога тут дзіўнага: трэба толькі добра разабрацца. Спачатку Міхась быў таксама Марцук, як і ягоны бацька; але пасля, як паступіў у духоўную семінарыю і стаў клерыкам, дык пачаў пісацца Марціноўскі. А нават вёска Шапятуха, дзе Марцукі жылі з дзеда-прадзеда, пачала пісацца ў Міхасёвых паперах «околица Шепетовка».

Стары Марцук, чалавечак маленькага росту, але кемны, кідлівы і бойкі, тут, аднак, не мог зразумець прычыны: усё яго

нешта грызла ў душы, і пастанавіў хоць раз з сынам разгаварыцца як патрэба і дапытацца праўды.

— Чаму ты, — казаў ён, — мой сынок, так адмяняешся ад усёй нашай фаміліі? Уся наша радня пішацца Марцукі, і ёсць паміж намі многа добрых людзей, а ты вось стаў нейкі Марціноўскі? Нашто ж гэта табе, сынок, і хто цябе так навучыў?

— Ат, тата, тэго не веш! так тшэба, от і вшыстко…

— Але чаму ж так трэба? — пытаў Марцук.

— Тата прэндко бэндзеш стары, як зэхцэш вшыстко ведзець. Ды і в сэмінарыі так хцелі…

— Хоць ты і вучоны, але зялёны! — казаў сам сабе Марцук, бо ў вочы сказаць сыну не асмеліўся, бо… усё ж такі сын быў клерык — вучоны і духоўная, мабыць, асоба.

— Чаго ты, стары, мяшаешся? — крычала на свайго дзеда Марцучыха. — Ён болей ад нас, дурных, ведае, ён ужо клерык — ксяндзом будзе, а ты быў Марцук і астанешся Марцук.

— Ды ты, баба, змоладу распусціла яго: заўсёды заступалася, вось і папсула мне хлапца. Няхай сабе ён клерык, але я ягоны бацька — вот што! Дык і ты да мяне не мяшайся, чуеш?

Стары Міхаль Марцук натужыў усе сілы, каб вывесці сына на чалавека: працаваў як вол, шчадзіў кожны грошык і нават, маючы 50 гадоў з гакам, кінуў курыць. Грошай, аднак жа, усцяж бракавала. Калі Міхаська ўжо дайшоў аж да духоўнай семінарыі, дык стары Марцук, пасля доўгай рады з жонкай, аддаў свайго старэйшага сына, Петруся, у прымакі, а сам, прадаўшы зямлю і хату, пайшоў на службу ў двор. Гэтакім рызыкоўным спосабам Марцук забяспечыўся ў грошы і мог адзяваць Міхася, купляць яму кніжкі і ўсё патрэбнае.

А Міхась патрабаваў многа: адзяваўся як з іголачкі, фарсіў, навучыўся курыць, а на вакацыях — гуляць у карты. Прытым любіў расказваць таварышам аб сваім быццам старым старадаўнім родзе Марціноўскіх, але прадзед няшчасцем «згубіў шляхоцкія паперы». Ведама, ёсць розныя людзі на свеце, дык былі нават і такія, што Міхасю верылі, асабліва тыя, што курылі ягоныя папяросы.

Калі ж Міхаська выходзіў на ксяндза, бацька быў начным сторажам у Завалацы, у замку доктара Віпстрыкаля.

Радасць бацькоў з сына клерыка, а пасля — ксяндза, была крышку прыцьмянай нейкімі няяснымі адносінамі сына, каторы, відаць было, чамусьці іх цураўся. На вакацыі ў сваю хату, у Шапятуху, прыязджаў ён вельмі рэдка і на кароценькі час. У Завалацкі замак, дзе бацька быў сторажам, ксёндз Міхал

прыехаў адзін-адзінюсенькі разочак якраз на паўтары гадзіны. Заўсёды ездзіў да нейкага далёкага пробашча, дзе, як чувалася, гуляў у карты — нават і з вялікімі панамі. А стары Марцук, загартаваны горам, працаваў далей, паміма шостага дзясятка і паміма таго, што сын быў ксяндзом. Сумленна старажыў замак і гаспадарку доктара, а доўгімі начамі многа передумаў і пастанавіў з сынам, хоць адзін раз, але добра аб усім разгаварыцца; выказаць яму ўвесь свой жаль, а нават, хоць ён і духоўная асоба, па-бацькоўску пасварыцца на яго.

Тым часам Міхась высвеціўся на ксяндза і быў назначаны на вікарыя некуды вельмі далёка. Разгаварыцца з сынам трэба было безадкладна, але Марцук не мог прыбрацца: заўсёды знайшлася перашкода; а найгорш, што Міхась ледзь пару гадзін гасціў у хаце; рэшту часу праводзіў у завалацкіх ксяндзоў або ў іншых гасцях. Толькі ж, будучы начным сторажам, а дачакаўшы першай помачы ад сына — 20 рублёў з пошты — стары Марцук ізноў закурыў люльку. Ведама, старажаванне доўгімі асеннімі і зімовымі начамі з адным ражанцам (стары быў пабожным чалавекам) і з сваімі думкамі было вельмі дакучлівым, а люлька памагала да ўсяго: разрывала дрымоты, аблягчала цяжкую думу-думку і зганяла з сэрца нуду. Пакурыўшы, і ражанец ішоў смаглей. Марцучыха, праўда, дацінала мужу за табаку (ведама — баба!), але стары не паддаўся: нават на тое самае (ведама — мужчына!) стаў купляць табаку самую крэпкую. Аднак жа доля на гэты раз усміхнулася і да Марцука: сын ягоны, Міхал Марціноўскі, з нейкай прычыны, ці як людзі балталі — праз пратэкцыю, быў назначаны пробашчам у Завалаку, у гэту самую Завалаку, дзе стары Марцук быў сторажам у гарадзецкім замку. Міхась толькі тры гады быў вікарыем.

Завалацкая парафія была вельмі вялікая, а ксёндз Марціноўскі быў дужа малады — не меў трыццаці гадоў, дык з адной стараны была ў парафіі вялікая радасць, бо маладога ксяндза людзі вельмі любілі, а з другой — і вялікае дзіва, што такі-гэтакі і так скора выскачыў угару, ды адразу так высака. Дык вось разышлася вестка, што ён надта вучоны і нават — з вялікіх паноў, але… людзі знаді бацьку, а бацька быў Марцук.

Само сабою ясна, што стары Марцук з радасцю пакінуў старажаванне ў замку, нават не дабыўшы месяца і, хоць з нейкім недаверам і страхам, але паспешна перанёсся да сына ў плябанію, а там закурыў ксяндзоўскую табаку ў сваёй мужыцкай люльцы, у ксяндзоўскіх пакоях. А Марцучыха асела пры кухні; і вось думалі старыя тут і веку даканаць. Ксяндзоўская табака

была нейкая модная і пахнючая: Марцук да яе скора прывык і курыў з глыбокай зацяжкай і з поўным здавальненнем. А Марцучысе жыццё ў кухні спадабалася таксама: прытым старая, шчыра памаліўшыся, любіла добра перакусіць, пагаварыць і пацікавіцца.

Але паня гаспадыня скора спахмурнела, стала капрызіць, а нарэшце стала пытацца ў пробашча аб расчот.

— Што, пані? Чаму так? Якая прычына? — пытаўся занепакоены ксёндз Міхал.

— Ат, так: юж я не могэн… — аднеквалася гаспадыня, паспешна складала свае манаткі, бо назаўтра выбіралася ў дарогу.

Ксёндз Марціноўскі не мог сабе і прадставіць гаспадаркі і кухні без гаспадыні: ужо тры гады была яна пры ім. Унаследаваў яе ад свайго пробашча на папярэдняй парафіі, дзе заступаў яго — хворага.

І дзіва — не дзіва! Бо гаспадыня была баба рэзвая і трэзвая: ужо мела вялікую практыку — перайшла некалькі пробашчаў, а двух пахавала, знала кожнага густ і нораў, умела кожнаму патрапіць і ўсё паставіць на сваім. Носячы з сабою ўсе гаспадарскія і хатнія ключы, падабрала ўмелай рукою ўсё верхаводства. А ксяндзоўскія бацькі заўсёды ўваходзяць у дарогу кожнай гаспадыні — будзь яна хоць святая! Так яно выйшла і тут, бо так яно і ўсюды выходзіць…

Дык вось гаспадыня ксяндза Марціноўскага, паня Паўліна, па мужу Паўлоўская (бо была ўдавою), стала збірацца ў дарогу. Збіралася вельмі доўга; прытым рабіла вялікі стук і шум, бо вельмі спяшалася, але ўсе рэчы перакладала па разоў дзесяць і ніяк не магла сабрацца. Рукі яе дрыжэлі, і неяк асабліва ёжыліся тыя тры чорныя валасы, што раслі на барадаўцы, што красавалася на ейнай левай шчацэ. А цэлая рэшта сіваватых валасоў (гаспадыня хадзіла з голай галавою) распаўзалася, вісела на вушах і лезла ў вочы.

— Ну, але якая прычына? — дапытваўся ксёндз Марціноўскі.

— Калі ж я не магу сказаць, — адказвалася гаспадыня, — бо то датычыць, — кажа, — пробашчавых бацькоў. Дык як жа я скажу… я не могэн…

І тут ударыла ў такі плач, што аж захліпвалася.

— Толькі проша ксендза, — казала, — даць мне фурманку, бо я ютро пояда, бо я не могэн…

— Досыць таго, — казаў пробашч, пачуўшы ў сэрцы адвагу, а ўладу ў руках. — Досыць! Пані не паедзеш, бо я не пушчу. А з бацькамі я ўладжу так, каб пані была гаспадыняй і пані

будзеш гаспадыняй! Раскладай, пані, свае куфры і бярыся за работу: вось заўтра прыязджае да мяне новы вікарый, і я мушу прыняць яго як належыць. А ўсё, проша пані, добра будзе. Я так пастанаўляю, і ўсё!

— Як, як вікарый? А хто ён, а скуль ён, а ці малады? — пыталася гаспадыня, праціраючы вочы. І — так і асталася паня гаспадыня.

Але тут ксёндз Марціноўскі крэпка задумаўся, бо было чаго: не ведаў, што рабіць з бацькамі. Бо і сапраўды справа была вельмі трудная: стары Марцук быў чалавек дужа добры, і спакойны, і пабожны, а нават спагадлівы і працавіты; але… быў ён просты Марцук, і ўсё! Напхае, бывала, далікатнай табакі ў сваю люльку і пыхкае ў салоне. А пасля ражанец перабірае ці моліцца з набожнай кніжкі. Яно то, можа, і нічога, але вось здараліся, бывала, госці, дык ксяндзу Марціноўскаму хоць ты вачэй пазыч! — стыдна і абідна, бо стары і гаварыў да ўсіх папросту, як бы то так і трэба…

А старая Марцучыха не гадзілася з паняй гаспадыняй: яно то, можа, і таксама нічога, але часам старуха не ведала, як што называецца ў ксяндзоўскай кухні, дык аж гаспадыні самой было стыдна і абідна; бо Марцучыха таксама гаварыла папросту, ну і мяшалася пад рукамі і лезла ў вочы.

Не раз, бывала, ксёндз Марціноўскі «пёк ракі» перад гасцямі з прычыны свайго бацькі; а пані гаспадыня не раз, бывала, наелася стыду перад чужымі людзьмі з прычыны ксяндзоўскай маткі.

Дык вось усе парафіяне прачувалі, што з бацькамі будзе рэформа — толькі не ведалі, як пачнецца і чым кончыцца. А старая худая Рузя — «бабскі стараста» — ужо даўно расказвала ўсім бабам пад касцёлам, што гаспадыня была «кутая на ўсе чатыры нагі», дык зробіць, казала, парадак з ксяндзовымі бацькамі, як сама захоча.

— Ты, можа, думаеш, — казала Рузя да кульгавай Агаты, — ты, можа, думаеш, што ў Завалацы ксёндз Марціноўскі пробашчам, гэ?

— Ну, а хто ж, па-твойму? — пыталася прастадушная Агата.

— Я так і знала, што ты нічога не ведаеш, — адказала «бабскі стараста», — толькі ты нікому не кажы, а я табе растлумачу, хто ў нас пробашчам. У нас, бачыш, пробашчам ксяндзоўская гаспадыня! Сама пані Паўліна Паўлоўская.

— Не можа быць! — закрычала Агата. — Яна ж толькі баба.

— Фі! Баба-то баба, але не такая, як мы з табой.

— А якая?

— А вот такая, што не такая: у яе пробашч сядзіць пад пантофлем, яна самога дэкана — таго, што памёр, — калісьці за нос вадзіла, а дэканскі арганіст ёй чысціў чаравікі. Дык вот хто наша пані гаспадыня! Толькі ты маўчы, бо, барані Бог, скажаш — дык тады прапала я і цэлы наш бабінец! Я яе баюся, як агню гарашчага.

Пасля гэты самы сакрэт Рузя паўтарыла на вуха ўсім жабрушчым бабам пад касцёлам і ў дваццаці хатах у мястэчку.

— Ведаеце, мае міленькія, — казала Рузя, прыйшоўшы до Ганулі Якубіхі і Марылі Пятровічыхі за нейкім нібыта інтарэсам, — ведаеце, што наша пані гаспадыня чуць-чуць не выехала з Завалакі. Ведаеце — пробашч чуць-чуць не плакаў: ледзь яе затрымаў, ледзь упрасіў, — лапатала Рузя, аж засаплася.

— Ну, ужо ж, васпані, не махлюй! — казала Гануля і не хацела больш такіх плётак слухаць.

— Якое я махлюю? Чысцюсенькая праўда, каб я так з гэтага месца не сышла! — тараторыла Рузя.

— Розныя ксяндзы бываюць — можа, і праўда, — казала, напалавіну паверыўшы, Марыля.

— Ведама, што праўда! — цвярдзіла Рузя. — Ужо былі і фурманкі наняты, і куфры паскладаны, а пасля неяк пробашч адпрасіў. Я сама стаяла на калідоры і ўсё чула. «Астанься, кажа, проша пані! Будзеш, кажа, гаспадыняй, як і была. Я, кажа, не пушчу выязджаць. А з бацькамі, кажа, я зраблю рэформу такую…»

— Якую рэформу? — спыталася зноў Гануля.

— Я ж не ведаю, — казала Рузя, — можа, ізноў стары пойдзе служыць да Пстрыкуна?

— Гэта ўжо чыстыя плёткі! — адрэзала востра Гануля.

— Я ж казала — не ведаю, — гаварыла пакорна Рузя, — дык як не ведаю, то і плеткаваць не буду.

І пайшла ў другую хату, да Агаты Матусевічыхі. А там запяяла з другой ноты, што быццам пробашч так плакаў, як гаспадыня збіралася ў дарогу, што аж захліпваўся, і што гатоў быў ён у рукі цалаваць.

Так ці гэтак, але рэформа была патрэбна. Нават сам стары Марцук прачуваў гэту рэформу і ахвотна на яе пайшоў, каб толькі сысці з вачэй ксяндзу і ягонай гаспадыні.

Была пры кляштары старая дзераўляная лазня. Стаяла яна сабе спакон веку без работы: ніхто ў ёй не мыўся і нікому не была патрэбна. Гаспадыня даўно напамінала пробашчу, што можна было б лазню аднавіць і «каго-колечы» там пасадзіць. Пробашч

дагэтуль не дагадваўся, каго туды памясціць. Але вось цяпер аж змеркаваў і ўцешыўся сам, што можна пасадзіць туды бацькоў. Шах-мах! і з старой лазні зрабілі новую хатку: падмуравалі, падлаталі, падпёрлі — і хата выйшла харашухай-маладухай.

Бацькі маглі там гаспадарыць, як спадабаецца, і гаварыць па-якому сабе захочуць. Маглі сабе маліцца, колькі ўлезе. Яду прыказаў ім ксёндз Марціноўскі прыносіць у хатку, дык маглі сабе есці ці не есці — ніхто ім не мяшаў ані цікавіўся. Бацька мог курыць сваю люльку хоць і цэлы дзень… толькі ж табаку не было! Гэты пункт у рэформе быў чамусьці прапушчаны. Але стары Марцук пастанавіў аб нішто сына больш не прасіць. Ды і без табакі было немагчыма!..

Дык вось пачалося звычайнае жыццё, аб каторым не было б чаго і казаць, каб не тая табака і не тая гаспадыня. Ой, табака, табака! Трава горкая і ліхая, з каторай выходзіць дым агідны і затрутны. Табака! Ты нясеш з сабою сваркі і праклёны, страту грошай і здароўя; праз цябе церпяць боль галавы жонкі ад мужоў і наогул жанчыны ад мужчын, каторыя, і так мала розуму меўшы, рэшту затручваюць горкім дымам. Табака! Цябе не дарэмна празвалі «чортавым зеллем», бо, як кажуць, найбольшую люльку на свеце курыць сам Люцыпар у пекле, дзе смажацца самыя закамянелыя грэшнікі, а пякельная махорка самая найгарчэйшая. Дык, мусіць, дзеля таго Касцёл Каталіцкі не ўводзіць у святыя курцоў і табачнікаў, і вельмі не рады, што кураць ксяндзы.

Табака! Ты — агіда, ты — абрыда!.. У кожнага курца поўна ў горле і ў грудзях той самай цягучай смагі, што цячэ з люлькі. Дык кожны курэц плюе і харкае; плюе, моршчыцца і… усё ж такі курыць. Галадуе — і курыць! Хварэе — і курыць! Каб жа ваша шэрсць курэла, мае вы людцы! Бо ўжо і сам я не ведаю, чаго вам лепшага жадаць?

А ці ведаеце, мае родненькія, адкуль гэта нячыстая сіла, гэтая праклятая табачышча да нас дасталася? З Амерыкі! Адтуль прыкацілася да нас наша мілая бульбачка, «хлеба памочніца», і адтуль прыпоўз да нас гэты прагорклы табачны дым — разам з той табакай, што прывезлі да нас з Амерыкі добрыя людзі, каб іх за жывот узяло. Праслыў табакай адзін французскі вучоны прозвішчам Нікот (ні сабака, ні «кот», але вучоны), ад каторага і сама табачная атрута называецца «нікатына». І вось ад гэтага часу наша жыццё, і так горкае, пагарчэла яшчэ горш; а наша беларуская доля, і так цёмная, пацямнела ад табачнага дыму яшчэ больш.

Колькі ж страты дае табака праз марнатраўства! Колькі людзей на яе наракае і колькі баб яе праклінае! Колькі самі курцы ад

яе церпяць — курачы, кашляючы і хварэючы, а калі не хваціць — сумуючы і наракаючы! Колькі таго-гэтага… І ўсяго такога!..

Колькі таксама і наш бедненькі Марцук, вялікая і старая сіраціна, нацярпеўся!.. Бо пасля той рэформы і пераходу ў тую лазню не меў табакі.

— Каб ёй дна ў пекле не было! — кляў з цэлага сэрца стары Марцук.

— Каму? Што ты так клянешся! — сварылася на свайго дзеда старая Марцучыха.

— А гаспадыні: гэта праз яе ласку мы церпім; а я вось мушу абыходзіцца без люлькі.

Марцучыха вельмі не любіла гаспадыні, але таксама не любіла і табакі, дык саўсім не спачувала свайму дзеду.

— Пацярпі, Міхал, — казала яна, — адвыкнеш ад люлькі, дык і мне лягчэй будзе жыць з табою.

— Што ты мне вярзоліш — «адвыкні, адвыкні»! Табе гэта лёгка сказаць, а мне дык вунь як прыходзіцца!

Стары быў вельмі знерваваны: не курыў ад учарашняга, а сыну кланяцца не хацеў. Дык хадзіў па хаце, нібы наводзячы парадак, а папраўдзе дык толькі назаляў старусе і чапіўся без дай прычыны да кожнай макулінкі.

— А вось я не куру ўсё жыццё і жыву, дык і ты не памрэш, — казала Марцучыха.

Але гэта толькі дапоўніла меры: Марцук схваціў стары венік і меркаваў ужо старуху добра аддубасіць. Ды вось на парозе паказаўся сын, ксёндз Міхал Марціноўскі. Нешта-нейкае карцела яго ў сэрцы, дык пайшоў да бацькоў — можа, іх пацешыць, можа, у чым памагчы, ну, адным словам, адведаць. Але, глянуўшы на такую сцэну, што бацькі пачынаюць страшэнную вайну, адступіў паспешна назад. Гэта таксама дапоўніла меры: ксёндз Міхал страшэнна згоршыўся і з тае пары больш да бацькоў не хадзіў, — балазе знайшлася такая важная прычына.

Праўда, стары Марцук зразу змеркаваў, што дзела — дрэнь, апусціў рукі, венік з пагардай кінуў у кут, нават плюнуў на яго, але было ўжо позна. А старуха тым часам галасіла на ўсю хату:

— Ты стары хрэн! Што ты нарабіў? Цяпер наш сынок ніколі да нас не прыйдзе.

— Не прыйдзе, дык і не трэба, — казаў Марцук. — І я да яго не пайду!

Так і зажылі старыкі на сваім аднаселлі. Марцук ужо падумваў з таго гора і сыну на стыд пайсці ізноў на службу, але не мог сабрацца: адвык, дый старыя косці не хацелі цяжка працаваць.

Гаспадыня акуратна тры разы на дзень прысылала старым харчы, часам лепшыя, часам горшыя, як калі падышло ёй пад гумар. Час каціўся далей-далей; старыя прывыклі да новых абставін; Марцук маўчаў, зацяўшы зубы; а табакі толькі не было, бо ані пробашч, ані гаспадыня аб гэта не клапаціліся.

Некалі недзе нейкі філосаф казаў, што бабы пераменяюцца як месяц. Фі! Каб ён так з носам быў, як бабы пераменяюцца. Баба як упрэцца, дык ніякі казёл так не патрапіць. Яшчэ да трыццаці гадоў баба так-сяк, але ўжо пасля — стоп! Больш трыццаці бабы нават і гадоў сабе не лічаць, а калі і дабаўляюць, дык толькі на пяць гадоў адзін гадочак. Ну, але аб гэтым скажам другім разам.

## VI. ХАРАШУХА

У такіх клопатах стары Марцук знайшоў добрую раду і пацеху ў завалацкага арганіста. Імя ягонае было… Ды, зрэшты, у Беларусі парафіяне арганістаў па імені не называюць, а толькі па прозвішчы. Другое дзела закрыстыян: закрыстыянаў уласне называюць толькі па імені, а прозвішча не знаюць. Тым больш гэта падышло ў Завалацы: тутэйшы арганіст меў імя вельмі такое, як кажуць, недарэчнае, а затое прозвішча — самае прыгожае: называўся ён Харашуха. Ды ён не толькі так называўся, але і сапраўды быў людскі чалавек. Мужчына сярэдняга ўзросту, сярэдняй таўшчыні і крыху больш як сярэдніх гадоў: меў якраз роўна сорак восем гадоў з паловай. Вусы светлыя, таксама сярэдняй меры; барада была заўсёды гладзенька абголена брытвай, а галава абголена — як тут сказаць? — ну, сама сабой — адным словам быў лысы, як калена. Лысіна была поўная, бліскучая, але не такая яркая і зіркатая, як у дзядзькі Аляксандры Матусевіча. Аднак жа, калі зімою лічылі лысых, дык арганіста заўсёды ставілі побач з дзядзькам. Харашуха прывык да сваёй лысіны і нават перастаў прыгладжваць на галаве пасьледні пушок, каторага таксама ўжо і следу мала асталося. І парафіяне таксама прывыклі да ягонай лысіны. А тутэйшыя дзеці думалі, што на ўсім свеце ўсе арганісты лысыя.

Па характары Харашуха быў чалавекам мяккім, але дасужым і талковым; толькі адна была на ім пляма, за што не любілі яго бабы і ён не любіў сам сябе, — быў Харашуха старым кавалерам. А стары кавалер — гэта… ну, але лепш не будзем пісаць аб старых кавалерах, бо ўжо і так досыць наздзекаваліся з іх розныя пісакі. Кажуць, што ў нейкай старане, дзе жанчыны дабіліся

роўных правоў з мужчынамі і сталі суддзямі, цяпер засуджваюць бедных старых кавалераў на розгі і ссылаюць у катаргу. Вот і дажыліся мужчыны: ажэнішся — катарга і не ажэнішся — катарга! Некаторыя з гора прабавалі тапіцца, а другія казалі: «Лепш у катаргу пайду, а жаніцца не буду!»

Але вось наш стары Міхал Марцук пайшоў к Харашусе на раду.

— Ратуй, панок! — жаліўся Марцук. — Сын мой з гаспадыняй заядаюць мяне дашчэнту. Ужо чацвёрты дзень не куру, а так смягне ў горле, што не магу ані піць, ані есці: мусіць, паміраць прыйдзецца.

— Першая рада — закурым! — сказаў арганіст.

Тут Харашуха дастаў табаку і крэсіва і сваю люльку. Напхалі люлькі. Тагды арганіст старым абычаем выкрасіў агню і закурылі. Доўга цягнуў Марцук смачны дымок у самую нетру грудзей. І вось пакрысе гладзіліся маршчыны на ягоным лобе, твар набіраў весялейшага настрою, на душы лягчэла і стары разгаварыўся. Расказаўшы сваё гора, Марцук чуць не заплакаў, але новая люлька супакоіла яго саўсім.

— Што, васпан, плачаш? — казаў Харашуха. — І я калісьці, папаўшы на першую парафію, журыўся, нават і сапраўды плакаў, як не ўмеў знайсці ратунку. Але вось, як той кажа: «Плакаў, плакаў — усё Бог аднакаў: пачаў пяяць — пачаў Бог памагаць».

— Вось толькі каб не гаспадыня, — казаў Марцук, — дык можна было б жыць. Праўда, і сынок мой капрызны (па матцы пайшоў, бо яна нібыта шляхцянка!) — трудна яму дагадзіць: нічога не робіш — крыва глядзіць, а станеш што рабіць — усё не па-ягонаму. Ну, але пасля так-сяк зжыліся. Бывала, пакуру, адмоўлю ражанчык, памалюся ў касцёле, пастрапаю ў гародзе — і дня канец! А гэтая ведзьма гаспадыня — каб ёй дна не было! — яна мяне з’есць да смерці.

— Пст! Сціхні, брат! — казаў арганіст. — Тут і сцены маюць вушы. Няхай толькі пачуе Рузя, — гэта «бабскі стараста», яна тут за сцяной жыве, — дык зара будзе ведаць уся Завалака. Ого! Рузя — гэта жывая завалацкая газета!

Марцук трывожна агляну́ўся на дзверы і сцены, а Харашуха, смеючыся, гаварыў:

— Не бойся, не заесць! Хоць і зубастая яна: толькі не дайся ўкусіць. Ды тут, бачыш, гаспадыня не вінавата.

— Дык што ж? То па-твойму — вінаваты я?

— І ты не вінаваты, — казаў Харашуха.

— Дык, значыць, пробашч?

— І пробашч не вінаваты!

— Дык хто ж, калі так? Я прыйшоў да цябе на раду, а ты, я бачу, пачынаеш з мяне смяяцца.

Тут Марцук аж пачырванеў і чуць не сарваўся з крэсла, нават курыць перастаў.

— Супакойся, васпан, і вось паслухай: я саўсім не смяяўся. Вінаваты тут адвечныя парадкі. Праз многа вякоў, з пакалення ў пакаленне, гаспадыня здабывала сабе пры ксяндзу такое становішча, якое цяпер з ёй зраслося назаўсёды. Кажуць вучоныя, што ў прыродзе нічога не прападае. Так яно было і тут. Гэта відаць нават зназоваў, якія гаспадыня ў гісторыі мела: перш называлі яе служанкай, пасля шафаркай, пасля гаспадыняй, пасля ахмістрыняй, яшчэ пасля — паняй, а цяпер і так няможна, цяпер трэба ўжо казаць: «Проша пані!»

— Не ўсё гэта роўна — паня ці «проша пані?» — засмяяўся Марцук.

— Адразу відаць, што васпан — чалавек не практычны: я, ездзячы па свеце, не з адной печы хлеб еў, дык вось ведаю добра, што можна, а што і няможна.

— Але што ж мне рабіць? — перабіў арганіста Марцук. — Я ж не арганіст, не закрыстыян, але ксяндзоўскі бацька.

— Чакай, чакай, — казаў Харашуха, — гэты тытул у нас нічога не вартуе: будзь ты сабе і дэканскі бацька, калі ты залежыш ад гаспадыні, дык ты роўны нашаму брату ці нават касцельнаму дзеду. На гэта ўжо няма ніякай рады. Але не мяшай мне ды слухай. Дык вось, як рана спаткаеш гаспадыню, то на якіх пятнаццаць крокаў здымі шапку і скажы: «Дзень добры, проша пані!» Вось так.

Тут Харашуха, узлажыўшы шапку, адышоўся да дзвярэй, пасля зрабіў крок наперад, зручна скланіўся і паважным голасам сказаў: «Дзень добры, проша пані!» — і нізенька пакланіўся.

Марцук засмяяўся. Арганіст, пыхкаючы люльку, гаварыў далей:

— Пасля пытай яе: «Як пані здровечка, проша пані? Ці пані, проша пані»… таго-гэтага…

— Ой, ліха! Я так не патраплю, — казаў Марцук, крэпка ўздыхаючы.

— Патрапіш, як бяда прыцісне! І я тож патрапіў, як трэба было, а меў калісьці фанабэрыю большую ад вашэці, бо то мы, маладыя, былі тагды нібыта дэмакраты.

— А гэта што за ліха? — перабіў Марцук.

— Аб гэтым скажам другім разам. А цяпер яшчэ адно: трэба ведаць, як даўно гэтая гаспадыня ў твайго сына служыць? Каторы ўласне гадочак?..

— Нашто ж гэта? — здзівіўся Марцук. — Дый ужо чацвёрты год канчаецца. Перш была ў яго на той парафіі, а пасля, як ведаеш, прыехала з ім сюды. Прыбіралася нібыта выехаць. Ой, хітрая яна штука! Я зразу змеркаваў, што ўся гэтая камедыя была выдумана, каб нас выжыць з плябаніі. І выжыла! А сама асталася.

— Дык вось гэта вельмі важна, каторы год, — казаў арганіст. — Бо першы год, бачыш, гаспадыня кажа: «Пробашча кухня, пробашча хата, ксяндзоўскія куры» і г. д. На другі год ужо гаворыць гэтак: «Нашая хата, кухня, нашыя куры, каровы» і г. д. А на трэці год — трэцяя песня — на самую высокую ноту: ужо кажа: «Мая кухня, мая гаспадарка, мае куры, каровы, цяляты…» Тагды ўжо няма ніякага ратунку! Пасля кажа: «Мой пробашч, мая парафія» і г. д. і яшчэ горш. Дык вось, мой міленькі, — цягнуў далей, аддыхнуўшы, арганіст. — Гэта ведаючы, ты ніколі не смей казаць: «Як сёлета, ці капуста ў пробашча ўдалася?» Але пытай гэтак: «Як, проша пані, — ці капуста ў пані ўдалася? Ці ў пані куры нясуцца? Ці многа, пані, маеш кароў?» і г. д. А як збяруцца дзве гаспадыні, дык вось так гукаюць паміж сабой: «А ці ў пані пробашч паслушны? Бо мой дык яшчэ не дужа». А гэта ёй у адказ: «Ну, я там мала аб што пытаюся! Раблю так, як уважаю, — вось і ўсё».

— Адкуль ты ўсё гэта павыцягваў? — дзівіўся Марцук.

Яны і дагэтуль часта з сабой спатыкаліся. Але цяпер так сышліся, што пры другой люльцы падружыліся насмерць! І самі не заўважылі, як сталі гаварыць «ты».

— Хэ, хэ! — смяяўся Харашуха. — Адкуль, кажаш, я гэта ведаю? А вось і не скажу, адкуль! Бо інакш не прыйдзеш больш да мяне па раду, калі адразу выведаеш усе мае сакрэты. Адным словам, калі так падыдзеш да пані гаспадыні, дык і ўлезеш у ейную ласку па самыя вушы, а тагды табе і ксяндзоўская ласка не патрэбна.

— А можа, і праўда? — казаў Марцук.

— Праўда, найпраўдзівейшая праўда! Я сам, будучы маладым, папаўся ў адной парафіі ў рукі такой гаспадыні. Што робячы, угаварыўся я на ксяндзоўскія харчы. Спачатку ўсё ішло добра. А пасля, штодзень — то горш. Уласне я ні з таго, ні з сяго стаў называць гаспадыню «васпані»: яно, па-мойму, нічога такога, але па-ейнаму лічылася вельмі абідна. Ды вось у вочы мне не сказала, толькі ўдарыла па чым іншым. Я толькі пасля дагадаўся сам… Ага, значыць, — талкаваў далей Харашуха, — стала карміць мяне горш і горш. А нарэшце замест мяса дае мне голую косць. Тут ужо мяне злосць разабрала: я гэта — за талер-

ку — іду да пробашча. «Так і так», — кажу яму і паказваю тую праклятую косць. І ты, можа, думаеш гаспадыня скапыцілася?

— Ну, ну? — дзівіўся Марцук і падсеў бліжэй.

— Ані-ні! — казаў Харашуха. — Узялася, брат ты мой, у бокі і пэўным голасам кажа: «Менса з’яд, а косьць показыва». Ну, і я астаўся і галодны, і дурны. Прабаваў я сам сварыцца з гаспадыняй — нічога! Яшчэ пасля стала мне варыць без солі, а голая косць стала штодзённай патравай. Хацеў я ўжо кінуць парафію, але шкада было: парафія была добрая, арган новы, а ў хоры былі дружныя спевакі — мая першая праца. Тагды я задумаў — проста са злосці — ажаніцца: ужо намеціў сабе дзяўчыну. Праўда, талковая была дзеўка, і прыгожая, і работніца і галасістая. Я ўлюбіўся проста без памяці; і яна стала да мяне хінуцца. Але для ейных бацькоў я быў яшчэ смаркаты. І вось якраз, на тое ліха, падкруціўся тут нейкі амерыканец — і языччлівы, і хітры і… з далярамі. Той гад пераманіў на свой бок бацькоў. Што там было з маёй ненагляднай, я і сягоння не ведаю: больш з ёй не спатыкаўся. Дык вось, значыць, я астаўся з гарбузом. Ведама, што пасля таго я пакінуў ксяндзоўскі стол і ўгаварыўся ў адной бабусі на мястэчку. Але і тут бяда хадзіла за мной услед: тая бабуся была ўдава, ды не старая. Харчы, праўда, былі добрыя: яна мне гадзіла, як магла. Я стаў папраўляцца і крапчэць, і быў цалком здаровы. Аж гэта мне ані ў думках, што бабуся ўкляпалася ў мяне. Вось пайшлі плёткі па ўсім мястэчку і дайшлі да пробашча: тут ксёндз мне вымаўляе, тут з мяне людзі смяюцца, тут мая бабуся вар’яцее… Ледзь я з усім гэтым развязаўся. Пасля я перабраў некалькі другіх кухарак, але, відаць, як той кажа: «Нехта кінуў благім вокам» — усё складалася проціў мяне: то адна нячыста варыла, то другая загнала мяне ў хваробу, то там іншае ліха… Тагды, брат, годзе з гаспадыняй сварыцца! Кажу, спаткаўшы яе: «Дзень добры, проша пані, як у пані куры, проша пані? О, яка ў пані важна целенця, проша пані» і г. д. пятае-дзясятае…

— Ды, я бачу, васпан, маеш добры язык! — казаў Марцук.

— А што ж ты думаў? Воўка ногі кормяць, а арганіста — язык. Арганіст без’языкі няхай ідзе лепш сабакам сена касіць, бо прападзе, як бяззубы кот. Што варты сталяр без рук, конь без ног ці звон без сэрца — тое арганіст без языка. Лысы арганіст можа сабе быць, і такія нават бываюць лепшыя, але без языка… Ды чакай жа, васпан, аб чым я гэта гаварыў?

— Нейкая «целенця», што гэта такое?

— Ага! — засмяяўся арганіст. — З гэтым таксама была камедыя. Быў я ўжо ў другога пробашча; таго кінуў, хоць усё наладзілася як найлепш: не хацеў, бачыш, кланяцца дурной бабе. Ды наагул з той пары я дзясятаму заказаў сварыцца з гаспадынямі, дый дружыцца не пробаваў — лепш далей ад гэтага зелля: ужо лепш сварыцца з пробашчам, як з гаспадыняй.

— Ды ты пачаў гаварыць аб той «целенці», — перабіў яго Марцук.

— Ага, так, так! Я ўжо, бачыш, старэю і забывацца стаў у разгаворы. Дык вось быў я ўжо ў другога пробашча: служыў там гадоў з дзясятак. Добры быў чалавек, вечны яму спакой! Але меў тож свае, як кажуць, мінусы: канцылярыю, бывала, вёў, як кажуць, па-архіерэйску. На ўсе ўрадовыя паперы меў толькі адзін нумар — трыццаць шосты, як суседзі называлі — «лятучы нумар». І думаеш, што гэта каму шкодзіла? Нічога! Я, калі, бывала, пападу якую паперыну, дык стаўлю нумары па парадку. А пробашч як папала; найчасцей трыццаць шосты — «лятучы». І, брат ты мой! Дажыў чалавек паўвеку ў духоўным стане, а на юбілей дастаў ад урада нейкі медаль «За верную службу», ды ад біскупа — ганаровага каноніка. Затое гаспадарку вёў акуратна: меў і любіў добрых коней і гадаваў расовае быдла. А цяляты былі як лялечкі: стройныя, гладзенькія; бывала, глядзіш — не налюбуешся. Дык вось падчас візітацыі біскуп з прэлатамі заходзіў аж у стайню і ў хлявы. Біскуп, ведама, пахваліў гаспадарку. Прэлаты і ксяндзы, ходзячы каля біскупа, часта паўтаралі: «Ваша Эксцэленцыя! Ваша Эксцэленцыя!» Вось жа гаспадыня пасля расказвала па цэлым мястэчку, што, кажа, усе прэлаты хвалілі і паўтаралі: «Важна целенця!» Дык і ты, браце, — закончыў Харашуха сваю лекцыю, — калі хочаш быць у гаспадынінай ласцы, умей падхваліць ейную работу і гаспадарку; толькі ж трэба зручна: у сваім часе, у належным месцы, адпаведным спосабам і належным манерам.

— Але вось не маю грошыка пры душы, — бедаваў Марцук, — а курыць так хочацца, што жыць не магу.

— Ці вочы маеш добрыя? — спытаўся Харашуха.

— Вось віджу табаку на паліцы, — казаў Марцук.

— Брава! Закурым яшчэ па адной піпцы, — смяяўся Харашуха. — Але я кажу для таго, што ты, брат, сядзіш без работы ў сваёй лазні і дарма ржавееш.

— А што ж рабіць? Служыць ужо не магу: старасць — не радасць. Хацеў на стыд сыну ісці жабраваць, дый не магу адважыцца.

— Ну, жабраваць будзе яшчэ парой. Вось лепш займіся пчоламі ці хоць лаві рыбу — і грошык які вылавіш. А прыйдзе восень, паедзеш са мной па калядзе!

Стары Марцук вярнуўся дахаты з жывой надзеяй, з поўнай чацвёртай люлькай і з цэлым капшуком табакі ў запасе. Ужо сягоння нават са сваёй старухай не пасварыўся. Дый ксяндзы неяк да Марцука прыхінуліся, відаць, — нехта недзе, з нейкага боку, нейкім спосабам да іх падышоў, бо вось вікарый стаў ад пары да пары заходзіць да Марцука і фундаваў яму свае папяросы, а сам пробашч кожны тыдзень прысылаў бацьку пачку самай крэпкай махоркі. Стары Марцук быў абтабачаны з пят да галавы, а старуха ў табачным дыме свяціла сабою, бы тая зорка між хмараў, і смяялася да старога і весела гутарыла; часцей, праўда, злавалася і дагрызала старому, але Марцуку было ўсё роўна, абы толькі была табака. А табака, як бачым, была і не зводзілася. Цяпер толькі Марцук пачаў жыць поўным ходам: ізноў пачаў чарадавацца ражанец з люлькай, а люлька з ражанцам; ізноў старуха была абкурана на ўсе бакі, дык чаго ж болей і трэба? Так нямнога чалавеку да шчасця патрэбна! Але шчасце ходзіць па свеце адно і бывае вельмі нетрывалае, а няшчасце адно не ходзіць: яно зараз родзіць бяду, а бяда родзіць гора, а гора — нядолю, — а з усяго разам складаецца наша беларускае жыццё.

Вось жа і Марцук: ідучы раз з касцёла, нейкім здарэннем паслізнуўся і паваліўся на гладкай дарозе і натрудзіў сабе правую нагу, дык аж злёг у пасцель, так і залёг надоўга, а як залёг, так і заляжаўся на пару гадоў. Ведама, старому і саломінка бервяном стане.

## VII. КАЛЯДА

З прычыны снягоў Каляда ў Завалацкай парафіі вельмі зацягнулася, так што ксёндз Марціноўскі найдалейшыя вёскі і фальваркі аб’язджаў ужо аж пад серадапосце. Дый год удаўся нейкі вельмі няўдалы: толькі перайшлі Каляды, як зара наскочылі Запусты. Адным словам, Мясаед быў такі кароткі, што пакуль жаніхі ездзілі ў сваты і ўгаворваліся аб пасагі, дык надышла запусная нядзеля — і вяселлям канец! Завалацкая парафія была тагды вельмі вялікая і разложана досыць асаблíва: ішла клінам на мілі тры, аж пад самую Новую Мураванку. Не могучы падолець усяму, бо і хворых пад вясну было многа — а тут, як на тое, вікарый ляжаў хворы на тыфус — ксёндз Марціноўскі аддаў

некалькі вёсак з таго боку абкалядаваць мураванскаму вікарыю, як смяяўся: «Беднаму суседу аддаў на запашку». А сам аб'язджаў і абыходзіў на дзень па хат 60–70 у вёсках, а па фальварках па хат 30–40. На серадапосце апошняя мяцеліца, найбольш бадай снежная, затармазіла пробашча на далёкіх фальварках і прымусіла начаваць. Назаўтра раніцай, спяшаючы на экзеквіі, пробашч з арганістам так завязлі ў Завалацы на Замкавай вуліцы, што не маглі выбрацца. Трэба было раскопваць гурбу снегу якраз насупраць хаты Пятровічаў.

— Пахвалёны ў хату! — сказаў арганіст, увайшоўшы і абтрасаючы снег.

Увесь абсыпаны снегам, вушы абледзянеўшы, адзеты ў вялікі чорны кажух з стаячым каўняром, падвязаны чырвоным поясам — арганіст выглядаў на важнага, багатага купца.

— Ці не дасьцё ратунку, суседзі? — пытаў пан Харашуха, здымаючы рукавіцы і паціраючы рукі. — Так мы тут, — кажа, — завязлі ў гурбе, што ані туды, ані сюды. Божа ж ты мой! Вот снягі… Мусіць, ад пачатку свету такіх не было, а ўжо і вясне быць пара! Дык ратуйце, як можаце, бо прывяду сюды ксяндза і пачнём пяяць экзеквію.

— Просім, просім! — казалі кабеты.

— Што, на экзеквію[4]? — пытаў, смеючыся, Харашуха, а сам хадзіў па хаце, тупаючы нагамі і расціраючы скрэпшыя рукі.

— Трэба ж заклікаць ксяндза ў хату: змерзне на двара! — замітусілася Марыля.

— Ну, мы так скора не мерзнем: у нас яшчэ калядны дух трывае. Нам вось толькі трэба лапаты — пракапаць гурбу.

Тамаш скочыў да суседзяў — клікаць на помач, і зара сталі збірацца мужчыны з дзеравянымі лапатамі. Тым часам і ксёндз Марціноўскі ўвайшоў у хату. Гануліна школа была сабраўшыся; да камплекту бракавала траіх далейшых дзяцей. Віктa сядзела ў куце і калупала ў носе. Кастусь Юрэвіч гэты раз начаваў тут жа, бо нягода была вялікая, а ён жыў найдалей. Дзеці, убачыўшы ксяндза, выйшлі з-за стала і рассыпаліся па хаце. Меншыя баязліва паглядалі на вялікі кажух арганіста і на яшчэ большае ксяндзовае футра. Ксёндз Марціноўскі, сам невысокага росту, саўсім загінуў у сваім футры. Увайшоўшы, ён так і сеў у футры на лаву. Пасля, аднак жа, калі работа пры раскопцы зацягнулася, а футра стала прыпарваць, Марціноўскі развязаў пояс і расшпіліўся; а яшчэ за мінут пяць зняў і футра. Дзеці, як мае быць, прывіталіся. Толькі адна Віктa не вылазіла з-за шафы, дзе вельмі пільна церабіла сабе нос.

— То ест бардзо добжэ, — казаў пробашч да Ганулі, — жэ ты учыш дзеці.

І тут пачаў ксёндз далей тлумачыць — шырока і глыбока, што «ойчызна» гэтага ніколі не забудзе; што гэта абавязак патрыятычны і г. д. А дзяцей падахвочваў, каб стараліся, як могучы, бо і яны — дзеці «ойчызны маткі».

Ксёндз гаварыў, як натхнёны прарок, з праняццем і агнём, а ўсе былі заслуханы, як той кажа — як на нямецкім казанні. Тым часам Вікта вельмі і вельмі ўхітралася так калупнуць глыбока ў носе, каб такі ж дастаць таго праклятага «казла», што дагэтуль не даваўся. Вінцук украдкам шчыпаў хлеб, што ляжаў на стале, накрыты абрусом, а Кастусь гладзіў рукой па футры, што ляжала на лаве і прабаваў, ці крэпка прышыты гузікі. Певень, што ўхітрыўся вылезці з падпечку, прыжмурыўшы адно вока, вельмі цікава слухаў пачатку прамовы, цяпер таксама — відаць, згубіўшы цяг гутаркі — заняўся сваім курыным дзелам: хадзіў сабе свабодна па хаце, адпяяў громка два разы і, знайшоўшы зерне, стаў клікаць курэй; тыя, адціснуўшы і адваліўшы застаўку, павырываліся з падпечку і рассыпаліся па хаце. Тут ужо цалком скончылася ўвага слухачоў: дзеці глядзелі на курэй і на Ганулю, каторая паспешна заганяла іх назад у падпечак; Марыля пайшла супакойваць дзіця, што вось пачало плакаць; арганіст, скрыпнуўшы дзвярамі, пайшоў да людзей, што раскопвалі снег, а сам пробашч… абарваўшы прамову, саўсім празаічна курыў папяроскі, быў нейкі вельмі невясёлы.

Гэтаксама адзін ксёндз — гэта не аб Марціноўскім, але аб нейкім другім!.. — дык вось так быў праняты сваёй навукай у касцёле, што забыўся аб усім на свеце. Дзела было вечарам, па нешпары, а ксёндз быў крышку блізарукі; вось ён, знакам тым, гаворыць і гаворыць, тлумачыць і талкуе, аж тут раптам жахнуўся. Што такое? Чуе — нехта торгае яго ззаду за сутану. Аж пазнаў свайго касцельнага дзеда.

— Чаго табе? — пытае.

— Ойчанька! — кажа дзед. — Як скончыш навуку, замкнеш касцёл. Вазьмі, — кажа, — ключы!

Ксёндз гэта прыгледзеўся, аж у касцёле нікагусенька і няма, усе разышліся…

— Дзеці, берце лемантаржы! — загадвала Марыля. — Я так жа уча чэнсьць дзеці, — казала яна, звярнуўшыся да пробашча. Ёй вельмі прыкра было, што пробашч хваліў толькі Ганулю. Але ксёндз не адказаў нічога, толькі дастаў новую папяросу, прыкурыў ад першай, а недакурак кінуў на зямлю і затаптаў

нагою. Зара накінуў футра на плечы і моўчкі выйшаў на двор: ён вельмі спяшаўся да касцёла на тую экзеквію.

Мужчыны ўжо раскапалі снег насупраць гэтай хаты і пайшлі далей, бо праз пару хатаў была таксама вялікая гурба. Неба было праяснеўшы, а нават паказалася сонца. Хмары, аднак, хадзілі вельмі нізка — проста, здаецца, поўзалі па зямлі. І вось вецер ізноў пачуў падзьмухваць мацней і мацней; хмары раптам згусцелі; снег пачаў падаць вялікімі клапцямі, каторыя, аднак жа, не далятаючы да зямлі, закружыліся ў паветры. І вось разгулялася новая мяцеліца. Вецер перайшоў у віхор, віхор у буру. Цёмная хмара абняла кругазор, пасля саўсім лягла на зямлю; і вось пачала поўзаць па зямлі, як змора, на сваіх грудзях, як бы скрыгочачы зубамі і жадаючы загубіць усё па дарозе. Але зямля была ўмерзшы і цвёрдая як камень — не было магчыма яе ўкусіць. Дык вось пачалося страшэннае змаганне: хмара пачарнела са злосці, пенілася снегам, віхрамі рвала і крышыла ўсе перашкоды, што спатыкала на дарозе. Свіст ветру, стогны голых дрэў, плач тонкіх галінак, нейкі жудасны скрыгат, лямант і стагнанне страхі, вокнаў, дзвярэй і цэлай хаты — напоўнілі жахам малых вучняў, каторыя сціснуліся ў кучку на покуці і не смелі прашаптаць слоўца. Ганула малілася ў душы, а Марыля туліла дзіця да грудзей:

— Псякрэв! Пане добродзею… — казаў пробашч, уваходзячы ізноў у хату.

Увайшоў і арганіст, каторы якраз перад самай бурай забяспечыў каня. Трэба было прачакаць буру.

Нарэшце пачало праясняцца: св. Ілля, не маючы ўжо, відаць, снегу ў запасе, сыпнуў на канцы з неба нейкімі крупкамі — белымі, як манна, але вычарпаліся і гэтыя. Толькі вецер, па старой прывычцы, перакідаў снег з месца на месца.

Уся работа мужчын была змарнавана, і трэба было пачынаць ізноў. Арганіст пабег да работнікаў, каторыя сабраліся ў дзядзькі Аляксандры Матусевіча і спакойна курылі.

— Браточкі, што ж вы заселі на вечны адпачынак? — загаманіў на іх арганіст. — Вось ужо дзясятая гадзіна, а пробашч спяшыць на экзеквію. А вы сабе седзіцё — не дбаеце, а вунь дарогу ізноў завеяла.

— Дык няхай пробашч запяе, каб бура перайшла, — сказаў, смеючыся, дзядзька Матусевіч.

— А ці ж, васпан, не бачыш, што бура перайшла? — казаў арганіст. — Кажуць людзі, што благому нічым не дагодзіш.

— Ну, ну! Не сядзіце, — адказаў дзядзька. — Пойдзем, хлопцы! — звярнуўся ён да мужчын. — Бо яшчэ пан арганіст свяціць нас пачне.

Тым часам у Пятровічаў ксёндз Марціноўскі загадаў Ганулі весці лекцыю.

— Ну, чытай ты! — загадала Ганута Аляксандравай Стэфцы.

Але і сама Ганутя стыдалася пры ксяндзу гаварыць да дзяцей: заўсёды гаманіла з імі па-беларуску і такім спосабам вучыла іх чытаць па-польску, а тут трэба было зважаць на духоўную асобу і гаварыць па-польску. Дык дзеці бянтэжыліся яшчэ горш. Вось жа Ганутя ўжывала толькі такіх агульных кароценькіх зваротак, якія спатыкаюцца ў абедзвюх мовах: «Ну, далей, так-так, о-о, не так!» і г. д. Або гаварыла на польскі спосаб па-беларуску, думаючы, што ўласне гэта чыста польская мова, як: «Цо ж ты робіш?», або «Дзе ж ты чытаеш?», або «Ну, чэго ты надэлася?»

Але Стэфка наагул слабая чытальніца, дык папрабаваўшы дзвюх літар: «дэ-э-ддд-э-э-э…» пачала плакаць. Ганутя нязначна стурханула яе ўбок са словамі: «Эх ты, плакса!» і загадала чытаць свайму Вінцусю. Вінцусь сабраў увесь дух і голасна стаў выводзіць: «Пэ-эр-зэт-а — пша; пэ-эр-зэт-ы — пшы; пэ-эр…»

— Як ты іх учыш?! — крыкнуў пробашч. — Ты іх тылько псуеш: сылябізоваць не потшэба — тылько надармо мэнчы дзеці. Тшэба одразу чытаць по вершху.

— А як жа ж, ойча духоўны? — здзівілася Ганутя. — Дык жа іначай няможна!

— Вот як! — сказаў ксёндз і, падышоўшы да стала: — Чытай! — загадаў Вінцусю.

Але Вінцусь паглядаў то на ксяндза, то на ланцужок, што боўтаўся на ксяндзовых грудзях, то на лемантар — і не ведаў, што рабіць.

— Чытай просто по вершху! — камандаваў пробашч. — Чытай вот тутай, в тэм мейсцу.

Вінцусь уперыў вочы ў лемантар і адным махам прачытаў: «Пша, пшэ, пшо…»

— Добржэ, добржэ! — хваліў ксёндз, а сам з трыумфам глянуў на ўсіх і сказаў да арганіста, каторы якраз вось увайшоў у хату і сеў на лаву.

— Відзіш, пане Харашуха, жэ я так дзесенць разы прэндзэй наўчыл бы дзеці, як та баба!

— Як там Бог даў бы, — сказаў Харашуха.

Але ўжо пробашч разагнаўся і пачаў выводзіць і тлумачыць усякія сістэмы, інструкцыі, метады і правапісы; успомніў на-

ват аб нейкіх вельмі важных пастановах Кракаўскай акадэміі і заручыўся, што каб ён сам мог і ўзяўся, дык у дзве-тры нядзелі больш навучыў бы, чым яна, Гануля, праз год.

Ганулі слёзы закруціліся на вачох, стаяла безабаронная, як бы засуджана на смерць.

Тут арганіст прымеціў, што Гануля, хоць удава, але маладая жанчына і была ўласне ў самым расквеце жаночай красы, здароўя і стыдлівасці. І цяпер, як тая нявінная Зузанна папала на гэты суд і не ведала, як бараніцца; аднак яна ясна чула сваю нявіннасць, а ў ейных глыбокіх вачах гарэў агонь адважнай Юдыты. Ёкнула нешта пад сэрцам старому кавалеру, аж не мог далей слухаць ксяндзовых трэляў.

— Пробашчу досыць таго, паедзем! Юж ест по дзесёнтэй.

Але ксёндз ані чуў, ані слухаў, але, нагаманіўшы на матку, хваліў сына; гладзіў яго па галоўцы і прапаведаваў яму светлую будучыну, а другім дзецям казаў яго наследаваць.

— Добржэ, хлопцэ, добржэ! — казаў ксёндз Марціноўскі і, паказваючы пальцам, далей гаварыў: — Но, чытай то!

Але Вінцусь з вялікай радасці не мог далей зрушыць з месца: круціў галоўкай, ёрзаўся на лаве, бэкаў наўзгад, ды нічога само не складалася; а Кастусь Юрэвіч вельмі з яго падсмейваўся. Пробашч, ужо крышку нецярплівы, падказваў і падахвочваў хлапца.

— Відзіш, тут стоі літэра «у», сьмяло, сьмяло!

Але хлапец аніяк не мог злажыць гэтага складу. Тагды ксёндз сказаў сам, а за ім паўтарыў і Вінцусь — «пшу». Далей ішоў склад «пшы». Вінцук глянуў скоса на гэты склад, кінуў тож вокам на Кастуся і проста зацяўся. А пробашч націскаў, стоячы над галавою.

— Відзіш, — кажа, — остатня літэра «ы», ну, складай сам: чытай сьмяло! чытай… ну, ну…

Тут Вінцусь сабраў увесь дух і ляпнуў, як палкай па плоце: «Пштык!» Але ў гэты самы момант зразумеў, што прачытаў дрэнна, пачырванеў як рак і проста хацеў бы скрозь зямлі праваліцца. Дзеці — ведама, як дзеці — не зважаючы на важных людзей і на духоўную асобу, бухнулі такім смехам, што не маглі стрымацца, а Кастусь аж пакаціўся на лаве. Дый старшыя не маглі стрымацца: надта яно неяк смешна зламылася.

Ксёндз Марціноўскі запаліўся перш як агонь, але, бачачы агульную вясёласць, засмяяўся і сам, сказаўшы да Вінцуся: «Праўдзівы ты малы пштык! Але і ты шэльма!» — сказаў пробашч на Кастуся і здорава закруціў яго за вуха.

Лекцыя перарвалася сама сабой: дзеці павылазілі з-за стала развітвацца з ксяндзом. Дарога была пракапана, пагода была лепшая. Ксёндз улез у сваё футра, даў пахвалёнку і паспешна выйшаў з хаты, бо вельмі спяшаўся на экзеквію.

— Мусіць, я тут буду яшчэ гасціць, — казаў арганіст, вярнуўшыся ў хату, бо забыўся рукавіц.

— Просім, просім! — казала Марыля. — Можа, пан будзе добрым кавалерам для маладой удавы.

— Го-го! Чаму ж не, чаму ж! — сказаў Харашуха і глянуў на Ганулю. Ганулю пачырванела.

Маладая ўдава Ганулю мела гадоў дваццаць сем-восем і адстаяла б за многіх паненак. Цяжкая праца, а нават недастатак не забілі ў ёй прыроднай беларускай красы і здароўя. Не дбаючы аб моды, фасоны і ўборы, яна мела, аднак жа, талковы густ у адзежы — насіла адзежу сваёй работы, але гэта неяк асабліва прыходзілася ёй да твару. Нават часам сумысна Гануля тусавала многа жаночых праяваў красы; сумысна так жа спушчала вочы, тым больш што з пабожнасці пастанавіла другі раз замуж не выходзіць! Дый з вялікай любові да Вінцуся проста забывалася аб сабе. Але хто меў вочы, не мог не ацаніць Ганулі; ейнага прыроднага, як кажуць — гаспадарскага розуму і жыццёвага спрыту. Маладая кабета так умела ў бядзе сама сабе парадзіць — знайсці работу, зарабіць на хлеб і да хлеба, хоць не мела ні зямлі сваёй, ні хаты, — што вось і не згінула і не жабравала; не наракала на долю і не плакала; а з бядой змагалася стойка і дагэтуль перамагала. Гэта людзі бачылі: Ганулю хвалілі, бралі ахвотна на работу, бо Гануля лоўка жала, чыста палола, была справядлівая ў вочы і за вочы і ўмела дзяржаць язык за зубамі. Дык па смерці першага мужа Гануля мела некалькі сватоў; аднак, не разбіраючы, адказала ўсім, і вось далі ёй супакой.

Ведаў аб гэтым і пан Харашуха. Дык вось нешта-нейкае так шчыпала яго пад сэрцам, што аж жахнуўся. «Што ж гэта? — казаў сам сабе. — Ці не ўлюбіўся я? Яшчэ бы чаго бракавала!» А думкі так і хадзілі па галаве: укладваліся новыя планы, жыццё станавілася прыгажэйшае — стары кавалер маладзеў… І так задумаўся, што вывернуў ксяндза пад самай плябаніяй і чуць не накрыў яго санкамі.

— Цо то, пан, едзеш, як сьлепы! — сказаў пробашч.

Але думкі ішлі далей і путалі Харашуху язык пры экзеквіі: два разы згубіў сваю штрофку, хоць знаў псалмы напамяць; а на канцы імшы, пасля «Рэкуесцант ін пацэ!» ляпнуў «Дэо грацыяс!» заместа «Амэн».

«Вось табе і маеш! — сказаў, прыкусіўшы язык, Харашуха. — Першы раз у маім жыцці такая памылка. Саўсім і я зрабіўся, як той малы «пштык». Але ўсё ж такі рэзвы хлапчук!» — думаў Харашуха.

А тым часам у Марылінай хаце ўсе былі невясёлыя і скрывіўшыся, як серада на пятніцу. Сённяшняя прыгода не прыпала да смаку анікому. Вінцусь, няведама чаго, так расплакаўся, што няможна было хлапчаняці супакоіць; нават Марыля, каторая крышку недалюблівала хлапца, пацалавала яго некалькі разоў. Гануля глыбока ўздыхала і ўкрадкам абцірала слёзы. Тамаш прабаваў загаварыць, але ніхто яму не адказваў. Нават Кастусь сядзеў надуўшыся як індык. Толькі Віхта была саўсім спакойная і, седзячы ў куце, дысцыпулкай калупала сабе ў носе.

Найбольш, аднак, былі пакрыўджаныя куры: даўно ўжо сакаталі прыглушанымі галасамі і кудахкалі пад печкай; яны ўжо вельмі згаладаліся, але ніхто аб іх сягоння не помніў. Нарэшце певень, як галава роду, пачуваючы на сабе ўвесь цяжар адказнасці, а такжа націск дзесяці курыц, каторыя прыпёрлі яго да засланкі і не давалі дыхнуць, — упёрся ўсёй мужчынскай сілай і перавярнуў і засланку, і гаршчок, што служыў за падпору. Куры вырваліся на свабоду і нарабілі такога ляманту, што тут усе сталі іх жалець, спачуваць і ратаваць, чым могучы: то ячменем, то крошкамі хлеба, а то хоць звычайнай бульбай. Певень узмахнуў крылламі, задзёр галаву і запяяў так закаціста, звонка і доўга, што неяк усім палягчэла на сэрцы.

## VIII. СТАРЫ КАВАЛЕР

Пан Харашуха доўга хадзіў па сваім трохсажнёвым пакойчыку, пыхкаў люльку і думаў. Аб чым ён думаў? Ведама, стары кавалер: думаў аб сваёй цяжкай долі. Га! Калісь жылося шырэй, ясней, а цяпер…

— Што мяне ўпёрла ў гэтую дурную Завалаку? Чаго я тут сяджу-мадзею? — пытаўся сам сябе арганіст. — Праваліся яна, гэта глуш і дзіч!

І наагул жыццё паказвалася яму такім марным, што проста ўцякаў бы сам ад сябе, каб было куды.

— Да чаго я дажыўся? — гаманіў ён сам з сабою. — Кожны чалавек мае сваю мэту, а я?.. Ну, я нібыта арганіст: працую як вол, не п’ю, не лайдачу, не гуляю ў карты; а вот нават і грошай

не сабраў на чорную гадзіну! Мусіць, праўду нехта казаў, што старому кавалеру і Бог не памагае.

Агарнула яго нейкая балючая, непраходная цемра; але на самым дне душы, праз хмары горкага задумення, прасвечвала ясная зоранька — Ганулья. Бачыў яе ў фантазіі, як сядзела пры калаўротку і неяк надта ж хораша адводзіла левую руку з ніткай; а тут рысаваліся ейныя грудзі, поўныя жыцця і агню; вочы шэрыя з зеленкаватым адценнем, зрэнкі безбярэжна глыбокія; мяккі, шаўкавісты волас… Постаць — не німфы-сухотніцы, але прыгожай беларускай жанчыны, стыдлівай і пакорнай, але адважнай і лёгкай, працавітай і ахвярнай. Праўда, Ганулья была невучоная, але ясна прачувала праўду і кожную справу расстрыгала практычна.

Такія думкі блудзілі па стурбаванай лысай галоўцы пана Харашухі. То вось бачыў новы абразок: Ганулья паланее перад пробашчам (пачырванела, як макаў цвет!), як той стыдзіў яе за сілабіз. Здаецца яму, зара пайшоў бы і вылаяў бы ксяндза ў вочы: аж стыдна стала цяпер, чаму там не заступіўся. Ганулья ў сваёй школе мела і мусіла мець павагу: дык як жа можна, хаця б нават і ксяндзу, адбіраць без дай прычыны павагу перад вучнямі і то беднай, безабароннай жанчыне?..

Адным словам, з усяго сама сабой выводзілася пастанова: Харашуха, жаніся! Бяры Ганулю!

— Ой, што за думка? — смяяўся з сябе стары кавалер. Пачынаў выцягваць перашкоды: Ганулья — простая жанчына, а ён, знакам тым, арганіст: людзі будуць смяяцца. Значыць, саўсім няроўная пара.

Але ці ж не стыдна жыць так, без ідэі, без сям'і, без жывога чалавека ў хаце? Ні я манах, ні я хто: вот проста — жыццё… Праўду нехта казаў, што ў народных пагаворках скрыта глыбокая мудрасць — мудрасць выраблена вякамі. І вось жа адна такая пагаворка кажа: «Жыццё старога кавалера — гэта жыццё сабачае».

— Тфу! — плюнуў арганіст з пагардай і стаў шыбчэй хадзіць па пакойчыку. — Вось, кажа, і дажыўся чалавек.

Цяпер стараўся Харашуха аб нічым не думаць, але думкі назойліва лезлі ў галаву.

«Ганулья — удава, мае хлапца, — прыйшла новая перашкода. — Толькі нажывеш бяды і клопату».

«Што ж такое? Хлапца вывучу на арганіста або на ксяндза; відаць, здольны малы "пштык"».

Харашуха засмяяўся і пакруціў галавою.

«Вось тут усе пробашчавы акадэміі трэснулі, «пштыкнулі». «Чаму, кажа, вучыць сілябізаваць?» І мяне ж калісьці матка гэтак вучыла, і самога ксяндза, напэўна, таксама. Што тут гаварыць: тэорыя — сваім парадкам, а практыка — сваім. Тут Гануля нічым не вінавата».

Так разважыўшы ўсё туды і сюды (ведама, стары кавалер не мае з кім парадзіцца!), арганіст крышку супакоіўся і пачаў пісаць метрыкі. Характар пісьма меў роўны: кожная літара была чытальная, націснена крапчэй пасярэдзіне; а закрутасы бывалі большыя або меншыя, паводле настрою пісакі. Сягоння ён асабліва фантастычна закручваў хвосцікі некаторых літараў. Кожная метрыка пачыналася доўгім камуналам: «Тысяча восемьсотъ девяносто перваго года…» Колькі, колькі разоў паўтараў Харашуха гэтыя словы, змяняючы раз на год апошнюю цыфру! Наагул ён ніколі ў метрыках не мыляўся. Мураванскі дэкан ставіў яго за прыклад арганістам цэлага павета, так што тыя, бедныя, мусілі яшчэ вастрэй выточваць ножыкі, калі прыйшлося скрабаць прыпсутую метрыку ў арыгінале ці ў дублікаце. Харашуха знаў напралёт усе завалацкія парафіяльныя адносіны, усе імёны і прозвішчы, дык рука машынальна ішла сама, роўна і прыгожа выводзячы звычайныя літары і густоўна закручваючы вялікія. Дык вось метрыкі нават не мучылі арганіста: мог пісаць цэлы доўгі дзень. І цяпер, засеўшы і ўглыбіўшыся, стаў выпілоўваць тыя самыя бесканечныя камуналы: «Тысяча восемьсот…»

Але вось у адной хроснай метрыцы, як на тое, кумой была Гануля Якубіха. Харашуха асабліва старанна запісаў яе. Аднак забытыя думкі вярнуліся з новай сілай: трэба было з сабой змагацца. Тут вось прыпомнілася ранішняе здарэнне, і арганіст раптам, без ніякай прычыны, ужо ў чужой метрыцы, пасля літары «пэ» ляпнуў «пштык». Аж жахнуўся стары кавалер, а з таго разгону і абурэння на сябе шарганаў і выдзер цэлую карту, хоць яно неяк там можна было б парадзіць, нават і без скрабання.

Так была знішчана двухгадзінная праца.

Харашуха, злы на сябе, хадзіў па пакойчыку і так заўзята ўцягваў дым з люлькі, што аж скрыпела ў цыбуку. Што робячы, прысеў ён пасля, каб адвесці дух, да фартэпіяна. Але і тут не ішло: дзве басовыя струны былі значна абніжаны, дык дзёрлі вуха і псулі настрой. Даўно ўжо прыбіраўся ён нацягнуць іх да тону, ды за гэтай калядой не было часу. Цяпер жа спецыяльна ўзяўся да работы: дастаў струнны ключ, адчыніў фартэпіяна і стаў калейна падкручваць струны, прабуючы тону. Але тая

ўпорыстая струна не хацела паддацца: круціў яе туды-сюды некалькі разоў — усё тон не падыходзіў да гармоніі. Дык вось, крышку нецярплівы, паціснуў ключом крапчэй, аж наравістая струна сыкнула варожа і, сарваўшыся з свайго калька, сцебанула яго па руцэ. Шрам, як каўбаса, на руцэ, у пару месцах падцёкшы крывёю, быў добрай заплятай хвілёвай нецярплівасці.

— Прападзі ты, такая работа! — буркнуў Харашуха і затрэснуў века фартэпіяна.

Цяпер ужо саўсім злы хадзіў нервова па пакойчыку. Хваціў за люльку, але, як на тое ліха, не было ўжо табакі ані каліўца. Хваціў нервова партытуру імшы св. Цэцыліі і пачаў выпісваць на галасы. І тут не пайшло: у партыі сапранавай паставіў басовы ключ. А як зрабіў далей яшчэ пару памылак, дык, бразнуўшы асадкай аб стол, пачаў машынальна адзявацца, хоць і сам яшчэ не ведаў, куды пойдзе. Глянуў мімаходам у люстэрка, хацеў, па даўнейшай прывычцы, прыгладзіць чупрыну, але валасоў не аказалася ані каліўца, толькі яшчэ чуць-чуць тлеў светленькі пушок. Прыгладзіўшы хоць той пушок, Харашуха націснуў шапку на вушы і бразнуў дзвярмі.

«Куды?» — пытаў сябе. «На шпацыр!» — адказаў сабе. «Адзін? Э!.. Стары кавалер, будзеш бадзяцца, як с… Фу! Стыду ты не маеш. Хіба вачэй пазычыш у каго?.. Лепш вярніся назад!»

«Пайду да Марцука! — раптам пастанавіў Харашуха і вельмі ўсцешыўся з такога адкрыцця. — Там і табака цяпер бывае, — талкаваў сабе арганіст, — а я сам аб гэта калісьці пастараўся. Ну, і сам Марцук якраз хварэе, трэба ж яго адведаць: пагаворым — душу адвядзём. Аж дзіўна, чаму я перш аб гэтым не дагадаўся. Э-э эх!..»

Тут Харашуха аж памаладзеў, засмяяўся сам да сябе і чуць не падскочыў з радасці. Але тут раптам паслізнуўся на гладкай дарозе і ляпнуў, як кажуць, «з усіх чатырох ног» пад самым парогам у Марцука. Ужо ж як не ідзе чалавеку, дык не ідзе! Тут толькі прыпомніў Харашуха, што, выйшаўшы з хаты, спаткаў бабу з пустымі вёдрамі і забыўся плюнуць.

Харашуха ўвайшоў да Марцука з мінай чалавека, каторы нёс гаршчок з ежай, зваранай у суседа, і па дарозе гаршчок разбіў. Але, увайшоўшы, як глянуў на старога Марцука, ляжачага, як Лазар, і на столік, што стаяў пры ягоным ложку, дык так рассмяяўся, што проста не мог стрымацца. Бо і было чаго: стары ляжаў на ложку, накрыты рабой зіркатай коўдрай… Ну, але гэта яшчэ нічога і не з гэтага смяяўся арганіст! Цікавейшы быў той столік каля ложка і тое, што там на ім было: а там ляжаў

капшук з махоркай, люлька і ражанец; стаяла бутэлька з водкай і чарка; ляжала пры гэтым грубая кніжка да набажэнства і акуляры; стаяла адна вялікая банка; дымела маленькая лямпачка, што называюць «казінае вочка»; ляжаў клок ваты, накручаны на палачку; стаяла нейкая бляшанка з керасінай, і апроч таго было там яшчэ многа рознай драбязы, каторай патрэбы адразу нельга было зразумець.

— А бадай цябе так і гэтак! Што ж ты, грахаводнік, вырабляеш? — казаў Харашуха.

— Як то што? Ляжу, як бачыш, і хварэю. Што ж ты тут смешнага бачыш? — Стары Марцук аж скрыўдзіўся.

— Ды я не тое! — казаў Харашуха. — Хварэць то не штука, але што ты злучыў святое з праклятым і як то кажуць: «І Богу свечка, і чорту агарак». Як гэта: перш вып’еш, а пасля памолішся?

— Ну, дык што? Вып’ю і памалюся: я не ўпіваюся — што ж тут грэшнае?

Марцук і сапраўды ўжо пачынаў гневацца, але арганіст спахваціўся і гутарку абярнуў у жарт. Закурылі, разгаварыліся, і Марцук павёў пры суседзе звычайную практыку жыцця і лячэння ў хваробе, выкладаючы пры гэтым патрэбу і карысць кожнай рэчы, што была на тым цікавым століку.

— Відзіш, закурыць жа трэба: без гэтага не вытрываеш у такой хваробе, а табака цяпер у мяне добрая.

— Праўда, што ж гаварыць! — патураў і падтакваў Харашуха. — Але як жа хвароба? Нешта доўга, васпан, заляжаўся; а тут і вясна за пазухай: бачыш, які міленькі вецярок падзьмухвае! Як той казаў: «Каб яму лупы папухлі!», — гаварыў арганіст, паціраючы скрэпшыя рукі.

— Прызнацца, дык я і сам не ведаю, якая хвароба і як тут табе растлумачыць. І ўсё баліць, і нічога не баліць. Як ляжу спакойна — нічога не баліць; а як кранулся з месца, дык і вытрываць няможна: нага разбірае, пад лыжачкай пячэ, у крыжы ломіць і нейкая немарасць ходзіць па касцях — хоць ты гвалт крычы. А чалавек не камень — парушыцца мусіш. Дык вот ратуюся, як магу і, дзякаваць Богу, памагае. Як запячэ пад лыжачкай, я тагды чарачку з перцам дам усярэдзіну, а зверху вось гэтую банку пастаўлю, дык ці паверыш? — як рукой адымае! Тагды і ражанчык адмоўлю, літанію да Усіх Святых ці хоць пакутныя псалмы. А люлька — вось адзіная мая пацеха ў старасці. Так, як бачыш, і каратаю дзень, няхай будзе Богу на хвалю. Затое і лямпачка ў мяне вечна гарыць, каб агонь быў пад рукою.

Так старыя зюзюкалі, як два галубочкі.

## IX. У СУСЕДА

— Ну, а табака не выводзіцца? — пытае арганіст.

— Я тож, брат ты мой, галаву на карку маю, а не капусту, — гаварыў Марцук. — Бачыш, разгаварыўся я з сынам раз на жыццё, але так, што ўжо хваціць аж да смерці. Як гаварыць, дык гаворыць! Што ж я — дзіця малое, а ён ужо мой бацька?

— Ну, ну? Як жа так удалося? — пытаў з цікавасцю Харашуха.

— А вось паслухай: ты ведаеш сам і бачыў, якія ў нас з сынам былі адносіны. Аб даўнейшых я ўжо табе расказваў. Здаўна я прыбіраўся разгаварыцца з сваім Міхасём, а цяпер, так сказаць, так ужо скула наспела, што мусіла прарвацца. Прыходзіць ён гэта анагдай да мяне і пытае: «Цо тату ест?» — «А вось ляжу яшчэ, — кажу яму, — табе на пакуту, і, мусіць, паміраць прыйдзецца: тады развяжу табе рукі. Мой ты, — кажу, — сынок!»

— Як то, — кажа ён мне, — цо, ойцец, вымысьляш?

— А пэўна ж, — кажу я, — гэта ж ясна, як Божы дзень. Каб я, — кажу, — быў бацькам якога пастуха, дык і той мяне лепш жалеў бы, як ты, хоць ты і ксёндз, і пробашч. Эх, брат ты мой, пане Харашуха, калі ўскіпіцца тут мой Міхалачка, калі стане выкрыкваць, махаць рукамі, выпамінаць, што ён мне нераўня, што ён — знакам тым, духоўная асоба і тое, і гэта і ўсё-ўсялякае… Але я тож не папусціўся: ляжу і чую, што мяне разбірае, як бы выпіўшы дзве чаркі адразу і то яшчэ з моцным перцам. Аднак жа я тым часам стрымаўся, бо да гэтай расправы быў здавёндаўна прыгатаваны і абдумаўшы, як то кажуць, усё — ад «а» да «зэт». Дык і пачаў я яму тут заліваць сала за скуру — гэтак вось моцна, што аж пад самае жабро. «А ты, — кажу, — чаго тут раскрычаўся, — кажу, — у хворага бацькі, што стаіць над магілай? — кажу. — Дурань ты!» — «Я — ксёндз! Як ты, — кажа, — стары, смееш так?» — «Мне, — кажу яму, — яшчэ большы стыд, што ты ксёндз і такі дурань, якога яшчэ свет не бачыў, ды яшчэ мой сын». — «Я, — кажа, — духоўная асоба». — «А я твой бацька! Што мне, — кажу яму, — з твайго тытулу і твайго духоўніцтва, калі твае паступкі не духоўныя. А ты, — кажу, — не помніш Божага прыказання: «Шануй бацьку свайго і матку сваю!» Ты — ксёндз, але ты хіба ніколі пацераў не гаворыш. Ды і сам ты нядаўна талкаваў людзям аб гэтым з амбону, — я тагды быў яшчэ здаровы і ўсё добра ўкеміў, — ты ж сам тагды казаў, што аж да смерці трэба шанаваць бацьку і матку. Я тагды ледзь

стрымаўся і чуць не крыкнуў на цэлы касцёл: «Чаму ж ты сам старога бацькі не шануеш?» Дык ты, — кажу, — перавярнуў саўсім Божы Закон, — ты ўжо, мусіць, кажаш у пацерах: “Шануй гаспадыню сваю, але не бацьку!”» Ведаеш, пане Харашуха, як стаў я яму выпякаць усе да дробнай макулінкі, дык сеў ён тут на зэдаль, уціснуў галаву ў рукі і маўчыць, як сцяна. Збялеў, як палатно. Пасля кажа: «Ці я, — кажа, — бацькі не шаную? Дзякуй Богу, накормлены, адзеты, прытулены і табаку вось маеш. Дай Божа кожнаму такую старасць». — «Так, так, — кажу, — мой ты сынок! Так, я «накормлены» і яшчэ далажы, што «аддадзены на ласку тваёй гаспадыні». Мяне вунь людзі, — кажу, — навучаюць, як тваёй гаспадыні надскакваць, каб перад парой не выцягнуць ног. Так, сынок, ты, можа, думаеш, што я стары і мая душа дзеравяная, што я нічога ўжо не разумею і не чую ані сэрцам, ані вухам? Не думай так, сынок! З гэтых дзесяці пальцаў я выгадаваў вас абодвух, даў вялікі пасаг старшаму, як аддаваў яго ў прымакі, гадаваў і вучыў цябе. Збыў, — кажу, — гаспадарку, чаго і цяпер жалею; пайшоў на цяжкую службу… Божачка, колькі я перадумаў праз доўгія ночы, старажуючы ў гарадзецкім замку! Ты, — кажу, — думаеш, што я не віджу, як ты стыдаешся нас, старых? Чаму ты, мяне не пытаўшыся, перамяніў прозвішча, якое ты меў на гэта права?» — «Ойцец, тэго, — кажа ён мне, — не розумеш…» — «Ах ты, — кажу, — смаркач, малако, — кажу, — на губах не абсохла, і ты ўжо зрабіўся такі разумны! Калі яйка пачне вучыць курыцу, дык скора канец свету будзе. Мой дзед, што памёр, маючы блізка сто гадоў, расказваў мне, як яшчэ ягоны дзед прыехаў сюды з-пад Бабруйска, дастаўшы ад паноў вольнасць. Вось яму за нейкія заслугі выдзелілі з-пад лесу гэту зямлю. А называўся ён Захар Марцук. І вось з яго аднаго паўстала цэлая наша вёска: былі мужыкі, але вольныя ад паншчыны. Жонка Захара была шапятлівая кабета, дык і вёску ад таго празвалі Шапятуха. А ты, — кажу, — зрабіўся Марціноўскі, ты ўжо і шляхціц… І радзіўся ты як бы ў нейкай «аколіцы Шэпятовцы»… Ты ўсё гэта, — кажу, — скрываеш ад мяне, бо табе стыдна, а я ведаю і так. Дый каб нават і сам не ведаў, дык мне б людзі сказалі. Я тут у Завалацы не магу вачэй паказаць, — яшчэ вось добра, што хварэю, — а так дык і жыды мне вочы выпякаюць: «Пане Марцук, а чаму ваш сын — Марціноўскі?» Так яно ёсць. Ну, змучыўся я, пане Харашуха. Можа, падасі мне вады? Там у збаночку стаіць на прыпечку.

— Адсапіся, дзядзька, — казаў арганіст і падаў вады.

Пакурылі тут і адпачылі, але зара Марцук пацягнуў гісторыю далей, бо ўжо і да канца было недалёка.

— Што тагды пробашч? — пытаў арганіст.

— Як камень, — маўчыць, і ўсё; а пасля… Не, гэта далей будзе. Пачнём па парадку. Кажу: «…жыды мне вочы выпякаюць. І чаму ты, — кажу, — стыдаешся маёй простай гаворкі? Ты ж сам бачыш, што я не навучуся па-твойму і саўсім язык не круціцца: твая гутарка мне да душы не прыстае. Ці ж ты, — кажу, — не помніш, як мы цэлае жыццё гаварылі з табой па-нашаму? Вот так папросту: душа да душы, сэрца да сэрца. А цяпер я павінен перш надумацца, якое слова табе сказаць…»

— Ну, ну, і што пробашч на гэта? — пытаў з цікавасцю Харашуха.

— Кажа: «То проста, хлопска мова і… — як ён гэта назваў? — ага! — кажа: Для інтэлігента не выпадае так гаварыць». А я яму кажу: «Якую нам Бог мову сатварыў, такой мы і гаворым. Жыды, — кажу, — не стыдаюцца сваёй, цыганы — сваёй, а што ж, наша мова — крадзеная, ці зладзейская, ці што? Вунь, — кажу, — сам дэкан у Новай Мураванцы з сваім бацькам гаворыць па-літоўску і не стыдаецца. І дэканскі бацька, відаць, яшчэ большы прасцяк, як хаця б я: я ж яго сам бачыў, будучы на фэсце ў Мураванцы. А дэкан яго шануе: я відзеў, як далікатна ўзводзіў старычка на ганак. Ды што гаварыць: дэкан — гэта яшчэ асоба невялікая. А вось тут мне ксёндз вікарый чытаў адну гісторыю, як яшчэ быў здаровы, аб адным папежу: як той спатыкаў свайго простага бацьку з працэсіяй. Вот быў разумны чалавек, затое і на папежа выбралі. Толькі вось не помню, як ён называўся. А бацька быў шавец і нёс у Рым для папежа новыя боты». І, ведаеш, пане Харашуха, што зрабілася?

— Ну, а што такое?

— Раптам устаў мой Міхаська і плюсь! — пацалаваў мне ў адну руку, у другую… Калі я гляну, аж у яго поўныя вочы слёз. Кажа: «Даруй, татачка, даруй». Ну, і я размяк, як воск: як абняліся мы, дык плакалі, як бабры. Нейк адразачку адлягло мне тагды з сэрца гора, як бы я скінуў з душы стопудовы камень. І вось ляжу я цяпер саўсім не той, што быў перш: як бы нанава нарадзіўся. Гаварылі ж мы тагды, гаварылі, як калісьці за ягоных маладых гадоў, калі Міхаська быў добрым хлапчуком і фанабэрыі не меў! Брат ты мой, пане Харашуха! Аказваецца, што Міхаська мае і цяпер залатое сэрца, як саскрабаў з сябе той нейкі фальшывы стыд. Сядзелі мы тут да глыбокай ночы. І забыўся ён аб сваёй дурной шляхоцкасці: гаварыў са мной па-людску і нават добра

ўмее, гаворыць папросту, як рэпу грызе. І скажы, паночку, як думаеш? — пытаўся на канцы гэтай гісторыі стары Марцук у арганіста. — Як думаеш, скуль у майго сына гэты чужы налёт, гэта шалёная фанабэрыя, каторая яго так ачмуціла? Я гэта часта думаў і не мог сам дайсці: ледзь-не-ледзь цяпер даскробаўся да ягонай жывой натуры. Ён жа мой родны сын, а я ж чалавек, здаецца, талковы, і быў ён калісьці разумны хлапец…

— Бог жа яго ведае, — казаў Харашуха. — І я тож думаў аб тым нейкім чмуце, што адвеку пануе ў нашай старане. Бо хоць мы людзі, як усе людзі, ды неяк жывём не па-людску: цураемся ўсяго роднага і сваёй простай гутаркі; стараемся, як малпы, наследаваць усё чужое, хочам быць разумнымі і ганаровымі, а становімся толькі смешнымі. Я аб гэтым многа гаварыў з нашым маладым вікарыем: ён, відаць, разумны чалавек, і дзіўна! ён якраз гаворыць пад мае ўласныя думкі. Ну, але аб гэтым пагаворым другім разам. А што датычыць твайго сына, а майго пробашча, дык я прыпамінаю, казаў мне калісьці адзін малады ксёндз, ягоны таварыш, што твой сын належыць да нейкага сакрэтнага, як кажуць, звёнзку[5].

— А гэта што за ліха? — пытаўся, успёршыся на локаць, Марцук. — Я ніколі аб гэтым не чуў.

— Як бы тут табе сказаць, — гэта, бачыш вот што: наш просты народ — не ёсць народам польскім, але…

— Як то, кажаш, не польскі? А які ж па-твойму? Што? Мы ж ад веку каталікі, хоць мы простыя, але польскія… І па-польску молімся, — казаў Марцук і з вялікім дзівам паглядаў на Харашуху.

— Дык скажы шчыра, ці ты паляк? — пытаўся Харашуха.

— Ведама, што не паляк, але польскі і каталік.

— Ото ж то! — смяяўся Харашуха. — Ты тут, браток, так заблытаўся, што і вылезці не можаш. Тут, брат, як то кажуць, цэлая гісторыя з геаграфіяй: затое ты і сына паняць не можаш. Ото ж слухай: наш просты народ чужыя людзі празвалі польскім — ад каталіцкай веры. Каталіцкую веру прызнаюць палякі, дык і нас, простых, ці тутэйшых, празвалі таксама палякамі, хоць мы — народ ад палякаў іншы.

— Дык хто ж мы, калі гэтак?

— Мы калісьці мелі сваё імя, але пасля яго згубілі: мы па народнасці называемся беларусы. А як згубілі імя, дык згубілі з тым самым такжа і долю: ніхто нас не шануе, бо мы не знаем і не шануем самі сябе.

— Я гэта таксама ўжо чуў ад доктара Віпстрыкаля. Ён мне раз доўга тлумачыў і казаў: «Беларус — глуп! Беларус сам сябе не знай; а чэх сам сябе знай». Але скуль ты, брат, усё гэта ведаеш?

— Я — арганіст, часта абціраюся каля ксяндзоў, а паміж ксяндзамі часта гаворыцца аб розных навінках. Вось і Беларусь стала цяпер такой навінкай, што ўсе вучоныя аб ёй загаварылі. Бо якраз папала ў Завалаку кніжачка, пісаная папросту: мне яе пад сакрэтам даў ксёндз вікарый.

— Папросту? Не можа быць! Гэта ж вельмі смешна. І ці ж можна так пісаць? — пытаўся Марцук.

— І каб ты ведаў, як складна напісана! І смешна, і слёзна, і набожна — проста кожнае слова з душы вымае і ў сэрца кладзе. Некаторыя хлопцы зара панавучваліся напамяць.

— Скажыце, куды свет закруціўся! Дык мы, значыць, не польскія? — пытаў яшчэ раз Марцук. — А я думаў…

— Які ж ты дзіўны чалавек: ці ж можа быць карова конская, або салавей верабейны, ці сасна дубовая, або жалеза мядзянае? Каб ты быў паляк, дык ты быў бы польскі; а як ты беларус, дык ты беларускі, а не польскі. Вось жа мы з табой старэем, дык, мусіць, ужо не дачакаем; але я прачуваю, што гэта справа пойдзе глыбей, чым здаецца.

— Што ты хочаш сказаць? — пытаў Марцук.

— А вось што: беларусы калісь паўстануць паміж другімі суседнімі народамі — палякамі, літоўцамі, латышамі і маскалямі, — як асобны народ і будуць дамагацца сваіх правоў, якія ім ад веку належаць.

— Якіх правоў? — пытае Марцук.

— Усіх правоў чалавечых: усяго свайго, нават беларускай школы і сваёй гаспадаркі. Я гэта мяркую з таго, што маскалі і палякі вельмі з усяго нашага смяюцца, а нават ужо вельмі крывяцца на тых беларусаў, каторых, так сказаць, яшчэ няма. Але гэта ўсё роўна, як бывае ў сям'і: старшыя сыны вельмі не здаволены, што трэба даваць роўную часць наймалодшаму брату, каторы толькі нядаўна нарадзіўся і нават яшчэ не ўмее гаварыць! Але гэта ясна само сабой: раз ён жывы чалавек і іхны брат, дык мае роўнае права да ўсёй маёмасці. Вось і беларус, хоць наймалодшы славянскі брат, мае за сабой усе правы Божыя і людскія. Так гэта і наш ксёндз вікарый тлумачыць.

— Як жа так? — дзівіўся стары.

— Але пачакай, пане Марцук, не дзівіся! — перабіў арганіст. — Вось гэны, што я казаў, Звёнзак забараняе сваім сябрам гаварыць папросту; змяняе шыта-крыта назовы вёсак і

прозвішчы. Дык цяпер некаторыя клерыкі ў семінарыі ціхенька пазмянялі прозвішчы з літоўскіх і беларускіх на польскія.

— Вот, брат, дзе развязка, ага-а! — загаманіў Марцук. — А я думаў-думаў і не мог дагадацца. Цяпер я разумею, чаму мой Міхалка цвярдзіў: тата тэго не розумеш. Але ж гэта чыстае цыганства!

— Тут яшчэ не ўсё, — гаварыў Харашуха. — Расея пужаецца яшчэ больш: вось рабіла паліцыя ў семінарыі рэвізію, шукала нейкіх папераў. Маскалі здуру лаюць нас палякамі, ляхамі, паўстанцамі і самі не ведаюць, чаго хочуць. Але прачуваюць беларускае прабуджэнне: нядаўна хацелі накінуць у касцёлах расейскую мову і рускія пацеры, але па-беларуску ў касцёлах гаварыць не пазваляюць: па-іхнаму — яны лепш у касцёле будуць цярпець польскую мову, як беларускую.

— Чаму?

— Гэта палітыка, бо з польскай мовы яны спадзяюцца перайсці проста на расейскую; а пусціўшы беларускую — расейскай капут, бо наш народ тагды можа прабудзіцца. Добра сказаў нашаму вікарыю адзін расейскі чыноўнік: «Мы, — кажа, — палякаў тут не баімся, бо яны тут чужыя, як і мы. Але беларусы — другое дзела: як беларусы паўстануць, дык нам трэба будзе ісці адгэтуль: восвояси.

— Ну, нагаварыў ты мне, аж вось пад лыжачкай спёрла; пачакай мінутку: я вып'ю адну з перцам, бо аж млосна робіцца.

— Хэ, хэ, хэ! — засмяяўся Харашуха. — Я бачу, што ты, як той кажа, так цэлы дзень і гуляеш: дзве з перцам, дзве без перцу, а дзве так сабе.

Тым часам Марцук асцярожна нацадзіў з бутэлькі поўную чарачку, пасыпаў зверху перцам і кульнуў яе да дна.

— Ты, — кажа, — смейся сабе на здароўе, а мне вось і палягчэла. Яшчэ пастаўлю банку наверх, дык і ўсё пяройдзе.

Тут Марцук узяў ражон з ватай, памачыў яго ў керасіну, запаліў над лямпачкай і, штурхнуўшы ражон у банку, спрытна выцягнуў назад, а банку ляпнуў сабе ніжэй «лыжачкі», на жывот.

— Мне адной і досыць, — казаў ён. — Гэтак і без доктара сабе раджу. Прыслаў тут пробашч анагдай фершала, гэтага дыхавічнага Юдэля: даў ён мне нейкую абрыду, дык яшчэ горш зрабілася; выкінуў я гэна паскудства праз вакно, а два злоты як сабакі з'елі. Ведама, ад лякарства здароў не будзеш; другое дзела нашы зёлачкі! Пасядзі яшчэ, васпан, — казаў Марцук да арганіста, каторы ўжо збіраўся дамоў. — Старуха мая пайшла ў лазню, а пасля, мусіць, пойдзе з кумой на піва — я яе знаю, дык

нудна мне аднаму так ляжаць. Пасядзі, раскажы, як калядуеш. Як зіма, як пагода?

— Ведаеш, не ручыць нам! Пазаўчарашні дзень быў благі, учарашні горшы, а сягонняшні і давяршыў. Мусіць, дзеля таго, што калядуем у посце: саўсім другі настрой і людзі як бы не тыя; няма нават і той цікавасці ў людзей, якая пры калядзе павінна быць. Посныя песні, посная яда, дык і міна робіцца посная. Пры гэтым нейкая відавочная непамыснасць паўзла за намі след у след: перш-наперш пазаўчора наш падвозчык недагледзеў найбольшага мяшка з аўсом — мяшок развязаўся і авёс пасеяўся на дарозе, на якіх дзвюх вярстах. Ну, пробашч наваліўся на мяне, а я чым тут вінаваты? Мяшок завязваў падвозчык, а я ехаў з ксяндзом. Падзякуюць за гэта птушкі і зайчыкі, але і то на вясну, бо цяпер запарашыла снегам. А ўчора, калі ўжо кончылі каляду, асталася нам яшчэ адна хата на аднаселлі, вярсты за дзве ўбок — Забароўшчына. Пагода была досыць добрая, хоць ужо пачынала вечарэць. Паказалі нам з апошняга фальварка дарогу ў той засценак; растлумачылі, дзе завярнуць направа: «Там, — кажа, — будуць тры кусцікі і каля іх будзе след направа, а там ужо проста і проста». Ну, мы і паехалі. Добра. Еду я, еду, гляджу-прыглядаюся. Але якраз той след быў завеяны, а тых трох кусцікаў мы не змеркавалі. Едзем, значыць, далей і ўжо крыху сталі сумнявацца; аж бачым — якраз тры кусты і пры іх дарожка. Мы — туды, і я зачаў паціскаць каня, а конь наш добры: бяжыць — не лянуецца. Дарожка гладкая, вясёлая, лясок такі мілы, што мы едзь ды едзь, а… засценку няма і няма! Казалі нам: дзве вярсты з гакам; едзем мы, едзем: той гак зрабіўся даўжэйшы ад тых вёрстаў, а засценку няма. А ўжо і добра вечарэе. Калі бачым — хата: ну, дзякуй Богу! Мы туды: рады, што хоць і позна, але знайшлі. Пасвяцілі, сталі запісваць. Толькі, бачу я, — людзі нейкія неспакойныя, шэпчуцца. Аказваецца, што яны нас і не знаюць. Бадай цябе! Гэта мы залезлі на тры вярсты ў Запружанскую парафію і папалі аж у Дубовую Горку. Але тут баба закружылася па хаце, стала чым скарэй прыбіраць. А пасля кажа: «Ойчынька, начуй! Позна, не даедзеш да Завалакі». Мы памеркавалі — праўда, позна і цёмна. Сталі начаваць. Баба рэзвая, удава і галава дому, бо сыны яшчэ маладыя. Найперш баба скочыла нас трактаваць: паставіла цэлы збан масла, палажыла бохан хлеба на стол; не паспелі мы змеркавацца, а яна хлеб рэжа — адваліла лусту праз цэлы бохан: пальцам масла на лусту шмаруе; пасля ксяндза па плячы гладзіць і прынукае: «Еш, — кажа, — ойчанька, не саромся!» «Ойчанька» — ні тое, ні сёе; а

мяне такі смех апанаваў, што вытрываць не магу. А пасля, брат, наслала нам пасцель на свежых дублёных аўчынах; ды я калі расхропся, дык бедны ксёндз цэлую ноч не спаў: толькі качаўся на тых аўчынах і курыў. А сягоння гэтая бура…

Тут Харашуха расказаў ранішнюю прыгоду на Замкавай вуліцы аб тым няшчасным сілябізе і г. д.

— Ну, і закончыліся гэтыя беды тым, што я вывернуў пробашча пад самым ганкам. Як ужо не ідзе, дык не ідзе! — завяршыў расказ Харашуха, прамаўчаўшы аб справах свайго сэрца.

— А ці не загледзеўся ты там на ўдаву Ганулю? — спытаў ні з таго, ні з сяго Марцук, як бы ўгадаўшы арганіставы думкі.

— Ой, ліха! Што вы ўсё мяне да Ганулі мяркуеце? — адказаў Харашуха, але пры гэтым нявольна пачырванеў.

— Ну, ну! Не спрачайся, васпан: мусіла падабацца, такая ўдоўка. Так, так: Гануля — слаўная бабуля! Як жала ў нас летам, дык я відзеў, што яна першая жняя: сноп вяжа спорны і крэпкі, жне чыста і зграбна; адным словам, што робіць — талкова робіць. Дай, Божа, такую жонку васпану!

— Што ж, простая яна кабета, — стаў нібы аднекваца Харашуха.

— Няхай сабе і простая, але затое ўсё табе зробіць: і пашые, і памые, і есці табе зварыць, і фанабэрыі мець не будзе, а гэта так жа многа значыць.

— І сына мае: трэба, значыць, гадаваць чужое… — прабаваў яшчэ бараніцца Харашуха.

— Дык і добра! — кажа Марцук. — Пакуль там сваё што будзе, то ўжо будзеш бацькам і памочніка гадаваць будзеш. Ды, зрэшты, якое жыццё старога кавалера?

«Сабачае жыццё!» — падумаў Харашуха.

— Стары кавалер — гэта сірата няшчасная, — цягнуў далей Марцук. — Ды што я кажу — сірата. Сірату пажалеюць добрыя людзі, а хто пажалее старога кавалера? Кожны з яго пасміхаецца, а састарэецца — кожны яго пакрыўдзіць. Ці ж не так? Ну, так! — адказваў Марцук сам сабе. — Ці ты захварэеш, ці ты засумуеш, дык ты адзін, як воўк. Я сапраўды баяўся б так адзін жыць. Нават пасварыцца няма з кім; а і гэта бывае патрэбна, як бура ў паветры. Хіба ж пасварышся са шпітальнай бабай? Але тая плюне табе і пойдзе, а ты астанешся адзін, як дурны. А вось мая старуха хоць і плюне, але не пойдзе; куды яна пойдзе? Хоць і пайшла б нават, дык усё роўна вернецца. Хэ, стары кавалер… Ані табе гузік хто прышые, ані ты з'ясі ў пару цёплую страву, як патрэба кожнаму чалавеку; ані цябе хто любіць… Ані нават хто

табе свечку падасць, як прыйдзецца паміраць. Пакуль даляціць да цябе тая шпітальная Рузя, што называюць бабскі стараста, дык ты даўно адубееш. І на магіле тваёй ніхто не заплача, і за душу ніхто не памоліцца. А тваё дабро зара расцягаюць, ды яшчэ паб'юцца і цябе па смерці клясці будуць. Або сам пад старасць пойдзеш жабраваць; або…

— Ну, досыць, досыць і так, — крыкнуў Харашуха.

Падчас гэтай літаніі ён перш уздыхаў; пасля перапужаўся, а пасля і вытрываць не мог. А Марцук заліваўся дзіцячым смехам і гаварыў, нібы здзівіўшыся, нібы пакрыўджаным:

— Што ж ты мне не даў скончыць? А я яшчэ і палавіны табе не аб'ясніў. Але і так відзіш, што значыць стары кавалер. Ды вось, табе на пацеху, што скора на старых кавалераў будуць накладаць асобныя падаткі і даплачваць тым, што маюць многа дзяцей.

— Што ты кажаш? — абурыўся арганіст. — Гэта ўжо плёткі і чысты смех.

— Можа, і плёткі, — гаварыў Марцук, — бо якраз мне гэта казала мая баба, а яна вельмі старых кавалераў не любіць: інакш не называе, як дармаеды або пустацвет. Але, можа, у гэтых плётках ёсць і каліўца праўды? Відзіш, бабы на гэтым лепш знаюцца ад нашага брата: як станут аб чым гаварыць — возьмуць і выгавараць. Гэта бывае.

— Што тут таіць, — казаў Харашуха, — я і сапраўды ўжо задумаў жаніцца. Дый тая Ганулю так учапілася за сэрца, што і вырваць нельга.

— Дык і не вырывай! А колькі маеш гадоў?

— Акуратна аблічыўшы, дык сорак восем з палавінай.

— Чаго ж ты бядуеш? — казаў Марцук. — Яшчэ якраз паўвеку асталася, дый з гакам.

— Малы ўжо гак, — уздыхнуў Харашуха.

— Трымайся хоць за гэты! І няма тут што валаводзіць: жаніся і то чым скарэй; можа, яшчэ я дажыву. Каб не балюшчая нага, вот затанцаваў бы на тваім вяселлі! Або быў бы сватам; у мяне вельмі лёгкая рука: роўна сем разоў быў сватам і кожны раз давёў да алтара. А так, то хоць запрасі на бацьку: пабагаслаўлю цябе ад цэлага сэрца.

Стары Марцук нават забыўся аб хваробе: смяяўся па-дзіцячаму і, узлажыўшы акуляры, углядаўся на старога кавалера, казаў:

— Дык жа ты не такі яшчэ стары, і гожы ты хлапец: сапраўды, з цябе «харашуха». Хэ, хэ, хэ! І ты — Харашуха, і Гануля —

харашуха… Вып’ем за памыснасць! Каб Бог вам даў па сотні гадоў і тузін сыноў!

І тут стукнулі па чарцы — Марцук з перцам, а Харашуха — так сабе.

## X. ВЯСНА

Прадвеснік вясны, жаўранак, даўно ўжо біўся неспакойна ў нябеснай клетцы: не хацеў больш весяліць святых, а рваўся на зямлю. Там помніў ён той шэры загончык на беларускай ніве, дзе летась радзіўся і гадаваўся, дзе працавалі і пяялі ягоныя бацькі, а пасля — і браты, і сёстры, і ён сам. А кругом тагды шумела шэрае жыта, жоўтая пшанічка, беленькая грэчка, вусаты ячмень, зіркаты гарох!.. Недалёка ад іхняга гнязда была аграмадная крушня камення, дзе вельмі прыемна было пасядзець на самым вышэйшым каменьчыку, пагрэцца і паглядзець на сонца. Так цёпла, так светла і міла — проста купаешся ў сонцы! А кругом цябе кветкі — на мяжы, на лузе, па збажох. А васількі, васількі!.. Як бы вочкі анёльскія — у іх адбіваецца цэлае неба. Ды калі мала табе — узнясешся ўгору, глянеш на свой загончык, на палеткі і нівы, на ўсю ваколіцу, на цэлую Беларусь, — і запяеш такую песню, што стане араты з плугам і пачне маліцца; пастушок іграе на жалейцы і аж замоўкне — так слухае… А дзяўчаткі пяюць — аж за сэрца шчыкочуць… Так успамінаў аб мінуўшых летніх з’явах шэры жаваранак, замкнёны на зіму ў небе.

Дык біўся крылом аб клетку і вельмі сумаваў у небе наш шэры жаваранак, гадунец палёў завалацкіх. Аж святы Ілля, патрон беларускі ад пагоды і нягоды, убачыўшы, як беднае птушанятка сумуе, пачаў развязваць яму крылы і меркаваў пусціць яго на зямлю.

— Што робіш? — загаманіў на яго, убачыўшы гэта, святы Язэп. — Ці ж ты, — казаў ён св. Іллі, — не ведаеш (нават і бабы ў Беларусі гэта ведаюць!), што колькі дзён жаўранак вылеціць перад св. Язэпам, столькі пасля яшчэ адседзіць. А сягоння пачынаецца толькі чацвёртага сакавіка. Дык яшчэ трэба чакаць цэлыя два тыдні.

— Калі ж бедненькі вельмі сумуе, — казаў Язэпу святы Ілля.

— Ды ты кіруйся больш розумам, як сэрцам, — казаў яму св. Язэп. — Я ўжо даўно табе меўся сказаць, што наагул з цябе ў Беларусі не здаволены: яшчэ летась прыйшло на цябе да неба з дзесяць просьбаў і жалабаў з адной толькі Завалакі, а ты якраз

хочаш без пары выпусціць завалацкага жаваранка. Ой, наробіш там бяды, пачаўшы так рана вясну!

Тут св. Язэп загадаў свайму анёлу-сакратару прынесці тыя жалабы. Анёл скочыў маланкай і ўміг прынёс тыя паперы. Тут св. Язэп прыказаў прачытаць самыя важнейшыя. Анёл прачытаў жалабу ад Марылі Пятровічыхі, што св. Ілля градам пасек ёй капусту; і ад ксяндзовай гаспадыні — што памарозіў ёй на градах агуркі, хоць ужо быў пачатак чэрвеня; і ад шпітальнай бабы, Рузі, — той самай, што завецца бабскі стараста, — што папсуў ёй дажджом касцельныя хусты і яшчэ другія, і трэція і дзясятыя, — дык св. Ілля, пакруціўшы галавой, стаў ізноў звязваць крылы беднаму жаўранку.

Аж тут уступіўся св. Казімер, віленскі каралевіч, і кажа:

— Як я помню, дык кожны год на мой дзень пушчалі жаўранка, а сягоння якраз пачынаецца чацвёртага сакавіка, вось жа трэба пусціць — гэта мой святочны дзень — мае імяніны.

— Што ты там помніш — ты саўсім малады! — адказаў яму Язэп. — Другое дзела — мы з Іллёй.

Аж тут надышоў св. Тамаш, доктар анёльскі, і кажа:

— Я таксама помню, што на мой дзень, 7 сакавіка, жаўранак пяяў поўным ходам. Па-мойму, также птушку можна пусціць, бо, па-першае, інстынкт птушкі пабуджае яе да павароту, а голас натуры — голас Божы, па-другое, традыцыя, аб каторай кажа св. Казімер, павінна быць захавана, бо кожная традыцыя, што не супраціўляецца Божаму Закону і была справядліва ўведзена, павінна быць лаяльна захавана. Проціў таго можна сказаць, што яшчэ досыць рана, але…

І як стаў Тамаш вылічаць, даказваць і збіваць праціўныя прычыны, дык св. Язэп, махнуўшы на іх рукой, сказаў:

— Я просты чалавек і вашых мудрасцяў не цямлю, і на мой гаспадарскі розум: паспех — людзям на смех, але рабіце сабе, як хочаце, абы толькі пасля не жалелі!

Дык вось св. Ілля, адчыніўшы неба, дзьмухнуў з цёплага боку і пазганяў хмары з небасхілу. Пасля прыказаў Анёлу Механіку пачысціць сонца залатым нябесным парашком і пазачыняць ветраныя засаўкі. Тагды навязаў жаўранка на нявідную нітку і, пакарміўшы яго нябеснай маннай, аддаў нітку св. Казімеру і прыказаў перад самым усходам сонца спушчаць на зямлю. А сам тым часам пайшоў у каморку, дзе спала сонца, працёр яму вочы і вывеў на неба, і зара стаў падкручваць кнот у нябеснай лямпе вышэй і вышэй. А св. Казімер асцярожна спушчаў жаўранка над самай Завалакай, дзе сам калісьці бываў госцем у завалацкім замку, Гарадцы, і вельмі любіў гэтае прыгожае мястэчка.

Жаўранак, глянуўшы на цэлую ваколіцу, пазнаў сваю бацькаўшчыну і вельмі ўцешыўся. Вось убачыў белы касцёл, зялёную царкву, стары замак, шэрыя хаты, знаёмы бор і сваю крушню. Але ўся зямля была яшчэ прыадзета ў светлую, беленькую вопратку, што ярка блішчэла на сонцы. Страпянуўся жаўручок: свет сонца, запах зямлі, любоў бацькаўшчыны захапілі яго. І вось пачаў ён веснавыя пацеры на ўсходзе сонца.

— Цвір, цвір, цві-і-і-р! Вясна, вясна-а-а мі-і-і-ла! А сонца ясна, ясна, ясна — а засвеці-і-ла. Цвір, цвір, цві-і-р! Дзеці, дзеці, дзе-е-ці, устава-а-йце! Вясну, вясну, вясн-у-у вітай, вітайце-е-е!!!

— Ах, мамачка, вырай, вырай! — крычаў, убегшы ў хату, Вінцусь, сын Ганулі Якубіхі.

— Што, дзе сынок?

— Мамачка, хадзі паслухай: жаўранак пяе: я першы пачуў.

Тут усе выйшлі на вуліцу і ясна пачулі жаўранка. Сонца свяціла поўніцай. Неба было яснае, свежае, вясёлае. Не было рады: пачалася вясна.

Пасля гэтай вострай зімы, калі нарэшце сонца разгулялася на небе і стала добра прыпякаць у кожны поўдзень, вясна адразу пачала сваю працу: ламала ледзяныя і снежныя аковы, выганяла зіму з усіх кутоў-закуткаў: пяяла і весялілася птушынымі і дзявочымі галасамі; смяялася сіненькім небам і зялёнай травіцай, шумела, аж рагатала, у кожным ручаёчку… Кожная жывёліна, спатыкаючы вясну, паказвала сваю радасць: весялілася ўся прырода. Сонца праменьчыкамі скакала па ручайках; прыглядалася само сабе ў кожнай лужынцы, як бы ў тысячы пабітых люстэрачках, і смяялася і цешылася, аж іграла, бо ўсё ж вельмі было прыгожае! А ручаі гулялі з сонцам у жмуркі, хаваліся часам пад лёд ці пад снег, то паказваліся зноў, але ўжо большыя і быстрэйшыя.

Калі так кругом кіпела веснавое жыццё, Валачанка яшчэ крэпка спала. Прыкутая да берагоў і прываленая зверху грубым лёдам, як бы магільным каменем, спала; але ўсё ж такі жыла: вада пад лёдам, як бы тая кроў, плыла без перарыву. Дыхала Валачанка ўсімі прорубамі; дык, значыць, жыла, хоць так доўга спала, чуць не паўгода. Аднак вось цяпер сніла вясну: вада з тысячных ручаёў наплывала ёй за каўнер, у рукавы і за пазуху. Дык Валачанка пачала круціцца на пасцелі: уздыхала і сапла крапчэй; пацягвалася, аж трашчалі косці, а нарэшце, пасля вельмі светлага дня, раскашлялася ад наплыву новай вады і раптам, як чхнула… аж разбудзілася. І вось, сарваўшы ўвесь лёд, адразу скочыла на ногі і стала спіхаць з сябе цяжкую коўдру — лёд зімні і непатрэбны. Валачанка рушыла, пайшла, разлілася.

Доктар Віпстрыкаль наняў з два дзясяткі людзей, каторыя з баграмі стаялі на мосце і разбівалі крыгі. Застаўкі былі паднятыя. Аднак прырода аказала большую сілу ад хітрых людзей: вада расла непамерна, крыгі наплывалі аграмадныя, мост і млын дрыжэлі, як у трасцы, а з імі разам дрыжэў і сам доктар. Шум вады, гоман работнікаў на мосце, а цікавага людскога натоўпу каля берагоў, крык клапатлівага доктара — усё гэта тварыла нейкі жудасны абраз. А вада ўсё прыбывала і прыбывала, і вось прачувалася катастрофа: мост пачынаў трашчаць і калыхацца, але яшчэ не паддаваўся; быў вельмі моцны — збудаваў яго таму пару гадоў інжынер-чэх, выпісаны адмыслова з Аўстрыі. Дык трэба было вялікай сілы, каб зламаць такі мост. А ўласне рэчка крыла ў сабе такую непамерную, але таемную сілу. І немагчыма было згадаць, ці вада дайшла ўжо да свайго найвышэйшага пункту і калі той крытычны момант наступіць. Цэлую ноч ператрывалі работнікі на мосце ў цяжкім змаганні з крыгамі і бэлькамі, што былі прынесены з недалёкага лесу, а такжа з сарванага ўжо ўверсе моста і, Бог іх ведае, скуль яшчэ. Гэты дзень быў вельмі працавіты. Доктар так і бегаў — то на мост, дзе камандаваў работнікамі, то на бераг, дзе паглядаў на адмысловую мерку ўзросту вады, то ў млын, дзе з самага высокага балкона глядзеў уверх рэчкі… А людзі як людзі: тупалі і папіхаліся на берагах, некаторыя ў важнейшую мінуту шчыра памагалі, іншыя перашкаджалі, а ўсе агульна, гледзячы на такое змаганне, перш ахалі і охалі, а пасля прывыклі і сталі цікавіцца, а нават спрачацца: ці што будзе? і калі яно будзе? а… калі мае быць, каб ужо скарэй было! Усе застаўкі ў галоўным мосце былі загадзя выцягнены, а такжа і тая двайная, што была на вінтах і на блоках, спецыяльна выдумана тым загранічным інжынерам; бакавы запасны масток быў саўсім зняты, і туды стараліся звярнуць вялікія крыгі. Грэбля, вылажаная сечанымі каменнымі плітамі, трымалася без прыганы. Адным словам, доктар усё загадзя абдумаў і прыгатаваўся. Але вада ўсё расла, ужо працякала праз грэблю і чуць не раўнялася з мостам. Аж вось паказалася крыга большая ад усіх дасюлешніх і грокнула ў мост: мост страшэнна задрыжэў і затрашчэў; работнікі разбегліся на бакі, некаторыя нават пакідалі багры; крыга стала націскаць, мост калыхаўся…

Так калыхаліся калісьці абаронныя муры гэтага самага завалацкага замка, Гарадца, калі крыжакі цяжкімі таранамі дзень і ноч білі ў сцены. І вось сцяна пачынала трашчаць і паддавацца: тварылася дзіра, пасля пралом; вораг натужваў усе сілы, абарона слабела… Аднак у хвіліну грознай небяспекі надбег галоўны

даводчык — сам князь Валоцкі — узяў на сябе каманду, а нават і сам хваціў аружжа, біўся, як грозны леў, і сваімі грудзьмі стрымаў увесь варожы напор. За ім, запаленыя ягонай адвагай, абаронцы кідаюцца ў вір бітвы, адольваюць ворага, і той са стратамі і са стыдам адступае назад.

Так і наш доктар: пачуўшы трэск і ўбачыўшы гразу палажэння, закрычаў нялюдскім голасам, кінуўся сам адзін на мост, схваціў багор і пачаў разбіваць крыгу. Тут надбеглі і работнікі, што перш страцілі дух, ударылі раптоўна ў крыгу і пакрышылі яе на часці, каторыя ўжо лёгка пралезлі праз застаўкі. Усе свабадней уздыхнулі; некаторыя работнікі, успёршыся на багры, пачалі закурваць і жартаваць з свайго страху, калі бачаць: бяда падваілася! Ішла новая крыга: такой яшчэ тут не бачылі…

Так і ворагі-крыжакі: прагнаныя ў акопы, змабілізавалі ўсе свае рэзервы і яшчэ раз кінуліся на аслабелых абаронцаў. Ад гэтай хвіліны залежыць усё: становіцца напроціў цябе ўся варожая сіла; энэргія, як жалеза, распальваецца да белага, і пасля такой бітвы вораг або запануе над крэпасцю, або надоўга перастане атакаваць, пакуль залечыць цяжкія раны або проста ўцячэ з поля бітвы.

Цяпер вось ішла крыга на цэлую шырыню моста; ужо здалёку прыгатаўлялася да атакі: перакручвалася то ўлева, то ўправа; а нарэшце, наставіўшы бок з грубым вострым выступам, як бы намерыўшыся клінам, падвоіла размах і кінулася на мост. Доктар, як ашалеўшы, крычаў, махаў рукамі, гразіў работнікам, але тыя, прачуваючы пэўную катастрофу, кінуліся з моста на берагі і чакалі канца справы. Толькі два самыя заядлыя рызыканты, з шалёным доктарам, наставілі багры на крыгу і прыступілі да няроўнага бою. А ўвесь народ на берагах проста занямеў… Уся грамада складалася як бы не з жывых людзей, але з застыглай скамянелай групы: разяўленыя губы, шырока адчыненыя вочы, прыпаднятыя рукі — усё сведчыла аб гразе палажэння, каторае трывала, праўда, толькі пару хвілінак, але нейкіх жудасна, непамерна доўгіх… Відаць было, што граза смерці лунае над жывымі людзьмі.

І вось у адну секунду палажэнне цалком змянілася: крыга грокнула ў мост і раптам… замітусілася ў вачах грамады ўсё: мост, бэлькі і дошкі, доктар з работнікамі, багры, паламаная крыга… Трэск моста і шум вады заглушылі трывожны крык жанчын. І па хвіліне вада ў Валачанцы зраўнавалася: мост так лёганька зняўся з берагоў, як лёгка разрушаецца дом, зроблены дзецьмі з пяску, калі, нагуляўшыся, бойкі хлапец разбівае яго адным махам

рукі. Толькі некалькі бэлек, што тырчалі пры берагах, паказвалі, што тут быў той непахібны мост работы загранічнага інжынера, гордасць доктара Віпстрыкаля… А сам доктар?..

Тут ляціць з замка сама паня і млее, даведаўшыся аб мужы; тут лятуць дворныя людзі — парабкі і дзеўкі — і тупаюць каля млына, як авечкі; тут паліцэйскі чыноўнік таўчэцца паміж народам і крычыць на людзей і баб — сам не ведае чаго; тут нехта крыкнуў: «Вунь, вунь, паказаўся!..» Работнікі бягуць за вадою; глядзяць, ды нічога! Аж толькі за дзве вярсты вылавілі аднаго работніка, што зляцеў з мостам у рэчку. Ён нейкім цудам быў жывы і цэлы і грэбаўся за бераг, зачапіўшыся адзежай за нейкі ражон. Як ён жывы астаўся, ані ён сам, ані хто іншы не мог растлумачыць: мусіць, Бог так даў, каб дзеці не асталіся сіротамі. А другі работнік з доктарам, як камень, у вадзе прапалі.

— Шукай ветру ў полі! — казалі работнікі, вярнуўшыся з цяганіны каля бушуючай вады.

Доктара шукалі дворныя парабкі і адмысловыя людзі, назначаныя паліцыяй і нанятыя замковай паняй, але нідзе, ніхто — на дзесяць і на дваццаць вёрст і па цэлай рэчцы — не мог на след папасці. Як апала вада, рыбакі знайшлі і другога работніка, каторы, засеўшы пад карцом, быў начыста аб'едзены ракамі. Яго пасля яшчэ парэзаў на кавалкі Мураванскі павятовы доктар — няведама, дзеля чаго. Ды пасля, беднага, дзяржалі пад стражай два тыдні, пакуль прыехаў следавацель: той паглядзеў, пагаварыў з ураднікам, нешта папісаў сам і даў падпісацца старшыні і ўрадніку; пасля пакруціў носам і прыказаў пахаваць, а сам паехаў. Яшчэ да таго і ксёндз Марціноўскі сумняваўся, ці можна хаваць яго на магільніку, бо гэта ж быў утопленік…

А доктара па гэты дзень так нідзе і не знайшлі. Толькі, казалі, паказваўся дзяку Кузьме цёмнай ночай каля млына, махаў рукамі і нешта гаварыў, і яшчэ некаторым другім, што варочаліся з кірмашу. Але цвярозым людзям не паказваўся нікому.

## XI. У СВАТАХ

Доўга думаў арганіст аб сваёй свадзьбе і не мог адважыцца. Першы «гарбуз», каторы дастаў дваццаць пяць гадоў таму назад, так уеўся ў памяць старому кавалеру, што ён і цяпер сумняваўся — ану ж Ганулю адкажа? Дык вось цяпер пастанавіў паступаць асцярожна: тагды вельмі спяшыў, сам пачынаў сватаўство і сам яго скончыў, ці — лепш сказаць — людзі за яго

скончылі. Тагды, значыць, бываў у сваёй ненагляднай даволі часта: пазнаёміўся з ёй і з бацькамі; прыгледзеўся, улюбіўся і зара прызнаўся ёй самой, і пытаў аб ейнае апошняе слова. А яна, як і патрэба акуратнай дзяўчыне, вельмі сканфузілася, пачырванела да самых вушэй і ўцякла да маткі. А матка вывезла назаўтра дачку кудысьці да сваякоў і пасля выдала яе за таго амерыканца, каторы ўжо паспеў спадабацца і дачцэ, і матцы. Так Харашуха, як то кажуць, з'еў гарбуз, а закусіў цыбуляй. Тагды ж затое так скрыўдзіўся на ўвесь свет, а найбольш на сябе самога, што кінуў тую парафію і на голас пабажыўся перад абразамі, што, пакуль жыць будзе, жаніцца не будзе. Але моладасць — дурнасць: адпакутаваў за тое чвэрць веку, і годзе! А цяпер вось палюбіў Ганулю ўсёй сілай адзінокай і набалелай душы. Але што скажа яна сама, Ганулька? І як даведацца? Ісці самому ў залёты — не тая ўжо пара, і Ганулька жыве ў чужой хаце, і хлапец жыве пры ёй, і будуць пасля плёткі… Трэба выбраць другі план.

Так разважаў Харашуха сам з сабою. А пасля доўгай рады з Марцуком пастанавіў даверыць справу якой лоўкай бабе, каб так, як той кажа, і «сакрэт захаваць, і дзелу памагчы».

— Жаніцьба — гэта бабская работа, — казаў Марцук. — І мяне калісьці бабы ажанілі: ніяк я сам не мог адважыцца. А як сталі раіць, нагаворваць, сватаць, дык так мяне задурылі, што вось узяў і ажаніўся. Дык і ты пашлі на праведы якую хітрую бабулю і пад вялікім сакрэтам даведайся на месцы. А пасля ўжо, па нашаму абычаю, проста едзь у сваты. Простая дарога — самая бяспечная, — так закончыў Марцук і праканаў арганіста.

Толькі ж якую тут выбраць бабу?

І вось раптам упала Харашусе на думку Рузя, ягоная суседка, — «бабскі стараста», — баба дасціпная і дасужая, каторая знала ўсе сакрэты цэлай парафіі, а ейных сакрэтаў не знаў ніхто. Ніхто не ведаў, якога яна роду, скуль выходзіць, колькі мае гадоў, а найважнейшая справа — колькі мае грошай і дзе іх хавае?

І Марцук стаяў за яе. Ён казаў:

— Такая, брат ты мой (цьфу, цьфу! згінь ты, прападзі, — не перад ночай спамінаючы), усюды ўлезе, угаворыць, а як трэба, дык і падварожыць, і перад парой сакрэту не здрадзіць — я яе знаю! Ведама, заплаціш бабе, але не пажалееш.

Добра. Так і стала. Харашуха паклікаў Рузю, доўга з ёй гаварыў аб розных пастаронніх справах і не мог падысці да галоўнай, аж сама Рузя вывела яго з бяды.

— Ды гавары ж, пан, ясна, — кажа яму, — нашто мяне паклікаў?

Харашуха аж здрыгануўся, але перамог сябе і асцярожна пакіраваў гаворку на жаніцьбу. Рузя адразу змеркавала, чым дзела пахне, а нават зара ўгадала, на каго Харашуха надзеецца.

«Гэта ведзьма — не баба!» — падумаў Харашуха. Аглянуўся кругом і ўжо не рад быў, што з ёй звязаўся.

— Пан, не бойся! — пацяшала Рузя. — Як я вазьмуся, дык інтэрас пэўны. І ніхто на свеце не даведаецца. Толькі ж… і расходы будуць, — казаў, сцішыўшы голас, «бабскі стараста».

— Вот табе на пачатак, — казаў арганіст, ткнуўшы Рузі трохрублёўку.

— На пачатак досыць, — казала Рузя.

— Найперш, — талкаваў арганіст, — ты даведайся, ці Гануля мяне любіць, але гэта сакрэтна — праз другіх. Ага! А пасля: ці яна згодзіцца выйсці за мяне замуж? А ўрэшце: дзе мне з ёй тым часам спаткацца? А пасля…

— Ну, ужо, пан, мяне не вучы! Я сама лепш ведаю, што будзе першае, што другое, а што там трэцяе-чацвёртае. Тым часам вам спатыкацца няможна, бо пан з паспеху толькі папсуеш справу, як і першую калісьці папсаваў. А што яна васпана любіць, дык я наперад галаву даю.

— Ды ты, будзь ласкава, не лжы! Бо перастану табе верыць. Скуль ты ведаеш, што яна мяне любіць? — пытаўся арганіст.

— А, пан, напрасна не крычы! — адгаманіла баба. — Як я гавару, дык, мусіць, ведаю. Я ўжо ад Запустаў падмеціла, што як пан на хорах пяеш, дык Гануля, хоць і пабожная кабета, — аглядаецца. А гэта ў нашым бабскім родзе многа значыць. Ды я ўжо на сваім вяку засватала пар дваццаць, дык вось маю вялікую практыку. Каб я так і гэтак, ды каб мне тое і сёе!.. — прыцвярдзіла Рузя свае слова такімі закляццямі, што старому кавалеру паследні пушок падняўся на галаве.

«Ну і баба! — казаў пасля сам сабе Харашуха. — Яна заўсёды сядзіць пры касцёле, але, мусіць, з рагатым знаецца бліжэй, як са святымі? І скуль яна, праклятая, знае мае сакрэты, каторых я нікому не гаварыў?..»

І вось пачаліся сваты ўкругавую. Арганіст глыбока ўздыхаў, Рузя яго цешыла, але адкладала бесканечна.

— Вы, мужчыны, заўсёды спяшаеце: будзе парой! Найперш трэба птушку выследзіць, пасля добранька яе абласкавіць, а тагды ўжо лавіць і садзіць у катух. А вы заўсёды цоп-лоп, а птушка кер-кер! і пайшла сабе прэч. Хэ, хэ!..

— А ці ты гаварыла з ёй аб справе? — пытаў Харашуха.

— Ці я здурнела? Гэтым толькі ўсё папсуецца.

— Дык што ты дарма траціш час! Ужо трэці месяц мяне пацяшаеш і… нічога. Мусіць, мяне толькі зводзіш?

Тут Харашуха глыбока заглянуў бабе ў вочы. Але Рузя не збянтэжылася: як наставіла свае воўчыя вочы на арганіста, дык ужо ён не мог здзержаць.

Трэба ведаць, што Рузя была, як кажуць, Герад-Баба, ці — адным словам — «бабскі стараста». Росту высокага, худая, шпакаватая. Валасы пуклямі вылазілі з-пад хусткі. Зубы — вялікія, жоўтыя — неяк асабліва стырчэлі з губы і не было ведама, ці яна смяецца, ці злуецца. Вочы — цёмныя, глыбокія — былі поўны нейкай магнетычнай сілы. Бывала, як наставіцца на каго, дык ніхто не мог здзяржаць, а зразу спускаў свае вочы і другі раз сцярогся з ёй спатыкацца. Рузя замаўляла ад розных хваробаў і выпадкаў: ад гадзіны, ад шалёных сабак, ад рожы, ад урокаў і многа ад чаго іншага. Дзяўчатам сакрэтна прадавала вельмі памоцны любчык. Рузя хоць была падкасцельнай бабай, але жабравала ў бабінцы толькі ў самыя важныя святкі, а па хатах не жабравала саўсім, толькі збірала заробленыя нядоімкі.

Казалі, што Рузя мае многа золата, але ніхто яго не відзеў, а другія казалі, што яна мае палюбоўніка і яму аддае ўсе свае грошы: толькі не ведалі, хто ён такі. А іншыя гаварылі, што ў такой ведзьмы сам чорт можа быць палюбоўнікам. А яшчэ іншыя нічога не гаварылі, толькі страшылі Рузяй дзяцей і самі абходзілі яе здалёку, каб не прычыніла якога ліха, або, спаткаўшы яе знячэўку, плявалі назад сябе па тры разы. Рузя і сама часта плявалася на вуліцы, асабліва спатыкаючы мужчын. Затое мужчыны верылі, што Рузя мае хвосцік, а нават і бабы на гэта згаджаліся, бо — кажуць — ніхто ніколі Рузі не бачыў у лазні. Толькі ж бабы не згаджаліся на ейны тытул — «бабскі стараста», бо — казалі — ніхто яе на гэта не назначаў.

Але паміма ўсяго, а можа, і дзеля таго ў наглай патрэбе ўсе ішлі да Рузі на замову, асабліва ад урокаў.

Адзін раз у дзядзькі Аляксандры Матусевіча нейкі незнаёмы чалавек урок цяля. Толькі гэта ён, міма ідучы, цяля пахваліў, аж у пяць мінут яно брык! — упала на панадворку і трэп-трэп нагамі! — ужо і здыхаць прыбіраецца. Дзядзька скарэй паслаў па Рузю. Рузя пасняшыла прыйсці. Узяла міску вады, трыма лыжкамі ваду пераліваe, сто разоў кругом плюецца, нешта прытым шэпча… ну, і памылі той вадой цяля, — а ў ім ледзь яшчэ дух трымаецца. Аж тут вось — усе людзі глядзелі і дзівіліся — цяля гоп на ногі! і пайшло зноў скакаць.

— Цьфу ты, нячыстая сіла! — сказаў на гэта Тамаш Пятровіч, каторы быў пры тым і пасля расказаў сваім бабам усю гісторыю.

Набожныя жанчыны даўно мелі зуб процiў Рузі і ейных чараў, хоць, аднак жа, і самі ў патрэбе, пад вялікім сакрэтам, да яе ўдаваліся; многа разоў скаржылі на Рузю перад ксяндзамі, але чамусьці ксяндзы — нічога. Толькі ксёндз Марціноўскі, каторы саўсім не прызнаваў замоваў і чараў, зразу вельмі азверыўся на Рузю і пастанавіў выкінуць яе з касцельнай хаты і з бабінца. Аднак Рузя неяк патрапіла абараніцца: усяго толькі адзін раз пагаварыла з ксяндзом — і то не больш пяці мінут, — але сказала яму нешта такое, што ён адразу ўступіў. Што яна ксяндзу сказала — гэта быў сакрэт для цэлай парафіі і ніхто не мог дапытацца. З таго моманту Рузя закуражылася яшчэ больш, толькі замаўляць стала сакрэтна і брала даражэй.

Але вернемся да арганіста.

— Ну, ну, не разыходзься, пан, — казала яму Рузя, — я ведаю, што раблю. Прыйдзе пара, як усё прыгатую, тагды паедзеш у сваты. Не бойся, пан, — гэта недалёка.

Так Рузя супакоіла Харашуху, дастала пяць рублёў на расходы і павяла дзела далей.

А справа была трудная. І трэба сказаць праўду, што Рузя ўзялася шчыра. Яна кідалася на ўсе бакі: і проста падыходзіла да Ганулі, выпытвала, раіла тое і сёе, спачувала і ўздыхала. І кругом абыходзіла Ганулю — завяла дружбу з Марыляй Пятровічыхай і прызналася ёй з сваім сакрэтам — і ўжо ўдзвюх узяліся падгатаўляць Ганулю. Трэба было найперш зрушыць справу з месца: праканаць Ганулю да замуства. Але тут якраз і селі макам, бо Гануля наадрэз адказвалася ад гэтай думкі. Патроху так жа, хоць яшчэ вельмі асцярожна, сталі бабы падыходзіць і да другога пункту праграмы: сталі падхвальваць арганіста. Гэта, ведама, рабілася з вялікім абходам. І тут уласне была маленькая надзея, бо і Гануля арганіста хваліла. Але і толькі таго…

Харашуха, праўда, і сам не драмаў. Разы два, нібы ненарокам, трапіў у хату к Пятровічам, але і тут не саўсім ручыла: першы раз не было Ганулі ў хаце, а другі раз — у святочны дзень — было ў іх многа суседніх дзяўчат і стары дзядзька Аляксандра.

Арганіст, карыстаючы з аказіі, весяліў публіку: найбольш гісторыяў знаў і расказваў з ксяндзоўскага жыцця, а такія гісторыі вельмі нашым людзям падабаюцца.

— Вось, — казаў Харашуха, — у аднаго ксяндза быў фурман. Добры быў чалавек — і пабожны, і паслушны, і працавіты. А што найважнейшае для фурмана — любіў і жалеў коней.

Толькі ў адным быў ён бракоўны: быў вялікі прасцяк ды яшчэ большы разявака. Дзе, бывала, паедзе з ксяндзом на фэст ці ў госці, дык заўсёды што-колечы згубіць, або забудзецца, або проста ў яго возьмуць і ўкрадуць. То без пугі едзе назад, то папругу нехта ўкрадзе, то нарэшце торбу з аўсом недзе пакіне. Едуць яны назад. Ксёндз злы. Стыдзіць яго і лае цэлую дарогу. Хацеў ужо адправіць, але жалеў. Дык вось разагнаўшыся, ксёндз і кажа яму: «Дый ліха! Усё ў цябе крадуць, — украў бы і ты хоць што-небудзь!» Аж вось едуць яны аднаго разу з фэсту. Фурман аглядаецца і хітра смяецца. «Што ты, Андрэй, такі вясёлы? — пытае ксёндз. — Мусіць, ізноў у цябе штосьці ўкралі?» — «Гэ, гэ! — смяецца Андрэй. — Недачаканне іх, цяпер ужо я ўкраў!..» — «Што, дзе?» — пытае ксёндз. «А вот згадай, ксёндз», — кажа фурман. Тут ксёндз тое і гэта, — думае, што мог бы такі циляпень украсці? Але Андрэй, сам вясёлы, твар, як месяц у поўні, — паказвае на ксяндзоўскі сакваяж і кажа: «Вунь, паглядзі ў сваю торбу!» Ксёндз туды, аж там… мазніца! А там якраз была кніжка да набажэнства (брэвіяр), там каўнерыкі, хустачкі, шчотачкі і другая драбяза. Адзін брэвіяр каштуе сорак рублёў золатам…

— Добра заплаціў за навуку! — казала Марыля.

— Як ксёндз навучыў, так фурман заплаціў, — казаў дзядзька Матусевіч, пыхкаючы люльку.

Смяялася такжа ад душы і Ганулі, а Харашуха сядзеў на лаве і чуў, як білася сэрца.

— Дзядзька, — звярнуўся Вінцусь да арганіста, — раскажы яшчэ адну басню!

Арганіст пагладзіў хлапца па галаве, а пасля пасадзіў сабе на калені і ўгасціў цукеркамі. Адным словам, гэты раз, хоць з самой Гануляй гаварыць многа не прыйшлося, Харашуха быў рады сам з сябе і з сваёй місіі. Сумысна пайшоў назад наўкруг, палямі, накладаючы дарогі, бо хацеў свае думкі пераважыць сам з сабою.

Стаяла пышная пагода, была другая палавіна чэрвеня. Гэты месяц у паўночнай Беларусі можна яшчэ лічыць веснавым. Тагды расцвітае ўся прырода. Тагды якраз пяюць усе птушкі, а салавей і зязюля набіраюць поўнага разгону. А калі закаласуе, зацвіце жыта, калі захвалюе на ветры, тагды ажыўляецца і найцвярдзейшая душа. Арганіст так і лавіў вухам гэты мілагучны шум калосся, як бы спеў прыроды, аж пяяла душа ягоная гімн хвалы і падзякі Богу. Цяпер пачуваўся ён не тым старым кавалерам-сіратою, з каторага смяяліся людзі і здзекавалася жыц-

цё, але бодрым, вясёлым хлапцом, перад каторым адчыняюцца навосцеж дзверы новага жыцця. А жыццё такое прыгожае!..

Харашуха ішоў мяжою, а жыта хвалявала. Так хвалюе мора. Вецер гоніць хвалі роўнымі радамі, каторыя ідуць-бягуць адзін за другім і з шумам б’юць аб берагі, — разбіваюцца, брызгаюць, адступаюць назад і змагаюцца з хвалямі наступнымі. Але не! Не так хвалюе жыта. Яно не вадзіцца, не сварыцца з сабою, не б’ецца ані бушуе, як мора. Наша беларускае шэрае жытцо хвалюе ціхенька, спакойненька, — яно толькі гаворыць з сабою, як бы шэпча. У ціхую пагоду жыта стаіць спакойна, але свабодна. Кожны каласок — паводле сваёй упадобы — то скланіўшыся, то проста, але набожна стаіць і паглядае на сонца, як наш шэры народ у касцёле. Іншы каласок, здаецца, задрэмле і заківаецца паміж спакойнай грамадою. Але вось прабяжыць вецярок па ніве. Жыта зварухнецца і закалышацца ад краю да краю. А вецер гуляе, і жыта тагды хвалюе і хвалюе. Так уласне хвалююць нашы прыгожыя азёры. Хвалі не стогнуць, не равуць, не пеняцца, але пагодна шумяць, быццам пяюць ціхую песню. Так уласне хвалюе па нашых узгорачках наша беларуская дзявочая песня. Так хвалююць галоўкі нашых дзяцей, а іхныя вочкі свецяць, як сіненькія васількі ў жыце. Так хвалююць грудзі той краснай жнейкі-дзяўчынкі, што пры працы раўнамерна хістаецца на загоне. Так б’ецца ейнае сэрданька, як убачыць свайго мілага. Так хвалявала душа старога кавалера, калі глядзеў на гэта жывое жыта, на цудоўнае неба, на яснае сонейка і чуў радасную песню жаваранка.

«Эх, варта-такі жыць на свеце!» — крыкнуў у душы пан Харашуха.

## XII. У ШКОЛЕ

Была позняя восень. Лістапад паспеў сабраць з дрэваў паследнія лісточкі, але яшчэ не паспеў іх развеяць буйным ветрам па чыстым полі. Дык ляжалі пад дрэвамі пульхнай коўдрай — жоўтыя, залацістыя — і шуршэлі пад нагамі. Найпрыгажэйшыя былі лісты кляновыя, — як бы шырокая далонь рука з растапыранымі пальцамі. Жылы прасвечваліся наскрозь. Колер жоўта-залаты так прыгожа адбіваўся на сонцы, што дзеці, збіраючы гэты «хлебны» ліст, паказвалі яго сабе наўзаем і любаваліся, і спрачаліся, чый мабыць прыгажэйшы, або накладалі сабе на вочы і так глядзелі на сонца, або сыпаліся

лістамі і псулі сваю работу. А дрэвы стаялі голыя і дрыжэлі ад сцюжы. Плакалі раней па згубленай вопратцы, а буйныя слёзы шлёпалі на апалыя лісты. Выцягвалі голыя рукі-галузы да неба, прызываючы помсты на гэты нягодны вецер і здрадлівы начны марозік, што іх так абязвечылі ганебна. І днём, і ночай жаласна стагналі і пяялі дрэвы самі па сабе сумную, хаўтурную песню. Але вецер не дбаў аб нішто. Зара дарваўся да бедных лісточкаў, падняў іх, закружыў па чыстым полі і панёс за дзясяткі вёрст, затоўк у даліны, прагаліны, ямы, баразны. Дрэвы ўбачылі гэта злачынства, здзівіліся, прытаілі дух і так і акачанелі, адубелі, замёрлі ад страху, сцюжы і марозу, — аж да самай вясны.

У завалацкай пачатковай школе адкрыліся запісы. Дзеці пасыпаліся ў школу. Вучыцелем у Завалацы быў Пётр Паўлавіч Куксач, беларус з крыві і з касцей, але верны слуга расейскага ўрада і царскага закону. Аднак жа з самага дзяцінства любіў беларускую мову, умеў сотні прыказак, жартаў, загадак і песняў беларускіх. Асабліва ўмеў весяліць таварышаў пры бутэльцы піва. Родам быў з-пад Валожына, сын селяніна, праваслаўнага беларуса.

Куксач прыказаў дзецям называць сябе спосабам расейскім — Пётр Паўловіч. Аднак дзеці сталі яго называць «Пан Паўловіч», што было саўсім не на месцы. Іншыя казалі: «Пан настаўнік» — дык і гэта Куксачу не спадабалася. Тагды ён загадаў клікаць сябе «Господин Учитель!». Да гэтага нарэшце вучні прывыклі, але і то выгаворвалі па-свойму: «Гаспадзін Вучыцель!»

Сёлета Вінцусь і не пытаў матку, ці пазволіць ісці ў школу. Добра помніў з прошлай зімы, што тагды казала: «Пойдзеш, сынок, на другую восень». Дык вось збіраўся Вінцусь даўно і, як толькі Кастусь Юрэвіч запісаўся, і ён назаўтра быў гатовы. Цэлую ноч сніў Вінцусь вучыцеля і школу. Будзіўся некалькі разоў, баючыся, каб не праспаць. Снедаў ледзь дзве-тры мінуты і нарэшце пайшоў-пабег з суседнімі хлопцамі ў школу, весела падскокваючы па дарозе.

У школе было ўжо поўна вучняў. Старшыя хлапцы шумелі, весяліліся, біліся, а малышы стаялі са сваімі апекунамі пры стале і чакалі вучыцеля. Нарэшце адчыніліся дзверы, увайшоў вучыцель — сярэдняга росту, малады, светла-русы, прыгладжаны, абголены і адзеты франтам. Пад пахай дзяржаў доўгую чорную кнігу. Глянуў на хлапцоў старшых і малодшых, акінуў вокам усю абстаноўку, як практычны гаспадар сваё поле, і важна сеў пры стале. Зара паклікаў малышоў к сабе і стаў запісваць.

Вінцусь першы раз у жыцці пачуў расейскую мову. Паказалася яму так смешнай, што ён не мог стрымацца, — штурхнуў локцем Юрэвіча і сказаў:

— Чуеш, Кастусь, па-якому гэта ён гаворыць? Гэта ж саўсім не па-людску!

— Ціха ты! — адказаў Кастусь. — У школе, мусіць, так трэба…

Але вось прыйшла калейка на Вінцуся. Цікавасць, страх і смех так спуталі яму язык, што толькі глядзеў на ўсё і не мог сказаць слова.

— Как тебя звать? — пытаў вучыцель.

Вінцук стаяў і смяяўся.

— Как твоё имя? — пытаў крапчэй Куксач.

— Кажы! — таўклі хлопцы Вінцуся ў бок.

— Вінцук! — адказаў нарэшце хлапец, а вочы так і гарэлі юным агнём.

— А как фамилия?

— Кавалёнак, — адказаў Вінцук.

Усе засмяяліся, а Вінцук не ведаў, чаго ім трэба.

— Якубёнак! — перабіў Вінцусь сам сябе.

Тут усе засмяяліся яшчэ больш. Смяяўся і сам вучыцель, і апекуны дзяцей. А Вінцусь стаяў пасярод, збіты з тропу, пачырванеў да самых вушэй і ўжо гатоў быў заплакаць.

— Как я запишу? — казаў вучыцель. — Ты сказал две фамилии: каторая из них лучше?

Тут уступіўся ў гутарку Каятан Юрэвіч, бацька Кастуся. Ён прыйшоў дапоўніць учарашні запіс свайго сына, каторы таксама многа напутаў. Каятан быў чалавек разбітны, кемны і кідлівы. Па прафесіі быў сталяр, аўчыннік, маляр і — адным словам — умеў сам адзін зрабіць ці паправіць самыя патрэбныя рэчы ў гаспадарцы. Ягоную пагаворку: «Умееш — не ляніся, не ўмееш — навучыся» — зналі ўсе ў Завалацы. Юрэвіч калісьці добра знаў Якуба, Вінцусёвага бацьку, з каторым некалькі месяцаў разам працавалі ў Завалацкім замку. Вось цяпер ён і прыпомніў свайго прыяцеля і растлумачыў вучыцелю ўсё патрэбнае.

— Гэты хлапец, — казаў Каятан Юрэвіч, — сын тутэйшай удавы Ганулі, па прозвішчы Якубіхі, бо ейны муж называўся Якуб. Быў ён каваль і слесар — і добры быў чалавек! Дык вот і хлапца называюць то Якубёнак, то Кавалёнак. А праўдзівае іхнае прозвішча так, як і ваша, гаспадзін вучыцель, — Паўловічы. Значыць, хлапец называецца Вінцук Паўловіч, сын Якуба.

— Вы путаете, — казаў вучыцель, — моя собственная фамилия Куксач, а Павлович — это моё отчество.

— Ну, гэта нам усё роўна, — адказаў Юрэвіч. — Толькі ж гэны Якуб Паўловіч, бацька гэтага хлапца, быў прыезны, знекуль вельмі далёка. Ён сам мне калісьці расказваў, але я забыўся. Не то з Беластоку, не то з Магілёва, адным словам — недзе ў той бок за Вільню.

— Какой губернии и волости? — пытаўся вучыцель.

— А гэтага бадай тут ніхто не ведае, — адказаў Каятан, — і, мусіць, нават сама Гануля, хлопцава матка, не ведае.

— Как же я запишу? — пытаўся Куксач.

— Запішы, пан, што няведама, якой губерні, — парадзіў Юрэвіч. — А хлапец больш падобны да маткі, як да бацькі, — дабавіў ён на адход.

Вінцусь уважна і цікава слухаў гэту аповесць аб сваім родзе і толькі ўласне цяпер даведаўся аб сваім праўдзівым прозвішчы, што ён Паўловіч, а не Якубёнак.

Вучыцель пусціў хлопцаў на вялікую пагулянку, а сам пайшоў у свае пакоі.

— Ці ты Якубёнак, ці Кавалёнак, — пытаўся Вінцуся, нібыта паважна, Кастусь Юрэвіч.

— Я Паўловіч, — адказаў Вінцусь.

— Эй, Кавалёнак! А дзе тваё кавадла? — дражніў Вінцуся малы Міхась Масюкевіч, па прозвішчы Курачка.

— Дзе твой малаток? — дражнілі другія.

Вінцусь маўчаў і адступаў да дзвярэй. Але хлопцы валам наступалі, балазе сабраліся самыя малышы, а адзін закрычаў:

— Калі ты Паўловіч, дык ты нашага вучыцеля сын!

Вінцусь скочыў да таго нягодніка біцца, але хлопцы не дапусцілі. Сталі кругом паўтараць гэта самае. Вінцусь ужо пачынаў плакаць. Тут Курачка падышоў да Вінцуся і шапнуў яму ў вуха нешта нейкае такое, што Вінцусь не мог стрымацца і з цэлага размаху ляпнуў яму аплявуху. Падняўся такі шум і гармідар, што хлопцы не чулі адзін другога. Аж адчыніліся дзверы, і паказаўся на парозе сам вучыцель.

— Кто здзесь шумит? — загаманіў ён.

Усе аднамысна паказалі на Вінцуся.

— На колени! — скамандаваў вучыцель і сам пайшоў.

Вінцусь апынуўся на каленях, у куце, паміж шафай і печкай.

Але Куксач, відаць, нешта перадумаў. Зара вярнуўся і сказаў ласкавейшым тонам:

— Ну, первый день я тебе прощаю, ступай! А ты зачем плачешь? — звярнуўся ён да Курачкі, каторы трымаўся за шчаку і праліваў цэлае мора горкіх слёз.

Другія хлопцы так-сяк растлумачылі і, ведама, звалілі ўсю віну на Вінцуся.

— Так ты такой! — загаманіў на яго вучыцель. — Если так, то астанешся сегодня после класса.

— Што ён казаў? — пытаўся Вінцусь.

— Ён казаў, што, як усе пойдуць дамоў, ты адзін астанешся ў класе, — растлумачылі старшыя вучні.

Цяпер Вінцусь стаў плакаць, а Курачка перастаў.

Гэты вялікі клас, з шасцю вокнамі, высокай столлю, вялікай белай печчу і цёмным кутом за печчу, паказаўся Вінцусю вельмі страшным. Лепш згадзіўся б умерці, як аднаму аставацца ў школе. Старшыя вучні, выходзячы дамоў, затрымаліся пры дзвярах, параіліся з сабой і змеркавалі, што пакідаць тут аднаго хлапца нельга.

— Гэта саўсім дгэнна! — казаў самы старшы, па прозвішчы Бугава (булава), бо не выгаворваў ні «л», ні «р» і часта любіў ужываць слова «бугава». — Гэтак няможна габіць, — казаў ён. — Дгэнна гобіць наш вучыцель. Такога магога хлапца аднаго пакідаць у класе няможна.

Малыя хлапцы з трывогай слухалі, як Бугава выступаў супроць самога вучыцеля. Але Бугава нікога не баяўся: ён ужо сёмы год хадзіў у школу, а ў трэцім аддзяленні сядзеў год трэці, — не мог здаць апошняга экзамену. Ён адзін помніў папярэдняга вучыцеля і часта яго хваліў, а на гэтага ласкі не меў.

— Што гэта за вучыцель? — казаў Бугава. — Той, бывага, мяне любіў, а гэты толькі дагэмна кгычыць. Гэта бугава, а не вучыцель! Я не магу Вінцука пакінуць тут аднаго.

— Чаму? — пыталі хлапцы.

— Бо ён будзе баяцца.

— Дык што ж з ім рабіць? — пыталіся хлопцы.

— Няхай пгосіць вучыцеля, а як вучыцель не паслухае, дык я сам пайду да яго. Чуеш, ідзі сюды! — закамандаваў Бугава.

Але Вінцусь сядзеў у куце і горка плакаў.

— Эх ты, бугава ты! — казаў той. — Ідзі, калі табе я кажу. Што, яшчэ будзеш спгачацца? Віш, які ты!

Тут хваціў Вінцуся сілай за рукі і пацягнуў да дзвярэй. Там хлопцы адчынілі дзверы да вучыцеля, а Бугава ўпіхнуў Вінцуся туды.

Там Вінцусь стаяў і плакаў. Вучыцель глядзеў на Вінцуся і меркаваў, што рабіць, а пасля сказаў:

— Смотри ты у меня, а то совсем выгоню из школы!

Добра закруціў хлапца за вуха і пусціў дамоў.

— Ты паднясі за тое мае кніжкі, — казаў Бугава Вінцусю, — а я пашукаю пагу добгых каменьчыкаў.

— Нашто яны табе? — пытаўся Вінцусь.

— Відзіш, ты яшчэ магы, ты не ведаеш і табе не тгэба гэтага гавагыць. Па дагозе бывае ў нас вайна з магымі жыдкамі, а я мушу вас баганіць.

Так перайшоў гэты памятны першы дзень у школе. Гэта першая няўдача, як змора, доўга ляжала на душы Вінцуся. Як прыйшоў дамоў, там ужо ведалі аб усім. Суседнія хлапцы, каторыя прыйшлі раней, расказалі ў Пятровічаў аб усіх Вінцусёвых прыгодах. Ануля была вельмі неспакойная і збіралася ісці ў школу выручаць хлапца, як вось ён сам паказаўся на парозе.

Якраз тагды ў Марылі было вялікае свята: закалолі вялікага парсюка і кончылі яго разбіраць. Дзядзька Аляксандра Матусевіч, падвязаны фартухам, закасаўшы рукавы, рэзаў і адкладаў на стол і на лаву паводле сорту — сала, мяса без касцей, мяса з касцямі і сланіну. Яму памагаў Тамаш, а Марыля камандавала абодвума. Толькі ж да дзядзькі гаварыла ласкавей: «Палажыце, калі ласка, паляндвіцу на стол» або: «Не фатыгуйцеся — я сама сала закручу». А да мужа адзывалася крапчэй: «Куды ж ты ўбіўся з сваімі рукамі, як качэргамі?» або: «Калі не знаеш, дык не бярыся!»

Нарэшце самая клапатлівая работа была скончана. Тагды Марыля паклікала мужчын на абед, на гарачую юшку. Трэба было перадыхнуць і адпусціць дзядзьку, каторага работа была скончана, а самім брацца за далейшы парадак і за каўбасы.

Пры абедзе, як вымагае абычай, гаварылі аб «нябожчыку».

— Добра ты выкарміла! — казаў дзядзька Матусевіч да Марылі. — Сыты быў парсюк, як мядзведзь, сланіна на маю далонь. А вот мая Антоля не ўмее так карміць.

— Вы заўсёды трымаеце многа свіней. На іх многа выходзіць, а карысць малая. А я дзяржу аднаго: гэта танней каштуе і большая карысць.

— А я, — казаў Тамаш, — памагаў пазаўчора калоць і важыць парсюка ў ксяндза Марціноўскага. Не паверыце?! Важыў дваццаць чатыры пуды!

— Багатаму чорт дзяцей калыша, — сказаў дзядзька.

— Гэта — не тое, — казала Марыля, — ксяндзоўская гаспадыня ўсю гаспадарку вядзе па кніжках: кожную рэч мерыць і важыць, затое і такі вынік.

Дзядзька нічога не сказаў, але задыміў люльку. А Гануля гаварыла свайму Вінцусю:

— Што ж ты, сынок, выдумаў — біцца ў школе і то з самага першага дня?

— Калі ж ён сказаў такое слова, што я не мог вытрываць.

— Хто такі і што ён сказаў? — пытала Гануля.

— А гэны, Курачка, — казаў Вінцусь.

— А ты не ведаеш, што біцца — грэх? — гаварыла Марыля.

— А я даўно казаў, што з хлапца нічога добрага не будзе, — казаў дзядзька Аляксандра. — Навука да дабра не даводзіць. Наша навука — гэта саха, барана, цэп, вілы, сякера, малаток, а кніжкі — гэта гультайская работа. Я працую, дык мае рукі ў мазалях, а вунь — паглядзіце, — якія ручкі ў ксяндза або ў арганіста. Саўсім як у паненачкі. Яшчэ да палена не даткнецца, а ўжо пальчык застрэміць. Праўду людзі кажуць, што пад канец свету вучоныя будуць у сямі аднаго пеўня рэзаць, дый то певень іх наб'е, а яны будуць плакаць. Хэ, хэ, хэ!

— Што дзядзька гаворыш? — казала Марыля. — Каб не было б вучоных, дык не было б ні ксяндзоў, ні арганістаў, ні дактароў, ні аптэкі…

— Можа, лягчэй было б жыць на свеце без дактароў, — сказаў Тамаш.

— І ты ўжо проціў навукі? — загаманіла Марыля на мужа. — Сам чытаць не ўмееш, дык і карысці з навукі не бачыш! А вось каб не навука, дык не было б вам ні пілы, ні сякеры, ні малатка, — усё гэта вучоныя выдумалі. І не было б вашай праклятай табакі, бо і гэта пайшло з вучоных.

— Ну, за гэта яны малайцы! — казаў дзядзька.

— Хоць раз дзядзька прызнаў навуку, — засмяялася Гануля.

— Ды ты, Гануля, не смейся, — казаў дзядзька. — Няхай сабе багатыя вучацца, бо ім цяжка працаваць не хочацца, дык яны прыкрываюцца навукай і дзяруць з нас сёмую скуру, але ты ўспомніш маё слова, — вучыць хлапца не па тваёй сіле. Забяры яго са школы і аддай да шаўца! З хлапца нічога не будзе…

— З дзядзькавага Антося нічога не будзе! — перабіў дзядзьку Вінцусь. — Дзядзька яго аддай сабе да шаўца, а я хачу вучыцца. Я буду вучыцца, аж навучуся…

— О, о, о! Бачыш, Гануля, — загаманіў дзядзька.

Тут ужо і Гануля не магла стрымацца, а крэпка дзерганула хлопца за вуха.

Так гэты цэлы дзень перайшоў Вінцусю пад нешчаслівай зоркай. Назаўтра Гануля не пусціла яго ў школу. А калі, седзячы ў хаце, хлапец цэлы дзень плакаў, на паслязаўтра Гануля, з парай каўбас пад пахай, сама павяла хлапца ў школу і даведалася аб усім на месцы. Вучыцель, прыняўшы гасцінец, успакоіў і пацешыў Ганулю.

— Ничего, — казаў ён ласкава, — мальчик хороший! Ещё немножко дикий, но мы его научим.

Хлопец пачаў вучыцца па-расейску, ізноў ад літары «а». Аднак цяпер вучыўся без сілябізу. І ахвоту меў непахібную. Кожны дзень уставаў чуць свет, снедаў паспешна і не ішоў, але бегам бег у школу. Пасля таго першага разбою хлопцы наагул Вінцуся не чапалі. Быў ён, зрэшты, дружным таварышам. Старшыя вучні яму давяралі свае кніжкі, — калі трэба было біцца з жыдкамі ці слізгацца на лёдзе.

— Ты глядзі маіх кніжак. Помніш, як я цябе гатаваў у той пегшы дзень? — прыпамінаў яму Бугава.

Так прайшло чатыры гады. Вінцусь вучыўся добра, але ніколі не адважыўся біцца каменьмі. Гэтае рамяство, пасля Бугавы, пераняў Кастусь Юрэвіч і трымаў над хлопцамі верхаводства аж да канца сваёй навукі.

* * *

Тым часам пан Харашуха паспешна выехаў з Завалакі. Прычынай таму была Гануля.

Не дачакаўшы, калі ўжо Рузя скончыць падгатоўку, арганіст як чэсны чалавек пайшоў проста сам на афіцыяльную дарогу: знайшоў адпаведнага чалавека і паехаў да Ганулі ў сваты.

Але ледзь выехалі на мястэчка, як адразу ім не паручыла: сталі заварочваць на Замковую вуліцу, аж папярок дарогі перайшла баба з пустымі вёдрамі. Наагул у Завалацы некаторыя бабы як бы сумысна перабягалі вуліцу, як здалёку ўбачылі важных людзей. Але найгорш цярпелі ад іх кірмашнікі: так і пільнавалі нягодныя бабы, каб перайсці дарогу з пустымі вёдрамі! Тагды такому купцу было чыстае гора: ехаць на кірмаш — не будзе шчасця, а варочацца дамоў — і далёка, і стыдна. Так і нашым сватам: хацелі ўжо варочацца дамоў. Але дальш пацешыла іх другая баба, каторая перайшла з поўным, толькі ж тая была з двума пустымі, а гэта з адным поўным.

Што робячы, паехалі яны далей. Шчасце, здавалася, пойдзе рукою. Знайшлі Ганулю ў хаце. Сват быў гаваркі, умеў нязначна падысці да дзела, і нават Ганула не цуралася. Сталі тагды размову даводзіць бліжэй і ўжо сват меркаваўся ісці да воза па бутэльку з гарэлкай, як сама Гануля нагнала яго ў сенях і шапнула: не фатыгуйся, васпан, надарма, бо я замуж не пайду за нікога. А сама вызвала ціхенька Вінцуся з хаты і, скрыпнуўшы дзвярмі, пайшла да суседзяў.

Сват проста збаранеў, бо саўсім не спадзяваўся такога абвароту. Але Харашуха яшчэ перад тым здаўся на Божую волю і казаў сам сабе: як будзе, так будзе, — паеду ў сваты, як усе людзі, а там паглядзім… Дык цяпер саўсім спакойна распарадзіўся зняць званкі з каня і ціхенька ехаць дамоў.

Назаўтра ўзяў Харашуха ў ксяндза Марціноўскага одпуск на цэлы тыдзень і некуды паехаў. Вярнуўшыся з гэтай паездкі, стаў пакавацца саўсім і за тры дні пакінуў Завалаку назаўсёды. Дастаў службу ў самога дэкана ў Новай Мураванцы.

## Частка II

### I. ФАМІЛІЙНАЯ РАДА

Наш хлапец, Вінцук Паўловіч, маючы дванаццаць гадоў, скончыў пачатковую школу. Апошні экзамен удаўся добра, нават і вельмі добра. Але Вінцук не выйшаў першым вучнем, як ціхенька аб гэтым надзееўся. Усё дзела папсула арыфметыка, за каторую Вінцусь дастаў толькі чацвёрку.

Вось хлапец з пахвалой пакідаў школу і выходзіў на Божы свет.

Але што рабіць далей? Дарогаў было многа, але ўсе вузкія і цесныя.

Думала, гадала Гануля, што рабіць далей і куды пакіраваць хлапца, і не магла, як кажуць, думкі прылажыць. Трэба было склікаць Фамілійную Раду!

Сабралася Рада. Належалі да яе: цётка Марыля, дзядзька Тамаш, брат Ганулін Сымон, стары дзядзька Аляксандра Матусевіч, і яшчэ, хоць не з радні, але па знаёмасці, — Каятан Юрэвіч, ну і сама Гануля. Толькі не належаў да Рады найбольш ёй заінтарасаваны — сам Вінцусь. Яго пусцілі гуляць. Ён і не дагадаўся, што тут будуць расстрыгаць ягоны лёс.

— Што мне рабіць з хлапцом? — пыталася Гануля. — Вось якраз скончыў школку. Што далей? І куды яго пакіраваць? Бацька даўно памёр, а я адна баюся распараджацца ягонай доляй. Хлапец — сірата, а я — удава.

Усе задумаліся. Кожны пачуваў на сабе бярэма адказнасці за чужы лёс.

— Вы цяпер гаварыце! — адазваўся першы дзядзька Матусевіч. — Бо калісьці Гануля мяне не паслухала, дык я не хачу першы радзіць. Што з такой рады, калі цябе пытаюцца, а пасля робяць па-свойму?

— Што ж! — адазвалася Марыля. — Я думаю, сястра, аддай ты яго да сталяра. Вот Каятан якраз тут, а ён добры сталяр і Бог яму памагае. Папрасі, каб сына прыняў на навуку, — і кусок хлеба мець будзеш.

— А можа, лепш да каваля? — сказаў нясмела Тамаш, каб яўна не пярэчыць жонцы.

— Кавалём нават лепш быць, — дабавіў Сымон, — бо і бацька Вінцусёў быў кавалём і добра жыў.

— І… скора памёр, — дабавіў Каятан Юрэвіч.

— Не ўсе ж кавалі так скора паміраюць, — сказаў дзядзька Аляксандра, пыхкаючы люльку. — Вунь Іцка-каваль мае ўжо капу гадоў.

— Гаварыце вы тут, як сабе хочаце, — сказаў паважна Каятан Юрэвіч, — а я вам скажу, што ведаю. Па-мойму, Вінцусь ані на сталяра, ані на каваля няздатны. Другое дзела — мой хлапец, Кастусь: чырвоны, здаровы, плячысты — яму толькі з сякерай, з пілой, гэблем і працаваць! Я не дзеля таго, каб Вінцуся да сябе не прыняць, але дзеля таго, што дзіця бледае, худое, малое… Куды яму цягаць цяжкія бэлькі ці біць молатам па кавадле. Упадзе ў сухоты і памрэ ў маладых гадох, як і бацька ягоны. Тут справа ясная, як на далоні.

— Дык аддай, Гануля, хлапца ў шаўцы ці краўцы! — радзіла дальш Марыля. — Гэта работа гуляшчая. І заробіць добра, і здароўя не страціць, і сама будзеш рада.

— Я ўжо даўно ёй аб гэтым казаў, але тагды не паслухала мяне, — сказаў дзядзька Матусевіч.

— Што ж, не паслухала, — адказала Гануля. — А вось хлапец скончыў школку і…

— Ну, і што? — перабіў дзядзька.

— Яно то нібы нічога, — казала Гануля, — але ўсё ж такі хлапец будзе разумнейшы. І добра вучыўся.

Дзядзька махнуў рукой і нічога не сказаў, толькі буркнуў сам сабе: «Кніжная мудрасць — сабакам на падноскі!»

— Я ўжо прабавала казаць яму, — гаварыла Ганууля, — але хлапец аб шаўцах і слухаць не хоча! Плача бесканечна, каб аддаць яго ў школу — «Гарадское вучылішча» ў Новай Мураванцы. І сама не ведаю, адкуль гэта яму прыйшло ў галаву і дзе ён даведаўся, бо якраз цяпер ніхто з цэлай Завалакі там не вучыцца.

— Нічога. Паплача і перастане. А пасля прывыкне і будзе добрым шаўцом, — казаў Тамаш Пятровіч.

— Як майстар поцягам перацягне колькі разоў, дык і плакаць перастане, — цвярдзіў сваё дзядзька Матусевіч.

— Пачакайце, суседзі! — казаў Каятан Юрэвіч. — Не ўсё можна ў дзіця ўбіць. Як дзіця не мае да чаго склоннасці, дык хоць зарэж яго, — нічога з ім не зробіш! Так і ў звяроў бывае: хоць ката забі, ён за зайцам не пагоніцца, а сабаку — дык і стрымаць няможна. Вось, прымерна, мой Кастусь: вечна з ражнамі і з гэблем возіцца, — усе пальцы парэзаў, — значыць, будзе добры сталяр. Можа, нават будзе лепшы за мяне, бо скончыў тутэйшую школку.

— А нашто сталяру навука? — пытаўся дзядзька Матусевіч. — Можна долатам дзяўбаць і без школы.

— Без навукі будзеш «дзёўбалам», а не майстрам, — казаў Каятан. — Наша старасвеччына не прызнавала навукі, затое і я так з навукай запазніўся. Але цяпер, як стаў вучыцца мой Кастусь, дык зацікавіўся і я. Бо і ў маёй сталярцы патрэбна мера, лічэнне, план і выкананне. Адным словам — патрэбна навука. Эх, браткі вы мае! Я віджу ясна: каб я быў вучоны, я б пайшоў вышэй ад другіх інжынераў, што цяпер дзяруць нос перада мною і тыкаюць мне пальцам пад нос: «Тут тое так — тут тое не так!» Я і цяпер часта спрачаюся з імі пры будоўлі. А як будавалі той няшчасны мост у Гарадцы, на Валачанцы, дык я доўга спрачаўся з тым аўстрыяцкім інжынерам і з самім доктарам. Я ім даказваў, што трэба паставіць перад мостам два ледарэзы і самы мост раздзяліць на дзве асноўныя часці, а ў кожнай зрабіць двайную застаўку на зрубах. Прытым сярэдзіну моста ўмацаваць жалезнымі абручамі. А той інжынер-чэх даказваў сваё на рысунках, а на паперах я быў сляпы. І вось зрабілі яны па-свойму, — і паехаў пан доктар з тым самым мостам, як-то кажуць, «да Абрагама на піва». Цяпер жа ўдава Пстрыкуніха з сваім галоўным аканомам (і ён чэх!) клічуць мяне на галоўнага механіка. Але я стаўлю цвёрдыя варункі і, — каб я так здароў быў! — лепш зраблю ад таго заграннічнага інжынера. Ага! Але вось мой Кастусь стаў смяяцца з мяне, што я не ўмею памножыць і падзяліць ніякіх лічбаў, і не магу так, як ён, рабіць з памяці

табліцы множання. «Не дачаканне тваё, — кажу, — мой ты сынок! Не такая ж тут вялікая мудрасць». І вось я тры вечары, пад сакрэтам ад хатніх, вучыўся гэту табліцу: тагды пайшоў да Кастуся на экзамен. І… зрэзаўся саўсім! Мне так было стыдна перад сынам, як бы хто мяне рэзаў па горле шчарбатай брытвай. А Кастусь, — хітры і язычлівы, — кажа, нібыта жалеючы мяне: «Тата ўжо стары, дык затое і трудна. Трэба было маладому вучыцца». А які я стары? Мне толькі трыццаць пяць гадоў. Я саўсім малады жаніўся. Дык вось я ўзяўся ізноў. Яшчэ тры вечары зубрыў да поўначы табліцу і два разы яе перапісаў. Затое цяпер і спрасоння скажу, што захочаце. І кожную лічбу памножу-раздзялю, хоць на што хочаце! Прыламаўся, як пастанавіў. Ды мала таго, — казаў далей Каятан, — я стаў прыглядацца ў кніжкі: бачу, — і гэта па маёй сіле. Вось я вечарамі стаў вучыцца пад рукой сына. Перш на смех, а пасля папраўдзе. І не смейцеся. Я ж быў дагэтуль саўсім няграматны, а цяпер я чытаю і пішу. А і мой сынок таксама перастаў перада мной куражыцца, бо не можа адказаць на ўсе мае пытанні. Толькі аднаго не магу паняць, нашто мы вучымся па-польску або па-расейску?

— А як вучыцца? — пытаў Сымон.

— Па-нашаму! — казаў Каятан.

— Гэта ж папросту! Ці ж так можна? — пытаў Тамаш.

— Чаму няможна? — казаў Каятан. — Я сам прыламаўся і прачытаў кніжку «Дудка беларуская». І віджу, што ўласне мы павінны вучыцца папросту. Чым прасцей, тым лепш. А мы саўсім пакрывіліся і нічога не ўмеем. Толькі, як дурныя, мы стыдаемся самі сябе і свайго языка. Дык вот якое дзела! Затое я не дзіўлюся, што і Ганулін хлапец хоча вучыцца, а Гануля хоча яго аддаць у школу. І я свайго малодшага сына пашлю на другі год у Мураванку.

— Але як жа ты, сястрыца, парадзіш у такую навуку? Дзе ты возьмеш грошы? — пытала Марыля.

— Я не ведаю сама, — казала Гануля. — Буду прасіць помачы. Ёсць людзі, каторыя крышку абяцаюць, калі хлапец будзе здольны і будзе старацца.

— А ці ахвоту мае? — пытаў Каятан.

— О, ахвоты ў яго хоць адбаўляй! Есці не будзе, спаць не будзе, абы толькі вучыцца.

— Калі хлопец будзе старацца, дык і я памагу, — казаў Сымон, Ганулін брат. — Я сам калісьці год вучыўся ў Новай Мураванцы, але заляніўся, і бацька забраў мяне дамоў, а цяпер ужо не вернеш.

— І я памагу, чым змагу, — казаў Тамаш.

— А чым ты паможаш? — перабіла яго Марыля. — У нас саміх дзеці.

— Толькі ж адна Юлечка, — гаварыў Тамаш.

— Адна то адна, а ўсё яшчэ можа здарыцца. Што тут гаварыць…

— Ну, хоць у Мураванку хлапца падвязу, — адказаў Тамаш напроціў жонцы.

— А я думаю, што ты, Ганулі, толькі на смех сябе выстаўляеш, — гаварыў сваё дзядзька Матусевіч. — Не тваёй гэта сілай. З цэлай нашай Завалакі ніхто ў Мураванку сыноў не пасылае, хоць ёсць тут многа багатых гаспадароў, а ты — без грошай, без хаты, без свайго загона… Куды ж ты парываешся? Толькі дарэмна сарвешся і прападзеш за нішто!..

— Як Бог дасць, так і будзе. Бог сільнейшы за людзей, — так закончыла раду Ганулі.

— Ужо лепш ішла б замуж за таго арганіста, — казаў яшчэ дзядзька. — Дык і мела б за што сына вучыць.

— Калі Бог не судзіў, — адказала Ганулі.

Тым рада і скончылася. Усе разышліся.

«Калі ты сама пастанавіла, нашто было нас клікаць», — думаў дзядзька, ідучы дамоў.

Яшчэ трэба было Ганулі адбыць адну раду, — з самім Вінцусём.

А Вінцусь быў той самы віхраваты хлапец, з каторым мы былі знаёмы ў першай частцы гэтай аповесці. Хоць меў ужо дванаццаць гадоў, але падрос вельмі нямнога, ды яшчэ болей пацянеў, — як казалі суседзі, «высах ад навукі». Але вочы былі тыя самыя: жывыя, як два агеньчыкі, глыбока-праніклівыя — матчыны вочы, у каторых крылася думка, не панятная чужым людзям, а нават роднай матцы. Хлапец да ўсяго быў цікавы. Асабліва любіў расказы аб гістарычных падзеях, вялікіх і страшных прыгодах. Чытаў вельмі многа, а пасля гэта перадумваў, перажываў сам і часта сніў.

Гледзячы са стараны на хлапца, суседзі празывалі яго ксяндзом, а хлапцы дражнілі гэтым і строілі розныя жарты. Вінцук, аднак жа, не абіжаўся, але яшчэ больш углыбляўся ў кніжкі.

Наагул у тыя часы, калі вельмі мала было школаў і ўлезці ў іх было трудна, дык хто адважыўся вучыць сына, гэтым самым даваў знак, што кіруе яго на ксяндза. Другіх вучоных прафесіяў на беларускай вёсцы тагды як і не бывала. У дактары пападалі толькі багатыя. У адвакаты — таксама. Зрэшты, лячыліся тагды

нямнога і то сваімі зёлачкамі, і наагул хваробаў было менш. Судзіліся таксама сваім спосабам — у валасцях, дзе за праступкі секлі розгамі або садзілі ў «халодную», — дык і адвакаты былі непатрэбны. Толькі адна прафесія была заўсёды неабходная і зразумелая сялянам — гэта ксяндзоўства.

Гануля таксама ціхенька спадзявалася, што сын будзе ксяндзом. І малілася аб гэта бесканечна. А сам Вінцусь тым часам саўсім аб ксяндзоўстве не думаў. Яго пацягвала толькі адно пажаданне — вучыцца.

— Як жа будзе, Вінцусь, — прабавала Гануля хлапца, — ці будзеш ты шаўцом?

— Мамачка, хоць мяне зарэжце — не буду! На смерць не люблю шавецтва! Нашто вы мне яго навязваеце?

— А што ў ім благое? — яшчэ пыталася Гануля. — Жыццё шаўца спакойнае, праца няцяжкая, і кусок хлеба можна зарабіць, і мяне пракорміш да смерці.

— Ці, мама, смяешся, ці сапраўды кажаш? Бо, калі праўда… — Вінцук не скончыў і пільна глядзеў матцы ў вочы. — Калі смяешся, дык — нічога, а калі сапраўды, дык…

Тут ужо вочы наліліся слязамі, і хлапец ледзь мог стрымацца. У фантазіі хлапчаняці так жыва рысаваўся абраз шаўца і вонкавыя абставіны — скура, дратва, брудны столік з рознай драбязой і сам шавец — згорблены, засмоленыя рукі, што Вінцук пужаўся самой назовы і ўспаміну. І не было на свеце такой сілы, каторая магла б прыламаць хлапца да шавецкага варштату.

— Уцяку куды-небудзь! — казаў ён матцы.

Кажуць, што Бог ад роду назначае чалавеку асобнае прызванне, і шчаслівы будзе той, хто за гэтым прызваннем пойдзе. Але, мусіць, таксама Бог прышчэплівае нялюбасць да іншых заняццяў, каб чалавек не браўся за прызванне неадпаведнае. Так было і з Вінцусём. І Гануля гэта добра зразумела.

— Што ж я зраблю? — казала яна суседзям. — Мусіць, Бог так хоча.

— Дык кім ты, сынок, хочаш быць? — пыталася яшчэ Гануля. — Ты ўжо хлапец немалы. Што ты сам сабе задумаў?

— Я яшчэ і сам не ведаю, — казаў Вінцук. — Мне толькі хочацца вучыцца і вучыцца. Аб тым пасля падумаем.

На гэтай радзе з Вінцусём было пастаноўлена ўвосень здаваць экзамен у Нова-мураванскую павятовую школу, а цяпер узяцца за падгатоўку.

## II. ПАДГАТОЎКА

З падгатоўкай трэба было спяшацца, бо да экзамену часу асталося нямнога. Стала Ганупя шукаць адпаведнага вучыцеля. І вот аказалася, што Завалака не такая ўжо і бедная на людзей. У мясцовага дзяка Кузьмы Нарцукевіча былі два сыны, каторыя вучыліся ў праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Вільні. Аднаго называлі Шурка, а другога Ванька. Шурка быў высокі, светла-рыжы і досыць прыгожы юнак, а Ванька быў ярка-рыжы, грубы і досыць безабразны хлапец. Шурка вучыўся добра, але пяяў дрэнна. Затое ўмеў ужо выпіваць не горш ад роднага бацькі. А Ванька пяяў добра, але вучыўся слабавата і сёлета дастаў пераэкзаменоўку з лацінскага языка.

Сам Кузьма быў чалавек гаваркі, вясёлы і меў склоннасць да філасофіі, асабліва дзюбнуўўшы гарэлкі. Бывала, цэлымі гадзінамі пагладжваў сваю белую доўгую бараду і талкаваў на высокія тэмы.

Ну, і барада ў Кузьмы была слаўная! Разыходзілася на дзве роўныя часці і закрывала чуць не цэлыя грудзі. Кузьма любіў сваю бараду непамерна. Расчэсваў яе і разгладжваў з вялікім набажэнствам, асабліва ў царкве, і паглядаў на ўсіх і нават на папа згары, бо ў таго была бародка рэдзенькая — проста касмыль, а не барада.

— Дудзюк ён проціў мяне з сваёй барадой! — гаварыў дзяк на папа.

А поп і сапраўды называўся Дудзюк. Такое ўжо ягонае было прозвішча.

Таварышам Кузьме бываў вучыцель Куксач, каторы таксама любіў у меру выпіць і паспрачацца з Нарцукевічам.

— І чаму Бог даў чалавеку двое вачэй? — пытаўся Кузьма вучыцеля.

— Бог так, значыць, захацеў, дык і даў, — казаў вучыцель.

— Пастой, пастой! — перабіў яго Кузьма. — Ты тут мякінай не выкруцішся, — гавары мне толкам. Вот скажы мне, нашто Бог абое вачэй пасадзіў спераду? Ну, будзь ты мудры — адкажы! А я, — казаў далей Кузьма, — даў бы адно вока спераду, а другое ззаду або зрабіў бы яшчэ лепш: каб адно табе свяціла ўдзень, а другое ўночы. Ну што, можа, дрэнна я кажу, га? — І дзяк пагладзіў бараду.

— А як тагды, васпан, хадзіў бы, каб аслеп на пярэдняе вока? — спытаўся вучыцель.

— Эй ты, брат, хітры! Не дарма ты называешся Таўкач, — казаў Кузьма.

— Я — Куксач! — паправіў вучыцель.

— Я ж і казаў — Таўкач! І хітры ты, брат ты мой! Мусіць, цябе малога матка макам паіла! А хітрасць — гэта лукаўства, а лукаўства — гэта ашуканства, ашуканства — гэта вялікі грэх! Дык ты, браток, пойдзеш на самае дно ў пекла, — ну, і там ты прападзеш! І шкада мне цябе, хоць ты плач!

І ўжо Кузьма сапраўды пачынаў плакаць. Але зара набіраў рэзону і казаў:

— Што ж мы будзем плакаць? Лепш будзем за цябе маліцца і спасаць тваю грэшную душу, бо і ты, хоць Таўкач, але нібыта таксама чалавек.

Тут Нарцукевіч выняў з кішэні камертон, ударыў аб далонь, пасля прылажыў да вуха і падаў тон: ут, ля, фа, ут. Але яны сядзелі толькі ўдвух у маленькім пакойчыку, у карчме Лейзара Завалацкага. Тым часам Кузьма даваў чатыры тоны — гэта на двух было замнога: патрэбны быў поўны хор.

— Гэй, Хаська, Сорка! — крычаў Кузьма. — Сюды!

Хаська і ейная дачка Сорка ўвайшлі ў канторку.

— Ну, што? — пытала Хаська.

— Бяры тон! — гаманіў Кузьма. — «Ут!» Цягні, каб цябе трасца!

Пасля Сорцы даў альтовы тон, Куксачу — тэнара, а сабе — баса. І сам пачаў пяяць: «Со святыми упоко-о-ой!.»

— А вы чаму маўчыцё! — закрычаў Кузьма на сваіх спевакоў.

Але Куксач ужо паспеў цішком выйсці з карчмы, а Хаська з Соркай стаялі і смяяліся. Кузьма са злосці прагнаў і іх.

Астаўшыся адзін, Кузьма любіў пагаварыць сам з сабою. Тагды ніхто яму не мяшаў, і ён выказваў усё, чым дагэтуль набалела душа. Углыбляўся ў царкоўныя справы, праектаваў розныя рэформы, асабліва ў спеве і ў адносінах паміж духавенствам.

— Праўду сказаць, то дзяк у царкве важнейшы ад папа, бо дзяк больш ад папа пяе і больш мае кніжак. Затое і я на папа не пайшоў, а астаўся дзякам.

Тут Кузьма задумаўся.

— Узяць, — казаў ён, — хаця б маё палажэнне. Я стары рэгент і маю за сабой вялікія заслугі. Мяне, дзякаваць Богу, ужо выгналі з двух, самых найвышэйшых, службаў. А наш поп любіць крыкнуць: «Эй, ты там, Кузьма!» А гэты Кузьма быў калісьці басам у архіерэйскім хоры. Кузьма быў рэгентам у благачыннага, — вот хто табе Кузьма Нарцукевіч! Кузьма — табе

не простая Кузьмішча. А падчас службы не я прыходжу да папа пытацца, бо я ўсё ведаю напамяць, а поп прыходзіць да мяне і ласкава пытаецца: «Які ў нас сягоння трапар?» А я — нібы нічога — кажу: «Гэта ж, вядома, першы трапар святочны, а другі васкрэсны». Або закліча мяне ў алтар і пытае: «Які будзе ў нас сягоння пракімен?» І хітры наш поп! Ой, хітры! Хоча прытым знюхаць, ці я гэтага-таго… Як ты, брат, мяне знюхаеш, калі ты сам таго-гэтага… Дык, значыць, мы абое — рабое. Хэ-хэ-хэ! — смяяўся дзяк, аж заліваўся, круціў галавою і прыгладжваў бараду.

І, махаючы рукамі, талкуючы на цэлы голас, Кузьма выходзіў з карчмы позным вечарам і кіраваўся дамоў. Аднак жа браў кірунак саўсім праціўны, блудзіў па мястэчку, а пасля цягаўся па палёх, каля рэчкі і начаваў, дзе прыйшлося. Прытым Кузьма вельмі дзівіўся, што хата недзе сышла з месца. Пакуль нарэшце сам не дагадаўся. «Ага! — казаў ён сам сабе. — Гэта ж, мусіць, цяпер было землетрасенне, бо зямля так і ходзіць пад нагамі і ўсе рэчы кругом скачуць, як ашалеўшы. Значыць, і хату недзе чорт запратаў. А добрая была хата! — казаў Кузьма, крэпка ўздыхнуўшы. — Жыў я ў ёй ужо гадоў з дваццаць. Тут і дзетак дагадаваў, і жонку пахаваў… Вечны ёй спакой!»

Так толькі супакойваў Кузьма сам сябе і тагды ўжо цвёрда спаў пад прыдарожным каменем аж да заўтрашняга белага дня.

Гэта паўтаралася вельмі часта. Мы сумысна затрымаліся тут даўжэй і пазнаёмілі чытача з Кузьмою, бо ён будзе нам патрэбны і ў далейшым расказе.

Цяпер паспяшым вярнуцца да дзякавых сынкоў. Старэйшы, Шурка, меў праз лета двух вучняў: Вінцуся, каторага прыгатаўляў да экзамену ў трэцяе аддзяленне Гарадскога вучылішча, і свайго брата — Ваньку, каторага прыгатаўляў да лацінскай пераэкзаменоўкі.

Вінцусь так стараўся, што трэба было хлапца здзержываць і проста адрываць ад кніжкі. У дарозе на лекцыю голасна паўтараў сам сабе свае задачы. Гануля глядзела і ясна бачыла, што хлапец пайшоў па прызванні. А дзядзька Сымон глядзеў і казаў:

— Чаму гэта я калісьці быў такі дурны і ляніўся вучыцца? А цяпер ужо позна.

А дзядзька Тамаш казаў:

— Ты, хлапец, ідзі есці, бо саўсім заб’ешся ад гэтай навукі!

А стары дзядзька Матусевіч нічога не казаў, толькі пыхкаў люльку і думаў: «Здурнелі людзі ад гэтай навукі! Ім ужо мала чорнага хлеба, хочацца ананасаў. Кажуць, што вучоныя будуць

лятаць калісьці па паветры. Ой, налятаюць яны ў ліхі канец, што не будзе ні хлеба, ні ананасаў. І нашто простаму хлопцу навука? Лепш вучыўся б на шаўца — зара Ганупя мела б кусок хлеба!»

А суседні жыдок, Янкель, пытаўся:

— Ну, Вінцук, на каго ты будзеш вучыцца? Кажуць, што на ксяндза? Праўда-а?

— Не ведаю яшчэ, — казаў Вінцусь.

— Ну, тут не маё дзела, — казаў Янкель. — Але я радзіў бы ісці на ксяндза.

— Чаму?

— Ну, бо ксяндзы цяпер добра зарабляюць, гэта добры інтэрас. Толькі адна ў іх бяда, што няможна жаніцца, а гэта уй як трудна!

А дзяк Кузьма Нарцукевіч, добра выпіўшы, гладзіў Вінцуся па галаве і казаў:

— Ты хлапец — маладзец! Я віджу, што з цябе калісьці будуць людзі. Эх, каб ты быў маім сынам!.. Бо мае не пайшлі па мне, і Шурка будзе горкім п'яніцай, а Ванька — гультай! Вот экзамену не здаў. А чаму не здаў? Ліха ж яго бацьку ведае! Якія з іх будуць папы? Ні яны ноты знаюць, ні яны тое-гэта. Як іх там у семінарыі вучаць? Проста хлапцы блеюць, як авечкі, хоць і мае родныя сыны. А ты, хлапец, вот быў бы поп, — над папамі поп!

— Я не буду папом, — бараніўся Вінцусь.

— Ну, а хто ж ты будзеш? Пазволь сам сябе запытацца? — казаў, пахіліўшыся да Вінцуся, Кузьма.

— Я буду ксяндзом.

— Віш ты — ерэтык какой! — казаў дзяк. — А ты думаеш, што ксёндз — то не поп? Ей-богу — поп! З усіх бакоў — поп.

— Папа, остав ево! — казаў Шурка і асцярожна выводзіў бацьку ў кухню. Там дзяк спрачаўся далей сам з сабою, гаворачы: — Знаю я гэтых ксяндзоў! Хі-ітрыя яны езуіты: барада ім мяшала — абрэзалі яе; валасы мяшалі — абрэзалі і валасы; полы і рукавы ім мяшалі — таксама абрэзалі; жонка і дзеці ім мяшалі — яны і жонку абр… бр… кінулі, — ерэтыкі яны этакія! А так у другім усім — дык ксёндз з папом — роўныя папы. Я і свайму папу гэта самае казаў, дык і ён не мог нічога адказаць, — толькі дзёр сваю куртатую бараду і носам круціў.

А Вінцусь сядзеў за перагародкай і прыгатаўляў лекцыю. Але тут заслухаўся ў навучныя вывады дзяка і аж кіснуў са смеху.

А за другой перагародкай Шурка вучыў Ваньку лацінскай граматыкі і бесканечна паўтараў адны і тыя самыя словы. Найбольш цікавіўся Вінцусь тым, што Ванька паўтараў па два разы

адно слова: цівіс-цівіс, эхэрцітус-эхэрцітус, паніс-паніс. Пасля Ванька скланяў гэтыя словы, вельмі мыляўся і даставаў пры гэтым ад старшага брата за вуха або і проста па зубах. Ванька часам плакаў, часам адгрызаўся або часамі бегаў да бацькі са скаргай. Бацька, калі быў пры сваіх, зара станавіўся на старану Шуркі, і Ванька даставаў яшчэ большую кару і тагды цэлы дзень плакаў або ўцякаў з хаты. Але калі Кузьма быў падвыпіўшы туга, тагды заступаўся за Ваньку і гаварыў:

— Ты, Шурка, свірэпы чалавек! Нашто папу патрэбна лаціна? Поп усё роўна езуітам не будзе. Мы калісьці саўсім лацінскай граматыкі не вучыліся, а вот былі папамі лепшымі, як вы з вашай езуіцкай лацінай. Вот хаця б і наш поп, Дудзюк: хоць лаціну ўмее, але ўсё роўна Дудзюк дудзюком…

— Калі так, дык я саўсім Ваньку не буду вучыць, — гаварыў разжалены Шурка. — Нашто мне гэта бяда? Я свае экзамены ўсе паздаваў, а ён у семінарыі ляніўся, — няхай цяпер сам даганяе.

— Ну, ну! Ты, брат, не разыходзься! — казаў яму Кузьма. — Як узяўся вучыць, дык вучы і не станавіся ўслупкі. Я гавару тое, што мне прыйдзецца, а ты рабі тое, што табе трэба!

Так Вінцусь прыгатаўляўся ў дзякавага Шуркі праз цэлы месяц з гакам. А Ганулля працавала-гаравала і заплаціла Шурку пяць рублёў золатам.

## III. ЭКЗАМЕН

З Завалакі ў Мураванку было дваццаць вёрст. Старадаўні гасцінец-тракт быў высаджаны бярозамі — па два рады з кожнай стараны. Апроч невялікіх зарасляў і бярэзнікаў, дарога вёрст на дзесяць вяла праз густы дрымучы лес, як называлі — Мядзведжы Лог, хоць мядзведзі вывеліся паволі даўно. Бліжэй Мураванкі дарога ішла праз меншы лес — Дубоўку, дзе сапраўды было непадзельнае дубовае царства. І яшчэ бліжэй — ужо пад самай Мураванкай — быў лясок мяшаны дубова-сасновы, так званы Баравічнік, у каторым вечна таўкліся мяшчане з кошыкамі і зрывалі баравікі ў самай іхняй ранняй моладасці.

Ганулля з Вінцусём ішлі пехатою. Думкі іх беглі з імі і напаўнялі ім душу. Ганулля пачынала непасільнае дзела, хоць многія смяяліся з яе; а другія дзівіліся, а ўсе сумняваліся і прарочылі з дзядзькам Матусевічам: нічога з гэтага не будзе.

— Той, казалі, недзе там вучыўся — і прагналі; той нехта другі — выйшаў са школы басяком, а Сымонаў Язэп, хоць сем класаў скончыў, у хаце быў дурны і вярнуўся са школы дурны.

Гануля ўсё гэта чула па сто разоў, але вось ішла з Вінцусём у Новую Мураванку з той крэпкай надзеяй, што Бог сіраты не пакіне.

А Вінцусь ішоў каля маткі і думаў сваю думку, каторая заляцела ўжо вельмі далёка: ужо ён у фантазіі здаваў экзамен — бачыў вучыцялёў і «самога» інспектара; экзамен ішоў памысна, інспектар яго хваліў, вучыцялі дзівіліся, хлопцы завідвалі, а сам Вінцусь рос, як пірог на дражджах. Або закручвалі думкі ў другі бок: вот Вінцусь стаіць пры чорнай дошцы ў класе і не можа рашыць задачы; вучыцель падганяе. Вінцусь спяшаецца, сцірае — піша — сцірае і… задача не выходзіць. Нарэшце прыпомніў — выйшла задача! Вінцусь аж падскочыў і засмяяўся на голас.

— Што табе? — пытае Гануля.

— Нічога, задача выйшла! — кажа хлапец.

Гануля ўсміхнулася і зара вярнулася да сваіх думак. А хлапец ішоў ахвотна, хоць не быў прывычны да такога далёкага падарожжа, але не хацеў ні адпачываць, ні закусваць.

Прыйшлі ў Мураванку ў суботу пад вечар і затрымаліся ў сваякоў, што жылі «на Юрздыцэ» — у вёсачцы, пад самай Мураванкай; сваяцтва было, праўда, досыць далёкае — прыходзіліся сабе роднымі аж у чацвёртай стрэчы. Назаўтра пайшлі на набажэнства ў гарадскі парафіяльны касцёл. Дэкан у Мураванцы быў ліцвяк, па прозвішчы Кішкеліс, каторае ў семінарыі перамянілі на Кішкевіч, мусіць, дзеля таго, каб было прыгажэйшым, дый наагул у тыя часы літоўскую мову лічылі астаткам непатрэбнай, брыдкай і шкоднай паганшчыны і выкараняліе яе аж да самага грунту.

Кішкеліс быў чалавек дзелавы; якраз у тую пару ён строіў у Мураванцы новы касцёл. Набажэнства было перанесена на магільнік, у капліцу. Там на ганку быў устроены амбон, з каторага дэкан грымеў навукі на цэлы магільнік. Гануля з Вінцусём, стоячы ў самай гушчы народа, шчыра маліліся: яны мелі на памяці заўтрашні дзень — экзамен. Народ рассыпаўся кругом капліцы: мужчыны стаялі шчыльнай масай і маліліся, як умелі — хто чытаў набожную кніжку, хто перабіраў ражанец, а хто і так уздыхаў пабожна; бабулькі пасядалі на магілках і маліліся таксама, а іншыя набожна драмалі. Набажэнства цягнулася нядоўга, — толькі не было ведама, што там у малой капліцы дзеецца, бо ані ксяндза, ані набажэнства не было ні чуваць, ні відаць: шчасцем толькі тое пашанцавала, што на паднясенне ўдарылі ў сігнатурку. Хлопцы, стоячы пад мурам, вышчаралі

зубы да дзяўчат, а дзяўчаты адным вокам паглядалі на набожную кніжку, а другім на хлапцоў.

Але вось скончылася імша. Сам дэкан узышоў на амбон. Людзі падступілі бліжэй. Дэкан гаварыў навуку — паводле закону, парадку і абычаю таго часу, ведама — па-польску; але гаварыў талкова, быў праняты сам, шырока махаў рукамі, дык людзі наагул болей-меней разумелі; тым больш, што дэкан гаварыў цэлым складам і духам мовы беларускай. Быў ён чалавек практычны; гадоў трыццаць быў пробашчам у беларускіх парафіях, дык пазнаў простую душу нашага чалавека і ўмеў яе разварушыць.

Але вось пасярод навукі дэкан затрымаўся, паглядзеў на людзей і чуць-чуць усміхнуўся. Гэта быў знак, зразумелы толькі для тутэйшых: раптам народ так шугнуў да ксяндза, што чуць не збіў з ног Ганулі з Вінцусём.

— Што тут сталася? — пытала Ганулям.

— Будзе па-нашаму! — гаварылі людзі.

«Як то па-нашаму?» — падумаў Вінцусь і не зразумеў, што гэта значыць; аж раптам стаў лавіць вухам словы, незвычайныя ў касцёле, аднак цалком зразумелыя, — бо ўжо дэкан гаварыў «па-нашаму», па-беларуску.

Уласне дэкан Кішкеліс завёў звычай падкрапляць польскую навуку прыкладамі з беларускага жыцця. Прыклады заўсёды бывалі самыя простыя, але ярка сказаны і ўзяты з родных з’яваў: часам вельмі смешныя, часам слёзныя — і так ажыўлялі народ, што ніхто не смеў тагды зварухнуцца, загаварыць аб чым пастароннім ні нават падумаць. Народ як бы застыгаў-камянеў на месцы: адны, з паўадкрытай губой, з паўзамёршай усмешкай, слядзілі гутарку, жэсты і павароты прамоўцы; другія на хвілінку адрываліся ад прамоўцы, каб міргнуць нязначна суседу, што значыла: бачыш, Янка, што ён кажа! А бадай цябе так і гэтак! Праўду кажа!

А дэкан расказваў такі прыклад:

— Чалавек, Пятрук, ішоў дарогай і гэтак маліўся з цэлага сэрца: «Божачка, дай мне знайсці сто рублёў! Буду, кажа, тры дні пасціць — сухім постам — і пастаўлю св. Антонію вялізарную свечку». І трэба ж гэта — знайшоў Пятрук сто рублёў! Вот ён посціць тры дні і нясе свечку св. Антонію. І, здаецца, мае міленькія, чаго тут больш трэба? Пятрук шчыра памаліўся, а Бог яго зара паслухаў… Аднак тут дзела не кончыцца: калі адзін знайшоў сто рублёў, дык нехта другі іх згубіў. Якраз гэтай дарогай ішоў Якуб: ён вельмі спяшаўся на кірмаш і меў з сабою сто

рублёў, каб купіць каня. Ягоны собскі конь паў у нешчаслівым здарэнні. Вот Якуб пазычыў на вэксаль, на грубы працэнт, гэтыя сто рублёў і ішоў з імі на кірмаш. Як ён там грошы згубіў, я не ведаю; але агледзеўся зара, вярнуўся на свой след, але ўжо грошай не знайшоў, бо наш Пятрук, знайшоўшы грошы, павярнуў на другую дарогу. Якуб з плачам і лямантам тры дні шукаў сваіх грошай; перапытаў усіх знаёмых і незнаёмых. Быў у ксяндза, у папа і ў рабіна: усе яму спачувалі, бедавалі і радзілі; ксёндз і поп і рабін аб'яўлялі падчас набажэнства ўсяму народу і прыказвалі вярнуць Якубу грошы; але Пятрук цвёрда верыў, што грошы паслаў яму Бог і св. Антоні, дык ані падумаў аддаць іх назад. І вось абодва — Пятрук і Якуб — адзін шчаслівы, другі нешчаслівы — спаткаліся ў касцёле, пры алтары св. Антонія, і абодва з вялікімі свечкамі: Пятрук шчыра маліўся і дзякаваў Богу за тыя сто рублёў, а Якуб таксама шчыра маліўся і прасіў святога Антонія, каб таму злыдню, што знайшоў грошы і не хоча аддаць — Бог даў — рукі і ногі паламала! І вот, мае міленькія, што св. Антоні з імі абодвума зробіць? Абодва былі пабожныя і абодва верылі св. Антонію…

Так дэкан і пакінуў людзей з тым неразвязаным пытаннем. Гаварылі аб гэтым людзі вельмі доўга і спрачаліся з сабою: станавіліся то на адну старану, то на другую; некаторыя нават хадзілі пытацца да самога дэкана:

— Што, — кажа, — зрабіў з імі св. Антоні?

Што ім дэкан адказаў, няведама, але так разварушыў народ, што ўсе ў нядзелю спяшаліся да касцёла, давалі ахвяры, пакідалі п'янства, мірыліся з сабою — адным словам, дэкан быў Божы чалавек і вёў Божую работу. А людзі гаварылі:

— Гэта наш ксёндз — такога трэба паддзяржаць!

І Ганулякі з сваёй беднасці, як тая біблейная ўдава, палажыла на ахвяру два злоты.

Пасля набажэнства Гануля з Вінцусём пайшлі ў школу на праведы. Перад школай іх спаткаў вельмі рухлівы рыжаваты жыдок; быў ён гладка адзеты, у акулярах. Гаварыў паспешна і прытым аглядаўся на ўсе бакі; махаў рукамі і неяк асабліва дрыжэў, аж падскокваў і тузаў сябе за сваю рыжую бародку.

— Маё прозвішча Хаімовіч, — казаў ён, — я — вучыцель. Я прыгатаўляю вучанікоў; я тут усё знаю; вы ў мяне купіце ўсе кніжкі: я маю вялікую краму. Я напішу вам прашэнне ў школу, бо інакш вас не прымуць на экзамен. Ну, ідзіце да мяне. Чаго вы яшчэ стаіцё? — закрычаў Хаімовіч, цягнучы Ганулю за

руку; а сам аглядаўся на другіх бацькоў і хлапцоў і загаворваў па дарозе з усімі.

— Мама, чаго ён прычапіўся? — казаў ціха Вінцусь.

Але Ганулля недачула і пайшла за Хаімовічам.

Як прыйшлі на кватэру да Хаімовіча, там ужо знайшлі з дзясятак хлапцоў — рознага веку, росту і падгатоўкі. Відаць было, што гэта быў усё свежы матэрыял, прыехаўшы з вёскі: хлапцы недаверліва паглядалі на сябе і гаварылі мала. Тым часам Хаімовіч не меў супакою: то выбягаў на вуліцу і склікаў публіку, то варочаўся назад і загаворваў з кім папала, то бегаў да жонкі ў кухню і гэркаў нешта з ёю, то ківаў пад нос сваім смаркатым кіндэрам, каторыя сквірчэлі, як скваркі на патэльні…

— Мама, чаго мы сюды прыйшлі? Пойдзем! — цягнуў матку за руку Вінцусь.

І другія хлапцы, відаць, папалі сюды выпадкова, — дык таксама сталі паглядаць на дзверы. Але Хаімовіч пачуў носам небяспеку, глянуў крыва на Вінцуся, а да ўсіх загаманіў:

— Ну, ну, куды? Пасядзіце! Зара будзем пісаць дыктоўку.

— Маленький, садись! — скамандаваў зара Хаімовіч, жуючы ў роце кусок халы. — Взять тетгади! Ну, готово?.. Пишите!.. «Висел целовек сеять рось…» — стаў ён дыктаваць. — А ви можете идти домой! — звярнуўся ён да Ганулі. — Вас мальцик будет дальсе писать диктовку. Ну, ясцэ пацакайце — пацакайце! — задзяржаў Хаімовіч Ганулю. — Ми будзем пісаць прасэнне. Як васа фамилия, скольки ему гадоў, калі гадзіўся, як зваць бацька і матка, гдзе вучыўся?..

Аб усё гэта Хаімовіч пытаў без перадышкі і запісваў на картачцы, прытым дыктаваў далей і разам сварыўся на сваіх кіндэраў і спрачаўся з жонкай. Пасля яшчэ нешта шапнуў Ганулі. Ганулля ткнула яму рубля; ён спрытна запусціў яго ў кішэню і дыктаваў далей без перарыву.

Позным вечарам вярнуўся Вінцусь ад Хаімовіча і чуць не плакаў.

— Які ён там вучыцель! — казаў Вінцусь. — Ён дзесяць раз горшы ад нашага завалацкага Куксача.

Назаўтра быў экзамен. Вінцуся вадзілі ад аднаго стала да другога, ад вучыцеля да вучыцеля, і нарэшце прыказалі пазаўтра прыйсці на «акт». Які быў вынік экзаменаў, Вінцусь не ведаў. Спадзяваўся, што здаў экзамен у трэцяе аддзяленне.

Паводле тадышняй сістэмы, Гарадское вучылішча дзялілася на тры класы, а кожны клас на два аддзяленні. Значыць, Вінцусь паступаў у другі клас.

На трэці дзень Вінцусь раненька пабег у школу. Там найперш Мураванскі благачынны, з белай вялікай барадою, як на абразіках малююць Ноя, — адзеты ў залацістую рызу, — служыў малебен. Сам інспектар Станюкевіч, — чалавечак невялікага росту, затое — вялікай энэргіі і з доўгай светла-рыжай барадой, — камандаваў хорам, сам пяяў Апостала і першы падышоў цалаваць крыж. Вучні-каталікі, каторых тут было найбольш, цалаваць крыжа не пайшлі. Ведама, — не пайшоў і Вінцусь. Інспектар, паправіўшы акуляры, абвёў усіх каталікоў крытычным вокам і неяк асабліва ўважна паглядзеў на Вінцуся, каторы стаяў наперадзе і смела глядзеў на ўсіх і на ўсё.

Пасля малебна вучыцель, Мазніцын (ён быў украінец — Мазныця), выйшаў на сярэдзіну залі і, як сакратар вучыцельскай Рады, разлажыў паперы, паправіў акуляры і пачаў чытаць «акт». Інспектар і благачынны сядзелі пры стале. Другія вучыцелі таксама меркавалі сесці, але не было на чым, дык размясьціліся каля вакна і прастаялі цэлы «акт». Тым часам Мазныця чытаў густым, нізкім басам; кожнае слова адбівалася ад сценаў і ад столі, варочалася назад і рэха напаўняла цэлую залю. Слухачы, з затоеным духам, лавілі гэтыя словы, бо ўласне тут расстрыгаўся іхны лёс і будавалася будучыня. Сакратар прачытаў, хто здаў экзэмен у чацвёртае аддзяленне і хто ў трэцяе. Але Вінцусь сябе тут не пачуў: сэрца ягонае стала крэпка біцца. А сакратар чытаў далей паступаўшых у другое аддзяленне, і тут Вінцусь ясна пачуў сябе — Викентий Павлович. У трэцяе не папаў.

Вінцусь так і замёр: ён ніколі не спадзяваўся такой катастрофы. І не заўважыў, як выслізнуўся з грамады — на калідор… на двор… на вуліцу, і бег дамоў, на сваю кватэру — на Юрздыцэ; бег, на нішто не ўважаючы; горка плачучы.

— Хлапец, што табе? — спыталася незнаёмая кабета.

Але Вінцусь нічога не адказаў і бег далей. Кабета пастаяла, пакруціла галавою, уздыхнула і пайшла.

— Ну, і цаго ты плацас? — пытаўся спатканы жыд. Але Вінцусь і яму не адказаў. Жыд крэпка пакруціў галавою і сказаў сам сабе: «Ну, яму, мусіць, нехта набіў?»

Так Вінцусь бег далей і шыбчэй і, калі прыбег на кватэру, не мог прыйсці к сабе. Ганулял доўга не магла дапытацца прычыны. Нарэшце Вінцусь сказаў:

— Мяне… пакінулі ў другім аддзяленні!

І ізноў заліўся горкімі слязамі.

Тагды сабралася рада ў сваякоў: пацяшалі хлапца ўсе і пастанавілі, што Ганулі трэба пайсці да самога інспектара і

прасіць. Гануля перш адлажыла справу назаўтра, але пасля перадумала і пастанавіла ісці зара, каб адразу паправіць папсутае дзела. І Вінцук націскаў, каб ісці зара. Ледзь прымусілі хлапца з'есці лыжку стравы.

## IV. БЕСКАНЕЧНЫЯ СЛЁЗЫ

— Мама, ідзём скарэй! Каб не было позна, — націскаў Вінцусь у дарозе.

— Ідзём, ідзём, сынок!

І вось ішлі, чуць не подбегам, Гануля з Вінцусём, а сэрца так білася ў іх — з таго паспеху і ад таго беспакойства, — што аж займала ім дух, аж трэба было раз-два перадыхнуць у дарозе.

Вось нарэшце прыйшлі на самую кватэру, да самога інспектара. Інспектар — ён быў і дырэктар — быў галоўным гаспадаром цэлай школы. Сядзеў у сваім пакоі і пераглядаў нейкія паперы.

— Что вы скажете? Зачем вы пришли? — пытаў інспектар.

Гануля стала тлумачыць справу: як, значыць, хлапец здаваў экзамен у трэцяе аддзяленне, а папаў — няведама чаму — у другое. А Вінцусь тым часам горка плакаў.

— Што ж я вінаваты? — казаў інспектар. — Раз хлапец здаў экзамен у другое аддзяленне, дык у другім і павінен быць — тут няма больш ніякага разгавору. Ідзіце сабе дамоў!

Але Гануля з Вінцусём былі саўсім другой думкі. Ізноў Гануля стала тлумачыць спачатку: і да таго прыпомніла інспектару, што хлапец вельмі добра вучыўся ў завалацкай школе і чуць не першым вучнем здаў сёлетняй вясной экзамен. Інспектар глянуў на Вінцуся і таксама прыпомніў яго, як уласне гэтаю вясной ён сам экзаменаваў дзяцей у Завалацы і як Вінцусь смела і жыва рэзаў верш «Россия». Прыпомніў гэта інспектар Станюкевіч — аж ягоная расейская душа затрапяталася ад радасці, — а быў ён «рррускі», як казалі, на сто дваццаць працэнтаў.

— Да, он хорошо отвечал — я помню, — згадзіўся з Гануляй інспектар. — Затое, — казаў, — будзе добра вучыцца ў другім аддзяленні.

Ізноў Гануля пачала тлумачыць і прасіць, а Вінцусь тым часам плакаў і плакаў.

— Чаго вы ад мяне хочаце? — загаманіў нарэшце інспектар. — Трэба было здаваць экзамен у трэцяе аддзяленне, дык мы відзелі б, што з хлапцом зрабіць, а так…

— Ён жа здаваў у трэцяе, а неяк папаў у другое, — казала Ануля.

— Як то, здаваў у трэцяе? А прашэнне пісалі ў каторае?

— У трэцяе! — казала Ануля.

— Посмотрим! — сказаў інспектар і пайшоў у свае пакоі.

— Да, это верно! — казаў, вярнуўшыся, інспектар. — Это всё ваш Хаимович напутал. Зачем вы с ним связались?

— Ён сам да нас навязаўся! — сказаў Вінцусь.

— Але ўжо і так усё прапала, — казаў інспектар. — У трэцім аддзяленні цяпер ужо няма месца. Ідзіце дамоў!

Так Ануля і пайшла з нічым. Яшчэ, праўда, аставаўся цень надзеі, бо інспектар сказаў — «посмотрим!»

Цяпер было ясна, што ўсё папсуў Хаімовіч, бо напісаў прашэнне не ў той клас.

І вось якраз спаткалі на вуліцы гэтага ж вінаватага. Хаімовіч залапатаў да Анулі:

— Ну, што? Чаго ві хадзілі да спектара? Што ён вам сказаў. Ві хадзіце да мяне — я вам зара памагу. Я там тое-гэта…

— Інспектар казаў, што ты дурны! — закрычаў Вінцусь.

— Уй, как можно? Зацем он, сморкатый малыс, меня оскорбляет? Ну, я таго не позволю!..

— Мама, пойдзем! — цягнуў Вінцусь Анулю за рукаў.

Ануля так была разжалена і чулася так крэпка пакрыўджана, што нават забылася насварыцца на Вінцуся за гэта грубіянства. А Вінцусь ужо не плакаў; толькі ў гневе жалеў, што мала насаліў Хаімовічу і пастанавіў другі раз дапоўніць. «Я яму не дарую!» — казаў Вінцусь сам сабе.

А Хаімовіч думаў: «Уй, які гэты малыс сярдзіты! З яго, мусіць, нешта будзе: ён, мусіць, будзе камандаваць другімі? — яго трэба прыласкаць. Ну, яшчэ такога сярдзітага хлапца не бачыў…»

* * *

Назаўтра Вінцусь пайшоў у школу. Пасля званка, як усе вучні сталі расходзіцца па класах, Вінцусь стаяў на калідоры і не ведаў, што рабіць — куды ісці? Першы вучань, каторы адразу прывязаўся да Вінцуся, быў Янка Памяловіч, большы ад Вінцуся на цэлую галаву. Ён быў пакінуты ў другім аддзяленні на другі год. Хлапец ён быў добры, таварыскі, але нейкі целяпень, дый да таго, як казалі, — стопрацэнтны гультай. Вось ён і стаў цешыць Вінцуся і цягнуць у свой клас.

— Паўловіч, чуеш? Хадзі! Будзем разам вучыцца, разам хадзіць у школу. Я ведаю, дзе ты жывеш — недалёка ад мяне, на Юрздыцэ. Я табе памагу, што будзе патрэба: дам спісаць задачу, калі захочаш. Вінцусь! Чаго ты стаіш?

Але Вінцусь стаяў на калідоры і думаў: «Што ты мне паможаш, калі я больш ад цябе ведаю?»

— Вінцусь, — клікаў Янка і страшыў, — хадзі скарэй! Бо вунь зара будзе ісці інспектар…

Але каб тут грымеў гром, каб сьвяціла маланка і білі перуны, Вінцусь не сышоў бы з гэтага месца. Раптам паказаўся інспектар: усе хлопцы, што яшчэ там-сям боўталіся па калідорах, сыпнулі ў класы, але Вінцусь стаяў, як умураваны.

— А ты зачем здесь стоишь? — пытаў інспектар.

— Я не знаю, куда идти, — адказаў Вінцусь.

— Іди во второе отделение! — паказаў інспектар.

Вінцусь пайшоў. Тут Янка Памяловіч прыязна ўсміхнуўся, паціснуў таварыша і даваў Вінцусю месца пры сабе. Але Вінцусь і не глянуў на яго: проста пайшоў у апошнюю лаўку і там сеў адзін, не адзываючыся да нікога. Так прайшлі ўсе лекцыі.

Пасля полудня Ганулля з Вінцусём зноў павандравалі да інспектара.

— Зачем вы снова пришли? — закрычаў інспектар. — Я, — кажа, — нічога не магу зрабіць: усім заведуе «педагогический совет».

Хто ён быў — гэты «Савет», — ні Гануля, ні Вінцусь не ведалі, але зразу пытацца не смелі.

— А хто ён такі і дзе яго шукаць? — пытала, нарэшце асмеліўшыся, Гануля. — Мы, можа, і яго папрасілі б?..

Інспектар лёгка ўсміхнуўся пад рыжы вус.

— Нашто вы ў прашэнні напуталі? — казаў ён. — А вот цяпер ужо ўсё прапала.

— Гэта Хаімовіч пісаў! — казала Гануля.

— Ну, ево! — адказаў інспектар. — А цяпер у трэцім аддзяленні няма месца.

— Колькі хлапцу месца трэба? — адказала Гануля. — Ён такі малы хлопчык.

— Што ж, я яго на печцы пасаджу?

— Ён і пастаіць, абы толькі ў трэцім…

Тут ужо і Гануля, і Вінцусь плакалі абое, ды так горка, што інспектар не мог стрымацца і пастараўся скарэй адправіць іх дамоў.

Ізноў стала Гануля радзіцца са сваякамі, што рабіць з хлапцом, бо хлапец аніяк не згаджаўся астацца ў другім і не хацеў пакідаць школы.

Дзядзька Адам Пашнель, у каторага хаце затрымаліся, параіў даць што-небудзь інспектару гасцінца.

Добра. Гануля палічыла свае ашчаднасці; перадумала, разважыла і стала сумнявацца, ці не будзе горш.

— Нічога, ідзі смела! — заручаў Пашнель. — Я чуў, што інспектар бярэ, як хто дасць. Але ён — чалавек справядлівы: як возьме, дык і зробіць. Вунь, — кажа, — пан Піскунскі свайго сына без экзамену прапёр у школу, хоць каштавала дваццаць пяць рублёў чыстым золатам. А вот тут жыве недалёка шляхціц Куцукевіч: дык ён завёз інспектару разам з сынам вялікае жывое цялё — праўда, сытае было цялё і гладкае, як келб: затое сына прынялі ў другі клас, хоць ён быў здатны якраз на свінапаса. Аб гэтым тут усе людзі гавораць. Таксама і той другі, як яго? — забыўся я. Ага! ну… ізноў забыўся прозвішча. Ну, ліха яго бяры! І многа другіх таксама…

— Дзе ж мне, беднай, да такіх грошай? — бедавала Гануля.

— Як ты бедная, дык досыць з цябе будзе рублі тры-чатыры, або найбольш — пяць. Як памажаш, так і паедзеш, — такія цяпер парадкі ў Расеі.

Так Адам Пашнель забяспечыў Ганулю, асмеліў і пацешыў. Гануля памеркавала, што тры рублі ў яе так-сяк знайшліся б. Дык вось таго ж дня позным вечарам пайшлі трэці раз да інспектара, каб аканчальна развязаць дзела — ці туды, ці сюды.

Усю дарогу Гануля малілася ў душы, а Вінцусь таксама ўглыбіўся ў думкі. Прыйшлі. Гануля дрыжэла, як асінавы лісточак, трымаючы трохрублёўку ў горсці; прытым вельмі сумнявалася, пачаўшы прасіць інспектара, і не ведала, што рабіць. Ведама, інспектар ужо не хацеў ані гаварыць, ані слухаць. І вось у самы крытычны момант Гануля палажыла трохрублёўку на стол і спусціла вочы.

Інспектар проста адубеў, а і Гануля стаяла, збялеўшы як смерць: сэрца ейнае перастала біцца.

— Это что значит? — загаманіў інспектар.

Гануля маўчала.

— Что ты, баба, с ума ты спятила? — крычаў інспектар і тупаў нагамі. — Бери деньги и сейчас ступай домой! Что ты вздумала?

Гануля, апусціўшы галаву, паплялася дамоў. Вінцусь ішоў моўчкі за маткай. Абое маўчалі.

«Я так і думала, што гэта будзе горш горшага, — казала сама сабе Ганула. — Толькі надарэмна стыду наелася, ды яшчэ і хлапца могуць за гэта прагнаць са школы…»

А Вінцусю цэлы свет здаваўся благім: цяжкая змора, як стопудовы камень, узлягла яму на душу. Цэлы вечар праседзеў сам-адзін у цёмным куце, а пасля цэлую ноч сніў злых сабак, вужоў, ваўкоў. Нарэшце паказаўся яму вялікі мядзведзь з рыжай галавой, каторы ў сваіх магучых лапах так сціснуў яго, што ён крэпка закрычаў і разбудзіўся. З цяжкімі думкамі і з болем галавы пайшоў Вінцусь у школу… Ізноў у другое аддзяленне. Янка Памялевіч усцяж прыставаў да яго: паказваў кніжкі, стараўся пацешыць; цягнуў хлапца ў супольную гульню, але Вінцусь не дружыўся з нікім, а ад Янкі ўцякаў і знелюбіў яго дарэшты. Усе вучні паглядалі на Вінцуся скоса і прызывалі яго недалюдкам.

Але вось падчас вялікай перамены інспектар паклікаў Вінцуся і сказаў:

— Иди в канцелярию!

Вінцусь стаяў на калідоры і думаў: «Што гэта такое канцылярыя і дзе яна і чаго туды ісці?»

У Завалацы канцылярыяй называлі валасное (гміннае) упраўленне, і памяшчалася яна на самым канцы мястэчка. Вось Вінцусю здалося, што і ў Мураванцы тая «канцылярыя» недзе, мусіць, далёка. Стаяў і думаў, як туды папасці, чаго туды ісці і г. д.

Якраз інспектар выглянуў ізноў на калідор і крыкнуў:

— Да иди же ты сюда!

Вінцук увайшоў. У канцылярыі кругом стала сядзелі ўсе вучыцелі. Інспектар сказаў:

— Благодари учителей! Педагогический совет переводит в третье отделение.

Вінцусь не ведаў, як тут дзякаваць: толькі паглядаў кругом і не змог у поўнай меры адразу ўцяміць свайго шчасця. Так і не падзякаваў, а проста перайшоў праз канцылярыю на другую палавіну школы і папаў у пажаданае трэцяе аддзяленне. Там сеў на апошнюю лаўку і глыбока ўздыхнуў. Усе вучні былі на двары; Вінцусь патроху прыходзіў к сабе і ясна чуў, як білася сэрца.

Зара быў званок. Сабраліся вучні. Убачылі новага госця, — узяліся аглядаць яго і дзівіцца. Вінцусь быў самы меншы. Узялі яго на языкі.

— А ты чаго тут сядзіш? — пыталіся вучні.

— Мяне перавялі ў трэцяе аддзяленне, — казаў Вінцусь.

— Віш ты! За два дні скончыў другое аддзяленне, — казаў Баляслаў Бабінкевіч і аглядаў Вінцуся з усіх бакоў.

— А ты сам ледзь за два гады скончыў другое аддзяленне, — падрэзаў яму Альбіновіч.

Але Бабінкевіч не звярнуў на гэта ўвагі ды прыдзіраўся да Вінцуся.

— Ты, — кажа, — заўтра пяройдзеш у чацвёртае, а пазаўтра — у пятае, а там у шостае і ўжо ты за нядзелю скончыш школу; ну, і будзь тагды здароў!

Тут Бабінкевіч хваціў Вінцуся за руку і з цэлай сілы тармасіў і крычаў:

— Будзь здароў, Паўловіч! Мы цябе не дагонім: ты сам скора будзеш вучыцелем або інспектарам!

А Альбіновіч гладзіў Вінцуся па галаве і паважна гаварыў:

— Ты, сынок, не бойся гэтай «бабы»: я цябе не дам у абіду.

— Якая я табе баба? — напаў на яго Бабінкевіч, і тут жа счапіліся яны біцца.

Бабінкевіч быў вялікі, доўгі, тонкі і малапаваротлівы, ці — лепш сказаць — нязручны, ані ў руках, ані ў языку. А Альбіновіч быў малыш, але шустры і вёрткі. Бабінкевіч стараўся хватаць праціўнікаў у пояс: тагды падымаў іх высока і клаў на стол і… шлёпаў сваёй лапай, як лапатай па гліне. Альбіновіч гэта ведаў, дык — як уюн — не даваўся схваціць, але зручна падбіў праціўніка пад нагу і зваліў на зямлю, як вялізарную калоду: тагды, сеўшы конна, даваў сойкі пад жэбры. Увесь клас высыпаўся з лавак і біў брава. Сам вучыцель Сліва, каторы прыйшоў з журналам на лекцыю, не адразу перарваў гэту вайну. Калі нарэшце зручны Альбіновіч саскочыў з сваёй ахвяры, а Бабінкевіч збіраўся яму адплаціць — тут вучыцель перарваў змаганне.

Гэта была лекцыя расейскай мовы. Вучыцель быў Антон Міхайлавіч Сліва: сярэдняга росту, гладкі, таўставаты, яшчэ даволі малады і вялікі франт. Ён з асаблівым смакам прыгладжваў свае валасы і прылізваў маленькія вусікі. На лекцыі прыходзіў не заўсёды прыгатаваны, дык намагаў крыкам, жартамі і карамі; асабліва тут даставалася жыдкам, для каторых быў яшчэ досыць ласкавы, калі толькі называў іх: «Эх ты, тварь такая!»

На гэтай лекцыі Сліва быў спачатку нездэцыдаваны, што рабіць: грыз вусікі, пераглядаў журнал, а нарэшце пачаў пытаць вершы. Вучні выцягвалі з памяці розныя вершы: найчасцей слабыя і папутаныя, каторых нават не маглі скончыць. Лекцыя цягнулася нудна — проста клас спаў, а вучыцель пазяваў. Але вось прыйшла калейка на Вінцуся Паўловіча. Клас звярнуў увагу на навічка. Вінцусь выбраў басню-верш Крылова — «Квартет».

Хлапец быў у такім пад'ёме духу, такая радасць распірала яго грудзі, свяціла з вачэй, і з такім чарам пачаў гаварыць, — што ўвесь клас адвярнуўся да яго. А Вінцусь з жэстам пачаў рассаджваць «баса, альта, скрыпкі…», перасаджваў іх ізноў; разводзіў рукамі, як музыка не ішла; аж нарэшце завяршыў з салаўём: «… вы в музыканты не годитесь!».

Клас так і замёр: вучні паглядалі то на Вінцуся, то на Сліву, а той маўчаў. Нарэшце ўздыхнуў і сказаў да цэлага класа:

— Вот как нужно отвечать!

— Ты тут з ім не зраўняешся! — гаварыў на перамене Альбіновіч да ўсяго класа, разводзячы рукамі.

— Калі ты такі, дык мы прымаем цябе на роўных правах за роўнага таварыша, — казаў паважна Бабінкевіч і падаў руку Вінцусю. Тут і другія сталі даваць яму рукі, і так Вінцусь здабыў сабе мір і павагу ў цэлым класе.

Аб Вінцусю загаварыла ўся школа.

— Але ж ты маладзец! — казаў яму Янка Памяловіч.

Цяпер Вінцусь і сам ведаў, што ён маладзец, дык бягом, смеючыся і з песнямі ішоў дамоў.

Той самы жыд ізноў увідзеў Вінцуся і падзівіўся: «Уй, гэта той самы хлапец, што анагдай так плакаў: цяпер, мусіць, ён некага набіў!»

А пагода так і расцвіла, хоць і ў восень. Залацістае сонейка жоўтымі мяккімі праменьчыкамі паважна хадзіла па палёх і пераглядала плод гаспадарскай працы. А плод быў багаты: ураджай быў выняткова добры. Гаспадары ўсе свае свабодныя сілы кінулі на поле. Малыя дзеці пасвілі быдла; хлопцы-падросткі касілі з бацькамі, а дзяўчаткі жалі з маткамі. Стары дзядуля, каторы ўсю зіму грэўся на печы, а ўсю вясну і лета гуляў на прызбе з унукамі і грэўся на сонцы, — цяпер кляпаў і асаджваў касу або, налажыўшы акуляры, рабіў ручку да сярпа ці зубы да грабель. Старуха-бабуля голасна гаварыла пацеры і снавала туды-сюды па падворку, пасучы куры, або церабіла мак у гародзе, ці варыла вячэру ў хаце.

А на полі расцвіла ўся сялянская грамада: мужчыны і хлопцы ў белых кашулях з чырвона-вышытымі зарукаўкамі, каўнярамі і манішкамі; кабеты ў чырвоных з зялёнымі кветкамі спадніцах; дзяўчаты ў чырвоных хустачках і такіх жа фартушках — усё поле цвіло аж зіхацела нашым родным чырвона-белым колерам; звінела нашай роднай беларускай песняй, каторая лунала аж пад неба і каторай тагды яшчэ сяляне не забываліся і не стыдаліся.

Работа была разбіта: жыта ўжо пажалі і звезлі; браліся за позні ячмень і ранні авёс. Там касілі гарох; там яшчэ запознены гаспадар сушыў сена; другі — араў пад новае жыта, а іншы — паспешны — ужо меркаваў сеяць. Адным словам, усё жыло на полі; жыло ясным пагодным сонейкам і не хацела варочацца дахаты. Якраз уласне і выказалася гэта ў вясёлай дзявочай песні:

Не пайду дамо-о-о-ў!
Ў полі заначую,
Журбы не пачую…
Не пайду дамо-о-о-ў!

Вінцусь ужо не ішоў, а ехаў, як трыумфатар: нагнаў у дарозе дзядзьку Адама Пашнеля, усчапіўся на ягоны вялізарны воз сена і з радасцю яшчэ здалёку крычаў матцы:

— Мама, я ўжо ў трэцім аддзяленні!

А Гануля стаяла, глядзела, слухала і сваім вушам не верыла.

## V. НЕЗАЛЕЖНАЯ ПРАЦА

Цэлы тыдзень праседзела Гануля ў Новай Мураванцы, на Юрздыцэ, у Адама Пашнеля, свайго брата ў чацвёртай стрэчы. Адам згадзіўся дзяржаць хлапца, карміць і даглядаць — за пяць рублёў у месяц. Плата, праўда, невялікая, але скуль узяць беднай удаве столькі грошы? Ды апроч таго трэба было зара купіць усе кніжкі, справіць хлапцу фармальнае адзенне і даць пару злотых на дробныя выдаткі. Гануля ведала, што Вінцусь дарма не прапусціць ні аднаго грошыка, але які ж быў трудны, колькі каштаваў клопату і поту той адзін грошык! Падчас гэтай непамыснасці Гануля цэлы гэты тыдзень шчыра працавала ў Пашнялёў і загнала запас. Варочалася ў Завалаку, як то кажуць, без жывога грошыка пры душы.

Вінцусь вярсты тры праводзіў матку.

— Помні, сынок, — гаварыла Гануля, — цяпер астаешся адзін паміж чужымі людзьмі і бярэшся за незалежную працу. Помні, што гэта была твая собская ахвота і твае слёзы. Ты сам добра ведаеш, што ніхто мне не раіў цябе вучыць, ды яшчэ пасылаць у Мураванку. Я пайшла проціў усяго свету, бо дасюль ніхто з цэлай Завалакі ў Мураванцы не вучыцца. Дык не ляніся, сынок, працаваць, будзь акуратны, парадачны і чысты, як я цябе

заўсёды вучыла. Сам ты бачыш, колькі я кладу трудоў дзеля цябе, сынок мой…

Тут Гануля села з Вінцусём на прыдарожным камені: хацела выказаць яму ўсю сваю душу.

— Сынок! — казала яна. — Калі ты будзеш акуратны, добры і пабожны, — ты будзеш маёй пацехай. Не вяжыся з хлапцамі благімі; ёсць тут многа гультаёў і хлапцоў нягодных: я сама чула, як гаварылі дрэнныя словы, і бачыла, як курылі папяросы. Ты такі маленькі — цябе лёгка могуць хлопцы пакрыўдзіць: будзь асцярожны! Успомні на свайго бацьку! Ах, каб цяпер ён яшчэ жыў, каб відзеў цябе такім! Ён так цябе любіў… Праўда, ты яго не помніш, ты меў толькі два гадкі, як ён памёр. Дык вот я табе раскажу, як ён аб табе клапаціўся. Перад самай смерцю казаў мне: «Не пакрыўдзі, — кажа, — хлапца! Вучы яго: не глядзі на людзей, а як могучы вучы, каб быў чалавекам. Замуж, — кажа, — як хочаш: ідзі ці не ідзі, але хлапца гадуй па-божаму, каб мне, — кажа, — за гробам стыдна не было». Дык вот, сынок, які бацька пакінуў нам тастамент. Як ён цябе гладзіў па галоўцы, як туліў да сэрца, цалаваў, а слёзы цяклі з ягоных застыгаючых вачэй. А на канцы, калі багаславіў цябе і аддаваў у мае рукі, сказаў мне: «Прысягні, Ганна, што ты яго будзеш любіць, гадаваць і… і…» — і ён ужо не мог скончыць: страціў мову і памяць, толькі доўга яшчэ нешта шаптаў і паўтараў тваё імя. Зара і сканаў. А я прысягнула на ягонай магіле… Дык вот, сынок…

Тут Ганулі перарвала. Слёзы маткі і сына зліліся ў адзін гарачы ручай. Доўга Ганулі не магла прыйсці к сабе; аднак трэба было канчаць развітанне. Асенняе сонца пахілялася на захад. Ласкавы вецярок развяваў віхраватую галоўку Вінцуся. Ганулі багаславіла яго і сказала:

— Дык вось, сынок — не толькі дзеля той прысягі я люблю цябе, а і так — па Божаму Закону, і за тое, што ты мой родны, што ты быў заўсёды добры, паслушны хлопчык. На цябе не скаржыліся суседзі, ты не рабіў нікому шкоды, ты не крыўдзіў ні дзяцей, ні нават птушак, і ты любіў мяне. Ідзі ж, сынок, на незалежную працу, а я буду да астатку працаваць для цябе і маліцца за цябе.

Яшчэ раз горача пацалавала Вінцуся, перажагнала і адпусціла. Разышліся. Яшчэ некалькі разоў агляндаліся наўзаем. Нарэшце Вінцусь узышоў на ўзгорак. Ганулі таксама была на другім узгорку. Адтуль матка здалёку багаславіла сына, а ён стаяў на каленях і прысягаў: «Божа, буду добрым чалавекам!»

Калі Вінцусь устаў і глянуў у старану Завалакі, маткі ўжо не было відаць на гарызонце. Астаўся адзін. Першы раз адарваўся ад маткі на даўжэйшы час. Ішоў на незалежную працу.

І вось пачалася штодзённая мазольная работа. Вінцусь уставаў раненька, паспешна снедаў і рэзва ішоў у школу. Дарога з Юрздыкі ісла спачатку праз поле, а пасля ў Муравянцы праз доўгую вуліцу і рынак, і яшчэ праз адну вуліцу: усяго разам было тры вярсты — ад хаты Адама Пашнеля на Юрздыцэ да Гарадскога вучылішча на Завалацкай вуліцы.

А ў школе праца ішла абычным парадкам: інспектар, як вучыцель гісторыі, з вялікім размахам і любоўю расказваў усё тое, што датычыла палякаў і відавочна тасаваў гэта да каталікоў, каторых усцяж празываў палякамі. Бывала, наставіць акуляры на вучняў і водзіць вачамі па класе, як бы шукаючы паміж імі найгоршага паўстанца. Прытым асабліва часта наводзіў вочы на Вінцуся. Што ён у ім бачыў, Бог яго ведае: мусіць, лічыў «дзерзкім» тое, што Вінцусь не ўмеў спушчаць вачэй, як другія, а глядзеў проста і адкрыта.

Сліва быў вучыцелем расейскай мовы і зарэзваў вучняў граматыкай; Мазныця быў вучыцелем матэматыкі; а Павел Пятровіч Петухоў — ціхі і вельмі працавіты, але бесталковы — забраў усе іншыя прадметы.

Вінцусь не быў ані першым вучнем, ані другім. На гэтыя месцы выбіліся два другія вучні: адзін старшы гадамі, маламоўны, але старанны — Язэп Пястрэйка, а другі — рэзвы, балтун, але вельмі здольны — Гэнрык Альбіновіч. Аднак з другімі Вінцусь заўсёды быў у спрэчцы за трэцяе-чацвёртае месца.

Вінцусь не меў такой лёгкай памяці, як Альбіновіч, ані такой глыбокай працавітасці, як Пястрэйка, але браў усё праз параўнанне, прачуццё і фантазію: часам не мог зразумець самай простай задачы, каторую ўжо зрабіла большая частка класа і каторую паспелі перапісаць ад другіх самыя тупыя вучні. А другім разам Вінцусь лёгка разбіраўся і ў самых трудных задачах: толькі не ўмеў спісваць з другіх.

У забавах — летам на полі, зімой на саначках, каньках, у снежках — Вінцусь быў вельмі ахвочы і заўзяты. Гэтым несвядома ратаваў сваё кволае здароўе.

Вучыцелі былі наагул даволі строгія, а найбольш Сліва, каторы крычаў у класе, як у лесе, дзёр хлапчанят за вушы, а малодшых нават ставіў на калені, дражніў іх і празываў. Затое ніхто ў школе Слівы не любіў: празывалі яго «Сліўкай», пісалі гэтую мянушку на платах, сценах і другіх таемных месцах. Наагул

Сліва не меў шчасця і цярпеў не толькі са стараны вучняў, але і ад мяшчан: нейкая незнаёмая кабета прыйшла адзін раз у канцылярыю і палажыла на стол «жывы» гасцінец для «гаспадзіна Слівы»; «гасцінец» стаў плакаць, і наагул зрабілася вялікая гісторыя паміж вучнямі і вучыцялямі і ў цэлай Муравانцы. З гэтага моманту вучні дагаварыліся перамяніць Сліве мянушку; «Сліўкай» празвалі тое «малое», каторае тым часам гадавалася ў старажыхі ў школе, а самога Сліву празвалі «Плантатарам», бо якраз гэта слова папалася ў геаграфіі і Альбіновіч змеркаваў, што яно акуратна падыходзіць Сліве.

Затое Мазныця быў заўсёды акуратны і прыгатаваны да лекцыяў. Умеў так зацікавіць вучняў, хоць і не крычаў на іх і не караў ніколі, што заўсёды яго слухалі: у яго старанна прыгатаўлялі лекцыі і сядзелі ціха ў класе. Як ён гэтага дабіваўся — трудна сказаць, ці можна сказаць — ён саўсім не дабіваўся, а неяк само сабой усё ішло, як патрэба. І яшчэ быў адзін сакрэт: Мазныцю любілі ўсе і ён не рабіў розніцы паміж праваслаўнымі, каталікамі і жыдамі. Празывалі яго «Мядзведзем», але гэта так сабе — без злосці, бо вучыцель без прозвішча — гэта конь без хваста.

Павел Пятровіч Петухоў — з далёкай Вяткі — чалавек дабрак і вельмі працавіты, быў цалком адданы школе, кніжкам і навуцы; прытым быў малавымоўны, заіклівы і слабавольны. Зразу зарабіў на некалькі прозвішчаў: адны называлі яго «цялячай авечкай», другія — «казёл Пятровіч», а іншыя — проста «казёл», дзеля ягонай доўгай казлінай барады. На лекцыі не ўмеў удзержыць класа. Быў запаленым прыродаведам, вечна гуляў з жучкамі, рыбачкамі, матылямі і мухамі: сушыў іх, раскладаў, сартаваў, запісваў, але не ўмеў гэтым зацікавіць вучняў. У класе толькі паўтараў: «Знаете, знайте, знате, знать» і г. д. А вучні за ім паўтаралі тое самае. Петухоў зараз гневаўся, дык вучні крычалі: «Не знаем, не знайте!» і г. д. Петухоў бег на скаргу да інспектара: інспектар прыходзіў, наводзіў парадак, — крычаў, караў вінаватых і… выходзіў, а вучні паўтаралі тое самае і бесканечна мучылі Петухова, а ён мучыў іх.

Інспектар быў таксама вучыцелем спеву — свецкага і царкоўнага, але даваў перавагу толькі царкоўнаму спеву і царкоўнаму хору. Аднак зарганізаваць у школе царкоўны хор было вельмі трудна: праваслаўных хлапцоў было надта мала, а лічба каталікоў даходзіла да 70–80 працэнтаў, і каталікі належалі да касцельнага хору. Вось інспектар рознымі спосабамі перацягваў каталікоў к сабе: нават страшыў, сварыўся, змяншаў

«поведение» і г. д. Былі такія вучні, што яго слухалі і ў царкву хадзілі, а былі і такія, што адказваліся саўсім. У гэтым годзе інспектар пастанавіў павярнуць шрубу кручэй: вось пачаў набіраць галасы, запісваць у хор і прывучаць усіх да царкоўнага спеву. Вінцусь меў мілы дзіцячы голас — альт — і затое папаў у хор. Але ўжо паспеў запісацца і ў касцельны хор, дзе арудаваў знаёмы нам Харашуха.

Уласне ў Новай Мураванцы сабралася старая завалацкая кумпанія: Харашуха тут памысна арганіставаў пасля той няўдачы з жанімствам. Услед за ім папаў у Мураванку і завалацкі вікарый, ксёндз Галуза, каторы шчасліва ўстаў з тыфусу. Тут яны вельмі з сабой сышліся на полі музыкі і спеву: вікарый іграў на скрыпцы, арганіст — на гітары; вікарый пяяў першым тэнарам, арганіст — басам, — дык незвычайна добра сябе дапаўнялі. Арганіст быў удвая старэйшы ад вікарыя; затое вікарый меў буйную чупрыну, а Харашуха быў лысы, як… ну, хаця б, як калена. Толькі ў адным яны сышліся наскрозь: абодва былі прақананымі беларусамі. А дэкан як ліцвін не мяшаў ім у рабоце. «Рабіце, — казаў ён, — што сабе хочаце, толькі не ўцягвайце мяне, — я стары і будую касцёл — у мяне і так работы досыць». Дык і загулялі нашы беларусы! Перш-наперш у хоры завялі старыя беларускія песні; перш самі хадзілі па вёсках, збіралі старыя песні і падбіралі да іх ноты; пасля ігралі ў сваім дуэце — скрыпка і гітара, або скрыпка і фартэпіяна — а нарэшце вучылі ў поўным хоры, на два, на тры і чатыры галасы. Павесялела наша кумпанія: разыгралася душа, ажывіліся замёршыя ўчуцці… Ну, але аб гэтым пасля!

Цяпер, мусіць, запытаеце аб самога ксяндза вікарыя: хто ён, скуль, які такі ён чалавек? Называўся ён Тамаш Галуза. Гэта прозвішча паказвалася многім надта смешным: у семінарыі радзілі Тамашу яго перафарбаваць, але хлапец упёрся і пакінуў такім, якое было. Зрэшты і прозвішча ўдалося капрызнае — не давалася на ніякія папраўкі: і на польскі лад — «Галенза» — было дрэнна, і на расейскі лад — «Галузов» — тож не падыходзіла; дык так Галузай і астаўся Тамаш аж да самай смерці. Бывала, той-сёй крыкне на яго: «Эй ты, Галуза!» Але Галуза — нічога, дык нарэшце прывыклі ўсе і да прозвішча, і да яго самога.

Выходзіў Галуза з гэтага самага Нова-мураванскага павета; з бацькі-дзеда-прадзеда быў селянін і вясковец. Быў цяпер яшчэ вельмі малады. Сам тоненькі, росту сярэдняга, валас светла-русыя, вочы шэрыя. Здароўя быў някрэпкага, асабліва цяпер, пасля

цяжкага тыфусу. Дзеля здароўя кінуў курыць. А быў вясёлы, як дзіця, і вечна пяяў, як званочак, аж мураванскія жыды пыталіся:

— Ну, ці гэты ваш малады ксёндз яшчэ не жанаты?

— Што вы выдумалі? — казалі мяшчане. — У нас ксяндзы не жэняцца.

— Ну, а чаму ён так пяе? Устане — пяе, ляжа — пяе; ён, мусіць, і праз сон пяе! У-юй, які вясёлы ксёндз!

Дык вот які быў ксёндз Тамаш Галуза!

Будзьце, мае спагадныя чытачы, з ім знаёмы: любіце яго, як свайго роднага, бо ён наш — тутэйшы. Такія, як кажуць, толькі на камені родзяцца і рэдка абходзяць, але прыгожа цвітуць, толькі… жывуць нядоўга. Наш Вінцусь з другімі таварышамі з Юрздыкі адразу запісаўся ў касцельны хор і акуратна праводзіў там суботнія вечары, а ў нядзелю пяяў на суме. Там першы раз убачыў беларускую кніжку — «Дудку беларускую».

Вікарый быў таксама назначаны на прэфекта рэлігіі ў Гарадскім вучылішчы. Хоць і з апазненнем, пачаў ён хадзіць у школу і вёў лекцыі акуратна. Лекцыі ксёндз вёў па-расейску, бо такая была тагды царская ўстанова і такі парадак у цэлай Беларусі. Найбольш клопату ксяндзы мелі з пацерамі: у каталіцкіх падручніках пацеры былі надрукаваны па-расейску, як і ўсе катэхізмы, але ніводзін ксёндз расейскіх пацераў не загадваў дзецям вучыцца, а па-польску было забаронена гаварыць і вучыцца ў школе, дык наагул ксяндзы ў школе пацераў не вучылі. А іншыя катэхізмы тлумачылі па-расейску.

Ксёндз Галуза меў на гэта погляд свой, саўсім арыгінальны. Ён часта і дзецям тлумачыў; казаў ім:

— Дзеці, вы, мусіць, не чулі, што мы беларусы?

— Не, не чулі! — казалі дзеці.

— А я чуў, — казаў Гэнрык Альбіновіч.

— Ад каго ты чуў?

— Ад свайго бацькі: ён гаспадар у вёсцы Каменная Горка, калісьці скончыў у Мураванцы гэтую самую школу, як называлася яшчэ «Уезным вучылішчам». Дык вот бацька мне казаў, што мы беларусы і што роднай мовы не трэба стыдацца.

— І я чуў! — адазваўся Вінцусь.

— Ад каго?

— Ад пана арганіста, — адказаў Вінцусь і пачырванеў.

— Відзіце, мае дзеці, — казаў ксёндз Галуза. — Бог нас сатварыў асобным народам: даў нам адменны характар, адменны выгляд і асобную мову. Даў нам таксама аддзельны кусок зямлі на свеце: гэта зямля — наша родная Беларусь — наша

Бацькаўшчына. Дык напрасна мы стыдаемся сваёй простай, але вельмі прыгожай беларускай мовы, гэта неразумна і грэшна. Бог даў людзям родную мову, каб у ёй гаварылі паміж сабою, весяліліся, вучыліся і хвалілі ў ёй Бога. Бог — наш найлепшы бацька, а добрыя дзеці гавораць да бацькі толькі роднай мовай. Прыйдзе такі час, калі ў нашай мове будуць і Богу маліцца, і кніжкі пісаць, і ў школах вучыцца.

— І пацеры будуць гаварыць папросту? — пытаўся Бабінкевіч.

— Ведама, абы толькі з увагай і з набажэнствам.

Наагул усе хлопцы ў Мураванскай школе, аж да шостага аддзялення, гаварылі паміж сабой па-беларуску; па-расейску гаварылі толькі два сынкі мураванскіх чыноўнікаў і брат вучыцеля Слівы. Быў яшчэ і адзін паляк у трэцім аддзяленні: той па-беларуску гаварыць не хацеў, дык найчасцей маўчаў і не дружыў з хлапцамі.

Праваслаўны поп, што хадзіў у школу, называўся Уладзімер Пішчыкевіч. Гэта было безабіднае стварэнне; выглядам падыходзіў ён, як вучні гаварылі, на самога Бога Тварца: вялізарная, белая барада, доўгія багатыя валасы, шырокія полы і рукавы і… павага! Павага — такая маестатычная[6] — нейкага як бы мудраца, сфінкса ці маляванай фігуры. Ён не ішоў вуліцай, але як бы плыў, і то плыў павольна, маестатычна, як плыве вялікі марскі параход падчас ціхай пагоды — ідзе, сабе ідзе — і ледзь прыметна ківаецца на спакойных хвалях.

Вучні, спатыкаючы ксяндза Галузу, прыветліва кланяліся і весела смяяліся, — проста яму ў вочы: усе, нават і праваслаўныя і жыды. А ён загаворваў са спатыканымі, а іншых тузаў і за чубы, быў сам з імі, як дзіця.

Але тыя самыя вучні, спатыкаючы Пішчыкевіча, адступалі на некалькі крокаў, перарывалі гутаркі і цяжка ўздыхалі.

Школьны час не ішоў, але ляцеў. Вінцусь і не агледзеўся, як надышоў дзень Усіх Святых і Задушкі. Усе Святыя якраз прыпадалі ў панядзелак, дык сабралася разам з нядзеляй тры дні свята, на каторыя Вінцусь пехатою пайшоў у Завалаку.

Божа, якая была радасць Ганулі і як весела падскокваў Вінцусь! А ў нядзелю ўсё мястэчка дзівавалася на яго, як ён адзін, паміж усіх хлапцоў, са значком на шапцы, важна стаяў на рынку.

— Чый гэта хлапец? — пыталіся вяскоўцы.

— Ганулі Якубіхі! — казалі мяшчане.

— Гэнай, — Кавaліхі?

— Ага, гэнай самай.

— Дык, мусіць, багатая ўдава, калі сына вучыць у Мураванцы?

— Якое багатая! Ледзь перабіваецца.

— Дык скуль яна грошы бярэ?

Усе пацiскалі плячамі і нічога не маглі сказаць.

А Вінцук рос, як на дражджах. Хлопцы, ягоныя таварышы, што разам вучыліся ў Завалацкай школе, паглядалі на Вінцуся, пыталіся аб тое-сёе і… ціхенька завідвалі. Нават і ксёндз Марціноўскі зацікавіўся Вінцусём: пацягнуў яго ласкава за чупрыну, пытаўся аб школе, вучыцялях і ксяндзу Галузе і ўжо намерыўся даць хлапцу паўрубля на дробныя выдаткі, але неяк раздумаўся, — пастаяў, памаўчаў і пайшоў сабе ў пакоі.

Тым часам Гануля працавала, як могучы: капіла грош да грошыка, каб даць сыну на кніжкі і сшыткі і каб паслаць Адаму Пашнялю пару рублёў за хлеб і кватэру.

Пасля гэтай трыднёўкі Вінцусь са Шлёмам-балаголам, — за дваццаць капеек паехаў ізноў у Мураванку.

## VI. ДВА ХОРЫ

— Нуце, хлопчыкі! Што ж вы так раскіслі? — падганяў Харашуха свой хор. — Ну, бярыце тон: «ут, ля, фа, ут». Ды ты, Памяловіч, куды пацягнуў, — пад Завалаку, што?

— Ён не з Завалакі, а з самых Смаргонь, — казаў Бабінкевіч.

— Не «з самых Смаргонь», а з-пад Смаргонь! — паправіў Памяловіч.

— Адным словам, мусіць, смаргонскую «Акадэмію» скончыў, дык і цягнеш, як мядзведзь, — казаў Харашуха.

Усе засмяяліся. Смяяўся і сам пакрыўджаны.

— Ну, хлопцы! Яшчэ прапяём «Агнус Дэі», вось якраз ідзе ксёндз вікарый, — сказаў арганіст, глянуўшы праз вакно. Сталі пяяць. Ксёндз Галуза ціха увайшоў, стаў ззаду і слухаў.

— А ты, Памяловіч, што запяяў? — запытаўся вікарый. — Не пяецца «пэцката мундзі», але «пэкката мундзі».

— У Смаргонях усе так пяюць! — рэзнуў Бабінкевіч.

— Чаго ён да мяне прычапіўся? — жаліўся Памяловіч. — У нас саўсім ніхто ніяк не пяе, бо наш касцёл забраны на царкву.

Ксёндз не звярнуў увагі на іхную спрэчку, але тлумачыў дзецям:

— Бачыце, дзеці, слова «пэккатa» значыць «грахі». Вось жа «Куі толліс пэккатa мундзі» — значыць «Каторы зносіш грахі свету».

— Вот каб па-беларуску пяяць у касцёле, дык мы ўсё разумелі б самі! — сказаў Альбіновіч.

— Будзе калісьці і па-беларуску, — можа, уласне тагды, як ты будзеш ксяндзом, — зажартаваў вікарый.

— Эй, я не буду! — адпіраўся Альбіновіч. — Вот, напрыклад, будзе ксяндзом Вінцусь Якубёнак.

Вінцусь нічога не адказаў, але пачырванеў да самых вушэй і толькі ў душы дзівіўся, адкуль другія ведаюць, што ён будзе ксяндзом, калі ён сам аб гэтым нічога не ведаў?

— Бог ведае, хто з вас ксяндзом будзе, а хто не будзе, — казаў ксёндз Галуза. — Але, па-мойму, ксяндзоўства — гэта самае высокае прызванне. Вот паглядзіце на вуліцу; як тут людзі снуюць туды-сюды. І колькі гэтыя бедныя людзі б'юцца-забіваюцца ад самай паследняй работы дзеля чорнага куска хлеба! Ім няма часу і падумаць аб сваёй душы, а ўласне ксёндз ім гэта прыпомніць. Ёсць таксама вельмі многа людзей няшчасных, пакрыўджаных, абсмяяных і забытых — а ксёндз іх пацешыць. Яны перад ксяндзом паплачуць, сазнаюцца з бядой і з грахамі, парадзяцца, паслухаюць Божага слова і адыходзяць весялейшыя. Ксёндз — гэта прарок, што прапаведуе вечнае жыццё; ксёндз — доктар, што бачыць самыя смяротныя хваробы; ксёндз — гэта князь, уладар душаў людскіх. Дык вот, дзеці, калі Бог каго кліча, таму трэба ісці на ксяндза, хоць, можа, часам і не хочацца. Бог рассявае прызванне вельмі густа, так, як той біблейны сейбіт сеяў зерне; але не кожнае зярнятка абходзіць. Бываюць зярняты заглушаны грахамі, або лёгкамыснасцяй, або ляніўствам. Тагды такі хлапец, што не паслухаў Божага голасу, становіцца горшым ад другіх. Дару і ласкі Божай марнаваць няможна!

Хлопцы задумаліся, а Вінцусю гэтае слова запала на самае дно душы.

— Ну, хлопцы! — казаў арганіст. — Заўтра не пазніцеся на суму[7], бо вы ў нядзелю вельмі доўга спіцё, а пасля дзве гадзіны ясцё бліны.

— Як з верашчакай, дык трудна скарэй з'есці, — казаў Бабінкевіч.

— Ты сягоння вельмі вясёлы, — адказаў яму Харашуха, — заўтра, мусіць, будзеш плакаць.

— А мусіць, буду плакаць, — казаў Бабінкевіч, — бо, пан, кажаш прыйсці ў касцёл, а інспектар прыказвае ісці ў царкву; дык сяду серад рынку і буду плакаць.

— Ты сабе плач, калі хочаш, а я буду з цябе смяяцца і пайду ў касцёл, — сказаў яму Альбіновіч.

— І я ў царкву не пайду! — сказаў Вінцусь.

— Я таксама не пайду, — казаў Бабінкевіч. — Але што мы зробім з інспектарам? Сварыцца, крычыць, страшыць: мяне абяцаў выгнаць са школы. Вот ужо сягоння не прыйшлі сюды пяяць — Ляпцінкевіч, Піскун, Лапша і Цільпёнак, — гэта значыць, што заўтра пойдуць у царкву. Я іх знаю!

— Ды няхай сабе ідуць! Мне якраз Піскуна і Лапшы не шкада, бо адракаюцца нашай мовы, — сказаў Альбіновіч.

— А ў нашым класе, — казаў старшы вучань, Андрэй Ярневіч, — сягоння інспектар проста выходзіў з сябе: і крычаў, і пляваўся і лаяў палякаў: «Вы, — кажа, — повстаньцы! вы ідзіте до лясу» — і г. д. А мы то якія палякі і чаго нам хадзіць «до лясу»? Проста здурнеў чалавек! Я не ведаю, як там хто, але я сам — беларус. Ды і ўсе тут такія, як я: мы ўсе папросту гаворым і выходзім з простых бацькоў. Праўда, некаторыя з нас ужо пачынаюць стыдацца роднай мовы, але я віджу, што гэта хлопцы дурнейшыя, і вот якраз два такія ходзяць у царкву. Пасля неяк інспектар успакоіўся і пачаў тлумачыць лагодным тонам і казаў: «Царква на ваша каталіцтва, — кажа, — не зашкодзіць, бо вот пяяў калісьці ў мяне ў царкве вучань Зарэцкі, а цяпер ён стаў ксяндзом». Мы ўсе маўчым, а інспектар то злуецца, то адходзіць і спакайнее, а ўсё к сабе цягне! Дык што нам рабіць?

— Бачыце, мае дзеці, — прагаварыў ксёндз Галуза, каторы дасюль маўчаў і слухаў хлапцоўскія аповесці, — бачыце, што тут пачынаецца справа паважная, тут жартаваць няможна. Трэба нам усё абдумаць і пастанавіць, а тагды цвёрда трымацца. Перадусім вы смела складайце ўсю адказнасць і віну на мяне, а я ўжо патраплю з інспектарам гаварыць.

— Не, мы гэтага не зробім, — казаў Альбіновіч, — бо самому ксяндзу будзе дрэнна.

— А што будзе? — пытаўся Вінцусь.

— Будзе штраф, або турма, або і абое разам, — аб'ясніў Ярневіч. — Я гэта ведаю, бо і наш пробашч у Круцэвічах заплаціў сто рублёў (золатам) штрафу, а пасля цэлы год быў без месца за тое, што ахрысціў дзіця патайных каталікоў.

— Турмы то, можа, і не будзе, але будзе кляштар, — тлумачыў вікарый.

— Які кляштар, што гэта такое? — ізноў асмеліўся запытацца Вінцусь.

— Кляштар — гэта само па сабе дзела святое, — казаў ксёндз вікарый. — Толькі ж у Расеі цяпер фармальных кляштараў

няма: асталіся толькі сцены-муры, а манахаў расейцы разагналі. Царскі ўрад пакінуў па адным кляштары ў кожнай губерні, і туды жандары перавезлі старых манахаў. Новых прыймаць няможна, а старыя могуць там сабе спакойна ўміраць. Цяпер і ў нас ёсць такое адно месца, дзе ўжо старыя манахі вымерлі, але назова «кляштар» асталася: туды ўласне ўрад пасылае вінаватых ксяндзоў, каб там сабе сядзелі без работы і так пакутавалі. Вось і я спадзяюся туды папасці на год ці на два гадочкі, бо такіх «урадовых» грахоў можна знайсці і ў мяне. Усе мы вінаваты перад урадам хаця бы за тое, што мы — ксяндзы.

— А за што такая кара? — пытаўся Бабінкевіч. — Ці мы ў царкве пяём, ці не пяём, каму тут бяда? І такая там у царкве важная малітва: «Пакі, пакі, дай табакі!» Ха, ха, ха!

— Чуеш, хлапец, сціхні, пакуль я не разгневаўся! — казаў ксёндз Галуза. — Смяешся над тым, чаго сам не разумееш. Славянская мова — гэта мова паважная, старая, і яна — матка такжа і для нашай мовы беларускай. Нам яна вельмі блізкая яшчэ і тым, што па-славянску маліліся нашы дзяды-прадзеды, як былі ўніятамі. Пасля царская Расея ўсё гэта зглуміла і раздзяліла наш народ на два варожыя абозы. Каму з гэтага карысць? Ведама, нікому! Вечныя войны заядаюць Расею і Польшчу, а ўсё гэта за Беларусь. Каб мы былі свядомыя беларусы, дык мы або самі ўстроілі б сваю незалежнасць, або злучыліся б, з кім захацелі б, і нам тагды было б добра, бо мы былі б раўнапраўнымі і паўнапраўнымі. А так…

— Але я пачаў гаварыць аб царкве, — казаў, падумаўшы, ксёндз Галуза. — Вось набажэнства ў царкве вельмі прыгожае і для нас зразумелае. Як гэта калісьці было добра, як уніяты і каталікі былі заадно! Разам хадзілі ў царкву і ў касцёл, разам маліліся, і ніхто ім не пярэчыў, бо тагды была адна вера. Яно і цяпер павінна быць гэтаксама. Але бяда ў тым, што расейскія цары нашу царкву адарвалі ад Рыму ў 1839 годзе, і яна цяпер як бы жывы сучок, адарваны ад жывога пня. І з гэтай нежывой галузы Расея хоча зрабіць жывое дрэва. Ведама, дарэмны труд! Толькі траціцца напрасна час і сіла. Каб гэтая адлучаная Царква абапёрлася зноў на Пятровай Скале і вярнулася пад паслушэнства Наследніку Пятрову ў Рыме, дык тагды і да яе тасаваліся б словы Хрыста: «Брамы пякельныя не перамогуць яе». А так…

— А так — перамогуць! — сказаў Ярневіч.

— Ну, яшчэ Расея крэпкая, — гаварыў ксёндз Галуза, — вось Расея праваслаўную веру і дзяржыць. Без падмогі расейскага гаспадарства царква сама астоіцца не можа. Аб гэтым, зрэшты будзем гаварыць у школе на лекцыях касцельнай гісторыі.

— Але праўда пераможа, — казаў Альбіновіч, — дык усё роўна пераможа каталіцкі касцёл: касцёл запануе на цэлым свеце!

— Яно то так, — тлумачыў ксёндз Галуза, — у канцы каталіцкі касцёл абойме цэлы свет і «будзе адзін пастыр і адно стада». Але мы можам гэтага не дачакацца.

— А ці мог бы касцёл загінуць саўсім? — спытаўся Вінцусь.

— Не, гэта немагчыма; як не магла патануць тая лодка, у каторай быў Пан Езус, хоць і спаў і хоць бура пагражала, а ўсе апосталы баяліся страшэнна.

Так прагутарылі да познага вечара. Трэба было выпраўляць хлапцоў, але яны не хацелі ісці дамоў: проста засыпалі ксяндза пытаннямі.

— А ці можа загінуць праваслаўная царква? — спытаўся Пястрэйка.

Гэта пытанне вельмі ўсіх зацікавіла. Ксёндз Галуза задумаўся.

— Гэта магчыма, але непраўдападобна, — казаў ён.

— Чаму?

— Бо царква захавала ў сабе чыстую, хоць няпоўную, веру; захавала такжа ўсе сакрамэнты (таінства) і набажэнствы да Маткі Боскай і да Усіх Святых. Дык вот праўдападобна, што царква калісьці вернецца да свайго пня — да каталіцкага касцёла і тады расцвіце ізноў і дасць вялікі плод. Гэта будзе капітальная перамога над пеклам і ўсёй нячыстай сілай. Аб гэта трэба часта і горача маліцца.

Нарэшце хлапцы разышліся дамоў.

Калі асталіся ўдвух — ксёндз з Харашухам, гэты запытаўся:

— Як гэта, ксёндз, гаворыш: наш народ можа калісьці паўстаць і быць незалежным? Нашы людзі такія некультурныя, простыя, несвядомыя, што гэта немагчыма!

— Што ў людзей немагчыма — то магчыма ў Бога! — казаў паважна кс. Галуза. — Нашая справа — справа Божая: мы стаім за справядлівасць і жадаем, каб кожны чалавек і кожны народ меў тое і ўладаў тым, што яму належыць ад Бога. Наш народ, як тое дзіця ў калысцы, будучы несвядомым, даецца пакрыўдзіць: другія дзеляцца і сварацца за нашае дабро. Але вось мы расцём, пачынаем разумець і гаварыць. Дык вось наш святы абавязак пазнаваць сябе і свой край і народ і пастаяць за сябе: усюды — і ў кніжках, і ў газетах, і ў школе, у касцёле, у царкве, у хаце і на рынку — адным словам — усюды! Тагды і нас людзі пазнаюць, стануць нас шанаваць і дадуць нам справядлівасць. А інакш — нічога не будзе, будзем вечна стагнаць, наракаць, завідаваць

і чакаць «нябескіх мігдалаў» ад другіх суседзяў — блізкіх ці заграначных. Цяпер другая справа, — гаварыў дальш вікарый, — наша адраджэнне апіраецца на праве прыродным.

— Што гэта? — пытаўся Харашуха.

— Гэта ёсць права, закон натуры — прыроды, заложаны ў самую глыбіню нашай душы і сэрца. Кожны мае права да таго, што з грунту належыць да ягонай натуры. Скажам у параўнанні: не будзеш пан карміць каня мясам, а сабаку сенам, бо гэта спраціўляецца іхнай натуры. Таксама не будзе рыба хадзіць па зямлі, а кот плаваць у вадзе. Вот бачыш, пан, сваю гэтую пальму ў вазоне: яна ў сваёй бацькаўшчыне — у Азіі, Афрыцы — вырасла б на цэлыя сажні ўгару, была б вялікім дрэвам: цвіла б, давала б плады, а тут ледзь дыхае, захірэўшы; бо тут яна жыве ў няволі. Так і наш беларускі народ: ён вельмі працавіты і здольны, а вось не можа выдаць нічога вялікага, бо мы жывём чужым духам — культурай чужацкай, каторая марнуе нашы сілы. О, каб даць нашаму простаму народу ягонае роднае слова ў школе, у касцёле, у царкве, — дык народ стаў бы расці і развівацца, як рыба ў вадзе! А так…Тагды наша слава прагулялася б па белым свеце…

— Гэй, гэй! Гэта не блізкая справа, — уздыхнуў Харашуха, — можа, за якіх сто гадоў нешта такое і будзе, а тым часам вялікая Расея нас з'есць і абліжацца.

— На нас аблізваюцца нават і далёкія немцы. Але жывога з'есці трудна, а пасля стравіць яшчэ трудней; бо жывы стане крычаць і брыкацца, а пасля праз бок табе вылезе. Ужо ж якія сільныя англічане, а ірландцаў з'есці не могуць; таксама — немцы чэхаў, а туркі — балгараў.

— У нас няма саўсім інтэлігенцыі, вот хаця б ксяндзоў: я вас толькі першага віджу; а з папоў дык аніводнага беларуса не спаткаў. Дык дзе ж тое наша адраджэнне?

— Першая баразна самая найтруднейшая. З ксяндзамі справа лягчэйшая: ксяндзы больш здатны да незалежнай думкі, бо каталіцкі касцёл дае глыбейшую культуру. Ды і з ксяндзоў да свядомасці даходзяць толькі людзі вышэйшага палёту, каторыя апроч штодзённай шклянкі гарбаты, куска мяса, апроч газеты, карт і другой драбязы, — яшчэ ўмеюць думаць і любіць. А ў іншага нават і прыгожая душа так абрасце пылам штодзённасці, ці апляцецца гаспадаркай, ці палітыкай, дык ты яму лоб расшчапі — ён нічога не пойме. Яшчэ горш бывае з людзьмі пустымі, балтунамі, гультаямі: такіх лепш не чапаць — шкада часу. Праціўнікаў гарачых, але разумных я не баюся: такія, як праканаюцца, будуць гарачымі беларусамі, а як не праканаюцца,

дык астануцца прынамсі талковымі праціўнікамі. Найбольшая, аднак, надзея вось на гэтых нашых мілых хлопчыкаў: з іх паўстануць калісьці праўдзівыя адраджэнцы і патрыёты.

— А што гэта кажуць, — спытаўся Харашуха, — што беларусы цягнуць у Расею і хочуць перайсці ў праваслаўе?

— Хэ! Гэта чыстая брахня і махлярства: праўда пакажацца калісьці сама сабой.

Вікарый пайшоў дамоў. Было ўжо пад поўнач. На небе гарэлі зоркі. Паціскаў асенні марозік. Мураванка спала. Але Харашуха доўга не мог заснуць. Думкі плылі і наплывалі. «Эх, — казаў сам сабе Харашуха, — каб хоць з дзесяць такіх энэргічных ксяндзоў, як наш Галуза, дык сапраўды адрадзілі б край. А так… І дзіўна, чаму папоў беларусаў няма?..»

Пасля арганіст убачыў, што вікарый вярнуўся да яго, але нейкі асаблівы: на галаве ў яго была мітра, адзежа, як у біскупа, а ў руках дзве Майсеевы табліцы. Харашуха стаў чытаць, што на табліцах напісана, і… не мог прачытаць. Тагды вікарый працёр табліцы: літары зрабіліся агністыя — аднак асляпілі Харашуху, і ён ізноў не мог прачытаць. Тагды ўжо сам вікарый стаў чытаць грамавым голасам, як бы труба ерыхонская:

— Слухай, Харашуха, і ўвесь Народ Беларускі! 1. Беларус, пазнай сам сябе! 2. Беларус, не стыдайся свайго імені! 3. Беларус, помні, што дзень тваёй волі саўсім блізкі! 4. Любі Бацькаўшчыну сваю, зямлю сваю, мову сваю! 5. Не адракайся ані абсмейвай братоў сваіх! 6. Не ганяйся за нічым чужым! 7. Не прыкідвайся сам чужынцам! 8. Не абмаўляй сваіх братоў, каторыя працуюць для адраджэння! 9. Не завідуй чужынцам іхнай бацькаўшчыны. 10. Ані іхнай мовы, ні культуры, і ані ежы, ані адзежы, ані ўсяго таго, што бачыш у іх.

Арганісты прабудзіўся, запаліў лямпу і запісаў на свежую памяць гэты новы закон адраджэння.

## VII. СЛЕДСТВА

Дэкан Кішкеліс быў вельмі заняты каля будовы касцёла: збіраў грошы, звазіў матэрыял, сварыўся з будаўнічым, падахвочваў работнікаў, лагодзіў паліцыю і г. д. А трэба ведаць, што да 1905 года новыя касцёлы нідзе ў Беларусі не будаваліся і нават правіць старыя ўрад дазваляў з вялікім агранічэннем: трэба было спісаць вялікую торбу папераў, каб дастаць ад губернатара пазваленне на малую папраўку. Дык вот у Мураванцы справа

з касцёлам прыйшла проста да катастрофы: касцёл быў здаўна запушчаны, цёк як сіта; ды быў такі цесны, што людзі ў ім проста душыліся. На ўсе просьбы будаваць новы касцёл прыходзіў адказ з Пецярбурга: «Не разрешается!» Тагды ксёндз Кішкеліс выпрасіў пазваленне паправіць і крышку расшырыць касцёл стары. На гэта нарэшце ўрад дазволіў.

Тут Кішкеліс вельмі рызыкнуў: збіў палавіну старога касцёла; другую частку зрабіў капліцай, а на месцы разбітай палавіны стаў будаваць новы вялізарны касцёл — разоў у шэсць-сем большы ад старога. Ведама, уся ўлада паліцэйская была належна загоджана. Муравански прыстаў, Нікіфар Заразака, бываў частым госцем у дэкана і, каб палягчыць дэкану спосаб падыходу, сам «пазычаў» у яго кожны месяц па дваццаць пяць рублёў; прытым любіў паважна паджартаваць: «Заплаціць, — казаў, — японскі мікада» — балазе аб Японіі тагды пачалі галасней гаварыць. Прыязджаў нават на следства і асобны чыноўнік з Пецярбурга і з гэтым дэкану было крышку трудней, бо патрэбны быў падыход далікатнейшы, але неяк парадзілі. Вот той «высокі чын» стаў пісаць пратаколы. Аднак дэкан не даўся злавіць на вуду: цягнуў і путаў усё дзела са сваімі сведкамі аж да познага вечара, — пакуль не прыстроіў добрай вячэры. Тагды так развесяліў важнага госця жартамі і крэпкім каньячком, што той забыўся і аб пратаколах. Пасля загулялі ў карты, і дэкан «прагуляў» таму чыноўніку дзвесце рублёў. Затое назаўтра следства пайшло лягчэй, і касцёл мог далей будавацца.

А мураванскі прыстаў, Нікіфар Заразака, быў чалавек вельмі людскі і справядлівы: як ад каго штосьці ўзяў, дык са скуры вылазіў, а дзела зрабіў паводле ўгавору. Ён нават меў на гэта адпаведную пагаворку: «Калі дзела не зрабіць, дык лепш і не браць таго…» — ведама, чаго! А браў добра — не жалеючы; ну, і давалі яму, не жалеючы; а нават любілі яго за такую поўную справядлівасць. Дэкан толькі праз яго і ратаваўся. Бывала… ну, што там бывала — няхай сабе! Усё рабілася з урадовай тайнай. Толькі адзін раз дэкан меў пераправу незвычайную: праўда, не дзеля сябе, а дзеля неспакойнага суседа. Ублытаўся ў палітыку завалацкі пробашч, ксёндз Марціноўскі, а дэкану прыйшлося разблытваць. Дагэтуль толькі дзякуючы празарлівасці дэкана ксёндз Марціноўскі сядзеў цэлы ў сваёй Завалацы. Нават і сам Заразака махаў на Завалаку рукой і гаварыў: «Што ж, маладое піва няхай сабе перашуміцца! Вялікая Расея ад такой Завалакі не праваліцца».

Так дасюль пушчалі кантам тое, што ксёндз Марціноўскі без пазвалення прыстава ездзіў на фэсты ў суседнія парафіі, а нават

у Цюльпішках гаварыў навуку; таксама дараваў Заразака і тое, што злавіў у Завалацы Ганулю Якубіху, як вучыла дзяцей, хоць меў ясныя довады, што гэта было з рукі ксяндза Марціноўскага; і яшчэ больш дараваў, і дараваў бы ўсё, каб ксёндз Марціноўскі не перайшоў меры. Аднак апошняя справа нарабіла шуму на цэлую губерню, і затушаваць яе не было магчыма.

А было так: завалацкі поп Захар Дудзюк, той, што прыехаў на месца Івана Кабылкіна, быў вельмі заўзятым місіянерам. Такі самы заўзяты місіянер быў і ксёндз Міхал Марціноўскі. Вось яны і завялі паміж сабой спрэчкі, даносы і суды — проста без дай прычыны. Нарэшце знайшлася і важная прычына: Захар Дудзюк вёў на магільнік нябожчыка і якраз пераходзіў каля касцёла, а з касцёла таксама выводзіў свайго мярца ксёндз Марціноўскі. Дудзюк здалёку змеркаваў небяспеку і не хацеў астацца ззаду: вось ён і пацісnuў свой жалобны ход скарэй. Але ў праваслаўнага нябожчыка ўблыталіся лейцы ў кола і воз затармазіўся, а Дудзюк не чакаў і пайшоў скарэй. Тагды сфармавалася такая працэсія: найперш праваслаўны крыж, харугвы, пасля поп Захар Дудзюк з дзякам Кузьмой Нарцукевічам і са спевакамі; за імі — каталіцкі крыж, пасля ксёндз Марціноўскі са сваім арганістам і з хорам;пасля ехаў нябожчык-каталік; а на самым канцы — праваслаўны нябожчык. Ідзе гэта на канцы за ўсімі жонка таго мярца і лямантуе: «А Божа мой, Божанка! Чаго ж я даждалася? Як таго каталіка, дык абодва вядуць, а майго Сымонку мілага дык ніхто не вядзе, не пяе!»

І зара пасля тых паховінаў і поп і ксёндз паслалі тэлеграмы да губернатара — адзін на другога. Губернатар перадаў дзела Заразаку, а гэты прыбег да дэкана і прызваў яго на супольнае следства. Разабраўшы супольна ўсю справу, яны так спрытна напісалі паперу губернатару, што і поп і ксёндз былі прызнаны вінаватымі і дасталі вострыя выгавар за парушэнне царкоўнага парадку і грамадзянскага супакою.

Але і тут дзелу не канец: толькі што дэкан вярнуўся ў Мураванку, як назаўтра прыйшла з Завалакі трывожная вестка, што завалацкі арганіст прыбіў да смерці дзяка, Кузьму Нарцукевіча. Ізноў спешным парадкам паехаў прыстаў Заразака ў Завалаку, а за гадзінку пасля яго паехаў (неафіцыяльна, каб паддзяржаць ксяндза Марціноўскага) і сам дэкан Кішкеліс. Аказалася, што Кузьма яшчэ жыве і сам, хоць кульгаючы і з завязаным вокам, прыйшоў на следства. Тут ужо Заразака выйшаў з сябе і пастанавіў: альбо разагнаць усё завалацкае духавенства, альбо

памірыць яго назаўсёды. На гэты раз следства ішло ў доме папа Дудзюка, куды заклікалі ўсіх вінаватых і прычасных.

Аказалася, што пасля тых слаўных паховінаў дзяк з арганістам спаткаліся ў Шлёмы і, добра дзюбнуўшы, завялі дыспут аб веры і набажэнстве. Пакуль разбіралі пункты пастаронныя, дык яшчэ нічога, але як дайшлі да спеву і арганіст абсмяяў царкоўны хор — тут ужо дзяк не мог стрымацца і ляпнуў праціўніку аплявуху з усяго пляча. Тагды арганіст наваліўся на дзяка з кулакамі і з нагамі, збіў яго на зямлю, абкрываўіў і «прыбіў да смерці». Тут уступіўся сам Шлёма і зжаліўся над няшчасным дзякам: прыказаў сваёй Сорцы маўчаць і, баючыся адказнасці, abліў дзяка вадой і перацягнуў яго ў ягоную хату, а сам вярнуўся дамоў, запёр дзверы і згасіў лямпу, але не мог заснуць. Але тут даведаўся аб такім «паруганні праваслаўя» сам поп Дудзюк і паклікаў ураднікa. Ураднік абгледзеў дзяка, што той быў абкрываўлены і не варушыўся, дык разбудзіў і заклікаў Шлёму і стаў пісаць пратакол. Спалоханы Шлёма не хацеў перш нічога гаварыць, але, дастаўшы два разы ў вуха, сазнаўся ўва ўсім ад пачатку да канца. Як пратакол быў кончаны, дык тым часам і Шлёма прыйшоў к сабе, а нават асмеліўся падступіць да ўрадніка і папрасіў яго ў бакоўку. Там ужо на стале стаяла бутэлька добрай вішнёўкі, а пад бутэлькай ляжала пяцірублёўка. Ведама, пратакол астаўся без ходу.

Але тым часам сам поп Дудзюк узяў справу ў свае рукі: пайшоў на пошту і даў тэлеграму прыставу Заразаку, што «дзяк ляжыць прыбіты арганістам да смерці».

Вот Заразака стаў пачародна выклікаць на следства ўсіх патрэбных і крычаў на ўсіх са ўсёй сваёй сілы. Найперш ксяндзу прыказаў выгнаць арганіста, калі хоча сам астацца ў Завалацы. Пасля Дудзюку прыказаў дзяржаць дзяка ў рызах. Захар Дудзюк, хоць быў вялікім рызыкантам, тут спужаўся і сам, бо сваім паспехам увёў уладу ў памылку: напісаў аб дзякавай смерці, а вось дзяк нейкім цудам узяў і ўстаў, і ўжо ізноў стаў пытацца гарэлкі.

— Ён мяне заўсёды мучыць бесканечна, — казаў поп. — Я ўжо і сам не ведаю, што з ім рабіць. Не магу яго браць з сабой на каляду, ані на другія трэбы, бо нап’ецца зразу ў першых хатах, а тагды паўзе за мной па цэлым мястэчку на сваіх чатырох. Прыходзіцца перш яго добра «накачаць» самому, і тагды можна пакінуць дома. Інакш — няма з ім рады!

Сам дзяк, Кузьма Нарцукевіч, шчыра сазнаўся ў сваёй віне.

— Виноват, — казаў ён, — ваше благородие! Немножко слишком потянул, ваше благородие! Но этому езуиту-органисту

я ещё не так дам, ваше благородие! Он осмеял моё пение, ваше благородие!

Арганісту Заразака прыказаў выехаць з Завалакі ў дваццаць чатыры гадзіны.

— Чтобы тут і твоего духу не было! — крычаў Заразака.

Арганіст акуратна споўніў гэты загад і выехаў якраз у дваццаць чатыры… тыдні, як знайшоў сабе лепшае месца.

Пасля таго следства сталі запіваць «міравую»: найперш толькі ўчатырох — прыстаў, дэкан, поп і ксёндз; аднак пасля, знюхаўшы сівуху, улез і дзяк. Першы раз цяпер сядзелі побач і гаварылі па-суседску поп з ксяндзом. Аказалася, што яны выходзілі з адной гміны, а нават разам вучыліся ў пачатковай школе.

— Ну, дык за што вам сварыцца? — пытаўся Заразака. — Дудзюк і Марцук — родныя браты.

— Я не Марцук, а Марціноўскі, — перабіў ксёндз.

— Гавары, ксёндз, каму другому, хто не ведае, а я тут начальнік паліцыі: усе ніткі сходзяцца ў маіх руках. Я даўно ведаю, што ваш бацька называўся Марцук. Што тут гаварыць… Лепш вып’ем за ваша здароўе і за суседскую згоду.

Ксёндз Марціноўскі чуць перш не разгневаўся, але дэкан нязначна штурхнуў яго ў бок.

Гутарка вельмі ажывілася: усе павесялелі, а найбольш сам Заразака.

Пілі за здароўе сінода і рымскага папы, адным словам, устроілі «соединение церквей».

— Я прызнаю рымскага папу, — казаў поп Дудзюк, — але стаўлю адзін варунак, каб ваш папа перастаў быць езуітам: езуітаў я не пераварваю! Фу! Такі народ…

— Не трэба ніякага варунку! — крычаў Заразака. — Няхай сабе будзе езуітам. Езуіты — гэта народ мудры: яны гавораць толькі па латыні і кожнага чалавека відзяць наскрозь. Іх баяцца ўсе масоны і ўся наша матушка Расея, а яны сабе і ў вус не дзьмухаюць — хэ, хэ, хэ! Эх, каб я не быў Заразака, я быў бы езуітам!

— Што ж там езуіт? Няхай сабе і езуіт! — казаў ужо вельмі прыдабрэўшы сам поп Дудзюк. — Вот ксёндз Міхал Марціноўскі езуіт, а я яго пацалую!

Тут ксёндз з папом так крэпка пацалаваліся, што аж пападдзя выглянула з кухні, думаючы, што зноў пайшлі аплявухі.

— А я ўсё-ткі згоды не даю! — сказаў дзяк Кузьма.

— Прыкусі язык, дзяча! — загаманіў на яго прыстаў. — Тут тваёй згоды ніхто не пытае.

— Вы сабе не пытайце, — цвярдзіў сваё дзяк, — а я згоды не даю, бо езуіты — гэта такія… гэта…

Але Заразака не даў яму скончыць, лоўка схваціў яго за каршэнь і вытурыў з кухні. І там дзяк дакончыў сваё слова.

— …езуіты… гэта… гэта… Езуіты, як ведзьмы, маюць ззаду хвосцікі. Яны цябе могуць зарэзаць вот тут, на гэтым месцы, а пасля цябе жывога з’ядуць, а ты, брат ты мой, маўчы, бо ты не езуіт! Езуіты прадаюць у касцёле індульгенцыі, так як мы свечкі; а пасля яны тыя індульгенцыі паляць перад алтаром, заместа свечак. Вот хто езуіты! Я ўжо даўно іх раскусіў, бо я такі самы, хітры, як і езуіты. Толькі ж я справядлівы чалавек — я нават малога дзіцяці не скрыўджу. А вот наш прыстаў Заразака — езуіт! Яго мураванскі дэкан яшчэ летась запісаў у езуіты і за гэта яму дарага плаціць. І наш поп Захар Дудзюк, таксама сягоння запісаўся ў езуіты. Хэ, хэ! Ён думае, што я гэтага не паняў, а я зразу змеркаваўся, чым тут пахне, і стой — назад! Яны тут мяне хацелі напужаць… Не так-то яно лёгка! Старую варону жыдам не настрашыш! А заўтра я напішу ў кансісторыю, а паслязаўтра ў самы сінод — вот як я зраблю! Бо хто ж будзе бараніць царкву ад саблазну, як не я — Кузьма Нарцукевіч, га? О, я знаю, з каторага канца ракаў ядуць! А папа Дудзюка сашлюць туды, дзе і Макар цялят не пасвіў, як калісьці саслалі ягонага дзеда за унію: тагды ён пазнае, як пісацца ў езуіты!..

Бедная пападдзя, пачуўшы гэта, так і спалавела, пасля збялела, пасля счарнела і… як крыкнула — так і самлела. Зрабіўся стук-грук: слуга ўбегла да гасцей клікаць папа; поп скочыў ратаваць жонку. Дэкан прыказаў падаць коні і паехаў у Мураванку. Ксёндз Марціноўскі пайшоў дамоў. Заразака абапёрся на канапу і захроп на ўсе застаўкі. А дзяк паплёўся да Шлёмы.

— Ведаеш, Шлёма, — казаў ён, — каб не я, дык сягоння наш поп падпісаў бы унію, але я не дапусціў!

— Ну!.. — сказаў Шлёма, і больш нічога не сказаў.

Так і не ўдалося «соединение церквей». Каб не Кузьма Нарцукевіч, дык хто яго ведае, што там было б? А так…

## VIII. ДЗЕ КРЫЎДА, ДЗЕ ПРАЎДА?

Якраз каля гэтага часу курс урадавай палітыкі ў Беларусі вельмі завастрыўся: усе чыноўнікі дасталі ад губернатараў патайныя цыркуляры, у каторых былі дадзены новыя загады, як змагацца з польска-каталіцкімі ўплывамі. Губернатары

асаблівую ўвагу звярталі на ксяндзоў і прыказвалі слядзіць за іхнай дзейнасцю: ці не вядуць патайных школаў? ці не агітуюць і ці не робяць патайных сабранняў па вёсках? ці не спавядаюць быўшых уніятаў? і г. д.

«А калі бы дзе што-якое гэтакае аказалася, — пісаў губернатар, — дык падуладныя чыны павінны зара стаць на перашкодзе і данесці ўладзе вышэйшай».

Ведама, правінцыяльнае чынавенства зара ўзялося за працу.

Тым часам у Мураванцы прыстаў Заразака зара прыбег з гэтай паперынай да дэкана Кішкеліса, каб сакрэтна парадзіцца аб супольнай дзейнасці — «каб і ўладзе дагадзіць, і прыяцеляў абараніць, і сябе самога абяспечыць». Таксама радзіў дэкану перасцерагчы свайго вікарыя і ксяндза Марціноўскага ў Завалацы.

— Гэтыя два ксяндзы мяне заўсёды беспакояць, — гаварыў прыцішаным голасам Заразака. — Яны, праўда, маладыя і ім трэба многа дараваць, але… ёсць, як бачыце, на ўсё граніца. Бо трэба ж вам ведаць, што я тут у Мураванцы не адзін — увайдзіце вы ў маё палажэнне! — такія самыя паперыны дасталі тут і другія чыноўнікі. Калі я што спушчу з вачэй, дык убачыць гэны рыжавусы інспектар Станюкевіч, а ён мне здаўна не давярае. Ах, як я рыжых людзей не цярплю! Проста — не магу на іх глядзець: мне вось так і здаецца, як гляну на рыжага, што ён зара пачне кусацца ці якое другое ліха табе зробіць. Затое як пападу дзе-колечы такога рыжага злодзея ў рукі, дык, хоць ён і нічога не ўкраў, задам яму такога часу, што ён пасля за вярсту мяне абыходзіць! І гэты інспектар Станюкевіч такі самы: капаецца пада мной, як крот пад капустай; а я ж таксама чалавек… І на сонцы, як добра прыгледзецца, ёсць плямы. Або, ведаеш, дэкан, — гэты наш тутэйшы суддзя: ён тут лічыць сябе самым найстарэйшым і наймудрэйшым у цэлай Мураванцы, а папраўдзе сказаўшы — дурны, як бот дзіравы! Дык вот відзіш, ксёндз дэкан, з кім нам тут прыходзіцца жыць у гэтай дурной Мураванцы. Ну, але касцёл будуйце сабе смела! Толькі лішне не марудзьце, бо хто з нас можа згадаць, што там яшчэ высокія ўлады ў Пецярбургу задумаюць? Могуць нам сюды прыслаць якога новага рэвізора-букваеда, а тагды мы прапалі!

— Яшчэ горш, калі такі рэвізор бывае ў акулярах, — паджартаваў дэкан, — тагды ад яго нічога не схаваеш.

— Я не баюся такіх, што заўсёды ходзяць у акулярах, — казаў Заразака, — гэта або слепаватыя, або дурнаватыя, ці фанабэрыстыя: такія ўсюды лезуць, многа гавораць, але нічога не бачаць. А вось найгоршы такі, што перш прысядзе да папераў, а тагды

ўжо цягне з кішэні акуляры. Адзін такі чуць мяне калісьці не заеў насмерць: шчасце, што быў ён з сакратаром; дык я толькі ад таго даведаўся, як ягонага гада-начальніка можна падмазаць і з каторага канца пачынаць. Каштавала (паміж намі гаворачы!) цэлую тысячу, і сакратару паўтары сотні: я тагды добра залез у даўгі, затое выпутаўся з таго скандалу. А то, ведаеш, дэкан, як залез ён у мае паперы, начапіўшы тыя праклятыя акуляры, і як стаў тыя паперы раскладваць, дык проста я думаў — ён звіхнуўся: што ні возьме паперыну — чытае-чытае і плясь яе на стол! «Тут, — кажа, — тры гады турмы!» А пры другой — «пяць гадоў!»… Там ізноў тры, а пасля і цэлых дзесяць. Я гэта слухаю, а з мяне аж пот шыбае. «Ну, — думаю сабе, — прапаў, як падкова ў балоце!» І за што мне цэлых дзесяць гадоў турмы, калі я на тым інтарэсе зарабіў сам толькі дзвесце рублёў? «Цьфу»! — думаю сабе. Ведама, быў я тагды яшчэ малады: саўсім не ўмеў браць — толькі пачынаў нашчупваць. О, цяпер няхай ён сабе прыязджае і няхай сабе кладзе хоць і дзве пары акуляраў, — трэсне ён, а праўды не даб'ецца! Дык вось якія парадкі ў нашай святой Расеі, няма чым пахваліцца…

Тут Заразака крэпка ўздыхнуў і задумаўся.

— Але наагул, — казаў ён, — будзьце вы больш асцярожны: не лезьце ў прысак з голымі рукамі, асабліва гэты ваш малады вікарый. Я бачу — ён зара пападзецца…

— Вы тут баіцёся палякаў, — казаў дэкан Кішкеліс, — а мой вікарый не паляк, а беларус, — дык вікарыя няма чаго баяцца. Прытым ён…

— Ну, гэта не вялікая пацеха! — перабіў Заразака і кісла ўсміхнуўся. — Бо, відзіце, ксёндз дэкан, як тут вам сказаць: палякі — гэта ў нас такая хвароба, каторую мы добра знаем і ведаем, як ад яе бараніцца: на палякаў мы маем гатовыя параграфы, пастановы і ўсё такое, а беларусы… гэта нешта — нейкае — такое, чаго мы яшчэ не знаем. Каб ваш вікарый быў немец, ці француз, ці хоць з іншага народа, якога ў Расеі няма, дык няхай сабе быў бы, кім хацеў бы, але беларус… Калі ўжо прызнавацца, дык скажу вам усё, як на споведзі: нам нядаўна генерал-губернатар на сабранні прыставаў у Вільні сказаў: «Слышите, приставы? Никаких в Віленской губернии белорусов не должно быть! Поняли?» Ну, мы і понялі, чаго ён хацеў. Вось мы тагды ўгаварыліся ўсіх такіх беларусаў лічыць за сацыялістаў: гэтак лягчэй было падцягнуць іх пад параграф і скруціць у бараноў рог. Але ваш вікарый, значыць — ксёндз: дык як яго сюды падцягнеш? Я ўжо і сам не ведаю, што з ім прыйдзецца зрабіць. Лепш няхай ён сам супакоіцца!

* * *

А інспектар Станюкевіч, дастаўшы патайную паперыну, так разагнаўся, як бы сеў на сто коней: цэлая сотня планаў прыйшла яму зразу ў голаў, толькі, бедны, не ведаў, з чаго тут пачаць. Перачытваў тую паперу некалькі разоў і ўсміхаўся сабе пад вус; пагладжваў бараду і пахаджваў туды-сюды па сваім салоне.

— Н-да! — гаварыў ён сабе напаўголаса. — Н-да! Это очень хорошо. Н-да! Хотя и поздно, но зато крепко. Уж эти полячки слишком разошлись, н-да! Но теперь мы их сдержим. Хэ-хэ.

Назаўтра інспектар адразу прыступіў да дзела: найперш прыказаў сакратару Мазныцы напісаць і вывесіць у школе некалькі аб'яўленняў: «По-польски говорить воспрещается!», хоць тут якраз ніхто па-польску і не гаварыў, бо самі вучыцелі гаварылі па-расейску, а вучні і школьны сторож — па-беларуску.

Мазныця папрасіў (ад сябе) на помач вучыцеля Паўла Пятровіча Петухова, каторы вельмі прыгожа пісаў. І вось Петухоў, скрывіўшы галаву, выпісаў вялізарнымі літарамі тую забарону. Прытым, аднак, не абышлося без прыгоды, бо Петухоў, задумаўшыся аб нейкіх матыльках, нарабіў многа памылак: на адной паперцы напісаў «спрещается!» на другой — «не воспрещается!» на іншай — слова «по-Польски» напісаў вялікай літарай. Скончылася тым, што Мазныця сам напісаў усе гэтыя аб'яўленні: выйшла не так прыгожа, але без памылак.

Пасля, склікаўшы ўсіх вучняў, інспектар забараніў ім пяяць у касцельным хоры пад пагрозай выдалення са школы, а ўсім спевакам прыказаў належаць да царкоўнага хору і пяяць у царкве. І нарэшце інспектар заявіў, што не дапусціць у сваёй школе ніякіх польскіх інтрыгаў, бо — казаў — «хто тут ёсць такі паляк, дык няхай зараз выходзіць са школы ды ідзе сабе «до лясу»!

Вучні паглядзелі на таго аднаго паляка, каторы быў у школе, і ўсміхнуліся. А Альбіновіч ціхенька яму сказаў:

— Чуеш, Крэнцінскі? Ідзі ты хоць раз да таго лясу, бо мы не знаем туды дарогі і не ведаем, што там рабіць!

Ксёндз Галуза, даведаўшыся аб усім, пастанавіў разгаварыцца з інспектарам. Але цяпер расправа з інспектарам была вельмі трудная: умацаваны тымі паперамі, ён чуўся такім магутным, што трудна было даступіцца; дык гаварыў з ксяндзом Галузам высокім тонам і вострымі словамі.

— Вы, палякі, маеце надта вялікія надзеі, — казаў, едка ўсміхнуўшыся, інспектар. — Тут вам не «свента Польшча», але Вялікая Расея! Недарэмна мы пралівалі сваю кроў за гэты

край. А зрэшты, — гаварыў інспектар, паправіўшы акуляры і павысіўшы і так ужо высокі тон, — зрэшты, я тут адзін гаспадар у гэтай школе: я — інспектар! Ксёндз яшчэ вельмі малады: і такое, ксёндз, маеш права мяшацца ў мае школьныя абавязкі? Я прыказаў вучням ходзіць у царкву, дык яны павінны мяне слухаць, а нікому другому тут дзела няма.

— Але я маю права заступацца за сваіх вучняў, — казаў спакойна, але станоўка ксёндз Галуза, — бо гэтыя вучні — католікі, а я ксёндз і вучыцель рэлігіі ў гэтай школе. Інспектар мае права накладаць толькі школьныя абавязкі, але не рэлігійныя: гэтыя належаць да касцёла.

— Хі, хі! Якія навучныя вывады маладога ксяндза! — перадражніў інспектар.

— Логіка і справядлівасць абавязвае не толькі маладых, але і старых: я апіраюся на законы прыродныя, Божыя і людскія. Кожны чалавек мае права да сваёй веры і сваёй мовы, а вы тут процiў каталікоў пачалі змаганне. Чаму ж вы жыдоў не прымушаеце хадзіць у царкву і пяяць у царкоўным хоры? Жыдам нават не кажаце ў суботу пісаць, а нас прымушаеце ламаць самыя найважнейшыя законы нашага сумлення! Гэта яўная несправядлівасць. Калі так, дык я забараню вучням-каталікам хадзіць у царкву.

— Можа, яшчэ, ксёндз, прыкажаш вучням ісці «до лясу» і зрабіць паўстанне, і адбудаваць Польшчу ў граніцах 1772 года? Што ж мы тагды зробім? Прападзе, значыць, Вялікая Расея?..

Інспектар яўна вёў да разрыву; але ксёндз Галуза пастанавіў сцярпець усякія прытычкі і вытрывала бараніць свае правы.

— Я тут гавару з п. інспектарам, — казаў ён, — аб справах рэлігійных, а не палітычных. Я ў палітыку не мяшаюся і на паўстанне не пайду. Дык да чаго тут мяшаць Польшчу? Зрэшты, я сам не паляк, а беларус.

— Ой, ой! А гэта што яшчэ такое новае? — загаманіў здзіўлены інспектар і, паправіўшы акуляры, паглядзеў уважна на ксяндза.

— Як то «новае»? — казаў спакойна ксёндз Галуза. — Саўсім не новае, але вельмі старое. Ці пан інспектар — чалавек інтэлігентны — не чуў, што ёсць беларусы і што край наш называецца Беларусь? Паглядзі, пан, у геаграфію!

— Ну, у геаграфіі беларус нібы ёсць, — прызнаўся інспектар, — але папраўдзе, на практыцы, няма ніякай Беларусі і не павінна быць! Нашто яна нам? Павінна быць адна Вялікая і Непадзельная Расея.

— Адзін п’яны казаў, што чалавеку непатрэбны нос і прасіў другога п’яніцу, каб яму адкусіў. Так і гэта: Бог лепш ведаў, ці Беларусь патрэбна на свеце, дык яе стварыў, а нам даў асобную мову. І вот 90 працэнтаў вашых вучняў гаворыць у хаце з бацькамі па-беларуску, а нават і тут паміж сабой у школе. Дык і на практыцы ёсць Беларусь!

— Гэта ўсё ваша польская інтрыга, — казаў інспектар. — Няма ніякай беларускай мовы. А гэта, што ёсць, гэта не мова, але нейкі папсуты жаргон. Усе беларусы — рускія, а вы іх робіце палякамі.

— Я ў сваім жыцці нікога палякам не зрабіў, — казаў ксёндз Галуза, — гэта не мая задача. Каталіцкі касцёл вучыць, што кожны павінен быць тым, якім яго Бог стварыў. Але я варочаюся да справы рэлігійнай: пане інспектар, не перацягвайце струны — я вас прашу — не пасылайце каталікоў у царкву!

— А я прашу, — казаў інспектар, — каб ксёндз не мяшаўся ў мае справы!

— Дык тагды я дамагаюся і пратэстую, — казаў ксёндз.

— А, гэта знамянітае польскае «вэто» — «не позвалям!»; яно прывяло калісьці да развалу вашай Польшчы…

— Я забараню вучням хадзіць у царкву, і яны не пойдуць.

— Ах, так? Добра! Вот гэта якраз мне на руку. Гэта значыць, што ксёндз бунтуеш вучняў процiў школьнай улады. На гэта ёсць асобны параграф у расейскіх законах, а я яго ведаю. Добра! Вы, господа учителя, слышали? — звярнуўся ён да вучыцялёў.

— Да, да! Я слышал: я первый свидетель, — паспяшыў пацвярдзіць Сліва, каторы пільна сачыў за цэлай спрэчкай. Ён даўно хацеў умяшацца ў гутарку і памагчы інспектару, але той знакам паказаў не мяшацца. Наагул Сліва здаўна меў зуб да ксяндза Галузы і пад’юджваў інспектара; пробаваў таксама і сам ксяндзу падцінаць, але Галуза ўмеў абсадзіць яго на месцы і вывесці ў дурні. Затое цяпер Сліва быў вельмі рады з усяго абароту справы, каб адамсціцца хоць гэтак.

Тым часам Мазніцын (ён быў Мазныця) не быў здаволены з усёй інспектарскай палітыкі, але маўчаў і перапісваў нейкія паперы. Ён дагэтуль жыў з ксяндзом Галузам у згодзе; нават любілі з сабой пагутарыць на розныя навуковыя тэмы; часам спрачаліся да смерці, бо Мазныця быў паўнедаверак.

А Павел Пятровіч Петухоў распраўляў скрыдлы нейкага доўгага жука і не ведаў, аб што інспектару ідзе. Толькі сказаў, пачуўшы аб Беларусі:

— Знаете, гэты жук — гэта ёсць асобная парода на Беларусі: у Вялікай Расеі яго саўсім няма! Я добра гэта ведаю. Знаете, мне

яго ўвосені злавіў гэты малы вучань — Вінцусь Паўловіч. Ён вельмі здольны хлапец і, я віджу, што інтарасуецца прыродай, асабліва як яму ўсё добра растлумачыш. Знаеце, я думаю, што з яго калісьці будзе…

Інспектар зморшчыўся і махнуў на яго рукой.

— Гаспадзін Мазніцын! — звярнуўся інспектар да сакратара. — Пішыце пратакол, што ксёндз Галуза бунтуе вучняў процiў інспектара. Мы гэта пашлём да вышэйшага начальства.

— Я не пазволю перакручваць сваіх слоў, — сказаў востра ксёндз Галуза. — Я дамагаюся склікаць поўную педагагічную раду, разабраць усю справу і напісаць пратакол пры ўсіх.

— Досыць гэтага, — сказаў інспектар, — ксёндз да педагагічнай рады больш не належыш: я сягоння звальняю ксяндза са школы і на лекцыі больш не пушчу! До свиданья!

— Якое вы маеце на гэта права? Мяне назначыў біскуп.

— Біскуп? Гэта цяпер не вельмі важная асоба, бо… — тут інспектар сцішыў голас і зашыпеў, як гадзіна ў кусце, — …вашага біскупа ўчора вечарам жандары вывезлі аж пад Уральскія горы. Ну, што? Маю я права, га?.. До свиданья!

Тут інспектар трыумфальна глянуў згары на збянтэжанага ксяндза, а на вуснах ягоных, пад рыжымі вусамі, блудзіла ўсмешка едкай іроніі.

Ксёндз Галуза ўбачыў, што ўсё скончана: узяў капялюш, агульна ўсім пакланіўся і паспешна пайшоў да дэкана. Вестка аб біскупе так была неспадзяванай, што ён забыўся і аб сваёй крыўдзе, і аб школьных справах, а толькі ў думках імкнуўся «аж пад Уральскія горы» за тым жа біскупам, каторы так яшчэ нядаўна ўзлажыў на яго рукі з багаславенствам і са словамі: «Прымі Духа Святога!»

Гэтая вестка і дэкану была сумнай навіною.

— Я гэтага яшчэ не ведаў, — казаў ён, — але з дня на дзень спадзяваўся.

— Як то? Дзеля чаго, ксёндз дэкан, спадзяваўся?

— Відзіш, ксёндз, — тут ужо пайшло на ўсё — або так, або гэтак: расейскі ўрад уводзіць агульнае абрусенне і націскае з цэлай сілы, але прытым хоча ўсё рабіць тайна і подступам, а нават па магчымасці мякка. А наш біскуп рэжа «проста з мосту» і не ўступае ні на адзін шаг. Вот у нядзелю вечарам прыйшла да мяне ад біскупа папера. Не ведаю, чаму яна ў Мураванку спазнілася, бо ў другіх дэканатах яе дасталі перад нядзеляй і ўжо прачыталі з амбону па ўсіх парафіях. У гэтай паперы біскуп забараняе пушчаць дзяцей у царкву і пяяць у царкве, а

нават не пазваляе хадзіць у царкоўныя школы, бо там вучаць праваслаўных пацераў і катахізмаў. Біскуп на ўсё гэта востра сварыцца і забараняе пад цяжкімі касцельнымі карамі. Я ўжо адразу зразумеў, што гэта лёгка не скончыцца. Аж бачым, што і праўда. Ды што тут гаварыць! Такая работа заўсёды кончыцца «Уральскімі гарамі». Расейскі ўрад вельмі хітры, і ён сам аб гэтым ведае; але прытым страшэнна дурны і сам яшчэ аб гэтым не ведае. Дык з такім урадам можна жыць: трэба толькі мець розум спераду. Свежая гісторыя нас вучыць — гэта ўжо не першы біскуп туды паехаў.

— А я якраз сягоння паспрачаўся з інспектарам за царкву, — казаў ксёндз Галуза, — і ён адставіў мяне са школы саўсім. Ці ён мае на гэта права?

— Цяпер такія ў нас парадкі, што ўрад не кіруецца правам, але патайнымі цыркулярамі. Калі толькі гэтым скончыцца, дык вельмі добра; бо я спадзяюся, што паедзеш, ксёндз, у кляштар на пакуту. Ужо сабралася на цябе многа матэрыялу. А той рыжы інспектар як заесца, дык не спусціць: ён ужо з'еў у мяне аднаго вікарыя. Трэба быць больш асцярожным; а вы, маладыя, усё роўна як дзеці ці як той малады конь: не глядзіць — камень, гара ці балота — рве з усёй сілы, і або пастронкі трэснуць, або сам трэсне. Ну, а пасля трэба пакутаваць…

— За справядлівасць не страшна і пакута! — сказаў Галуза. Ксёндз Галуза ведаў, што ў такіх абставінах здаровая народная праца немагчыма. Але, маючы душу чэсную і простую, не ўмеў ні хітрыць, ні палітыкаваць: ішоў сваёй простай дарогай і гаварыў аб усім ясна і адкрыта і дамагаўся сваіх правоў. Затое меў многа шчырых прыяцеляў, але яшчэ больш ворагаў.

— Я не магу, — казаў ён дэкану, — таіць сваёй народнасці і сваіх перакананняў; не магу ані патакваць, ані падскакваць другім, асабліва сільным гэтага свету. Такая хітрасць паніжае чалавека, а праўда даражэй за жыццё, бо праўда прыбліжае да Бога, бо сам Бог ёсць Праўдай. Няхай мяне бачаць усе такім,якім я ёсць: ані хавацца, ані стыдацца не буду. Няхай сабе з такога смяюцца, злуюцца ці караюць — гэта мне ўсё роўна. Я стыдаюся толькі сваіх грахоў, але праўды стыдацца не буду. І я ведаю, што толькі такія ідэйныя, просталінейныя і чэсныя людзі дасканальна выпаўнілі свае абавязкі перад Богам і для адраджэння свайго народа. А ўсе крывадушнікі і падлізы надарэмна змарнавалі свае сілы і належную славу.

— З такімі перакананнямі, ксёндз, скора нарвешся!

— Я гэта ведаю. Хоць я і малады, але ўжо і так многа разоў нарываўся; аднак дагэтуль не адступіў ад праўды ні на каліўца, і на прышласць таксама будзе. Помню ў семінарыі такую размову з сваім рэктарам. Ён кажа: «Ты, Тамаш, беларус?» — «Беларус!» — кажу я. «Вот выдумаў навіну! — кажа рэктар. — Нашто табе гэта? Касцёл палітыкі не любіць: касцёл займаецца толькі збаўленнем душ». А я яму кажу: «Гэта большая палітыка, калі каго Бог стварыў беларусам, а ён сам сябе называе палякам». — «Ну, ну, — кажа рэктар, — ты маеш востры язык, але будзь асцярожны! Ты веш сам, жэ і я беларусін, але цож з тэго?» А я яму кажу: «Бывае і так, што палітыка заглушае нават закон натуры і голас крыві». — «Ну, ідзь собе, ідзь!» — адправіў мяне рэктар, але сам пачырванеў аж да вушэй.

— Відзіш, ксёндз, — гаварыў дэкан, — праўда не павінна выключаць растаропнасці: перш трэба сем разоў перадумаць, а тагды гаварыць!

— Але растаропнасць не павінна выключаць адвагі, і прытым растаропнасцю няможна называць звычайнай труслівасці, нізкасці і маладушнасці. А ўласне цяперашняя палітыка часта даходзіць да таго, што людзі нават хітрасць або і подласць называюць растаропнасцю. Такая фальшывая растаропнасць усё роўна пасля памсціцца на чалавеку і на справе, каторую ён вядзе, а што найгоршае — гэта забівае ў нас людскую годнасць: мы становімся абрыдлівымі самі сабе. Поўная раўнавага паміж перакананнем і вонкавай дзейнасцю чалавека — вот ідэал, да каторага мы павінны вытрывала імкнуцца.

— Цікавы з вашэці чалавек, — сказаў дэкан Кішкеліс і вельмі глыбока задумаўся.

## IX. У КЛЯШТАР!

— Ну, адна справа ўжо скончана! — сказаў Заразака, увайшоўшы да дэкана, і агляну ўся на ўсе куты, каб упэўніцца, што нікога тут няма.

— Якая справа? — пытаўся дэкан, прачуваючы нешта нядобрае.

— А вот паглядзіце!

Тут Заразака выняў з запазухі паперу, зложаную ўчацвёра. Дэкан узяў паперу ў рукі, працёр акуляры і, ледзь кінуў вокам, так і спалавеў: там быў прысуд на ксяндза вікарыя, Тамаша Галузу.

— Ці няможна яшчэ абараніць? — пытаў дэкан, апусціўшы рукі на стол.

— Ксёндз Кішкеліс, вы мяне знаеце даўно! — казаў паважна Заразака. — Я тут у Мураванцы сяджу прыставам не на тое, каб рэзаць людзей, але каб бараніць: гэтую задачу я (на сумленне кажу!) спаўняю справядліва, асабліва для сваіх прыяцеляў. Казны і ўрада чорт не возьме, а добрых людзей мне шкада, бо… і яны мне бываюць патрэбны. Ну, адным словам, шкада, і ўсё, што там многа гаварыць!.. А гэтая ваша справа надаела мне горш горкай рэдзькі: цягнецца ўжо дзве нядзелі з гакам. Яе трэба было даўно скончыць, бо — бачыце — тут напісана: «праводзіцца тайна і спешным парадкам», але я дзеля вас, ксёндз дэкан, цягнуў і таргаваўся да бесканечнасці.

Тут дэкан скланіўся і хацеў нешта сказаць, але нічога не сказаў — толькі закашляў і падаў прыставу папяросу. Прыстаў закурыў, кіўнуў дэкану галавой і гаварыў дальш.

— …дык прынамсі варункі кары выйшлі ксяндзу Галузу самыя лёгкія (дай, Божа, кожнаму такую кару!) — тры месяцы кляштару, пяцьдзесят рублёў штрафу і тры гады без права быць пробашчам. А гэны рыжы сабака: інспектар Станюкевіч, дамагаўся цэлых трох гадоў кляштару і дзвесце рублёў штрафу. Ледзь я адбараніў: я даказаў, што ксёндз Галуза яшчэ вельмі малады і ў нічым дагэтуль не быў замешаны, дык і змякчылі кару. Так што пасля трох месяцаў можна нават вярнуцца ў Мураванку, — а ў другіх выпадках гэта наагул не бывае. Вот якая кара! Гэта ўсё роўна, што і нічога. Цяпер другая папера, — цягнуў далей Заразака, — толькі, ксёндз дэкан, помні — гэта ўсё сакрэт! Угавары вікарыя, каб выехаў ціха-гладка, дык будзе лепш і мне, і яму; бо вось я маю другую паперу, каб вывезці яго ў кляштар сілай, з жандарамі. Але я не хачу гэтай тармазні: даю Галузу тры дні на збор, хоць мог бы вывезці яго сягоння ўночы. Вунь са Старога Двара мой сусед, прыстаў Пістулевіч, вывез ксяндза проста з пасцелі, закруціўшы яго ў коўдру, бо той не хацеў адзявацца. Ну, і што з гэтага? Усё роўна — раз ты зарабіў на кляштар, дык і едзь па добрай волі, або як зарабіў на штраф, дык круці — не вярці, але заплаці! Хэ, хэ, хэ!

Тут прыстаў разваліўся ў крэсле, залажыў нагу на нагу, і пачуваўся цалком здаволены з сябе, з свайго лёсу і з сваёй палітыкі, а нават і з ксяндза дэкана, так што, курачы ўжо другую папяросу, тры разы плюнуў на самую сярэдзіну салона — не дзеля патрэбы або хараства, не! Але так — з фантазіі, бо ён ведаў, што дзе можна, а дзе няможна.

— Добра, добра! — казаў дэкан. — Усё будзе зроблена паводле вашай рады — ціха і гладка: я гэта бяру на сябе.

Дэкан ведаў, што каму трэба, быў — як кажуць — добры псіхолаг: зара дастаў з буфета бутэльку добрага, крэпкага каньячку і дзве чаркі: сабе нейкую модную цёмную чарачку, у каторай не было відаць, ці наліў многа, ці мала, а прыставу — вялікую, светлую, каторую зара наліў аж даверху. Стукнулі, выпілі, закусілі сухой каўбасой; паўтарылі — закусілі ізноў. Прытым не рассядаліся, але так — стоячы пры буфеце — выпілі яшчэ, а пасля яшчэ раз і яшчэ; а далей пілі б і больш, але неяк скора паказалася ў бутэльцы дно, дый дэкан новай бутэлькі ўжо не дастаў, а Заразака на гэты раз стыдаўся больш пытацца, дык ціхенька, згробшы шапку, паплёўся дамоў. Дэкан, праводзячы прыстава, яшчэ раз даў яму слова, што ўсё будзе ціха і вікарый выедзе ў кляштар праз тры дні. А Заразака, споўніўшы сваю місію, так глыбока задумаўся, што зайшоў саўсім убок, на другую вуліцу, і апамятаўся толькі тагды, як грукнуў лобам у стоўп лятарні, каторая ўлезла яму на самую дарогу.

Ксёндз Галуза прыняў кару спакойным духам і стаў цішком прыгатаўляцца да выезду.

Але ў Мураванцы парафіяне ўжо праведалі: то адзін-другі прыходзіў пытацца, то дзяўчаты і кабеты горка плакалі па «маладым ксяндзу», то вучні забягалі часцей служыць да імшы… Але ксёндз вікарый быў звязаны сакрэтам і маўчаў, як бы макам пасеяў; або аднекваўся агульнымі словамі, каторыя будзілі яшчэ большае падазрэнне. Нарэшце позным вечарам, перад самым выездам, ксёндз Галуза пастанавіў развітацца са сваімі ўлюбёнцамі і заклікаў іх сакрэтна да сябе.

Сабраліся ўсе нашы знаёмыя: Альбіновіч, Бабінкевіч, Пястрэйка, Ярневіч і Вінцусь Паўловіч. Не бракавала і арганіста Харашухі. Тут ужо тайна развязвалася сама сабой. Усе рэчы ксяндза Галузы былі паскладаны і павязаны: на сярэдзіне пакоя стаяў вялікі плецены белы кош, перавязаны накрыж вяроўкай.

— Ну, хлопцы! — казаў напаўсур’ёзна, напаўсмеючыся ксёндз Галуза. — Будзьце мужчынамі і дзяржыцеся спакойна, інакш зара разганю вас дамоў. Я заўтра выязджаю ў кляштар.

Усе так і здранцвелі. Ужо ведалі, што ксёндз Галуза быў не дапушчаны ў школу, але аб кляштары ніхто акуратна не ведаў. Слёзы сталі ўсім на вачах, а ў некаторых ужо сыпаліся буйным гарохам. Вінцусь пачаў усхліпваць.

— Супакойцеся, мае дзеці! — казаў ксёндз вікарый. — Кара мне выпала нядоўгая — толькі тры месяцы. Гэта трэба нават лічыць вялікім прывілеем: за мяне людзі заступаліся.

— Пэўна, пэўна! — гэта «вялікі прывілей», — казаў, іранічна перадражніваючы ксяндза, пан Харашуха. — Можа, ксёндз, нам прыкажаш падзякаваць прыставу Заразаку, бо ён такі добры, як той разбойнік, каторы, пажалеўшы сірот, зарэзаў толькі бацьку, хоць мог зарэзаць абое бацькоў? Каб яму гэта дабро!..

— Дай, пан, спакой! — казаў ксёндз Галуза. — Заразака — гэта толькі інструмент: ён тут не вінаваты.

— А разбойнік хто? Расейскі ўрад?

Ксёндз не адказаў нічога; хацеў перамяніць размову, але не знайшоў адпаведнай тэмы, дык стаў аглядаць і папраўляць вяроўкі на кашы, хоць там усё было і так у парадку. Усе маўчалі: цяжкая немарасць ляжала ўсім на сэрцы і ціснула за горла.

— А пасля да нас ізноў? — спытаўся Альбіновіч.

— Калі Бог пазволіць, дык вярнуся, — казаў ксёндз.

— А ў школе ў нас так ніякага ксяндза і не будзе? — пытаўся Пястрэйка.

— Тым часам не будзе, — казаў кс. Галуза, — бо цяпер урад пачынае сільны пераслед каталіцтва: вось перад некалькімі днямі жандары вывезлі нашага біскупа аж пад Уральскія горы.

— У нашым класе інспектар нас пацешыў, — казаў Ярневіч.

— Як пацешыў? — спыталіся ўсе.

— А сказаў, што сам будзе вучыць каталіцкага катэхізму.

— Не дай, Божа! — сказаў кс. Галуза. — Гэта было б горш горшага: ужо лепш, каб нікога не было. Чаго ён вас можа навучыць?

— Я недзе чытаў, — казаў Бабінкевіч, — як чорт адзеўся ў арнат, а хвастом званіў на імшу. Дык і тут нешта падобнае.

— Каб інспектар прынамсі вас не збаламуціў? — усумніўся ксёндз Галуза і ўважна паглядзеў на хлапцоў. Але іхныя вочы свяцілі такім гарушчым, жывым агнём, праз каторы прасвечвала іхнае чыстае сэрца, што ксёндз вікарый яшчэ раз паглядзеў на сваіх мальцаў, уцешыўся сардэчна і супакоіўся саўсім…

— Мы свае катэхізмы лепш ведаем ад інспектара: нічога ён нам не зробіць, — казаў Пястрэйка.

— А ў царкву не пойдзеце пяяць? — пытаўся вікарый.

— Пасля таго разу ніхто з нас не пайшоў, — расказвалі хлопцы. — І ніхто больш не пойдзе, апроч тых самых — Піскуна і Лапшы; нават Лапцюкевіч і Цільпёнак перасталі хадзіць, на большую злосць інспектару.

— І дзіўна, што якраз гэты самы Піскун з Лапшой не любяць нашай беларускай мовы, — казаў Альбіновіч, — хоць самі ўсё ж такі яшчэ гавораць па-беларуску.

— Няхай сабе «пішчаць» у царкве, як сабе хочуць! — зажартаваў Бабінкевіч.

— І яшчэ абодва хваляцца, што яны шляхты, — казаў Памяловіч, — а мяне лаюць мужыком і хамам.

— А што цяпер кажа інспектар? — пытаўся Харашуха.

— Інспектар, — казаў Ярневіч, — наваліўся цяпер на беларускую мову, хаця перш як бы яе саўсім і не чуў паміж намі. Якраз вось на апошняй спеўцы нехта ненарокам гукнуў слоўца па-беларуску. Эх, тут інспектар скіпеўся! Хто сказаў? Што сказаў? Ведама, хлопцы не дурні, не выдалі. Ну, і пачаў тагды дражніць, перакрыўляць: «Чаго, каго? куды цябе прэць? Фу ты, какой звериный разговор!» Мы прамаўчалі, бо цяпер іхная сіла, а інспектар вечна пагражае, што выгане са школы ўсіх каталікоў.

— Не бойцеся — не выгане! — казаў пан Харашуха. — Што ж, ён сабак будзе вучыць, як людзей павыганяе?

— А Лапша мне пад сакрэтам радзіў гаварыць па-расейску, — сказаў Вінцусь.

— Ён усім радзіць; але я яму як парадзіў каленам ніжэй паясніцы, што ён мне больш не радзіць, — казаў Бабінкевіч. «Ах ты, — кажу яму, — прыхвоснік інспектарскі, падрызнік папоўскі!»

— Ну а хлапцы падхвацілі і Лапшу так падрызнікам і празываюць, — смяяўся Альбіновіч. — Ён, бедны, злуецца, на сцяну лезе, а яму жыць не даюць — усё «падрызнік і падрызнік»!

Усе сталі смяяцца. Ксёндз Галуза і сам засмяяўся, — толькі пагразіў пальцам Бабінкевічу, але нічога больш не сказаў.

— Інспектар ужо некаторых заклікаў да сябе і ўгашчаў цукеркамі, — казаў Ярневіч. — Я ўжо аб некаторых ведаю. Ужо яны па кутах пачынаюць паміж сабой гаварыць па-расейску, найбольш Піскун і Лапша. А і Цільпёнак крывіць душой: толькі ж іграе на два бакі. Я баюся, што ён ужо паміж вучнямі стаў шпіёніць — у яго такая здрадлівая душа.

Тым часам Вінцусь вельмі застыдаўся, пачырванеў і спусціў вочы, бо якраз і яго заклікаў сягоння к сабе інспектар і гасціў цукеркамі. Яшчэ і цяпер стырчэлі ў яго ў кішэні дзве тыя цукеркі, дык Вінцусь пастанавіў выкінуць іх сакрэтна вон і больш ніколі да інспектара самому не хадзіць; а калі закліча, цукеркаў не браць.

— Ды вы, хлопцы, трымайцеся! — казаў Харашуха.

— Будзем трымацца! — казалі дружна хлопцы.

— Толькі ж вот ксяндзу трэба аднаму за нас усіх цярпець, — сказаў Альбіновіч. — А мы сабе аб нішто не дбаем…

— Невялікая мая пакута! — сказаў ксёндз Галуза. — Бог дасць, скора да вас вярнуся. А цяпер, каб не балтаць так у пустое, раскажу вам на адход адну гісторыю з сваіх дзіцячых гадоў. Ці вы ведаеце, хлопцы, хто быў Мацей Бурачок?

— Ведаем, — паэт беларускі: ён напісаў «Дудку беларускую», — гаварылі хлопцы.

— І «Смык беларускі», — дабавіў, асмеліўшыся, Вінцусь Паўловіч.

— Ага, і «Смык».

— Дык вот, — казаў дальш ксёндз Галуза, — я знаў асабіста гэтага паэта. Ягоная фамілія — Францішак Багушэвіч. Паслухайце. Багушэвіч быў адвакатам і жыў у сваім фальварачку ў Ашмянскім павеце. Мой бацька тагды арандаваў у суседняй вёсцы паўвучастка зямлі. І вот завёўся ў нас суд з суседзямі, трэба было бараніцца ад нейкай напасці. Я ўжо цяпер і не помню, аб што там ішло. Вот мой бацька запрог каня і са мною паехаў да Багушэвіча на раду. А мне было тагды дванаццаць гадоў, і я толькі што быў скончыўшы пачатковую школу ў Старым Двары. Як сягоння помню ўвесь наш разгавор з Багушэвічам: перш ішло дзела дзелам, мой бацька расказваў; Багушэвіч слухаў, нешта запісваў, пытаўся, радзіў і г. д., як заўсёды ў адвакатаў бывае. А пасля Багушэвіч звярнуўся ка мне і пытае: «Ну, а ты, маладзец, хто ты?» А я яму рэзва кажу: «Я Тамаш Галуза, сын Габрыеля Галузы з вёскі Пярхулева». А ён мяне пытае: «А скажы ты, ці ты польскі, ці рускі?» Я падумаў і кажу: «Я тутэйшы!» — А бацька мяне штурхае пад бок і падказвае: «Кажы — польскі!» Але я стаяў на сваім: яшчэ раз падумаў і кажу: «Тутэйшы, але польскай веры!» І думаю сабе тагды: добра я сказаў ці не. Ну, і смяяўся тагды Багушэвіч, смяяўся, але нейкім смехам неабідным! Мы самі з бацькам прачувалі, што тут нешта напуталі і не маглі гэтай путаніцы разблытаць, — дык і мы смяяліся самі з сябе, гледзячы на пана Багушэвіча. А ён абняў мяне і кажа: «Ах ты, малыш, будзеш калісьці бойкім чалавекам: я віджу, што стараешся думаць, а гэта многа значыць. Бацька, помні, вучы хлапца: будзеш мець пацеху з яго!» Тагды Багушэвіч пасадзіў нас на крэслы, угасціў нас і стаў нам тлумачыць аб веры і народнасці: хто мы такія і як трэба любіць зямлю і мову сваю, — адным словам, ён першы пасеяў у маім сэрцы любоў да Бацькаўшчыны. Ад гэтай пары я ўжо ніколі не называў сябе тутэйшым, бо ведаў, што я беларус. Пасля ўжо я сам талкаваў суседзям і аб'ясняў народныя катэхізмы. На адход Багушэвіч расказаў нам з памяці некалькі сваіх вершаў. Мой бацька аж клаўся са смеху, але я смяяўся мала, а больш думаў, бо ўжо быў крышку падвучаны. Тагды Багушэвіч

падараваў нам на памятку сваю кніжачку «Дудка беларуская», а мяне пацалаваў у абедзве шчакі.

— Значыць, ксёндз, дастаў багаславенства ад самога беларускага патрыярха, — сказаў арганіст Харашуха.

— А як ён выглядаў, гэны Бурачок? — пыталіся хлопцы.

— Вельмі мілы чалавек: вот, так сказаць, наша родная натура. І вясёлы быў, як дзіця, жывы, як агонь, смяяўся і жартаваў са мною без ніякай фанабэрыі.

Хлопцы вельмі зацікавіліся гэтай гісторыяй, але трэба было пускаць іх дамоў, бо было позна; аднак прайшлі яшчэ мінуткі часу. Гэтая мінутка працягнулася на добрую гадзіну: яшчэ ксёндз Галуза чытаў усім «Беларускую дудку», тлумачыў значэнне вершаў і басняў; гаварыў аб адносінах расейскай улады да нашага народа і аб патрэбе адраджэння.

— Наш народ праз доўгія гады ляжыць як бы ў гарачцы, — казаў ксёндз Галуза, — а ведама, што дзеецца з чалавекам у гарачцы: ён траціць памяць, не ўладае сам сабой і ляжыць, як гнілое палена. Другія яго даглядаюць, цягаюць і робяць з ім, што хочуць: або жалеюць, або клянуць. У гарачцы хвораму здаюцца розныя страхі або фальшывыя з'явы… Вот здаецца хвораму, што ён кароль: кліча слугаў, карэту; лезе з ложка, каб сесці ў тую карэту і… бух на зямлю! Так і на нас, беларусаў, напаў нейкі страшэнны чад ці чмут: мы страцілі памяць і розум, і вот нам здаецца, што мы нейкія другія — палякі ці маскалі. Як той дурны казаў: «Я — не я і хата не мая!» Мы з гэтага дуру забыліся, што мы былі калісьці вялікім, магутным і разумным народам; а наша простая беларуская мова не толькі была мовай мужыцкай, але панавала на княжэўскіх дварах у Наваградку, Менску, Крэве, Віцебску і Полацку, а нават і на каралеўскім дварэ ў Вільні. Тым часам цяпер кожны смаркаты пісака крывіць душу на маскоўскі фасон, а мы перад ім топчамся, стыдаемся роднай мовы і баімся кожнага смердзюха, што здалёку да нас прыехаў. Мы ахвотна хватаемся за чужое, бо гэта нам здаецца лепшае і моднае. Чужыя людзі ў вочы нас, як малых дзяцей, зводзяць; а за вочы з нас, як з дурных, смяюцца. Вот да чаго мы дажыліся! І нашто нам такая камедыя? Мы можам ужо вылезці з чужых пялёнак і стаць на свае собскія ногі, загаварыць сваім уласным голасам, пазнаць самі сябе і пастаяць за сваё. Мы павінны нарэшце ачуняць з гэтай доўгай хваробы і чмуту і адчыніць вочы на Божы свет.

— Але вот нас ворагі мучаць, смяюцца і не прызнаюць нас, — казаў арганіст. — Вот, ксёндз, ідзеш у кляштар, а ўся наша работа і надзея разбіваецца, як лодка падчас буры. Ад-

ным словам, у нас не куецца, а плешчацца. Я сам стары, а мае гэтыя прыяцелі — маладыя. Бог іх ведае, што з іх будзе? Такі прымерна Альбіновіч, як вырасце і навучыцца, дык зара стане чурацца роднай мовы, ды і другія таксама.

— Хіба я здурнею дарэшты! — казаў Альбіновіч.

— Цяпер і здурнець не штука, — цвярдзіў сваё пан Харашуха. — У нашэй старане так уласне бывае: навучыш хлапца на клерыка — дык ужо ён стыдаецца роднай мовы; стане ксяндзом — ужо яе не любіць і высмейвае; а як стане пробашчам — дык ужо лае і ненавідзіць беларусаў з цэлага сэрца. А, здаецца, стан ксяндзоўскі — гэта стан святасці і справядлівасці. Дзе ж тут тая справядлівасць, калі і розум губляецца? Што ж тут гаварыць, калі няма чаго казаць?.. — Харашуха махнуў рукой і адвярнуўся ў кут.

— Нічога! — казаў ксёндз Галуза. — Датуль апекуны будуць дзіця дзяржаць у калысцы, пакуль само не вылезе. Але як прыйдзе пара, дык і апекуны адступяць. І нам ужо прыйшла пара: станем на свае ногі, запяём сваю родную песню і пойдзем, і пабяжым, як быстры алень, і пераможам сваю і чужую немарасць. Наша сонца пачынае ўсходзіць! Дружна наперад!

Хлопцы разышліся ў пад'ёме духу. Было позна. З ксяндзом не развіталіся, бо ён меўся выязджаць заўтра. Але назаўтра даведаліся, што вікарыя ўжо няма: ён яшчэ ўночы ціхенька выехаў з Мураванкі… у кляштар.

## X. ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

Калі пасля выезду ксяндза Галузы вучні ўсё роўна адказаліся ісці ў царкву, інспектар вельмі дзівіўся, гневаўся і не ведаў, што далей рабіць. Даўно пагражаў, што ўпорыстых прагоніць са школы; але вучні ведалі, што ён гэтага не зробіць, бо тых «упорствующих» было блізка столькі, колькі было каталікоў, г. зн. каля 90 працэнтаў. Тагды Станюкевіч пачаў шукаць кіраўнікоў бунту — галоўных, як казаў, «паўстанцаў», — але доўга не мог знайсці. Нарэшце ўсё скрупілася на Ярневічу і Альбіновічу, на каторых паказаў Піскун. На бяду гэта былі самыя здольныя вучні: Ярневіч быў першым вучнем у шостым аддзяленні, а Альбіновіч — другім вучнем у трэцім аддзяленні. На засяданні педагагічнай рады Мазныця ўпёрся і даказваў, што такога вучня, як Ярневіч, выганяць не можа, бо: па-першае, апошні клас быў вельмі малы і на экзамене такі вучань быў надта патрэбны, бо

мог паслужыць для славы цэлай школы; па-другое, шкада было марнаваць такога здольнага хлопца з пасьледняга году; па-трэцяе, усё роўна гэта не паможа: раз вучні ўпёрліся, дык не варта іх ламаць — царква абыдзецца без іх, а прымусовае набажэнства не мае вартасці.

Але Сліва быў другой думкі.

— Уласне, трэба зламаць гэты бунт! — казаў ён запальчыва. — Інакш пасля вучні набяруць фанабэрыі і ўзлезуць нам на галаву. І мне саўсім не шкада такога Ярневіча: як скончыць нашу школу, дык напэўна палезе ў вышэйшыя навукі і будзе Расея мець адным ворагам больш. З благога насення не вырасце добрае дрэва.

— Дык тагды найлепш будзе пазачыняць тут усе школы, — казаў Мазныця, — бо ўсе беларусы могуць быць ворагамі Расеі, а жыды яшчэ скарэй! Таксама і палякі, і літоўцы… Ваша палітыка даводзіць да абсурду і дальш ужо не ідзе.

— Знаеце, — перабіў іхную спрэчку Петухоў, — знаеце, не трэба закрываць школы, бо шкада вучняў і шкада ўжо і нашай працы. Столькі тут ужо сабралі мы рэдкіх экзэмпляраў каменьня, раслінаў, жывёлінкі паўзучай і рознай іншай драбязы, што сапраўды шкада ўсё гэта марнаваць. Гэтак пакрысе збіраючы, мы зробім пачатак для будучага прыроднага беларускага музея. А наша школа…

— Нашто вам гэта назова? — зморшчыўся інспектар. — Мы тут ніякай Беларусі не прызнаём. Вы, можа, і вучням гаворыце аб Беларусі? Будзьце з гэтым асцярожны!

Але Петухоў на пункце сваёй спецыяльнасці быў чалавекам незалежным і супраціву не пераносіў, асабліва калі хто падыходзіў да рэчы не з навукай, а з палітыкай ці з іншым такім ліхам.

— Гаспадзін інспектар! — загаманіў Петухоў. — У нашым універсітэце (ён тут адзін быў з універсітэта) прафесары нам тлумачылі, што Беларусь мае сваю асобную флору і фаўну, дык прашу мне палітыкі ў прыроду не ўводзіць. Навука палітыкай не займаецца. А такой багатай флоры, як у Беларусі, трудна дзе знайсці, асабліва ў травах для лякарстваў: гэта бяздонны скарб для медыцыны. Але што я вам гавару? Вас інтарэсуе толькі палітыка. Знаеце? знайте? знать?.. Аднак і гэтых двух вучняў (як яны называюцца?) выдаляць са школы няможна, бо таксама шкада — здольныя абодва хлапцы. А як… знаеце?.. трудна злавіць арыгінальнага матылька, так трудна папасці на здольнага вучня.

Петухоў быў так узбураны на інспектара і Сліву, што пасля педагагічнай рады з імі не развітаўся. Ён вельмі не любіў школьнай фушэркі і палітыкі.

— Мы тут сядзім не для палітыкі, — гаварыў ён Мазныці, — а дзеля навукі, і то навукі чыстай, незалежнай. Для мяне прырода гэта святыня! Я так прывязаўся да Беларусі, што хацеў бы тут працаваць да смерці. Гэта страшэнна запушчаны край. Нашы вучоныя едуць у далёкія заморскія краі: там выследжваюць асаблівыя з’явы прыроды і пішуць кніжкі, а тут не бачаць, якое багацце пад носам! Гэта ўсё вар’яцкая палітыка! Нам адзін батанік тлумачыў ва ўніверсітэце, што беларусы маглі б прадаваць свае зёлачкі, кветкі, карэньчыкі і травы цэламу свету, каб ведалі, як іх збіраць, сушыць і ацэньваць. А так толькі немцы купляюць гэта за нішто, а пасля перапрадаюць за дарагія грошы. А якое тут багацце дробнай фаўны!..

Тым часам інспектар ламаў галаву, што рабіць з каталікамі. Доўга хадзіў ён па пакоі і скуб рыжую бараду.

«Не можа быць, — казаў ён сам сабе, — каб такія малыя дзеці мне не паддаліся?! Ужо трыццаць гадоў я працую ў школе, з гэтых пятнаццаць гадоў інспектарам, і ніколі такога здарэння са мной не бывала! Н-да! Усё гэта нарабіў гэны Галуза. І яшчэ цвярдзіў, што ён не паляк. Усе ксяндзы палякі, а ён быў бы не паляк? Ды мала таго, што паляк — ён езуіт! Яшчэ хацеў мне замыліць вочы сваёй Беларуссю. Ягоная Беларусь — гэта новая штучка польская і езуіцкая, бо першая рэч — няма нідзе на свеце ніякіх беларусаў, а другая рэч — калі дзе якія і былі б, дык іх саўсім не патрэба. Не должно быть! І квіта. Што за такія новыя выдумкі?! Ужо Расея мае досыць бяды з палякамі, украінцамі, ліцвінамі, фінамі — ды яшчэ завядуцца беларусы! Ну іх там! — не надо! Я не дапушчу. Але вось яшчэ маю бяду з гэтым безгаловым Петуховым: ён можа быць горшым беларусаманам ад таго Галузы. Вот да чаго даводзіць высокая навука! Лепш быць разумным чалавекам, як высокім вучоным. І гэты хахол Мазныця мне не падабаецца. Адзін Сліва ідзе па маёй лініі, але што ж, калі ён дурны… А наш благачынны толькі сядзіць ды сапе — слова не скажа».

Доўга так хадзіў інспектар, думаў і перадумваў: перапраўляў старыя праекты, строіў новыя. Нарэшце пастанавіў перамяніць тактыку і гаварыць з хлапцамі паасобку: перш добра пастрашыць іх саміх, а пасля паклікаць бацькоў і тым таксама прыгразіць, а тагды дзела пойдзе лягчэй. Для страху трэба будзе хоць пару вучняў выгнаць са школы.

Вот назаўтра, пасля гэтых вячорных праектаў, інспектар сабраў вучняў і аб’явіў ім, што: па-першае, школа зачыняецца на тры дні; па-другое, вучні могуць ехаць дамоў; па-трэцяе, перш кожны вучань павінен з ім — інспектарам — разгаварыцца; па-чацвёртае, пасля трох дзён вучні павінны ізноў сабрацца ў школу, але разам з бацькамі, бо ён — інспектар — мае да бацькоў важнае дзела.

Пасля полудня інспектар пачаў перагаворы з каталікамі, пачынаючы ад старэйшых. Тут браў на допыт не толькі спевакоў, але наагул каталікоў усіх: ад усіх браў падпіску, што будуць акуратна хадзіць у царкву, калі будзе патрэба. Вучні запішчэлі. Лапцюкевіч і Цільпёнак згадзіліся адразу, Піскуна і Лапшу інспектар для формы таксама заклікаў падпісацца, хоць ім верыў і без таго. Але з другімі хлапцамі было трудней. Аднак, добра пастрашыўшы, інспектар знайшоў яшчэ паўтузіна падатлівых. Затое іншыя адказаліся цалком. Найгорш дзела пайшло са спевакамі: апроч тых, пары слабавольных, ніхто не запісаўся. Апошнюю расправу на ўпартых інспектар адлажыў да спаткання з бацькамі.

З адным толькі Ярневічам інспектар спрачаўся чуць не цэлую гадзіну. Прабаваў нават паставіць усё рабром.

— Альбо будзеш, — казаў інспектар, — пяяць у царкве, або пойдзеш са школы: выбірай адно з двух!

— Добра, пайду са школы, — казаў спакойна Ярневіч, — але цэлае жыццё буду помніць, што мяне несправядліва выгналі толькі за тое, што я каталік.

Інспектар пастанавіў праканаць хлапца, бо лічыў яго за правадыра ў школе.

— Ды ты разваж добра, — казаў ён ласкава, — што ты праз гэта страціш? Ты зара скончыш школу і дастанеш атэстат, а як будзеш упірацца, дык астанешся недавучкай — праз свае дзіцячыя капрызы. Падумай, хлопча! Тут расстрыгаецца твая доля на ўсё тваё жыццё: не губі сам сябе! Гэта вельмі глупа.

— Я ўжо добра надумаўся, і гэта маё апошняе слова.

— Да, это политика ксендза Галузы. Ступай! — сказаў цвёрда інспектар. — За тры дні прыходзь з бацькам.

Падобная расправа адбылася з Альбіновічам, Пястрэйкам, Бабінкевічам і з другімі.

Цікавы таксама быў разгавор інспектара з нашым Вінцусём.

— Ці ты хочаш вучыцца? — спытаўся інспектар. Ён ведаў, што гэта самая далікатная струнка ў Вінцуся.

— Хачу! — казаў Вінцусь і адразу дагадаўся, да чаго інспектар мерыць.

— Калі ты хочаш вучыцца, дык помні, што ў школе трэба заўсёды слухаць інспектара, бо інакш будзеш выгнаны са школы. А я табе прыказваю хадзіць у царкву пяяць. Пойдзеш?

Вінцусь маўчаў.

— Чаму не гаворыш — пойдзеш ці не? — пытаў грозна інспектар.

Вінцусь маўчаў і пачынаў плакаць.

— Ступай, дурак! Приходи с матерью.

«Які цвёрды малыш! — думаў інспектар. — І што з такога можа вырасці? Пэўне будзе калісьці такі заўзяты ксёндз-езуіт, як Галуза. І нашто мы мучымся — вучым гэтых будучых сваіх ворагаў? А Петухоў лапоча: «навука, навука!» Ён кажа: «Расея чыстай навукі не баіцца: баіцца толькі глупай палітыкі». А ўласне мы павінны выгадаваць паслушных грамадзян для Вялікай Расеі; для школы не важна навука, але толькі важна гэта расейскае ўзгадаванне. Інакш мы іх навучым на сваю галаву. Але як тут выгадуеш такіх скатоў?! Гаворыш ім, талкуеш, а яны ўсё роўна Расеі не любяць…»

Тым часам Вінцусь назаўтра сабраўся з духам і з манаткамі і пайшоў пехатою ў Завалаку.

Быў канец месяца лістапада. Позная восень у гэтым годзе вельмі зацягнулася; яшчэ не было ні снегу, ні марозу: стаяла нягодная пагода — сцюдзёны вільготны вецер, нізка паўзучыя хмары, імглісты туман і дождж наводзілі нуду на душу, а прастуду на цела. Аднак апошнія дні лістапада былі лепшыя: хмары падняліся вышэй, дождж перастаў, а нават стала паказвацца сонца — нейкае беднае сонца — без належнага цяпла і свету, але ўсё ж такі крышку весялей зрабілася на свеце.

Вінцусь ішоў пехатою. Бакамі дарогі былі пратоптаны сцежкі; там было сушэй. А самы гасцінец быў так растаптаны і размешаны, што бедныя конікі ледзь-не-ледзь выцягвалі ногі з раскіслага балота. Вінцусь нагнаў і мінуў некалькі фурманак; нарэшце зраўняўся са знаёмым балаголам, Лейбам Рудкесам, каторы пастаянна мясіў балота паміж Мураванкай і Завалакай. У Мураванку ён вазіў цялят, яйкі, масла, воўну, цыбулю і прыгодных пасажыраў, а назад вазіў крамныя тавары і таксама пасажыраў. Лейба зарабляў надта мала, але затое заўсёды быў у дарозе, а з гэтых грошай і капеек карміў жонку і сямёра дзяцей. Цяпер Лейба вёз у Завалаку бочку селядцоў, два пуды мыла, некалькі скрынак цвікоў і іншых дробных тавараў; апроч таго сядзела ў яго пад будаю пяцёра барадатых жыдоў, каторыя галасна і шыбка гаргаталі аб сваіх гандлёвых інтарэсах. І наагул

Лейба вазіў усіх пасажыраў, якія пападаліся, і за ўсякую цану, якую ўдалося вытаргаваць; хоць нібы такса была адвечная з Мураванкі ў Завалаку дваццаць капеек, але хто там глядзеў той таксы! Лейба ўсіх пхаў у буду, хто толькі падлез пад руку, а з цаной неяк пасля сыходзіліся. Тавары Лейба таксама вазіў усялякія, толькі не любіў вазіць керасіны і жалеза.

— Няхай яе халера возьме, гэтую керасіну! Як я быў малады, — расказваў Лейба, — дык я вазіў і керасіну, але адзін раз як загарэлася гэтая керасіна ад папяросы (а хвароба яе ведае, як яна там загарэлася!), дык згарэў мне цэлы воз з таварам, і чуць не згарэў конь і ўсе мае пасажыры. Уй, які быў страх і крык! Мне самому цэлая барада згарэла. А керасіны была толькі невялікая банка. Уй, а каб была цэлая бочка, што было б тады? З той пары я больш керасіны не важу. А жалеза не важу таксама, бо яно вельмі цяжкое. Заработак малы, а цэлую дарогу жалеза бразджыць і вушы адбівае. Уй!

Жыццё Лейбы было надта цяжкое: ён заўсёды думаў і перадумваў, як зарабіць на кусок хлеба; з гэтых думак ён без пары пасівеў і палысеў. Не маючы ў дарозе з кім падзяліцца думкай (бо Лейба рэдка сядаў на воза, заўсёды ішоў пехатою бакавой сцяжынкай), ён прывык гаварыць сам з сабою: і не толькі гаварыў так сабе — без патрэбы і выніку, — не, ён з сабой радзіўся, ставіў сабе пытанні і адказваў, нават смяяўся, злаваўся, стыдзіў сябе або спрачаўся з сабою.

Вось і цяпер Лейба ішоў бокам гасцінца і ад пары да пары цмокаў на каня і шлёгаў на страх каню пугай па паветры. Але конь не звяртаў увагі на гэтую пугу, бо — раз што Лейба быў далёка, дык не было чаго баяцца, а другое — што конь ужо да гэтай пугі прывык. Калісьці, як быў малады, дык тагды крыху баяўся, і кожны раз, як Лейба шлёгаў пугай, дык конь ухмыляўся і шлёгаў хвастом, але гэта было даўно… Гадоў?.. Не, не скажу, колькі гадоў! Бо вы не захочаце, можа, яго ў Лейбы купіць, а Лейба ўжо гадоў пяць кажа: «Майму лысаму, можа, дванаццаць гадоў будзе, а можа, і не будзе?»

Адзеты быў Лейба ў доўгі, аблатаны і зноў парваны балахон, колеру таго самага балота, што было на гасцінцы. І наагул сказаць, Лейба так быў звыкшыся і зросшыся з гэтым балоцістым гасцінцам, як той прыдарожны камень, з каторага вецер, дождж і балота знялі ягоную каменную натуру і налажылі сваю, так што ён стаў балотнай грудай. Абмазаны шэрым балотам — ад шапкі, барады і халата — да сваіх доўгіх паморшчаных ботаў, — Лейба мог справядліва называцца балотным царом. Адна пала халата

была заткнёна за пояс, дык спадыспаду выглядалі абшмальцаваныя балотам порткі і баўталіся касмылькі ад цыцэла. На твары Лейба быў наскрозь абраслы валасамі, пэйсамі, вусамі і барадой: з жывога цела толькі стырчэў з-паміж валасоў нос, але і той быў папэцканы балотам; а з-пад махнатай шапкі і з-пад густых броваў ледзь-ледзь прасвечвалі цёмныя вочы, каторыя, аднак жа, выпаўнялі свой абавязак без прыганы.

Гэты раз Лейба быў вельмі нездаволены сам з сябе і лаяў сябе цэлую дарогу. Да яго на воз усцерабіўся ў Мураванцы завалацкі каваль Ірша і ўсцягнуў з сабой купленае новае кавадла і два цяжкія молаты, а ў дарозе сказаў Лейбе, што больш не заплаціць, як залатоўку (15 капеек).

— Уй, мішугін ён! — казаў Лейба. — Адно кавадла будзе два пуды, а молаты — яшчэ пуд: разам тры пуды — гэта цэлы новы чалавек! Але і я мішугін! Нашто я яго браў? Трэба было з яго ўзяць два злоты, а ён дае адзін злоты; ды яшчэ збунтаваў мне другіх пасажыраў, і яны даюць толькі па злоты. Уй, а клоген а дайнэ копф! Я пайду — выганю яго з воза: няхай лезе сам у балота. Аўф майнэ мунэс — выганю!

Тут Лейба адвярнуўся, каб пачакаць на сваю фурманку, каторая адстала ад яго на дзясятак сажняў, аж якраз увідзеў Вінцуся.

— А, Якубёнак! — загаманіў Лейба, забыўшыся аб сваёй спрэчцы з Іршам. — Як маешся? Куды ідзеш? У Завалаку? Чаму ты не ехаў са мной? Ну, я яшчэ магу цябе ўзяць: месца будзе; заплаціш залатоўку, або — ты малы — дык і грыўні досыць будзе, і будзеш ехаць, як пан. Як не маеш, я пачакаю — пасля матка аддасць: яна справядлівая кабета — ніколі нікому нічога не скруціла. Ну, сядай! Тпррру-у!

— Дзякуй! — казаў Вінцусь. — Я не паеду: мне няма часу; трэба спяшацца ў Завалаку.

— Ну, і чаго ты такой парой ідзеш дамоў? Цяпер якраз трэба вучыцца і няма ніякага свята, а ты ідзеш дамоў? Што гэта такое?

Вінцусь агульна расказаў Лейбе аб усім.

— Ну, што, — казаў Лейба, — трэба было ісці ў царкву. Вялікая бяда! Усё роўна вера — такая ці гэткая… абы толькі ты быў добры чалавек. Ну, што — няпраўду я кажу, гэрст?

— Калі вера ўсё роўна, — сказаў Вінцусь, — дык чаму, Лейба, не ахрысцішся і чаму сам не ідзеш у нядзелю ў царкву або ў касцёл, а ходзіш у сваю сінагогу?.. А вот наша каталіцкая вера самая найлепшая з цэлага свету!

— Ну, калі ты так кажаш, дык ты, мусіць, будзеш ксяндзом, — казаў Лейба і ўважна з-пад шапкі паглядзеў на Вінцуся. — А па-

мойму, — казаў ён, падумаўшы, — для жыдоў самая найлепшая жыдоўская вера, для рускіх — руская, а для польскіх — польская. Ну, і так няхай кожны трымаецца: нашто пераменяць? Адны ідуць у касцёл, другія ў царкву, а мы ў сваю сінагогу. Гэрст?

— А куды мы пойдзем, — пытаўся Вінцусь, — калі мы не палякі, а беларусы?

— Уй, што ты гаворыш? Беларусы?.. А якая ваша вера?

— Каталіцкая!

— Ну, ну!.. — казаў Лейба. — Я ўжо пастарэў, а ад цябе малога пачуў нешта новае. Як гэта можа быць?..

— Гэта нічога, што я малы, але я вучуся, — сказаў Вінцусь, кіўнуў Лейбе галавой і паспяшыў у дарогу.

А Лейба рэшту думак дагаворваў сам сабе і вельмі дзіваваўся.

— Калі вы беларусы, дык у вас павінна быць вера беларуская… А тут неяк выходзіць не так… Кожны люд мае свая вера: рускі — руская, а жыды — жыдоўская, а беларусы?.. Ну, ну! Уй, які цяпер хітры народ на свеце! Затое цяпер трудна зарабіць беднаму чалавеку: кожны мішугін — Ірша — цябе ашукае. І ўжо цяпер стары чалавек менш умее ад малога дзіцяці. Мусіць, мне прыйдзецца ўжо скора паміраць: а я ўжо стары… мне больш як шэсцьдзесят… Уй, уй, уй!

Лейба крэпка ўздыхнуў і так задумаўся, што доўга ішоў сцежкай, апусціўшы галаву, і гаварыў з сабою; ужо цяпер не сварыўся, але жалеў сам сябе і чуць не заплакаў, — аж раптам уздрыгнуў, пачуўшы здалёку сваё імя. Гэта крычаў «мішугін» Ірша, высунуўшы з буды галаву. Аказалася, што Лейба, задумаўшыся, далёка апераздзіў свайго каня, а конь, не чуючы гаспадара, як заграз у глыбейшым балоце, дык не хацеў выцягваць фурманкі. Тут усе думкі Лейбы з містычных сталі практычнымі: ён з крыкам і з пугай кінуўся не на каня, а на таго самага Іршу і пачаў выганяць яго з буды, і хацеў выкінуць ягонае жалеза ў балота. Але і ў Іршы язык не быў прывязаны, дык падняўся такі гармідар, што аж рэха ішло па балоце. Другія пасажыры трымалі старану то Лейбы, то Іршы, але нарэшце, скрычаўшыся да поту, сталі пакрысе скланяцца на Лейбаву старану, і бедны Ірша, астаўшыся адзін, нарэшце здаўся і абяцаў Лейбе заплаціць дваццаць капеек. А конь, апусціўшы сваю лысую галаву, думаў сваю конскую думку і цяжка ўздыхаў, бо яшчэ аставалася палавіна дарогі.

Тым часам Вінцусь пайшоў рэзва наперад і каля поўдня быў ужо ў Завалацы.

## XI. БЛЫТАНІНА

Гануля Якубіха вельмі ўстрывожылася той весткай, якую Вінцусь прынёс з Мураванкі. Ёй самой было ясна, што пушчаць хлапца на спевы ў царкву было немагчыма, але і забіраць хлапца са школы таксама было немагчыма. Праз гэтыя тры месяцы Вінцусь значна перамяніўся: нават простым вокам можна было заўважыць, што хлапец развіваецца, часу не траціць і вучыцца талкова. А сам Вінцусь не дапускаў нават такой думкі, каб пакінуць школу, каторая каштавала яму столькі трудоў і слёз. Дык што рабіць?

Гануля найперш пайшла на раду да свайго пробашча, ксяндза Марціноўскага. Кс. Марціноўскі ясна і станоўка растлумачыў Ганулі:

— Забірай сына са школы, бо, відаць, што інакш ад царквы яго не адбароніш! Мы ўсе павінны пратэставаць хоць гэтак проціў таго гвалту, які маскалі зрабілі над нашым біскупам.

— Шкада пакідаць школу, — бедавала Гануля. — Хлапец так ахвотна пачаў вучыцца. І так трудна мне было яго там устроіць…

— Тагды помні, — прыгразіў ксёндз Марціноўскі, — калі я даведаюся, што твой сын хоць раз пайшоў у царкву, дык я адразу выкіну цябе з тэрціярства і не прыму да споведзі. Тут няма жарту: выбірай або адно, або другое.

Ужо ад таго няшчаснага сілабізу Гануля страціла ласку ў ксяндза Марціноўскага. А пасля блізкая знаёмасць Ганулі з ксяндзом Галузам і арганістам Харашухам давяла да таго, што Марціноўскі западозрыў Ганулю ў беларускай агітацыі; адабраў ад Ганулі старшынства ў тэрціярстве і забараніў вучыць дзяцей. Вучыла дзяцей адна Марыля Пятровічыха, а Гануля была ў яе толькі памочніцай. Аднак Гануля Якубіха ўмела ўсё ціха сцярпець і не скаржылася анікому.

Горка заплакала Гануля на ксяндзовую пагрозу. З суседзямі не хацела радзіцца саўсім, бо ўсе ў адзін голас казалі:

— Забірай, баба, сына са школы!

Прытым дзядзька Матусевіч цвярдзіў сваё:

— Я ж так і казаў, што нічога з гэтага не будзе! Надарма ты, баба, упіралася і толькі намарнавала многа грошай і трудоў. Трэба часамі і старой галавы паслухаць.

Толькі адзін Каятан Юрэвіч казаў:

— Справа вельмі заблытана, але ты, Гануля, успакойся — не гарачыся! Ідзі ў Мураванку, там паглядзі, што людзі робяць з сваімі дзецьмі, але сына забіраць са школы не спяшайся. З гэтым

заўсёды можна паспець: лягчэй хату разваліць, як паставіць. Можа, тым часам справа выясніцца ці што пераменіцца.

Калі, пасля трох дзён, Ануля прыйшла з сынам да інспектара, дык вельмі здзівілася, што інспектар пачаў гаварыць досыць ласкава: стаў пытацца аб Завалацы, аб дарозе, здароўі і г. д. А пасля ўжо стаў Ганулі радзіць, каб пазволіла сыну ходзіць у царкву. Ануля згоды на царкву не давала. Тагды інспектар пачаў яе патрошку пужаць, але яшчэ асцярожна.

— Відзіце, — казаў ён, — у школе трэба старшых слухаць: інспектар лепш ад вас ведае, што можна, а што няможна. Калі я прыказваю ісці да царквы, значыць — трэба ісці. А як каторы вучань не будзе вучыцялёў слухаць, дык такі павінен школу пакінуць. Інакш не будзе ніякага парадку. Падумай жа ты, баба, сама!

— Вінцусь павінен вас слухаць, — казала Ануля, — я гэта ведаю сама і хлопцу прыказала, але ў вашу царкву яму хадзіць няможна, бо ён каталік.

— Гэта нічога, што каталік: мы пазваляем хадзіць і пяяць у царкве і каталікам, бо хочам згоды з каталікамі. Нашто нам сварыцца? Сварка да дабра не вядзе. Калі па згодзе, дык я магу з сваім царкоўным хорам пайсці ў ваш касцёл і там адпяяць царкоўную службу: і нікому нічога за гэта не станецца.

— Але нашы ксяндзы не пазваляюць хадзіць у царкву, — сказала Ануля.

— Як то не пазваляюць? — здзівіўся інспектар. — І ксяндзы на гэта нічога не скажуць; ты, баба, толькі напрасна выдумліваеш на ксяндзоў.

— Саўсім не выдумліваю, але праўду кажу, — гаварыла Ануля. — Ксяндзы і да споведзі за гэта не прымаюць, калі хто дзяцей пускае пяяць у царкве.

— Ты і гэта выдумала або не добра зразумела, — казаў інспектар. — Я ж тут добра знаёмы з дэканам Кішкелісам: ён бы мне сказаў аб гэтым, а ён — нічога. Дык скажы ты ясна, калі ж ты чула: дзе, хто і як аб гэтым гаварыў? Чаму ж я аб гэтым не чуў?

— А вот наш ксёндз у Завалацы — таксама…

Тут Ануля прыкусіла язык: нешта ёкнула ёй пад сэрцам. Але інспектару было ўжо досыць і гэтых абарваных слоў.

— Ага! Вот і добра, — загаманіў ён. — Господин Слива, вы слышали?

— Да, да! Я всё слышал! — пацвердзіў ахвотна Сліва, каторы тут жа сядзеў у канцылярыі, каб быць інспектару пад рукой.

— Так пишите протокол: секретаря нет — пишите вы сами, что сказала эта женщина. Как твоя фамилия?

Ганулятак і спалавела адразу, што прагаварылася, пробавала адказацца ад сваіх слоў, але інспектар не хацеў з ёй больш гаварыць, толькі пільнаваў пратаколу. Тым часам Сліва майстраваў пратакол: пытаўся інспектара, папраўляў, чыркаў, перапісваў і, не прачытаўшы Ганулі, даваў ёй падпісаць.

— Я не граматная, — сказала Ганулі.

— Поставишь три крестика, — казаў Сліва.

— Не буду ставіць! — сказала Ганулі.

— Так и не нужно! — сказаў інспектар. — Мы сами подпишем. Я — должностное лицо: моя подпись считается за двоих свидетелей. А ты, баба, зачем стоишь? Тебя здесь больше не нужно: ты уже всё сказала.

Гануля з гэтым і пайшла. Яна ведала, чым гэта можа ксяндзу грозіць. Біскупа вывезлі пад Уральскія горы, ксяндза Галузу ў кляштар, а што зробяць з ксяндзом Марціноўскім? Сэрца Гануліна білася неспакойна — прачувала вялікае няшчасце.

«Што я зрабіла? — думала Гануля. — І нашто было мяшаць ксяндзоў?»

Гануля не смела глянуць людзям у вочы. І не ведала, ці лепш прызнацца знаёмым з сваёй няўдачы, ці замаўчаць і аддацца на Божую волю. Але і перад Богам Гануля не лічыла сябе нявіннай і не магла сабраць душы ў малітве: забывалася, аб чым малілася; ейныя пацеры растрасаліся, як бы сечка ці мякіна. Прапаў сон і супакой душы.

Вярнуўшыся ў Завалаку, Гануля спачатку нікому аб гэтым няшчасці не гаварыла. Але Марыля Пятровічыха скора дагадалася, што Гануля нешта ад яе таіць, і не давала ёй супакою сваімі пытаннямі і дагадкамі. Нарэшце Гануля пад вялікім сакрэтам сазналася сястры і расказала аб сваёй няшчаснай памылцы. Тут Марыля зразу ўзялася радзіць.

— Трэба прызнацца ксяндзу Марціноўскаму, — казала яна.

— А што ж гэта паможа? — казала Гануля. — Усё роўна, калі што будзе, дык і так будзе.

— Ты мне не гавары, — перабіла Марыля, — бо я тут лепш ад цябе ведаю. Ксёндз Марціноўскі, як зразу даведаецца, можа паехаць да дэкана, а дэкан — разумны чалавек: могуць усю справу направіць, пакуль яшчэ не позна. А інакш урад можа нашага пробашча вывезці ў Расею, як вывезлі біскупа, а ты цэлае жыццё будзеш гэта мець на сумленні.

Гануля гэта сазнавала, але вельмі стыдалася і баялася ісці да ксяндза прызнавацца.

— Не магу, — казала яна, — проста ногі не ідуць: я ўжо праз гэтыя дні так згрызлася, што не магу ні маліцца, ні спаць, ні на-

ват думаць. Ледзь задрамлю — нейкая жудасць падымае валасы на галаве, дрыжыць усё цела і губы ляпаюць, як у трасцы. Як я ксяндзу скажу? Я хіба ўмру са стыду?

— Ну, дык я сама пайду і скажу: інакш і я буду мець твой грэх на сумленні.

Марыля зара стала збірацца да ксяндза, але з вялікага паспеху адзела навыварат каптан, а левы чаравік стала нацягваць на правую нагу. Ідучы вуліцай, Марыля ў мыслях укладала план размовы з духоўнай асобай; аднак перад самай плябаніяй перадумала і, замест да ксяндза, завярнула да ксяндзовай гаспадыні. Гаспадыня ўважна выслухала Марыліна апавяданне і на канцы ёй сказала:

— Што ж, значыць ужо наш пробашч прапаў? Ведама, што прапаў! А, здаецца, Гануля — такая набожная. Але недарма я тэрціярак не люблю. Вот Гануля і тэрціярка, а зрабіла данос.

Якраз на гэты момант сам пробашч увайшоў у кухню. Тут гаспадыня ўдарыла ў такі плач, што аж пробашч спужаўся, тым больш, што і Марыля з таго ўзрушэння стала ўсхліпваць.

— Што тут сталася? — пытаўся ксёндз.

— Прабошчу, цо бэндзе, цо бэндзе! — лямантавала гаспадыня.

— Цо то вы — у д'ябла — плачэце, а я не вем, чэго?! — крыкнуў ксёндз.

Але гаспадыня доўга яшчэ плакала, галасіла і смаркалася, пакуль прыйшла да супакою і праз слёзы расказала ксяндзу аб усім няшчасці.

— Ці ж я магла спадзявацца, што такая пабожная кабета зробіць данос на свайго пробашча? — закончыла сваё апавяданне гаспадыня, выціраючы новыя слёзы.

— Што ж, у цяперашніх трывожных часах можна ўсяго спадзявацца, — сказаў паважна ксёндз Марціноўскі. — І ў Евангеллі сказана: «Ударыш пастыра і рассыпяцца авечкі». Раз, калі ўжо вывезлі біскупа, дык што ж гаварыць аб нас — простых ксяндзах? Біскупа павезлі пад Уральскія горы, дык нам, мусіць, будзе месца аж на Камчатцы. А што Гануля данесла, дык няма тут нічога дзіўнага: нават і паміж апосталамі знайшоўся Юдаш Іскарыёт. Дык чым жа лепшыя тэрціяркі?

— Гануля не даносіла, — сказала Марыля, — але так неяк выпадкова прагаварылася, а той інспектар зара напісаў пратакол і…

— Што? І пратакол напісаў? Ну, дык цяпер усё прапала! — ксёндз махнуў рукой і ляпнуў дзвярамі.

Марыля сядзела, як здранцвеўшы, а гаспадыня ламала рукі, то хваталася з роспачы за валасы і толькі яшчэ меркавала, ці

адразу ўжо іх рваць з галавы, ці адлажыць на пасля. Пахадзіўшы так па кухні, гаспадыня раптам затрымалася супроць Марылі і крыкнула:

— Будзь яна праклятая, твая гэна сястрыца! А што ж я буду рабіць, як ксяндза вывезуць на Камчатку?

Ад жалю і плачу гаспадыня не магла ўжо больш нічога гаварыць. Тым часам ксёндз Марціноўскі яшчэ раз заглянуў на кухню. Яму самому сталі слёзы наплываць на вочы, але, як мужчына і духоўная асоба, стрымаў сябе і пастанавіў дзела разабраць глыбей. Найперш паклікаў Марылю ў сваю канцылярыю і там, з алоўкам у руках і паперай перад носам, выпытаў аб усе абставіны, — як, калі, чаму, каму і што гаварыла Ганулі? А тым часам няшчасная гаспадыня слухала пад дзвярамі і заглядала ў шчылінку ад ключы.

— Цяпер можаш ісці, — сказаў нарэшце пробашч Марылі, — а заўтра няхай прыйдзе да мяне сама Гануля і сазнаецца з усяго.

Пачуўшы гэта, гаспадыня лоўка шмыгнула ў кухню, а Марыля пайшла дамоў. А пробашч хадзіў па сваіх пакоях з глыбокімі думкамі.

Назаўтра ксёндз Марціноўскі чакаў Ганулю ад самага рання. Пачуццё крыўды і абурэнне расстроілі яму нервы: браўся за розныя работы, але ўсё не ішло, псулася і не ўдавалася. Дык зара кідаў пачатую работу, браўся за другую; паглядаў у вакно, курыў папяросы, крычаў на закрыстыяна, спрачаўся з арганістам за метрыкі, некалькі разоў заходзіў у кухню, паглядаў на гаршкі, але з гаспадыняй нічога не гаварыў, ізноў выходзіў, ды зара варочаўся… А Ганулі ўсё не было і не было! Раздражненне ксяндзова дайшло да найвышэйшага напяцця. Калі нарэшце прыйшла Гануля, прыбітая горам, змораная пастаяннымі згрызотамі сумлення, перапужаная, — не смела падняць вачэй на ксяндза, каторы сядзеў у глыбокім крэсле, курыў папяросу і пачуваўся смяротна пакрыўджаным гэтай кабецінай. Усё яго нутро было ўзбурана, хацеў злаяць і збэсціць гэтую шкодніцу з астатніх сіл, але стрымаў сам сябе ад злосці і толькі пазволіў сабе на гнеў памяркоўны і справядлівы. «Няхай будзе ўсё за мае грахі! Што ж? Воля Божая! Буду пакутаваць — праз злосць людскую».

Так надумаўшыся і прыгатаваўшыся яшчэ падчас бяссоннай ночы, ксёндз Марціноўскі пачаў цяпер наводзіць следства, тварыць справядлівы суд і выконваць абдуманы прыгавор. Сведкаў не трэба было, бо справа была ясная.

Ужо ад таго няшчаснага сілабізу Ганулі страціла ласку ў вачах ксяндза Марціноўскага.Таксама не быў на яе ласкаў пробашч і за справу беларускую. Праўда, Гануля дасюль не выступала з ніякай агітацыяй, але ейная блізкая знаёмасць з ксяндзом Галузам і з арганістам Харашухам вельмі не падабалася ксяндзу Марціноўскаму. Аб Галузу ксёндз Марціноўскі гаварыў другім ксяндзам:

— Я не люблю і не пераношу ў касцёле ніякай палітыкі: касцёл — месца святое, касцёл павінен служыць для ўсіх. А ксёндз павінен быць ксяндзом, а не беларусам. І нашто нам гэтыя навінкі? Усё дагэтуль было ў нас спакойна і добра, і пабожна… А вот знайшліся ў нас нікому не патрэбныя ліцвіны паганскага роду, а цяпер пайшлі беларусы… Дык дзе ж будзе справядлівасць на свеце? Не, я віджу, што парадку ў нас няма: мы самі вінаваты, бо мы іх лішне распускаем: трэба ўзяць лейцы ў рукі і хваціць пугу!

А якраз цяпер Ганулін Вінцусь, прыйшоўшы з Мураванкі, здзівіў і згоршыў кс. Марціноўскага дарэшты. Спаткаўшы хлапца, пробашч, як прыстоіць духоўнай асобе, пачаў яго выпытваць аб адносінах і парадках у Мураванцы: аб школе, аб інспектары, аб выездзе ксяндза Галузы ў кляштар і г. д. Вінцусь адказваў бойка і талкова, і гэтым спачатку заінтарасаваў пробашча. Вось тут меркаваў кс. Марціноўскі павучыць хлапца і аб справе народнай.

— Вы павінны цвёрда стаяць за Польшчу, — казаў ён, — бо вы палякі. Гаварыце ўсюды толькі па-польску, а інспектара не бойцеся: ён вам за гэта нічога не зробіць і са школы не выганіць. А нават каб і прагнаў, дык што ж зробіш? Трэба нам цярпець за сваю святую справу.

— Як жа мы будзем стаяць за Польшчу, — казаў адкрыта хлапец, — калі мы не палякі, але беларусы?

— А, гэта навука ксяндза Галузы! — сказаў вельмі нездаволены ксёндз Марціноўскі. — Ну, дык ідзі сабе! — адправіў ён хлапца і вельмі згоршыўся з такой палітыкі, каторую праводзіў ксёндз Галуза.

— Цьфу! — казаў ксёндз Марціноўскі і доўга не мог супакоіцца.

«Ксёндз павінен глядзець алтара, а не палітыкі, — думаў ён, курачы папяросу. — Досыць мы маем ліцвінаў, каторых ніяк не можам ператравіць… І тым параблены непатрэбныя ўступкі. Маглі бы і ліцвіны маліцца ў касцёле па-польску; хто ж ім гэта забараняе? Вось тагды была б у касцёле святая згода і міласць двух братніх народаў».

Дык вот кс. Марціноўскі меў, так сказаць, добры зуб на Ганулю, а тут апошняя справа і давяршыла.

— Ну, што, данесла? Зрабіла данос? — спытаўся пробашч, не даючы Ганулі прыйсці да слова. — Што ж, прыйдзецца мне праз тваю ласку пацярпець.

Гануля прабавала апраўдацца, але пробашч не слухаў.

— Я ўжо ведаю ўсё: ты мне можаш не гаварыць, — я не малое дзіця, каб мне галаву дурыць.

Гануля замоўкла і змывала сваю віну горкімі слязамі. З тым і пайшла дамоў.

Цяпер усё пакацілася кур'ерам. Ксёндз Марціноўскі ў нядзелю прагаварыўся з амбону аб сваёй цяжкой долі і сказаў ясна, усяму народу, а пасля шырока растлумачыў, што ён як слуга Божы гатоў заўсёды ўзяць самы найцяжэйшы крыж на плечы і пацярпець за праўду і што ён не пабаіцца ані даносаў, ані кляштару, ані турмы. Гануля зразумела, што гэта была прытычка ў ейны бок і так стрывожылася, што ўпала ў гарачку. Наагул, апошнія падзеі вельмі расстроілі ёй нервы і падарвалі здароўе. Не мела ў каго парадзіцца, ані нават смела каму пажаліцца ў гэтым няшчасці ды нават ніхто не хацеў яе слухаць і спачуваць…

Прыйшоўшы з касцёла з вялікім болем галавы, Гануля без памяці злягла ў пасцель і зразу пачала шаціць. Праляжала цэлыя дзве нядзелі. Але ніхто яе не жалеў: усе жалелі ксяндза, бо якраз у гэтым часе і сапраўды ксяндза Марціноўскага жандары вывезлі ў кляштар, спешным парадкам, на цэлы год, без права павароту ў Завалаку.

Як Гануля ўстала з пасцелі, дык не магла паказацца на вуліцы, бо ксяндзоўская гаспадыня раструбіла па ўсім мястэчку, што Гануля даносчыца, дык тэрціяркі, пры спатканні, лаялі Ганулю апошнімі словамі і пляваліся, як звар'яцеўшы; нават суседзі і сваякі адварочваліся ад яе.

Вось Гануля з таго гора, не маючы каго парадзіцца, паспешна сабралася ў дарогу і пайшла ў Мураванку, каб саўсім забраць сына са школы. Манілася пасля зліквідаваць усю сваю маёмасць у Завалацы і перабрацца да знаёмых — далёкіх сваякоў — у Старадворскую парафію.

## XII. РАЗВЯЗКА

Снежань у гэтым годзе быў бясснежны, а пасля доўгіх дажджоў і страшэннага — непраходнага, непраезнага — балота настала цвёрдая груда. Дарогі вельмі цяжкія, асабліва для коней: балота — растаптанае, раскалежанае — так і сцялася і змерзлася праз адну ноч у той форме, у якой звечара было захвачана марозам, — дык дарога стала проста немагчымая; тым больш, што балота змерзлася тым часам толькі зверху і на найгоршых, топкіх месцах ламалася і не давала ходу ні ўзад, ні ўперад. Дзеля таго людзі, колькі могучы, гэтай парой сядзелі дома і чакалі саннай. Аднак снегу не было і не было. Іншыя, каторым вельмі было пільна, хадзілі пехатою.

І наша гаротніца, Гануля Якубіха, пайшла «апостальскім следам» — пехатою. Ішла, спяшалася, голасна гаварыла пацеры, але ўсцяж мылялася ў самых простых малітвах і зара пачынала нанова, збівалася ізноў і… не магла скончыць. Спачатку пагода ёй ручыла: вецер быў папутны і нават пару разоў паказалася сонца. Пасля сталі наплываць цяжкія, нізкія хмары; вецер пачаў варожа свістаць, але Гануля ўвайшла ў лес. Там было спакойна, а нават цёпла. Лес шумеў; шумелі перадусім высокія сосны, паважна ківаючы галовамі, махаючы рукамі-галузамі. У гэтым шуме чувалася нешта вельмі паважнае і сур’ёзнае: гэта была сумная гутарка прыроды аб дурнаце чалавечай і марнасці людскіх пажаданняў. Лес шумеў; вярхі дрэваў калыхаліся, — дрэвы быццам радзіліся паміж сабою; гутарылі, часам сварыліся і біліся сукамі; а сосны шапталі — шушукалі, успакойвалі неспакойных і пацяшалі стурбаваных падарожных.

Лес шумеў. Гэта быў наш беларускі лес, багаты соснамі, дубамі, бярозамі, ясенямі. Там-сям закаркала варона; недзе далёка стукаў дзяцел; вавёрка пераскоквала з дрэва на дрэва. Панавала асенняя ціш, тым больш урачыстая, што роўна шумеў лес, надаючы лагодны тон, наводзячы і настройваючы стурбаваныя думкі вечна клапатлівых людзей. А людзі ўласне снавалі па гасцінцы-тракце, каторы вёў з Завалакі ў Мураванку. Ехалі фурманкі, ішлі пяхотныя; людзі і коні былі заняты сваімі думкамі; апусціўшы галовы, пляліся, вандравалі тут з пакалення ў пакаленне. А лес шумеў і шумеў. Колькі гэтыя сосны бачылі ўсякага народа! Багатага і беднага, цвярозага і п’янага, — і ўсе гэтыя людцы праходзілі міма, спяшаліся; за імі ішлі ўдагонку другія, і так змяняліся пакаленні. А лес стаяў і шумеў. Шумелі і

ківаліся паважныя сосны, шушукалі елкі, скрыпелі дубы, плакалі бярозы… Лес шумеў, шумеў, шумеў…

І цяпер лагодны шум лесу супакойваў Ганулю: ішла павальней, свабадней уздыхала, нават павесялела, і пацеры складаліся лепш. Пасля, не спасцерагаючы сама, пачала думаць наголас, жаліцца на сваю долю, гутарыць і радзіцца з сабою.

— Што ж я вінавата? — казала яна. — Ці ж я хацела выдаваць ксяндза Марціноўскага? Людзі мяне за гэта асудзілі, адвярнуліся ад мяне, дык няхай Бог рассудзіць паміж мною і людзьмі. Бог відзіць маё чыстае сэрца і Ён адзін ведае праўду і крыўду…

Так разважала Ганулья, і душа ейная спакайнела. І вось стала сумнявацца, ці трэба забіраць хлапца са школы.

— Пры чым тут хлапец? Хоча вучыцца — няхай вучыцца! Відаць, што голас Божы яго да навукі прызывае. Нашто зрываць? Праз мяне вывезлі ксяндза Марціноўскага, але што ж я вінавата? Проста Бог дапусціў маю памылку. І другія людзі мыляюцца таксама, а ці ж за памылку Бог будзе караць? Бог жа і справядлівы і міласэрны. Дык што ж мне зрабіць з хлапцом?

Лес шумеў. Было ціха, нават цёпла. Ганулья расшпіліла каптан і прыбавіла кроку, бо крышку пужалася — сама-адна — у вялікім лесе. Было ёй ужо нават і вельмі цёпла, нават горача, аж дзівілася сама сабе. А ў галаве пачула вялікі цяжар, і кроў стала сільней біцца ў вісках. Пот, вялікімі круглымі каплямі, фармаваўся пад хустачкай, каціўся па лобе і падаў на зямлю. Ганулья ад пары да пары абцірала пот і ішла далей. Але вось лес скончыўся, пайшло роўнае, пустое поле, дзе вецер свістаў і ганяў рэдкія сняжынкі. Ганулья яшчэ чула цяпло і жар унутры, але паверху стаў яе прабіраць пранікліві холад. Пот застыгаў, а зубы званілі крапчэй і крапчэй.

Ганулья не спасцераглася, як увайшла ў Мураванку. У галаве адчувала такі стук, як бы хто ехаў галопам, на жалезных калёсах, па няроўным бруку; стук лучыўся са звонам і шумам у вушах. У вачах мігацела: паказваліся вялікія агнявыя кругі, каторыя то счэпліваліся, спляталіся з сабой і каціліся ўніз, то падымаліся ўверх, то кружыліся-танцавалі і мяшаліся ў нейкі непанятны хаос. Ганулья не ведала, дзе яна і што з ёй робіцца. Аднак, ведзеная падсвядомым інстынктам, ішла праз Мураванку і не змыліла вуліцы: позным вечарам трапіла да Адама Пашнеля. Усе здзівіліся, што Ганулья прыйшла так позна. Вінцусь падбег да маткі прывітацца, але зара жахнуўся: яна выглядала страшна і была ўжо без памяці.

— Ксёндз Марціноўскі тут? — пыталася Гануля. — Вы кажаце, што яго тут няма, а дзе ж ён?

Гануля пыталася і адказвала сама сабе, бо ніхто нічога не гаварыў. Усе так і здранцвелі, як пачулі ейныя непрытомныя словы.

— Ага! Я ведаю, дзе ён, — казала Гануля. — Яго павезлі за Уральскія горы. Гэта ўсё я на яго данесла. Я — зладзейка, даносчыца! Лавіце, вяжыце мене! Вунь я тут: хачу схавацца, а там стаяць жандары; а вот там, у куце, сядзіць ксяндзовая гаспадыня… Лаві, лаві яе, даносчыцу! Лаві яе, вяжы! — крычала Гануля і кінулася да дзвярэй. Яна — то ўцякала, то хавалася, то расстаўляла рукі і лавіла сама сябе. Аж раптам зачапілася нагою за зэдаль і павалілася сярод хаты і самлела.

Вінцусь стаў голасна плакаць. Сам Пашнель і ягоная баба кінуліся на ратунак і сталі падымаць Ганулю. Нарэшце неяк паднялі яе і палажылі на ложка. Прыбеглі і суседзі: адны пыталіся аб прычыну, другія раілі пацерці па галаве і па руках той адымачкай, што вымаюць гаршкі з печы, бо гэта напэўна паможа, а іншыя казалі, што гэта не паможа. Тут надышла гарбатая і слепаватая Віктуська і ўзяла ўсё дзела ў свае практычныя рукі. Найперш прыказала, каб выйшлі з хаты ўсе мужчыны, бо… так трэба было…

— Ты там рабі сваё, — казаў Пашнель, — а мы глядзець не будзем. Мы тут пасядзім за сталом і пакурым. Дзе мы там уночы пойдзем на холад?

Ну, Віктуська гэты раз уступіла і ўзялася паспешна за дзела: то раздзявала Ганулю і нешта над ёй шаптала — «адчыняла» ўрокі і злыя вочы, то націрала Ганулі віскі халоднаю вадою, плюючы назад сябе па тры разы, то падбягала да печы, заварвала свае зёлачкі і паіла хворую. Ведама, пад уплывам Віктуські, хвароба патрошку ўступала і Гануля скора адкрыла вочы, але да памяці ўсё ж такі не даходзіла. Цэлую ноч бедная рвалася з пасцелі і хацела ўцякаць, так што Віктуська мусіла яе прывязваць.

— Вунь, вунь ён стаіць у куце! — гаманіла Гануля.

— Хто стаіць? — пыталася Віктуська.

— А гэны рыжавусы сабака.

— Які сабака?

— Яшчэ пытаеш! — гневалася Гануля. — Ці ж ты сама не бачыш? Вунь стаіць і зубы вышчарае. Вот ідзе сюды. Ай-ай!

— Ціха, дзіцятка! — гаварыла Віктуська. — Я яму зара дам палкай па галаве.

Тут Віктуська брала палку і біла па тым сабаку. Але Гануля крычала:

— Што ты там б’еш на пустое! Ён вунь на печы сядзіць. Віш, віш! Ваўком глядзіць — бараду гладзіць.

Вінцусь плакаў у куце; Пашняліха плакала, калышучы дзіця; сам Пашнель сядзеў з двума суседамі на покуці і ўсе тры курылі. Усе былі вельмі невясёлы.

— Ціха! — сказала Віктуська да ўсіх, хоць усе і так маўчалі. — Я ўжо прычыну злавіла: Ганулю, мусіць, укусіў або настрашыў рыжы сабака або пакрыўдзіў нейкі рыжы чалавек.

— Чалавек ці сабака? — спыталася Віктуська, пахіліўшыся над Гануляй.

— Акыш! — адказала Гануля. — Чаго ты да мяне прычапілася? Хто ты? Ты, мусіць, ксяндзоўская гаспадыня, га? Акыш вон!

— Відзіце, што яе не дапытаеш, — сказала, уздыхнуўшы, Віктуська. — Каб я ведала ўсю праўду, скарэй магла б хворую адлячыць. Мусіць-такі Ганулю пакрыўдзіў рыжы чалавек, бо яна ж сама казала: «рыжавусы»… На ўсякі выпадак я замоўлю зёлачкі і ад рыжага шалёнага сабакі. Але не бойцеся: хоць змарную лішнюю зёлку, аднак адлячу.

Вот яна пакапалася ў сваім кошычку, выцягнула адтуль анучку, раскруціла вузельчык, выняла адтуль не то скарыначку, не то нешта-нейкае і стала замаўляць. Жагналася сама па тры разы, жагнала хворую і кругом усю хату. Пасля плявала таксама кругом, і таптала нагамі і прыгаворвала:

Ішоў Пан Язус праз лес і праз поле,
За Ім хадзіла нядоля і доля:
Нядоля была няшчасна і гола,
А доля была шчаслівa, вясёла.
Нядоля стагнала, злавола, кусала,
А доля шчаслівых людзей цалавала;
Нядоля была, як рыжы сабака…

Ідзі ты, нядоля, на голыя лозы!
Ідзі на асіну, крывыя бярозы!
Ідзі ты на ройсты, ідзі на балоты,
Ідзі на гнілыя платы-пераплоты!
Павесься і счэзні, вон з хаты ідзі!
Чорт рыжы-пракляты, згінь-прападзі!
Акыш! Цьфу, цьфу, цьфу!

Віктуська шчыра верыла ў сваё прызванне і дамагалася веры ад сваіх хворых.

— У зёлачкі трэба верыць, — казала яна. — Хто ў зёлачкі не верыць, таму яны не памогуць, такі чалавек няхай ужо лепш ідзе да якога там фэршала ці доктара.

— Хто цябе, Віктуська, навучыў варажыць? — пыталіся часам цікавыя суседкі.

— Ат! хто навучыў, — адказвала неахвотна Віктуська. — Усё на свеце ад Бога: без Боскай волі і волас табе на галаве не пасівее. На ўсё Боскае воля.

— А ці праўду кажуць, што ты, Віктуська, ведзьма?

— Няхай ім язык спухне, калі я ведзьма! Я табе і мухі не заб'ю, я табе і матылька не пакрыўджу, — якая ж я ведзьма? Я табе саўсім справядлівы чалавек. А што я замаўляю, дык ратую людзей, няхай табе будзе, Божа, на хвалу!

— А як ты замаўляеш? — пытаўся раз Віктуську дэкан Кішкеліс.

— Ну, гэтага табе, ойчанька, сказаць няможна, хоць ты і духоўная асоба. Тагды прападзе ўся мая сіла і вазьму цяжкі грэх на душу. Я навучылася ад сваёй старой цёткі, Анастассі, каторая, паміраючы, перадала мне ўсе свае сакрэты, але пад вялікай страшнай прысягай, што я нікому нічога ніколі не перакажу. Я тагды так баялася, што аж плакала. Толькі Анастасся пазволіла мне на тое, каб і я перад сваёй смерцю перадала гэтую тайніцу другой пабожнай асобе, якой сабе хочучы. Вось і такі сакрэт, як вока ў галаве, і памагаю добрым людзям, а плату бяру невялічкую абы сабе пражыць можна было.

Дэкан паслухаў, пасля пакруціў галавой, пасля хацеў нешта сказаць, але нічога не сказаў — так і паехаў. А Віктуська лячыла далей і ратавала людзей, як умела.

* * *

Назаўтра Ганулля прыйшла да памяці, паспакайнела, але была ў гарачцы і расхварэлася сапраўды цяжка. Папрасіла ксяндза. Прывезлі з Мураванкі дэкана Кішкеліса.

Сабраліся суседзі; спаткалі ксяндза са свечкамі і з набожнай песняй. Ксёндз спавядаў хворую, а людзі маліліся ў сенях і на дварэ. Перапяялі адну песню і другую, пачалі трэцюю, а Ганулля ўсё спавядалася і спавядалася. Нарэшце ксёндз скончыў спавядаць, памаліўся, пасля пагаварыў з людзьмі і паехаў дамоў. А Ганулля апрытомнела саўсім: гаварыла з кабетамі; гладзіла па галаве, вучыла і пацяшала Вінцуся.

Хлопец залівaўся слязамі і не адступаў ад маткі.

Ганулля гаварыла з ім вельмі сур’ёзна, але спакойна.

— Сынок, не плач! Яшчэ наплачашся праз жыццё: нагледзішся яшчэ ўсяго, як астанешся сіратою паміж чужымі людзьмі. Я гэта добра ведаю: я сама гадавалася сіратою. Што ж ты зробіш, — такая, відаць, воля Божая. Тут чалавечая мудрасць нічога не парадзіць. Дык слухай, сынок! Ты ў мяне адзін, — скажу табе на тастамент вось што: слухай! Я табе не пакідаю анічагусенькі: ніякага багацця — ані поля, ані грошай, ані зямлі, ані хаты… і ад бацькі нічога не асталося. Ты яшчэ такі малы і астаешся круглым сіратою і ты будзеш бяднейшы ад усяго свету. І вот цяпер я ўміраю і не маю каму цябе аддаць… Ах, Божа мой, Божа!

Ганулля цяжка ўздыхнула, але не заплакала: сабрала ўсю сілу і гаварыла далей.

— …але затое — чуеш, Вінцусь? — я пакідаю табе добрае слова: я цябе ўзгадавала на добрага хлопчыка. Цябе хваліў ксёндз Галуза. Калі ты і далей будзеш такі, дык цябе Бог не пакіне і знойдуцца добрыя людзі, што цябе будуць гадаваць, вучыць і любіць. А я спадзявалася, што калісьці цябе ажаню і буду няньчыць тваіх дзетак. Эй, не — не тое! Я спадзявалася, што цябе выгадую на ксяндза і буду на тваёй імшы, на тваёй навуцы… і буду цешыцца… Але Бог не дае — воля Божая!..

Тут гарачыя слёзы канаючай маткі зліліся з слязамі сірочымі. Доўга Ганулля не магла гаварыць; пасля папрасіла вады, падкрапілася і крышку супакоілася.

— Сынок, — казала яна, — будзь ты мужчына — не плач! Бог цябе не пакіне. Я там буду маліцца за цябе. Сынок…

Ганулля закашлялася і не магла больш гаварыць. Яшчэ прабавала сказаць слоўца, але была вельмі ўзрушана, кашаль узрастаў; адыходзіла з флегмай жывая кроў. Дык толькі переражагнала хлапца, крэпка яго пацалавала і зара страціла прытомнасць.

Ужо Ганулля больш да памяці і не прыйшла. Пашнель прывёз з Мураванкі фельчара, старога Моўшу. Моўша хворую абслухаў, абстукаў, пакруціў галавой і сказаў:

— Уй! правы бок дрэнны, левы бок дрэнны, а сэрца — яшчэ горш: яно саўсім нічога нявартае. З такім сэрцам няможна хварэць, бо… можа быць таксама дрэнна. Уй! я такога сэрца не зычу і свайму ворагу. Калі яна дажыве да заўтра, дык вот купіце — я запішу — гэта лякарства.

Фельчар паехаў дамоў, а лякарства так і не куплялі, бо ўжо не было патрэбна.

На другі дзень, пад самую раніцу, Гануля Богу душу аддала. Сканала неяк знячэўку: не паспелі і грамніцы запаліць: толькі тры разы зіпнула, адчыніла вочы і так стала застываць. Вінцусь плакаў і заснуў пры паміраючай матцы, перамучаны падзеямі апошніх дзён; не меў ані каліўца сілы, каб зразумець і дапільнаваць крытычную мінуту.

На дварэ быў сцюдзёны вецер, і пачынала сільна сняжыць.

## КАНЧАТАК

Пакуль Ганулю прыгатаўлялі да паховін — мылі, адзявалі, труну рабілі, — дык зрабілася на дварэ такая санная, што лепшай і не трэба.

Жалобная працэсія з Мураванкі ў Завалаку складалася з трох фурманак: на першай ехала Гануля ў труне, а на труне сядзеў Адам Пашнель і курыў люльку; на другой ехала Марыля Пятровічыха з сваім мужам Тамашом і з Вінцусём; а на трэцяй ехаў арганіст Харашуха, адзеўшыся ў вялікае футра. Чаго ён ехаў, ніхто не пытаўся, хоць Марыля з Тамашом і з Пашнялём вельмі з гэтага дзівіліся. Тым часам Вінцусь горка плакаў.

— Ты ўжо не плач, бо ўсё роўна нічога не парадзіш, — сказаў яму Тамаш. — Ганулі суджана было памерці, дык і памерла.

— Няхай цяпер паплача — пасля прывыкне, — папраўіла мужа Марыля. — І праўду сказаўшы, то праз яго і матка памёрла. Каб не гэта мураванская школа, дык Гануля жыла б цэла і здарова. А то ўпёрся, смаркаты, вучыцца і вучыцца! Вот і давучыўся да ліхога канца.

Пан Харашуха ехаў моўчкі, думаў сваю думку і цяжка ўздыхаў. Ад выезду кс. Галузы Харашуха быў вельмі сумны, а цяпер смерць Ганулі цяжкім каменем узлягла яму на сэрца.

«Хто ж гэта ведае, — казаў сам сабе Харашуха, — можа, тагды і лепш было б, каб Гануля выйшла за мяне замуж. Але тагды яна адказалася, а цяпер…»

— Вечны адпачынак дай ёй, Пане! — шаптаў Харашуха.

«Што ж, ужо цяпер не паправіш, — думаў ён. — Але, папраўдзе сказаўшы, чаго я еду ў Завалаку? І дарога цяжкая, і часу малавата, і Гануля мне не сваячка… Гм! Нічога, паеду! Яе ніхто не жалее, — пажалею хоць я адзін ды гэты малы хлапчук, Вінцусь. Эх, калісьці крэпка Гануля была запаўшы на самае дно майго сэрца. Цяпер свет мне яшчэ больш абрыд, як тагды. І я стаў непатрэбным сіратою… Гануля, Гануля!..»

Харашуха абцёр з вачэй неспадзеўную слязу і падагнаў каня, каторы адстаў ад папярэдніх фурманак.

«Каб я так жыў! — гаварыў сабе Харашуха. — Зара пайшоў бы ў які глухі кляштар, хоць бы ў белыя Марыяны, каторыя былі калісьці ў нашай ваколіцы і ў каторых быў брат майго дзеда. Але, на большы жаль, маскалі пакасавалі ўсе кляштары ў Беларусі: скасуе калісьці Бог і маскалёў…»

Так маракуючы, ехаў Харашуха на канцы жалобнай працэсіі.

Вецярок падзьмухваў зімны. Снег скрыпеў пад санкамі. Ужо саўсім звечарэла і змеркла. Вінцусь затаіўся і маўчаў. Марыля шаптала пацеры. Тамаш курыў папяросу. Пашнель, седзячы на труне, паганяў каня і курыў люльку. А Ганулея была памёршы: цела ейнае ляжала ў труне, а душа судзілася з Богам.

Пад Завалакай арганіст папераздіў нябожчыцу і прыехаў у плябанію. Тут ён звярнуўся да ксяндзовай гаспадыні, каторая ў нябытнасць ксяндзоў кіравала гаспадаркай, домам і ўсім, і прасіў яе даць ключы ад касцёла, каб паставіць нябожчыцу нанач у касцёл. Але пані гаспадыня, даведаўшыся, хто памёр, ключоў даць не хацела. Не памаглі ані крыкі, ані пагрозы: дарэмна Харашуха дамагаўся ключоў іменем мураванскага дэкана — гаспадыня стаяла на сваім і казала:

— Я гэтай даносчыцы ў касцёл не пушчу, бо праз яе майго ксяндза вывезлі ў кляштар, а я сама тут мучуся, як чысцовая душа.

— Я думаю, што дэкан мае большую ўладу над касцёлам, як гаспадыня, — казаў знерваваны арганіст, — бо дэкан — духоўная асоба, а васпані — простая баба.

— Калі я «простая баба», дык ідзі — цалуйся з сваім крывым ці духоўным дэканам, а я ключоў не дам.

— Ну, дык еш сабе іх! — сказаў Харашуха. — А я ўвайду ў касцёл і без ключоў.

Харашуха не дарма быў калісьці арганістам у Завалацы: ён успомніў цяпер, як калісьці быў замкнёны выпадкова ў касцёле і як выбраўся адтуль абходнай дарогай. Дык вось і цяпер ён перайшоў праз кляштар горным калідорам, пасля ўзлез на падстрэшша, пасля адтуль спусціўся патайным пераходам у вежу, там стукнуў плячом у маленькія дзверцы, адбіў клямачку і папаў на хоры. Адтуль далей ужо не трудна было парадзіць: ён сышоў на ніз і, адваліўшы з сярэдзіны завалу ў вялікіх дзвярах, адчыніў іх навосцеж і пусціў нябожчыцу ў касцёл. Дзяды ўдарылі ў званы, закрыстыян паставіў катафалк, а пан Харашуха, запаліўшы

кругом усе свечкі, сам-адзін набожна адпяяў жалобны нешпар і адыграў на арганах «Лібэра мэ, Домінэ».

Назаўтра пахавалі Ганулю.

Ранішні, свежы, румяны марозік, шум сасновага лесу на магільніку і яснае сонейка так ажывілі людзей, што ўсе забыліся аб жалобе: дружна пяялі, весела гутарылі, рэзва засыпалі яму і прытоптвалі зверху зямлю. Прытым людзі схамянуліся і перасудзілі справу з Гануляй: першыя сталі апраўдваць Ганулю мужчыны.

— Што тут Ганула вінавата? — гаварыў Каятан Юрэвіч. — Прагаварылася, ды больш нічога. А што ксяндза вывезлі, дык што ж мы парадзім? Такія часы пайшлі…

І другія баранілі Ганулю, а нават лаялі ксяндзовую гаспадыню, каторую называлі «біскупіхай». А дзядзька Матусевіч, махнуўшы рукой, гаварыў:

— Няма што Ганулі апраўдваць: упёрлася, як дубовы кол у гліне. Колькі разоў я ёй гаварыў: нашто табе вучыць хлапца ў школе? Аддай яго шаўцу! Дык не. Стаяла на сваім. А што цяпер з хлапцом будзе?.. Сама памерла і ёй нічога… І нашто простаму чалавеку навука?

— Васпан напрасна не гавары… — перабіў яго Каятан.

— Як не гаварыць? Табе праўда ў вочы коле, — казаў яму дзядзька Матусевіч, — бо ты сам патураў Ганулі. І сам ты, мусіць, прыдурэў ад гэтай навукі…

Каятан замоўк, бо не выпадала сварыцца над свежай магілай. Усе мяшчане згаджаліся з Матусевічам і ціха падсмейваліся з Каятана, каторы, як малое дзіця, штодзень хадзіў да вучыцеля Куксача з кніжкамі пад пахай на лекцыі.

Вінцусь на магільніку ўжо не плакаў; акуратна спаўняў усё, што старшыя яму падказвалі: пацалаваў матчыны рукі і ногі, паглядаў спакойна, як спускалі труну ў магілу, сыпнуў жменю зямлі, як і другія гэта рабілі, паглядзеў апошні раз у магілу і… тут таксама не заплакаў.

— Віш, які цвёрды! — казалі бабы.

— Вялікі хлапец, але дурны, — казалі другія.

— Ён заўсёды быў такі, — казала Марыля.

— А хто сірату гадаваць будзе? — пыталіся далёкія сваякі.

— Мусіць, Тамаш Пятровіч… — адказвалі ім блізкія сваякі.

— Ага! Мусіць, нам прыйдзецца, — гаварыла Марыля. — Што ж парадзіш? Такая ўжо наша доля. Хто адкуль бярэцца, усё да нас пхнецца. А мы і так ужо досыць нагараваліся з гэтым хлапцом; прытым хлапец капрызны і непаслушны…

Вінцусь пачуў гэта і аж здрыгануўся.

Людзі сталі разыходзіцца. Пацягнуўся і Вінцусь за другімі, але зара завярнуўся назад, пастаяў, падумаў і пабег да магілы: там сеў каля куста на зямлю і закрыў рукамі вочы. Сэрца ягонае стала крэпка біцца, слёзы паказаліся на вачах.

«Умру тут, а да гэнай Марылі не пайду!» — сказаў Вінцусь сам сабе.

— А дзе ж Вінцусь? — спытаўся Тамаш жонкі, як тая сядала ў сані і закручвала ногі ў кажух.

— Дзе ж ён? Мусіць, недзе ідзе з людзьмі дамоў, — адказала Марыля.

Сталі аглядацца, клікаць, аж агледзелі хлапца на магіле.

— Ідзі сюды! Чаго ты там сядзіш? — крычала Марыля.

Але Вінцусь не ішоў.

— Ідзі скарэй, бо змерзнеш! — казаў Тамаш.

— Я больш да вас не пайду, — адказаў Вінцусь.

— Чаму?

— Бо цётка мяне зганіла перад людзьмі.

— Ці ты здурнеў? Хадзі!..

— Не пайду! Лепш буду тут уміраць…

Тамаш хацеў хлопца схваціць за руку, але Вінцусь лоўка выкруціўся і пачаў уцякаць: пераскокваў праз магілы, падаў, зрываўся ізноў, аж затрымаўся за дзясятай сасной.

Тут умяшаўся арганіст Харашуха. Ён даўно слядзіў за Вінцусём і вельмі крэпка аб нечым думаў.

— Дай, васпан, хлапцу спакой! — казаў ён да Тамаша. — Я сам ім займуся, а вы едзьце з Богам дамоў. Будзьце спакойны: я яго не пакрыўджу.

— Вінцусь, пойдзем! — сказаў Харашуха.

Вінцусь хацеў спірацца.

— Пойдзем, сынок, пойдзем. Паслухай мяне: я табе не чужы. Мы з табою заўсёды жылі ў дружбе: я ж цябе ніколі не пакрыўдзіў. Хадзі, сынок, паедзем!

Вінцусь пайшоў. Ён увесь дрыжэў ад холаду; горла сціскаў жаль і прастуда. Селі ў арганіставы санкі. Пан Харашуха крэпка ўкруціў хлапца ў тое футра, каторае служыла для ног, і паехалі ў мястэчка. Там памясціліся ў асобным пакойчыку ў Лейзара Цыпаровіча.

— Вінцусь, будзеш есці?

Вінцусь маўчаў, толькі пакруціў галавой на знак адказу.

— Ну, як не хочаш, то і не трэба! — казаў пан Харашуха. — Але вось выпі — сагрэешся.

Пан Харашуха напаіў хлапца гарачай гарбатай, да каторай падліў нечага чырвонага з доўгай бутэлькі.

— Ляж, сынок, засні! — казаў ён.

Вінцусь спаў цэлы вечар і ноч да познай раніцы.

— Ну, Вінцусь, цяпер давай пагаворым! — казаў Харашуха.

Вінцусь пачуваўся адсвежаным і здаровым, а нават вясёлым, наколькі пазваляла ягонае цяперашняе палажэнне.

— Пачнём адразу гаварыць сур'ёзна, — казаў стары арганіст. Ягоны голас крышку дрыжэў. — Вінцусь, ці ты будзеш маім сынам?

— Як гэта? — пытаў Вінцусь.

— А вось так: бяру цябе на свой адказ і апеку, а ты будзеш мяне слухаць і любіць. Ну, згода ці не?

Вінцусь замоўк, задумаўся і пачаў плакаць. Харашуха паглядаў на хлапца і крэпка думаў, і не мог знайсці рады. Ужо пачынаў сумнявацца, ці не дарэмна задумаў усю гэтую справу.

— Ну, хлапец, кажы! Я цябе не няволю, як ты сабе хочаш. Калі не хочаш быць у мяне, дык ідзі сабе да Марылі Пятровічыхі.

Хлапец маўчаў; аж нарэшце хваціў дабрадзея за руку і крэпка пацалаваў.

Гэта была пячаць на ўгавор. Харашуха абняў хлапчанё і цалаваў яго ў шчокі, вочы і губы… А хлапец быў дужа падобны да памёршай маткі.

Тым часам Ганутя ляжы сабе ў магіле!..

Зімою трашчыць марозік; скрыпяць санкі, як людцы едуць дарогай міма магільніку; а сосны над магіламі шумяць-шумяць. Цвыркне часам снягір; зайчык пераскочыць праз магілу; а сосны шумяць роўным тонам, паважна і набожна. На цэлы сажань пад зямлёю, у сасновай труне, ляжыць Гануля — яшчэ свежая, як жывая — рукі зложаны на грудзях, а ў руках абразік — Пан Езус з ягняткам… На твары яе рысуецца гора і нядоля, але гора такое спакойнае, як бы ўжо зваяванае. Гануля нават крышку ўсміхаецца… А над магілкай шумяць сосны шумам спакойным, каторы разліваецца наўкруг роўным тонам і наводзіць на душу паважны сум, глыбокую задуму і набожны настрой. Прахожыя і праезджыя глыбока ўздыхаюць, здымаюць шапкі і моляцца. А сосны шумяць і шумяць: яны таксама моляцца і паглядаюць на неба; запушчаюць карэнні аж у грудзі нябожчыкаў, бяруцьвыцягваюць з іх апошнюю сілу, а затое ўзносяць галовы ў неба, шумяць, ківаюцца на ветры і моляцца за памёршых.

— Вечны супачынак дай, Божачка, душачкам памёршых!

Усё новыя і новыя людцы кладуцца ў магілу; і новыя сасоначкі-падросткі нарастаюць на свежых магілках: яны яшчэ не шумяць, але толькі шэпчуцца. Толькі стары сыр-бор шуміць, гамоніць з ветрам.

«Requiem aeternam!.. — шумяць сосны. — Са святымі супакой! Вечная памяць!»

*2.1.1934, Харбін*



# КІТАЙ, СІБІР, МАСКВА

## ПРАДМОВА

### I

Кітай (Хіна) займае суцэльную тэрыторыю ў сярэдне-ўсходняй Азіі, — на Далёкім Усходзе, як яго цяпер называюць. Кітай доўга ў нашай эры лічыўся самым далёкім, найтрудней даступным і малавядомым краем. З поўдня ён абгароджаны высокімі, недаступнымі Гімалайскімі горамі, з захаду вялікімі стэпамі-пустынямі, а з поўначы ад Сібіру доўгімі ланцугамі высокіх гор. Зрэштай, і сам Сібір быў мала разведаным краем. Кітайцы здаўна называлі свой край «Сярэдзінай Свету».

Гэты край і народ трэба абавязкова пазнаць бліжэй: ён налічвае да 4000 гадоў сваёй гісторыі, мае 700 мільёнаў жыхароў. Як бачым, Вялікі Кітай выгодна рассеўся на бяспечным месцы і мае свае выдатныя асаблівасці, — усё ў ім вялікае: пустыня Гобі-Шамо, рэкі сусветнай велічы, — Жоўтая (Хуанхэ) і Сіняя (Ян-тзэ-Кіянг), а з поўначы правы бераг Амура з прытокамі Сунгары і Усуры.

Кітайцы прывыклі да таго, што натура аддзяляе іх ад рэшты свету дык яшчэ і самі паглыбляюць гэты раздзел. Такое значэнне мела на працягу вякоў ведамая Кітайская Сцяна, якой адгарадзіліся з поўначы ад нападаў мангольскіх плямёнаў. Другім важным дзейнікам, што ізаляваў Кітай, быў іхны алфавіт-іерогліфы (да 100 тысяч!). Гэты алфавіт памог кітайцам, якія маюць некалькі розных моваў і дзясяткі дыялектаў, зрасціся ў адзін народ і ў адну дзяржаву. Іерогліфы даюць ім магчымасць не згаварыцца, а спісацца, і так, хоць з вялікаю бядою, паразумецца. Аднак гэтая непраходная «сцяна іерогліфаў» не дазваляе чужаземцам прыблізіцца да кітайскай душы.

І трэцім дзейнікам, які ізалюе Кітай ад свету, стаўся ў апошніх часах камунізм. Цяпер яны адлучыліся не толькі ад краёў капіталізму, але і ад савецкіх таварышаў і не дзеля таго,

што кітайцы — дрэнныя камуністы, а дзеля таго, што яны зусім іншыя людзі.

Кітайцы маюць сваю старавечную культуру, якая пад уплывам будызму і Канфуцыя вытварыла звычаёвы кодэкс сужыцця сямейнага, грамадскага і дзяржаўнага. Кітайская культура апанавала калісьці Японію і народы Індакітаю і дала ім свае іерогліфы і абычаі (напр., не ўжываюць ні малака, ні масла). Выдатныя праявы кітайскага характару — гонар, ветлівасць, пашана для бацькоў (жывых і памерлых), любоў да свайго краю і старых абычаяў, вернасць у дагаворах, скромнасць, супакой нерваў, працавітасць, цярплівасць, вытрываласць, ашчаднасць, нахіл і навык да гандлю. Дык страшэнную памылку робяць тыя чужынцы, якія ўважаюць кітайскі народ за некультурны або ставяць яго на адным узроўні з дзікарамі. Але якраз гэтым тыя белыя людзі паказваюць сваю некультурнасць. А некаторыя легкамысна высмейваюць кітайскія паклоны і цырымоніі. Хоць нашая Місія не вяла працы паміж кітайцамі, але, жывучы з імі блізка, я заўважыў, што іхныя паклоны і іншыя праявы ветлівасці — гэта не ёсць пустая форма, а робяцца з пераканаННем і шчыра. Каб каталіцкія місіянеры прыходзілі ў Кітай з поўным зразуменнем кітайскай культуры, каб не паказвалі сваёй вышэйшасці і панскасці, каб не накідалі сваіх звычаяў і свайго стылю, — адным словам, каб аказвалі належную пашану народу і чалавеку і каб самі станавіліся для кітайцаў кітайцамі ў духу св. Паўла Ап. і ў Духу Самога Хрыста, дык Кітай ужо быў бы каталіцкім.

Кітайская душа, маючы багаты падклад натуральны, вельмі блізкая хрысціянству і толькі патрабуе для поўнага свайго развіцця навукі і Духу Хрыстовага. І каталіцкія абрады і цырымоніі (лацінскія) вельмі добра трапляюць да кітайскага ўкладу і стылю, абы толькі не былі адпраўляныя няўважліва і хутка. Думаю, што наш каталіцкі ўсходні абрад меў бы тут яшчэ большы поспех, каб толькі дапасаваўся да кітайскіх мелодыяў і стылю. І трэба было б смела і багата чэрпаць з скарбаў Буды і Канфуцыя ўсё іхнае добрае і прыгожае, заступаючы сапсуты паганізм праўдзівай верай і мараллю Хрыстовай. Тады хрысціянства стала б рэлігіяй блізкай і роднай кітайцам.

Нават і цяпер, калі Кітай стаўся камуністычным і калі праз неразвагу правадыроў гіне ад голаду, то кітайцы не перасталі быць людзьмі і нашымі бліжнімі. А тым часам амерыканская бравура ці савецкае братанне лічыцца ў Кітаі за грубіянства і выклікае моцную абразу. Няхай бы папрабаваў у Пекіне чужа-

земны дыпламат (Х) пастукаць ботам па стале, як гэта здарылася ў Асамблеі ў Нью-Ёрку!.. Бо ў Кітаі і найбольшае дабро, робленае недалікатна, траціць усю сваю вартасць.

Цяперашняя ізаляцыя, калі Кітай стаіць на самым беразе пропасці, калі, апрача Албаніі, не мае на свеце прыяцеляў і калі Савецкі Саюз, будучы з сваёй бязбожнай натуры несправядлівым, умее толькі абяцаць і зводзіць, — кажу — гэтая ізаляцыя можа і павінна быць выкарыстана контрагентам разумным і сумленным. Я перакананы, што перадусім дыпламацыя Ватыкану мае вялікую нагоду і патрэбу звярнуцца да Кітая з харытатыўнай місіяй у духу Хрыстовага міласэрдзя і ветлівасці.

У адносінах эканамічных кітайцы ўважаюць за найлепшых камерсантаў ангельцаў, якія пры ўкладнасці формы даюць салідны тавар і акуратна выпаўняюць варункі ўмовы. Бо кітаец будзе таргавацца да ўтраты прытомнасці, але вымагае сумленнага выканання дагавору.

II

Мы працавалі ў Маньчжурыі 20 гадоў, а нашым нязменным месцам прабывання быў Харбін, які складаецца з двух гарадоў — старога кітайскага (Фу-кья-Тьен) і новага — эмігранцкага, пераважна расейскага. Лік усіх жыхароў у Харбіне даходзіў да 750 тысяч. Маньчжурыя — край даўнейшых маньчжураў — сталася фактычна краем кітайскім. Старых маньчжураў можна дашукацца толькі ў глухіх закутках. Маньчжурыя таксама мае натуральныя граніцы: на поўначы — рака Амур, на захадзе — мангольскія стэпы, на поўдні — Кітайская Сцяна, Жоўтае мора і Карэйскія горы, а на ўсходзе — рака Усуры і горы Малога Хінгану. У 1931 Маньчжурыю захапілі японцы, як край безабаронны, без вайны. Аднак, каб затуманіць вочы сваім праціўнікам, далі Маньчжурыі самастойнасць і прызначылі Маньчжурскага імператара, Пу-І, а самі назваліся толькі саюзнікамі. Новая імперыя насіла назоў — «Маньчжу-Го». Кітайскія жыхары не згаджаліся з назовам «маньчжураў», не прызнавалі ні імператара, ні ўраду.

Наагул Кітай не мог наракаць на нястачу апекуноў. У канцы мінулага стагоддзя расейскі ўрад пачаў будаваць чыгунку праз Маньчжурыю, каб скараціць сабе лучнасць з горадам Уладзівастокам і з Вялікім акіянам. Дагавор з Кітаем рабіўся падступны — «арэнда» на 99 гадоў. Дарога называлася Кітайска-Ўсходняя. Апрача таго, Расея правяла ад Харбіна дарогу на

поўдзень праз Мукдэн да Жоўтага мора. Былі пабудаваныя гарады Новы Харбін, Дальні, Порт-Артур і інш. Японцы пачуліся тады загрожанымі і пачалі вайну (1904–1905) ды адабралі ад Расеі палавіну паўдзённай дарогі і прыморскую Квантунскую правінцыю Маньчжурыі, а горад Дальні перайменавалі на Дайрэн. А з Кітаем не лічыліся зусім, хоць ваявалі на ягонай зямлі і дзялілі яе між сабою.

Да канца мінулага стагоддзя Маньчжурыя была вельмі рэдка населеная: мала хто аб ёй на свеце ведаў і ёй цікавіўся. Ад часу, аднак, як Расея стала праводзіць чыгунку, тады звярнулася на Маньчжурыю ўвага ўсяго свету. Аказалася, што гэта — краіна вялікіх магчымасцяў: мае вялікія лясы (тайга), шмат вугалю, урадлівую глебу, здаровы клімат і вялізарнае стратэгічнае значэнне. Самі кітайцы тады «адкрылі» Маньчжурыю: палілася сюды бязмежная хваля кітайскіх земляробаў. Яны хапаліся абы за якую работу, каб толькі пражыць. Найбольш прырасталі да зямлі і да гандлю. Сеялі чумізу, гаолян, кукурузу, пшаніцу, бабысою. Але найбольш кітайцы маюць пацяг да гародніцтва: кітаец з сваёй вечнай цяпкай (гачка на доўгім чаране) замяшчае каня, плуг і ўсякія машыны і прылады, а працуе ад цямна да цямна.

Да будовы чыгункі прыбывала сюды з Расеі нямала тэхнікаў, спецыялістаў, камерсантаў і так проста ахвотнікаў лёгкай нажывы і прайдзісветаў. Усяго эмігрантаў, лучна з тымі, што ўцяклі пасля разгрому белых генералаў (Калчака, Сямёнава, Мяркулавых), сабралася ў Маньчжурыі больш 300 тысяч: расейцаў, забайкальскіх казакоў, украінцаў, палякаў, жыдоў і немцаў. Менш было летувісаў, беларусаў, латышоў, чэхаў, эстонцаў і інш. Каталікі мелі ў Харбіне тры касцёлы: адзін для кітайцаў у кітайскай часці і два для эмігрантаў каталікаў — касцёл св. Станіслава і св. Ясафата. Мелі таксама свае цэрквы армяне, стараверы папоўцы, эвангелікі і інш. Жыды мелі дзве вялікія багатыя сінагогі.

Праваслаўная эміграцыя збудавала ў Харбіне да 30 цэркваў: некаторыя былі вялікія, прыгожыя і вельмі багатыя. Таксама і ў другіх гарадох, як Хайлар, Мулін і ў групе пасёлкаў Трохрэчча, будаваліся цэрквы і школы. Сам Харбін стаў галавою і мітраполіяй праваслаўнай царквы ў Кітаі. Мітрапаліт Мялецій меў двух епіскапаў вікарыяў, Дзімітрыя і Ювэналія. Пасля расейскай рэвалюцыі пражываў у Харбіне Камчацкі епіскап Нестар (Анісімаў). Яшчэ значны лік праваслаўных эмігрантаў сабраўся ў Шанхаі (епіскап Іоан), у Цянтзіне, у Цінгтао, у Пекіне (еп. Віктар). У гарадох ды асабліва на правінцыі эмігранты жылі

старым парадкам і прывычкамі, якія існавалі да рэвалюцыі. Наагул, хто быў чалавекам кідлівым і не лайдачыў, мог жыць у Маньчжурыі ў дастатку і бяспечна. З кітайцамі, хоць у іх парадак моцна кульгаў, можна было жыць і ладзіць.

Праваслаўныя ўкраінцы мелі ў Харбіне прыгожую царкву ў сваім стылі на Вялікім Праспекце.

Але вось у 1931 неўспадзеўкі загарнулі Маньчжурыю японцы і патроху пачалі мацавацца і згушчацца. Цяпер варункі жыцця пагоршыліся. Канкураваць з японцамі, якія самі гандлявалі без падатку, стала немагчыма. І наагул выяўлялася няпэўная прышласць і найбольш пагроза канфлікту з Саветамі. Дзеля таго белыя людзі спешна эміграvалі далей: у глыбейшы Кітай, пераважна на Шанхай і яшчэ далей — на Філіпіны, у Амерыку, Аўстралію…

## III

У жніўні 1945, пасля кароткіх баёў з японцамі, заўладаў Маньчжурыяй Савецкі Саюз. Харбін японцы аддалі без бою. Усіх цяпер зацікавіла: як уладзіцца царкоўнае жыццё? Дасюль праваслаўнае духавенства, адарваўшыся ад Маскоўскага патрыярха, перайшло пад юрысдыкцыю царкоўнага Загранічнага Сабору ў Югаславіі (Карлаўцы). І вось разам з савецкай акупацыяй прыбыла ў Харбін з Масквы духоўная дэлегацыя ад Маскоўскага патрыярха, якая без супраціву прыняла ўсю Кітайскую мітраполію ў патрыяршае паслушэнства. Прытым дэлегацыя адсунула мітрапаліта Мялеція, а вікарыяў забралі ў Сав. Саюз. Мітрапалітам у Маньчжурыі паставілі епіскапа Нестара (Анісімава). Яму далі новага вікарыя, Нікандра (Віктарава).

Усе ў Харбіне дзівіліся, што Нестар, які дасюль быў патронам манархістаў, цяпер так хутка здабыў давер патрыярха і савецкага ўраду. Праўда, Нестар, чалавек актыўны, таварыскі і добры прамоўца, умеў дапасавацца да новых абставінаў. Тым часам стары Мялецій хутка памёр, як бы не хацеў свайму наступніку перашкаджаць у ягонай службе. І вось усім здавалася, што Нестар умацаваўся надоўга. Так прайшло каля трох гадоў. Але паступова царкоўнае жыццё цярпела паважныя страты: у эмігранцкіх школах забаранілі Закон Божы і знялі іконы. А кітайскі натоўп нішчыў праваслаўны могільнік: рабаваў дрэвы, крыжы, агароджы і помнікі. Такжа і іншыя могільнікі цярпелі крыўду. Мітрапаліту Нестару хрысціяне закідвалі, што, маючы ўплывы, недастаткова бараніў святое месца. Аж нарэшце, хоць і пазнавата, Нестар стаў у абароне могільнікаў і здолеў затрымаць

далейшае знішчэнне, легалізаваў стражу і паправіў агароджу праваслаўнага могільніку.

Ужо тры гады трывала кітайская камуністычная ўлада ў Маньчжурыі, і здавалася, што арышты і высылка ў Савецкі Саюз кончыліся. Але важнейшае было наперадзе. Вясной 1948 Нестар атрымаў загад ад Маскоўскага патрыярха прыехаць у Маскву на з’езд загранічнага епіскапату. Гаварыў аб гэтым і цікавіўся ўвесь Харбін. Казалі, што мітрап. Нестар прыгатаваў падаркі ў кітайскім стылі патрыярху і Сталіну (гэтаму партсігар з дарагімі камянямі). І вось Нестар адслужыў малебен, сказаў гарачую пропаведзь і развітаўся а народам. Але за тры дні да выезду ўночы напала на яго кітайская камуністычная міліцыя, арыштавала і пасадзіла ў Харбіне ў турму. Забралі з ім сакратара, святара Герасімава. Трымалі іх паўтара месяца ў вельмі цяжкіх варунках і спачатку нікога да іх не пускалі. Нарэшце міліцыя вывезла мітрапаліта на савецкую граніцу і выдала савецкаму ўраду. У Сібіры пасадзілі Нестара ў турму ў горадзе Чыта. У той самай турме аказаліся і мы пасля шасці месяцаў.

Расказвалі мне ў лагерах, што Нестар атрымаў 25 гадоў, якія адбываў перш у Сібіры, а пасля ў даўнейшым Суздальскім манастыры. Апінія вязняў аб Нестары была самая найлепшая, як аб паважным духоўніку і сімпатычным чалавеку. Аб прычыне такога гвалтоўнага арышту мітрапаліта ніхто ў Харбіне нічога не ведаў тым больш, што патрыярх не мог Нестара прызначыць мітрапалітам без згоды Савецкага Саюза. Але чаму перш паднялі яго так высока, а пасля бразнулі аб зямлю так моцна? Толькі можна сказаць, што Савецкі Саюз — гэта сфінкс XX стагоддзя: адно думае, другое гаворыць, трэцяе робіць, а чацвёртае рэкламуе… Дый такая ў іх нармальная тактыка: перш уцягнуць чалавека абяцанкамі, усё яму даравань і прыгалубіць, і даць даручэнне, каб пісаў заграніцу аб сваім добрым лёсе і працы, а пасля яго зламаць і зліквідаваць. Так зрабілі з тымі, якім пасля Другой вайны «родина простила»: атрымалі добрую работу, месца і службу, а пасля апынуліся ў сібірскіх лагерах. Бо савецкі камунізм, адкінуўшы Хрыста, прыняў праграму Маркса і Леніна, але ў практыцы трымаецца толькі тэорыі Макіявелі!

## IV

Вельмі памысна пульсавала каталіцкая місійная праца паміж кітайцамі ў Харбіне, ува ўсёй Маньчжурыі, як і ў цэлым Кітаі. Ад 1933 пачала арганізоўвацца ля Харбіна ў вялікай вёсцы другая кітайская парафія.

У каталіцкай касцельнай адміністрацыі Харбін належаў да апостальскага вікарыяту горада Гірыну. Перад самай вайной Ватыкан пастанавіў утварыць у Харбіне Апостальскую Прэфектуру і даверыў яе харвацкаму Закону Асумпцыяністаў. Ужо нават прыехала першая іхная група (7 святароў), але яны не маглі пачаць нармальнай працы з прычыны японска-амерыканскай вайны.

Лік каталікоў ува ўсім Кітаі дасягаў 5 мільёнаў, біскупаў кітайцаў было ўжо пару дзесяткаў, адзін кардынал, святароў больш за 2000.

Каталіцкая школа мела ў Кітаі выдатнае месца. Пры кожнай місіі абавязкова закладалася пачатковая школа, у якой пераважна вучылі законніцы кітайкі. У гарадох, дзе працавала большая місія, місіянеры стараліся адчыняць сярэднія школы. У Пекіне паўстаў каталіцкі ўніверсітэт, які вялі законнікі вярбісты: тут асабліва славіўся хімічны факультэт. У Цянтзіне мелі ўніверсітэт езуіты: тут быў такжа іхны музей. І ў Шанхаі мелі езуіты ўніверсітэт: тут выдатны быў медычны факультэт, астранамічная, сейсмаграфічная і метэаралагічная станцыі — метэаралогія Вялікага акіяну і басейну ракі Ян-тзэ-Кіянг. Калі пагражала бура, езуіт страляў з старадаўняй гарматы, а кітайскія рыбаловы хуценька змотвалі сеці. На адбой стралялі таксама.

Пры каталіцкіх місіях бывалі амбулаторыі і шпіталі, а такжа прытулкі для сірот. Так у Харбіне мелі шпіталь СС. францішканкі. У Шанхаі ў прытулку францішканак было не менш як 2000 дзяўчатак. Там нярэдка кітайская бедната, што мела хаты-лодкі на канале Вангпу, выкідала дзяцей нованароджаных на бераг (толькі дзяўчатак, хлапцоў ніколі не выкідаюць і не прадаюць). А СС. францішканкі раніцай падбіралі. Ведама, што такія заморышы часта-густа паміралі. Згэтуль савецкія газеты раструбілі легенду, што каталіцкія законніцы забівалі кітайскіх дзяцей. Так падобна калісьці і фарысеі абвінялі Хрыста, што бунтаваў жыдоў, калі Ён быў Збаўца ўсяго свету.

## V

Праваслаўная расейская царква таксама мела свае місіі ў Кітаі. Іхны цэнтр быў у Пекіне. Справа пачалася прыпадкова і ў дзіўны спосаб. У XVII стагоддзі кітайцы вялі вайну з царскай Расеяй і двойчы здабывалі над ракою Амурам цвярдыню Албазін. Першая аблога кончылася нічым. Другі раз, пасля доўгай аблогі, абаронцаў цвярдыні голадам прымусілі здацца. Кітайцы вельмі дзівіліся з мужнасці і стойкасці забайкальскіх казакоў і, ўзяўшы іх у палон, далі ім узнагароду: пасадзілі ля Пекіна на ўчастках, пажанілі з кітайкамі і пакінулі ім вольнасць рэлігіі. Пасля дагаварыліся з царскім урадам, і расейскі Сінод назначаў праваслаўных духоўнікаў у пекінскую албазінскую місію. У наступных пакаленнях албазінцы акітаіліся зусім, але насілі імёны Ванькаў і Міцькаў і захавалі праваслаўную веру. Нават расейская мова трымала ў іх сваю вагу, а ў цэрквах — славянская. Калі ўзнікла патрэба тлумачыць літургію і наагул царкоўнае набажэнства на кітайскую мову, пецярбургскі Сінод не працівіўся гэтаму. У апошніх часах мінулага веку выдатным дзеячам у Кітаі быў епіскап Інакенцій: ён такжа — ведамы сінагог (знаўца кітайскай мовы). Паміж іншым, ён выдаў вялікі расейска-кітайскі слоўнік.

Такім чынам праваслаўная царква залажыла свой трывалы фундамент будучай місіі ў Кітаі. Гадавалася такжа з даўнейшых албазінцаў праваслаўнае духавенства. Аднак трэба прызнацца, што праваслаўная місійная праца, хоць вялася пад апекай магутнай і багатай Расеі, не набрала размаху і ад сваёй албазінскай базы адыходзіла недалёка. А пасля рэвалюцыі 1917 г. стала занепадаць. Чаму так? Трудна на гэта адказаць. Нам здаецца, што трэба было ўзяцца за місію духавенству манаскаму або закладаць спецыяльныя семінарыі для духавенства нежанатага з назначанай мэтай місійнай. Гэтак зрадзіўся б місійны дух — агонь Хрыстовы. І яшчэ нас дзівіла, што пасля рэвалюцыі, калі масы праваслаўнага духавенства перабягалі з Расеі ў Маньчжурыю і калі шмат між імі знайшлося беспрацоўных, дык не аказалася з іх ані ініцыятараў, ані кандыдатаў да місійнай працы між кітайцамі. Узнікалі толькі ніклыя спробы, якія не далі выніку. А поле было вялікае і спелае: «жоўтая ніва» чакала жанцоў! І хоць эміграцыя наагул не была бедная, а нават здараліся ахвярныя багачы, хоць расейская эміграцыя здолела пабудаваць у Харбіне дзесяткі прыгожых цэркваў, аднак не змагла стварыць і весці інстытутаў місійных, ані нават сваіх выхаваўчых у такіх памерах, як мелі пратэстанты і мы, каталікі.

VI

Першыя праблiскі нашага ўсходняга абраду ў Маньчжурыі трэба аднесці да 1923 г. Тады перайшоў у каталіцтва адзін з найлепшых праваслаўных святароў у Харбіне, Канстантын Каронін, чалавек адукаваны, скромны і пабожны. Ніхто не мог зрабіць яму закіду, што ў такім паважным кроку кіраваўся якой непрыстойнай мэтай ці шукаў матэрыяльнай карысці. Да яго прылучыліся іншыя людзі добрай волі, і ўзнікала патрэба тварыць каталіцка-ўсходнюю парафію. Ягоным духоўным апекуном і патронам быў ягоны бацька, протаіерэй Іван Каронін, які разумеў справу лучнасці з каталіцкай царквою і спрыяў гэтай ідэі, але сам яшчэ не важыўся перайсці ў каталіцтва. На вялікі жаль, здарылася неспадзяванае няшчасце: Канстантын Каронін хутка памёр. Засталіся авечкі без пастыра. Але насенне было пасеянае і расло. І вось у пачатку 1925 перайшоў у каталіцтва прыгаданы Іван Каронін, бацька Канстантага. Ён адправіў першую ўрачыстую службу (у лучнасці з Рымам) у дзень Богаяўлення, дзень вельмі адпаведны для такое важнае справы. На набажэнства прыбыло шмат народу, пераважна праваслаўных, якія высока цанілі айца протаіерэя. Дый зноў цяжкая страта! Іван Каронін, чалавек добра стары, таксама хутка памёр: паўторна авечкі асірацелі… Аплаквалі протаіерэя каталікі і праваслаўныя. А каталіцкая група зноў шукала духоўнага правадыра. У патрэбах душы яны звярталіся да лацінскага духавенства, бо якраз пробашч касцёла св. Станіслава, прэлат В. Астроўскі, і касцёла св. Ёзафата Ант. Ляшчэвіч (беларус) разумелі і спрыялі справе злучэння цэркваў. (Увага: Ант. Ляшчэвіч, які стаў перад вайной марыянінам і працаваў у Беларусі, згінуў падчас нямецкай акупацыі ў іхнай зверскай расправе ля Віцебска, як немцы палілі нявінныя беларускія вёскі разам з людзьмі з помсты за савецкіх партызанаў.)

Пасля смерці Івана Кароніна справа ўсходняй каталіцкай царквы ў Харбіне не замерла: прылучыліся архімандрыт Мікалай Аляксееў, іерэй Захар Кавалёў (беларус) і дыякан Юры Гіц. Хутка архімандрыт Мікалай пераехаў у Шанхай, дзе таксама патрабавалі ўсходняга святара. На бяду, Кавалёў і Гіц, як людзі з невысокай навукай, не маглі самастойна весці ў такім вялікім горадзе пастырскай службы і адміністрацыі.

І вось харбінскае духавенства, лацінскае і ўсходняе, а такжа вернікі звярнуліся да Рыма, просячы святога Айца, каб прыслаў Кіраўніка для ўсходняй каталіцкай Місіі ў Кітай. Такім быў

назначаны архімандрыт Фабіян Абрантовіч з Закону Айцоў Марыянаў (беларус), быўшы рэктар каталіцкай Духоўнай Семінарыі ў Менску (1918–20), др. філасофіі, чалавек глыбокай веды, слаўны прамоўца і пісьменнік. Ён прыбыў у Харбін у траўні 1928 года параплавам з Марсіліі, праз Суэц, Сінгапур, Шанхай, Дайрэн.

Праца Ф. Абрантовіча, асабліва напачатку, была наежана калючкамі, дый ішла як па грудзе. Былі тут і праўдзівыя хрысціяне, якія шукалі хвалы Божай, але вельмі надаядалі матэрыялісты, прайдзісветы і правакатары, якія ўводзілі Кіраўніка, пакуль ён не знаў грунту, у спакусы і памылкі. Падлізы, калі не маглі Абрантовіча ашукаць, пасылалі на яго скаргі і паклёпы ў Рым. Трэба было пільна шукаць пэўных памочнікаў, якім можна было б даверыць: а тым часам людзей мітусілася шмат, а чалавека бракавала. І а. Абрантовіч прыехаў адзін і людзей на месцы не знаў нікога. Прытым меў незалечаны рэўматызм і ад пары да пары мусіў адлежваць у ложку…

Не раз а. Фабіян выказваў сваё вялікае гора ў лістох да сваёй законнай улады. Нарэшце ў 1929 прыбыў з Еўропы іерэй Дыадор Колпінскі, чалавек поўны энэргіі, адукаваны, лінгвіст, расейскі патрыёт, на няшчасце — аж загарачы! Ён стаў дырэктарам епархіяльнай школы, і здавалася, што будзе ідэальным працаўнікам. Аднак а. Фабіян не мог сцярпець усякіх ягоных недарэчных навінак і, пасля пары гадоў, хоць з вялікім жалем, мусіў яго адхіліць ад Місіі і ад школы. Пасяліў яго пры адным кляштары ў горадзе Цянтзіне разам з ягонай маткай і там выплачваў ім пенсію.

Душпастырства было ўжо больш-менш забяспечанае. Затое справа вернікаў стала занепадаць дзеля таго, што эміграцыя, а разам з тым і нашы ўсходнія каталікі, спешна пакідалі Маньчжурыю і шукалі спакайнейшага месца ў вольным свеце. Прычынай спалоху быў кітайска-савецкі канфлікт у 1929. Тады савецкія банды вялі жудасныя палёты на пагранічныя эміграцкія пасёлкі, найбольш на Трохрэчча. У пажарах, арыштах, забойствах згінула нямала людзей, а дзеці заставаліся сіротамі і туляліся бяздомнымі. Ад гэтага часу, хто не быў з Маньчжурыяй моцна звязаны, як мага ўцякалі на поўдзень!

Таксама пасля і японцы-акупанты ад 1931 яшчэ больш прарэдзілі эміграцыю, асабліва сваёй эканамічнай палітыкай.

## VII

Ахвяры, савецкіх налётаў і разгрому Трохрэчча — разбітыя сем'і, бедныя і абрабаваныя, па адным і групамі прыбывалі ў Харбін. Здараліся выпадкі, што хлапчукі без апекі, самі без білетаў даязджалі да горада і туліліся па вуліцах беспрытульна. І нямала такіх звярталася да нашай Місіі, просячы помачы і прытулку. Місія, не маючы тады сродкаў, мусіла адчыніць інтэрнаты і школы для дзяцей бяздомных і бедных. Паўсталі тры інтэрнаты-школы: епархіяльная — для хлопцаў, пасля названая «Ліцэй св. Мікалая», і для дзяўчат — СС. уршулянак і СС. францішканак. Ватыкан прыйшоў з дапамогай для гэтых харытатыўных інстытутаў. Школы мелі праграму, уложаную паводле даўнейшых гімназіяў з мовай выкладовай расейскай: выкладаліся такжа мовы ангельская і кітайская. Пры кожнай школе мы мелі капліцы-часоўні, дзе штодзённа адпраўлялася багаслужба. Апрача расейцаў пераплываў нязначны лік дзяцей іншых нацыяў — палякаў, летувісаў, украінцаў, беларусаў, немцаў, армянаў, кітайцаў, грузінаў і інш.

23 мая 1932 прыбылі ў Харбін іераманах Язэп Германовіч і брат законны Ант. Аніськовіч. Яны належалі да беларускага кляштару ў Друі, Віленскага ваяводства. Германовіч заняў месца часовага дырэктара, Аніськовіч стаў выхаваўцам у інтэрнаце. Праца пайшла буйней. Паўстала ў ліцэі мандалінная аркестра, пашыралася бібліятэка і навуковыя кабінеты. Будавалася вялікая зала і новыя класы. Такжа СС. францішканкі будавалі салідны пяціпавярховы дом у прадмесці Мадзягоў, недалёка ад ліцэя. Асабліва прыгожа прэзентавалася школа-гімназія СС. уршулянак.

У 1935 прыбыў іераманах Уладзімер Мажонас (летувіс) і ўвосені таго ж года два маладыя іерам. Кузьма Найловіч і Фама Падзява, якія тады свежа кончылі студыі ў Грэгарыянум у Рыме (беларусы Друйскага кляштару). Цяпер здавалася, што абсада Харбінскай Місіі будзе поўная, бо яшчэ прыбылі і два законныя браты — Станіслаў Баговіч і Браніслаў Зарэмба. Але Місія не магла ўсцерагчыся таксама стратаў: іераманах Я. Германовіч, зморааны працай, захварэў нервова і мусіў адысці на адпачынак. Адбыў вялікай дарогай — морам на японскім параплаве «Гаруна-Мару» да Марсіліі (31.XII.1935 — да 2.II.1936). Пасля нядоўгага адпачынку ў Рыме і ў Друі заняў месца рэктара студыяў у Вільні ў 1936–38 гадох у купленым доме для клерыкаў-беларусаў (вул. Зыгмунтоўская, № 25).

Ад пачатку 1938 пачалася вялікая нагонка на беларусаў у Віленскім ваяводстве з боку польскага акупацыйнага ўраду Рыдза-Сміглага. У рэзультаце гэтага былі выселены з Друйскага кляштару святары і клерыкі беларусы, а з Вільні а. Я. Германовіч 10.VII.1938. Прабыўшы нядоўга ў Варшаве, а пасля ў Рыме, Германовіч паўторна выехаў у Харбін і там працаваў ад 2 траўня 1939 да самага арышту — 22 снежня 1948 года.

У гэтай самай дарозе — у Шанхаі — у красавіку 1939 Германовіч атрымаў ліст ад архімандрыта Ф. Абрантовіча з Харбіна — чакаць яго: там якраз у Шанхаі меў з ім сустрэцца. Айцец Фабіян ехаў уласна ў Рым. Спатканне дало шмат радасці: Абрантовіч вёз у Рым двух сваіх клерыкаў, Андрэя Каткова і Юру Бранчанінава, на студыі ў Рым — у «Русікум-Грэгарыянум», а Германовіч ехаў з святаром французам, які такжа прабыў пры ліцэі ў Харбіне да арышту 1948. На вялікае няшчасце, Абрантовіч ужо ў Харбін не вярнуўся: яго арыштавалі бальшавікі ў Львове ўвосень 1939 года і пасля ліквідавалі. (Аб гэтым будзе шырэй ва ўспамінах.)

На месца Ф. Абрантовіча Святы Айцец прызначыў у 1939 годзе архімандрыта Андрэя Цікоту, які прыбыў у Харбін у канцы таго ж года. Цікота працаваў як Апостальскі Адміністратар Маньчжурыі і дырэктар ліцэя св. Мікалая да арышту і разгрому нашай Місіі 1948. Час быў вельмі цяжкі: вайна японцаў з Амерыкай, вайна іх з Савецкім Саюзам і савецкая акупацыя; а ў 1946 надыход кітайскіх камуністаў і іхны ўрад, а нарэшце наш арышт.

Нельга расказаць усіх нашых няшчасцяў. Ф. Абрантовіч выказаў калісьці думку, што «Місія не дасць плёну, пакуль не будзе паліта крывёй працаўнікоў». І сапраўды, ягоныя словы споўніліся надта хутка: ён сам і ягоны наступнік, Андрэй Цікота, згінулі як ахвяры бязбожнага рэжыму ў Расеі. Усе нашы школы разгромленыя, працаўнікі разагнаныя, Місія зліквідаваная… Але маем у Богу надзею, што прыйдуць лепшыя часы і прыйдуць новыя працаўнікі, якія на гэтым грунце ўзгадуюць ураджайны плён. Матка Боская, якой апека вельмі адчувалася ў нашай працы і ў нашым няшчасці, паможа ў адраджэнні гэтай святой справы. Божа памажы!

# *Частка першая*
# ХАРБІН–ЧЫТА
# (ТУРМА)

## ПЕРАД КАЛЯДАМІ

Дай, Божа, каб усё было гожа,
А што не гожа — не дай, Божа!

Зімою ў канцы 1948 г. у Харбіне разляцелася незвычайная вестка аб падзеях у каталіцкай Місіі ўсходняга абраду ў Маньчжурыі. Хоць гаворыцца, што ў Кітаі ўсё магчыма, асабліва пры камунізме, аднак такое здарэнне і на Кітай было занадта дзівоснае. А было так.

22 снежня 1948 г. а гадзіне 18-й навалілася на ліцэй св. Мікалая ў Харбіне (вуліца Стара-Харбінскае шасэ, № 78) цэлая хмара кітайскай міліцыі, схапілі ўсіх пяцёх святароў, не даючы ім нават апрануцца, ані ўзяць шапак, хоць на дварэ быў вялікі мароз і вецер, налажылі кайданкі на рукі, завязалі вочы, усадзілі ў аўтобус і павезлі ў вязніцу.

Паўстаў перапалох ува ўсім еўрапейскім Харбіне, бо час быў наагул неспакойны. Хатнія жыхары ліцэя пабеглі да кітайскіх урадоўцаў пытацца аб сваіх забраных. Аднак кітайскія камуністычныя ўлады аднекваліся зусім:

— Нам, — яны казалі, — нічога няведама. Наша не знай, наша не касайся! Мусіць нейкая чорная банда ўкрала вашых? А вы шукайце іх самі.

Яны таксама абяцалі шукаць. Пасля сталі зводзіць рознымі выкрутасамі, аж урэшце накіравалі пошукі ў паўдзённым кірунку, на горад Цянзін. Так, паводле ведамай у камуне тактыкі, блыталі ясныя факты на працягу шасці-сямі тыдняў… А тым часам ужо назаўтра пасля арышту кітайская міліцыя вывезла нашых арыштаваных на захад — з станцыі Стары Харбін, праз горы Вялікага Хінгану, на савецкую граніцу і там 25.XII.48 выдалі савецкай дэлегацыі, якая павезла іх у Сібір і пасадзіла ў ваенную турму ў горадзе Чыта.

У гэтай украдзенай групе было трох святароў беларусаў:

1) Архімандрыт Андрэй Цікота, які ад 1939 г. быў у Харбіне Апостальскім Адміністратарам на ўсю Маньчжурыю і дырэктарам ліцэя св. Мікалая. А перад тым ён быў закладчыкам беларускага кляштару ў Друі, Віленскага ваяводства (1923). У гадох 1933–39 быў генералам закону Айцоў Марыянаў у Рыме. Радзіўся ён ў маёнтку Тупальшчына, Свянцянскага павета, 5 снежня 1891. Хрышчаны ў касцёле ў Жодзішках. Уступіў у Духоўную Семінарыю ў Вільні ў 1909, 3 кастрычніка. У 1913 г. пасланы ў Духоўную каталіцкую Акадэмію ў Пецярбурзе, якую скончыў у 1917. Уступіў у Марыяны 1 верасня 1920. Прызначаны пробашчам і Суперыёрам у Друі 23 красавіка 1924.

2) а. Язэп Германовіч. Радз. 4 сакавіка 1890 у м. Гальшаны, Віленскае губ. Вучыўся разам з а. Андрэем Цікотам у Віленскай Дух. Сем. Уступіў да Айцоў Марыянаў 15 жніўня 1924 і некаторы час быў магістрам навіцыяту і настаўнікам у Друйскай гімназіі. Выехаў у Харбін у 1932, але ў 1936 прыязджаў у Еўропу на лячэнне і ў міжчасе быў прэфектам Дому Студыяў друйскіх клерыкаў беларусаў. У 1938 ён быў выселены з Вільні польскім урадам і хутка пасля гэтага яго заклікалі паўторна (праз Рым) у Маньчжурыю. Там працаваў выхаваўцам у інтэрнаце пры ліцэі, а ў канцы — віцэ-дырэктарам і заступнікам адміністратара.

3) а. Тамаш Падзява. Радз. у 1906 г. у в. Пярхулева, Друйскае парафіі; скончыў гімназію ў Друі, філасофію і тэалогію — у Рыме у Грэгарыянум. У 1935 прыехаў у Харбін, дзе працаваў выхаваўцам і прэфектам у ліцэі, а таксама прэфектам СС. уршулянак у іхнай гімназіі ў Харбіне.

Варта заўважыць, што два законныя браты марыяне (Ст. Баговіч і Бр. Зарэмба) арыштаваныя не былі. Законныя сёстры, уршулянкі і францішканкі, засталіся такжа вольныя. Але школу і інтэрнат уршулянак (130 дзяўчат) і школу з інтэрнатам францішканак (180 дзяўчат) камуністы разагналі і ўсіх законнікаў выгналі з іхных дамоў. Гэтыя законніцы доўгі час туляліся па Харбіне і ў Кітаі без сродкаў да жыцця, пакуль дасталі магчымасць выехаць у Еўропу ці Амерыку. Ліцэй св. Мікалая адразу пасля арышту айцоў быў разагнаны (220 вучняў, з гэтага ў інтэрнаце 150), а браты Баговіч і Зарэмба толькі пасля пару гадоў маглі прыбыць у Рым.

Разам з айцамі марыянамі былі арыштаваныя два свецкія святары:

а. Павал Шалей — француз, які прабываў у Харбіне пры ліцэі ад 1939 г. і а. Павал Партнягін — расеец, які быў у Харбіне ад 1935 г. і выкладаў у ліцэі расейскую літаратуру.

Апрача гэтых пяці святароў былі арыштаваныя два свецкія настаўнікі:

Віктар Уласаў — расеец, настаўнік гісторыі і доўгагадовы сакратар ліцэя і Пятро Марчышын — украінец, матэматык, высока цэнены ў Харбіне. Яны абодва — каталікі ўсходняга абраду.

Да групы нашых арыштаваных далучылі ў вязніцы незнаёмага паляка Лянкоўскага. Нашыя ўважалі яго за падстаўленую асобу-наглядчыка, бо аб сабе ён гаварыў дужа няясна. Аднак вёў ён сябе ціха і скромна і, магчыма, што ніякага таемнага даручэння супраць нас не меў, а быў так як і мы ахвяраю рэжыму.

*

Нашая Місія і школа існавалі ў Харбіне ад 1928 г. У гадох 1945–48 мы працавалі пры ўладзе бязбожнага ладу, дык было вельмі лёгка перахіліць працу ў фальшывы бок. Пагрозы плылі ад ворагаў, а недарэчныя рады надыходзілі ад прыяцеляў. Бо ў тым часе ў Харбіне было агульнае перакананне, што мы павінны ліцэй зачыніць самі. Нам казалі:

— Не стрымаеце размаху рэвалюцыі, замыкайцеся!

Але мы трымаліся далей, хоць і прачувалі, чым усё скончыцца. На нашым хлебе і пад нашаю рэлігійнаю апекай было больш за 500 дзяцей. Вучні былі пераважна дзеці эмігрантаў з даўнейшай царскай Расеі і з Савецкага Саюза. І ўсіх, хто прыходзіў у Місію, мы, паводле магчымасці, прымалі, кармілі і гадавалі на людзей у Хрыстовым духу. Ці каму было шкода або небяспечна, што дзіця, часта беспрытульнае, у нас расце пад апекаю і даглядам, каб стацца добрым чалавекам і карысным грамадзянінам? Так нашая Місія ператрывала 20 гадоў, вельмі цяжкіх, а ў канцы трывожных: найперш пры старой кітайскай уладзе, ад 1931 — пад японскай акупацыяй, якую ў 1945 замяніла савецкая акупацыя. А пасля паўгода Харбін занялі кітайскія камуністы. І мы далей трывалі пры іх.

Паміма кантролю ўспомненых уладаў, ніводная з іх не магла знайсці прычыны, каб да нас прычапіцца. І нават савецкае НКВД, хоць страшэнна прыдзірлівае з натуры, а і тое нас не зачапіла! Дый мы самі не хаваліся ад кантролю, а нашае Стара-Харбінскае шасэ ёсць аднэй з галоўных вуліцаў горада. А побач нашага дому ў 1945 меў сваю кватэру маршал Савецкага Саюза Маліноўскі, які часамі цікавіўся і выпытваў нашых людзей аб школе. Пасля ягонага адыходу тут пражываў, як называлі, «важны маскоўскі генерал». Значыць наш ліцэй трапляў пад зыркае вока савецкай

улады. І толькі адзін з нашых настаўнікаў А. быў кліканы на допыты. Яго прытым білі на савецкім следстве спецыяльнай каўбасой з пяску. Аднак савецкі следчы яго звольніў. Нам здавалася, што няшчасны настаўнік А. не быў ублытаны ў ніякую палітычную работу: знаў ён толькі сваю хату і нашую школу. А я вельмі дзівіўся: за што яго дарэмна мучылі? Але я тады не разумеў сталінскай логікі, а яна дужа цікавая. Вось як Савецкі Саюз разумее шпіёнства:

— Калі хто мог бы быць шпіёнам, дык ён не можа ім не быць.

— А калі не можа ім не быць, значыцца, ён ім ёсць!

— А раз ён ім ёсць, дык яго адразу трэба арыштаваць і на допытах ён павінен прызнацца да шпіёнства.

— Калі прызнаўся сам, дык ён начыста выйграў: ён дастае нармальную кару ад 10 да 25 гадоў.

— А калі сам не прызнаецца, дык следчы павінен яму «памагчы» прызнацца.

А ў гэтым кірунку яны маюць выробленую практыку, у якой нявінных даводзяць да таго, каб паслушна прызналіся да віны.

— А калі б хтоператрываў усю савецкую інквізіцыю і не прызнаўся, дык суд або «ОСО» і так яго пакарае, а можа, нават абвастрыць кару за ўпартасць.

Але следчы можа часамі ўпартага пакараць сам і пасля яго звольніць. Такія выпадкі звальнення хоць і рэдка, але здараюцца, калі суддзя мае яшчэ крышку людскога сумлення. Наш настаўнік А. якраз шчасліва на такога трапіў. Дзеля таго, што А. быў настаўнікам ангельскай мовы, значыць, паводле савецкай праграмы, «не мог не быць ангельскім шпіёнам» і мусіў затое добра пацярпець. А. працаваў у нас некалькі гадоў: ён быў украінец, чалавек салідны, сумленны і выдатны педагог.

Дырэктар ліцэя архімандрыт Андрэй таксама быў у руках харбінскага НКВД, але допыт трываў коратка і яго звольнілі, і нават яго не білі! У Харбіне вельмі з таго людзі дзівіліся, а мы бачылі ў гэтым здарэнні вялікую Божую ласку. Тады ішло ў Маньчжурыі быццам паляванне на людзей, і сам назоў НКВД харбінцы тлумачылі: «не знаю, калі вярнуся дамоў».

Падчас свайго кароткага прабывання ў Маньчжурыі бальшавікі павывозілі адтуль нямала людзей, якіх называлі японскімі шпіёнамі, нават арыштавалі некаторых праваслаўных святароў. А нас так яны, як і пасля кітайскія камуністы, не чапалі і цярпелі аж тры з паловаю гады!



У гэтым часе пачаў да нас часта заходзіць наш былы вучань-кітаец Лі-Га-Дун, які перад пару гадамі быў выдалены з нашае школы. У мяне заўсёды закрадалася падазрэнне, ці не будзе ён помсціць за выключэнне з ліцэя? Бо кітайцы дужа злапамятныя: кітаец паганін, нават за маленькую крыўду, хоць быў бы ў вочы найлепшым прыяцелем, можа страшэнна памсціцца і за дваццаць ці трыццаць гадоў. Праўда, нашая нязручнасць да Лі-Га-Дуна была загладжаная: хлапец вырас і з намі зносінаў не зрываў: а цяпер прыставаў да нас тым больш, а можа, і тым горш?..

У дзень св. Андрэя былі імяніны нашага дырэктара. Свята прайшло так сімпатычна, сабралася гасцей, і бацькоў і даўнейшых ліцэістаў — стварыўся такі прыязны настрой, што аж прысутныя людзі гаварылі з дзівам:

— Мусіць, нешта з ліцэем будзе? Так усё складалася прыгожа, што аж страшна… Хай Бог сцеражэ!

У школе праца ішла згодна і натужна, а нават і найменшыя хлапчукі вучыліся спакойна і старанна. Надыходзілі Каляды, якіх аднолькава чакалі мы ўсе.

А на дварэ поўная зіма: асаблівая зіма, маньчжурская. Трываў передкалядны куслівы мароз з праніклівым ветрам, і было зусім мала снегу. Вечарамі мароз даходзіў да 30 і больш градусаў. Хмары на небе з’яўляліся рэдка: яны былі пушыстыя і празрыстыя, дый хутка праляталі па небе, як баязлівыя птушкі. А часам яны зніжаліся і сыпалі сухім снегам. Сярдзіты віхор насіў той снег, падкідаў яго высока, аж шалеў з ім, пакуль, пусціўшы на зямлю і пакачаўшы па палёх, не загнаў яго ў равы і каўдобіны. Снег у сярэдняй Маньчжурыі не закрываў зямлі — аж голыя праталіны адубелага грунту трэскаюцца на марозе. Зімою тут адлігі няма. Сонца тут заўсёды «зіркатае»: свеціць яскрава і прыкра для непрывычнага еўрапейскага вока, але хоць багата рассыпае свае праменні, зімою не мае сілы перамагчы ні марозу, ні ветру.

Еўрапейцы кажуць, што тутэйшае яскравае сонца і пясок, які вецер наганяе з пустыні Гобі, а таксама пыл з мясцовага глiністага грунту прычынілі азіяцкую касавокасць. Але папраўдзе яны зусім не касавокія, а маюць прыжмураныя павекі, і гэтак натура бароніць іх ад слепаты. І вось падчас такіх вятроў, калі цэлыя хмары пылу закрываюць сонца, тады еўрапейцы баяцца выходзіць на вуліцу, а выходзячы, прыкрываюць вочы

рукамі, а кітайцы і японцы ходзяць спакойна. Толькі японкі ў сваёй даўгаполай квятчанай вопратцы з шырокімі рукавамі, бывала, смешна хістаюцца на ветры, як дзівосныя матылькі.

Гэткі вечар асабліва мне памятны, бо якраз такою парою нас арыштаваных выводзілі з ліцэя.

## ЯК НАС УКРАЛІ

Крадзеш, крадзеш…
Куды ты мяне завядзеш?!

Паводле ўсходняга абраду каталіцкае царквы 9/22 снежня святкуецца Непарочнае Зачацце Дзевы Марыі. У нашай ліцэйскай царкве ў гэты дзень служыў літургію архімандрыт Андрэй. Ягоная паважная фігура, глыбокі бас, павольны меладыйны спеў, патрыяршая барада, а перадусім шчырая пабожнасць — заўсёды пабуджалі народ да развагі і малітвы. Навуку ён тады гаварыў з моцнай аргументацыяй, з пераканаўчымі прыкладамі, аб згодзе веры і розуму, аб любові Божай да людзей, аб магутнай Заступніцы Маці Божай да нас грэшных і слабых.

Пасля Службы Божай айцы Місіі запрасілі настаўнікаў на абед. Усё прайшло выняткова ціха і па-сямейнаму. Пасля абеду ўсе як мурашкі разышліся да сваіх абавязкаў. Вучні па класах рыхтавалі свае перадкалядныя лекцыі. Я агледзеў усе класы: выхаваўцы былі на сваіх становішчах, а вучні пры сваіх занятках. Гэтым разам не трэба было ні сварыцца, ні падганяць — я аж здзівіўся! — і мог спакойна ўцячы ў свой кут на трэцім паверсе дома.

Цікавая спасцярога: людзі часта лепш прадчуваюць далейшую бяду, як самую блізкую. Няшчасце вісіць на валаску, а чалавек не ведае і не трывожыцца ні ўва сне, ні на яве. І якраз перад бядою чалавек смагла спіць, спакойна працуе або забаўляецца — і раптам наляціць катастрофа, і гэтакі бяспечны чалавек апынецца на Божым судзе! Так, сапраўды, «мы не ведаем ні дня, ні гадзіны». Часам нават людзі як бы наўмысна мабілізуюць усе свае сілы і вельмі спяшаюцца, каб трапіць у самую пару і якраз на тое месца, дзе ім трэба будзе згінуць… Дзіўная тайна Божага Правіду! І тады так было са мною.

Калі я праходзіў міма канцылярыі дырэктара, убачыў на калідоры грамаду кітайскай міліцыі. Яны затрымалі мяне і загадалі адразу клікаць па спіску ўсіх святароў ліцэя. Як кажуць у нас у Беларусі, справа была «простая як абаранак»: адразу

было ясна, зачым прыйшла міліцыя. І я цяпер дзіўлюся сам сабе, чаму я тады не дагадаўся? Чаму не перасцярог другіх? Бо наш француз, чалавек зручны да ўсяго, мог бы ў той момант змыліць кітайцаў і не дацца ім у рукі, а другія святары маглі б хоць адзецца на дарогу… Але я быў зусім спакойны, быццам заваражаны ці пад гіпнозам. Ці, можа, сам Бог дапусціў на мяне ў тую фатальную мінуту такое дзіўнае засляпенне?

Сабраліся мы ўсе ў дырэктара. Тады старшыня міліцыі стаў чытаць па-кітайску з паперыны нейкі «дакумент», а другі кітаец пачаў гэта перакладаць на расейскую мову. Мы ўважна слухалі, але нічога не зразумелі ні па-кітайску, ні па-расейску. Пачалі мы іх пытацца, у чым справа? Кітайцы нам тлумачылі аб нейкіх «благіх людзях», якія мелі ў нас жыць. Але з іхняга выяснення нам стала яшчэ цямней.

Толькі цяпер, пасля следства, пасля турмы і лагераў, я разумею, чаму тады нам чыталі тую непатрэбную паперу. У камуністаў ёсць прынятая практыка, каб усё рабіць легальна; але ў практыцы ўсё робіцца толькі фармальна. І тады кітайцы нам маглі б растлумачыць зразумела, аб што ішло, бо між імі быў успомнены перш наш калішні вучань Лі-Га-Дун, які гаварыў па-расейску даволі добра. Але ён маскаваўся, каб яго не пазналі; а для самой міліцыі было патрэбна толькі прачытаць «дакумент», а зусім непатрэбна, каб мы яго зразумелі.

І вось раптам я зразумеў усё! Мяне схапілі пад рукі два дужыя міліцыянеры, крэпка сціснулі і пачалі выводзіць. Я стаў вырывацца і крычаць:

— Адзецца! Дайце адзецца! — але мяне ўжо вялі па сходах на двор і адтуль праз пляц на другі бок вуліцы і пасадзілі ў аўтобус. Хутка прывялі туды ўсіх іншых нашых святароў. Памятаю, што вуліца была зусім пустая; мусіць, рух быў скіраваны на бакавыя вуліцы. Нам надзелі кайданкі, першы раз у маім жыцці меў я гэткую «аздобу». Тут жа нам усім завязалі вочы; затое цяпер прасвятлелі вочы мае на душы. Я стукнуў локцем суседа і зашаптаў:

— Нас пэўна расстраляюць…

Усе іншыя былі той самай думкі, што кітайцы павязуць нас за горад на расстрэл: мы цішком маліліся, узбуджалі жаль за грахі і таемна давалі сабе наўзаем разграшэнне.

А пакуль там мела быць што другое, да мяне пачаў дабірацца мароз так, што я забыўся аб усёй небяспецы; аднак я не мог бараніць ані вушэй, ані носа, бо меў скованыя назад рукі. Мароз

ужо залез за каўнер і прыставаў да спіны. Я аж дрыжэў і прасіў сяброў, каб прыцiснуліся да мяне. А здаецца, калі вязуць на расстрэл, дык трэба думаць аб смерці і няма ніякай патрэбы дбаць аб мароз і прастуду… Так-то так, але мароз кусае як сабака!

Наш аўтобус імкліва нёсся вуліцамі і моцна падскокваў на каўдобінах. З гарадскога шуму я разумеў, што мы былі яшчэ ў горадзе. Раптам забубніў пад намі мост; гэта азначала, што мы ехалі праз палатно чыгункі ў цэнтральны Харбін. Куды ж нас вязуць? Мае думкі блытаюцца, рвуцца на кускі, і ў душы творыцца кашмар. Прабую маліцца, але гэта мне ніяк не ўдаецца. Прыцярпеўся я да холаду і да кайданкоў на руках. Думаў сабе: а як жывуць людзі, што маюць спаралізаваныя рукі, або страцілі рукі на вайне, або чакаюць расстрэлу ў турме на працягу доўгіх месяцаў?

Аўтобус затрымаўся. Нам развязалі вочы. Цёмна. Мы былі перад мала асветленым двухпавярховым домам у цэнтральным Харбіне. Нас павялі на другі паверх і ўпусцілі ў пусты пакой з двума вокнамі ды загадалі сесці на падлогу паўкругам, вачыма да дзвярэй. У дзвярах было акенца, а на калідоры пры ім сядзеў наглядчык і зараз закрычаў на нас:

— Шухуа-пусін! Гаварыць нельга!

За пару хвілінаў увапхнулі да нас нашага крываногага сакратара, Віктара Уласава, змучанага да паўсмерці. Мы яго падхапілі пад рукі, каб не паваліўся і асцярожна пасадзілі ў свой паўкруг. Праз якіх пяць хвілін увялі да нас Пятра Марчышына, нашага настаўніка матэматыкі, украінца. Паглядаем, можа, яшчэ ўвядуць каго, але больш не было нікога. Тым часам, нягледзячы на «шухуа-пусін», Уласаў так-сяк расказаў, як міліцыя разламала ў іх вакно, як яго перавалаклі праз вакно ў аўтамабіль і, разумецца, разбілі яму акуляры. А ў ягонай хаце застаўся лямант жонкі і дачкі. Тут кожны з нас пачаў гаварыць сваё, але наглядчык так сярдзіта нам прыгразіў, што мы замоўклі надоўга.

Дырэктар пачаў маліцца і мы, як хто патрапіў, гаварылі свае вячэрнія пацеры. Кажуць, мора асабліва настройвае да малітвы. І праўда: я калісьці ехаў японскім параплавам 33 дні, і мора пабуджала мяне да гарачае малітвы. Асабліва ўначы, калі зоркі мігцяць, быццам моляцца Стваральніку, Які іх выпусціў на вольны прастор і мільярды гадоў пасе іх і даглядае, тады і чалавек моліцца разам з імі. А мора калыхалася спакойна, уздыхала глыбока і шаптала пранікліва сваю адвечную малітву. Прасторы пялі гімн славы: «Багаслаўце зоркі нябесныя Госпада; мароз

і спякоту; моры і рэкі; багаславіце духі і душы справядлівых, Госпада!»

А мы былі замкнёныя і няпэўныя жыцця ў руках несправядлівых і бязбожных людзей: аднак не вырвуць яны нас з рук Божых! Ніадкуль не бачым ратунку, як толькі ад Бога. І нашая малітва стаецца жывою, дзіцячай гутаркай і благаннем да Бога, і яна ўлівае жыватворчы бальзам у нашыя сэрцы. Немагчыма зразумець, як пакрыўджаныя людзі трываюць без веры і малітвы?

Надышла пара спаць. Вячэры нам не далі, ды мы і не пыталіся, бо зусім аб ёй забыліся. Наглядчык крыкнуў, каб мы палеглі: ад гэтага часу мы пачалі рабіць усё па крыклівай, але, зразумела, планавай камандзе. Палеглі мы як сядзелі, на голай падлозе: нам было дужа выгодна, бо не трэба было ні раздзявацца, ні пасцілацца. І вось тут пачалося маё дзіўнае «шчасце ў няшчасці», якое верна са мною хадзіла і ходзіць да гэтага часу. Я быў у хатняй найлягчэйшай адзежы і ў начных пантофлях: да таго я недамагаў злосным малакроўем і з усіх там прысутных я быў найстарэйшы гадамі. Значыць, ужо тая першая ноч на голай падлозе магла мне прычыніць запаленне лёгкіх, а можа, і смерць… Толькі адзін наш архімандрыт Андрэй змог падчас арышту адапхнуць міліцыю і схапіць сваё старое, але цёплае футра. І вось дырэктар ляжаў на падлозе якраз ля мяне; ён быў магутны і меў шыракаполае футра, а я ляжаў пры ім малы і зусім неакрыты. Лёг я плячыма да дырэктара на правым крысе ягонага футра, а другім крысом ён накрыў мяне зверху, ну і я грэў цяпер свае плечы пры ягоным сэрцы і пачуваўся, «як у Божанькі за печчу». Хоць я не заснуў на момант, але адагрэўся зусім і адпачыў ад усяе турбацыі. Усе нашыя не спалі таксама, акрамя Пятра Марчышына, які ўсю ноч хроп громападобна. Перажыванне нашае было дужа цяжкае, а прышласць грозная, дык сон нас не імаўся. Мае думкі плылі, як вада ў рэчцы, і ноч мне не здоўжылася…

Як стала развідняцца, мы пачалі шаптацца. Адазваўся і Пятро Марчышын. «Як вам спалася?» — нехта спытаўся ў яго. «Які там сон, — кажа Пятро, — не здрамнуў я ні на мінутку». Тут між намі бухнуў такі смех, што не памагло і кітайскае «пусін». На той момант мы забыліся аб усёй трагедыі, бо на сцэну выступіла камедыя першага класа. Сам жа герой гэтае драмы, Марчышын, паглядаў то направа, то налева і не ведаў, з чаго усе смяюцца. І кітаец дзівіўся праз фортачку, з чаго мы смяёмся; думаў, што пры рэвалюцыйнай уладзе смяяцца нельга. Аж і пачаў крычаць на нас з усяе сілы.

Па праграме рэвалюцыі мы ўсталі і насупіліся таксама, як і наш прыганяты. Цяжкія думкі замуцілі наш першы так добра пачаты турэмны дзень. І думалася: «Што яны хочуць з намі зрабіць?»

## ПАЕХАЛІ…

> «Ехаць, дык ехаць», — сказаў папугай, калі кот цягнуў яго за хвост.

Падзеі пачалі разгортвацца хуткім тэмпам; вось нам даюць мыцца, хоць не маем чым выцірацца; вось нам загадваюць пераціраць пакой і піць кітайскі «чха» — значыць гарбату. Цукру не далі, але затое кожны дастаў кусок хлеба і кітайскі агурок — доўгі, тонкі, цвёрды і без ніякага смаку. Пасля загадалі нам парамі рабіць спацыр у гэтым самым пакоі. Наглядчык пільнаваў парадку з гадзіннікам у руках, а мы маглі адпрастаць свае старыя косці. Мая пара быў Пятро Марчышын. Гаварыць можна было толькі сцішка.

— Дай, — кажу яму, — будзем развязваць заданні.

— А якія?

— Множыць, — кажу яму, — адзінаццаць на адзінаццаць, дванаццаць на дванаццаць і гэтак далей.

І вось як уцягнуліся мы ў задачы, дык дайшлі да 25 на 25. І ніхто не мог нас уціхамірыць, толькі як кітаец крычаў мацней ад нас, мы тады крышку сціхалі.

Абед: гарачая вада, хлеб і агурок. Вячэра — таксама, толькі чамусьці была падана зарана.

— Мусіць, будзе нешта новае? — гаворым між сабою.

Дзеля духовае бяспекі адбываем акуратную споведзь з прыгатаваннем і малітваю. Якое шчасце, што мы можам спавядацца і спавядаць! І якраз скончылі ў самую пару, бо пачалася вострая рэвізія. Я быў спакойны, што нічога не маю, але знайшлося… Забралі ў мяне гадзіннік, ружанец, пояс, шнуркі, насоўкі, усякую дробязь з кішэняў і адрэзалі металёвыя гузікі. Так зрабілі з нас сапраўдных пустэльнікаў. Усё забранае акуратна запісалі і абяцалі звярнуць, бо такі парадак уведзены ад пачатку савецкай рэвалюцыі. Аднак я ніколі не чуў, каб у турме ці ў лагеры было што-колечы звернена і сам, потым выйшаўшы на свабоду, нічога не атрымаў. Але закон трэба спаўняць, праўда, толькі на словах.

Зараз пачалі нам выдаваць на дарогу кітайскую вопратку. І трэба ж было такога здарэння, што я быў ля самых дзвярэй:

мне наглядчык даваў ватаваную вопратку: каптаны і порткі, каб я перадаваў іх сябрам, якія адразу і апраналіся. Але на нас сямёх чалавек далі толькі чатыры камплекты вопраткі. Дырэктар, маючы футра, не патрабаваў дадатковае вопраткі; Партнягін дастаў толькі порткі, а я сам — малую дзіцячую коўдрачку. Закінуў я яе на плечы і так быў добра «абяспечаны», каб замерзнуць у дарозе. Вечар быў вельмі халодны, але Бог абяцаў сцерагчы таго, хто Яму даваяраецца.

— Выходзьце! — пачулася каманда.

На двары цёмна. На небе ажыўлена мігцяць зоркі, мусіць і ім сцюдзёна? Мароз большы, чым учора, толькі ветру няма. Чэпімся на грузавік і сядаем на голым умёрзлым памосце. Кітайцы скручваюць нам рукі назад і накладаюць кайданкі. Нам загадалі легчы і накрылі брызентам. Не можам нічога бачыць.

— Што гэта значыць? Куды павязуць? Ці не на расстрэл за горад? — трывожна шэпчам між сабою.

Нашы нервы напружаны. Я малюся. Думаю аб смерці; але і ў аблічы смерці прыходзіцца думаць аб даймаючым марозе. Мерзну ў плечы, бо мая коўдрачка не грэе, я не магу ёю абтуліцца, бо мае рукі скаваны за спіною. Кручуся я, аж дзівяцца сябры, бо чалавек апрануты голага не разумее.

Нас везлі далёка і доўга. Гарадскі шум даўно скончыўся, і было нам ясна, што мы ўжо далёка за Харбінам. Нарэшце аўта спынілася, і кітайцы знялі з нас брызент. Бачым, знаёмая станцыя: Стары Харбін, 4 км ад горада. Цяпер мы змеркавалі, што нас павязуць у Сібір. Адразу палягчэла на душы, хоць мы ведалі, што і там нас не чакала воля.

Наш вагон быў таварны; у палавіне вагона былі верхнія нары, на якіх размясціўся наш канвой. Нас загналі пад нары і пасадзілі на голым памосце. З-пад падлогі і ад сцен цягнула праніклівым холадам. Два канвойныя міліцыянеры дзяжурылі перад нарамі пры печцы і пільнавалі нас. Мы сядзелі радком пры сцяне з закаванымі рукамі на спіне. Я стараўся прывыкнуць да холаду, але ніяк не прывыкалася. Кітайцы шчыра хадзілі каля печкі: як напаляць — робіцца цёпла, а маім апраненым сябрам нават горача, а мне ў самы раз. Як печка астыне, дык я стыну яшчэ хутчэй — і ў ногі, і ў калені, і ў плечы. Ведаю, якая доўгая дарога да сібірскае граніцы, і прачуваю, што не будзе мне ратунку; не вытрываю і першае ночы. Дык, можа, было б лепш, каб мяне адразу расстралялі? Але на ўсё ёсць Божая воля… І вось зараз выявілася, што мне не суджана было згінуць. Мой левы сусед-француз сказаў мне паціху:

— Мае аковы раскаваліся, толькі трэба маўчаць.

Я непамерна здзівіўся і пачаў пальцамі длубаць свае кайданкі, але яны, праклятыя, ад гэтага сціскаліся яшчэ горш. Француз то адмыкаў, то замыкаў свае аковы, толькі сцярогся вачэй канвойнікаў. Я лічыў, што французу здарылася вялікае шчасце, але хутка пераканаўся, што ў гэтым было яшчэ большае маё шчасце, бо цяпер ён абтуляў мяне маёю коўдрачкаю, як малое дзіця. Так я патроху пачаў адаграваацца.

Пачало змяркацца. О, як доўга цягнулася гэтая пакутная пякельная ноч! Маё палажэнне было падобнае да таго, якое апісанае Дантэ ў адной з сцэнаў «Пекла», дзе асуджаныя западаюць штораз глыбей у мёрзлае возера. Галава балела невыносна; мяне марыў сон, але холад не даваў заснуць. Я прытуляўся да дырэктарскага футра, але дырэктар не мог мне нічым памагчы, бо сам меў звязаныя рукі, а прытым спаў. І спалі ўсе арыштаваныя, апіраючыся адзін на другога. Спаў такжа канвой каля астылае печкі. Я ж заснуць не мог.

Ноч плыве далей — позняя, марозная, ветраная. Сібірскі вецер хоць не бушуе, як у нашай Беларусі, але чуецца яго тужлівы посвіст, быццам ён прасіўся ў хату. Нарэшце даўжэзная ноч, якой, здавалася, не будзе канца, пачала бляднець; пачало працэджвацца слабенькае святло і ноч шарэла. Але вельмі ж паволі для мяне надыходзіла світанне. Кітайцы паспешна запальвалі печку. Яны, хоць маладыя і здаровыя, хоць цёпла апранутыя і маглі рухацца, у гэтую халодную ноч моцна перамерзлі. Як я пераажыў — проста дзіва!

Канвойныя пачалі пускаць нас паадзіночна за сваімі патрэбамі, здымалі на гэты час кайданкі, але прытым крычалі: «Хутка, хутка!» Але тут мае нервы адмовіліся ад службы. «Па малому» ў мяне не пайшло, а кітаец крычаў ззаду: «Твая, скарэй!» Тым часам у мяне была поўная забастоўка. Спужаліся ўсе нашыя і таксама кітайцы. Ім трэба было ўсіх нас цэлых давезці да граніцы і дастаць за «людскі тавар» — «чэна» — грошы. Калі б хоць адзін з нас у дарозе адпаў, дык быў бы непрыемны скандал і асабістая адказнасць канвою. Я сам спужаўся найбольш, бо тут не было ані доктара, ані лякарства. Стаю, чакаю… Прайшло можа мінут з пятнаццаць. І вось як канвой перастаў крычаць і як я крыху супакоіўся, дык і бяда паволі прайшла. Затое канвой не наклаў мне кайданкоў. Калі ж пасля абеду хацелі мне зноў іх налажыць, я скарыстаў з свае хваробы, пачаў крычаць і ўпірацца — кітайцы махнулі рукамі, і я далей ехаў раскованы.

Бо ў Кітаі такі парадак: хто мацней крычыць, той мае больш шансаў ці ў судзе, ці ў гандлі. Дык і я крычаў:

— Пу-ё (не трэба). Мая бальной, твая мамандзі (ты пачакай)!

Цяпер ужо я мог свабодна атуляцца, грэць рукі і расціраць вушы, а так жа памагаць скованым сябрам.

Так мы даехалі да гораў Вялікага Хінгану, падняліся праз ведамую Пятлю да тунэля (тут, ідучы пад гару, цягнік робіць поўны круг на пяць кіламетраў). Хінган — гэта найпрыгажэйшае месца ў Маньчжурыі. Горы цягнуцца ад ракі Амур на поўдзень да Манголіі, дзе памалу зніжаюцца і расплываюцца ў мангольскіх стэпах. Ведамыя на ўсім свеце Маньчжурскія сопкі, дзіўныя высачэзныя цукровыя галовы, калісьці сіметрычна вытачаныя ў няведамым геалагічным варштаце, стаяць паасобку або парамі. Часам конус бывае раўнюсенька зрэзаны пры сваім чубе. Асобна стаіць старадаўні выгаслы вулкан і, хоць цяпер нічым не пагражае, дык сваёю вонкаваю формай пужае турыстаў. Я калісьці (у 1935) хадзіў па горах гэтага Хінгану цёплым летам, калі прырода была ў поўным расцвеце. А цяпер я галодны, прастуджаны і не спаўшы дзве трывожныя ночы, быў замкнёны ў халодным вагоне, і не быў здатны аглядаць і дзівавацца з Мудрасці Божай у цудах прыроды, бо трэба было дзівіцца з адваротнага — з «цуду» людское дурнаты, што людзі трацяць толькі сілы, часу і грошай, каб без ніякае для сябе карысці здзекавацца са свайго слабейшага бліжняга.

Цягнік хутка праляцеў Хінган і ўглыбіўся ў мангольскія стэпы. Перагоны між станцыямі былі вельмі вялікія. На змену стэпаў прыйшла Маньчжурская тайга-пушча. На адной невялічкай станцыі ў тайзе нас адчапілі і пакінулі на бочнай лініі, а цягнік паляцеў далей. Мы доўга стаялі ў хваёвым лесе. Часць канвойных кудысьці пайшла, а мы дагадваліся і спрачаліся, чаму нас затрымалі, і, не хочучы, узбіліся на думку: ці не капаюць у лесе для нас магілы? Вось жа за два дні мы ўжо трэці раз стаялі перад грознаю дагадкаю. У лесе мы чакалі да познага вечара 24.XII.1948 г. Гэта быў Святы Вечар — перадкалядная куцця ў Беларусі. Увесь хрысціянскі свет азначаў гадавіну нараджэння Божага Дзіцятка, Князя супакою і Збавіцеля змучанага людскога роду. «Прыйшоў да сваіх, а свае Яго не прынялі» (Іаан І, ІІ).

Але аб Калядах — аб гэтай святой памятцы і вялікай падзеі — я не мог свабодна думаць. Навалілася новая бяда. Мае ногі так адубелі, што нельга было вытрываць. Тут я зарызыкаваў і бокам пасунуўся да печкі. Мае сябры стрывожыліся і пачалі на мяне сыкаць іківаць.

— Не лезь! — Самыя кітайцы збаранелі, бачачы маю смеласць; але я ўжо грэў ногі пры печцы і здабытую пазіцыю трымаў моцна.

— Чаго вы баіцеся! — сварыўся я на сваіх.

— Не трэба іх дражніць, — перасцерагалі мяне.

— А вы, — кажу, — не дражніце мяне, бо вы маладыя і апранутыя, а я стары і голы.

Мне здавалася, што каб мы былі адважнейшыя, дык маглі б у кітайцаў вытаргаваць больш свабоды. Але тады, у пачатку няволі, мы баяліся ўсяго; а нават, аб чым цяпер сорамна прызнацца, мы тады баяліся… смерці.

## ЯК НАС ПРАДАВАЛІ

Зямля мая, родная,
Зямля мая, цудоўная,
Радзіма сінявокая,
Якая ж табе роўная?!

*К. Буйло*

А я быў такі далёкі ад роднае краіны. З чужога краю быў выкінуты, і ў чужацкі край мяне пераганялі. Канчаўся першы дзень Каляд. Тым часам Бог не жадаў ахвяры нашага жыцця. Ці ж мала сібірская тайга праглынула беларускіх дзяцей? Мы ўжо былі на граніцы Сібіру ў прыгранічным кітайскім гарадку Маньчжурыя. Усе мы неспакойна, а я яшчэ моцна акалеўшы, чакаем, калі нарэшце кітайцы дагаворацца з маскалямі. Крык паміж імі ішоў гарачы: абодва бакі добра ведалі адзін другога і доўга не ўступалі. На станцыі было поўна цягнікоў і паадзіночных таварных вагонаў; паблытаныя лініі чыгункі былі ледзь асветленыя. Нарэшце нас перавялі з кітайскага ў расейскі цягнік. Нас турбавала пытанне: як нас прымуць белыя людзі ад жоўтых? Праўда, цяпер яны былі аднолькава чырвоныя. А я тым часам не мог аб нічым іншым думаць, як толькі аб тым, каб у новых гаспадароў сагрэцца, і аб гэтым маліўся да свайго патрона. На шчасце, савецкі пасажырскі вагон, у які нас прывялі, быў цёплы. За намі прыйшлі і кітайцы, каб адабраць ад нас сваю вопратку і свае ланцугі. Не шкадуем нічога і думаем:

— Карыстайце з іх самі!

Афіцэры савецкай дэлегацыі з пагардліваю ўсмешкаю паглядалі на кітайцаў, як тыя паспешна згортвалі свае лахамыткі

і «змотваліся» без прывычных кітайскіх паклонаў. Відаць было, што абодва бакі не былі задаволены: савецкі — што шмат за нас заплацілі, а кітайскі — што замала за нас узялі.

А я тут мушу лаяльна зазначыць, што ў дарозе кітайцы нічога не рабілі, каб з нас паздзекавацца. Яны былі непісьменныя людзі і паслушныя рэвалюцыянеры; а ўсё, што мы ад іх перацярпелі, вынікала з іхняй празмернай асцярожнасці і шкоднай руплівасці, а такжа і з нашай неразумнай пакорлівасці.

Мусіць, каб не паказацца горшымі ад кітайцаў, маскалі налажылі нам свае кайданкі, такой самой формы і якасці, як былі кітайскія. Што ж? Седзімо ціха, а насупраць нас сядзела цэлая маскоўская дэлегацыя: падпалкоўнік, маёр і тры лейтэнанты. З усяго, што здарылася, мы маглі меркаваць, якія мы ў іхных вачох «важныя птушкі». Маўчалі ўсе, толькі афіцэры злёгку ўсміхаліся і перашэптваліся між сабою. — Так любуецца шчаслівы паляўнічы сваёю здабычаю, калі трымае ў руках жывога зайца. Але нам было не да смеху.

Людзі поўныя крыві, сытасці і сілы, апраненыя ў парадныя вайсковыя ўніформы, паглядалі на нас, аслабленых, худых і недалужных у беднай, забруджанай падчас падарожжа вопратцы. Мы пачувалі перад сабою не закон і права, але гвалт і несправядлівасць. А яны не хацелі ведаць, што і над імі ёсць большая Сіла — Усёмагутны Суддзя. І дзіўна, што яны раптам па-свойму злітаваліся над намі. Старшыня дэлегацыі сказаў:

— Ну, можа, і досыць гэтых цацак для святых айцоў?

Афіцэры маўчалі. Старшыня пераможна паглядзеў на іх і на нас і загадаў:

— Здыміце з іх!

З нас знялі кайданкі і больш ужо іх не накладалі.

Пачалі з намі гутарку ажыўленую і бязладную. Але зараз мы пачалі ўпірацца ў іхную лінію — у догмы камунізму.

— Што мае супольнага вашая праграма з незалежнаю праўдаю? — пыталіся нашыя айцы. — Праўда сама ў сабе ёсць нейтральная.

Ды куды там! У іх камунізм стаўся рэлігіяй: Маркс — новы месія, а Энгельс, Ленін і Сталін — ягоныя апосталы; партыя заступае царкву; а іхняя вера ў камунізм ставіць большыя і цяжэйшыя вымогі, як нашая вера ў Бога. Чуць хто адхіліцца ад лініі, будзе трагічна «вычышчаны» ў камуністычным «пекле».

У спрэчках з камуністамі мы былі тады нherпрактыкаваныя, бо знаю

сакратар Сталін заступаў расейскага цара. Тады было: «Быть по сему», і цяпер засталося тое самае.

Да мяне падсеў маёр Іваноў-Міхайлаў, які пасля ў Чыце быў маім следчым.

— Ты, мракобес! (ты цемрашал) — сказаў ён мне на прывітанне.

— Мракобес-то не я.

— Дык хто, можа, я? — зрабіўшы вялікія вочы спытаўся ён.

— Я на вас яшчэ не сказаў, а вы на мяне ўжо сказалі.

Тут я толькі заўважыў, што маёр быў добра падпіўшы. А тым часам дырэктар ківаў на мяне:

— Будзь з ім асцярожны!

На шчасце, Іваноў сам адлез ад мяне. Я ўздыхнуў вальней, бо ён выклікаў у мяне абраз найцямнейшага д'ябла і я мог лёгка знервавацца і нагаварыць яму шмат чаго шкоднага для нас самых.

Было ўжо вельмі позна. Нам далі гарачую салоджаную гарбатку, рыбу і хлеб. Павячэралі. І спаць, спаць! Я лёг на голай лаве, бо пасцелі нам не далі, і палажыў пад галаву свой кулак. У вагоне было так цёпла, што я адагрэў усю падарожную прастуду. На дварэ трашчаў мароз, выў горны вецер, а мы куляліся з цягніком праз высокія горы, прасоўваліся праз тунэлі, праляталі далінамі рэк, а я ўсё ж спаў. Сон быў вельмі неспакойны; я зрываўся і стагнаў, але ўсё ж спаў цэлую ноч. Падарожжа трывала тры дні і, хоць адбывалася ў безупыннай трывозе, не выклікала ў нас ніякіх дрэнных вынікаў. У сне мы не бачылі, як пераехалі шырокую раку Шылку і пераваліліся праз высокі хрыбет Ябланавых гораў. Рана цягнік каціўся па ўзгорыстым месцы. Снегу ў горах было бязмерна многа: выраўноваліся меншыя прагаліны і ямы. Раўніны былі пакрыты грубаю пуховаю коўдраю.

Раніцаю наш дырэктар уздыхнуўшы сказаў:

— Ну, усё для нас скончана!

— Што скончана? — пытаем яго.

— Усё, і з намі, і з нашым ліцэем, і з усім нашым Харбінам!

Мы замоўклі. Кожны з нас перажываў дырэктарскую думку па-свойму, але я пачуваў у душы няясны, аднак упэўнены пратэст супраць ягонае варажбы. Усім было вельмі сумна, і кожны ціха маліўся.

Прыехалі ў горад Чыту. Мы выйшлі з цягніка і ўбачылі, што тут панавала ўсходнесібірская зіма: снегу было маса, а мароз быў такі, якога я ў сваім некароткім жыцці не сустракаў яшчэ. Аднак пагода была проста цудоўная. Сонца ззяла так ясна, што

мы купаліся ў сонцы — аж забыліся аб марозе. Але гэтае яркае сонца не было такое прыкрае для вачэй, як Маньчжурскае. Так хацелася пастаяць, пахадзіць і пацешыцца сонцам, бо мы былі цяпер у вялізарных сібірскіх кажухах, якія на нас апранулі яшчэ ў вагоне; аднак нашыя апекуны зараз загналі нас у сабачую жалезную будку на калёсах і кожнага запхнулі ў асобны катушок. Я ў ім не мог ні стаяць, ні павярнуцца, ні сесці, а быў прыкурчаны ў вялікіх муках, пакуль машына падкідала мяне і імчала ў турму. Не ведаю, як яны ўпхнулі ў такую самую пастку нашага магутнага дырэктара і як ён там вытрываў? Машына завецца ў мове вязняў «чорны воран». Каб не выдала сама сябе, яна звонку падобная да машыны, што развозяць хлеб. Прыехалі ў турму 27.XII.1948. Там нас усіх рассадзілі ў «адзіночкі».

## ТУРМА — АСТРОГ — ВЯЗНІЦА — ЦЯМНІЦА — ВАРТАЎНІЦА — ХАЛОДНАЯ — ЦЫТАДЭЛЬ — КРАТЫ

Усе гэтыя трапныя назовы, якімі беларусы ахрысцілі турму, паказваюць, што нашыя дзяды ўмелі крытычна аценяць культуру сваіх ворагаў, якія будавалі столькі вязніцаў, халодных, гарадцоў і пад. Наша ваенная турма ў Чыце мела грубыя крапасныя сцены, доўгія калідоры і малюсенькія вяконцы.

Як я ўвязнуў у сваю «адзіночку», дык з радасцю заважыў, што яна не было халоднаю. Мой катушок — гэта была такая каморачка, у якой нельга было павярнуцца: у ёй стаяла жалезнае ложка, тумбачка і параша — вось і ўсе мэблі. Ваконца было ў самым куце пад столлю і выходзіла ў суседнюю сцяну ды працэджвала толькі слабае шэрае святло. Дзеля таго дзень і ноч гарэла пад столлю моцная электрычная лямпачка. Тэмпература ў гэтай каморцы была заўсёды аднолькая і, на шчасце, заўсёды цёплая, што пры ліхой вопратцы і пасцелі, пры худым харчаванні было адзіным ратункам жыцця.

Каб не слабасць вачэй і нерваў, я павінен быў бы сваю камеру называць люксусам. Але дзверы былі моцныя і зачыняліся вялікім ключом.

Цяпер маё астрожнае жыццё пацякло, як кажуць патурэмнаму, нармальна. Увесь дзень быў мой; я мог рабіць у камеры, што хацеў, але кожныя пяць-дзесяць мінут да мяне цікавалі праз ваўчок.

Калі хто ламаў устаноўлены парадак, яго лаялі або ставілі ў кут, або садзілі ў карцар да поўнае нормы, значыць да васьмі

дзён. Уставаць і класціся трэба было на загад. Хоць пазвалялася сядзець на ложку, але нельга было ані апірацца на падушку, ні на поручні ложка, ні да сцяны. У асочнай турме днём вострa забаронена класціся на ложка спаць, а нават драмаць. Здавалася б, што сядзець — лёгкая справа, але сядзець поседам цэлымі днямі зусім не так лёгка, як здаецца! Затое вязень, як выйдзе на волю, мае права сказаць:

— Я адсядзеў пяць (а іншы — дзесяць ці дваццаць пяць) гадоў.

Як толькі вязень, седзячы на ложку, пачне драмаць, зараз з калідора наглядчык крычыць і пагражае. Такая звяга горш дражніць, як пабоі. Хоць ён крычыць на аднаго, але псуе нервы ўсяму калідору. Уночы нельга адвярнуцца да сцяны і нельга нічым закрываць вачэй. У адзіночцы я мусіў ляжаць на спіне, нагамі да дзвярэй, каб наглядчык мог сачыць праз ваўчка мае вочы. Лямпа свяціла моцна ўсю ноч, і хоць я як ні стараўся моцна заплюшчваць вочы, свет мяне непакоіў і сон перарываўся. Такім чынам давялі мяне да поўнае нервовае хваробы, з'явілася бяссонніца; спаў не больш як паўтары-дзве гадзіны ў пару. Каб не малітва, дык я пэўна звіхнуўся б зусім. У тыя цяжкія хвіліны мне найлепш памагаў ружанец. Кароткая развага ружанцовых Тайніцаў і паўтараныя малітвы да Найсвяцейшае Дзевы супакойвалі мае хворыя нервы. Дзеля таго, што кітайцы падчас рэвізіі забралі мой ружанец, я маліўся з памяці паводле натхнення.

У турме тройчы давалі есці. Поўнага голаду не было, хлеб даваўся рана на цэлы дзень: чорны, цяжкі (у ім шмат вады), жытні з дамешкай аўса, кукурузы і яшчэ чагосьці. Суп-крупнік ледзь аскаромлены — аўсяны або ячны; часамі бываў грэчневы, прасяны або з непрацёртае пшаніцы. На другое: каша з таго самага матэрыялу, але гусцейшая. Часамі траплялася капуста — рэдкая, цёмная і гідкая. Авёс з ячменем чаргаваліся цэлымі тыднямі; дык не дзіва, што яны прыядаліся і аслаблялі людзей. Цукру ў турме даюць 9 грамаў на цэлы дзень; адны саладзілі ім кубак гарбаты, іншыя высыпалі ў кашу, а другія адразу з далоні высыпалі ў рот. У мяне ў адзіночцы прапала 12 дзён цукру, бо я яшчэ не меў практыкі, як трэба дамагацца. Часам раніцаю давалі 20 грамаў селядца. Калі ў гэтым была селядцовая галава, дык тады зусім не было чым цешыцца. Але і тут я быў неспрактыкаваны. Потым у групе з японцамі я наладзіўся есці селядца без астаткаў — з галавою, з касцямі, са скураю і з хвастом! Тады ўжо

мы пайшлі зусім у такт з навукаю Леніна, які казаў: «У вялікай гаспадарцы ўсякая дрэнь прыдаецца».

На другім месяцы прабывання ў турме мяне пачалі лепш карміць і лячыць. Мне здавалася, што ўсё пайшло на лепшы лад, але перамена на лепшае хутка абарвалася і нават палажэнне пагоршылася, бо перасталі даваць і вітаміны і рыбін тлушч. Лекарка таксама заходзіла да мяне радзей, бо цяпер пачаўся мацнейшы ціск у следстве.

У следчай турме вязень мае вартасць толькі як аб’ект для следства і для суду. Там вельмі пільнуюць: першае — каб вязень не даканаў самагубства; другое — каб не зышоў з розуму (калі трохі прыдурэе, дык нічога); трэцяе — каб не захварэў дарэшты і чацвёртае — каб не памёр да суду.

Пасля прысуду вязень можа сабе хварэць, галадаваць ці канчаць жыццё, колькі ягоная душа жадае! Ніхто гэтым лішне не трывожыцца. Я як свежы вязень часам дзівіўся, чаму лекарка так аба мне дбае, бо дзякуючы ёй я ні разу не трапіў у карцар, хоць следчы не раз гразіў і я сам меркаваў, што ўжо была да гэтага пара. У карцары пайка хлеба і вада, а на чацвёрты дзень яшчэ і міска крупніку; няма там ні ложка, ні пасцелі; часта садзяць у адной бялізне — пры маім здароўі такі галодны і халодны карцар мусіў бы мяне «ўгробіць».

Мае суседзі, як згаварыўшыся, пачалі з двух бакоў кожную раніцу стукаць у маю сцяну. Прытым левы, як мне здавалася, стукаў нейкім алфавітам. Я дужа ўцешыўся з жывых людзей, але засаромеўся, што не ўмеў расшыфраваць алфавіту Морзе. Цяпер я рабіў сабе горкія закіды, што ў добрым часе не навучыўся шыфраванага алфавіту. Мне думалася: хто скажа, колькі я буду сядзець у адзіночцы, можа доўгія гады? і цяпер — нямы. А можа, і лепш, што не ўмею? — думаў зноў — бо пры маёй нязручнасці я мог бы лёгка трапіць за гэта ў карцар або стацца ахвяраю суседа правакатара.

Здарыўся ў мяне і госць. Гэта была вялікая, але вельмі худая турэмная плюска. Яна, відаць, была выслана на разведку і зрабіла немалое падарожжа, каб пашукаць свежае крыві. Але я, не зважаючы на яе піянерскія рэкорды і на дэлегацыю, без суду пакараў яе смерцю за шпіёнства (згодна з савецкім карным кодэксам § 58, 6). Але мусіць на іхную грамаду абрушылася галодная пяцігодка, бо следам за першаю пачалі надыходзіць наступныя дэлегаты; аднак усіх іх спаткала аднолькавая доля — аж у мяне загарэлася паляўнічая жылка, цікавасць і пільнасць, каб не прапусціць ніводнага новага звярка.

Нарэшце здарыўся госць і на дзвюх нагах: новы незнаёмы наглядчык? Чаго?

— Раздзявайся! — крыкнуў ён валадарна.

— А нашто вам?

Я здзівіўся і спужаўся. Думаў: хіба ж не будзе мяне есці? А калі пачне, буду бараніцца.

Раздзеўся. Пачалася рэвізія. Перашчупаў ён усю вопратку, бялізну, пасцель і ўсе закуткі ў камеры. Аднак пасля кітайцаў і ўступнае турэмнае рэвізіі, што яшчэ можна было знайсці ў чалавека, адарванага ад цэлага свету? Аднак яму трэба было ўсё вывернуць і штосьці забраць, хоць апошні няпэўны гузік. А з пасцелі нічога не возьмеш: сяннік быў з старое саломы-патрухі, падушка з жорсткае травы, а коўдра — стары абносак; значыць, усё было наскрозь дэмакратычнае. Рэвізор быў спец у сваёй прафесіі: хутка і зручна праехаў па ўсіх рубцах і кантах. І ў канцы я не мог змеркаваць, ці рэвізор быў здаволены сваім кантролем, бо знік у адзін момант, нічога не сказаўшы. Аднак мушу тут справядліва пасведчыць, што ён хоць паспешна, але працаваў старанна, фахова, уважліва, рупна, спраўна і акуратна. Аб далікатнасці лепш не ўспамінаць, гэта было б у духу адышоўшае закваскі. Такая рэвізія адбываецца ў турме штомесяц.

У нас быў адзін дакучлівы наглядчык, які перавышаў усіх сваёю заўзятасцю: як ачумелы, ён бегаў ад дзвярэй да дзвярэй, крычаў праз ваўчкі, аж рэха разлягалася па ўсіх калідорах:

— Ты, як сядзіш? Чаму абапёрся?! Сядзь роўна! Стань у кут! А ты не драмі, я цябе бачу!..

Восем гадзін ягонае працы былі сапраўднаю катаргаю і яму і нам. Мала таго, пры ім завастрыліся і другія наглядчыкі: крычалі мацней, прыдзіраліся часцей і ганебна нам дакучалі. Адным словам: гарызонт нашае няволі зацягнуўся навальнічнымі хмарамі; а той наглядчык «Юпітэр» грымеў безупынна і сыпаў перунамі. На шчасце, ён не быў доўга, бо, мусіць, здзёрся або дастаў павышэнне. Ніхто па ім не плакаў.

## ГАЛАДОЎКА

> Прыйшлі важныя весці,
> што няма чаго есці.

Калі чалавеку добра, дык ён жадае лепшага — аж да найбольшага і найлепшага. Калі мая камера была цёплая, дык мне захацелася на двор, на сібірскі мароз, а пачатак 1949 г. быў тут

асабліва марозны. Чуў я, як маіх суседзяў выводзілі па чарзе на пятнаццаць-дваццаць мінут на спацыр. А я быў неабуты і неапрануты і не мог пайсці. Магчыма, дзеля таго меў жахлівы боль галавы і жудасную бяссонніцу. Пытаў наглядчыкаў, як мне дастаць вопратку? — нічога! Прыставаў да следчага — таксама нічога. З таго гора я ўпаў у роспач і адважыўся на галадоўку, хоць ведаў, што ў Савецкім Саюзе галадоўка вязня лічыцца новым злачынствам. Але роспач — благі настаўнік. «Калі топішся, дык і за саломінку хопішся». Я хапіўся б і за брытву, калі б яе нехта падаў.

Вось я пачаў: рана не прыняў ні хлеба, ні цукру. Так пайшлі цяжкія дні — першы, другі, трэці і чацвёрты. Не магу сказаць, каб мне было лішне трудна ці немагчыма; нат пачаў начамі лепш спаць. Але вось пасля пройдзенае турмы і лагераў цяпер сам разважаю, ці была тады рацыя ў галадоўцы? — і так, і не так…

1. Трэба было перш як-небудзь убачыцца з пракурорам і паставіць яму ультыматум з пагрозаю галадоўкі. Магчыма, што тады апранулі б мяне і самі.

2. Калі ж пачаў галадоўку, дык трэба было залегчы ў ложка і расстагнацца, а то я мучыўся сам, а іх не страшыў.

3. У нервовым расстрою галадаваць нельга, бо лёгка скаціцца ў магілу.

4. Трэба было добра знаць сістэму галадоўкі; на гэта ёсць спецыяльнае студыюм. Інакш чалавек можа скалечыцца на ўсё жыццё.

Мая перамога была палавічная: далі мне чаравікі і шапку, два ручнікі і дзве насоўкі. Ані паліто, ані ніякае цёплае вопраткі я не дастаў. Галадаваць я больш не мог, і трэба было пакінуць змаганне, каб не ўмерці.

Першы мой спацыр, здабыты такім мазалём, прайшоў памысна. Наглядчык павёў мяне аднаго і ўпусціў у загароджу, якая мела дзевяць крокаў на дзевяць. Плот быў такі густы і высокі, што відаць было толькі неба. Аднак жа сонца пранікала туды ў адзін куток. Мая радасць была бязмежная, бо даўно не бачыў сонца. Але сярдзіты мароз не даваў мне ані пастаяць, ані пагрэцца на сонцы. Каб не замерзнуць, трэба было безупынна бегаць па гэтым кружку. Наглядчык, які пільнаваў мяне на вышцы, быў, відаць, людскім чалавекам, бо не перашкаджаў мне займацца такім спортам. Ён стаяў там як бусел у гняздзе; быў апранены ў агромнае даўжэзнае кажушышча і дзівіўся, як я, худзенькі, старэнькі, ледзь адзеты, змагаюся з сібірскім марозам. Але я ўжо замучыўся і не мог далей вытрываць, а «сезам» быў зачынены

да свае пары. Мароз прабіраў да касцей — і вось я папаўся ў клетку! Аж чую — наглядчык адчыніў фортку і крычыць на мяне, як на парабка:

— Выходзь!

Вось мы пайшлі, але як пайшлі?! Я, паводле плану, трымаў рукі заложаныя назад, як вялікі пан; ішоў перад канвойным, як арыштант; затрымаўся перад дзвярмі, як сляпы; адступаў набок, як слуга, і адвяртаўся носам да сцяны, як дурань. Наглядчык зайшоў мне наперад і сам першы прайшоў праз дзверы, а я тады за ім, як сабака. На калідоры ён зноў мяне прапусціў наперад — і гэтак мы мінаваліся ў турэмным танцы аж да самае мае камеры. Там ён замкнуў мае дзверы вялікім ключом, і я застаўся сам адзін за кратамі, як крыміналісты. О, у турме трэба ўмець звівацца і лавіраваць, як у вадавароце на лодцы, паміж вялікім каменнем, каб цябе не папіхалі, як асла, і не лаялі, як п’янага!

Кожны раз на прагулцы я дужа прамярзаў, але затое ў камеры адаграваўся. Толькі ўжо пасля, калі мяне перавялі ў групавую камеру і я жыў з японцамі, адзін з іх (Гарадасан) пазычаў мне на прагулку свой запасны кажушок. Толькі пад вясну 1949 г. турма дала мне фуфайку, такі кароткі ватнік, забараніўшы хадзіць у сутане, каб не горшаў бязбожнікаў. Верхняга ватніка-бушлата, які звычайна носяць на фуфайцы ў Сібіры зімою, мне не далі зусім.

Мая няўдалая галадоўка не была зусім бескарыснаю: хоць я рызыкаваў неразважна, але зрабіў пробу свае стойкасці, а гэта якраз было патрэбна на следстве, каб не папусціцца. А добры Бог захаваў маё жыццё паміма людское злосці і паміма маіх уласных памылак.

Потым я хапаўся яшчэ раз за галадоўку, ды яна мне тады зусім не ўдалася. Я хацеў запратэставаць супраць фальшывага следства, але мне прыгразілі, што будуць карміць прымусам праз нос, чаго я вельмі спужаўся і пасля двух дзён пачаў есці. Тут зноў мною кіраваў нэрвовы шок; я зразумеў, што далей прадаўжаць галадоўку немагчыма, каб не ўпасці ў грэх самагубства.

Турма і лагер ёсць для вязняў вялікаю школаю жыцця. І таму не дзіўна, што некаторыя людзі пасля доўгае адседкі гаварылі:

— Не шкадую, што сядзеў!

(Зразумела, так гаварылі толькі тыя шчаслівыя, якія памысна выйшлі на волю.)

Я сам вынес багатую практыку жыцця, хоць мушу прызнацца, што савецкая бясплатная «школа» дорага мне абышлася.

# СЛЕДСТВА

Добра з тым судзіцца,
хто Бога баіцца.

Нармальна на свеце прынята, што следства выясняе і ачышчае справу ад лішніх і фальшывых фактаў. Сам абвінавачаны павінен прычыніцца сваёю шчырасцю да асвятлення справы. Суд павінен шукаць праўдзівых фактаў, дакументаў, сведкаў і слядоў злачынства. Падрыхтаваны матэрыял у следстве дае нарэшце паняцце аб правіне падсуднага. Пакуль следства не кончана і суд не адбыўся, нельга падсуднага лічыць вінаватым і караць яго, ані прыгнятаць, ці ашукваць, або застрашваць, ці нерваваць яго. Так дзеецца ў тых вольных краінах, дзе шануюцца законы справядлівасці, культуры і рэлігіі. Такую свабоду тэарэтычна бароніць так жа Савецкі Саюз, але пабачым далей, што ён робіць у сябе.

На самым пачатку нашага следства нам аб'явілі, што мы не арыштаваныя, а затрыманыя і што нас будуць дапытваць як сведкаў. Толькі пасля трох тыдняў (15.I.1949) нам паведамілі, што з Масквы прыйшоў загад усіх нас арыштаваць. Я спалоханы чакаў, што цяпер будзе новага, аднак нічога не перамянілася: як было, так і працягвалася тое самае следства. Мы і далей заставаліся ў сваіх адзіночках.

Ад самага пачатку следства я дзівіўся з такіх парадкаў і пытаўся следчага:

— Калі нас арыштавала кітайская міліцыя ў Кітаі, дык чаму нас не судзіў кітайскі суд?

— Мы афіцыяльна былі польскімі грамадзянамі, дык чаму Кітай не выдаў нас у Польшчу, але выдаў у Савецкі Саюз?

— Калі мы — не арыштаваныя, дык чаму вы пасадзілі нас у турму? і чаму ў ваенную турму, калі мы цывільныя людзі?

Следчы не хацеў даваць на гэта ніякага адказу, а толькі лаяўся. А нашаму французу за дакучлівыя пратэсты і пытанні давялося адсядзець восем дзён у вострым карцары. Пакуль у Савецкім Саюзе чалавек не зразумее, што ён жыве не пад законам, а пад прымусам, дык будзе толькі дарэмна нервавацца.

Я быў у адзіночцы больш за пяцьдзесят дзён, і, акрамя наглядчыкаў, доктара і следчага суддзі, я не бачыў больш нікога. З калідора, калі я па ім праходзіў пад канвоем, зганялі «ўсякае дыханне», нат лішніх наглядчыкаў. Калі выпадкова канвойны прадчуваў, што можа на калідоры на каго ўзбіцца, дык зараз ставіў мяне носам да сцяны, а сам даваў свісток, каб сустрэч-

ныя ўцякалі з мае дарогі. Нават у дарозе да ўмывальні і на сваю патрэбу мне рабілі такую самую «пашану».

Я добра помню, як падчас акупацыі у Маньчжурыі, японцы ладзілі ў Харбіне спатканне імператару Мянджу-Го, Пу-І, паводле царскага цырыманіялу: тады людзей з вуліц зганялі ў панадворкі. Хто запазніўся, таго паліцыя клала на зямлю, нагамі да вуліцы. А пасля пісалі ў газетах, што народ «з энтузіязмам» вітаў імператара. А ў 1945 годзе той самы імператар Пу-І быў арыштаваны і сядзеў у той самай турме ў Чыце, у якой пасля сядзеў я: ён тупаў па тых самых калідорах; дык, значыць, і я мог задзіраць нос, але мяне ўрачыста перагналі па калідорах паводле царскага цырыманіялу. Толькі мяне дзівіць, адкуль яны бралі толькі людзей на канвой і на суды, і на ахову лагераў, каб трымаць толькі мільёнаў арыштаваных? І колькі трэба было цярплівасці і вытрываласці, каб рабіць усю гэтую жудасную фармальнасць!

Я выпытваў шмат людзей, якія добра ведалі савецкае жыццё, і з розных сфераў: колькі ў Савецкім Саюзе сядзіць людзей? І вось агульнае перакананне было такое, што да смерці Сталіна ўсіх замкнёных у турмах і лагерах і на прымусовых работах было не менш трыццаці мільёнаў!

А сабакі? Пры лагерах былі спецыяльныя зоны для сабак. Сабакі былі асаблівае расы — вялікія і вымуштраваныя, каб паляваць на людзей. Гора таму вязню, які трапляў ім у зубы! Аднак былі такія ўцекачы-спрыцюгі, што заціралі свой след табакай ці перцам. Колькасць і якасць сабачае ежы ў калорыях перавышала людскую, дзеля гэтага ніхто не мог называць нашага жыцця «сабачым». Я бываў у лагеры на рабоце ў сабачай зоне і там падарваўся перакідаючы снег праз высокі плот, так што ледзь пасля ў шпіталі адлячыўся.

Для ілюстрацыі падам ходкі расказ з Польшчы з 1955 года. Адзін савецкі дзеяч у гутарцы з польскімі ўрадоўцамі, падпіўшы, калі палякі пачалі хваліцца, спытаўся ў іх без ніякіх хітрыкаў:

— А колькі ў вашай Польшчы насельніцтва?

— Мільёнаў 28 будзе.

Тут бальшавік пратэкцыйна ўсміхнуўся і кажа:

— І вы гэта называеце дзяржаваю?

— Або што, чаму?..

— Дык у нас больш у лагерах сядзіць!

Паўстае пытанне: адкуль бярэцца толькі людзей і толькі злачынцаў у Савецкім Саюзе? Адкажу на гэтае пытанне такім характэрным здарэннем, аб якім я чуў у лагеры.

Пры этапе, выходзячы з лагера, у пераклічцы трэба было кожнаму самому сказаць сваё прозвішча, гады і кару. Дык вось выходзіць адзін і кажа паводле формулы:

— Я — Іван Іванавіч Іваноў, радзіўся ў такім і такім горадзе, артыкул 58-61, пункты 4-ты і 6-ты, 25 гадоў. — Прытым махнуў рукою і далажыў ад сябе: — Нізашто мне далі!

А дзяжурны наглядчык, раззлаваўшыся, кажа:

— Гавары, гавары — «нізашто, нізашто», — у нас нізашто толькі 10 даюць.

Так наглядчык, дакараючы Іванова, сказаў нехаця шчырую праўду, хоць і няпоўную, бо таксама нізашто даюць і цэлых 25.

А вось і другі аўтэнтычны прыклад, як чалавек дастаў турму нізашто. Расказаў мне аб гэтым былы камуністы Віктар Ніканоравіч Сямігораў, прафесар аднаго з савецкіх універсітэтаў. Яго пасылалі за граніцу як карэспандэнта. Калі вярнуўся дадому, далі дзесяць гадоў за шпіёнства. Падчас следства гаворыць ён свайму следчаму:

— Дазвольце мне расказаць вам здарэнне, падобнае да майго.

— Гавары!

— Яшчэ за цара ў нашым раёне былі развяліся ваўкі. Не было ад іх ратунку. Урад абвясціў узнагароду 25 рублёў золатам за забітага ваўка, а за скуру была назначана асобная плата. Хоць шмат хто квапіўся, ніхто не мог забіць ваўка. Нарэшце аднаму паляўнічаму ўдалося. Яму выплацілі прэмію і адкупілі скуру. На другі тыдзень ён прынёс другую скуру, а на трэці — трэцюю. «Што такое?» — У раёне здзівіліся, што ён адзін такі шчаслівы; але тым часам ваўкі далей рабілі шкоду. Паклікалі камісію, агледзелі тыя скуры і пераканаліся, што ўсе тры былі сабачыя, — чорных сабакаў і зручна падфарбаваныя.

Тут следчы заўважыў:

— Дык ты, Сямігораў, лічыш, што мы фарбуем вашыя справы, а вы самі не вінаватыя?..

— Прыходзіцца лічыць, бо і мая скура ў вашай рабоце. Вы нас робіце шпіёнамі, а праўдзівыя ваўкі — шпіёны далей робяць шкоду. Што ж, сабаку лягчэй злавіць, а воўк лепш хаваецца або вышчарае зубы.

У канцы Сямігораў мне сказаў:

— Бачыце, я ў турме шмат перадумаў. Чалавецтва праз дзве тысячы гадоў распрацавала рымскае права, якое ўвайшло ў культуру ўсяго свету. А якраз мы жывём, як нам тут кажуць,

у самым свабодным і культурным краі — у Савецкім Саюзе. І вось у гэтай «вольнай і справядлівай» дзяржаве пры першым маім спатканні з следчым я пачуў ад яго:

— Так, так тваю…

Сямігораў задумаўся, а пасля спытаў мяне:

— Скажыце, як пагадзіць адно з другім?

Але я не меў чаго сказаць, бо нам абодвум было сорамна за бедную культуру і за нявінных людзей.

У навачасным савецкім следстве ўсё ідзе паводле плана. Найперш ідзе лазня — душ гарачы і сцюдзёны, а бяллё даецца ў «прашпарку». Потым — доктар, зараз і фатограф; потым адціскаюцца пальцы рук. Нарэшце ідзецца ў «госці» да самога начальніка турмы, а ў камеру прыходзіць цырульнік з машынкаю — і ўсё гатова! Рэвізія ўжо была і прытым не адна. Нарэшце так падрыхтаванага вядуць, каб аддаць у рукі следчага.

*

У турме вязню не гавораць, да каго і куды яго клічуць, але я ўжо прачуваў, што хутка спаткаюся з суддзёй. Пад уплывам Дастаеўскага я быў загадзя ўсхваляваны гісторыяй Раскольнікава: мяне таксама інтрыгавала, чаму следчы так доўга мяне не кліча? Аж і заклікалі! Прыйшоў я і адразу быў прыемна здзіўлены, калі ўбачыў чалавека маладога і вонкава сімпатычнага; усё ж такі я яму не давяраў і трымаўся асцярожна, як на гладкай, але няпэўнай кладцы. У размове ён паказаўся мне чалавекам простым і без хітрасцяў, але рачовым і спакойным. Загадаў мне расказаць сваю біяграфію.

Жыццё маё было вельмі заблытанае. Я перамяняў шмат месцаў і краёў; прытым былі войны, рэвалюцыі, вялікія падарожжы, разнаякая праца, хваробы і іншае. Я баяўся сам заблытацца і часам сумняваўся, ці не лепш было б штосьці прамінуць, бо і следчы яшчэ мяшаў лішнімі пытаннямі, так што я збіваўся нават у самых простых і пэўных фактах. Пару разоў ён пробаваў мяне застрашыць і прыкрыкнуць або падлавіць у недакладнасці, але не мог злавіць мяне ў ніякім фальшу, бо яго ў мяне не было. У канцы мы пагадзіліся зусім, і я быў задаволены сваёю двухднёваю біяграфіяй, а нават быў задаволены самым следчым, бо быў пераkананы, што ён і далей не захоча мяне крыўдзіць.

З сваёй біяграфіяй я ўваходзіў на следства не абцяжаны мінуўшчынай. Аказалася, што я не жыд, хоць чамусьці лічылі, што маё прозвішча жыдоўскае. Чаму яны так чапляліся за

жыдоўскасць — не ведаю. Толькі пасля я даведаўся, што ў тым часе была вялікая нагонка на жыдоў і шмат спаміж іх, нават камуністаў, трапіла ў лагеры. Маё паходжанне было наскрозь пралетарскае: бацька быў, як эмігрант, рабочым у Пецярбурзе ў экіпажнай майстэрні, а маці з простае сялянскае сям'і. Мой бацька выходзіў з беззямельных сялян і памёр, калі мне было ўсяго два гады. Як падрастаў, я доўгія гады быў пастушком у сваіх дзядзькоў, а так жа ў чужых людзей. Польскі фашыстоўскі ўрад мяне дужа праследаваў: пяць гадоў мне не давалі пашпарту; а ў 1938 годзе быў пад наглядам паліцыі ў Вільні і пасля адтуль мяне выселілі. — Адным словам, такім бліскучым пралетарскім паходжаннем не маглі пахваліцца самыя бальшавіцкія ўрадоўцы ў Чыце. Але мне яно так памагло, як беднаму чалавеку леташні снег.

Усё ж такі я мроіў, што ў свайго следчага я ачышчуся ад напасці. Якое ж было маё расчараванне, калі наступны раз я аказаўся перад другім следчым! Быў ім мой знаёмы, маёр Іваноў, які належаў да дэлегацыі, што купляла нас ад кітайцаў. Папярэдні следчы быў, відаць, толькі тэхнічным работнікам у канцылярыі, на сапраўднага следчага ён не надаваўся, бо не ўмеў нават лаяць.

Іваноў быў чалавек буйны ростам і тушай, векам каля 50 гадоў. Чырвоны быў наскрозь — і целам і духам; здаравенны, як буржуйскі бык. Добра знаўся на тых справах, якія вёў: нашы харбінскія адносіны, так жа агульнацаркоўныя і асабліва ватыканскія адносіны не былі яму няведамыя. Іваноў, аднак, быў даволі асцярожны, каб не выдаць сябе ў тым, адкуль здабыў такую поўную падрыхтоўку. Толькі ж каментары да царкоўных падзеяў, асабліва да каталіцкіх, ён даваў свае, значыць савецкія і бязбожныя. Ён мог бы быць выдатным следчым, каб мог быць нармальным чалавекам. Часамі бываў на маім следстве моцна падпіўшы, але зусім п'яным не бываў. Не біў мяне ні разу, нават не пагражаў пабоямі, але лаяў бязмерна, часта і ганебна: ён уцяміў, што ягоныя блюзнерствы былі для мяне горшаю мукаю, як біццё. Тады я моцна бянтэжыўся, нерваваўся і не ведаў, што гаварыць, або забываўся, што сказаў. А Іванову якраз тое было патрэбна; ён гуляў са мною, як сыты кот з худою мышою.

Дагэтуль я добра не знаў бальшавікоў. Праўда, у 1920 годзе яны мяне былі арыштавалі ў Слонімскім павеце, але праз тры дні выпусцілі. А ў Харбіне бальшавіцкая прапаганда прадстаўляла Савецкі Саюз, як край вольны, светлы, правасудны і багаты. І вось цяпер я пачуў ад прадстаўніка суду такія бессаромныя

звароты і блюзнерствы, якія не чуў ад нікога, нідзе і ніколі. І з якое прычыны? Ці, можа, усё ішло з ягоных нерваў? А можа, ён быў вырадак, адзін такі? Не, на жаль, не адзін! У іх такая сістэма: кожны следчы імкнецца запалохаць сваю ахвяру і спаралізаваць волю, каб, замуціўшы ваду, лавіць рыбу. Ім толькі важна, каб злавіць чалавека, а зусім не важна, каб знайсці праўду, выявіць адказнасць і віну.

Нашая гульня ў следстве трывала пяць месяцаў. Спярша Іваноў аглушыў мяне лаянкай і пагрозамі. Пасля крыху змякчэў: стараўся запутаць, заскочыць пытаннямі, выкарыстаць маю недасведчанасць. Часам гэты люты воўк зручна нацягваў на сябе авечую скуру: абяцаў ласкавы суд і невялікую кару — толькі тры гады. Адзін раз нават пачаставаў гарбатаю з цукрам, хлебам і каўбасою. Якраз тады я быў вельмі галодны. Часам пускаў для мяне грамафон з беларускімі дыскамі; гаварыў аб палітыцы, расказваў навасці або анекдоты. А ён умеў расказваць, зацікавіць, бліснуць ведаю або сваёю зручнасцю. Мая змучаная душа і арганізм лёгка ўцягваліся ў ягоную інтрыгу; мне вельмі быў патрэбны адпачынак. Іваноў ведаў, чым мяне зводзіць. А я, хоць і прачуваў ягонае ашуканства, не меў сілы яму супярэчыць і паддаваўся ягонаму ўплыву. А пасля, вярнуўшыся з следства, я рабіў сабе закіды і яшчэ горш псаваў сабе нервы.

Раптам зноў Іваноў станавіўся заядлым воўкам, раз'юшаным тыграм або хітраю лісіцаю, а прытым заўсёды быў паскуднаю свіннёю. Грозіў 25 гадамі, ссылкаю на пусты абток Ледавітага акіяна:

— Там ёсць два белыя мядзведзі, а ты будзеш трэці, — казаў ён.

І лаяўся ж ён! Страшыў і паказваў мне на карце, як яны нападуць на Рым з Албаніі, як пераробяць базыліку св. Пятра на кіно, а самога рымскага папу і нью-ёркскага кардынала Спельмана павесяць…

Ён быў артысты, і ўсё гэта была ігра ў жмуркі; толькі ж мае вочы былі завязаныя, а ягоныя не. Колькі я страціў здароўя, пакуль пазнаў сістэму Іванова і сістэму Савецкага Саюза! Бо гульня ў камунізм абымае ўсю савецкую дзяржаву, а такжа частку вольнага свету. Цяпер адзін толькі Мікіта Хрушчоў бачыць абодвума вачыма; камуністычная партыя бачыць адным вокам і толькі, колькі ёй Мікіта пакажа: а «фраеры», значыць, рэшта ўсяго народу, маюць завязаныя вочы. Каб я тады знаў гэтую гульню ў камунізм так, як знаю яе сёння, я зусім не нерваваўся б. Калі Іваноў гуляў, дык і мне трэба было туманіць таксама, бо

ў яго мае «25» былі пастаноўлены адразу, дык нашто мне было яшчэ спадзявацца чагосьці лепшага? Мне трэба было толькі выкручвацца ад карцара і ад малое кары, бо вялікая кара была ўжо немінучаю.

Калі аднойчы Іваноў гразіў мне 25 гадамі, я абураны адказаў:

— Як то, Ленін у цара за арганізацыю пераварoту дастаў толькі 3 гады, а што я благое зрабіў? Я ўсё жыццё вучыў і даглядаў малых дзяцей і стараўся ўзгадаваць іх на добрых людзей.

— Ленін атрымаў 3 гады за абарону народа, а ты ішоў супраць народа.

— І чым я ішоў супраць народа? Што вучыў у школе лацінскае граматыкі?

Але следчы адказаў грубою лаянкай.

Такіх прыкладаў я мог бы пералічыць цэлыя дзясяткі. Спынюся толькі на адным. У 1950 г. сядзеў са мною ў Тайшэце турак Асман Асманавіч Эскіпар, які меў 74 гады, быў глухаваты і хвараваты. Глухата найбольш яго мучыла, бо ў цесным бараку, у лагеры, ён не чуў, як брыгада раздавала хлеб, цукар і як нас клікалі ў сталовую. Я заступаўся за старога дзеда, каб яго не абміналі. Запрыязніўся з ім і аднойчы спытаўся яго:

— Як вы трапілі ў турму?

— У Расею, — казаў ён, — я прыехаў з Турцыі разам з маімі бацькамі яшчэ малым хлапчуком. Яны мелі, як тады называлі, «турэцкую» пякарню, працавалі заўзята і зараблялі нямала. А ў рэвалюцыю ўсё нашае прапала. Я пайшоў на работу ў савецкую кандытарскую і так-сяк жыў, бо я «спец»; а ў другую вайну мяне арыштавалі, як турэцкага шпіёна.

— Злітуйцеся, — кажу ім, — я ад маленства не меў з Турцыяй ніякіх зносінаў. Значыць, закід майго шпіёнства адпаў. Дык мне ўсё роўна прыпісалі нейкія гутаркі супраць саветаў і прышпілілі 10 гадоў. А каму я гаварыў, і калі я гаварыў, і што гаварыў — я сам не ведаю, бо і нашто мне было гаварыць?!

Але вяртаемся да майго Іванова. Нарэшце я зразумеў, што на лаянкі не трэба адзывацца. Зрабіў я сам сабе моцную ганаровую пастанову: на лаянкі маўчаць. Аднак дарэмна, я ніяк не мог вытрываць. І цяпер саромлюся, як прыгадаю. Тады мае нэрвы былі хворыя: я загараўся на яўныя лгарствы і правакацыі. Часамі Іваноў свідраваў мяне вачыма — гіпнатызаваў. Я гаварыў сабе: «не буду глядзець яму ў вочы!», але ўсё роўна гляджу; вочы падымаліся самі; пастанаўляю ўсёю сілаю волі, але не

было тае сілы. Так бывае з машынай, калі сапсуецца тормаз або кіраўніцтва: шафёр круціць машыну ў добры бок, а яна ляціць у пропасць.

## ПРЫХОДЗІЦЬ ДАСВЕДЧАННЕ

Калі будуць выдаваць вас, не дбайце аб тое, як і што вам гаварыць, бо вам у той час будзе дадзена, што сказаць.

*Мат. X, 19.*

Ведаючы аб Хрыстовай навуцы, я заўсёды стараўся да яе тасавацца: ішоў на допыт, нічога не плануючы. І ўсё ж такі здаралася, што я часам наблытаў, бо і памяць была аслабеўшы і следчы збіваў з панталыку. І толькі значна пазней я змеркаваў, што Бог дапускаў мае памылкі, але мяне не пакінуў; так некаторы бацька вучыць сынка плаваць: пазваляе яму нахлёбацца вады, але не дапускае пагібелі. Я захаваў да канца следства яснасць думання і нават хворыя нервы пасля супакоіліся. Я не помсціўся над ворагамі, але ашчаджаў іх на следстве, як мог; я не прызнаўся да таго, чаго не зрабіў, хоць следчы правакаваў, пагражаў, рабіў абяцанкі і здзекаваўся з мяне; я не выракся веры (аб гэтым будзе далей).

Мне, так як і кожнаму арыштаванаму, напярод была адмерана поўная кара. Аднак больш выйгралі тыя, каторыя цвёрда стаялі на сваім і не прызнаваліся да нязробленых злачынстваў. З другога боку і тыя, што прызнавалі сябе без віны вінаватымі, таксама нічога не скарысталі, а даставалі кару паводле бальшавіцкае нормы. Але тыя, што маўчалі, ішлі у карцар… Савецкі суд у тэорыі не дазваляў гаварыць няпраўды, але ў практыцы прымушаў гаварыць няпраўду.

Кожнаму арыштаванаму рупілася чым хутчэй скончыць следства, як самы найцяжэйшы этап. Суд фактычна не даваў нічога новага, а быў толькі вонкаваю формаю. На судзе ніхто не мог паставіць ані сваіх сведкаў, ані свайго адваката. А калі б і паставіў сведкаў, дык хутчэй пашкодзіў бы сабе, бо тыя, ці з перапуду, ці з разліку, яшчэ больш абцяжвалі б справу. Адвакат у Савецкім Саюзе даецца толькі ўрадовы, які таксама адбывае норму. Паміж тысяч лагернікаў не было чутно, каб хто пахваліўся, што савецкі адвакат яму памог. Часамі гаварылі, што

адвакат пробаваў бараніць; іншыя казалі, што больш памагаў пракурору, як падсуднаму, а яшчэ іншыя — што і справы не знаў і мала да чаго мяшаўся. Часта здаралася так, як гэта было з намі, што пасля цяжкага следства суду не было зусім, а кару давалі завочна абласныя суды, і ў важнейшых справах маскоўскі суд так званы ОСО — «Особое Совещание». Яны не маглі называцца праўдзівымі судамі, а былі толькі органам савецкае адміністрацыі. Да 1947 г. вышэйшая норма ў ОСО была 10 гадоў, а ад гэтага часу падвысілі да 25. Папулярна 25 называлі «катушка» — шпулька. А самая найвышэйшая норма была 25+5 гадоў высылкі і + 5 гадоў «паражэння ў правох», як казалі «па рагам». Ад гэтага часу 10 гадоў называлі «кароткатэрміновы». Пяцігадовы тэрмія лічыўся за смешна малы, а нават падазроны. У лагерах звычайна гаварылі на «катушку»; «Сталін прыказаў жыць 25 гадоў!» Зрэштаю, законы кодэксу былі ўложаны так імглiста, што следчы мог падцягнуць пад 58 параграф кожны патрэбны яму пункт, за які давалася ў ОСО поўная мера — 25 гадоў.

Ганебна ашукаліся тыя, што «сыпалі» сваіх знаёмых. Мушу расказаць аб канфрантацыі, якую зрабілі мне. Іваноў аднекуль здабыў супраць мяне двух сведкаў, абодвух даўнейшых маіх вучняў з Харбіна. Адзін, па прозвішчы Кунцэвіч, быў у нашай школе ў 1934 г. Паводле формы Іваноў мяне пытае:

— Ці пазнаеш гэтага свайго вучня, Кунцэвіча?

— Не пазнаю і не прыпамінаю, — адказваю я.

— А ты ці знаеш яго? — пытае Кунцэвіча.

— Знаю! — адказвае Кунцэвіч. — Ён у 1934 г. быў дырэктарам нашае школы ў каталіцкай Місіі ў Харбіне.

— Што ведаеш аб ім і чаго ён навучаў? — пытае далей Кунцэвіча.

— Ён, я помню, — кажа Кунцэвіч, — гаварыў на навуцы ў царкве, што Ватыкан заклікае ўсе народы ўсяго свету да абароны рэлігіі ад бальшавікоў і да барацьбы з Савецкім Саюзам.

— Ты, што на гэта адкажаш? — звяртаецца Іваноў да мяне.

— Гэтага я не памятаю і не мог так гаварыць; я не мог заклікаць да збройнае барацьбы.

Тут Іванова раптам на хвіліну кудысьці выклікалі і ён (супраць усякае формы) пакінуў нас абодвух у сваім кабінеце. Тады Кунцэвіч дабрадушна да мяне:

— Як жа вы мяне не памятаеце? Я аднойчы познім вечарам уцёк з інтэрната ў кіно і вы за тое мяне выгналі.

Мы не скончылі гутарку, як вярнуўся Іваноў і пачаў пытаць мяне далей паводле свае праграмы:

— Ці ты маеш што супраць сведкі?

— Маю! — кажу. — Я ў 1934 г. выгнаў яго з інтэрната і са школы за начное кіно, дык цяпер ён не можа быць бесстароннім сведкам.

Іваноў аж падскочыў на крэсле, як бы сеўшы на іголку. Ён зразумеў, што Кунцэвіч мне прагаварыўся. Як скрывіцца на яго, як закрычыць, як затупае, як пагоніць яго вон!.. А я тут выграў начыста, бо такі важны сведка неаглядна страціў вартасць.

Другім сведкам быў армянін (на жаль, я забыўся ягонае прозвішча). Ён быў нашым вучнем у 1939 г. і быў выкінены за гультайства: прасядзеўшы два гады ў адным класе, астаўся на трэці год. Я яго не пазнаў таксама. Армянін пачаў сведчыць. Ягоныя вочы блішчэлі такою злосцю супраць мяне, што аж мне стала жудка. Ён слова ў слова паўтарыў тое самае, што гаварыў Кунцэвіч, хоць паміж іх навукай быў інтэрвал 5 гадоў, і яны выйшлі з школы ўжо так даўно — Кунцэвіч 15 гадоў, а армянін 10. І адкуль яны, такія шалапаі, маглі б так дакладна памятаць мае словы, калі б я іх нават сапраўды сказаў? Ясная справа, што сам Іваноў іх навучыў, што яны маюць казаць.

— Ці ты маеш што супраць сведкі? — пытае мяне Іваноў.

— Так, маю! Ён уступіў у ліцэй перад маім паўторным прыездам у Харбін. І калі ён быў у школе, я дырэктарам не быў. Тады навукі ў нашай царкве гаварылі або дырэктар, або інспектар. Значыць, гэты сведка гаворыць няпраўду.

— Давай яму пытанні. — налягае Іваноў.

— Не хачу!

— Будзеш пасля шкадаваць, што адмовіўся пытаць.

— Не буду шкадаваць! — катэгарычна гавару яму. — Гэта ён будзе плакаць на маім судзе, калі там яму буду ставіць пытанні.

Больш я з абодвума сваімі «стукачамі» не спаткаўся нідзе. Толькі пасля я даведаўся, што яны самі былі тады арыштаванымі і дасталі на судзе па 25 гадоў. І, мусіць, спадзяваліся выйграць з маёй шкодай?

Ужо мінула некалькі тыдняў следства, і следчы ніколі яшчэ мне ясна не сказаў, чаго ад мяне дамагаецца, якім злачынцам мяне хоча зрабіць, а толькі вылоўліваў розныя факты з мае працы ў Харбіне. Хоць мы з сваёю працаю не крыліся і не спынялі яе нават падчас бальшавіцкае акупацыі ў 1945 г. Мне выяўлялася толькі адно, што Іваноў намагаецца зрабіць з мяне і з нас усіх ворагаў Савецкага Саюза.

Следчы рэдка клікаў мяне ўночы; часцей каля гадзіны 10-й раніцы. Тады трымаў да паўдня; а каля 13-й гадзіны сам ішоў на абед, а мяне пераводзіў у канцылярыю і пакідаў пад вокам пісара. Гэты да мяне нічога не гаварыў, і да яго тады ніхто не заходзіў. Мне толькі шанцавала, што я бачыў насупраць сябе на сцяне аграмадныя геаграфічныя карты і мог хоць гэтак пераносіцца думкамі на ўвесь Божы свет. І заўсёды мае вочы спыняліся даўжэй на Беларусі, асабліва на Вільні, дзе я правёў найлепшыя гады майго жыцця.

Каля гадзіны 15-й Іваноў вяртаўся да далейшае апрацоўкі мае асобы. Ён у сваім перакананні лічыў сябе абаронцам пралетарыяту, дэмакратыі, а мяне лічыў і прызываў «пасобнікам» буржуазіі і капіталізму. Дзеля таго ён уважаў, што мае права, сам малады і здаровы, з'есці ў сваю пару сытны абед з немалою выпіўкай, а мяне, хворага, старога і галоднага, трымаць без абеду да гадзіны 17-й або і 18-й, прытым моцна прабіраючы і лаючыся па-расейску. Вярнуўшыся ў камеру, я кожны раз знаходзіў астылы абед і зараз такжа прыносілі вячэру. Змучаны і знерваваны, я не мог есці: ледзь крыху, прымушаючы сябе, перакусваў і нецярпліва чакаў адбою, каб хутчэй легчы ў ложак. Ды і сон чамусьці доўга не прыходзіў, а калі і прыйшоў, дык больш быў мукаю, як адпачынкам.

У часе следства мне трапіўся выпадак, якога век не забудуся. Допыт датычыў нашага француза а. Паўла. Іваноў мяне пытаў, якія былі адносіны француза да СССР? Ужо была гадзіна 21-я, і я быў знерваваны, адчуваў моцны боль галавы. Спачатку я на пытанні адказваў павярхоўна, абы збыць, але Іваноў дамагаўся сцісласці і дакладнасці нават у рознай драбязе. Тут ужо я насцярожыўся. Пільнуюся, каб не зблытацца і не пашкодзіць сябру, бо ведаю, што яны француза вельмі не любяць за ягоную стойкасць і не маюць надзеі прымусіць яго да беспадстаўнага прызнання. Значыць, хочуць праз мяне падкапацца пад француза. Бачу, што следчы пачынае мяне ўблытваць і зводзіць. Дык ад пары да пары між намі схопліваецца спрэчка за адно сумліўнае слова, і Іваноў патроху мусіў уступаць ды запісваць у пратакол маё, а не сваё слова. Так мы працягнулі рэдакцыю пратакола аж пад самую поўнач. Нарэшце дае мне падпісаць, але перш кажа:

— Я сам табе прачытаю пратакол.

— Не, лепш прачытаю я сам, — адказваю катэгарычна.

І вось я чытаю і вачам сваім не веру: у пратаколе было запісана або не тое, што я казаў, або не так, як я казаў. Пратэстую.

Найгорш мяне абурыў адзін сказ, што «а. Павал быў зацятым ворагам Савецкага Саюза».

— Я гэтага не гаварыў!

— Як то ты не гаварыў?

— Абсалютна я гэтага не гаварыў. Тут фальш.

— Падпішы! — крычыць Іваноў.

— Нізашто не падпішу!

Паўстала спрэчка, крык, лаянка без канца. Ён мне махлюе ў жывыя вочы, але я ўпёрся наадрэз. І вось Іваноў нарэшце ўступіў: мы робім папраўкі ў пратаколе. Змагаемся да знемажэння, так што ледзь даехалі да канца. Цяпер я хоць з цяжкім сэрцам згадзіўся падпісаць пратакол; але баяўся, ці не зашмат яму ўступіў. Тут Іваноў дае падпісаць пратакол на апошняй старонцы ў самым канцы, а я гавару:

— Паводле права я хачу падпісваць асобна кожную старонку.

— Не, падпісвай на канцы! — камандуе Іваноў.

— Не буду! І зусім ужо не буду падпісваць, бо тут робіцца нейкае ашуканства.

— Як то ты не будзеш падпісваць?

— Зусім не буду, ані на пачатку, ані на канцы. — Я кінуў ручку на стол і быў гатовы на ўсё. Мне раптам з'явілася думка: калі я падпішу на канцы, дык Іваноў можа штосьці прылажыць і француза могуць расстраляць. Праўда, тады кара смерці часова была скасаваная, але я тады аб гэтым не ведаў.

Іваноў убачыў, што я не паддамся ні пагрозам, ні ашуканству, — замоўк і пачаў праглядаць нейкія рэестры. Тут ні з таго, ні з сяго запытаўся:

— Ці ты знаеш Н. Н. — японца?

— Можа, і знаю, але такога прозвішча не чуў.

Ён пры мне тэлефануе ў надзор.

— Прывядзіце сюды Н. Н. японца.

Зараз прыйшоў пасланец з надзору і кажа:

— Я прывёў японца.

— Няхай пачакае ў калідоры, — адказаў Іваноў.

Стварылася новае палажэнне: японец стаіць за дзвярыма, але я яго не бачу, і мяне мучыць дагадка, хто ён такі і якая новая каверза можа быць для мяне ад гэтага чалавека? Іваноў японца не клікаў, толькі далей крычаў, лаяў і бэсціў мяне, прымушаў падпісаць фатальны пратакол, а я ўсцяж адмаўляўся. Думаў аб японцы, мучыўся ўдвая; галава мне балела да шаленства…

Іваноў бачыў, да чаго мяне давёў, і распальваў далей да апошняе стадыі, каб выманіць подпіс. Змаганне было вельмі няроўнае, быццам слабага безабароннага чалавека з магутным мядзведзем. Ён — прадстаўнік Савецкага Саюза, а я…

## КАШМАР

Кепска, пане Грыгоры,
а што далей, то горай!

Аднак змогся і крамяны Іваноў і раз'юшана крыкнуў на мяне:

— У карцар!

Здрыганулася маё сэрца; а Іваноў гаворыць у тэлефон да надзору:

— Забярыце чалавека!

Прыходзіць з надзору наглядчык і кліча мяне:

— Пойдзем! — але я стаю, як здурнеўшы. Мае нервы працуюць жыва, але паблыталіся. Я ўсё бачу, чую і ведаю, што робіцца навокал, толькі не ўсведамляю таго, што датычыць мяне самога. Так часамі пасля буры блытаюцца тэлефонныя драты: інтэрасант звоніць да доктара, а яго лучаць з бойняю.

— Чаго ты стаіш? — крычыць нецярпліва наглядчык.

Я выйшаў на калідор і затрымаўся сумеўшыся. Я не мог зразумець, дзе ж падзеўся той японец? Тады я не мог зразумець, што яго зусім не клікалі — гэта была толькі правакацыя, каб мяне напалохаць.

— Ты зноў стаў? Ідзем, ідзем!

Іду перад наглядчыкам, рукі назад і на калідоры перад карцарам я затрымаўся. Наглядчык узбурана закрычаў:

— Чаго ты зноў затрымаўся?!

Мы прыйшлі да мае камеры; ён адчыніў, упусціў, замкнуў — усё зрабіў паводле закону; а я сеў на ложак і страціў арыентацыю. Усё памяшалася ў маёй галаве, бо на адзін раз сабралася лішне многа. Толькі памяць мая завастрылася: помню ўсе падзеі гэтае мае «цёмнае ночы». Думалася: можа, зараз прыйдуць да мяне з ланцугамі, дык што мне рабіць, дзе мне падзецца? Аж стукае ў дзверы наглядчык і крычыць:

— Чаму не кладзешся?!

— Расстраляйце мяне! За што вы мяне мучыце?! — крычу яму ў адказ яшчэ мацней за яго.

Мой крык вырваўся з хворае душы без ніякай думкі — гэта была самая чыстая роспач. Так я і не клаўся тае ночы: а нагляд-

чык, відаць, перапалохаўся, і больш мяне не чапаў. Помню, як я, нахіліўшыся, доўга рысаваў нейкія фігуры на падлозе разлітаю вадою. Была, мусіць, гадзіна трэцяя па поўначы. «Адкуль жа вада?» Гэта, мусіць, была гарбата ад няедзенае вячэры? Далей мяне занялі дзіўныя абразы, якія пераплывалі перада мною ў галюцынацыі.

Мне здалося, што сяджу на полі, на горным перавале недалёка лесу. Было гэта ў цёплы летні дзень, калі сапраўды была сібірская зіма. Далей бачылася, што ад маіх ног паніжаецца і цягнецца ўпапярок доўгая, вузкая даліна, а за ёю зноў узвышша і другі перавал. Адтуль сходзілі радамі мужчыны па 20 або 30 чалавек. Ідуць гужамі, спускаюцца ў даліну, падымаюцца да мяне, даходзяць да маіх ног і нікнуць.

Дзіўлюся на іх, што яны так нікнуць, а надыходзяць усё новыя і новыя — людзей тысячы!..

Раптам гэты абраз згінуў, але зараз паказаўся новы. Цяпер падобным парадкам падыходзяць да мяне жанчыны. Таксама ідуць гужамі, падыходзяць непасрэдна блізка і нікнуць. Бачу так ясна, што разрозніваю нават рысы аблічча. Маюць завязаныя хустачкі і апраненыя па-нашаму — значыць беларускі, але ўсё незнаёмыя. І многа іх, многа! Такія паважныя, задуманыя; глядзяць мне ў вочы, аднак маўчаць усе. Затым таксама ішлі дзяўчаты, пасля хлапцы, дзеці і зноў мужчыны і гэтак далей…

Ці я сплю? Не! Разглядаючы тыя абразы, я сяджу звычайна на ложку, маю спушчаныя на падлогу ногі, усведамляю самога сябе, паглядаю на дзверы; чую, як наглядчык ходзіць па калідоры; дзіўлюся з свайго дзіва, якое так ясна бачу, а яно развіваецца далей.

Цяпер панарама перамянілася: бачу, як на белай сцяне з рысак на тынку насупраць мяне фармуюцца абразы зусім іншыя, быццам у кіно, але гэта жывыя людзі. Зіма. Снег ляжыць на зямлі грубым пластам. Беларуская вёска. З вёскі ідзе шырокая, гладкая зімовая дарога. Хаты і будынкі ўкрыты груба снегам, на канцы вёскі пляц і там вісельніца. Я аж задрыжэў! Бачу зусім ясна, але ў жывой мініяцюры, як немцы вешаюць нашых людзей. Тут наступіла ў маёй душы раздваенне: я верыў таму, што бачыў, бо ішла жывая акцыя, і адначасна не верыў, бо бачыў самога сябе, сядзячага ў камеры, ды прыслухоўваўся, што робіцца ў калідоры. Мне было вельмі цікава аглядаць тыя з'явы, але і надта цяжка…

Нарэшце я лёг. Лямпачка гарэла высока, і яе яскравае святло вельмі мяне мучыла. Мне страшэнна балела галава, і я ніяк не

мог заснуць. Была гадзіна мусіць пятая. І вось бачу, як мяне валочаць па калідоры і б'юць. Не магу вытрываць і крычу. Тут зноў было поўнае раздваенне: чую свой голас з калідора, хоць сам сябе бачу на ложку і ляжу тут ціха. Малюся з цэлага сэрца, паўтараючы: «Божа, ратуй, бо згіну!» Аж вось анёл выводзіць мяне з турмы, як калісьці Пятра ў Іерусаліме. А пасля вязе мяне такім хуткім самалётам, як маланка; або, здаецца, самалёт шыбае паволі; я ляжу і гойдаюся, як у дзіцячай калысцы. Прасторы самі мігаюць і так прамчалася 10 000 кіламетраў! А там ужо паказалася родная краіна і поўная воля…

Я дрыжу. Якая прычына? Страх. Страх — такі бязмерны і такі жудасны, што не даваў мне ні спаць, ні есці, ні думаць, ні маліцца! І ўжо не мог нічога аб сабе сцяміць. Дрыжэў ад адных абломкаў думак, якія набягалі ў душу і зараз жа знікалі. Першыя абразы і прывіды — усё абарвалася. І не скажу, што я баяўся чагосьці азначанага, — гэта быў хутчэй якісьці звярыны страх. Мусіць, так уласна баіцца жывёла, чуючы кроў у бойні? А помню толькі і выключна пачатак гэтага сну, бо наступныя тры дні зніклі ў маёй памяці, як камень у ваду, і нічога акрамя бязмежнага страху ад іх не асталося.

На шчасце, пасля трох дзён страх прайшоў сам сабою; я пачуваўся аслабленым, але зусім нармальным. І тады, больш чым калі, я ўсвядоміў, якое бязмежна вялікае багацце розум чалавека!

Толькі на шосты дзень Іваноў заклікаў мяне зноў. Ён мусіў ведаць ад наглядчыка, якая рэакцыя была ў мяне ад папярэдняга пратакола, але таго панічнага страху цяпер не было ў мяне ані каліва: я глядзеў проста ворагу ў вочы і быў гатоў пачаць змаганне.

— Падпішы! — гукнуў асочны.

— Не падпішу!

Ён спадзяваўся, што ў маім зламаным здароўі знойдзе зламаны дух, але не знайшоў. Аж яго заторгала нячыстая сіла! Закляў, залаяў… Мы, аднак, ужо добра знаі адзін другога: я адразу ўцяміў, што ён злагоджвае тон і не спадзяецца ўзяць верху нада мною. Я маўчаў надуўшыся і не адказваў на ягоныя блюзнерствы. Тут Іваноў ухапіў той паганы пратакол і пры мне падзёр яго на кавалачкі.

«Добра, — думаю сабе, — цяпер і таго не скажу, што было ў тым».

Ён пачаў новы пратакол. І зноў пайшлі спрэчкі, папраўкі, крык; і ў канцы я такі падпісаў пратакол, але ён быў мой, а не

ягоны. І з гэтага ўжо ён не мог скарыстаць на шкоду француза і застаўся, можна сказаць, з вялікім носам. Цяпер змяніліся і адносіны да мяне: лекарка перапісала мяне на дыетны стол і сам Іваноў абяцаў перавесці мяне з адзіночкі ў групавую камеру. На допытах адносіны між намі змякчэлі, а пратаколы скараціліся.

Характэрная была ў нас адна размова: Іваноў з усяго свайго бальшавіцкага сэрца выказваў глыбокі жаль і праліваў, як кажуць, кракадзілавыя слёзы, больш-менш у такіх словах:

— Каб ты мяне слухаў, дык дастаў бы найбольш тры гады, а так дык самахоць ідзеш да 25

Тры гады ў іх лічыцца тэрмін смешна мізэрны, проста ніякі. Іваноў гатоў быў бы публічна мыць рукі, каб паказаць толькі, што вінаваты я сам у сваёй згубе. Ды я ані парушыўся, каб яму падзякаваць ці прасіць; знаў я яго добра і зверху і з подшыўкі.

## СПАКУСЫ СУПРАЦЬ ВЕРЫ

Я і не прадчуваў, што на мяне рыхтуецца новая пастка, горшая і страшнейшая — адступніцтва ад веры. Атака вялася з двух бакоў. З боку начальніка турмы і з боку Іванова.

Начальнік быў чалавекам павярхоўна гладкім, вонкава ветлівым і падступна шчырым, уладарна ліслівым і падазрона добрым. Відаць, ён вельмі трапна быў падабраны на такое важнае становішча — начальніка вайсковае турмы для Далёкага Усходу. Акрамя сібірска-забайкальскіх спраў турма абслугоўвала патрэбы вялікага Кітая і пагражаючай Японіі. Сам Іваноў і начальнік турмы справядліва ганарыліся такімі кліентамі, як Маньчжурскі імператар Пу-І і харбінскі мітрапаліт Нестар. Яны і нас лічылі за нешта-нейкае важнае.

Начальнік пачаў мне даваць кніжкі да чытання і нязначна, але паступова падбіраў іх супраць веры. Я быў згаладаны на друкаванае слова і, колькі мне дазвалялі вочы, чытаў усё. Выбару не было: бралася, што давалася. Аж нарэшце начальнік, уважаючы, што я мусіў даспець або прынамсі захістацца ў веры, адкрыта запытаўся:

— Што ж вы думаеце аб нашым навуковым падыходзе?

— Ведаеце, чым больш чытаю вашае літаратуры, тым больш мне становіцца ясна, што нашая вера абаснавана шмат мацней, чым ваш атэізм.

— Як так? — здзівіўся начальнік.

— А так. У вашых аўтараў я доўга шукаў выяснення аб пачатку свету, аб паўстанні жыцця, аб парадку ў прыродзе і аб законах прыроды. І вось што я ў вас знайшоў: прырода ёсць сама ў сабе прычынаю самое сябе; значыць прычынаю і свайго пачатку, і свайго існавання. Толькі ж не выяснена, як можа нейкая рэч сама сябе пачынаць, і гадаваць, і трымаць? Як можа нехта сам сябе нарадзіць, а потым сам сябе насіць на сваіх руках, абымаць сябе і цалаваць самога сябе ў аблічча? Па-вашаму прырода розуму не мае, аднак, заводзіць найразумнейшы сусветны парадак. І яшчэ адно: прырода сама нежывая, а яна з мёртвага матэрыялу ўзбудзіла на зямлі такое буйнае жыццё. Дык выглядае, што ў вашай мудрасці не хапае чагосьці тут… — Пры гэтым я стукнуў сябе пальцам у галаву.

Начальнік адправіў мяне без кніжкі, і так нашая дружба з ім скончылася. Я быў нарыхтаваны гаварыць значна больш, але ён і таго не хацеў слухаць.

Іваноў атакаваў маю веру іншым спосабам: то насмешкамі, ато і паважна вылоўліваў розныя закіды супраць святога Пісання і ўмеў моцна мяне падцяць і агарошыць. Тады я яму не пярэчыў і не адказваў, бо не верыў у ягоную шчырасць. Іваноў з таго быў і задаволены і незадаволены. То цешыўся з свае сілы, а то быў горш злосны за мае моўчкі. А мне такая тактыка была выгаднейшая, бо тады ён пераставаў назаляць і пераходзіў да пратакола і быў менш прыдзірлівы, хоць часам больш заўзяты. Так кот злуецца, калі мышка з ім не хоча гуляць і канчае гулі.

Пад канец пятага месяца следства, у траўні 1949 г., калі я ўжо быў дарэшты вычарпаны, Іваноў здабыў наймацнейшыя козыры, каб мяне зглуміць. Аднойчы ён з вялікім трыумфам заявіў мне, што наш сябра, расейскі святар П., адрокся публічна перад імі ўсімі ад веры і ад Бога. Мяне быццам варам абліло! Я разумеў, што гэтым разам следчы кажа праўду. Мне зрабілася страшэнна сумна і адразу прыгадалася самалюбства і самапэўнасць няшчаснага П., як ён у Харбіне паніжаў іншых, а сябе ставіў высока. Такім людзям Бог адмаўляе ласку веры ў самых цяжкіх момантах.

— Што ж, — думаў я, — вялікі ягоны грэх, а нам з-за яго сорамна.

П. не быў лішне баязлівы, каб адрачыся з страху, і не мог зрабіць чагосьці такога з пераканання. Значыць, паквапіўся на палёгку ў прысудзе. Разумееецца, бязбожнікі яго ашукалі і ўсё роўна далі яму 25. А прытым скарысталі з ягонае здрады, каб

мацней спакушаць нас. Яны ўважалі, што адна важная пазіцыя здабыта.

Мала таго. Другі раз Іваноў даў мне чытаць запісную картку паперы. Пазнаю ў ёй характар пісьма нашага сябра святара Т. Я проста аслупянеў.

— Што гэта такое? — пытаюся.

— Чытай, чытай! — кажа Іваноў.

Чытаю далей і не веру сваім вачам. Святар Т., якога я знаў больш дваццаці гадоў, як добрага, разумнага, пабожнага чалавека, як духоўніка і прапаведніка, а такжа глыбокага філосафа, як добрага прыродазнаўцу і сацыёлага; адным словам, як цнатлівага святара — і вось ён у запісцы, якая была ў мяне ў руках, піша і тлумачыць, што матэрыялісты ў навуцы маюць рацыю і што, значыць, Бога няма.

— Каб я так жыў, — думаю я, — ён ашалеў!

Бо яны не маглі злавіць яго на запалох; ён ніколі нічога не лякаўся. І немагчыма было, каб ён паддаўся на абяцанкі або каб спадзяваўся праз гэта ўцячы ад турмы. Увесь Харбін ведаў Т. як шчырага, праўдамоўнага і ахвярнага святара, у якога «няма здрады».

Глядзіць на мяне Іваноў, вытарашчыўшы вочы і аж падскоквае з радасці, якой не можа стрымаць у сваім бязбожным сэрцы, ды пытае мяне:

— Ну, што ты на гэта скажаш?!

— Што ж? Толькі адно магу сказаць, што ён, няшчасны, звар’яцеў.

Іваноў адабраў ад мяне тую запіску, нічога больш не кажучы, і адразу перайшоў да пратакола. Толькі потым, вярнуўшыся ў камеру, я прыпомніў, што фатальная запіска была недаканчанаю, без даты і непадпісаная. Чаму? Ніхто мне не мог бы адказаць на гэтае пытанне. Мяне пачалі мучыць цяжкія сумлівы, і цяжка мне зміръіцца з думкаю аб гэтым дзіўным упадку блізкага прыяцеля а. Т. На шчасце, я ўжо не быў у адзіночцы, дзе мог бы паўтарыцца са мною папярэдні крызіс.

Толькі значна пазней я паступова разблытаў забэрсаны вузел навокал асобы а. Т. Калі першы раз пасля здарэння я ўбачыў яго ў следчага, дык аж зжахнуўся! Ён быў жоўты як труп і схудзеў як шчэпка, як кажуць: «лепшых у труну кладуць». А псіхічна быў зламаны зусім: не было ў яго вар’яцыі, але нейкая дзіўная фіксацыя (духовы заскок). Ён уроіў сабе такую камбінацыю: дасюль вучоныя знайшлі магчымасць лавіць слухавыя хвалі

радыё, ловяць такжа хвалі праз радар, потым тыя жа светлавыя хвалі ў тэлевізіі. Дык наш а. Т. пайшоў у думках яшчэ далей, што вучоныя атэістыя вынайшлі сакрэтную машыну, якою ловяць найтайнейшыя людскія думкі. Стаў тады мучыцца і заломлівацца. Следчы дакруціў яго да таго, што ён напісаў вар'яцкую паперу, што Бога няма. Такім чынам, пад уплывам голаду, адзіноцтва і правакацыі падсудны звіхнуўся. Дадумаўся да таго, што сказаў сам сабе:

— Калі яны адгадваюць мае думкі, дык што ж я буду прад імі таіцца? Буду гаварыць усё.

І ён пачаў «сыпаць» на сябе і на нас усё, што прыходзіла яму на думку. Дзеля таго, што ў Харбіне ён не належаў да нашае адміністрацыі, дык і не ведаў шмат якіх падзеяў з жыцця ліцэя; цяпер звіхнуўшыся, ён нагаварыў немаведама што, памяшаўшы праўду з фантазіяй. Следчым развязаліся рукі: яны спачатку ўсцешыліся, спадзеючыся, што ім будзе і добра і лёгка давесці следства да планаванае мэты. Аднак хутка яны збянтэжыліся, што ім ужо стала аж задобра! Сума ўсіх фантастычных вестак стварыла ім густую і нястраўную кашу. Ім прыходзілася або ўсё адкінуць, або выбіраць факты. Следчыя ўзяліся за другое і прыпісалі нам пункты адпаведна да свайго плана — насупраць усякае праўды:

1) Арганізацыю ў ліцэі св. Мікалая ваенна-тэрарыстычнага гуртка.

2) Супрацоўніцтва з загранічнай буржуазіяй.

3) Шпіёнства для Ватыкану і

4) Агітацыя супраць Савецкага Саюза.

І далі нам без суду па 25. А беднаму а. Т., які даў ім толькі матэрыялу, ледзь дапасавалі адзін найслабейшы пункт, аднак таксама далі 25. Мы, аднак, не крыўдавалі на хворага а. Т., а толькі лепш пазналі гэтых несправядлівых суддзяў.

Хвароба а. Т. адходзіла паволі. Аднойчы пры спатканні на следстве з дырэктарам ліцэя ён пачаў гарадзіць аб той «машынцы», што ловіць людскія думкі і што, значыць, Бога няма. Тады дырэктар, архім. Андрэй, толькі сказаў яму:

— Чалавеча, што ты гаворыш?! Апамятайся!

Тут а. Т. аж задрыжаў, зараз устаў, задумаўся і адразу моцным голасам урачыста загаварыў:

— Верую ў Бога Айца Усёмагутнага, Тварца неба і зямлі!

Такім чынам сам заламанец закасаваў і змыў сваё часовае хворае недаверства. Пасля гэтага нават бязбожныя следчыя не

адважыліся нам аб ім успамінаць. Прайшло якіх тры месяцы, як скончылася следства, а. Т. сам перастаў гаварыць аб тэй фантастычнай машыне і пачуваўся здаровым.

Іваноў падбіраў хвіліну і нарэшце змеркаваў, што ўсімі папярэднімі падзеямі я ўжо даволі падкапаны і што ўжо пара запаліць апошнюю міну. Аднойчы, калі я быў моцна знерваваны доўгім і цяжкім допытам, Іваноў прыклікаў на следства «сем горшых ад сябе»: прыйшоў пракурор, падпалкоўнік і нейкія незнаёмыя афіцэры, і ўсе яны навыперадкі пачалі засыпаць мяне закідамі супраць Бога. Я сядзеў, як прыглушаны. Мне не толькі да знемажэння балела галава, але ў душы панавала поўная адранцвеласць; парываўся што-колечы сказаць, і хоць мне было сорамна і балюча, што не ўмею бараніць свае веры, але словы вязлі ў горле і я ганебна маўчаў. Мусіць, Бог дапусціў на мяне такое паніжэнне і, мусіць, нехта дужа маліўся за мяне, што я тады не ўпаў у пропасць… Аж толькі ў канцы самі сабою вырваліся ў мяне ненадуманыя словы:

— Каб ад Бога адрокся ўвесь свет і ўсё духавенства і нават сам рымскі папа, дык гэта для мяне не мела б ніякага значэння, бо я адказваю толькі перад Богам…

— Пакіньце яго! — рэзка сказаў падпалкоўнік.

Яны выйшлі і больш ужо не вярнуліся. На гэтым кончыліся ўсе спакусы супраць веры.

> Так то чорт нас грэшных кусіць,
> Каб не крыж, прапаў бы, мусіць.
>
> *Ф. Багушэвіч*

## ЗАКАНЧЭННЕ СЛЕДСТВА І «СТАЦЦЯ 206»

> Праўда не тоне і не гарыць.

У самым канцы следства зусім неспадзявана для мяне з’явіўся небяспечны закід, што я ў Харбіне ўвёў між вучняў гурток ваеннае арганізацыі пад назовам Дружыны Св. Мікалая. Я бараніўся тым, што дружына была нешта накшталт юнацкага скаўтынгу і не мела ніякага вайсковага характару. Прытым хацелі штучна звязаць гэтую юнацкую групу з японскай вайсковай арганізацыяй для моладзі Кіо-Ва-Кай, якую японцы ўводзілі прымусам ува ўсе школы ў Маньчжурыі.

— Але ж у вас быў вайскові сцяг! — крычаў Іваноў.
— Не было ніякага сцяга, — адказваю рашуча.
— А я гавару табе, што быў сцяг! — кажа Іваноў.
— А я гавару, што не было сцяга! — упіраюся я.
— Мы зараз убачым! — сказаў Іваноў рашучым голасам. І тут паклікаў а. Т. на канфрантацыю са мною. (Аб ягоным псіхічным заламанні была гутарка ў папярэднім раздзеле.) І вось пытаецца Іваноў у яго:
— Скажы нам, ці быў у ліцэі сцяг дружыны?
— Так, быў сцяг, — кажа а. Т.
— Ну, што ж ты цяпер скажаш? — кажа Іваноў да мяне.
— Я цверджу станоўча, што сцяга дружыны не было. Быў толькі сцяг ліцэя з абразом св. Мікалая, але асобнага сцяга дружыны абсалютна не было.

А. Т. сядзеў перада мною, як каменная статуя, і трымаўся цвёрда, як сталь. Яму здавалася, што быў сцяг, а я добра ведаў, што ніякага сцяга не было. Справа была не толькі непрыемная, але для мяне такжа вельмі небяспечная, бо сцяг мог быць доказам вайсковай арганізацыі, якой у сапраўднасці не было, але за якую магла пагражаць мне кара расстрэлу. І вось я напружваю ўсю сваю памяць і яшчэ больш пераконваюся, што нічога адносна дружыны не забыўся. Аж раптам прыйшло мне на думку пытанне:
— Якога размеру быў сцяг? — звярнуўся я да а. Т.
— Вось якога… — Тут а. Т. нарысаваў рукой на стале памер на чвэрць метра да квадрату. Я, як быў настроены паважна і запалоханы, так адразу рассмяяўся на ўвесь голас:
— Вось дык «глупа»! — кажу. — Гэта ж белы флажок на кіёчку, з якім хадзілі на спацыр і экскурсіі.

Іваноў і сам засаромеўся ад няўдачы і нават не запісаў такой дрэні ў пратакол, а няўдачлівага а. Т. загадаў забраць у камеру. Так прайшла апошняя проба, якімі мяне дасведчваў з Божага дапушчэння несправядлівы суддзя. Ужо мусіў прыйсці канец усяго следства.

*

Нашая група цяпер складалася з шасці: Пётру Марчышына аддзялілі, і мы ўжо яго нідзе не спатыкалі. Следчы Іваноў казаў, што яму далі дзесяць гадоў за ўкраінскую палітыку. Марчышын у лагерах памёр.

Следства трывала пяць месяцаў: ламалася і папраўлялася і ўсё роўна, акрамя беспадстаўных дагадак, нічога рэальнага не дало. Цяпер нас сабралі ўсіх разам на заканчэнне у доўгай турэмнай зале, каб падпісаць артыкул 206. Мы ледзь пазнавалі сябе ўзаемна: замучаныя, схудзелыя, мы чуць цяглі ногі. Усе насілі ведамую «пячаць» турмы — колер аблічча, як трапна казаў Багушэвіч:

У турме, як у тым гробе,
Ўсіх у адну твар паробе.

Маёр Іваноў быў галоўным кіраўніком суду над усёй нашай групай ды правадыром следства і вёў асабіста справу нашага дырэктара а. Андрэя і маю, як віцэ-дырэктара, прытым ён дужа трымаўся вонкавай формы і плана. Вось цяпер на заканчэнне ён выступіў дужа ўрачыста: пасадзіў нас навокал вялікага стала, на якім ляжалі нашыя пратаколы. Мы там убачылі, што на кожнага з нас была запісаная цэлая грубая кніга. Мы мелі права чытаць савецкі карны кодэкс, і яго нам першы раз далі ў рукі; маглі такжа пераглядаць свае пратаколы. І мы маглі гаварыць з сабой свабодна, дзеля таго нас пакінулі ў зале адных. І нас не падганялі.

Усе былі гатовы падпісаць канчатковы акт следства, адпаведна да артыкула 206, толькі сумляваўся я адзін, бо не быў задаволены з свайго следства. Асабліва два пратаколы былі для мяне цяжкія, бо ў адным я рабіў уступку супраць сябе самога, а ў другім не патрапіў належна абараніць напасці на нашага дырэктара. Мне было сорамна і прыкра з самога факту, што так сталася, а найгорш, што я не ведаў, як тое, што я сказаў, паправіць. Наагул увесь час следства я вельмі сцярогся, каб не ўблытаць і найбольшых ворагаў. Працуючы ў ліцэі, я меў справы з рознымі людзьмі: з бацькамі вучняў, з настаўнікамі і з рознымі інтэрасантамі і то ў самым цяжкім ваенным часе. А на следстве аб усім мяне пыталіся; можна сказаць, што выцягвалі з мяне жылы, а я ўсё ж не папусціўся. Я толькі называў прозвішчы людзей памёршых і, каб адчапіцца, прозвішчы людзей заграпічных, да якіх не даходзіла рука НКВД. Аднак жа ў тых двух пратаколах мая чуткасць аслабела. Чалавек сам не ведае, адкуль бяда наляціць, і ці ад благіх людзей, ці аж дзіва! — ад самога сябе…

І вось мы пераглядаем кодэкс: нас было шасцёх, а кніга кодэксу адна, дык кожны мог патрымаць яе дзве-тры мінуты ў руках, і зараз жа трэба было даваць другому. Аднак мы, падобна як і нашыя следчыя, выканалі фармальны загад савецкага

права, што мы «кодэкс мелі ў руках». У тую хвіліну мы нават не дагадваліся, у чым нас будуць вінаваціць і за што будуць караць, бо ад пачатку следства і да цяпер нам не далі акта абвінавачання. І на славуты параграф 58, і на згубны там пункт 6-ты (шпіёнства) нам нават і не прыйшло на думку зірнуць у кодэксе хоць адным вокам. Ажно, як лыжку па абедзе, дастаў я тлумачэнне сваіх пунктаў потым у лагеры. Тады мае дасведчаныя новыя таварышы вельмі дзівіліся з мае нерастаропнасці, што я не разумеў сваіх пунктаў…

Пратаколы былі нам цяпер даступныя, але якое было следства, такія былі і тыя пратаколы, дык мы не мелі ахвоты іх пераглядаць, да таго і часу ўжо не было. Мы паглядалі адзін на другога як дзеці, калі ўбачаць свае паламаныя цацкі: усё нашае і мы самі змарнаванае…

Усе сябры падпісалі «стаццю 206». Маёр Іваноў цяпер на мяне не крычаў, ані лаяўся; ён то выходзіў, то вяртаўся і таптаўся каля нашага стала, але спакойна і цярпліва чакаў майго апошняга «вольнага» слова. І сябры моўчкі чакалі. А я ламаўся ў душы і мучыўся — аж да раздзялення душы ад цела. Я ж ведаў, што значыць падпісаць заканчэнне такога «катаржнага» следства: выглядала б, быццам я на яго згаджаўся, што было няпраўдзіва. Аднак жа, калі я яго не падпішу, дык будуць затрыманы ўсе мае сябры, бо нашая справа была групавою. Дзеля сябе я такжа баяўся прадаўжэння следства, бо яно пагражала смерцю. Сябры мне, праўда, ясна не гаварылі і не націскалі падпісаць, але яны нецярпліва чакалі. Што мне рабіць? «Божа мой, Божа!» Нарэшце я наважыўся падпісаць, складаючы сваю долю і сваю прышласць у рукі Усёмагутнага.

— Няхай сам Бог нас бароніць, як Сам знае. Здаюся на Ягоную Святую волю. Аман!

Такі цяперашні звіхнены свет, што людзі могуць свабодна тварыць зло і крыўдзіць безабаронных. А тыя самі падпісваюць…

(Увага: «Уголовный Кодекс», ст. 206. Там гаворыцца, што ўступнае следства закончана і справа пойдзе ў суд.)

## А ДЗЕ Ж СУД?

Прыйшла зіма, а ботаў няма!

Мы пераступілі праз высокі парог у новы этап жыцця; а фактычна не пераступілі, але пераскочылі, зажмурыўшы вочы, і не ведалі, дзе мы знайшліся. З дажджу — у навальніцу!..

Я загадзя адмовіўся ад адваката; але на маё вялікае дзіва Іваноў не адказаў мне ані так, ані не. І падчас падпісання «стацці 206» нам не сказалі нічога ні аб судзе, ні аб адвакатах. Аж паўстаў у нас сумлеў, ці наагул будзе які суд? Я вярнуўся ў сваю групавую камеру і жыў далей сваім дасюлешнім жыццём. Звычайна пасля падпісання следства вязняў пераводзяць у другую камеру, але пра мяне быццам забыліся. Мне выдавалі норму яды па-даўнейшаму, а наглядчыкі і далей пільнавалі мяне заўзята, толькі Іваноў больш не чапаў мяне. Аднак няпэўнае палажэнне, пагроза суду і кары, або кары без суду так мяне трывожылі, што мае нервы ніяк не папраўляліся. Што не будзе суду, мы не маглі дакараць сваіх следчых, чаму нам не сказалі, бо яны таксама не маглі ведаць, што вырашыць вышэйшая ўлада. А тая ў сваю чаргу залежала ад найвышэйшае ўлады і так аж да самога Сталіна. Мы такжа не маглі сказаць, што савецкія ўрадоўцы лгуць, бо ў іх самых праўда такая няпэўная, як ангельская пагода. 200 мільёнаў людзей павінны былі трымаць руку на пульсе Сталіна, павінны былі прыкладаць вуха да ягонага сэрца і пільна глядзець у ягоныя вочы і… сцерагчыся ягоных кіпцюроў! Толькі ён адзін быў абсалютна непамыльны. Калі, аднак, яму здаралася спудлаваць, дык тады былі вінаватымі тысячы іншых людзей: тых апісвалі, абсмейвалі і каралі, а Сталін выходзіў сухім аж да самае смерці. Не было на свеце ніводнага самаўладнага цара, ці султана, ці мікады, каб меў уладу, роўную Сталіну — ён адзін толькі ведаў усё, а другія толькі крышачку або і нічога…

Чакалі мы ў той самай турме яшчэ шэсць месяцаў і таго суду не дачакалі, — аж нарэшце даведаліся, што той суд адбыўся без нас у Маскве, на якім мы атрымалі па 25 гадоў. Перш меліся ў Чыце ўладзіць для нас суд т. зв. народны, ці паказны; але следства не дало дастатковага матэрыялу, каб нас публічна абвінаваціць у шпіёнстве ці ў іншых злачынствах, дык Масква пакарала нас сваім самасудам — вонкава за палітыку, а папраўдзе — за веру. Прытым не дапускалася ніякая апеляцыя.



У групавой камеры, куды мяне перанеслі з адзіночкі, было мне ўжо лягчэй; тут было светлае ваконца, так што электрычная лямпачка днём не гарэла, а толькі вечарам і ноччу. Тут ужо я мог спаць не толькі на спіне, але і на левым баку, абы толькі быў адвернены тварам да дзвярэй. Праўда, тут трэба было прывыкнуць да людзей і да начных храпуноў, але я пачаў спаць.

У камеры было: чатырох японцаў, адзін сібірскі калгаснік і адзін савецкі афіцэр. Кампанія прыняла мяне прыхільна, тым лепш, што я прыйшоў з запасным хлебам. У адзіночцы хлеб у мяне заставаўся, а тут яго японцы зараз расхваталі, нераўнуючы, як галодныя сабакі. Апетыт яны мелі такі ненасытны, што пэўна з'елі б і тры турэмныя нормы і яшчэ засталіся б галоднымі. Яны былі маладыя людзі, якіх узялі ў палон у Маньчжурыі і ўжо працавалі ў лагерах, але цяпер былі верненыя ў вайсковую турму на нейкае перасследства. Адзін з іх Гарада-сан добра гаварыў парасейску, бо перад вайною кончыў Інстытут замежных моваў; быў ён гаваркім, начытаным і ахвотна пасярэднічаў у гутарках з іншымі японцамі.

З тых гутарак я бачыў, што Гарада-сан моцна крытыкуе сваю ненаглядную Японію за яе неразважную ваенную палітыку:

— Мы думалі, што вайну выйграе толькі гарачы патрыятызм, ажно аказалася, што тэхніка яшчэ важнейшая. А да сучаснае вайны Японія зусім не была падрыхтаваная, асабліва з такімі магутнымі дзяржавамі, як Амерыка і Англія. Значыць, зусім дарэмна амерыканцы кідалі на Японію атамныя бомбы, бо яна была ўжо і так скончаная. Падморскія рэзервуары нафты былі ўжо вычарпаныя, марскі флот быў скрышаны, а паветраны — быў разрэджаны. Смяротнікі, якія з самалётамі або з мінамі кідаліся на ворага, былі павыбіваныя, а новых ахвотнікаў фаталістаў было мала. Проба дагаварыцца з Кітаем аб сепаратным міры — не ўдалася, бо кітайцы дамагаліся звольніць Маньчжурыю і Карэю. Зрэштаю, зусім адпала надзея на перамогу і нават не было сілы на абарону. Аружжа канчалася і купіць не было дзе, бо Японія ляжыць лішне далёка ад прамысловых цэнтраў, а навокал амерыканская патрульная служба адрэзала Японію ад рэшты свету. Дык атамныя бомбы дарэмна знішчылі сотні тысяч людзей і ўвялі ў жыццё найстрашнейшае аружжа, якое цяпер пагражае існаванню ўсяго чалавецтва.

Гарада-сан у шмат чым меў рацыю, але сам дужа ўхіляўся налева. Нашыя спрэчкі былі вельмі жывыя, аж загарачыя. Я не

спадзяваўся, што змагу яго крануць за жывое і ў нас дайшло да таго, што мы пасварыліся і перасталі гаварыць. А дзеля таго, што ў камеры тады, акрамя японцаў, нікога іншага не было, дык я зусім не меў з кім гаварыць. Трэба ведаць, што японцы народ ганарысты: ім абавязкова належыць дасказаць да канца прозвішча «сан» — тое, што пан або нямецкае «фон». А я на гэтае не звяртаў увагі.

На шчасце, наш гнеў з японцамі доўга не цягнуўся. Я памагаў ім, калі быў на дыеце, бо ў мяне сёе-тое заставалася, але і яны стараліся памагаць мне па-самурайску (па-рыцарску). Адзін з іх рабіў мне масаж праз дзесяць дзён. Потым прыбыў да нас новы японец, важны масажысты з Токіа; гэты зрабіў мне другі тур масажу, і гэта паважна падтрымала маё здароўе. З тым масажыстам была такая прыгода. Следчы прымушаў яго падпісаць фальшывы пратакол. Ён адмовіўся і атрымаў за гэта 8 дзён карцару і ўсё роўна адмовіўся падпісаць; тады далі яму новых 8 дзён. Пасля некалькіх дзён у яго моцна загаварыў жыццёвы інстынкт:

— Яны хочуць замарыць мяне голадам… (А японец быў здаравенны і меў шалёны апетыт.) Калі падпішу, — думаў ён далей, — дык буду жыць і, можа, калісьці нешта пераменіцца. — Дык наважыўся падпісаць.

Цяпер ён сядзеў са мною і чакаў новага суду.

Тыя японцы, што былі са мною ў адной камеры, калісь у сябе на бацькаўшчыне азначаліся вялікай працавітасцю. Трапілі яны ў палон з Маньчжурыі і працавалі ўжо ў лагерах чатыры гады. Не маючы ніякіх вестак з дому. Былі вечна галоднымі, цярпелі ад холаду, а японцы да холаду не могуць прывыкнуць, і не мелі ніякае надзеі на адмену свае долі. І аж дзіва бярэ, што яны, не ведаючы расейскае мовы, не маючы ніякае рэлігійнае пацехі, без ніякае дапамогі і без абароны, так доўга і ціха трывалі і цярпелі.

Шматлікія сем'і палонных засталіся ў Маньчжурыі. Што з імі сталася — палонныя не ведалі, але я ведаў аб долі маньчжурскіх японцаў і шмат чаго бачыў. Шмат жанчын, парассыпаных перш па розных аселлях, з дзяцьмі і старымі бацькамі ішлі пешкі ў Харбін, нясучы на плячах свае бедныя пажыткі. А ў Харбіне яны ў большасці пагінулі зімою 1945/46 года ад голаду, холаду, крываўкі і тыфу, чакаючы на эвакуацыю. Над імі не было зарганізавана ніякае апекі. Савецкае войска мела да збытку ўсякага дастатку, але быць людзьмі перашкаджала ім іхняя бязбожнасць.

Акрамя японцаў у нашай камеры пераходам былі таксама іншыя людзі. Малодшы лейтэнант, які ўсяго тры тыдні сядзеў у нашай камеры, быў вясёлы хват; ён не пераймаўся, як пойдзе

ягонае перасьледства. Мяне таксама пацяшаў, што ў турме найгорш першыя тры дні, цяжкаватыя яшчэ першыя тры месяцы і нудныя першыя тры гады, а пасля ўжо нічога, бо да ўсяго можна прывыкнуць. Сядзеў ён за тое, што пусціў на «гадзінку» арыштаванага жаўнера, а той, добра выпіўшы, нарабіў браверыі. Суд засудзіў лейтэнанта на сем гадоў (сем — у іх таксама нейкая норма), але ён знаў савецкія законы і падаў на перасьледства. Камера гудзела ягонымі гутаркамі, звінела ягоным смехам і капцілася ягонымі папяросамі, якія курыла ўся камера за выняткам мяне. Ну і курылі, ратунку не было! Калі яго забралі — усе моцна шкадавалі, а калгаснік, аб якім будзе гутарка пасля, траха не плакаў. Лейтэнант, выходзячы, пакінуў нам усе свае запасы — папяросы і запалкі. Ведама, кінуліся курыць запоем, навыперадкі. І скончылі… Пасля выбіралі з усіх куткоў свае недакуркі, але іх такжа скончылі. Тады ўспаміналі свайго дабрадзея і цярпелі, але і цярплівасць скончылі. Тады наракалі і жылі турэмнаю нудою, якое ніяк скончыць не маглі.

У нашай камеры быў такжа некаторы час, успомнены перш, калгаснік Захар Казлоў з надрэчча Шылкі. Ён быў чалавекам прыткім і здольным ды рупным гаспадаром. Выхвальваў калгасны лад, а за калгаснае дабро стаяў лепш як за сваё. Казлоў аж гарэў да гаспадарскае работы!

— Дык за што ж сядзіш, калі ты такі калгасны «патрыёт»?

— Вінаваты ўсяму старшыня калгаса, — адказвае Казлоў, — ён бачыў, што я ведаю ягоныя грахі і далей не пацярплю, дык паспяшаўся засадзіць мяне. Паставіў у сведкі дзве бабы, якія са страху перад ім (бо таксама мелі нячыстыя рукі) прысягнулі, што я бунтаваў іх выйсці з калгаса. Суд даў мне сем гадоў. Самі вы бачыце, што нізашто. — Казлоў аж заходзіўся ад свае крыўды; не мог спакойна гаварыць.

У калгасе доля кожнага калгасніка залежыць ад старшыні; ён можа лёгка падлавіць кожнага, бо жыццё ў калгасах немагчыма цяжкае, а старшыню падлавіць небяспечна. У Казлова ўжо было другое перасьледства, але ён меў расстроеныя нервы, на судзе гарачыўся і блытаўся. Ён не мог спакойна гаварыць аб хабарніцтве і крусельстве свайго старшыні і гарэў гарачым жаданнем памсціцца, дык суд лёгка прызнаваў віну самога Казлова і ўжо другі раз засудзіў яго на сем гадоў. Прытым Казлову не памаглі даўнейшыя калгасныя заслугі, пахвалы і прэміі. Мы стараліся супакоіць заўзятага калгасніка, але як зрабіць, каб крапіва не пяклася? Ён выходзіў на суд хвалюючыся і дрыжучы. Мы жадалі яму ўсяго найлепшага, але прадбачылі ўсё найгор-

шае. Пасля суду яго да нас не пусцілі, і мы не маглі даведацца, што з ім сталася.

Трапіўся такжа ў нашай камеры адзін старшы чырвонаармеец, які ў часе вайны быў у нямецкім палоне. Ягонае перасьледства было скончанае, і ён у нас затрымаўся толькі адзін тыдзень. Суду ён страшэнна баяўся. Каб яго супакоіць, мы ўсёю камераю зладзілі яму свой камерны суд. Хоць наш суд з удзелам савецкага лейтэнанта быў вельмі прыдзірлівы, аднак мусіў апраўдаць нявіннага чырвонаармейца. І якое ж было нашае здзіўленне, калі пасля суду ён выстукаў нам з суседняе камеры, што яго засудзілі на 25 гадоў і 5 гадоў «па рагам». Потым я даведаўся, што не толькі такіх палонных, але нават і раненых палонных засуджвалі на цяжкія кары.

На змену папярэднім нам далі кітайца. Быў ён худы і высокі, як бываюць паўночныя кітайцы. Стары ўжо, але моцны і вытрывалы, як усе кітайцы. Не меў ніякае асветы, але быў бойкім і дасужым гандляром, як тыповы кітаец. Гаварыў па-расейску, так як яны ўмеюць: «мая, твая». Затое лаяцца па-расейску ўмеў багата і сакавіта. Я сароміў яго і забараняў; — нічога! Ён думаў, што так трэба закругліваць расейскую мову. Быў вясёлы, як дзіця; смяяўся — аж заходзіўся. Найбольш цешыўся з таго, што быў «у бальшая дзелэўня Масква». Але як вярнуўся ад следчага, дык меў зусім посную міну, а на вачох слёзы. Паказаў нам на пальцах 10, якія яму далі за пераход граніцы. Кітаец усё сваё жыццё займаўся кантрабандай і, зразумела, пераходзіў праз савецкую граніцу, а тут яго злавілі і прыпісалі шпіёнства. Нашто яго вазілі ў Маскву? Мікіта яго ведае! Зрэштаю, ў Савецкім Саюзе вельмі любяць вазіць такіх «важных» падсудных. Як той купец казаў: «чым больш возіш тавар, тым яму большая цана».

## ЧАКАЕМ

Пачакаўшы, будзе Бог ласкаўшы.

Пасля нашага следства ўсіх маіх харбінскіх сяброў злучылі ў адну камеру, толькі чамусьці мяне пакінулі ў старым месцы. Прычыны маіх апрычонак ніхто з іх не ведаў; а я нават не ведаў, што іх злучылі. Наш дырэктар, а. Андрэй, востра запратэставаў супраць мае адсутнасці, але гэта не памагло. Толькі пасля паўтара месяца неспадзявана мяне заклікалі:

— Собирайся с вещами! — і завялі да нашае грамады.

Тут камера была прасторная і светлая. Аднак каб нам не было лішне добра, дык упхнулі да нас 5 японцаў, і павярнуц-

ца не было дзе. Пасля ўсяго перажытага мне было тут значна лепей. Тут даваліся і кніжкі да чытання, але чытаць іх можна было толькі днём, бо лямпачка была такая слабая, што ў камеры было цемнавата. Затое можна было нагаварыцца са сваімі пасля шасцімесячнае ростані. Разам у сваёй групе мы прабылі каля 4 месяцаў.

Наш парадак у камеры быў прыблізна такі: рана мы прыбіралі камеру, пасля маліліся; затым «мала-мала» (як кажуць японцы) пілі-елі, а пасля апавядалі сны. Айцец Андрэй зрабіў нам невялікі курс дагматычнай тэалогіі аб царкве, а Уласаў — з гісторыі. Абодва лектары былі на вышыні свайго задання; іхныя лекцыі былі цікавыя і карысныя. Лекцыі выклікалі многа новых думак, пытанняў і спрэчак; прытым не марнаваўся час, а нуда праганялася. Ветлівыя японцы ўмелі маўчаць, калі мы маліліся. Але, на вялікі жаль нас усіх, не было абсалютна ніякае магчымасці адслужыць у гэтай турме Службу Божую.

Ежа ў гэтай камеры спачатку была добрая, бо нам усім з прычыны агульнага аслаблення была вызначаная дыета, але пакрысе сышла на горшую і з’ехала да таго, што мы зноў былі галодныя. Наагул летам ежа ў турме скупее. На гэта складаецца нямала прычынаў: або норма да лета ў іх вычарпаецца, або прадукты папсуюцца (як бульба і гародніна), або нашая норма прыклейваецца да нянашых рук…

На шчасце, пасля месяца забралі ад нас японцаў, а за іх пяць далі нам аднаго ўдалага хлапца ўкраінца гадоў дваццаці. Мы былі рады з яго, а ён з нас. Найбольш падружыўся з ім я. Ягоная матка была на высылцы тут у Чыце і, відаць, была ў сякіх-такіх дастатках; прыносіла і перадавала сынку нямала чаго добрага, а найбольш папяросаў. Васіль быў у маткі сынок Васілёк, але і сам ён любіў матку бязмерна.

Васілёва следства было вельмі цяжкое, і ён вяртаўся з яго надта знерваваны. І вось аднаго разу на допыце следчы падступна справакаваў хлапца і здабыў у яго нейкае важкае прызнанне, якое магло зашкодзіць і яму самому і матцы. Васіль не ўмеў нам выясніць свае цяжкасці і так турбаваўся, што было боязна за ягонае здароўе. Тут хлапец не даваўся нам супакоіць і пачаў ад нас сепаравацца. Хадзіў устрывожаны па камеры і мучыўся сваімі думкамі. Раптам пачаў бязмерна курыць: папяросы ішлі адна за другою ад рана да вечара. Па трох днях кінуў курыць, але і з намі не гаварыў нічога. Відаць было, як гаварыў сам з сабою, але талкаваў штосьці ціха і таемна; ягоная хвароба ўваходзіла ў цяжкую стадыю.

Мы адразу звярнулі ўвагу надзору, але нам адказалі, што Васіль прыкідваецца. Тады мы сталі дамагацца доктара, але нам не давалі адказу. Прасілі забраць хворага, але нас ніхто не хацеў слухаць. І наагул цяпер вартаўнікі на нас мала звярталі ўвагі, бо мы былі ўжо пасля следства і нашая цана моцна падупала. А з Васілём дзень у дзень нарастала бяда; ён хутка каціўся ў прорву.

Палажэнне ў камеры ставалася ўсё цяжэйшым. Было самае гарачае лета; у камеры душна і парна, а вады няма. У нас пасля следства нервы былі расстроеныя, дык хвароба Васіля была для нас не толькі цяжкая, але і заразлівая. Матка далей прысылала Васілю прадукты, а ён не еў, і прадукты псаваліся ад гарачыні, а мы не важыліся іх браць, хоць былі галодныя як ваўкі. Да таго насупраць нас праз калідор пачаў вар'яцець другі вязень. Той ужо напэўна падрабляў вар'яцтва: крычаў днём і ноччу, біў нагамі ў дзверы, а пасля лупіў дошкаю з свайго ложка. Наш сон разбівалі і трывожылі…

А пагода кожнае раніцы была цудоўная, і так усё цягнула нас на прастор, што замкнёная камера быццам цяжала сваімі сценамі на душы. Ганялі нас на спацыр на пятнаццаць мінут, але там запіралі ў цесную загарадку, як у курыны катух.

Васілёва матка нічога не ведала аб хваробе сына і ўсё падсылала свежыя прадукты: масла, каўбасы, сыр, а Васіль ледзь пасёрбае турэмнае жыжкі, а да пасылак ані дакранецца! Здуру сам не есць і нам не дае. Дабро марнавалася, а мы не маглі паведаміць маці аб яе Васільку. Мы не раз спрачаліся між сабою, ці ёсць сэнс пры голадзе гнаіць першасортныя прадукты? І кожны казаў, што сэнсу няма, але ўсё роўна ніхто з нас не важыўся дакрануцца да іх.

Мы штодня спрачаліся з вартаўніком, але яны ані забіралі хворага, ані лячылі яго. Таго вар'ята, што быў насупраць нас, забралі хутка, а Васіля забралі толькі тады, калі мы паднялі сапраўдны бунт.

Якая шкода, што нягодная сіла так доўга мучыла такое мілае дзіцё! Нашае цяжкае гора з ім было пераходным, але хто апіша гора ягонае маткі? Так гаруюць маткі ўсяго Савецкага Саюза па сваіх замораных дзецях, якіх бязбожнікі сіламоц адрываюць ад сям'і ў лагеры або на цаліну і на іншую злыбеду.

Што сталася далей з Васілём, мы ніяк не маглі даведацца.

Пасля ўжо перасыльныя адзінкі траплялі на кароткі час у нашую камеру, так што і памяць аб іх сцерлася. Толькі добра помніцца аднаго японца, Мідзумі-сан. Аднойчы надзор з скрыгатам адчыніў дзверы і ўвапхнуў яго ў камеру. Ён як п'яны зваліўся з сваім вузлом на падлогу і лямантаваў, аж заходзіўся!

Як жыву, я ніколі не бачыў, каб мужчына так плакаў. Гэты няшчасны не мог доўга апамятацца; і мы былі бязрадныя, бо не маглі з ім згаварыцца. Ледзь дайшлі, што ён пасля чатырох гадоў лагеру дастаў на свежым судзе 25 гадоў. А за морам у яго асталася сям'я з дробнымі дзецьмі. Аказаўся чалавек праставаты, але акуратны, ахайны і ветлівы, як наагул бываюць японцы. Прытым быў добры і шчыры, як бываюць далёка не ўсе яны. За што дастаў 25 гадоў? Ён быў палонным, і праўдападобна яму прышылі нейкае шпіёнства. З ім мне прыйшлося спаткацца яшчэ некалькі разоў у лагерах. У канцы мы здружыліся.

## «25» І Ў ДАРОГУ!

Па крывой дарозе наперадзе не відаць.

Цэлага паўгода «пацела» Масква ў сваім завочным судзе, каб гарманійна ўлажыць нам пункты да 58-га параграфа Карнага Кодэксу. Клікалі нас па адным у турэмную канцылярыю, дзе за сталом сядзела турэмнае начальства. Іваноў вёў распарадак і кожнаму з нас адчытваў маскоўскі завочны прысуд. Матывацыя прысуду была лішне доўгая, каб яе можна было запамятаць, і нават самыя яе пункты сцерліся з памяці. Адно толькі было мне ясным, што даецца дваццаць пяць гадоў лагеру і што гэты лагер павінен мяне ўзгадаваць на новага савецкага грамадзяніна. Іваноў пры гэтым сказаў:

— Ну, цяпер падпішы!

Я быў як удараны перуном і не мог сказаць слова. Яны сядзелі і чакалі, а я сядзеў і думаў. Пачаў гадаць: падпісаць ці не? Калі не падпішу, дык яны мяне заморацць у Чыце; і я падпісаў…

Калі мы пасля гэтага зышліся ў камеры, дык не смелі глядзець сабе ў вочы, бо падпісалі ўсе акрамя аднаго француза. Калі ён адмовіўся падпісаць, пракурор сказаў яму:

— Мы падпішам за цябе самі.

І, зразумела, падпісалі; а яго роўна, як і ўсіх нас, пасадзілі на 25. Характэрна, што нікому з нас не далі менш 25, без розніцы, ці гэта былі настаўнікі, ці адміністратары ліцэя.

Цяпер мы перайшлі з-пад рукі следчага пад руку начальніка турмы і нам трэба было цешыцца з новага жыцця і старацца паправіцца ў выхаваўчых лагерах, каб пасля 25 гадоў прылучыцца да шчаслівых калгаснікаў, бо нам казалі верыць, што ў канцы нашае кары ўжо акалгасіцца ўвесь свет. Але я не дужа

цешыўся, падобна, як той замораны конь, які бачыў, што заўзяты гаспадар пералажыў бізун з аднае рукі ў другую.

Наш дырэктар архімандрыт Андрэй выбіраўся ў лагер як на апошнюю станцыю жыцця. А я, хоць найстарэйшы ў нашай групе, казаў:

— Можа, Бог не папусціць? Можа, нешта калі-небудзь з нейкае, нікому не ведамае цяпер нагоды не пазволіць нам зусім загінуць?..

Дык вось як была абаснаваная мая надзея!

Я ўсё ж такі рашуча ішоў на спатканне няведамага лёсу, як той адважны хлапец, што папацёмку смела выйшаў на двор і дзелавіта стукнуўся ў вугал хаты і здорава расквасіў сабе нос.

Наша турэмная ўлада была пераканана, што добра выканала свой абавязак, і што працавала на карысць народу, і што яны мучыліся не дарма, бо ўсім нам далі поўную «катушку».

*

Вялікі рух на калідоры і крык:

— Збірайся ў дарогу, выходзь з рэчамі!

Выходзім. Рэчаў не маемо ніякіх: мы — дэмакраты на сто працэнтаў.

— Стой!

Стаім. Прыйшоў канвой і пагнаў нас у нейкі пусты пакойчык.

— Раздзявайся!

Тут у прысутнасці высокага начальства робіцца развітальная генеральная рэвізія. Нас ужо толькі разоў трэслі, што мы нарэшце прывыклі да гэтага. Але тут была навіна: глядзелі пільна ў вочы, у вушы, у зубы, у нос; але гэта не быў медыцынскі агляд. Канчаецца тым, што кажуць нахіліцца і ўважліва прыглядаюцца у непрыемнае месца — туды, куды ніхто не хоча глядзець. Але што цэннае ці схаванае яны маглі ў нас знайсці, калі самі нічога нам не давалі? Уся гэтая камедыя робіцца так паважна, быццам ад гэтага залежала існаванне ўсяе дзяржавы. Цяпер нам выдалі дарожную ежу — сухі паёк на два дні: хлеб, 18 г цукру і селядца. Мы былі яшчэ не практычныя вязні і бралі тую соленую рыбу на сваё гора.

У цягніку мы — уся нашая харбінская група — 6 чалавек — трапілі ў вялікую грамаду. Наш вагон быў пасажырскі — чамусьці званы «сталыпінскі». Быў ён аграваны. Гэта дзеелася ў лістападзе 1949 года — у найбольш марозным сібірскім месяцы. Вагон быў раздзелены ўздоўж грубымі кратамі. З левага боку быў калідор і ў ім звычайныя вагонныя вокны, а з правага боку

знаходзіліся пасажырскія купэ для вязняў і там вокны былі шчыльна забітыя. Купэ мела два паверхі. Канвой пхаў людзей туды столькі, колькі далося, памагаючы рукамі, каленямі і падбіваючы нагамі. Затое там ужо была поўная свабода, як селядцом у бочцы. Толькі трэба было выканаць пункт дарожнае праграмы: уставіцца абліччам да калідора, каб канвой, свецячы лямпачкай, мог бачыць кожнага вока ў вока і палічыць. Лічэнне ў дарозе паўтаралася што пару гадзін, а то і часцей; прытым хто інакш павернецца, на яго зараз крычаць і не даюць нікому ўздрамнуць.

Да поўнае апекі над намі належала вада-варатак тры-чатыры разы ў дзень; але гэта была толькі тэорыя, бо ў практыцы канвой выдаваў толькі сырую ваду і ўсяго два разы ў дзень. За сваімі патрэбамі нас выпускалі толькі два разы ў суткі; па чарзе ўвесь вагон і то «скарэй, скарэй!».

Большая частка «пасажыраў» таго вагона былі інваліды, пераважна старыя, але ўсе ехалі на адным рэжыме. Там жа ў другім канцы вагона ехалі асуджаныя жанчыны. Адтуль чуваць была страшэнная лаянка і крык, піск і просьбы выпусціць, але іх трымалі як і ўсіх. Мне здалося, што такі парадак быў бы добры і ў пекле. З верхніх нараў лілося на тых, што былі на сподзе, а гэтыя адказвалі лаянкаю…

Дасюль я гаварыў аб усіх наагул, а што было са мною? Я не мог ніяк вытрываць тых дванаццаць гадзін, хоць і не еў селядца. Пачаў я дабірацца, каб мяне выпусцілі аднаго, але ані зблізку. «Чакай!» Я падняў тон, найвышэйшы як толькі мог і запатрабаваў старшыню канвою. Пачаўся торг.

— Пусціце мяне на сваю патрэбу! — кажу яму.

— Пачакаеш, ты… — Ён не хацеў і слухаць. Загрымеў на мяне грубым тонам і словам, завяртаючыся адыходзіць.

— Я стары і хворы, — кажу яму, — і вы мусіце мяне пусціць!

Але старшыня адказаў цэлым лексіконам грубіянскіх і брыдкіх словаў. Тут змоўк увесь вагон, слухаючы, што будзе.

Кажу ім з пагрозаю:

— Калі не пусціце, дык зараз буду аблягчацца праз крату ў ваш калідор.

— А ты толькі папрабуй! — закрычаў, аж падскочыўшы, старшыня.

— Без ніякае пробы! — кажу яму рашуча і станоўка. — Я — хворы, і вы маеце абавязак мяне пусціць. Вось вы маеце 5 мінут часу і я…

Мае таварышы і суседзі ў купэ сыкаюць, каб маўчаў, але я не ўступлю, хоць бы тут стырчаў сам бацька Сталін. Усе ў вагоне

прыціскаліся да кратаў, чакаючы цікавае развязкі. Ніхто, аднак, не верыў у маю перамогу.

І вось ува ўсім прыгнечаным вагоне сталася вялікае дзіва: старшыня прынёс ключ і мяне аднаго пусцілі звыш праграмы, а нават мусілі памарудзіць пры мне, калі я з прычыны нервовага шоку зацягваў сваю «сесію». Канвойны крычаў: «Хутчэй, хутчэй», але я яго не баяўся.

Гэты факт сам па сабе быў малаважны і мізэрны; што б гэта магло значыць, каб згінуў адзін стары інвалід? Але я тут пераканаўся і паказаў другім, што адвага, станоўкасць і вытрываласць могуць без аружжа перамагчы найгоршую тыранію. А нават каб за маім прыкладам усе заявілі, што будуць выконваць свае патрэбы праз краты ў калідор, дык канвой не дапусціў бы да таго і не мучыў бы людзей праз дванаццаць гадзін. Але не! Заячы страх, бараняя тупасць, авечае сэрца і курыны розум даконвалі таго, што шматлікія мільёны беспартыйных, наракаючы і кленучы, галасуюць за невялікія тысячы партыйных. І выходзіць, як кажа прыказка: «Найгорш калі баішся, і ліха не мінеш, і надрыжышся!»

## ІРКУЦК

Быў і я на такім балі,
Дзе вар'яты танцавалі.

Нашай групы (6-ці) яшчэ не падзялілі. Праўда, у гушчы вязняў мы трацілі адзін другога з вачэй, але стараліся зноў спаткацца.

З Чыты ехалі мы праз горы Яблынавага хрыбта. Далей ішла самая цікавая і прыгожая дарога — Кругабайкальская. Там чыгунка абходзіць возера Байкал з паўднёвага боку. Праз вакно можна бачыць, як красуецца праз многа гадзін гэты слаўны, як тут кажуць, «святы Байкал»: ён далёка ўнізе, аж страшна глядзець! Пакуль мы ехалі да змроку, налічылі 53 тунэлі. Часам дарога ўецца і звешваецца над скаламі, або раптам Байкал нікне з вачэй на мінут дзесяць-пятнаццаць, і мы, як зблудзіўшы, углыбляемся ў лясы. Аж зноў вынырнем з агромністае пячоры і мякка коцімся па роўным прасторы ў аблічча яснага возера, якое адкрываецца на дзесяткі кіламетраў. Цудоўныя байкальскія краявіды магчыма прыраўняць да Рыўеры, марскога берага ўздоўж Міжземнага мора. Але само возера — цудоўнае! Яно такога памеру (60 км на 700), што яго называюць морам. Возера

незвычайна глыбокае, да трох кіламетраў. Вады мае больш чым Каспійскае мора. Байкал багаты рыбаю, якое больш нідзе няма, як омуль і інш. Прымае 336 рэк і рэчак, а выпускае толькі адну — Ангару, але затое яна мае кіламетр шырыні. Абстаўлены Байкал шэра-сінімі горамі, абложанымі на вяршынях вечным снегам. Горы ў далячыні асмужаны хмарамі. Я не мог адарваць вачэй ад такога размаху і велічы маестатычнае прыроды: сядзеў у акне быццам зачараваны да самага змроку і вельмі шкадаваў, што сонца так спяшыла на захад. Пад уражаннем такога дня ноччу сніліся яшчэ прыгажэйшыя чым удзень краявіды. Пішуць, што Байкал утварыўся прад вякамі ў страшэннай геалагічнай катастрофе. І як паглядаеш на магутны Байкал, дык прыходзіць думка, што ён ёсць малюсенькім абразком усяе прыроды. І паўстае пытанне: ці ўсё, што існуе, ад атаму і электронаў аж да сонца і ўсяго сусвету з іхняю веліччу і красою — ці ўсё гэта пачалося без розуму і без плану? І ці далей яно коціцца сваёю самасілаю і самапасам? Ці не кажа яно нам убачыць на сабе адбітак Рукі сусветнага Гаспадара і ягонага бесканечнага Розуму?!

*

Можа, хто падумаў бы, што мы, савецкія вязні, мелі такое прыемнае падарожжа, але ж гэта была б контррэвалюцыя! Усё тут апісанае, на жаль, я толькі перажываў у маіх успамінах, што бачыў у 1932 г., калі першы раз ехаў у Маньчжурыю праз Сібір. Тады я быў вольным заграничным чалавекам і ехаў праз Савецкі Саюз, маючы транзітную візу. А цяпер не я ехаў, а мяне везлі тою самаю Байкальскаю дарогаю, толькі ж цяпер ніхто з нас не мог бачыць возера ані на момант, бо яго бальшавікі ад нас схавалі — нашы правыя вокны былі забіты дошкамі. Мы ж толькі маглі, паглядаючы наўскась праз калідор і ў вокны з левага боку, чуць бачыць Саянскія горы. Але што там было цікавае? Толькі тое, што перад намі ўсцяж мігала, высечаная ў скалах, каменная сцяна. І такім чынам, вялікая «матушка Расея» адвярнулася да нас сваім агромністым задам, на што глядзець нам не было ніякае ахвоты ні радасці…

Пад'язджаем да Іркуцка. Але гэта яшчэ не лагер, бо ў Іркуцку чакае на нас перасыльная турма.

— Мужыкі, выходзь! — закрычалі канвойныя.

Выходзім. Скачам з вагона, які стаіць воддаль ад станцыі і праствуем косці пасля цеснаты ў вагоне, дзе праз дзве добы мы сядзелі скурчаныя ў духаце і парнасці. Добра было б пацешыцца вольным паветрам і сонцам, каб не востры мароз і вецер. Дык

трэба тупаць нагамі і шлёпаць рукамі, каб спацеламу і слаба адзетаму не акачанець.

Нас ставяць пяцёркамі і лічаць. Цяпер падвойнае лічэнне, бо дарожны канвой перадае нас турэмнаму канвою і кожны з іх лічыць па спіску і без спіску; а мароз лічыць яшчэ дакладней, бо кожнага перабірае па кожнай костачцы. Цяпер новы канвой толькі закурыць і будзе каманда.

— Пайшлі!

Падыходзім да ведамых «воранаў». Туды заганяюць столькі людзей, колькі дасца ўвапхнуць каленам. Там няма ні лавак, ні вакон. Уверсе камінок для прадухі, а ў дзвярах ваўчок, закрыты плячамі канвойнага. Значыць, усё абдумана так, каб было зусім бяспечна і найбольш невыгодна.

Зрэшты, так абдуманы і зложаны ўвесь Савецкі Саюз…

Прыехалі. Турма адчыніла нам свае «прыязныя» вароты і прыняла ў «гасцінныя парогі». Заскрыпелі чорныя, абслізглыя дзверы, заскрыгатаў вялізны ключ у замку; мы ўвайшлі, і дзверы за намі пляснулі. «Дык і свет нам тут закрыўся, як бы ў труну забіўся» (Багушэвіч).

З камеры, куды нас загналі, ударыла парнае, кіслае і тухлае паветра. Аж нам дух заняло! А з усіх пахаў выдзяляўся амаль забойчы дух з агульнае парашы — вялізарнай грубой бочкі, да якой ўсцяж падыходзілі кандыдаты. Здурнець можна! Паветра было цяжкае, хоць сякеру павесь. І вось у такім духу не трэба было траціць «свайго духу». Не прайшло і дзесяці мінут, як я забыўся аб дрэнным паветры. Затое даўжэй прыйшлося прывыкаць да людскога гоману і гармідару. Бо кожны з паўтараста чалавек у густым натоўпе гаварыў так, каб яго чулі, хоць ён ледзь мог чуць сам сябе. На нарах сядзелі і ляжалі на абодвух паверхах і гаманілі без канца і меры, без патрэбы і без сэнсу, бо тут не было ніякае іншае работы.

На шчасце ў негасціннай гушчы знайшлося мейсца і для нас. Праўда, былі голыя дошкі, але і за гэта дзякуй Богу! Я тут пераканаўся, што калі Бог захоча, дык і ў пропасці бывае дно. У мяне хутка знайшліся апекуны, якія мяне прытулілі і абтулілі, так што я, пасля падарожнага знемажэння, спаў сном справядлівага астрожніка. Не перашкаджалі мне: ні шум, ні мітусня суседзяў, ні дым паганага тытуну і ні тое цяжкае паветра. І ўстаў без болю галавы, адпачыўшы і здатны да далейшага змагання.

Завязаліся новыя знаёмствы, знайшліся такжа весткі з роднага краю — з-над Нёмана і з-над Дзвіны. Але навіны былі найбольш сумныя — аб беларускім горы ў калгасах, аб вывазе

бацькоў і аб іх разлуцы з дзецьмі. Былі навіны з пісьмаў, якія мне паказвалі; гэта былі самыя свежыя навіны. Даведаўся такжа аб падзеях у свеце з цэлага страчанага года, калі я быў у турме ізаляваны ад жыцця.

У іркуцкай турме ўбачыў я людзей з розных краёў і народаў, якіх дагэтуль ніколі не спатыкаў. Тут споўніўся запавет Маркса лепш, чым ён сам планаваў, камуністы злучылі тут людзей з усіх краёў свету: пралетарыяў з буржуямі, беднату з багачамі і кулакоў з басякамі, а ўсіх аб’ядналі супольныя краты. Спаткаў я тут мілага чалавека, праваслаўнага святара з Маньчжурыі, па прозвішчы Пяцелін. Гэта быў стары разумны і салідны чалавек. Сваё гора ён пераносіў пагодна, быццам быў у сваім доме, а ягоная шляхотная ўсмешка вельмі пасавала да паважнае фігуры і раскошнай белай, патрыярхальнай барады.

— Як жа вы, ойча, трапілі сюды? — пытаюся ў яго.

— Вось, — кажа, — мне так памысна ўдалося. Зусім нават сюды не збіраўся. Мітрапаліт Нестар паклікаў мяне на з’езд духавенства ў Харбін. Я з невялічкім хатылём прыйшоў на станцыю, а жыў я пры манастыры ля Порт-Артура, — аж там савецкі афіцэр заклікаў мяне ісці за сабою. І заместа ў Харбін завезлі мяне ў Уладзівасток, дзе праседзеў у турме 10 месяцаў; а цяпер вось ужо чатыры гады як возяць мяне па турмах і лагерах. Добра! Не трэба ані білета, ані надумвацца, куды далей ехаць. Возяць мяне, як барына, на казённы кошт.

Гаварыў ён бяскрыўдным тонам, а ягоная мова лілася, як вада ў ручаі. Размова з гэтым Божым чалавекам была бальзамам для мае набалелае душы. Якая шкода, што з ім нідзе больш не спаткаўся!

У Іркуцку ўжо канчаўся наш перасыльны пяты дзень, і мы прачувалі, што ўжо заўтра паедзем. А мы былі як тыя бяспраўныя авечкі, якія не ведаюць, ці гаспадар павязе іх на іхнае вяселле, ці на паховіны; але едуць ціха і спакойна, не падаючы свайго голасу.

## КУДЫ ДАЛЕЙ?..

Пакуль бедны зайдзе,
то багаты заедзе.

Мы пробавалі ўгадаць, куды паедзем далей? Перад выездам прыйшоў наглядчык з доўгаю папераю і прачытаў, каму ў дарогу. І я быў тут і ўсе нашыя таксама. Памысна сталася, што я змеркаваў уперад сваё падарожжа і не піў гарбаты, а толькі

прыгрыз кусочак хлеба, каб не мець той бяды з сабою, якая была да Іркуцка. Зноў выдалі нам падарожны паёк на два дні: хлеб, цукар і салёную рыбу. Дудкі, рыбы не бяру, хоць і люблю селядца, але няхай яго там воўк з’есць! Аднак бачу, што ёсць нястрыманыя характары, якія не могуць сцярпець галоднага экзамену і бяруць рыбу сваю і чужую.

Быў марозны, але прыгожы і пагодны дзень. Сонца свяціла так, што трэба было прыжмурваць непрывыклыя вочы. Пасля таго цяжкога паветра ў іркуцкай цямніцы на дварэ аж разбухалі грудзі, быццам кавальскія мяхі.

— Станавіся! — крычаць канвойныя.

Значыць: «Стань — неківайся!», як у нас кажуць. Яны крычаць паводле свайго звычаю, а страшаць паводле ўставу; бо калі што якое, дык гразяць, што будуць страляць без папярэджання. Цяпер ідзе ўсё скора: зноў нас лічаць, паспешна пхаюць у вораны, вязуць на вакзал, там дастаюць з ворана, яшчэ лічаць па два разы і запіхаюць у вагон. А я з сваім марудэрствам улез у вагон апошнім і ўжо не знайшоў ніводнага вольнага мейсца, так што мяне ледзь упіхнулі.

Цяпер нас загналі ў таварны вагон, які быў прыладжаны для астрожнікаў. Ад дзвярэй быў адгароджаны кратаю вузкі калідор на ўсю даўжыню вагона. Ад задняе сцяны вагон быў раздзелены на дзве загарадкі для вязняў. У першай клетцы былі ў куце прыладжаныя нары; там народ сядзеў на нарах і пад нарамі, а ўсюды было так цесна, што спозненыя не маглі сесці нават на падлозе і мусілі ўвесь час стаяць. Я быў у другой клетцы і такжа стаяў. У цеснаце і цемнаце народ хваляваўся, так што адны другіх збівалі з ног. Адстаяўшы з гадзіну, я ўжо не мог вытрываць; пераступаў з нагі на нагу, траціў раўнавагу і апошнія сілы. І думаў я тады:

— Вось шчаслівыя тыя людзі, што ў той клетцы трапілі на нары, — бо адтуль быў чуцен мінорны тон змякчаных перад сном галасоў.

Тым часам канвойнаму трэба было перад сном пералічыць яшчэ раз увесь астрожны народ. Справа была нялёгкая, бо людзі былі збітыя ў натоўпе. Але канвойны меў у руках моцную электрычку. Цяпер усе мусілі супакоіцца на сваіх месцах і адвярнуцца аблічам да канвойнага. Лічыў ён з калідора праз краты з вялікаю ўвагаю і вытрываласцю. Найгорш было з першаю загародкай, дзе людзі ціснуліся на нарах, пад нарамі і на вольным прасторы. Але хоць з вялікаю бядою ён давёў рахунак да канца. Добра! Там скончыў, перайшоў да нас. Мы сціхлі, каб

скарэй збыць гэты клопат. І вось, калі тыя парахаваныя ў першай загародцы пачалі свабадней рухацца, раптам пачуўся трэск і жахлівы крык, дзе заламаліся нары і ўсім цяжарам прыціснулі тых, што ляжалі пад імі. Божа мой, што там дзеелася! Была жахлівая катастрофа; а прытым усё адбылося ў цеснаце і цемнаце. Ані тым верхнім куды з нараў злезці, ані гэным прыціснутым з-пад нараў вылезці. Мы не маглі безудзельна слухаць крык душаных людзей, але не маглі ім нічым памагчы. Аж сэрца замірала з трывогі!

А тым часам наш канвойны ані дрыгнуў, ані аглянуўся. Ён і далей спакойна свяціў лямпачкаю ў нашую клетку і лічыў нас вытрывала да канца. Да іх яму не было ніякай справы, бо яны ўжо былі палічаны і запісаны. Туды нават не пасвяціў лямпачкаю і да катастрофы адвярнуўся задам.

Не маючы іншага ратунку, бо ані старшыня, ані хто другі з канвою не выглянуў з свайго катуха, першая загарадка знайшла такі спосаб: адны чапляліся на нашую крату, каб зрабіць хоць крыху вольнага мейсца; тады людзі з нараў лезлі на вольны пляц і цягнулі прыдушаных з-пад памосту, а пасля таксама выцягвалі іхныя вузлы, каб шчыльна прылажыць да падлогі зламаныя нары. Тады ў страшэннай гушчы сталі сартавацца нанач. А я цяпер думаў:

— Вось няшчасныя тыя людзі, што трапілі ў такіяціскі!

Цяпер я мусіў засаромецца, што ім перш пазайздросціў. Бо цяпер, калі у нас свяціў канвойны, дык мае суседзі зрабілі мне шчыліну і я рассеўся на падлозе і чуўся шчаслівым, як той рак пад альховым карчом.

І каб я так здароў быў, я і тут спаў! Хоць скрыпелі колы, і наш вагон тузаўся як у ліхаманцы, а мы штурхаліся галовамі адзін аб другога, і хоць усцяж будзіліся, але спалі ўсю ноч, ківаючыся, як жыды ў бажніцы.

Прыехалі. Тут мы даведаліся, што нас прывезлі ў горад Тайшэт, у цэнтральны перасыльны лагер № 215.025 (скарочана ён пісаўся 025) на лініі транссібірскае чыгункі. Ад Тайшэта была праведзена новая чыгунка на Брацк–Заярск, якую меліся адтуль будаваць далей, акружаючы Байкал з поўначы, і цягнуць лінію чыгункі да ракі Лены. Лагеры: Тайшэт–Брацк–Заярск, якіх было больш як паўсотні, станавілі групу, якая называлася ОЗЕР-лаг. Пасля гэтую групу лагераў расцягнулі далей на ўсход за раку Ангару і перайменавалі на Ангар-лаг. Тут мы пачалі адбываць свае «25», якія мелі кончыцца аж 1974 г. Божа нам памажы! Ратуй нас, Божая Маці і святы Язэп!

# *Частка другая*
# ЛАГЕРЫ — «АНГАР-ЛАГ»

## ТАЙШЭТ

Чужая старана — мачыха.

Тайшэцкі лагер быў перароблены з нейкага гаспадарскага аселля. Будынкі-баракі былі абсалютна непрыдатныя да жылля; старыя хлявы і стайні з даўнейшае гаспадаркі былі наспех прыладжаны для людзей, прытым у спадку ад даўнейшых гаспадароў асталася маса плюскаў і мышэй. Сцены былі сырыя, печы дымілі і чадзілі, падлога была пакарабачана, і наагул стан баракаў быў такі, што нават лагерная ўлада бачыла неабходнасць рамонту, але адкладала яго, дзеля таго, што былі вялікія маразы, страшэнная цесната ў бараках, не было выдзелена рамонтнае брыгады, не было падрыхтавана матэрыялу і праўдападобна збіраліся перабудоўваць увесь лагер.

Калі нас сюды прыгналі, дык тут ужо было так многа народу, што мы былі быццам блудныя пчолы ў непагоду. Паразганялі нас у рознагалосы натоўп, і трэба было мець нямала спрыту, каб у ім не загінуць. Пры такой безлічы людзей тут парадак быў шмат горшы, як у Чыце. Тут мы спаткалі рознакаляровых людзей, разнаякія нацыі і мовы, прафесіі, век, здароўе, характар і культуру. І ўсе былі неспакойныя, асуджаныя на доўгія тэрміны, без надзеі на свае долі. Кідаліся ў вочы дзве вялікія крайнасці ў натоўпе: або схварэлыя інваліды, або назольныя блатныя. І што чалавек, то іншая нацыя; большыя нацыянальныя групы тварылі ўкраінцы з Валыні, каўказцы з Кубані, палонныя немцы і японцы; такжа нямала было армянаў, эстонцаў, татараў… І ўсе стараліся неяк ператрываць няволю: пільнаваліся свайго пайка і вугла, сварыліся ці гадзіліся, нерваваліся ці цярпелі, кляліся ці маліліся. А курылі блізка ўсе, калі маглі дастаць табачнага смецця і кусок газеты. І курэнне лепш лучыла супярэчных і далёкіх людзей, чымся іншыя інстынкты ці ідэі. Затое няўмекі і абстыненты цярпелі ад паганага дыму. Калі ж канчаўся тытунь,

дык курцы мучыліся без дыму і, каб здабыць хоць скрыначку гэтага зелля, «пускалі з дымам» пайку хлеба ці цукру. (Скрыначка ад запалак была меркаю табакі і ходкаю манетаю.) Можна было дзівіцца, гледзячы на курцоў, на іхнюю ашчаднасць, узаемную ўслужнасць, далікатнасць і ахвярнасць. Ці ж не праўдзівая была тут любоў бліжняга, калі японец даваў прыкурыць маскалю, або калі немец аддаваў жыду апошнюю запалку, або — украінец дзяліўся з палякам канчарыкам папяросы, ці калі славак сыпаў мадзяру рэшту тытуню ў падстаўленую паперыну? І так, калі сусветная вайна дзяліла народы, дык савецкая турма братала людзей і класы грамадства.

Так і мы, два беларусы, я і мой харбінскі прыяцель Тамаш, тут згаварыліся, што па адным лёгка загінем, а ўдвох лягчэй абаронімся, і мусім моцна рухацца, даведвацца аб супольных справах, асцерагаць сябе наўзаем у небяспеках і здабываць патрэбныя рэчы. А бывала так, што адзін кубак да вады ці да гарбаты пераходзіў праз шмат рук. Дык вось мы, дружныя беларусы, стараліся здабыць тое, што было найпільнейшае: кубак, алавік, іголку, нітку, гузік і падобнае — здабываць, сцерагчы, пазычаць і спаганяць, каб не прапала. За пазыку мы платы не пыталіся, а толькі стараліся аблягчыць агульную нястачу і вытварыць прыязную атмасферу, што нам пераважна ўдавалася. З намі лічыліся, нам спагадалі, а нават памагалі. Такім чынам мы ўдваіх ужо станавілі сілу. Каля нас фармаваўся гурток прыязных людзей, тым больш, што мы не брыдзіліся нікім. А мой прыяцель Тамаш, як філосаф і чалавек шырокае веды, якую прадаваў за адзін «дзякуй», заўсёды меў кучу слухачоў.

У Тайшэце была вялікая нястача зімовае вопраткі — дзеля гэтага нас, старых інвалідаў, затрымалі тут да вясны. А найбольшым маім горам была двайная штодзённая праверка, якую прымусова рабілі ў адным зборы на двары і, ведама, на сібірскім марозе. Помню, што аднойчы мароз даходзіў да 56 ступеняў па Цэльсію. Нас, паўтары тысячы людзей, устанаўлялі пяцёркамі; прытым праверка зацягвалася, бо не было ані паслуху, ані кары, акрамя лаянкі і крыку. Разбаламучаныя блатныя, якія былі добра апранутыя, рабілі падчас праверкі такі гармідар і мітусню, што наглядчыкі не маглі іх асядлаць. Уся пакута звальвалася на дрэнна апраненых інвалідаў. Самі наглядчыкі пераважна былі малаграматныя, рабілі памылкі ў рахунку і памагалі дрэннымі словамі. Калі здараўся між імі які разумнейшы, тады папраўляўся і народ. Мне трэба было на гвалт ратавацца, але як? Была магчымасць здабыць у спекулянтаў штосьці цёплае,

але ані ў мяне, ані маіх сяброў не было грошай; аставалася толькі «заганяць» хлеб, але я не важыўся адзяваць сябе голага, абкрадаючы сябе галоднага. Толькі заядлыя курцы важыліся цярпець вялікі голад, каб мяняць хлеб на «чортава зелле», як самі, праклінаючы, называлі тытунь.

Яшчэ аставаўся адзін спосаб — людская міласэрнасць. А ў гэтым часе па лагеры праходжваўся ў чорнай капоце мой знаёмы святар а. Браніслаў; сам ён быў доўгі, і капота была доўгая з вялікімі шэрымі лапінамі — цэласць тварылася хоць і дзівосная, але паважная, з якою нельга было не лічыцца; а тым больш што многія маглі гаварыць з ім у сваёй мове: па-расейску, па-латышску, па-беларуску, па-літоўску, па-польску, па-нямецку, па лаціне і больш не ведаю па-якому. Я з вялікаю цікавасцю пaглядаў на ягоную капоту і ўспамінаў сваю харбінскую, з якое мяне там вылушчылі кітайцы. І я не дагадваўся, што а. Браніслаў на мяне таксама пільна глядзіць, а ён у сваім латышскім сэрцы спачуваў мне. Нарэшце падышоў цёмнаю парою моўчкі і падкінуў мне вялікую безрукаўку на цёплым кажуху. Дай, Божа, яму здароўе!

У гэтым часе я даведаўся, што мы, уся харбінская група, належым да катэгорыі доўгатэрміновых; гэта значыць, што над намі ўстаноўлены больш строгі надзор — такіх нельга браць на такую працу, дзе магчыма аддзяляцца ад другіх; ім не даручаюць ніякага лагернага ўраду (так званых «прыдуркаў»).

Аднойчы наш прыяцель уцягнуў нас на начную працу ў кухню, скрабці бульбу. Праца была брудная пад хамскаю прынукаю нервовага кухара, а бульба была дробная і да таго марожаная. Перш адмарожвалі яе ў вадзе, а потым скраблі; але і вада, і бульба былі такія халодныя, што дубянелі пальцы. А мае ручкі, як у панят, даўно адвыклі ад працы; аднак усе цяжкасці пакрываліся тым, што даваўся начны абед, багаты рыбаю і крупнікам, дык які ж дурніла думаў бы адмовіцца дзеля гэных цяжкасцяў? Вось жа наш харбінскі гурток быў на самым версе лагернага шчасця; але трывала яно толькі чатыры дні, пакуль таксама раптам не абарвалася. Нейкі важны начальнік заспеў нас у кухні і строга запытаўся:

— А вы якога тэрміну?

— Мы 25 гадоў, — адказалі шчыра.

— Дык якім правам вы прыйшлі на начную працу?

Мы не мелі ніякага апраўдання, і нас прагналі адтуль, як кажуць, «пад барабан». Нічога не зробіш; дзякуй Богу і за гэта.

Мяне добрыя людзі прабавалі падцягнуць угару, аднак мае «25» заўсёды сцягвалі мяне назад, а блатныя выхватвалі нам з-пад носа ўсе ласыя кусочкі. Ды што там мне, у нашым лагеры быў шмат цікавейшы і больш характэрны выпадак з гэтымі тэрмінамі. Адзін галічанін, як казаў ягоны аднавясковец, звёў са свету 60 жыдоў, але трапіў пад суд, калі была скасаваная кара смерці, дык нейкім парадкам яму замянілі на 10 гадоў. Значыць, ён быў кароткатэрміновым, і праз некаторы час яго зрабілі брыгадзірам у лагеры. А ягоны знаёмы за тое, што даў есці ўзброеным партызанам, дастаў 15 гадоў і мусіў падлягаць таму, як ён казаў, бандыту.

Аднойчы праляцела вестка па ўсім лагеры, што будзем пісаць лісты. Абвясцілі нам такія ўмовы: пісаць можна толькі ў Савецкі Саюз і пісаць толькі па-расейску і толькі два лісты на год; прытым пісаць коратка, каб не было лішняга. Мы, навічкі, не ведалі, як да гэтага прыступіцца, бо адразу з’явіліся цяжкасці, якія былі б смешнымі ў нармальных умовах: дзе дастаць чарніла, паперу, пяро, канверт, марку, а нават дзе прысесці? Бо ў такой цеснаце можна згубіць і сябе самога.

— Ты глядзі, — перасцерагаюць мяне прыяцелі, — пішы скарэй, бо заўтра будзем здаваць брыгадамі. Калі змарнуеш нагоду, дык чакай паўгода!..

Эх, і заляталі мы ўсе! І ніводзін не адмовіўся ад свайго права пісаць — такое шчасце!.. Пайшоў жыва гандаль: заганялі хлеб і цукар на ўсё патрэбнае, але здабылі ўсё. Спекуляцыя ішла нармальна, а цэны былі памяркоўныя і прыслуга вялікая. Папера аказалася тандэтная, пяро — спісанае, чарніла — разведзенае вадою, але ліст неяк напісаўся. Аддаём, не заклеіўшы — пад цэнзуру.

Пісаў я да сваёй сястры Людвіні, якую пакінуў у Вільні ў 1938 г., калі польскі ўрад высяляў мяне адтуль за беларускую дзейнасць. Пісаў я і не ведаў, што ў 1944 г. яна была забітая ў Вільні нямецкаю гранатаю. Чакаў паўгода і не дастаў ад яе адказу ні з гэтага, ні з таго свету. Так марнаваліся пісьмы шмат чые.

Давялося мне пісаць лісты беларусам, якія не ведалі расейскай мовы. Пісаць было вельмі трудна, каб там, на бацькаўшчыне, чытачом яно было зразумела, а тут рэвізорам, каб было лёгкастраўна і каб пішучы не ўмазаць ні сябе, ні дыктара. І з дзядзькам клопат — не ўмее дыктаваць. Пасля некалькіх спроб кажа мне:

— Ты сам пішы, ведаеш як лепей. — Ён немалады мужчына, а рукавом абцірае слёзы. — У калгасе асталася жонка з дзецьмі.

Дасталі яны са старшаю дачкою па паўкілаграма патрухі на працадзень; вось і жыві! А яшчэ бяруцца мне памагаць, бо я ўжо стаў інвалідам. Але хоць мне як цяжка, не магу адважыцца прымаць ад іх пасылкі. Ах, Божа, Божа!… І не магу вярнуць пасылкі, каб не прапала…

Пачаў я перш чытаць стары ліст з дому, які напісала таму Бедулевічу дачушка год таму назад у Казахстан. «Пішу я табе, твая дачка Анюта, а мне дзесяць мінула. А я сама — перша вучуся ў школе. А мама дыктавала, а я пісала. А ты, тата, не бядуй, мы пражывём, бо ў нас ёсць падсвінак і тры курачкі. Татачка, калі ты вернешся? Мы за цябе молімся Богу, а я цябе мала помню. Як цябе бралі, крычалі; а мы доўга плакалі і цябе ўжо не было, а цётка Каруся казала… яе таксама…»

А рэшту цэнзура замазала, але можна было дагадацца, што і тую цётку вывезлі. Калі я чытаў ліст, Бедулевіч плакаў і ўсе прысутныя цяжка ўздыхалі, хоць кожны меў досыць свайго гора, але і чужое шчыпала за сэрца.

Пісалі, пісалі і скончылі. Цяпер кожны глыбей перажываў сваё гора. Людзі ўголас гаварылі самі з сабою: «Як яны там жывуць? А як я тут! А колькі яшчэ гадоў мне засталося?»

Кожны з нас быў як птушка, якая трапіла ў сіллё: крыллі вольныя, так бы і паляцеў, але ногі ўвязлі. Наагул, аднак, пасля гэтых пісьмаў людзі маліліся больш і шчырэй. Магаметане раскладалі дыванчыкі або хусцінкі і білі паклоны ў бок Мекі. Праваслаўныя шырока хрысціліся і малітвы гаварылі голасна. Каталікі мелі ражанцы з хлеба, шапталі пацеры і біліся ў грудзі, а некаторыя з іх спавядаліся ў сваіх святароў. Сектанты, адны маліліся стоячы і моўчкі, а другія станавіліся на калені і падымалі рукі да неба; але, мусіць, найлепшая малітва была тых, што маліліся за сваіх крыўдзіцеляў і ворагаў. Рэдка хто з вязняў не маліўся.

Канвойныя жаўнеры, што стаялі на вышках з стрэльбамі і кулямётамі, бачылі, як людзі рана становяцца за баракамі на калені і як моляцца. Канвойныя не ведалі, што гэта значыць і дзівіліся, але напэўна ім прыходзіла думка аб Богу і аб душы. Зрэштаю, наглядчыкі і ўсё начальства ведалі, што вера ў лагерах расце. Яны нават хацелі перавыхаваць людзей на недаверкаў, але вера зняволеных стала жывейшаю, а малітва шчырэйшаю.

# БЛАТ І БЛАТНЫЯ

*Як твая хата будзе гарэць,*
*То і нам добра рукі пагрэць.*

Дзеля таго што мне прыходзілася часта спатыкацца з блатнымі, цярпець ад іх розныя прыдзіркі і пагрозы, дык я мушу тут выясніць, што гэта за людзі.

«Блат» — хуліганскае слова, яно па-іхняму азначае бяспраўнае «права» да ўсяго забароненага і перадусім да чужое ўласнасці. У Сав. Саюзе гэтыя хуліганы здабылі сабе ў доўгім і вытрывалым, а нярэдка ў крывавым змаганні такое блатное права, галоўным чынам у адносінах да палітычных вязняў, асабліва да слабых інвалідаў. І цяпер, калі «фраер» (на блатной мове гэта значыць неблатны) не згаджаецца сам аддаць ім чагосьці свайго лепшага, дык блатныя лічаць сябе пакрыўджанымі, а фраера — узурпатарам.

З блатнымі мусіць лічыцца нават лагерная ўлада: уступае ім, а часам і баіцца іх. Ад 1947 г. блатным моцна ўламалі рогі, бо да таго часу блатны тэрор у лагерах не знаў меры. Блатныя пачуваюцца асобнаю кастаю, быццам таемным брацтвам. Маюць свае няпісаныя законы і прызнаных, хоць і не выбіраных верхаводаў, звычайна па адным у кожным лагеры і турме, якіх трэба безапеляцыйна слухаць — часамі нават пад пагрозаю смерці. У іх ёсць свая нелегальная пошта. Маюць спосабы пасылаць лісты за зонаю. У турмах яны ўмеюць састукацца праз сцены, пакідаюць надпісы ў супольных месцах: пакідаюць картачкі; перадаюць міжлагерныя весткі, паклоны, падаркі і таму падобнае. Маюць свае прозвішчы, мянушкі, па якіх пазнаюцца і перадаюць даручэнні. Кураць усе. Наўзаем перасылаюць папяросы, тытунь, запалкі, прадукты і інш. Часам нават канвойныя і наглядчыкі неафіцыяльна перадаюць у другі аддзел ці ў брыгаду або ў другую камеру пасылкі ад блатных сяброў. У важных сваіх дамаганнях блатныя ломяць парадак дружна і вытрывала. Здараецца, што яны сумесна адмаўляюцца ад усякае работы, нават для самых сябе, дык на абслугу блатных і крымінальных лагераў трэба тады пасылаць інвалідаў. У практыцы аказалася выгадна для лагернае ўлады, каб у інвалідных лагерах назначаць на кіравецкія становішчы выдатных блатных. Яны быццам створаны да гэткае службы, бо з маленства ўзгадаваліся ў савецкай сістэме і найлепш арыентуюцца ў заблытаным лагерным жыцці. Бо ў савецкай працы найважнейшая справа выпрабляць норму,

здабываць працэнты, рабіць усё гладка, але толькі для кантролю. Да гэтага ўсяго блатныя надаюцца проста ідэальна! Напрыклад, перамяняюць падлогу: ніхто не патрапіць зрабіць новае так скора і так гладка, як блатныя, што яе прыме найхітрэйшая камісія, хоць новая падлога зроблена так, што за год згніе зноў, бо была зроблена з сырога матэрыялу і пад стары грыб. Але тады тут будуць ужо новыя людзі, якія няхай робяць тое самае нанава і так без канца… Падлога ў бараку павінна быць старанна вымыта і выскрабана, часта нават шклом, бо павінна добра блішчаць таксама для вока ўлады і для камісіі. Але нічога не значыць, што ваду спускаюць пад падлогу, бо блатная ўлада аб гэта не дбае. І так робіцца ўсё ў лагерах і ў Саюзе — дзеля камісіі і працэнтаў.

Аўтаномная ўлада з вязняў у лагерах, да якое імкнуцца блатныя, даволі шматлікая. Найважнейшым лічыцца нарадчык: ён назначае вязняў на вонкавыя работы і часам можа звольніць ад работы, а сам на работу не выходзіць. За ім ідзе камендант: гэты назначае на працу ў самым лагеры і праводзіць лагерныя рамонты, сочыць за чыстатою і парадкам у лагеры. Далей ідуць брыгадзіры, днявальныя ў бараках — дзённыя і начныя. Затым ідуць розныя кіраўнікі: сталовае, хлебарэзкі, пральні, лазні, цырульні, «капцёркі» (клеці), амбулаторыі, бібліятэкі, інструменталкі, сталярні, электроўні, пякарні, кухні, старшы агароднік і інш. Усе гэтыя «цёплыя» месцы, акрамя днявальных, займаюць пераважна блатныя. Калі на іх часам трапіць «фраер», дык мусіць спецыяльна трэнавацца, каб не нарвацца на злосць і помсту блатных.

А якая ім даецца аплата за іхнюю працу? Карысць тут бывае няроўная: нарадчык, камендант і брыгадзіры маюць нейкі, мне няведамы, працэнт ад брыгадных работаў. У некаторых іншых становішчах ім плаціць сама «натура», як у кухні, пякарні, сталовай, хлебарэзцы і ў агародніка; або яны маюць даход беспасярэдне ад вязняў, як у цырульні, у пральні і асабліва ў «капцёрцы». Акрамя таго, усё гэтае кіравецтва дастае з кухні дабаўку да свае ежы, што дзеецца з ведама начальства. Але іхняя дабаўка ёсць нашаю адбаўкаю, і за гэта іх інваліды называюць «прыдуркамі». Да таго прыдуркі адцягаюць ад агульнага пайка на свае ласунствы, а нават на патройныя банкеты. А інвалідны дзённы паёк і без таго — галодны!..

Блатныя, асабліва загадчыкі, становяць, можна сказаць, арыстакратыю ў лагеры; ходзяць чыста адзетыя, гладка абголеныя, сытыя і носяцца з мінаю поўнае зняважлівасці да інвалідаў.

Праўда, выняткова здараюцца і між імі добрыя, справядлівыя і спагадлівыя людзі.

Блатных можна пазнаць па татуіроўцы, пераважна на руках, на плячах і на грудзіне. Рысункі бываюць або любоўныя і немаральныя, або палітычныя, а выняткова нават здараюцца рэлігійныя — часта сапраўды артыстычныя. Мне здаралася бачыць вытатуаваныя партрэты Леніна, Сталіна, малюнкі з прыроды і інш. Адзін блатны меў на плячах вялікі, прыгожы абраз уваскрашэння Хрыста: сад, адвалены камень і Хрыстос у поўнай славе.

Вольны ад працы час блатныя праводзілі на гульні ў даміно, у шахматы, а нават і ў карты, зробленыя з газет, хоць карты ў лагеры былі строга забаронены. Гулялі сакрэтна і на грошы, хоць грошай пры сабе нельга было трымаць. Да 1947 г. здаралася, што гулялі і на чужую, паказаную вопратку, якую вінаваты блатны мусіў здабыць ад фраера і аддаць таму, хто яе выйграў.

У часе гульняў між блатнымі не раз здараюцца нават крывавыя інцыдэнты, аднак яны не псуюць іхных таварыскіх адносінаў. Аднойчы ў лагеры Брацк у 1950 г. здарыўся пры мне такі выпадак: падчас гульні ў даміно партнёры за нешта рассварыліся. У спрэчцы адзін з іх ухапіў палена, якое ляжала каля печкі, і выцяў таварыша па галаве. Пабіты ўхапіўся за галаву рукамі і паваліўся на ложак з вялікім крыкам; але зараз ён раз'юшыўся, скочыў у кут, ухапіў сухую палку і так грымнуў свайго ворага па галаве, што і той стаў качацца па ложку з лямантам. Так выраўняўшы свае крыўды, абодва галасілі на ўсю камеру ад страшэннага болю. А я вельмі спужаўся, што буду замешаны ў следства і ў суд паміж блатнымі. Але якое ж было маё здзіўленне, калі на заўтра па снеданні я ўбачыў усю старую кампанію пры даміно і абодвух пабітых, абвязаных хусткамі: яны сядзелі насупраць сябе і гралі нармальна і спакойна! Ані там якога следства, ані якіх судоў! Вось прыклад для хрысціян шчырае любові бліжняга…

У палітыку блатныя не мяшаліся і камуністамі не бывалі. Іх займалі справы лёгкае нажывы, добрае яды, франтоўства, гульні і распусты. Але яны мелі свой няпісаны кодэкс законаў, гонару і дадзенага слова, блатное праўды і рыцарства, канспірацыі і дружбы, сплаты даўгоў і інш. Яшчэ з гэтым спаткаемся ў далейшым. Абразіць і раздражніць блатнога было вельмі рызыкоўна. Самая страшная іхняя пагроза: выразаць вочы. Нажоўшчына між іхнымі бандамі здаралася рэдка, але калі выбухала, дык была

страшэнная. Сваіх здраднікаў і даносчыкаў называлі стукачамі і сукамі ды жудасна іх каралі.

Пасля адбытае кары некаторыя з блатных траплялі ў лагерах на становішчы наглядчыкаў, ці ў канвойныя, або і на вышэйшыя становішчы. Такія «спец»-хуліганы бывалі нашымі «выхаваўцамі»…

Часта спатыкаючыся ў лагерах з імі, мы мусілі добра іх пазнаць, як цікавых і небяспечных людзей, якія не раз вельмі абцяжвалі і без таго цяжкае лагернае жыццё. Думаю, што яны выйшлі з даўнейшых басякоў і «няпомняшчых». Пасля кастрычніцкае рэвалюцыі іхнія рады папоўнілі беспрызорныя і розныя іншыя адпадкі або недавучкі.

Аб колькасці блатных гаварыць цяжка. Нямала між імі такіх, што амаль усё жыццё праводзяць у турмах і лагерах. Зрэштаю, як хто з іх выйдзе на волю, дык зноў пракрадзецца і хутка трапляе зноў у турму. Блатныя — гэта прадукт савецкіх парадкаў і новага бязбожнага жыцця. Што ж? Калі атэісты лічаць, што душы няма, як няма Бога, дык тады на чым могуць абаперці сумленне? Астаецца толькі прымус.

Прыглядаючыся да блатных, сама напрошваецца думка, што ўвесь савецкі лад — партыя, урад, дзяржава і ўвесь Саюз — гэта чысты «блат»; гэта заваяванае і распланаванае права да ўсякай няпраўды, гвалту, самавольства, бяспраўя і самахвальства.

Я неяк блатных не баяўся, хоць мяне перасцерагалі перад імі бывалыя людзі. У мяне нават здараліся сякія-такія блатныя прыяцелі. Нярэдка былі між імі людзі з натуры добрыя, якія ніколі не чулі аб Богу, бо з маленства былі бяздомнымі. Яны часам ахвотна і з цікавасцю слухалі Божае слова. І наагул не здаралася, каб нават найгоршыя з блатных перашкаджалі каму маліцца ці насміхаліся з веры. Яны толькі з дзівам паглядалі на тых, што маліліся. Пэўна, што і між імі Хрыстос мае сваіх людзей.

## «ЕСЦІ ЎЖО ПАРА!»

Гора наша — аржаная каша:
З’еў бы і такой,
Ды няма ніякой.

Так гаварыў алімпійскай гаспадыні стары Зеўс. І мусіць з тае пары людзей бярэ немарасць, калі ў хаце бабы спозняць абед? А вось у лагеры, трэба прызнаць, што ўсё ідзе акуратна: у належную пару даецца званок, ці гудок, ці якая музыка, дык тады, як казаў вучоны Паўлаў, пачынае граць музыка ў жываце і лагернікі паспешна ідуць у сталовую. А там зусім не трэба клапаціцца аб меню, бо табе як абдумаюць расклад стравы, дык трымаюцца, пакуль хваціць кантынгенту, ячменка і іншае. Як пачалі аднойчы нам даваць салёную дробную рыбку, дык паўтаралі штодзённа аж некалькі тыдняў. І дзіўная рэч, чым больш пасля п’еш вады, тым больш мучыць смага. Адны пілі ваду адразу да немагчымасці, другія травіліся ёю ўвесь дзень — і стагналі, і клялі, і далей пілі; а вада была толькі сырая. А назаўтра зноў нястрымна елі тую рыбку да знямогі і зноў пачыналі свае мукі. Канчаліся мукі тым, што некаторыя выходзілі ў этап, а другія, не могучы сябе перамагчы, даставалі жаўтухі ды ішлі ў бальніцу. Вось што значыць голад! Я сам зваяваў процьму хваробаў: не ўзяла мяне ні чума, ні кітайская халера; не змог мяне горшы ад іх Іваноў, а тут я не мог перамагчы тае малюсенькае рыбкі. І ўсё быццам сумысля складалася на нашую муку, бо і рыбка была не благая, і галадоўка была не малая, і наш апетыт вельмі разросся пасля турмы, бо цяпер мы мелі больш паветра і руху. Да таго яшчэ ў лагеры былі такія хітруны, што самі не елі, а аддавалі нам свае порцыі дарма, калі яны самі або даставалі помач з хаты, або яшчэ не дайшлі да поўнае ўтраты волі. А мы, людзі ашалелыя з гора, кідаліся на ўсякую дрэнь. Мы былі падобнымі да таго галоднага сабакі, што наеўся селядцоў, а потым дапаў да вады: брэша на ваду і п’е, вые і п’е — ажно, бедны, лопнуў!

І магчыма, што ад гэтае брыды заламаліся ў нашым бараку грамадскія нервы; без важнае прычыны ўзнікла нацыянальная калатня. Нашая лагерная грамада складалася з розных народаў і моваў, і да гэтага часу не было ніякіх спрэчак. Гэта была шэрая маса людзей, бяздольны натоўп — пазбаўлены грамадскага жыцця. Але часамі ў гэтым гурце будзіліся лепшыя або горшыя пачуцці, залежна ад выпадковага настрою. І гэты раз, калі нервы былі нацягнуты як струны, людзі пачалі інстынктыўна аглядацца і шукаць вінаватых. Аж і знайшлі — немцаў!

— Мы цярпім праз іх, бо немцы пачалі вайну, — крычалі наперабой. — Каб не яны…

А якраз у нашым бараку немцы мелі найлепшыя пазіцыі на верхніх нарах. Вось і рынуліся на іх. Пачалася сварка, штурханіна, якая перайшла ў баталію. Маскалі крычалі:

— Дуй іх, братцы!

— А ты валі гэнага немца!

— А я не немец, я эстонец, — крычаў той.

— Нічога, бі яго. Яны падобныя…

А ў самай сярэдзіне, дзе наступалі маскалі, а немцы не здавалі пазіцыяў, сядзеў на нарах наш беларускі філосаф Тамаш — такі спакойны і нейтральны, як Швейцарыя ў сусветнай вайне. Мы стрывожаныя крычымо на яго:

— Уцякай скарэй, бо…

Але ён, відаць, у думках развязвае нейкую важную праблему, а ў руках трымае і латае старыя порткі. І каб яму што, ані дрыгне! І ведаеце вы, яго асцерагалі абодва бакі, і хто разгадае, ці не праз яго ўся тая бура асталася без перуноў? Грымела, гудзела і пакрысе стала заціхаць, і так пакрысе грозныя хмары распаўзліся зусім. Яшчэ некаторыя вастрэйшыя адзінкі насілі некаторы час заядласць да немцаў, адпіхалі іх ад печы і ад вады, але мы нашаю грамадою рабілі ўплыў згоды. У канцы ўсё пакрысе ўляглося. І праз усе далейшыя гады няволі я не бачыў больш нацыянальнае варожасці.

У лагерах ваколіцы Тайшэт–Брацк спатыкалася непрапарцыянальна шмат эстонцаў. Пытаюся я ў іх:

— Чаму вас тут так многа?

— У нас наагул мужчыны пайшлі ў Сібір, а інтэлігенцыі акрамя камуністаў у Эстоніі не засталося. Затое нашае мейсца занялі расейцы.

— Чаму так сталася? — Але колькі іх там было, усе маўчалі як сцяна, і прычыны я не даведаўся.

Эстонцы — народ рослы і моцны. Надзіва, яны ўсе ў нашым лагеры трымаліся згодна і аднамысна. У нашай брыгадзе было іх дзесяць, і ў сталовай яны садзіліся разам. Калі часам у іх кагосьці бракавала, да іх прысаджваўся турак, якога затое мы прызывалі эстонскім прэзідэнтам.

Даўжэйшы час я працаваў з адным эстонскім настаўнікам гімназіі. Ён быў талковым і скромным чалавекам, а ў працы вельмі дружным. Гаварыў ён аб сваёй Эстоніі ахвотна, але без прыкрага самахвальства. Мне шкада было потым з ім расставац-

ца. У эстонскай групе кідаўся ў вочы сваёю імпазантнаю фігураю Аўгуст Пэль. Важыў ён 140 кг. А казалі аб ім сябры, што ён у лагеры дужа пахудзеў, бо на волі меў 225 кг. Я не хацеў верыць гэтаму, пакуль не ўбачыў яго ў лазні: на ім віселі чатыры мяшкі ад страчанага сала; два на грудзях, а два на жываце; звешваліся яны быццам пустыя торбы па баках. Але ён быў чалавекам дужым і паваротлівым, толькі ж «гэра» Аўгуст быў большым мучанікам за нас. Яму не пасавала ані лагерная вопратка, ані абутак, ані нашыя вузкія кароткія нары, бо ў Савецкім Саюзе ўсё робіцца трафарэтна, а хто не падыходзіць пад агульную меру, дык сам вінаваты; ці ж нехта будзе для такіх дзівакоў будаваць асобныя фабрыкі? Вось жа і наш волат Пэль доўга хадзіў абдзёрты і выглядаў, як вялікае «дзядзіла», пакуль яму не сшылі выняткаваю апратку. У Эстоніі гэты буржуй быў дэмакратычным працаўніком-рымарам.

Калі вярнуцца да нашага харчавання, дык успомню аб прыладах да яды, бо цяперашнія людзі адвыклі есці пяцярнёю, але ў лагеры за нож і відэлец давалі пяць дзён карцару. Да ўсяго мусіла служыць адна лыжка — дзераўляная, металёвая або ніякая; тады еш чым хочаш, поўная свабода! Кожны лагернік стараўся здабыць лыжку, калі лагер яе не выдаваў, аднак пры этапе лыжкі адбіралі. Ножыкі мы рабілі з бляшак і старанна іх хавалі, бо калі стукач набрахаў, дык за бляшку можна было зарабіць карцар, як і за нож.

Цукру для інвалідаў было назначана 14 г дзённа, але на рукі давалі толькі 12 г, бо 2 грамы адлічалі на квас, які пілі ўсе, значыць і катэгарыйныя работнікі, якія дасталі цукру 27 г і ад іхняга пайка не адцягвалі працэнту на квас. Афіцыяльна квас выдаваўся па кубку, а неафіцыяльна піло яго ўсё начальства і прыдуркі. Найчасцей інваліды прымалі свой цукар на далонь і, як нейкае лякарства, адразу яго высыпалі ў рот. Супу інваліды даставалі па 300 грамаў, хлеба намінальна 600 г, але ад гэтага адымалася 25 г на квас. Тым часам работнікі даставалі хлеба 650 г, а супу 500 г. Здараліся выпадкі, што інваліды дзеля пайка прасілі перапісаць іх у рабочых. А там ад непасільнай працы зноў скора адпадалі або і гінулі…

Інваліды афіцыяльна былі звольненыя ад цяжкіх работаў, аднак іх пасылалі на работу, якая называлася «дабравольнаю»; а хто ўпіраўся, пасылалі ў карцар на 5 дзён. Стваралася дзіўная сітуацыя: 1) Інваліды пераважна былі старымі і хваравекімі людзьмі; 2) на працу яны ішлі пад прымусам; 3) ім часта давалі

працу такую самую, як і здаровым; 4) хоць яны былі вольныя ад нормы, але брыгадзіры заганялі іх да нормы; 5) іхняя ежа была горшая і меншая ды аплата за працу таксама меншая; 6) найбольш балюча інваліды адчувалі тое, што лекар не мог даць ім звальнення ад працы, бо афіцыяльна інваліды не лічыліся работнікамі; 7) вопратка інвалідаў была горшая, выбракаваная ў работнікаў, а зімою зусім недастатковая — вось сем галоўных грахоў інваліднае дэмакратыі ў лагерах.

Як прыклад гэткіх адносінаў можа служыць мой напарнік у пілаванні дроў расеец Вінаградаў, быўшы палкоўнік царскае арміі, эмігрант у Латвіі. Ён быў кульгавы і адмаўляўся ад працы толькі таму, што мусіў ісці на тую працу з усімі здаровымі каля 5 км за раку Чуну ў тартак. У цяжкай сваёй долі ён вельмі наракаў на сваю жонку і дачок за тое, што перад другою вайною адмовіліся ехаць у Аргенціну, куды заклікаў яго, як спеца, аргенцінскі ўрад, на прафесуру ў вайсковай школе, падвышаючы яго да рангі генерала.

Затое пры ўсіх гэтых прыкрасцях інваліды мелі і чыстую выгаду, бо маглі хутчэй памерці і выкруціцца ад працы, ад марозу і ад усіх 25. Ну і памíралі, як той казаў, на здароўе…

Быў яшчэ адзін спосаб ратавацца — пісаць да родных.

— На міласць Божую, памажыце! Прышліце часныку, цыбулі, сала, цукру і інш.

А я праз Маньчжурыю і праз турму страціў кантакт з Беларуссю: не ведаў, хто з маіх родных і знаёмых выжыў, дзе і як жыве? Значыць, у самым цяжкім часе, ад 1949 да 1951 г., я не атрымаў нічога ні адкуль. Аж толькі ў канцы 1951 г. прыйшла першая пасылка ад добрых чужых людзей, якія мяне і пасля ратавалі ад смерці.

## БРАЦК

Едзеш у дарогу — памаліся Богу.

Ад самага Харбіна я заўсёды баяўся сібірскае міжлагернае дарогі, як агню, але гэты раз мне ўдалося вымеркаваць два дні наперад, што будзе этап і там буду я, бо мая чарга і так ужо была перахопленая. Ведаючы з горкае практыкі, што гэта значыць, рыхтаваўся я да дарогі вельмі салідна. Два дні абходзіўся без вады, без гарбаты, без супу і другіх мокрых страваў: ледзь-ледзь вусны прамачыў, і годзе. І вось прыйшла дарога. Трывала яна

15 гадзін, але наш канвой не выпускаў нас нікуды праз увесь гэты час; пасля прывычных 12 гадзін яны нам сказалі:

— Ну, што там! Яшчэ тры гадзіны да Брацка, можаце пачакаць.

І пакорная публіка маўчала, бо што ж мела рабіць? А мая абстыненцыя ад вады вельмі прыдалася: я, хоць з вялікаю бядою, так-сяк вытрываў.

Лагер у Брацку быў размешчаны на схіле гары, на грунце, лагодна пахіленым да ракі Ангары. Хаця мы да берага не дасягалі, але вокам маглі сягнуць далёка і шырока: бачылі мост, які якраз тады будаваўся праз раку, прыбярэжны лес на тым баку ракі і дзівосныя там абрывы высокага берага.

Вялікая і шматводная Ангара тут сціснена ў горах, але і так даходзіць амаль да кіламетра шырыні. А месца тут было проста цудоўнае. Я перажываў у Брацку сапраўднае вызваленне духу і хоць мы навакол былі абгароджаны высокім парканам з слупоў, вышынёю тэлеграфічных, на якіх у шмат радоў быў нацягнены калючы дрот, а па рагах лагераў стаялі чатыры вышкі; на вышках жа стырчэла ахова са стрэльбамі. Па ўсёй загарадзі былі густа начэплены электрычныя лямпы, а пры вышках былі рэфлектары. Навонках кружыў канвой з сабакамі, а ў браме была вартаўнічая канцылярыя з заўсёдным дзяжурам і кулямётам, — і ўсё гэта на бедных старых інвалідаў! Аднак жа, нягледзячы на ўсе гэтыя адзнакі няволі, нам адкрываўся па раскошнай рацэ такі чароўны краявід на ўсход і на захад, а недалёкія лясы за ракою давалі такі супакой душы, што, бывала, забудзешся, хто ты і дзе ты. Вясною, калі птушкі цягнулі з выраю, здавалася, што і ты — вольны чалавек і жывеш у вольнай прыродзе. Праўда, тут прырода вельмі суровая, а вясна дужа позніцца, і вятры па рацэ дакучлівыя, а мілая Беларусь такая далёкая, і воля страчана на «25». Аднак усё ж такі адышла ад мяне Чыцінская турма, дык пэўна прыйдзе канец і лагерам! Тады я буду магчы не толькі здалёку паглядаць на раку, на лясы і на горы, але пайсці абняцца з жывою прыродай, пакупацца на сонцы і ў рацэ, пакачацца ў шаўковай траве і пацалаваць родную зямлю ў вольнай Беларусі…

Вялікая заслуга тых, што выбралі такое прыгожае месца на лагер. І акрамя Брацка я бачыў яшчэ некалькі падобных пунктаў, як, прыкладам, цэнтральны шпіталь № 1, а такжа лагеры №№ 0,13 і 0,20. Аднак тая камісія, што планавала нашую групу лагераў ОЗЕР-лаг, як мне расказвалі, з прычыны свайго густу пасля сама была пасаджана ў лагер. Думаю, што гэтаму

можна верыць, бо ў Саветах зрабіць людзям штосьці добрае можа быць больш небяспечна, як зрабіць благое.

У сімпатычным Брацку за кароткі час мне давялося перажыць шмат цікавага і прыемнага, але такжа і нямала прыкрага, а нават пагрозу смерці. Было нямала каталікоў, якія мяне спаткалі вельмі сардэчна. З нацыянальных групаў там было нямала палякаў, але яны дзяліліся на дзве пасвараныя групы. Адна і другая група мне памагалі ў змаганні з галадоўкай. Я хацеў іх пагадзіць, бо сварка была і лішняю і шкоднаю; прычына была зусім малаважнаю. Аднак хоць абедзве групы складаліся з мілых людзей, дык у цэласці яны рабіліся падражненымі шэршнямі і пагадзіць іх я ніяк не патрапіў. З нашых харбінскіх я тут спаткаў толькі а. Тамаша, бо з Тайшэта рэшту нашых парассылалі каго куды, у розныя лагеры.

Па сваёй даверлівасці я тут упаў у рукі вельмі зручнага «стукача» Юрніка. Ён мне выдаўся чалавекам паважным і годным веры, да таго прадставіўся каталіком і палякам. Пры спатканні нізка кланяўся, гаворачы:

— Пахвалё-ё-ё-ны!..

Расцягваў голас так, што не было чуваць, хто «пахвалёны». Я хоць пачуваў, што нешта тут не так, як трэба, але адганяў ад сябе падазронасць і аднойчы выгаварыўся перад ім з сваімі духоўнымі справамі. Выглядала, што ён усё браў да сэрца, але зараз пабег і данёс начальству. Лагерная ўлада зрабіла ў нас налётную рэвізію, але забрала толькі адну кніжку да набажэнства. Тут прыяцелі асцерагаюць мяне, што Юрнік «стукач».

— А бадай вас! — кажу ім. — Дзе ж вы перш былі?

І тут выявілася, што Юрнік і не каталік і не паляк, але ўкраінец. Тым часам украінцы аб ім і слухаць не хочуць — кажуць:

— Він е чыстый москаль!

А ў бараку, як сабраліся ўсе і пачалі ад яго адмаўляцца на карысць расейцаў, а гэтыя таксама ад яго адбрыкаліся, дык нарэшце выступіў ён сам і, набраўшы адвагі, публічна парывіста закрычаў:

— Я жыд! Ну-у?

Але тут справа датычыла не нацыі, а прафесіі, бо жыды ў лагеры ішлі ў роўны лік з усімі людзьмі. З тае пары Юрнік абходзіў мяне здалёку, не кланяўся і не быў знаёмы. Хутка ён зусім знік з нашага кругазору, бо выяўлены «стукач» не мае цаны — яго пераносяць у другое месца.

У гэтым лагеры мне пашанцавала, бо тут я спаткаў каталіцкага святара а. В. Я. і ад яго атрымаў аплаткі, віно і літургічныя кніжкі, дзеля таго мог адпраўляць Службу Божую, але, зразумела, адпраўляў так, каб не бачыла варожае вока. Гэтыя кніжкі, за выняткам аднае, шчасліва захаваліся ад рэвізіі, але на ўсякі выпадак я стараўся перапісаць іх старанна і чытэльна, каб магчы карыстацца імі на прышласць. І я сабе мроіў, што мая духоўная праца ў будучыні пойдзе байчэй, калі буду лепш да яе падрыхтаваны. Мой прыяцель, а. В. Я., называў сябе палякам, але ён мусіць быў такі самы паляк, як я турак. Бо ў нас вельмі рэдка каталіцкія ксяндзы важыліся называць сябе беларусамі.

Нарэшце ўсе мае няшчасці скупіліся ў адно — у мяне развівалася цяжкая форма гемарою. Лекарам-ардынарам быў у Брацку мне спагадлівы мадзяр Э. П. Лячыў ён мяне як мог, даваў ён усе даступныя яму лякарствы, але нічога не памагала, і трэба было спешна рабіць аперацыю. Аднак Э. П. баяўся пасылаць мяне ў цэнтральную бальніцу, каб там не забракавалі мае хваробы, а пасля, каб не забракавалі яго самога. Але, як кажуць, свет не без добрых людзей, дык вось і тут знайшоўся апякун, якім быў рэгістратар у амбулаторыі. Гэты бараніў мяне і страшыў лекара:

— Пасылай хворага ў бальніцу, бачыш, як кроў з яго зыходзіць. Сапраўды хутка памрэ.

І нарэшце лекар даўся ўламацца, хоць і «са страхам вялікім».

Вязуць мяне ў цэнтральную бальніцу. Я трапіў у групу цяжка хворых, якіх везлі спецыяльным санітарным вагонам. Акрамя хворых у тым жа вагоне стаяла такжа труна; ці для каго з нас, ці была ўжо «поўная» — не ведаю. Хоць я быў зморaны хваробаю, а дарога была далёкая (паўтара дня), хоць я ляжаў на голых дошках, і хоць яда была скупаватая, — затое вагон быў цёплы і вады давалі, колькі нам хацелася, а на свае патрэбы пускалі без 12 гадзін. Ляжаў я на верхніх нарах пры ваконцы — словам, абставіны ў нашых умовах ідэальныя. Нам, хворым, не было ані людна, ані шумна; вагон, праўда, быў трасучы і грымучы, але затое абслуга была надзіва гуманная. На нас не крычалі, не папіхалі, а з намі гаварылі і абыходзіліся па-людску. Мы так адвыклі ад нармальных адносінаў, што аж дзіву даваліся. Асабліва добраю была для нас медыцынская сястра.

Падарожжа мы звычайна адбывалі ў замкнёных вагонах; а цяпер можна было ўдоваль любавацца краявідамі. Доўгі час цягнік бег уздоўж рэчкі, а гэта было ў траўні 1950 г., і хоць

сібірская прырода яшчэ не ажыла, але ў паветры вычувалася вясна. Ваколіцы перада мною змяняліся як у кіно, лес пакручваўся як жывы і адкрываўся далёкі кругазор, як можна было сягнуць вокам. І маё ваконца не было забітае дошкамі… Падумайце, якое шчасце!

## ЦЭНТРАЛЬНАЯ БАЛЬНІЦА

Хворы здароўе хваліць.

Бальніца, як і ўсе лагеры на лініі чыгункі Тайшэт–Брацк–Заярск, была яшчэ недабудавана. Некаторыя баракі-карпусы былі новыя і лепш агледжаныя, а іншыя былі вельмі няўдалыя. У такі стары і невыгодны аперацыйны барак памясцілі мяне. Да аперацыі пачалі мяне рыхтаваць паводле плана: прасвятленне, аналізы, галадоўка, ачышчэнне страваходу; нарэшце заставалася толькі абгаліць і даць на аперацыйны стол. Але я не паспеў агледзецца, як, скараціўшы ўсе планы, мяне павезлі ў аперацыйную залу, бо я ўжо надта зыходзіў крывёю.

Хоць сучасная медыцына выключае боль падчас аперацыі, аднак страшна глядзець, калі падступаюць да чалавека з вострымі нажамі. А гэтыя людзі таксама лагернікі, як і я, і яны нічога на мне не зарабляюць. Іхная праца нервовая і адказная. Я нават не ведаў, з якога краю быў мой аператар, аднак ён хадзіў ля мяне так сумленна, як бы апераваў роднага бацьку. Я не меў чым яму адплаціць, бо быў бедны, як касцельная мыш. Ды пачакайце, ёсць! Я багацейшы ад амерыканскага мільярдэра, бо ў мяне бацька — сам Бог, значыць, я магу за сваіх дабрадзеяў маліцца да Нябеснага Айца. І я маліўся: «Дай, мілы Божа, майму лекару ўсё найлепшае, а перадусім яму самому здароўе і свабоду, каб ён чым хутчэй убачыў родную хату, сям'ю і сваю чароўную бацькаўшчыну» (я даведаўся потым — яна называецца Грузія)!

Лекар быў высокі, прыстойны малады мужчына, але я заўважыў, што на свой век ён быў залішне задуманы; мусіць, ужо ў жыцці шмат перацярпеў? Ён апераваў старанна, а я не мог сцярпець, стагнаў і капрызіў, асабліва калі аперацыя зацягнулася і наркозу пачала слабець. Тады нецярплівыя асістэнты яго падганялі:

— Хутчэй, хутчэй! Досыць.

— Зараз, зараз. Вось яшчэ адно… — адказваў лекар.

Пасля аперацыі я ляжаў у агульнай зале на сподніх суцэльных нарах: на іх хворыя ляжалі так цесна, што і селядцы паднялі б лямант. Але я мусіў быць задаволены, бо было цёпла і… больш нічога не магу пахваліць. Кручуся на пасцелі, каб лямпачка, якая свеціць усю ноч, не трапляла мне ў вочы. Але і тут бяда: лягу на правы бок, дык сусед кашляе і харкае ў самы нос; на левы бок — не магу — не прывык і лямпачка — ў вочы. На спіне — пасля такое аперацыі ляжаць нельга. Замяніцца з кім-небудзь на месцы — няма кандыдатаў.

— Бачыш ты яго, — кажуць, — як табе дрэнна з суседам, дык ты жадаеш гэтага другому. — А з дзедам, што кашляе, не дамовішся — ён злуецца. Дык вось згодна з Евангеллем я маю крыж на кожны дзень. Толькі адна пацеха, што магло быць яшчэ горш, як гэта было некаторы час у Тайшэце, калі спаў пад нарамі.

Пры ўступе ў бальніцу абгалілі мяне зусім, забралі ўсю вопратку, новыя чаравікі, а выдалі толькі бальнічную бялізну ды загадалі ляжаць і не варушыцца. На гэтым бальніца робіць свой гешэфт, бо забірае ўсю вопратку, што зловіць найлепшае, а выпускае з бальніцы з усім найгоршым. Мала таго, забіраюць усе дробязі — такім чынам я страціў не толькі іголку і лыжку, але найдаражэйшыя для мяне рэчы і памяткі: ражанец, які мне падараваў добры чалавек і ўсе апрацаваныя і перапісаныя ў Брацку тэксты і малітвы. Як стаў папраўляцца, я ўжо не мог адпраўляць Службы Божае, бо да таго забралі аплаткі і віно. Відаць, што нашая пакута мае ў Бога большую вартасць, чымся малітва.

Як толькі я пачаў ачуньваць, адразу пачаў старацца, каб здабыць зноў усё патрэбнае да святое Літургіі. Перш-наперш выпрасіў кусочак алавіка і паперу ды запісваў літургічныя малітвы з памяці. Бяда была толькі ў тым, што мая памяць аслабела; некаторыя малітвы не даваліся дакладна ўспомніць. Здаралася, што я зрываўся з сну ўначы і запісваў малітвы, якія мне ўспаміналіся. Тут мне прыдалося, што лямпа гарэла ўсю ноч. Аж цікавыя суседзі звярнулі ўвагу:

— Што ты такое пішаш?

Я баяўся, каб зноў не знайшоўся які «стукач»; на маё шчасце, такога тут не знайшлося, і я дапісаў да канца.

Умовы бальнічнага жыцця былі вельмі цяжкія, і яда была недастатковая, не хапала таксама лякарстваў. Калі аднойчы я, ужо папраўляючыся, скалечыў палец і звярнуўся да лекара, дык той паказаў мне свой пакалечаны палец, завязаны нейкаю чорнаю лапінкаю.

## ЗНОЎ БЛАТНЫЯ

Неспадзяваная спрэчка з блатнымі прыпомніла мне мой першы лагер, Тайшэт. Там, аднак, мая спрэчка з імі прайшла, як мне здавалася, бясследна. Бяда была ў тым, што я не мог сцярпець бессаромных лаянак і блюзнерстваў, а пратэставаў занадта востра і нервова. А ізноў жа блатныя не маглі без такой прыкрасы абысціся.

Адзін раз я падняў голас на маладога юнака, які праходзіў міма, распусціўшы свой паганы язык.

— Ці ты Бога не баішся? Як табе не сорамна так гаварыць!

Усе ў бараку заціхлі — цікавыя, што будзе далей. Аказалася, што я зачапіў самога верхавода, як ён ішоў з сваёй групай. Я яго не знаў, як і наагул я тады нічога не ведаў аб жыцці блатных. Адыж гэты Іван Закавыка так быў здзіўлены маім пратэстам, што толькі сказаў:

— Вунь яно што?! Гэтае ж першы раз у маім жыцці…

І тут Іванушка прызнаўся пры ўсіх, што дасюль ніхто не смеў яму пярэчыць. Ну, бо ў іх так гаворыцца, як вада ліецца ці як вецер вее… Значыць, Закавыка заўсёды гаварыў усё, што яму ўсплывала на язык — лаяўся, кляўся, блюзніў ці жартаваў — усё было прывычнае, і ён ніколі не саромеўся, дый яго ніхто не стрымліваў.

Кажа: «…а гэты стары інвалід мне вунь што загаманіў!..»

Тут камічна-паважным тонам Іван спытаўся ўсіх прысутных:

— А вы, грамадзяне, ведаеце, якая мая прафесія, га?

Але ніхто з нас не ведаў, і мы ўсе маўчалі.

— Я, — ён сказаў, — кішэнны зладзюжка! Вось хто я… Разумееце вы?

Мы ўсе так і зразумелі, што Закавыка вырас беспрызорным і не меў ніякай хатняй апекі. Быў — здольны хлапец і нават, відаць, быў падвучаны ў нейкім прытулку, а пасля адтуль уцёк, туляўся і прабіваўся «сваімі рукамі». Ну, што ж? Гэтым разам ён папаўся… справа ў іх таксама нармальная, як і тое, што, адбыўшы свой тэрмін, ён вернецца да той самай прафесіі — толькі будзе ўжо зручнейшы. Гісторыя была такая абыдзенная, што нікому не было ніякага дзіва, бо кожны чалавек ведае, што рыба жыве ў вадзе і што кот ловіць мышэй, а мышы ад яго ўцякаюць. Толькі было незвычайнае тое, што Іван на мяне не залаяў: ды яшчэ дзіўней, што ад гэтага дня ён стаў маім прыяцелем і апекуном. Загадваў блатным, каб давалі мне на час паверкі ватаваны буш-

лат, сам прыносіў мне са сталовай селядца і ўваходзіў у гутарку. І трэба ж было, што на маё гора забралі яго ў этап!.. Але ўсё гэта было ў Тайшэце.

Затое цяпер у бальніцы мая спрэчка з блатнымі ледзь не скончылася для мяне трагічна. Ужо некалькі дзён блатныя, што былі пасля аперацыі, рассядаліся ў вадным куце нашай палаты, чалавек 7–8, і вялі самую распусную гутарку — аж перавышалі ўсякую меру сарамлівасці! Я стараўся стрымаць свае нервы, але нарэшце мая цярплівасць абарвалася. Выйсці мне было немагчыма, бо я быў пасля аперацыі яшчэ слабаваты і не меў пры сабе верхняй вопраткі, а на дварэ было халаднавата. А 3–4 халаты, што служылі на 30–40 хворых, былі заўсёды занятыя. Дык, хоцькі-няхоцькі, я мусіў слухаць блатное нахабства. Аж вось і вырваліся ў мяне словы так адважныя, як і неразважныя:

— Ці не хопіць вам гаварыць такую брыдоту? Надаела яна нам тут усім…

— А табе што трэба? — адазваўся грозна іхны атаман. І ягоныя вочы бліснулі на мяне варожым агнём. (Гэта быў сапраўдны галаварэз. Я дасюль яго не знаў.)

— Мне, — кажу, — тое, што вы пераходзіце ўсякую меру. Ці ж вам не сорамна? І ці няма ў вас лепшых тэмаў да размовы? А вы заняты самым найгоршым…

— Калі табе не падабаецца, дык заткні свае вушы!

— Не толькі мне, але нікому тут не падабаецца, і пэўна вам самым не можа падабацца, толькі ж вы ўжо ўцягнуліся.

— А ты молішся, і мы табе не перашкаджаем, дык і ты…

— Я малюся ціха, а вы…

Тут важак з націскам зашыпеў:

— Я табе ўжо перш хацеў выразаць вока, а цяпер я табе — два!..

Тым часам уся палата, чалавек трыццаць, сядзела на нарах, на сваіх пасцелях: яны моўчкі слухалі нашую сутычку і чакалі развязкі. Калі ж той бандыт прыгразіў мне страшэннай помстай, усе аж жахнуліся! А я быў узбураны не так на блатных, як на гэтых нейтральных таварышаў, якія не пасмелі мяне падтрымаць у жудасную хвіліну. Яны толькі круцілі сваімі пустымі галовамі і ківалі на мяне, каб я замоўк. Так і макаўкі ківаюцца ў гародзе на ветры, але ад людзей я спадзяваўся большага розуму і энэргіі.

Калі цяпер успамінаю той жахлівы вузел з блатнымі, не магу зразумець, што са мною было, чаму я тады не спалохаўся? Бо трэба ведаць, што гэты атаман блатных не гаварыў на ўзвей-

вецер. І мы далей убачым, як такія пагрозы бывалі трагічна-рэальныя. Але аніяк не магу ўспомніць, за што я дасюль падпаў пад няміласць правадыра блатных? Бо я зусім яго знікуль не прыпамінаю… Мне здавалася, што я з ім да гэтага часу не спатыкаўся.

О, Тайшэт ніколі ў мяне не выйдзе з памяці! Я сам бачыў, як зімой у пачатку 1950 года выскачыў з барака мой знаёмы беларус з-пад Менска С-кі з разрэзаным ад вока тварам. Было гэта ў марозную раніцу — помню як сягоння — на самым усходзе сонца. Мароз быў такі, што я ледзь мог стрываць на двары; але дзень залаты, ясны, ціхі і прыгожы, што я не мог адарвацца. Аж бачу — мой С-кі бяжыць крычыць:

— Ратуйце, ратуйце, гвалт!..

А з яго кроў — ручаём! Рана была ад вока ўздоўж праз увесь твар… Я крычу на яго:

— Хутчэй у амбулаторыю! Хутчэй, хутчэй…

Амбулаторыя была тут жа. Ён туды і ўскочыў. Больш я яго не бачыў. А такі быў малады, сімпатычны чалавек! Толькі пасля я даведаўся, што ягонае вока прапала. Ці было тады якое следства або суд, не ведаю. Здаецца, што не было нічога, бо хто б там паважыўся на блатнога атамана насведчыць? Справа заціхла і забылася, як бы нічога не бывала. А прычына злачынства аказалася самая нязначная: звечара С-кі пасварыўся з тым гарпагонам і той прыгразіў памсціцца; а раніцай і рэзнуў спячага нажом і акалечыў навек. Так, як бачым, блатныя спаўняюць сваё лютае слова. Вось жа прыходзіць мне думка, ці не быў гэты мой бальнічны праціўнік тым самым нягоднікам, што ў Тайшэце скалечыў С-кага? Дзіўна супадае адно з другім… Аднак вялікая ласка Боская нада мною, што мне ўдалося выйсці цэлым з тэй пагрозы.

Не чувалася ў маіх часах,каб блатныя гулялі ў карты на чужое жыццё. Але мне расказвалі аб такіх здарэннях, што абыграны партнёр мусіў пабіць або і забіць паказанага загадзя і «прайгранага» чалавека. Але і ў маю пару рабіліся з помсты зверскія расправы. У лагеры 0,20 загадчык сталовай, «фраер», адмовіўся выдаць блатным лішнюю порцыю. Затое цёмным вечарам стукнулі яго нечым па галаве. Пасля таго ён доўга ляжаў у шпіталі без памяці і там памёр. Бачыў я яго там: да таго ён быў у поўным здароўі і не стары.

Падобнае было з святаром летувісам (Бутвіла). Гэты атрымаў з Летувы пасылку і пры разборцы нечым не дагадзіў прысутным блатным, якія дамагаліся сабе большага працэнту. Яго таксама ўдарылі па галаве. У бальніцы ён быў у палаце для нервова-

хворых. Я ледзь упрасіў, каб дазволілі яго наведаць. Далі мне 5 мінут часу. Хвароба была паважная і працяжная. Што ў канцы з ім сталася, я не мог даведацца.

Дык вось, набраўшы практыкі, я абыходзіў блатных здалёку, рабіў ім уступкі, каб не дражніць і не наскочыць на бяду. Але і так часамі падпадаў ім пад руку і пару разоў чуць не быў пабіты. Аднак заўсёды ў самы крытычны момант мяне хтосьці абараняў: адзін раз скочыў мяне бараніць малазнаёмы турак, якога пасля затое пабілі мае праціўнікі, спагнаўшы на ім сваю злосць. Так часамі падражнены сабака хапае зубамі за кінены камень…

Другі раз заступіўся за мяне мой брыгадзір, армянін, які і сам мяне вельмі не любіў. І падобна здаралася ў іншых выпадках, і я гатоў быў, як фаталісты, паверыць у сваю шчаслівую зорку і нікому не папускаўся. Толькі ўжо на волі я належна размеркаваў, што Бог сцярог мяне, «як зрэнку вока», і хаваў «у цені крылляў сваіх», паводле паэтычнага сказу Псальмістага. Як жа я тады павінен быць удзячны Боскаму Міласэрдзю і відавочнай апецы Найсвяцейшай Непарочнай маёй Патронкі ў Законе Марыянаў, і свайму асабістаму Патрону Св. Язэпу! Дый іхняя пратэкцыя нада мною асабліва акажацца ў канцы гэтых успамінаў, як далей убачым. Адзін раз перасцерагалі мяне добрыя прыяцелі:

— Ты яшчэ носіш заграні́чныя нагавіцы (порткі)?..

— Ну, нашу, свае — маньчжурскія. Ці каму ад іх баліць галава?

— На іх заглядзеліся тутэйшыя блатныя прыдуркі. Дык ты лепш з імі не спрачайся, калі пачнуць да цябе прыставаць.

— А што? Яны ж з мяне іх не здымуць…

— Ну, ты як сабе хочаш, але глядзі, каб чаго такога не выйшла…

— Дый мае нагавіцы паношаныя — ужо і прасвечваюцца.

— Гэта нічога не значыць: блатныя хочуць з тваіх нагавіц парабіць шапкі.

Мяне агарнула і дзіва, і злосць, і смех, але я ўсё-ткі задумаўся.

І вось, праўда, за 2–3 дні адзін з тэй хеўры падышоў да мяне і, не то з просьбай, не то з грозьбай — загадаў аддаць тыя «важныя» порткі. Ён мне даў лепшыя, але савецкія, з прыдаткам паўкілаграма хлеба, а я яму ўручыў горшыя, але заграні́чныя. І пасля прыдуркі францілі ў новых шапках, што перашылі з маіх старых портак. Толькі няведама, што на гэта сказаў бы сам Сталін? Які б ён зрабіў суд аб тых «саламонавых» портках?

## У БАЛЬНІЦЫ
*(працяг)*

Хоць сем дактароў, а ўсё адна смерць.

У той самай палаце, дзе я жыў пад страхам блатных, знайшоўся адзін чалавек-летувіс, якога трэба было б назваць «залатой душой». І так шчасліва злажылася, што мяне перамясцілі да яго на верхнія нары і мы спалі абапал. Не магу сабе дараваць, што забыўся ягонае прозвішча, дык буду яго называць «Жмогус» (Чалавек), якога трэба было б шукаць з лямпай у ясны дзень. Такі адзін можа пераважыць сотні другіх, абыякіх. Ён верыў у Бога проста, па-дзіцячаму: не толькі штодзень маліўся, але жыў з Богам. Аб сабе гаварыў без самахвальства і ўсё рабіў без вырахавання, а вонках паказваўся такім, якім быў у душы. Рабіць людзям дабро ў такім трудным лагерным жыцці было для Жмогуса справай звычайнай. Працавітасць і цярплівасць Жмогуса была нечуваная, нявіданая.

У Летуве ён быў тэатральным дэкаратарам і грымёрам: гэта спецыяльная прафесія, у якой можна стацца або праўдзівым, або балаганным артыстам. У лагеры яго назначылі цырульнікам, і толькі яго аднаго я не баяўся, як ён вострай брытвай вадзіў па маім горле. А іншых… хто ж іх разгадае? Бо нярэдка бывалі паміж нашымі цырульнікамі і блатныя прыдуркі, якія ўжо мачалі рукі ў чалавечай крыві. Толькі ж мала было ў нас з Жмогусам часу на гаворку, бо ён варочаўся з лагернай работы позна і вельмі запрацаваны і адразу спаў як забіты. А я тады канчаў хварэць і меў вольнага часу шмат.

І вось я даведаўся, што ў палаце для сухотнікаў быў хворы кунігас летувіс, Стацэвічус. Я ўжо праз Жмогуса быў з тым святаром (завочы) знаёмы і дужа клапаціўся аб ягоным здароўі: нельга было аніяк з ім пабачыцца, бо мяне яшчэ не выпускалі. І наагул да сухотнікаў не было магчыма прасачыцца. На шчасце, мне дазволілі выходзіць з барака, бо пайшла цёплая пагода. Мы з Стацэвічам гутарылі праз вакно і аднойчы ўладзілі па лаціне споведзь. А нават мне зноў удалося, перамагаючы перашкоды, раздабыць троху віна і аплаткі, і я мог часамі адпраўляць Св. Літургію.

Некалькі разоў я праз Жмогуса перасылаў Св. Камунію гэтаму хвораму прыяцелю.

У Тайшэце мне было лягчэй весці апостальства. Там вельмі памагала суседства жаночага перасыльнага лагера, у якім якраз

прабывала пару каталіцкіх законніцаў. Жанчыны прыходзілі ў нашую зону ў амбулаторыю і ў швальню, дык, хоць з рызыкай, я мог адпраўляць рэлігійную абслугу. Аднак жа і там адзін раз мяне выследзілі «благія вочы»: нехта «настукаў» на мяне, што вяду рэлігійную прапаганду, і начальнік прыгразіў мне, што вышлюць у штрафны лагер. Ну, я пачаў сцерагчыся і, дзякаваць Богу, не папаўся. А мой прыяцель а. Тамаш якраз папаў у штрафны цяжкі лагер.

І вось мой новы прыяцель Стацэвічус пачаў папраўляцца і мог выходзіць на прызбу. Божа, якое было сардэчнае нашае спатканне! Які ён быў удзячны за святарскую паслугу і які мілы таварыш у гутарцы. Мы здружыліся з першага слова, і нам трудна было ад сябе адарвацца. Ён быў высокі і худы: доўгая, цяжкая хвароба знішчыла яго зусім. Павольны і паважны, як часта бываюць летувісы; а такі просты, беспасярэдні і шчыры, як бываюць Божыя дзеці. Ён ужо даволі закаштаваў горкага гора і панурай нуды паміж чужынцамі, але не згарчэў сам, цярпеў спакойна і быў падданы Божаму Правіду, як праўдзівы мучанік Хрыстовы.

— Добрай ночы! Заўтра сустрэнемся зноў.

У бальніцы № 1 каталікоў было мала, а я сам быў хворы. Да духоўнай працы я тут стаў нейкі болей адранцьвелы і няўдачлівы: ці то з малакроўя, ці з баязлівасці? Але, мусіць, больш дзеля таго, што мяне самога не было каму падтрымаць, бо часамі і падпора мусіць быць сама падпёртая, асабліва старая.

У пачатку чэрвеня, калі стала цяплець, а кароткая і прыкрая вясна ўступала месца моцнаму сібірскаму лету, хворыя пачалі вылазіць на сонца, прыгравацца на прызбе і лячыцца паветрам і цяплом, балазе бракавала належнай яды і дагляду. Летнія дні ў Сібіры бываюць дужа прыемныя, не лішне гарачыя, але багатыя сонцам. Прырода стараецца выкарыстаць дні і ночы: усё цвіце неадкладна, бо ўжо ў канцы жніўня наскочаць халады і не будзе часу ні цвісці, ні расці, ні спець. Сібір, як і Маньчжурыя, мае шмат сонечных дзён: цэлымі тыднямі сонца не хаваецца за хмары. Часам пойдзе пажаданы дождж: нагрыміць, настраляе, наліе вады, абмые ўсю зелень, асвежыць паветра, ажывіць людзей, абновіць усю прыроду, а пасля зноў настане доўгая пагода.

І дружба з чалавекам бывае або светлая і трывалая, або кіслая і пералётная. Мая дружба з Стацэвічам пачалася неспадзявана і проста цудоўна, ды і характары нашыя падышлі да сябе. Часам так пасуюць да сябе чужыя і далёкія людзі паводле гатунку

крыві, так што кроў, улітая ад моцнага слабаму, ратуе таго ад смерці. Але мы былі абодва слабымі, дык нас можна было параўнаць да тых двух інвалідаў калекаў, што памагалі адзін другому: адзін кульгавы, а другі сляпы. Кульгавы трымаўся за сляпога, але затое паказваў яму дарогу — і абодвум было добра.

На вялікі жаль, нашае знаёмства і дружба абарвалася так раптоўна, як і пачалася. Нам здавалася, што будзем неразлучнымі, аднак разышліся назаўсёды. І пасля я чуў, што мой кунігас памёр. Ні месца, ні часу смерці я не мог даведацца. Вялікая шкода і страта! Дык чаму ж мы так раптоўна тады разляцеліся? А таму, што нас разарвала савецкая ліхая доля: мы не маглі выбіраць, ані выпрасіць сабе месца і падбіраць людзей паводле патрэбы і ўпадобы. Мы павінны былі жыць з самымі нялюбымі ці нават шкоднымі або ворагамі, калі так спадабалася нашай нялюдскай уладзе; а ўлада старалася падбіраць і гуртаваць, як кажуць, ката з сабакам ці ваўка з авечкамі. У Маньчжурыі я раз бачыў, як кітаец араў, запрогшы ў адзін плуг каня, асла і карову; а ў лагеры я бачыў яшчэ хітрэйшыя камбінацыі з разумнымі людзьмі…

У лагернай гутарцы на кожным кроку адзываецца няволя. Там не гавораць: «Калі мы пойдзем на работу?» — але — «Калі нас пагоняць на работу?»

І ці хто з вас чуў, каб людзі жадалі сабе якога ліха? Ці каб маліліся аб хваробу, каб хутчэй прыйшла, ці каб даўжэй трывала? Звычайна кажуць: «Дай, Божа, здароўечка!» Або клянуцца: «Каб ты хварэў!» Ці: «Каб цябе трасца!» А ў лагеры нярэдка бывала, што людзі жадалі сабе чагосьці найгоршага або бедавалі з прычыны здароўя: «Чаму іншым удаецца добра пахварэць? А я (як на злосць!) ніколі не магу акуратна злегчы…»

Але, мусіць, не з дабра вязні на рабоце адсякалі сабе пальцы («самарубы»); або інакш калечылі сябе ці наганялі сабе хваробу, каб звольніцца ад працы; або адмарожвалі сабе рукі-ногі… Я спачатку дзівіўся, бачачы значны працэнт пакалечаных: думаў, што яны — ваенныя інваліды. Калі ж расказалі мне аб «самарубах», я вельмі абураўся і гаварыў:

— Як жа можна? І вялікі грэх калечыць сябе на ўсё жыццё! І дурна…

Аднак жа трэба пазнаць абставіны нявольніцкай працы, каб судзіць аб людзях. Бо прашу вас падумаць і зацеміць: чалавек бывае зморany жыццём, засуджаны несправядліва на «25». І вось, калі ён цэлымі днямі працуе ў лесе пры высечцы-пілоўцы, пры спуску вялізарных соснаў, лістоўніцаў, дубоў і ў вечнай не-

бяспецы ад сваёй работы і ад бесталковых суседзяў; калі не мае належнага інструменту ці не ўмее або не мае чым інструменту навастрыць, паправіць, прыладзіць (а трэба ведаць, што там дасюль вялася работа самаручнай пілой, часта малаздатнай); калі вязень бывае нядобра апрануты і дрэнна накормлены; калі даецца яму непасільная норма або стаіць над каркам вар'ят-брыгадзір, што ўсцяж лаецца, або падганяе («давай-давай!»), або ашуквае ў расплаце; калі вязень слабее, а баязлівы лекар (бо і ён — вязень!) не дае адпачынку ў хваробе (трэба мець тэмпературу вышэй 37,4 С, а дзе ж яе ўзяць пры малакроўі?); калі за непасільную норму змяншаюць паўгалодны паёк і калі зімою трываюць сібірскія маразы, а летам загрызае да крыві праклятая машкара — аж людзі пухнуць, — дык якое трэба мець здароўе, каб усё гэта перанесці?! А яшчэ важней — які павінен быць дух — разумны і моцны, каб чалавек не падпаў у роспач, дый не стаўся самарубам, або не наважыўся на самагубства? А прытым за калецтва пагражае надбаўка вязніцы ці лагера на 3–5 і больш гадоў… Але роспач не ведае ні страху, ні сораму, ані свайго розуму і спрычыняе няшчаснаму горшую крыўду, чым была датуль.

А пагаварыце вы з работнікамі, што працуюць там у каменяломні, «каменны кар'ер», ці здабываюць вугаль, медную і іншыя руды, або капаюць соль, соду, вапну, ці гаруюць у другіх работах брудных, пыльных і небяспечных… Бо наагул у Савецкім Саюзе і вольныя работнікі не маюць належнай і незалежнай сваёй абароны, дапамогі і апекі. Усё ў Саюзе — урадовае і афіцыяльнае. Няма грамадскіх ці прыватных таварystваў і саюзаў. Работнікі могуць бараніць сябе толькі праз урад, які ёсць адначасна сам і капіталістам і сам адзін абаронцам работнікаў. Значыць, там ад самаволі ўраду няма ніякага ратунку, бо забастоўка (страйк) уважаецца за бунт супраць дзяржавы. Работнікам кажуць: «Усё — вашае!» Але гэтае «вашае» — у руках камуны.

А работнікі-вязні тым больш не маюць ні волі, ні правоў: за вязняў думаюць тыя, што іх ганяюць на работу, падганяюць на рабоце і зганяюць з работы. Дык самаволя начальнікаў не мае ніякіх граніц.

Праўда, у Савецкім Саюзе вядзецца частая і вострая рэвізія, кантроль, анкеты, справаздачы, статыстыкі, спаборніцтва і г. д. Але гэта ўсё — крытыка самога сябе. Бо ці можа правая рука біць левую затое, што тая дрэнна зрабіла? Калі лекары не лечаць самі

сябе; калі святары і біскупы, а нават рымскі папа не спавядаюць самых сябе і не могуць даваць самым сабе разграшэння; калі суддзя не судзіць сам сябе, а пракурор сябе не скаржыць; калі нават цырульнік сябе не стрыжэ, — дык Савецкі ўрад і камуна перавысілі ўсіх. Яны сабе дароўваюць усе злачынствы і яны больш непамыльныя, як рымскі папа; маюць самадзяржаўнасць большую як цары, як султаны і ўсякія дыктатары і, як бы яе ні называлі, гэта ёсць дыктатура і дэспатызм адзінкі — Сталіна, Хрушчова ці Ульбрыхта…

Вельмі дзіўна, што вольны свет гэтага не разумее! Пакуль сам не дасведчыць, чалавек не можа дастаткова адчуць і разумець — здаровы хворага, сыты галоднага, вольны нявольніка, багаты беднага, разумны дурнога… Камуністы гэтым і спекулююць, што распешчаны вольны свет захоча пакаштаваць смаку іхніх абяцанак і панюхаць праграмы, як мышка хоча папрабаваць скваркі ў клетцы.

*

У пачатку траўня 1950 года пачалі на тэрыторыі бальніцы будаваць новы корпус. Капалі фундамент грамадскім спаборніцтвам — лекары, фельчары, санітары, наглядчыкі і мы, аздаравелыя інваліды. Але я яшчэ пачуваўся слабы і быў непрывыклы да цяжкой фізічнай працы, дык не мог выканаць назначанай мне малой нормы, хоць здуру вельмі стараўся. Дый грунт быў гліністы і цвёрды, не па маёй сіле. І вось адзін раз мой старшы санітар (так называецца апякун кожнай палаты) стаў пільна слядзіць мяне, дык у мяне аж мурашкі захадзілі пад скурай! Аж і кліча ён мяне на экзамен: хто я? і што я? і кажа:

— Заўтра прыйдзеш раней на работу і будзеш запісваць: хто тут працаваў, які меў час, што зрабіў і г. д. Прыгатуй, што патрэба…

— Добра, прыйду!

Я так усцешыўся, як бы скарб знайшоў! Значыць, зямлі больш капаць не буду, хоць там зарганізавалі вясёлую работу: зладзілі балаганную аркестру, якая з танцулькамі выводзіла слабых інвалідаў на грамадскае змаганне. Але грызці цвёрды грунт — дзякуй за ласку!

Але наш свет такі няўдалы, што і вялікае шчасце не прыходзіць без клопату. І ў мяне з’явіліся смешныя перашкоды: як здабыць на заўтра алавік і сшытак? Бо ў лагеры нярэдка здараецца (як і наагул у Саюзе), што даюць чалавеку тэрміновую

работу, а інструменту не даюць або даюць інструмент няздатны. Кажуць звычайна: «Ну, гэта малаважная рэч — пастарайся сам! Пашукай-папрасі!»…

Дык застаецца хіба адзіны спосаб — украсці, але так, каб і не папасціся. Можна таксама пазычыць і не звярнуць; або выпрасіць і не аддаць. Толькі ж бяда ў тым, што ўсе ўсяго патрабуюць, усе ўсё ад усіх хаваюць, пільнуюць і спаганяюць. Красці, значыць, мусова, — дык і дасканаляцца спосабы кражы і рэвізіі, кантролі і судовай кары — за дробязь да дзесяці год… І вось паўстае пытанне, што лепшае для грамадства, ці даць свабоду рэлігіі і дбаць аб абычаі людзей? — ці дзеіць на людзей прымусова? Камуна выбрала прымус і ўсцяж узвышае і заціскае свае нормы, аж… пакуль трэсне.

*

У лагеры бягучай манетай была пайка хлеба або цукру, таксама галоўка цыбулі або часнаку. Вельмі цэннай рэччу была іголка і паштовая марка ў 40 капеек. Куплялі і мянялі адно за другое без грошай, бо грошы былі ў канцылярыі, і за іх мы куплялі тавар у ларку. Але ларок прыязджаў рэдка і прадаваў тавар менш нам патрэбны. Скрыначка ад запалак была меркай табакі. Дык вось я раптам папаўся ў несамавітую блытаніну: я не ўмеў за 2–3 гадзіны здабыць сшытка і алавіка! Але ў нас самі наглядчыкі на паверцы запісвалі народ на дошчачках, якія пасля трэ было скрабаць шклом. Быў позны вечар, і я не меў бягучай «манеты» ці «валюты». А справа была простая: знайсці такога «багача», які меў у запасе тое і другое, ды сказаць яму:

— Возьмеш у мяне за 3–4 дні мой цукар, а мне дасі алавік і паперу.

Так у лагеры купляў сабе ўсё кожны пралетар. А той «капіталісты», ці спекулянт, пры раздачы браў двайную пайку, а бядняк двойчы ўздыхаў і так абодва былі задаволеныя. За цыбулю ў лагеры можна было купіць усё, апрача хіба птушынага малака. А часнок меў у нас вялікую славу, як на волі шакалад. Так, бывала, «багацей», з мінай дабрадзея, раздаваў шчодрай рукой суседзям у сталовай па зярнятку часнаку і не было нікога, каб ад падарку адмовіўся. Некаторыя ласуны расціралі часнок на хлеб, елі паволі і з такой павагай, як ангельцы і амерыканцы ядуць індыка на Каляды.

## ПРАВАДЫР СЛЯПЫХ

Лепшае сваё вока адно,
Чым чужых двое.

Здаецца, што ніхто і ніколі не закляў мяне: «Каб ты сляпых вадзіў!» А вось давялося. Здалёку выглядае, што гэта работа гультайская, а ў практыцы яна вельмі трудная, працавітая і нервовая. Каб я спадзяваўся такой прафесіі, дык прыгатаваўся б загадзя, а то прыйшлося вучыцца на жывых людзях.

Увесь папярэдні вечар я пратаптаў, шукаючы алавіка і паперы, і ўжо быў на добрай дарозе. Ажно пасля вячэры звалілася на мяне, як гром з яснага неба, другая бяда: «Пераходзь з рэчамі ў корпус нумар 11-ты!»

Перайшоў я, і ўдалося знайсці новае легавішча. Там было зусім другое жыццё: незнаёмыя людзі і іншыя парадкі. Да таго і старшы санітар, гаспадар гэтай палаты, мой новы зверхнік, быў чалавек рашучы і станоўкі, аб чым я хутка пераканаўся. Гавару яму:

— У мяне ёсць ад папярэдняга санітара на заўтра назначаная спецыяльная задача пры будове.

А ён мне на гэта:

— А я цябе да гэтай задачы не пушчу!

— Адыж, — кажу, — каб не выйшла чаго дрэннага?

— Ну, гэта ўжо мая справа!

Я бягу да таго і кажу:

— Мой новы санітар мяне да вашай работы не пушчае.

Стары кажа:

— Усё ж такі ты да маёй работы пойдзеш!

А новы санітар кажа:

— Не пойдзеш і няма чаго больш аб чым гаварыць!

І пасварыліся яны за мяне, як малыя дзеці за дрэнную цацку. А я прайграў на ўсім фронце, бо і прывабную работу страціў і новага пана раздражніў; але мусіў яго слухаць, як той нявольнік, якога купіў новы гаспадар. І вось ён паслаў мяне на сваю работу — палоць ля корпуса кветкі.

— Ну, думаю сабе, — работа гуляшчая; дый тут не трэба ні алавіка, ні паперы. А буду сам адзін.

Пайшоў я, прысвістваючы. Пагода, пасля ранняга дожджыку, была мяккая і цёплая. Пачыналася другая палавіна чэрвеня — граніца сібірскай вясны і лета. Усе сібірскія кветкі чутка следзяць за сонцам, некаторыя шчыльна складаюць нанач свае пялёсткі

і адчыняюць іх раніцай. Пчолы і чмялі гудзяць ад цямна да цямна; дык не дзіва, што пчала за некалькі тыдняў становіцца інвалідам, а пад вечар не мае сілы падняцца ў паветра і канчае гаротнае жыццё пры сваім станку. Я заглядаўся і на ластавак, як кружылі з піскам, а то кідаліся стрымгалоў уніз, то маланкай узляталі ўверх. Пліскі, у Беларусі даволі рэдкія птушкі, тут ківаюць сваімі доўгімі хвастамі па ўсіх дарожках.

Мая работа вонках выглядала вельмі паэтычна: я быў даслоўна на ўлонні прыроды, як крапіва паміж цудоўных кветак. Сам стары і змарнелы, але ў свежай зелені і ў бліскучых кветках, я красаваўся як знахар, што збірае зёлкі на лекі ці на замовы. Праходзячыя інваліды паглядалі на мяне з дзівам, а знаёмыя ківалі галовамі: «Як жывеш? Ці цяжкая работа? Га-га-га…»

Але ніхто з іх не меркаваў, што я перажываў страшэннае гора ад малюсенькага разбойніка: гэта было гора, якое мне трудна апісаць, а чытачам нялёгка зразумець. Вось у чым справа: у пачатку чэрвеня налятае і хутка множыцца паганая пошасць — машкара, падобная да нашай мухі (у Сібіры яе называюць «машка»), але малюсенькая, як галоўка шпількі. Аж сорамна было б жаліцца на яе! Толькі ж яна вельмі дакучлівая і шкодная. Залазіць ува ўсе шчыліны і не кусае, але тне вострым джалам — свярбюча і балюча, дый запускае сваю атруту (яд) як пчала — у вока, вуха, нос, за каўнер… Як бы цянюсенькая іголачка, а іх мільёны! Звіняць пісклівым аркестрам і дражняць нашыя хворыя нервы. А найгорш, як у працы схілішся над травою ці парушыш траву: тады машкара нападае, як стрывожаныя шэршні. Летам трэба накладаць на твар сетку — «накамарнік», а якая мала бароніць, а больш назаляе, бо яны пралазяць праз вочкі сеткі і тнуць пад сеткай. І злосць бярэ, што вораг такі дробны, а я не магу ад яго абараніцца! Не дарма слон, хоць сам такая грамадзіна, баіцца мышэй: як мышка лезе ў яго паназе, дык слон са страху хоча выскачыць са скуры! А мышка думае, што лезе па жывой калодзе… Некаторыя людзі не баяцца машкары: я сам бачыў такіх, якіх яна не чапае — няведама чаму? А іншых проста заганяе ў хваробу: ходзяць акрываўленыя і апухлыя, дастаюць гарачкі і нервовага ўзрушэння. Ад укусу цела дакучліва свярбіць і зудзіць, дый не памагаюць ніякія мазі. Аднак арганізм можа крыху прывыкнуць і пасля не пухне.

Адзін раз я бачыў немца, які ўвечар вярнуўся з работы: ён быў так абкусаны машкарой, што рукі, твар і шыя былі адной крывавай ранай, як бы чалавек быў абдзёрты са скуры. Аж ня-

шчасныя людзі з вялікай немарасці часамі гаварылі: «Няхай бы лепш ужо была зіма!» А гэтыя людзі добра дасведчылі сібірскую зіму, калі да 45° С не здымалі іх з работы.

На ветры і на сонцы машкара нападае менш. А найгорш бывае тым, што працуюць схіліўшыся над зямлёй і маюць занятыя рукі. Дык нашыя паны-наглядчыкі і брыгадзіры, абвешаныя добрымі накамарнікамі, як маюць вольныя рукі, пахаджваюць пры нашай рабоце або сядзяць пры вогнішчы, — дзівяцца і смяюцца з нашай бяды:

— Чаму ж мы не баімся? І нас кусае таксама. А вы — беларучкі…

Вось і гаворыцца ў Беларусі:

— Пакуль з багатага — пух, то з беднага — дух.

І вось у такую прыгожую пару і ў такую заядлую машкару трапіў я палоць тыя няшчасныя кветкі. А муха, пачуўшы свежую кроў, налятала на мяне вялікім роем. Знайшоўся я, як той капрызны хлапчук, якога матка, раздзеўшы, хацела абсцябаць розгай, а ён вырваўся голы ў гарод і схаваўся ў крапіву… І я не меў ратунку — думаў, што ашалею! Мне параілі абвешацца травою, бо накамарніка я не меў. Але трава мітусілася прад вачамі, а мушка лезла ў вочы. Пастанаўляў перацярпець ці прыцярпецца, але дзе ж там! А да вечара я выглядаў, як надзьмуханы мячык — меў падпухлыя вочы і апухлы твар. Бо якраз я працаваў пасля цёплага дожджыку, а быў у вялікай траве і яны, праклятыя, — усе на мяне аднаго! Мае нервы расцеляпаліся, і я гатоў быў заламацца.

Дні былі такія парныя, што людзі здымалі з сябе ўсё, а мяне мушка так мучыла, што я зашпіляўся шчыльна, завешваў твар хустачкай, абліваўся гарачым потам і ўсё ж такі ператрываў аж тры дні! Раса блішчэла на кветках, як дарагія брыльянты; але я гатоў быў лепш палоць чартапалох, як тыя цудоўныя кветкі! Прыяцелі прыхільна ківалі мне галовамі, а я шкадаваў, што на свет нарадзіўся.

І як гэта разумныя і добрыя людзі не ўмеюць пазнаць чужой бяды? Зайздросцяць таму, каму трэба спачуваць. Дык вось дзеля чаго Прамудры Бог пасылаў мне ў маім жыцці сіроцтва, беднасць і хваробы, працу, ворагаў і крыўды, пажары, суды, турмы і лагер на «25», а цяпер машкару, каб я разумеў чужое гора і спачуваў другім.

А на трэці вечар, калі я зусім зняверыўся ў сваёй долі, нечакана кажа мне старшы санітар:

— Будзеш вадзіць сляпых!

— Як гэта? Якіх сляпых?

— Ёсць тут тры чалавекі: ты будзеш у іх правадыром.

— А што ім рабіць? Я ніколі з сляпымі не меў нічога супольнага…

— Нічога, парадзіш: даглядаць, карміць-паіць, мыць у лазні, спаць з імі, даваць лякарствы і ўсё другое.

Я здумеўся: усцешыўся, што ўцёк ад машкі (хай яна згарыць!), але баяўся, каб не трапіць у што горшае. Бо ў мяне такая доля — з лужыны ды ў балота! Адыж вязень выбару не мае: робіцца тое, што даецца, бо мы — нявольнікі.

Папраўдзе, дык мне трэ было б саромецца, што так раскіс пры малой спробе. Бо як жа людзі пераносяць такую немарач дзесяткі гадоў — кожнае лета аж да самага снегу, бо толькі тады машкара гіне. І не маюць ані перамены працы, ані помачы, ані спачуцця. Цярплівы бедны чалавек, але толькі адзін Бог гэта бачыць.

*

Іду «паказацца» сляпым. Іх трое: беларус з Палесся, расеец з Ноўгарада і латыш з Лібавы. Беларус — земляроб, расеец — сталяр, абодва па 50 год, латыш — інжынер, гадоў 60. Аслеплі ў лагеры на цяжкой працы. Усе тры маглі смела глядзець на сонца, хоць мелі вочы вонкава нармальныя. Інжынер быў гаваркі, але фанабэрысты і нервовы. А тыя два — людзі простыя і ціхія як авечкі.

Прынялі яны мяне з цікавасцю, але недаверліва: можа, дзеля майго каталіцкага святарства? Бо латыш быў лютаранін, а тыя два — праваслаўныя. Але хутка ўсе да мяне прывыклі і клікалі без ніякае цырымоніі, дый беларус і расеец неўзабаве прывязаліся да мяне. Латыш быў лішне асцярожны і спрычыняў мне нямала турбацыі, як далей будзем бачыць. Яго тут лічылі багацеем, бо рэгулярна дставаў пасылкі ад сям'і з Латвіі. А мы з тымі двума не мелі ніколі ад нікога нічога ніякага.

Пасля аперацыі мой малакроўны арганізм быў да таго аслаблены, што мне рабілася млосна: я гвалтоўна патрабаваў помачы ў ядзе і ў лякарствах, а бальніца сама была голая і скупая. Дык мне было вельмі пакутліва выкладаць сляпому латышу з ягоных торбаў сала і каўбасы, сыр і масла, цукар, цыбулю і часнок — усё самае ласае і неабходнае для галоднага вязня. Хто сам не быў галодны, як воўк вясною, той не зразумее. Так афрыканец не ра-

зумее, што значыць снег, хоць аб ім чытае і бачыць намаляваны ў кніжцы, бо снег трэба пашчупаць. І да таго гэты інжынер, што прывык у жыцці ўсё перамераць, дык і цяпер, хоць аслепшы, меў у памяці меру і вагу сваіх прадуктаў: колькі ўсяго было? Колькі з'еў учора? І колькі мусіць астацца? Кожны раз браў мяне пад кантроль і ўсё роўна мне не верыў: перашчупваў сам зналёту і знянацку. А найгорш было тое, што я забыўся, што ў латыша ёсць і дзе яно ляжыць? Або колькі было ўчора? І злосць мяне брала на латыша і на сябе, бо я не ўмеў яму растлумачыць, што я не злодзей і нічога ад яго не бяру. Я думаю, што латыша не раз абкрадалі першыя апекуны, дык ён ужо не верыў нікому.

Да таго навязалася другая бяда: сляпы латыш вельмі сварыўся з сляпым беларусам. А ўначы, як спалі поруч, падымалі гармідар, крычалі і парываліся да бойкі. Я не мог іх пагадзіць, толькі як лёг паміж імі сам, тады яны сціхлі і патроху звыкліся са мною і з сабою… Таксама сваёй тактыкай я здабыў давер латыша пры торбах і прадуктах: ён загаварыў чалавечым тонам, а нават з сваёй ласкі адступаў мне часць лагернай порцыі. Такая мізэрная адплата мела для мяне нейкае значэнне, хоць і я сваім парадкам дзяліўся з двума другімі сляпымі. Так мы дайшлі да сямейнай гармоніі.

Хоць непрактычны правадыр, я вырашыў вучыць сляпых самадзейнасці.

— Бо інакш, — думаў я сабе, — яны замораць мяне да смерці, як кожны пачне цягнуць у свой бок. А і мне самому трэба таксама адпачываць…

Перш за ўсё прымушаў іх хадзіць з палачкай: хваліў, ганіў, папраўляў і г. д. Хутка беларус і расеец набралі смеласці і аказаліся бойкімі выхаванцамі: пастаўленыя на дарожку, хадзілі самі, паварталіся, прысядалі на лавачку і вярталіся ў палату. Хутка ім самым падабалася самастойнасць, а публіка хваліла маю сістэму.

Затое мой вучоны інжынер не патрапіў размераць сваёй паходкі, а нат не хацеў папрабаваць: упёрся «як сляпы ў плот» і не паддаўся ніякім намовам: заўсёды турбаваў правадыра. Ён патрапляў па-бабску наракаць, па-панску пакрыкваць і па-хамску лезці ў вочы. Дый нельга было папускацца сляпому самадуру!

Аднак і хуліганы маюць свае дзівацтвы і добрыя бакі. Латыш не цяжыўся слепатою, ён неразважна адказаўся ад аперацыі, хоць паважныя лекары абяцалі, што адно вока вылечаць. Але ён і слухаць не хацеў!

— Я не вытрымаю: я памру… Як вярнуся на волю ў Латвію, тады зраблю аперацыю.

Ён шмат цікавага расказваў мне аб вольнай Латвіі, як малая дзяржава да 1940 года дарабілася навукай і працай да поўнага дастатку. Ён сам працаваў тады ў новай цукроўні: машыны былі закупленыя ў Чэхаславаччыне. Інжынер з сваімі дочкамі ў хімічнай лабараторыі рабілі розныя экспертызы і спробы: выводзілі новыя гатункі цукру з маладога жыта, з пшаніцы і іншыя. А іхны цукар з грушак быў ведамы на блізкіх і далёкіх загранічных рынках.

— А вось да чаго, — кажа, — дайшло: Латвія страціла і волю і долю, а я дастаў доўгатэрміновы лагер і там ад цяжкай працы аслеп.

З размовы я зрабіў высноў, што латыш быў чалавек практычны. У латышскай дзяржаве ён меў немалое значэнне як інжынер-хімік і укладаў шмат працы на карысць і славу бацькаўшчыны.

— Я меў, — казаў ён, — у Мітаве дом на дваццаць сем'яў; пры доме быў вялікі фруктовы сад. Мы сумысна збудавалі дом блізка станцыі, дык і кватаранты ў нас былі самыя працаўнікі чыгункі. Усе яны маглі адпачываць у маім садзе і падбіраць ападкі, але нікому нельга было рваць фрукты ці рабіць шкоду. У садзе і ў доме быў ідэальны парадак і чысціня. Як даспявалі фрукты, я раздзяляў іх роўна на кожную кватэру. Усе ў мяне мелі належную выгоду і прыемнасць, а дзеля таго дом не пуставаў ніколі.

У такія мінуты размовы мы пазнавалі сябе наўзаем і больш цанілі ў сабе годнасць чалавека і, каб яшчэ крышку часу, мы мусіць неўзабаве падружыліся б зусім, але разнёсся нечпадзяваны кліч: «Этап, этап!..»

## КРЫЖОВАЯ ДАРОГА

> Горкай бядзе і сонейка грэе, і вецер вее, і салавейка пяе.

4 ліпеня 1950 у бальніцы № 1 быў назначаны вялікі этап, чалавек 70, пераважна інвалідаў. Улада Цэнтральнай бальніцы скарыстала з цёплага часу, каб апрануць нас абы-як: значыць, далі нам самую лёгкую вопратку і самой апошняй катэгорыі — аблатаныя лахманы, абы толькі ад нас адчапіцца! І выправа была ім дагодная, бо пагналі нас пехатою ў недалёкі лагер (каля 5 км).

Сабрацца ў дарогу не такая простая справа. Пайшлі клопаты, бегатня, спрэчкі: найперш — здаць пасцель і ўсю маёмасць

бальнічную; пасля адабраць дабро ўласнае; здабыць этапную бялізну, таксама вопратку і чаравікі. А ў грамадзе — хто першы, той лепшы! Дык якой трэба зручнасці, энэргіі і сілы, каб з агульнай кучы вопраткі і абутку падабраць сабе да меры і на фасону найлепшыя лахамыткі! А я мусіў яшчэ апрануць і сваіх сляпых; а яны не могуць сваіх даўнейшых рэчаў пазнаць, дый цэняць іх высока. Яны, хоць і не бачаць, але ў момант адрозніваюць добрае ад благога. Дык вось паўстаў кірмаш, як у Смаргонях, і гармідар, як у сінагозе: усе спяшаюцца, нервуюцца і крычаць-крычаць!.. Ледзь я паспеў апрануць і абуць сляпых, як пачулася каманда: «Станавіся!»

Добра, што мне самому і выбіраць не трэба, засталася адна пара чаравікаў. Уцешыўся я, бо размер якраз для мяне, што з апошняй парай не бывае. Прыпомніў, што аддаў ім новыя чаравікі, якія здабыў у Чыце галадоўкай, а цяпер атрымаў благую пару. Але тут такі парадак і… Ох! — цвік у правай пяце… Што рабіць? Нічога не зробіш! Новая каманда: «Станавіся, раўнуйся!..»

Тут няма — «пачакай!» — Даганяй, а то пападзеш.

Я загадзя знайшоў правадыроў для беларуса і расейца, а латыша (найцяжэйшае ярмо!) узяў сабе. Так вось пачалася мая «малая», але памятная «Крыжовая Дарога». Я ўлез з сваім пацыентам у першую пяцёрку. У мяне на плячах быў свой мяшок з драбязой — даволі лёгкі і латышоў мяшок — добра цяжкі! Правай рукой я трымаў абодва мяшкі, закіненыя на плечы; за маю левую руку трымаўся сляпы латыш. Правай нагой я чуць апіраўся на пальчыках, бо ў чаравіку тырчаў пад пятою той бессаромны цвік! Вось ужо нас некалькі разоў палічылі па дакументах і проста так; вось нас агледзелі з усіх бакоў і пастрашылі паводле савецкага закону:

— Хто зробіць крок убок — страляем без папярэджання!

Мы ведаем, што тут не фармальная пагроза, бо стралялі і забівалі, і атрымоўвалі ўзнагароду; хоць «крок убок» на дарогах з выбоінамі і з ямамі зрабіць вельмі не цяжка. Але ніхто запалоху не баяўся, бо тут смерць не страшная…

— Гатовы… Марш!

Ідзем. Разглядаемся за брамай навокал. Чуваць шэпты:

— Куды нас пагоняць?

— Або на 0,20-ю, або на 0,21-ю?..

— 21-я была б лепшая.

— Эх, Божа, багаславі!

Ідзём. А пагода! Такой у нас даўно не бывала: цёпла і прыемна. Паветра ранняе, свежае, мяккае. Ні вецярку, ні хмарачкі! Самы пачатак сібірскага лета. Неба сіняе і паветра такое празрыстае, як у Італіі ці Маньчжурыі. На ўзвышшы далягляд адкрываецца на дзесяткі кіламетраў. Сонца злівае на зямлю безгранічнае багацце святла і цяпла. І ўся прырода цягнецца да сонца, хоча ім насыціцца і нацешыцца, каб аддыхнуць ад лютай сібірскай зімы. І ўсё тут цвіце разам: няма кветак веснавых і асенніх — яны ўсе летнія, бо восень адразу зварыць адным ранніi марозам кожны жывы лісток. Дык каму жыццё дарагое, няхай спяшаецца цвісці, жыць і радавацца! А бедаваць і паміраць будзем, можа, калісьці паслей…

Ідзём па палатне чыгункі: навакольная мясцовасць разрэзана быстрай рэчкай, якая ўецца ўздоўж нашай дарогі па лугох і далінах, як бліскучая змяя, між кустоў, дрэваў і зарасляў. Усё гэта сёння звініць салаўінай песняй, аж жывей б’ецца сэрца. Бо вось чалавек, які быў загнаны ў бальніцу, адгароджаны высокім тынам ад усяго свету, раптам у самы прыгожы дзень убачыў Божы свет. Хоць мы акружаныя збройнымі жаўнерамі і злоснымі сабакамі, але мы дакрануліся да вольнай прыроды і да вольнай волі, ад якой нас бяспраўна адарвала Масква на «25». Мы ўздыхнулі глыбока, як усе людзі, і свабодна, як усё жывое. Але… штосьці тут не так?..

Ідзём пяцёркамі. Палатно чыгункі. Шпалы, дрэнна прысыпаныя, стырчаць з зямлі, рэйкі нам перашкаджаюць: інваліды збіваюцца на шпалах. Два канвойныя крычаць на нас наперадзе, два правыя і два левыя падганяюць нас з бакоў, а два заднія напіраюць на нас. І ўсім ім вельмі не цярпіцца, што мы ідзём марудна.

— Шырэй крок! Падцягніся!..

Але мы ўсе інваліды, старыя, ды ідзём з бальніцы пасля цяжкіх хваробаў або пасля цяжкіх аперацыяў. І тут — мае тры сляпыя, дык як нам паспяшыць? Але ёсць і мацнейшыя інваліды, ды яны якраз улезлі ў пярэднія рады. Дык я супраць канвою бурчу на таварышаў:

— Не спяшы! Ззаду не паспеюць слабыя…

І злосць мяне бярэ; чаго яны — аж дрыжаць — баяцца канвойнага крыку? Бо жаўнеры, як ваўкі, няшчадна гоняць, а інваліды, як авечкі, бяспамятна лятуць; а людзям праз іх жыцця няма!

Паміж мною і латышом — рэйка, а пад нагамі — шпалы: мой сляпы збіваецца з ног, дык учапіўся моцна ў маю левую руку —

аж рука млее! Мае мяшкі раз’язджаюцца на плячах — а я не магу іх паправіць, бо няможна затрымацца і не маю трэцяй рукі, дык і мая правая рука млее. А сонца паднялося, прыгравае: мяшкі парацъ плечы. Усе спяшаюцца, заднія наступаюць на пяты, пот залівае вочы. Я не магу зладзіць із сваім сляпым і з мяшкамі і сам з сабою — хутка ўпаду-самлею… «Божа, ратуй!» Аднак не ведаю, скуль бярэцца новая хваля сілы? Пачуваю большую энэргію. «Не, не самлею!»

А якраз цяпер самы сезон машкары: аваднёў, мухаў і гэнай самай малюсенькай — іх цэлыя хмары! І цэляцца мне ў вочы. Не магу адагнаць, бо не маю трэцяй рукі. Прытым старшы канвойны ашалеў (ці яму якое ліха?), бо крычыць наперадзе:

— Не трымайся за рукі!

А я не магу таму крыкуну сказаць, што вяду сляпога, бо пярэдні канвой ідзе воддаль і не магу сляпога выпусціць з рук на шпалах у прыспешаным маршы. А крычаць грозна, і я запраўды баюся, бо ён з набітай стрэльбай, а я іхныя пагрозы знаю…

Дык ці мала было маіх бедаў?

Мала! Цвік у чаравіку ужо добра ўеўся ў пяту: чую кроў там, а боль пранікае аж да сэрца. Здаецца, што пята самая малаважная частка ў нас, але яна мне такжа дарагая. І пята ёсць апошняй інстанцыяй, куды, як ведама, у вялікім страху «ўцякае душа». А як цвік зрабіў дзіру, дык што будзе з душою?

І ад пяты згінуў найбольшы герой у гісторыі, Ахілес… Ой, гора маё!

І яшчэ не ўсё: у калоне ішоў мой прыяцель, беларус, Сасноўскі, стары інвалід з хворым сэрцам. І вось ад гарачыні і ад паспеху ў дарозе Сасноўскі пачаў млець. Тут ужо і заўзяты наш канвой мусіў затрымацца. Добрыя прыяцелі вялі хворага пад рукі, але і гэта не памагала: ён чарнеў на твары, сэрца калацілася — усе баяліся, што хутка сканае. Хацеў бы я да прыяцеля падбегчы, дый нельга выйсці з строю і кінуць сляпога. Вось Сасноўскага пасадзілі на палку: удвух неслі, а ён рукамі трымаўся за іх і неяк трываў. Толькі ж і тыя мучыліся самі, хоць хворы быў сухі і лёгкі. Цэлы канвой затрымаўся, нерваваўся і не ведаў, што рабіць. І я расхваляваўся таксама, бо Сасноўскага жалеў, а не мог нават загаварыць да яго…

І ў канцы смешны клопат з маім сляпым латышом: ён меў цёплую безрукаўку і на прыпынку зняў яе і даў мне несці. А якраз мы пераходзілі высокім берагам рэчкі, які быў зарослы густымі кустамі. Тут салаўі так заліваліся песнямі, што і камень

узрушыўся б! Я так заслухаўся, што забыўся аб усіх бедах і не чуў, як прыставаў да мяне латыш:

— Дзе вы падзелі маю безрукаўку?

— Га? што? чаго?..

Але ўпарты латыш не пакідаў пытацца. А я ап’янеў ад салаўінай песні. Нарэшце кажу адчэпнага:

— Яна мусіць у мяшку?

Каб мяне стралялі, я не прыгадаў бы, дзе яе западзеў! А ён мяне лае і папракае… Вось яшчэ бязглуздае гора!

— Божа, Божа! Ізноў усе беды навярнуліся на мяне. І салаўі засталіся далёка.

Але мы ўрэшце сышлі з палатна чыгункі на палявы перагон і затрымаліся на пару мінутак. Я нарваў у чаравік травы, і мне крыху палягчэла, пакуль трава не з’ехала з запятку, а цвік вярнуўся да сваёй крывавай аперацыі.

— Шукай маёй камізэлькі! — нерваваўся латыш. Але я цярпліва маўчаў: клыпаў на зраненай назе, круціў галавой ад аваднёў і заглядаўся на касагор за рэчкай, дзе паслася жывёла. А сама рака гуляла з намі ў хованкі: то зашывалася ў зараслі, то блішчэла як люстра на сонцы, а то спацыравала па лугавіне і вабіла нас, прапацелых пілігрымаў, адпачыць і абмыцца. Але мы былі «не свае»: нас гналі штораз хутчэй, бо ўжо новая загароджа чакала на нас.

Памятная засталася мне гэтая, хоць і «Малая Крыжовая Дарога», бо Вялікую прайшоў за мяне мой Вучыцель Ісус Хрыстос. «Калі ўжо наздзекаваліся з яго… павялі, каб укрыжаваць яго» (Марк 15, 20). Прабілі яму рукі і ногі вялізнымі цвікамі. «І, нахіліўшы галаву, аддаў дух» (Іаан 19, 30).

І вось мы ўвайшлі ў 0,20-ю, і там я насіў свой лагерны крыж паўтара года. А стуль зноў вярнуўся ў бальніцу і неяк жа ператрываў усё пры помачы Божай.

## АРХІМАНДРЫТ ФАБІЯН АБРАНТОВІЧ

Бацька — за парог,
дзеткі — за пірог.

Мушу тут найлепшым словам успомніць і расказаць аб двух галоўных дзеячах нашай харбінскай Місіі, якія былі зліквідаваныя ў Савецкім Саюзе, аб Фабіяне Абрантовічу і аб Андрэю Цікоце.

Як людзі гінуць у Сав. Саюзе, мы нічога не можам даведацца: яны там бясследна нікнуць, як камень ў глыбокай вадзе! Гісторыя сведчыць, што розныя рэжымы мелі свае спосабы знішчэння праціўнікаў: рымскія цэзары крыжавалі, але аддавалі цела замучаных. Французская рэвалюцыя адсякала галаву (гільяціна), але аддавала хоць пасечанага. Гітлер страляў, труціў, паліў… але заставаўся хоць попел. А Савецкі Саюз перавысіў усіх — «ліквідуе»… І ўжо ні аб жывым, ні аб памерлым не застаецца ні весткі, ні следу! Але да гэтага наш «вольны»-«культурны» свет прывык. Прапаў чалавек, як муха, і ніякі «чырвоны крыж» яго не знойдзе!

Так загінула маса нашых найлепшых, найбольш цэнных людзей — святароў, навукоўцаў, пісьменнікаў, дзеячаў і вялікія грамады народу. Але мы верым, што яны ўпісаныя ў рэестры Божага Правіду і ўвойдуць у вечную памяць нашчадкаў.

29 красавіка 1939 года я, едучы паўторна ў Маньчжурыю, спаткаўся ў Шанхаі з архім. Ф. Абрантовічам. Ён ехаў у Рым, каб даць Св. Айцу Пію XII справаздачу з сваёй працы ў Харбіне, дзе выконваў абавязкі Апостальскага Адміністратара (Ардынарыя). Я ўжо працаваў пад рукой Айца Фабіяна ў Харбіне ў гадох 1932–1936 і быў тады кіраўнікам ліцэя св. Мікалая і заступнікам Ардынарыя. Абрантовіч з Рыма меўся вярнуцца пасля 3–4 месяцаў. У гэтым часе меў намер адведаць сваіх прыяцеляў у Варшаве, у Вільні, у Львове, а такжа сваіх родных у Наваградку.

Я прачуваў небяспеку і баяўся, што Абрантовіч ад'язджае на такі доўгі час. Мы з ім у Шанхаі прывіталіся і развіталіся, не ведаючы, што болей не ўбачымся. Ён вёз з сабой ў Рым на студыі двух клерыкаў з закону Марыянаў — Г. Бранчанінава і Андрэя Каткова. Пасля 20 гадоў я сустрэў А. Каткова ў Рыме — ён быў маладым біскупам (у «Русікум»). А самога Абрантовіча я не дачакаўся ў Харбіне і не знайшоў яго ані ў Сібіры, ані ў Польшчы і нідзе, бо ён быў ужо ў Саветах «зліквідаваны».

Пасля вялікіх допытаў я даведаўся аб ім толькі вось што: пад восень 1939 года Ф. Абрантовіч з Рыма праз Варшаву і Вільню

даехаў да Наваградка, і там захапіла яго польска-нямецкая вайна. Фабіян яшчэ паспеў у паваротнай дарозе даехаць да Львова, дзе трапіў у рукі савецкага НКВД. У следчым пункце № 83 ён быў страшэнна мучаны і катаваны ў кастрычніку 1939 года. Далейшыя нашыя весткі аб Ф. А. не былі ані пэўныя, ані згодныя. Гаварылі людзі, што Абрантовіч у Львове памёр замучаны; нават адзін польскі капітан цвердзіў мне ў лагеры аб смерці Ф. А. і назваў дату 17.X.1939; што хутка пасля следства ў Львове ён быў расстраляны і што ён памёр у цягніку, як везлі яго з Масквы ў Сібір.

Калі мы былі перакананыя, што Ф. Абрантовіч згінуў у 1939 годзе і ад таго часу не было аб ім «ні слыху, ні духу», дык знайшоўся у 1959 годзе новы сведка, святар-салезіянін, Ян Капуста, суперыёр законнага дому ў Лодзі. Ён мне расказаў наступнае:

— Я ў 1943 годзе сядзеў у камеры, у «паказной» турме Масква-Лубянка, з Фабіянам Абрантовічам. З намі сядзелі два святары-езуіты, Віктар Новікаў і другі з Амерыкі. Абрантовіч пачуваўся нядрэнна. Варункі тамашняй турмы, «паказной», у параўнанні да турмаў звычайных савецкіх, і культурныя і дагодныя, але затое ў ёй я не доўга папасваўся. У верасні 1943 года мяне адтуль забралі ў этап. Болей я аб А. Фабіяне і аб другіх нічога не чуў.

І ўжо далей не маем ніякай весткі ні аб жыцці, ні аб смерці а. Абрантовіча.

На допытах у Чыце я моцна дзівіўся, што мой следчы — маёр Іваноў — абмінаў асобу і прозвішча а. Фабіяна і ў мае пратаколы яго не ўпісваў. Я ж сам не мог і не павінен быў уцягваць Абрантовіча ў адказнасць, хоць нашыя харбінскія справы ўсцяж пераплятачисленные… Тым часам, як мне добра ведама, савецкі суд заўсёды ў групавых працэсах зводзіць на допыты ўсіх удзельнікаў і сведкаў — патрэбных і непатрэбных, а такжа экспертаў, каб выявіць усякую дробязь і мацней засудзіць групу. Каб быў бы Абрантовіч жывы, ён стаўся б цэнтральнай фігурай нашага працэсу, як закладчык Харбінскай Місіі і школаў. Але аб ім ні Іваноў, галоўны следчы, ні іншыя ані слова! Значыць, у 1949 годзе а. Фабіян не быў жывы.

Таксама на допыце архімандрыта Андрэя Цікоты і нашага сакратара Віктара Уласава не ўспаміналі аб а. Фабіяне, хоць яны ў сваёй дзейнасці сутыкаліся з ім, а Цікота двойчы быў ягоным зверхнікам. Дык з усяго выходзіць, што Ф. А. згінуў у Савецкім Саюзе нейкай загадкавай, трагічнай смерцю: зна-

чыць, быў «зліквідаваны» пасля 1943 года. Бо каб памёр сваёй смерцю на вольным пасяленні ці ў лагеры, дык былі б ягоныя пісьмы ў родных або ў знаёмых, ці выявіліся б нейкія іншыя сведкі. А дасюль ніякія пошукі, што рабілі прыяцелі і вучні Абрантовіча, не далі ніякага выніку. (Калі б хто ведаў або хоць чуў што-колечы аб далейшых падзеях, месцы жыцця і смерці а. Фабіяна Абрантовіча, няхай будзе ласкаў паведаміць нас аб гэтым паводле адрасу: Italia. Roma. Via Corsica Nr. I. Superiore Generale.)

*

Нязмерная страта для беларускага народа, што такі выдатны чалавек-вучоны, філосаф, святар, прамоўца, прафесар, дзеяч — з прычыны рэвалюцыі і перасьледу ворагаў, не мог нармальна працаваць у сваім краі, быў адарваны ў 1928 годзе і пасланы на працу між чужымі ў Маньчжурыю і нарэшце загінуў як мучанік у Савецкім Саюзе! І факт смерці затоены, і ягоная магіла — няведамая… Цяжкая доля а. Фабіяна, сапраўды Божага Чалавека, ёсць цяжкой доляй і вялікай стратай для ўсяго нашага народа.

Трэба старанна збіраць факты з жыцця і смерці нашых слаўных, вялікіх людзей, правадыроў адраджэння, каб не гасла аб іх памяць у Беларусі! Яны — патрыёты, дзеячы, святары — сваёй ахвярнай працай добра заслужылі на трывалы помнік, а многія з іх годныя свайго вянка мучанікаў, які атрымалі.

*

Працаваў а. Фабіян для свайго народа шмат, ахвярна і карысна, як аб тым сведчаць ягоныя вучні і супрацоўнікі. Да першай вайны і падчас яе жыў ён у Пецярбургу, дзе скончыў духоўную семінарыю і акадэмію. Прабыўшы 2 гады ў Бельгіі на вышэйшых студыях у Лювэне, вярнуўся ў Пецярбург і стаўся прафесарам у духоўнай семінарыі. Пасля рэвалюцыі 1917 г. ён арганізуе духоўную семінарыю ў Менску і ён — ейны першы рэктар; пераносіцца з ёй у Наваградак і працуе там памысна, покуль інтрыгі ворагаў ад гэтай працы яго не адсунулі. Прытым усюды Абрантовіч будзіў беларускую свядомасць і любоў да Бацькаўшчыны. Таксама цярпліва, ахвярна і вытрывала ён працаваў у беларускіх навуковых, рэлігійных і грамадскіх арганізацыях і ў выдавецтве.

Неспакойнае, клапатлівае і небяспечнае жыццё ў Пецярбургу, а пасля ў Менску, падчас вайны і рэвалюцыі, а таксама эканамічныя труднасці, як і нездароўе (рэўматызм), перашкодзілі нашаму філосафу аддацца працы прафесарскай і навуковай. А ў гэтай галіне а. Фабіян мог і павінен быў унесці паважны ўклад у нашую народную культуру. Ён моцна адчуваў сваё пакліканне і патрэбу навукова-рэлігійнай працы і вельмі шкадаваў, што, як казаў, «галавой сцяны не праб'еш!». Так яго адсунулі ад прафесуры — аж і зусім не далі магчымасці працаваць і жыць у роднай атмасферы.

Абрантовіч — ведамы выдатны прамоўца: гаварыў словам жывым, вобразным, пабуджаючы думку і пачуцце. Ягоная мова адразу ўцягвала слухачоў і моцна зацікаўляла: нават найбольшыя гультаі на ягоных лекцыях і навуках не маглі ні на мінутку задрамаць. Ставіў ясную тэму, як св. Тамаш Аквінат, а пасля развіваў яе так лагічна, што кожны слухач улучаўся ў ягоныя доказы і не толькі чакаў, але сам згадваў наперад,… «што будзе далей», і чакаў, як прафесар разблытае трудны вузел. І дзівіліся вучоныя і студэнты, як наш прафесар выясняў проста, даступна і лёгка самыя важкія праблемы.

Мова Абрантовіча маляўнічая, сказы кароткія, крытыка вострая, а досціп меткі і глыбокі. Ягоныя дацінкі бывалі такія ўдалыя, што праціўнікі нямелі або не ведалі, куды схавацца, або гарэлі ад сораму ці ад злосці. Асабліва ён моцна бічаваў штучную вучонасць, фарысейства і фанабэрыю. Тады выклікаў на сябе буру нападаў, нянавісці і інтрыгаў ворагаў; а прыяцелі радзілі яму, каб «не нарываўся». Ён бываў занадта адкрыты і шчыры, як Саванароля, але просты і пакорны як Св. Францішак. Сам, будучы «простага сэрца», не мог сцярпець крутні і хлусні. Яму часта неставала «змяінай растаропнасці», укладнасці і празорлівасці.

У красамоўстве Абрантовіч напамінаў Адама Міцкевіча, свайго суродзіча з Наваградка. А. Фабіян знаў глыбока літаратуру польскую, расейскую і заходнюю; чытаў вельмі шмат. Аднак жа ягоны стыль не быў кніжным. Ён заўсёды гаварыў і пісаў мовай сваёй, параўнанні, сказы, прыклады ён браў з жыцця. Часта бывала, што трапныя звароты, дасціпныя заўвагі і ўдалыя жарты Абрантовіча разыходзіліся далёка і шырока ды ставаліся народным багаццем.

Людзі яго называлі: «наш Прафесар», «наш Фабіян», «наш Абрантовіч»… Гэты дзіўны назоў «наш» давалі яму паўсюдна.

Такі «голас народа» азначаў чалавека, што вырас з нашага грунту і рос ды красаваўся на сваёй зямлі — наш, родны і дарагі Сын Беларусі.

Бог яго абдарыў нават вонкавым багаццем натуры: ён меў зычны, высокі першы тэнар, чуткае вуха; знаўся на музыцы і сам быў артыстам. Пацягваў людзей не толькі думкай і словам, але таксама мімікай і жэстам. Навука, значэнне і павага Абрантовіча вызначалі яго так, што нерашучыя людзі не важыліся да яго прыступіцца. Але ён, бачачы гэтае, сам падыходзіў да іх і загаварваў да кожнага проста і прыязна. А мог гаварыць па-беларуску, па-польску, па-расейску, па-французску, па-нямецку. Уладаў і пісаў мовай лацінскай; чытаў і разумеў мову італьянскую і ангельскую, старагрэцкую і славянскую. І ад усяго гэтага ў Фабіяна, як гэта кажуць, «не ўскружылася галава», не было «мухаў у носе»: чалавек быў заўсёды сам сабою — без штучнай афарбоўкі.

У нас калісьці бывала, што чалавек, які крышачку падвучыўся, дык часта — ці то ў хаце, ці на эміграцыі — саромеўся сваёй мовы, як мовы «простай». А наш вялікі вучоны, доктар філасофіі, Фабіян Абрантовіч, простай мовы ніколі не цураўся, бо сам ён быў так «Просты» і не ўмеў крывіць душы. Ён без ніякай цырымоніі звяртаўся па-беларуску да паноў, прэлатаў і біскупаў. Гэтак званыя «вялікія гэтага свету» не любілі Абрантовіча, бо не прызнавалі беларусаў, як асобны народ, — ажно крытыкавалі а. Фабіяна ў газетах. Але ён адважна бараніў справу, паводле патрэбы, толькі ж самога сябе не бараніў ніколі.

Беларускае перакананне было Абрантовічу вялікай перашкодай у кар’еры. Каб ён назваў сябе палякам, дык меў бы найлепшае становішча і тытул. Аднак яго нельга было ні ашукаць, ні запалохаць, ні падкупіць. Здаралася ў нас нямала здольных людзей, што за тытулы, за фіялеты і гонары, або дзеля якой карысці, ці з страху адракаліся свайго народа. Але людзі з характарам, сумленныя і разумныя, на такую спакусу не пайшлі і свайго народа не пакінулі. Да такіх бессумліўна належаў наш змагар за веру і за народ а. Фабіян.

Гітлер і Сталін, як бы згаварыўшыся, ужывалі да беларусаў аднолькавую сістэму праследу: бязбожнасць фашыстаў і камуністаў прыводзіла да праследу каталіцкай рэлігіі. Прагавітасць з іхнага боку на нашую зямлю прыводзіла да праследу і «ліквідацыі» беларусаў.

Гітлер, прынамсі, не хаваў, што пасля памыснай вайны загорне ўсю Беларусь, выкіне жыхароў, а зямлю аддасць сваім.

А бальшавікі, хоць гавораць іншае, робяць тое самае: беларусаў вывозяць, касуюць раёны і вобласці, у школах і ўрадах уводзяць расейшчыну, — адным словам, у самай сярэдзіне Еўропы твораць «Вялікую Беларускую Пустыню», якую засяляюць маскалямі, бо Гітлеру гэта не ўдалося!

Расказваў мне ў лагеры 0,20 (група «Ангар-Лаг») капітан польскай арміі Л., які ў 1939 г. сядзеў з Абрантовічам у турме ў Львове. На следстве бальшавікі ўжывалі да айца найвышэйшы нумар сваёй інквізіцыі — аж да іголак пад пазногці і ўліванне вады ў лёгкія, каб прызнаўся да закідаў, якія ім былі патрэбныя. Аднак а. Фабіян Абрантовіч не паддаўся — яго зламалі толькі фізічна, а пасля зліквідавалі як сапраўднага Мучаніка за веру і за Бацькаўшчыну.

## АРХІМАНДРЫТ АНДРЭЙ ЦІКОТА

Бацька быў стралок,
а я — яго сынок!

Нарадзіўся ён у 1892 годзе. Памёр у 1952. Пасля Абрантовіча А. Цікота быў Апостальскім Адміністратарам у Харбіне, кіраўніком Місіі ўсходняга абраду і дырэктарам ліцэя св. Мікалая (1939–1948). Маньчжурыя была пад японскай акупацыяй. Утрымаць Ліцэй, інтэрнат хлапцоў і два інтэрнаты для дзяўчат — Сясцёр Уршулянак і Францішканак, асабліва падчас вайны Японіі з Амерыкай, было вельмі цяжка. Яшчэ цяжэй стала ад 1945 года пры камуністах расейскіх, а пасля (1946–1948) пры камуністах кітайскіх. Толькі апецы Божай і мудрасці, ахвярнасці і працавітасці а. Андрэя трэба прыпісаць факт, што Місія і нашыя школы трывалі ды перамагалі ўсе перашкоды — аж магутны арганізм Цікоты пачаў слабець. 22 снежня 1948 года а. Андрэя з усёй нашай Місіяй арыштавалі кітайскія камуністы, як аб гэтым гаварылі мы напачатку, і выдалі нас у Сібір.

Цікота вельмі цяжка перажываў турму ў Чыце. Калі я яго ўбачыў у канцы нашага следства, пасля 5 месяцаў расстання, я дужа здзівіўся, як гэты моцны чалавек схудзеў і паслабеў; нават ягоны голас, заўсёды зычны і мілагучны, стаўся прыглушаным, як надтрэснуты звон. Да турмы а. Андрэй адзначаўся ясным розумам, хуткай арыентацыяй, валадарнай воляй, разгонам і гібкасцю ў працы. Ён меў здольнасць і характар правадыра, кіраўніка і ніколі не хадзіў за іншымі, але заўсёды дырыгаваў у

грамадскім жыцці. А ў турме ў ягоным целе і ў душы адчувалася знямога і старэчая адранцвеласць, а меў тады толькі 57 гадоў! Пры ягоным жалезным здароўі і вялізарнай сіле — такія гады маглі б лічыцца маладым векам. Здавалася, што Цікоту ў турме падмянілі…

Айцец Андрэй захіснуўся, як вялікі дуб, што дзясяткі гадоў красаваўся на высокай гары і пераможна змагаўся з бурамі — аж раптам, ударaны перуном, расшчапіўся напапалам: адна часць грукнула на зямлю, а другая, апаленая, стырчэла без сукоў, сумна паглядаючы ў неба. Які жаль і якая вялікая страта!

Вось што значыць для чалавека няволя! Як той леў, цар звяроў, што як рыкаў на волі, дык дрыжэлі і хаваліся ад яго звяры і людзі; а трапіў у клетку, дык страціў там усю валадарскую веліч, стаў вялы і заспаны.

Якое трагічнае відовішча!

Так у турмах і лагерах Савецкага Саюза марнуюцца выдатныя таленты, якімі камандуе «Вялікі Хам». Там можна ўбачыць, як інжынер падмятае панадвор'е старым дзеркачом, а ім камандуе брыгадзір, што скончыў два класы. Немец, прафесар матэматыкі, ходзіць абарваны, бо не ўмее здабыць іголку і нітку. Савецкі генерал з Вялікай Вайны сартуе бялізну. Хворы доктар не можа выпрасіць у санітара каплю лякарства. Выдатны пісьменнік не мае алавіка і паперы. І такіх там — мільёны! А калі на паверцы групаваліся самыя інтэлігенты, а наглядчык блытаўся ў рахунку, дык усіх нас браў бы смех, каб не нашая крыўда, што мы мерзлі на сібірскім марозе ці на дажджы і ветры ў познюю восень…

Усе гэтыя факты я сам бачыў і перажываў.

*

Лекарская апека ў нашай турме (у Чыце) была даволі добрая і доктар (жанчына) не благі: яна наведвала нас, выпытвала акуратна, інтэрасавалася намі. А ўсё вялося, каб мы яккалечы перажылі следства. Але не хапала лякарстваў і лекараў спецыялістаў. Харчы былі марныя, асабліва летам. Асобная дыета для папраўкі здароўя абмяжоўвалася лікам патрабуючых вязняў, і назначалі дыету чародна толькі найбольш слабым. Дык доктар, хоць і спрыяў Цікоту, лячыць яго салідна не мог, а толькі даваў няшкодныя лякарствы і добрыя рады.

А ў лагерах нам жылося яшчэ горш, і толькі пасля смерці Сталіна палажэнне пачало пакрысе папраўляцца. У амбулаторыі

лекары звычайна адбіваліся ад хворых; а санітары сыпалі хворым парашкі ў рот, самі ўлівалі ім лекі; на раны клалі пляйстры, якія хутка адклейваліся… Хворыя мусілі дабівацца да лекара, а лекар стараўся «збыць з рук», бо і ён сам бываў інвалідам-вязнем і атрымоўваў за працу крыху лепшую ежу і вопратку, але платы яму не давалі.

У такіх абставінах некаторыя хворыя саромеліся праціскацца наперад паміж няшчаснай публікай, а свае слабасці затойвалі да апошняга моманту. І такі адважны змагар, Цікота, што так энергічна бараніў іншых людзей, цяпер сам запусціў сваю хваробу. Наймацней заела яго турма і следства. У турме нас трымалі яшчэ 6 месяцаў пасля нашага следства, але тады аб нас дбалі вельмі мала і кармілі вельмі дрэнна. Значыць, Цікота, які значна перавышаў нас ростам, вагой і сілай, на роўным з намі пайку, і для нас паўгалодным, траціў прапарцыянальна больш ад нас.

У лагерах ад 1950 года а. Андрэй пачаў атрымоўваць з Беларусі пасылкі, аднак гэтая помач была ўжо спозьненая: добрыя людзі адваявалі яму толькі пару гадоў жыцця.

На пачатку 1950 года ў Тайшэце нас раздзялілі і парассылалі ў розныя лагеры. Пасля 4 месяцаў мне шчасліва ўдалося зноў спаткацца з а. Андрэем у цэнтральнай бальніцы. Дый мая радасць злучылася з трывогай, бо я ўбачыў у Цікоту толькі цень чалавека. Здароўе ягонае зламалася: ён быў поўны інвалід і кандыдат на той свет. Я не мог з ім нагаварыцца, бо мяне перад аперацыяй ізалявалі, а Цікоту пасля 4 дзён забралі з бальніцы ў лагер. Як дактары маглі такога заморанага чалавека выпісаць нездаровага з бальніцы і чаму ён не бараніўся, я не маю паняцця?..

І вось у такім стане здароўя Цікоту выставілі на цяжкую спробу і на новую спакусу. Масква задумала выкарыстаць яго ў сваёй правакацыйнай рэлігійнай палітыцы: абяцалі яму становішча беларускага першага біскупа ў Менску (мітрапаліта), але з засцярогай, што будзе працаваць пад урадавай дырэктывай. Прытым бальшавікі лічылі Цікоту нейкім важным «Ватыканскім Генералам». Яны не разумелі каталіцкага законнага тытулу «Айцец Генерал Закону Марыянаў» (1933–39). Дык на размову з ім паслалі палкоўніка з прапановай ехаць у Менск. Але Цікота не захацеў аб гэтым ані слухаць, ані гаварыць. Тады, каб выраўняць рангу, прыслалі генерала. Гэтаму Цікота сказаў:

— Пакіньце мяне, каб я мог спакойна памерці!!

З дзвюх крыніцаў я меў інфармацыі аб апошніх падзеях з жыцця а. Андрэя Цікоты. Яго, калі правакацыя з біскупствам

не ўдалася, абцяжалі ў лагеры непасільнай працай і сумысна не лячылі аж да апошняга моманту, хоць ён ужо валіўся з ног. Нарэшце ягоныя суседзі з барака паднялі голас і звярнуліся да начальства з пратэстам:

— Чаму вы не лечыце хворага? У Цікоты загніліся раны на плячах ад верадаў і скулаў: мы не можам пры ім вытрываць.

А іншыя перасцерагалі:

— Цікота — такая важная персона, што вам прыйдзецца моцна адказваць за яго, калі нялечаны памрэ.

Тады толькі лагер накіраваў хворага ў бальніцу, але пухліна ад ног пайшла далей, і а. Андрэй дня 11 лютага 1952 года памёр — у бальніцы № 38 на лініі Тайшэт–Брацк–Заярск. Дата і месца смерці Цікоты заставаліся доўга няпэўныя. Канчаткова мы згадзіліся прыняць найбольш праўдападобнае паведамленне святара француза, нашага таварыша з Харбіна, Паўла Шалея.

Ніхто з нашай групы, што былі вывезеныя з Маньчжурыі, не быў прысутны пры смерці а. Андрэя Цікоты. Аднак хутка пасля ягонай смерці я даведаўся ад прыбылых з этапа інвалідаў аб апошніх днях а. Андрэя. Казалі, што ў бальніцы найбольш рабіла ўражанне ягоная ціхасць і цярплівасць, лагода духу і пабожнасць. Таварышы высока цанілі ягоную павагу і цноты.

Пахаваны Цікота на агульным бальнічным могільніку. Там азначалі магілу толькі ўтычкай і нумарам, дык мусім вельмі сумлявацца, што гэты знак ператрывае даўжэй і што ўдасца ў лепшыя часы адшукаць магілу нашага дарагога Суродзіча і Мучаніка.

*

«Каб не пагаслі зоркі ў небе» — трэба збіраць факты, доказы і ўспаміны, пакуль жывуць сведкі. Трэба ўсім сумленным людзям сведчыць аб праўдзе.

У сваіх успамінах аб Цікоту я мог бы напісаць немалую кнігу, бо пазнаў яго ў 1909 годзе і да 1950 часта спатыкаўся і доўгімі адрэзкамі часу жыў, вучыўся, працаваў і нарэшце пакутаваў з ім у Сібіры.

Помню, як А. Цікота прыбыў да нас у Віленскую Духоўную Семінарыю: малады (17 г.), весялун, пяюн, гаварун. Любіў з усімі паспрачацца, нават з прафесарамі, але не ўмеў з нікім сварыцца. Мала прысядаў да кніжкі і няшмат адзначаўся між іншымі; але ў канцы навукі неспадзявана аказаўся першым і наймацнейшым студэнтам. Яго паслалі ў Пецярбургскую Духоўную Акадэмію.

Адтуль выйшаў элегантам з цудоўнай чупрынай — вясёлы і паважны, наіўны і сур’ёзны, прафесар і юнак, задзёрысты дыскутант і глыбокі філосаф.

Не малое было дзіва ў Віленскай Дыяцэзіі, калі даведаліся, што Цікота стаўся законнікам і арганізуе беларускі кляштар у Друі, на беразе Дзвіны. З гэтым хутка закладаўся і жаночы беларускі кляштар, гімназія, пазычковая каса кааператыву. Цікота рамантаваў касцёл, кляштар, вёў рэкалекцыі ў парафіях; гаварыў навукі па-польску, па-беларуску, па-літоўску. А беларускі нахіл, які праводзіў Цікота, быў «соллю ў воку» ворагаў, бо так польскі ўрад, як і спольшчанае ў нас духавенства і інтэлігенцыя, не прызнавалі беларускага народа, а беларускі рух лічылі «камунізмам».

Колькі Цікота пацярпеў у абароне праўды, дык нельга апісаць «на валовай скуры»! Аднак ягоная фенаменальная працавітасць, вытрываласць і здаровая логіка перамагалі ўсё. Як прыклад скажу, што падарожжа ў Вільню ў тую пару займала шмат часу: толькі вузкакалейкай з Друі у Дукшты — 90 кіламетраў — 14 гадзін! А ён мусіў таксама ездзіць у Варшаву, у Рым, двойчы ў Амерыку, у 1937 годзе на Філіпіны і з візітацыяй у Маньчжурыю (Харбін), у Літву, у Латвію. А колькі правёў рэкалекцыяў, сказаў навукаў, напісаў лістоў!..

Вялікай перашкодай у беларускай працы была ўсходняя місія, якую мусіла весці яшчэ слабая Друя ў Маньчжурыі і якую мы мусілі весці ў расейскай мове і ў расейскіх школах. Таксама нечаканай і вельмі цяжкой перашкодай стаўся выбар а. Андрэя Цікоты на Генерала Закону Марыянаў у Рыме 1933–1939. А пасля адразу прызначаны быў Цікота ў Харбін на месца згінуўшага Ф. Абрантовіча (1939–1948). Тады ж прайшоў арышт у Харбіне; 25 снежня 1948 года — выдача ў Сібір і трагічная смерць 11 лютага 1952 г.

І, нягледзячы на такія цяжкасці, Цікота зарганізаваў беларускі кляштар і навіцыят у Друі, Дом Студыяў для марыянскіх клерыкаў у Вільні ў 1935 годзе; вёў памысна працу Генерала ў Рыме, перамагаў бяду ў Харбіне падчас вайны і рэвалюцыі, нарэшце памёр вялікім мучанікам у Сібіры.

*

У такім навале працы і абавязкаў а. Андрэй не мог абысціся без супрацоўнікаў. Яму ўдавалася ўцягваць, падбіраць і вырабляць таленты. Тут закідвалі Цікоту лішнюю даверлівасць

і недастатковую работу выхаваўцы. А калі меў добрага супрацоўніка, дык часта не лічыўся з ягонай сілай, здароўем і часам — замучваў яго работай да знемажэння, бо часта «геркулесы» не лічацца з сваімі слабымі супрацоўнікамі. Але і цяпер ягоныя вучні ўспамінаюць свайго дырэктара, як волата працы, ахвяры і стойкасці. Пакаленне, якое выйшла з «варштату» а. Цікоты, адзначаецца сваім бойкім характарам. Хоць не ўсе пайшлі ў належным кірунку, хоць нямала з іх зблудзіла з розных прычын вельмі глыбока, але наагул мусім сказаць, што школа Цікоты выхавала людзей, што шукаюць праўды, змагароў, якія будуць «людзьмі звацца».

Магутныя дубы родзяць толькі дробныя жалуды. Аднак жолуд таіць у сабе веліч, моц і сілу свайго бацькі-дуба. Дык і выхаванкі а. Андрэя яшчэ неаднойчы праявяць у сабе геніяльнасць свайго Дырэктара. І Беларусь такіх чакае. Але жалуды бываюць затаптаныя ў балота, або марна гніюць, або з’ядаюць іх свінні… Затое той, што памысна ўзрасце, становіцца сам магутным дубам. Такія адродзяць Беларусь!

Цікота ведамы, як вялікі прамоўца: ён аргументаваў так ясна і глыбока, прытым на тэму клаў такі націск, што пераконваў слухачоў наскрозь. Айцу Андрэю бракавала ў прамовах, навуках і казаннях прыгожых кветак, цёплага пачуцця, мяккіх нотак. На ягоных навуках не плакалі, але затое задумваліся паважна, уздыхалі глыбока, біліся ў грудзі моцна і, што найбольш важнае, пасля людзі саромеліся свайго глупства і папраўляліся!

Усе разумелі, што гэты прамоўца гаворыць з поўнага пераканання і што сам практыкуе тое, да чаго заклікае другіх. І сапраўды, гэты прамоўца быў Божым Чалавекам: ягоная працавітасць, асабліва ў старэйшых гадох жыцця, паглыблялася і ўзбагачалася пабожнасцю і асцэзай. Такім чынам, у вачох людзей, нават і ворагаў, узрастала ягоная павага і намашчэнне прарока.

Але ж прарокі і апосталы «не бывалі прынятыя ў сваёй бацькаўшчыне» і яны не патуралі «сынам гэтага свету», а затое іх «свет» праследаваў і забіваў. Пасля Абрантовіча і Цікота стаўся ахвярай за веру і Бацькаўшчыну: без суду арыштавалі яго кітайскія камуністы і выдалі савецкім. І без суду савецкія трымалі яго ў турме, а пасля загналі ў лагеры на «25». А няпэўная дата смерці і месца ягонай магілы таксама сведчыць аб ліквідацыі і гэтага Мучаніка, Сына Беларусі.

# ДУХАВЕНСТВА

Свята без мучаніка не бывае.

У лагерах я спатыкаў нямала featureрознага духавенства — так з Савецкага Саюза, як і з іншых краёў: найбольш было летувісаў, украінцаў і мадзяраў. Хоць бальшавікі варожа адносяцца да ўсякай рэлігіі, аднак найбольшы ціск робяць на каталікоў, дзеля таго каталіцкіх святароў у лагерах спатыкалі мы больш, як усіх іншых разам. Здарыўся са мною адзін рабін (Леў, з Харкава), адзін лютаранскі пастар, стараверскі настаўнік (Людвіноўскаў) з трыма манахамі, двух праваслаўных епіскапаў (адзін з іх — Спяранскі) і 5–6 праваслаўных святароў. А з каталіцкага духавенства: па адным — немец, француз, румын, расеец, тры латышы, тры беларусы, тры палякі, пяць мадзяраў, восем украінцаў і адзінаццаць летувісаў — разам каля 40 чалавек. Залічыць трэба сюды двух студэнтаў-клерыкаў, аднаго манаха і трох каталіцкіх законніцаў. Прамільгнулі ў нашай лагернай libрератасоўцы і іншыя каталіцкія святары, якіх я не паспеў зарэстраваць у памяці. Украінцы трапляліся або «цэлыя», значыць, не ўпісаныя ў «сталінскае праваслаўе», або ўпісаныя — «зламаныя». Хто не запісаўся, той адразу дАставаў 10 год за які-колечы сфальшаваны «шпіянаж». А хто запісаўся, той лічыўся лаяльным для бальшавікоў і заставаўся на месцы. Аднак пасля і гэтыя бывалі сасланыя ў Сібір, але даставалі па «25», бо такая была «норма» для палітычных ад 1947 года. Трагедыя «зламаных», аказалася горшай, як «цэлых», бо падпісвалі яны, ведама, пад прымусам ці з страху — супраць свайго сумлення, каб ратаваць сям’ю, а пасля ўсё роўна трапілі пад яшчэ горшы рэжым. Якая была бліжэйшая прычына іхнага няшчаснага арышту, мне не ўдалося даведацца.

Адносіны ў нас паміж рознага тыпу духоўнымі складаліся добрыя: адны другім спагадалі і памагалі, а спрэчак — ані нацыянальных, ані рэлігійных у нас не заводзілі. Нават заўзятыя сектанты вялі сябе ціха і прыкладна. Іх найчасцей судзілі за «нелегальныя зборкі» і «арганізацыі»: так бальшавікі называлі звычайныя сходкі на супольныя набажэнствы і давалі за гэта пераважна па 10 год. Да сектанцтва належалі людзі невысокай граматы, але «простага сэрца», якія ў турмах і лагерах пакутавалі за тое, што верылі ў Бога і служылі яму паводле свайго сумлення. Іншых «злачынстваў» ім нельга было прыпісваць, бо ў ніякую палітыку не мяшаліся. Я імі вельмі цікавіўся і меў паміж імі прыяцеляў.

Не магу не ўспомніць найлепшым словам праваслаўнага протаіерэя кафедральнага сабора ў Харбіне, Уладзімера Святлова. Ціхі і пагодны, мілы таварыш і наагул вялікіх цнотаў чалавек. Мы разам пакутавалі ў адной брыгадзе ў лагеры 0,7. Толькі ён, бядак, не меў зручнасці да гаспадарскай працы. Зарабіў ён пры копцы бульбы, буракоў, морквы, турнэпсу і пры капусце (ужо пад снегам) за адзін месяц 5 рублёў, а за другі — 3 рублі. Тады кілаграм цукру каштаваў 10 рублёў! Нават я яго перавысіў (10 і 11 рублёў). Святлоў — сапраўды «светлая» душа: пакорны ў жыцці, просты ў гутарцы, спагадлівы ў бядзе! А канец меў сумны і трагічны: вясной пры звозцы снегу раптам заслабеў і ўпаў, а назаўтра памёр… Мяне тады ганялі на другую работу, і я не мог з ім развітацца. «Вечная памяць!»

Яшчэ ўспомню праваслаўнага епіскапа Спяранскага: хоць да дружбы ў нас не дайшло, але ён мяне не цураўся. Меў у людзей добрую апінію і быў сапраўды смірэнны, а не толькі з подпісу. Ад 1950 года, калі ў лагерах пайшла нагонка на барадатых і калі покатам і пад прымусам стрыглі праваслаўных, старавераў і жыдоў, Спяранскі неяк не паддаўся. Тады ў Брацку нас «строілі» на паверку і цырульнікі з машынкамі без пардону рэзалі бароды! Адзін стары жыд, якога барада была аздобай усяго лагера, быў злоўлены, абстрыжаны і ганебна абраджаны. Ады ж Спяранскі трымаўся героем. І ніякія атэісты і блатныя прыдуркі не паважыліся на прымус супраць царкоўнай Асобы. І вось у лагеры 0,7 начальнік узброіўся на Спяранскага за бунт і сабатаж. Бо ўжо нават стараверскі настаўнік, які цаніў бараду больш як галаву, нейкім подступам быў абстрыжаны. Другога праваслаўнага епіскапа, які ляжаў у бараку паўспаралізаваны, стрыглі і галілі без ніякай перашкоды. А Спяранскі не папускаўся.

Увесь лагер з вялікай цікавасцю наглядаў, што з гэтай спрэчкі будзе? Аж дайшло да вострай размовы ў іх з начальнікам, і епіскапа замкнулі на тры дні ў карцар. Пасля таго ён сабраў усе аргументы ў абароне барады і ўпісаў іх у скаргу на вялікай паперыне. Цікавая справа, што праваслаўныя і стараверы лічылі мяне сваім чалавекам; пыталіся ў мяне рады, а епіскап даваў чытаць усе свае 10 пунктаў. Як увесь лагер, так і я — мы ўсе стаялі па баку нашых братоў барадатых — і я надумаўся даць ім такую раду:

— Вы ім скажыце, што барада ў вас ёсць афіцыяльная адзнака вязня, бо занесена ў прvotаколы следства і зафіксавана на ўрадовай фатаграфіі, так як і адбітка пальцаў. Дык да канца

тэрміну ніхто прыватнай ініцыятывай, без пастановы суду, не мае права да вашай барады чапляцца.

Магчыма, што мой довад аказаўся наймацнейшым: епіскап застаўся цэлым. А як памёр Сталін, бароды пазапускалі зноў: тады бязбожнікі скапітулявалі на ўсім барадатым фронце.

У Цэнтральнай бальніцы я спаткаў святара латыша, Канстантага Пуднекса. У сярэдніх гадох, захуджаны, хваравіты, але простая, дзіцячая душа. Не цяжыўся і не наракаў на хваробу і на кару: ціхі, пакорны слуга Божы. Толькі, бывала, вельмі бедаваў па старых бацькох:

— Божа, Божа! Як яны там без мяне пражывуць?

— …Як па мне турбуюцца?..

— І ці яны, старэнькія, мяне дачакаюць? Так мне іх жаль…

Ён згадваў, што бацькі аб ім гавораць, як сумуюць і г. д. і сам аб сабе сумляваўся, ці пераважыве няволю. Я цярпліва слухаў ягоныя жальбы, стараўся заняць яго іншымі справамі, развесяліць дый падтрымаць надзею. Пуднекс любіў маё таварыства і ажыўляўся. Прайшло пару гадоў, і я пачуў, што бедны хворы ўсё-такі памёр: значыць, трапна ён рабіў здагадку аб бацькох, і яны, няшчасныя, не дачакаліся свайго дарагога сыночка!

Яшчэ быў тут летувіс кунігас Антанас Юшка, з якім я падружыўся адразу. Мы абодва ўжо папраўляліся і праводзілі час у пахадушках і пасядушках. Неяк здарылася, што тады іншае хворае брацтва покатам ляжала ў палатах, і мы мелі поўную волю на сцежках паміж кветкамі. Прастор бальніцы быў вялікі, канвойныя на вышках — далёка, загарадзь не лезла нам у вочы, начальства як бы пагінула, — дык можна было забыцца, што мы паднявольныя. Пазіцыю для лагера нехта падабраў сумысна, каб хворыя маглі адпачываць целам і душою. Кругазор па недалёкай рэчцы адчыняўся на ўсход і захад, як магло сягнуць вока. Месца на схіле гары, дзе мясцілася бальніца, хілілася на поўдзень, так што сонца бесперашкодна магло грэць і падпякаць вечна зябнучых і паўгалодных інвалідаў. А паўночны вецер не мог да нас прабрацца. Машкара яшчэ не дакучала. Словам, ішлі дні самыя прыгожыя з усяго сібірскага года. Ластаўкі шмыгалі, як маланка. Вераб'і, вечна галодныя і сварлівыя, аднолькава шэрыя на ўсім свеце, клапаціліся сваімі буднімі справамі. А пліскі, якіх у Сібіры шмат і якія тут ціснуцца да людзей, цяпер чамусьці з піскам налятaлі на нас, калі мы падыходзілі да суседняга барака.

— Чаго гэтыя птушкі ад нас хочуць? — пытаюся ў Юшкі.

— Яны адганяюць нас ад сваіх гнёздаў: тут, мусіць, пад страхою маюць іх.

У даліне рэчкі віднеліся тры вясковыя хаткі. Іншыя іхныя будынкі, а такжа рэшта вёскі, ад якой заставаліся сляды, недзе знікла: мусіць, перацягнулі ў калгас? За вёскай ішла чыгунка і зрэдку пралятаў цягнік. Дым клубіўся чорны, тварыў завітушкі, гнаўся, як змяя, за паравозам, але не мог угнацца, расцягваўся істужкай, слаўся туманам, расплываўся імглою і бясслаўна гінуў у паветры. Колы тарахцелі ў такт, сцішаючы з бегам свой грукат. Свісток паравоза разразаў паветра вострым зыкам, а рэха, адбіваючыся па ўзгорках, разлягалася навокал у дзівосных гуках. Мы глядзелі і слухалі ды ў глыбокай задуме пераносіліся туды, дзе Нёман-рака:

Штосьці думаў, штось сніў,
Як слязу мужыка
Ў свае воды лавіў…

І толькі вячорны званок вырываў нас з тых мараў і клікаў на пачастунак: а мы, узброеныя жалезнымі лыжкамі, урачыста прыступалі да пышнай вячэры, на якой, апрача свістунакрупніку, даставалі яшчэ порцыю кіслага малака! Праўда, што мерка не перавышала шклянкі і што там пераважала сыроватка. Дый мы ніяк не маглі разабраць, ці яно было праўдзівае малако ад штучнай каровы, ці штучнае малако ад праўдзівай каровы?.. Але для мяне была навінка, бо я паўтара года малака не бачыў. Адным словам, вячэра — панская, толькі чамусьці трывала не больш пяці мінутак.

Часта дзіўна мяшаецца цудоўная паэзія з грубой прозай: калі б даваць хворым належныя лякарствы з неабходнай ежай, дык гэта танней бы каштавала, як гэнае лячэнне-мучэнне. Ды некаторыя краі баяцца, што грамадзяне ў нармальным жыцці захочуць займацца палітыкай…

Успомню яшчэ аднаго святара: каноніка С-нас. Чалавек старэйшы, пагодна-паважны, малагаваркі і, можна сказаць, скрыты. Я перш не важыўся да яго падысці, а пасля шкадаваў, што не пазнаёміўся раней, бо ўжо не хапіла часу добра разгаварыцца, як мяне нечакана адтуль забралі. Памятаю адно характэрнае здарэнне з ягонага следства ў Летуве.

— Прыйшоў, — казаў ён мне, — аднойчы да нас, як следчы вёў допыт, нейкі важны ўрадовец-бальшавік і сам пачаў мяне выпытваць. Я адразу бачыў, што ён сам летувіс, хоць быў партыйным. Чалавек малады і здаравяка. Я гаварыў як заўсёды, але нешта яму не спадабалася і раптам як разгарэўся, як прыскочыў

і як стукнуў кулаком мне ў карк — мне проста дух заняло! І вось ужо колькі прайшло гадоў, адчуваю дакучлівы боль галавы, а мае нервы расстроеныя і трачу памяць. Такое нашае жыццё…

Я думаю, што не толькі гэты ціхенькі чалавек, але ўвесь народ Летувы (так мне блізкі!) у 1940 годзе быў ударана ў галаву і расстроіўся нервова. Каб жа толькі не страціў ён памяці аб праўдзівай веры і аб праўдзівай волі! А так лёгка ў гэтых часах заблытацца…

Украінскае духавенства ў сібірскіх лагерах было пераважна з базыльянаў з Галіччыны, што не пайшлі у «сталінскую» царкву. Я з імі хутка знаёміўся, але падружыцца нам не давалі часу. Не ведаю, чаму іх вельмі коратка пакідалі ў нашых лагерах, дык і прозвішчы іхныя зацерліся ў маёй памяці. Помню толькі траіх, аднак іх не магу выявіць, бо жывуць «там»… Аб усіх украінскіх святарах мушу сказаць, што неслі крыж мужна, нават і тыя, аб якіх я ведаў, што ў сваёй слабасці заламаліся і падпісалі сталінскі «цыраграф». У ўкраінцаў з павагай лучылася жывасць, рашучасць, нават вясёласць. Хутка групавалі ля сябе сваіх суродзічаў, асабліва ў перыяд свята Каляд і Вялікадня: тады набожнай песняй чаравалі ўвесь лагер, а начальства нібыта гэтага не чула і не ведала. А людзі разумелі і гаварылі, што каталіцкая царква ў Галіччыне добра працавала для народа. Святары пераважна мелі вышэйшую свету: гаварыць з імі было лёгка, прыемна і карысна.

## БОЖЫЯ СЛУЖБЫ

Божа, памажы!
Але і сам не ляжы.

Часта ў мяне пытаюцца:

— Ці было магчыма ў турме адпраўляць Божую Службу?

Адказваю:

— У турме — ніякім чынам!

— А ў лагерах?..

Адразу відаць, што тыя, якія пытаюцца, турму бачылі толькі здалёку. Як ужо мы гаварылі ў Успамінах, у савецкай турме так падглядаюць, так рэвідуюць дакладна і часта, што сухой ніткі не пакідаюць на чалавеку. У такіх варунках мы прабылі 11 месяцаў. І ў Чыце, дзе мы сядзелі, ні нашых родных, ні знаёмых мы не мелі; ні лістоў, ні пасылак у следчай турме не дапускаецца. І аб усім свеце нічога не ведалі.

Іншая справа ў лагерах: там большая свабода. Хаця б узяць нам такое параўнанне: у турме вязні жывуць, як авечкі ў катушку, а затое ў лагеры… як авечкі у вялікай загародцы!

Адзін раз, як нас паставілі на дварэ і кожнага акуратна рэвідавалі, а ў бараках рабілі рэвізію другія наглядчыкі, дык знайшлі там дзве мае маленькія кніжачкі да набажэнства. Старшы наглядчык не толькі ўзбурыўся на мяне за тое, але публічна аб'явіў усяму народу такое «злачынства» і кніжкі, ведама, забраў…

Як пры такіх цяжкасцях адправіць Божую Службу? Баракі так збудаваныя, што няма ані кутка, які не быў бы пад вокам канвойных, што стаяць на вышках. А ў самых бараках так цесна, што бачаць усе ўсіх з усіх бакоў — і з верхніх нараў. Пойдзеш у ўмывальню, але і там круцяцца людзі, а дзяжурны іх выганяе.

Я калісьці чытаў апісанне, як у лагерах на Салавецкіх абтоках каталіцкія святары адпраўлялі Божую Службу — у лесе на пні і ў бараках на падстрэшшы. Мне прыходзілася пазайздросціць ім, бо мы не мелі ані даступнага падстрэшша, ані вольнага ходу ў лесе: нас усюды абстаўлялі на рабоце тычкамі і стралялі за «крок убок».

А ўсё ж такі я адпраўляў у лагерах св. Літургію! Бывалі часы, што дужа рэдка, але бывала і часцей… Як так? Не пахвалюся, але скажу, што з усіх сустраканых святароў я быў найшчаслівейшы. І толькі адзін раз на мяне данеслі ды навялі наглядчыка, які перарваў мне Службу — на шчасце — перад кансекрацыяй. Ды і то пасля ўдалося адабраць рэштку віна, і я (на злосць усяму пеклу!) нанава пачаў і даканаў св. Ахвяру. Заўсёды Бог мяне сцярог ад напасці, і я сам сцярогся ды не пападаўся.

Арыгінальна ў нас пачалося ўсё ў Тайшэце: у канцы лістапада нас туды перавезлі ў перасыльны лагер. У той гушчы людзей мы зусім згубіліся, але стараліся знайсціся. Кожны з нас маліўся сам, як умеў і як мог. Але аб Божай Службе мы не смелі і думаць: не мелі ні віна, ні пшанічнага хлеба і абсалютна ніякага вольнага месца. Аж неспадзявана да нас падышоў святар-базыльянін украінец і абяцаў нам памагчы. Добра! Мы вельмі рады. Але як жа да гэтай справы прыступіць? І вось ён навучыў нас, як з разынак вытвараць віно і ўжо сам меў крыху ў запасе. Назначылі набажэнства якраз на свята Непарочнага Зачацця Дзевы Марыі, і прытым гэта здарылася ў першыя ўгодкі нашага арышту. У нашай нязмернай турбацыі мы не мелі спецыяльнага плана назначаць гэты выдатны дзень — так яно неяк само сышлося, і Божая Маці падала тут нам знак сваёй апекі. Калі ўсё ў нас было

гатова, паўстала клапатлівае пытанне месца. Тады натоўп народу, які так нам перашкаджаў, неспадзявана стаў нам памоцны: мы скупіліся ў круг пры нашых ложках ад сцяны, бо нары не былі да сцяны прытуленыя, і так наладзілі свой кружок — сапраўдны «Сабор» — усходнюю Службу. У тым гурце народу бліжэйшыя вязні разумелі, што мы супольна молімся, але аб самай тайніцы нашай Службы яны нічога не цямілі і нам не перашкаджалі. А шум цэлага барака дасканальна тушаваў перад народам нашае набажэнства. Сказаць па-вонкаваму — такая дзіўная Служба ўдалася незвычайна.

Некаторыя чытачы будуць дзівіцца, як жа было з духоўнай адзежай? А як з свечкамі і з келіхам, з алтаром і г. д.? Мушу прызнацца, што ўсяго гэтага ў нас не было; але Служба адбылася важная і так, а нават яна ёсць дазволеная і законам Божым і духоўным. Калісьці мучанікі ў паганскіх часах у вязніцах у падобны спосаб адпраўлялі Божую Службу. А ў цяперашніх часах бязбожнікі бываюць горшыя ад рымскіх цэзараў, што мучылі за веру: так даўней прыгняталі хрысціян, так згінулі апосталы і гэтак дзеецца цяпер. А ў св. Ахвяры — для важнасці яе — трэба здабыць усё самае істотнае, значыць, пшанічны хлеб, віно і трэба знаць самую важную часць Літургіі, а рэшта ўсё Бог дапушчае і духоўная Улада дазваляе.

Нашую радасць не дасца апісаць! Пасля ўсёй крыжовай дарогі гэта прыйшло як бы з гробуўстанне, аб якім ведалі толькі выбраныя шчаслівыя ўдзельнікі і сведкі; а ўсё людское зборышча кружыла ля нас навакол, як у муравейніку, бядуючы толькі аб буднім хлебе. Так мы адпраўлялі адну Службу святочнымі днямі разоў шэсць-сем. А я стараўся захаваць Св. Дары для прычасця (камуніі) верных. Мая апостальская дзейнасць набрала смеласці, а пабожныя душы карысталі з добрай нагоды, і дайшло да таго, што яны мяне публічна выклікалі з барака і з натоўпу, называлі прозвішча — аж належная асцярожнасць забывалася! Праз два баракі дзеіў падобна, нават лепш за мяне, другі рызыкант-святар, і нічога нам не сталася. І нас перасталі страшыць пужлівыя прыяцелі. Аднак прозвішча таго калегі назваць тут нельга. Тым часам нашага правадыра ўкраінца (я забыўся ягонае прозвішча) забралі ў другі лагер і наш духоўны «Сабор» разышоўся; а цяпер і нашых харбінскіх пачалі разганяць па лагерах. Я тады пастараўся ўспомніць лацінскую Службу, выпісваў яе сабе на лістках і адпраўляў хоць рэдкімі днямі, сам адзін.

Найтруднейшае было заданне, як здабыць віно? Яно абавязкова мусіць быць вінаграднае. Вось жа, паводле інструкцыі

ўспомненага ўкраінца, я даставаў разынкі (сушаны вінаград), заліваў іх цёплай вадою і даваў ім разбухаць: тады зліваў ваду і вінаград выціскаў у кубачак, працэджваў у чыстай хусцінцы ў бутэлечку і даваў яму час на ферментацыю. Пасля пройдзенай ферментацыі я ўжо меў віно! І мог яго пакрысе ўжываць на Службу. Ведама, пры кожнай рэвізіі, як злавілі, безумоўна адбіралі. Можна зразумець маё гора, калі нават здабыць бутэлечку з коркам не давалася лёгка. Але неяк маім праціўнікам не так часта ўдавалася мне шкодзіць. А таксама трэба, каб быў пэўны пшанічны хлеб, найлепш — аплаткі. Мне іх прысылалі ў пасылках, і кантроль прапускала, але часам канфіскавалі… або казалі тут жа з'есці…

І вось дзіва, што пры такой жывой дзейнасці я толькі раз трапіў на пагрозу ссылкі ў штрафны лагер за рэлігійную агітацыю.

*

Праваслаўнае духавенства наагул да рэлігійнай прапаганды не рвалася: яны вялі ціхую пакутную, прыватную лінію жыцця і маліліся самі, не ўцягваючы нікога — ні сваіх, ні чужых. Ім нават у думку не прыходзіла, што магчыма ў лагерах спавядаць людзей, а нават адпраўляць св. Службу-Літургію. Лічылі б гэта нечымсь завялікім і недапушчальным і ў Бога і ў людзей. А я лічыў, што і ў турме не перастаю быць святаром-місіянерам ды маю паўсюдна спаўняць загад Хрыстовы: «Ідзіце, навучайце ўсе народы» (Матв. 28, 19). І Апосталы аж да мучаніцкай смерці «прапаведавалі ўсюды» (Марк 16, 20). Расказваецца з гісторыі жыцця св. Андрэя Апостала, што, завешаны на крыжы, пакуль меў сілу, вучыў стаячы навокал народ. Дык і цяпер святар з сваёй натуры — гэта апостал і місіянер.

Тут на волі мне часам закідвалі, што гэтак магчыма паддаць у знявагу св. Ахвяру Хрыстовую… Праўда, мы павінны дзеяць асцярожна і з належнай развагай. Але Сам Хрыстос, калі справа датычыла збаўлення людзей, пакінуў усякую асцярожнасць і паддаў Сябе на здзекі ды выйшаў на спатканне крыжа і смерці. Дык і мы можам і павінны рызыкаваць, калі шукаем збаўлення чалавека, асабліва рызыкаваць сваёй асобай.

Бо і што ж мне было рабіць, як калісьці прыехалі людзі клікаць да хворых, а трэба было ехаць у разводдзе па лугох і лясох, па хутарох і якраз праз хісткі фронт падчас расейска-ня-

мецкай вайны, вясной 1915 года? А ручай зрабіўся рэчкай — аж коні паплылі і воз напоўніўся вадой… І вось жа неяк шчасліва праехалі туды і назад, і не зачапіла мяне ні адна куля, бо не было суджана. Прайшло блізка паўвеку і, як мяне бачыце, я і цяпер цэлы.

Успамінаюцца з Сібіру такія моманты, што шкода было б іх абмінуць. У Брацку я трапіў у лагеры на святара, які меў віно, аплаткі і кніжкі, неабходныя для Службы. Мы з ім адпраўлялі не раз св. Літургію ўночы ў асобным аддзеле спальні, дзе вынятково спрыялі абставіны. Можа, і тут нас хто скрытыкаваў бы за неадпаведнае месца? Але яно было значна лепшым, як віфлеемская стайня, а Хрыстос яе лічыў лепшай ад гарадавых палацаў. І яшчэ мне давялося, калі будучы начным дзяжурным у лагеры 0,20, я апоўначы адпраўляў пры стале барака Літургію Калядную. Барак быў вялікі. Інваліды спалі пагалоўна. Я сакрэтна будзіў сваіх каталікоў, якія лежачы маліліся, і пераносіў ім св. Камунію. А раніцай я яе заносіў другім святарам у іншыя баракі і часамі таксама вернікам. Так здаралася святочнымі днямі не адзін раз. Божа мой! Колькі прытым бывала перашкодаў — і ад благіх людзей, і ад нашых баязлівых, і ад марозу і ветру — пры святой дзейнасці на дварэ… Але мая місія ішла памысна з дапамогай Госпада.

— Ці меў я келіх да Службы?

Як жа можна аб гэтым пытацца? Тады таксама запытаемся, хто падстаўляў келіх пад Святую Кроў, што на Галгофе сплывала з ранаў Хрыстовых на грэшную зямлю? У нас калісьці, як я быў малым, вісеў абраз Укрыжаванага: там тры анёлы падстаўлялі келіхі пад кроў, што цякла з ранаў. Адзін анёл трымаў два келіхі — пад рукою і бокам Хрыстовым. Абраз мяне вельмі ўзрушваў, і я часта на яго прыглядаўся. Але ў лагерах я келіха мець не мог: проста браў да Службы звычайны кубачак без шчарбінаў. Мне на гэта казалі на волі:

— Лепш было б ужываць шклянку!

Пэўна, што лепш, толькі ж шклянка ў лагерах не дазволеная і ніхто там яе не бачыў.

І яшчэ паўставала цяжкасць, у якой я меў немалыя сумлівы, боязь і непакой, менавіта: як перахаваць Святыя Дары? Бо здараліся хворыя каталікі, якім трэба было б услужыць, дый я сам жадаў у сваёй слабасці духу, хоць яшчэ пару разоў пасля Службы прымаць у наступныя дні Святыя Тайны. Тут ужо я, нікому не кажучы, развязваў пытанне сам: пашыў сабе спецы-

яльную сумачку-бурсу і на шнурочку насіў яе на грудзях. Бо я сабе разважаў так, што, магчыма, на ўвесь Сібір няма такога больш прытулку-святыні і такога другога святара, які б на гэта паважыўся. Значыць, я выступаю ад імя няшчасных мільёнаў ахвяраў з Ахвярай Хрыстовай да Нябеснага Айца і прашу-малюся за ўсіх верных і няверных, за мучанікаў і за мучыцеляў і за самага найгоршага ворага-дыктатара… На шчасце, не здарылася ні разу, хоць рэвізіі бывалі неспадзявана і часта, каб мяне падлавілі. І так ужо Бог ад няшчасця сцярог. Калі я тут у чым правініўся перад Богам і перад духоўнай Уладай, дык шчыра прызнаюся і каюся ўсім сэрцам!

У лагеры 0,7 у нас склалася грамадка вернікаў, якія трымаліся разам і сыходзіліся ў вольным часе, асабліва калі дазваляла пагода, на дварэ, дзе мы маліліся, адпраўлялі навэнны, адмаўлялі ружанец і мелі духоўныя разважанні. Маім верным закрыстыянам і заступнікам быў даўнейшы клерык пецярбургскай семінарыі Л. К., які меў вялікі талент духоўнага арганізатара. А і часы пайшлі тады лягчэйшыя, пасля смерці Вялікага Шкодніка, якога пасля выкінулі з гробу ягоныя прыяцелі.

Калі на свабодзе летам у 1955 годзе я адпраўляў св. Службу ў горадзе Быдгошч у вялікім светлым, прыгожым касцёле і пасля набажэнства падышлі да мяне два мае калегі з лагераў Сібіру, я папытаўся ў іх:

— Ну як? Ці вы цяпер верыце, што я каталіцкі святар?

— Пэўна! Які ж можа быць сумлеў? — казалі яны.

— А ці там вы мне верылі?

— Мы, — кажуць, — у тым не сумляваліся, і ўсе іншыя вам верылі.

Адзін з гэтых калегаў быў якраз той самы верны друг-закрыстыян, беларус з Барысава. А я дзякую Богу, што даў мне на старасць магчымасць адпраўляць св. Службу без ніякай перашкоды ў вольным свеце. Каб Бог даў яшчэ ласку адпраўляць набажэнства вольным парадкам у вольнай Бацькаўшчыне! Малюся і веру, што гэта абавязкова збудзецца.

## ЛАГЕР 0,20

Царкву зачынілі, каб у турме маліліся.

4 ліпеня 1950 пачаў я новае жыццё: новыя людзі, новыя брыгады і абавязкі — ўсё новае! Нават новыя плюскі, а іх безліч… Лагер ваяваў з імі ўсцяж: людзей мылі, вопратку і пасцель давалі ў «пражарку». Тады людзі сядзелі ў бараку голыя, мерзлі і чакалі доўгімі гадзінамі. Сцены скрабалі і аблівалі вараткам, гнёзды плюскаў выпальвалі, сцены тут жа бялілі. Нары разбіралі, дошкі змывалі вараткам. Пасля, ставячы нары, сварыліся моцна, бо чамусьці дошкі блыталіся і лепшыя, паміма нумарацыі, пападалі ў зручнейшыя рукі і г. д. І нарэшце плюскаў не было — цэлых 2–3 дні… Пасля былі толькі рэдкія госці, але ў пару тыдняў усё вярталася да старой нормы. І скуль яны браліся, ліха іх ведае?! Бо ўсё благое вельмі хутка множыцца, як зараза.

Наш немалы лагер ляжаў на мяккім касагоры. Але высокая загарадзь перашкаджала бачыць вонкавы свет, апрача адной суседняй гары, зарослай лесам з… трох соснаў. І нават гэта нам давала вялікую радасць: на кожнай праверцы кожны з 1300 вязняў, калі наглядчыкі лічылі нас са злосцю, мы віталі нашыя сосны з прыемнасцю і… лічылі іх да трох. Сосны раслі на волі, а мы мроілі аб волі. Мы вельмі палюбілі гэтыя дрэвы, а яны здалёку ківалі нам прыязна сваімі галінамі. Толькі мае тры сляпыя не маглі ўбачыць гэных трох соснаў, але ім усе людзі аб іх гаварылі.

Мая хвароба скончылася, а дарма хлеба нам не давалі, дык трэба на яго працаваць. Сляпых ад мяне адабралі адразу. Яны сталі вольныя ад маёй апекі. Аднак не думаю, што ім стала жыць лягчэй, як таму каню, што адарваўся ад гаспадара і ўцёк на поле, але поле было пустое, а ноч халодная. Калі ж прыйшоў да яго ў госці воўк, тады конь зразумеў, што зрабіў вялікую дурніцу. І мае сляпыя не маглі цешыцца, што начальства зрабіла іх незалежнымі: значыць цяпер ніхто аб іх не клапаціўся. Як яны маглі парадзіць у вялікай чужой грамадзе, я не ведаю, бо жыў ад іх на другім баку лагера. Пры спатканні з двух-трох слоў я разумеў, як ім бракуе маёй апекі. Праўда, і там лепшыя адзінкі не з абавязку, а з добрага сэрца памагалі няшчасным калекам, аднак гэта правадырства было толькі выпадковае…

Пасля двух тыдняў я даведаўся, што ўся тройка адыходзіць кудысьці ў этап. Яны атрымалі новую рэзалюцыю завочнага суду, паводле якой атрымалі па 20 год катаргі! Яны адразу

павінны былі перайсці ў спецыяльны катаржны лагер. Я проста здумеўся — пачаў бегаць, пытацца і клапаціцца, бо яшчэ ўважаў іх за сваіх і як бы за родных: за што ім далі такую страшэнную кару? І чаму аднолькавую ўсім траім? І сляпым? Куды іх пасылаюць? і г. д… Але не даведаўся я нічагусенькі! Мне здавалася, што яны — усе тры, каб і бачылі, не забілі б нават мухі, нават і заўзяты беларус, нат і капрызны латыш. А расеец меў характар ціхай авечкі. Катаржны лагер мусіў мець моцны рэжым, вострую стражу, цяжкія работы… хоць і ў нашым простым лагеры не бракавала ўмоваў, каб інвалід мог хутка памерці. А мая тройка нічога не бачыла… І дасюль не ведаю, што з імі сталася.

У лагеры 0,20-м я спаткаў нямала даволі інтэлігентных людзей, якія прынялі мяне прыхільна і спагадліва. На бяду, яны маглі падзяліцца са мною толькі сваім недастаткам. Дый пасля аперацыі я патрабаваў не так добрага слова, як добрага куска сала, а гэтага не мог мне выдзеліць ніводзін з новых «лазараў». Той евангельскі Лазар мог хоць пажадаць «крошак са стала багача», а ў нас не знайшлося ані багачоў, ані іхных банкетаў, ані іхных крошак. І мы не мелі нават чаго і ў каго пазайздросціць.

Работу мне тут далі адразу: прыпісалі да групы вадавозаў. Бочка — новая, вялікая, абодва колы і ўвесь панарад — таксама новыя. Затое мы — старыя інваліды — выконвалі абавязкі фурманаў і коней. Побач нас працавала другая бочка, таксама добра акутая і моцная, з людзьмі мізэрнымі, як і мы. Такім кагалам мы маглі б, гуляючы, нацягваць вады на ўвесь лагер, калі б не было перашкодаў. Работа ішла па-савецку, спосабам «аўтаматызаваным»: значыць, мы самі хадзілі «самаходам», бочку цягнулі «саматугам», ваду даставалі двума вёдрамі «самакрутам»; дзе не мелі сілы, памагалі сабе «самакрыкам»…

Рабочая зона, з якой мы бралі ваду, была ўладжаная талкова, толькі паложаная зусім без ніякага сэнсу — ад лагера метраў на пару сот. Паміж лагерам і зонай ішла праезная дарога. І ў той рабочай зоне мясцілася ўсё неабходнае для нашага лагера: студня, пякарня, швальня, сталярня і такарня, склады, скляпы, кузня, электроўня, інструменталка, пілоўка дошак, дроў і інш.

Да рабочай зоны трэба выйсці з лагернай брамы і пасля прайсці рабочую браму. Але лёгка сказаць «прайсці»… Бо пры кожнай браме ў старажоўцы дзяжурыў наглядчык з ключамі: ён меў тэлефон і быў добра ўзброены. Для кожнага чалавека мусіў адчыняць вялікую браму вялікім ключом (форткі не было). Яму, ведама, не хацелася бегаць безупынна туды-сюды, дык збіраў пры браме большы гурток: людзі чакалі, мерзлі, моклі, пацелі —

паводле пагоды. Дый усіх мусіў вадзіць канвой: значыць, бывала падвойнае лічэнне, чаканне і нервы. Тут нас, вадавозаў, брама не прапускала; а там кухня на нас крычала: «давай, давай!». Ад самага рання да познага вечара трывала «вялікае перасяленне народу». А калі пры рабоце трэба было штось пільнае, спынялася ўся грамада і ўся работа, бо пасланец не мог так лёгка прасачыцца праз браму.

Пакуль паліла сонца, мы мелі гладкую дарогу. Але ў жніўні пайшлі вялікія дажджы: як размок гліністы грунт і ў брамах парабіліся каўдобіны, дык мы не мелі ратунку! Пайшлі ў нас сваркі: ніхто не хацеў запрагацца ў аглоблі, а кожны меркаваў падхапіць бочку збоку, каб магчы пераскочыць праз лужыны. Нашыя чаравікі напіваліся вады, ведама, старыя і благія: трэба іх старанна абчышчаць, каб не запэцкаць падлогі ў бараку і ў сталовай. Дый няма часу! Усюды нас падганяюць. А спознішся ў сталовую, там можа прапасці штосьці з нашай порцыі… Тым горш, што вадавозы не атрымоўвалі нічога за працу, апрача самой вады. А другія з нас смяяліся:

— Як вып’еш 5 літраў вады, дык гэта будзе табе адзін кілаграм хлеба.

Але хто піў шмат вады, даставаў жаўтухі.

Хто адказваў за благую дарогу, не ведаю. Лагер крычаў на нас, што разлівалі ваду і рабілі балота. Тады мы меркавалі самі папраўляць дарогу, але нам не давалі на гэта дазволу, інструменту і часу. Таксама цярпела і начальства, бо мусілі пераскакваць па каменьчыках і дошчачках, слізгаліся і траплялі ў бліскучых ботах у лужыны. (Затое ў «Двойчы Геройскіх Беларускіх Балотах» немцы прайгралі дзве Вялікія войны!)

*

Хто ў лагеры атрымоўваў пасылку, лічыўся шчаслівым: усе глядзелі на яго з вялікай пашанай. Але прытым ён перажываў бяду і клопат — не ведаў, як ізалявацца ад людзей? Бо трэба ж помніць і аб бліжніх, а тых усіх 13 соцень! Калі хто зваліўся ў мора, дык не мог ратаваць і роднага бацьку, каб не згінуць абодвум. А ў лагеры навокал усе галодныя… Аднак жа характэрна, што ў лагерах рэдка хто глядзеў зайздросным вокам на шчаслівых людзей і наагул не было «папрашайкаў», не чулася прытычак і, апрача блатных, інваліды, нават самыя бедныя, не важыліся красці ад другіх інвалідаў.

А начальства аддавала пасылкі акуратна. Пры выдачы мусіў кантраляваць лекар і наглядчык: часамі пераглядалі лішне дакучліва, шукалі затоеных лістоў, рэзалі і псавалі прадукты. Пры частых этапах пасылка ганялася за вязнем, дык гарачым летам прадукты марнаваліся. У пасылках дапускалася ежа, вопратка, тытунь і іншае дабро.

Не так цікава бывала, на колькі быў пасаджаны чалавек, але важней, ці атрымоўвае пасылкі і ці дастае тытунь. Далей пыталіся, ці мае цыбулю, часнок, сала, цукар? А найбольшы гонар меў тытунь, бо курыла не менш 90 працэнт народу. Да 1954 года на табаку быў вялікі голад, дык за яе можна было купіць усё. Ну, і абрыдзеў жа мне табачны дым у лагерах!

Паслухайце аб двух здарэннях з пасылкамі і з гасцінцамі.

На 0,20 адзін стары святар угорац часта і акуратна атрымоўваў з дому пасылкі ды кожны раз лавіў мяне і даваў гасцінца, 2–3 сухарыкі і кусочак цукру — усяго на раз узяць у рот. І прытым гаварыў цэлую навуку, як мы, духоўнікі, павінны памагаць адзін другому. Нарэшце вычарпалася мая цярплівасць, і я, замест падзякі, напісаў яму на лаціне адказ (іначай я не мог з ім паразумецца). Пункты адказу два:

— Вы не маеце абавязку мне памагаць і я не набіваюся і не выпрошваю.

— Калі, аднак, хочаце мне памагчы, дык не рабіце насмешкі, даючы дзіцячыя гасцінцы і гаворачы вялікую навуку — чалавеку, які стаіць над самай пропасцю…

Выявілася, што я разграбаў жывую іскру ў прытухлым вогнішчы. Стары доўга паляваў на мяне, а я ўсё выкручваўся, каб не спаткацца. Нарэшце ён мяне падлавіў, хапіў за руку і кажа:

— Дапамогу мне прысылае старая сястра, а фактычна яна і сама патрабуе помачы; а я памагаю тут яшчэ сваім угорцам. І я зусім не хацеў над табою смяяцца і не знаў аб тваім вялікім горы…

Я маўчаў, і ад сораму гарэлі мае вушы: я гатоў быў праваліцца скрозь зямлю!

— Нашто я пісаў? — пытаўся я сам сябе.

Але старому было сорамна: ён абдумваў спосаб, як паправіць няўдачу. І вось ён злавіў мяне яшчэ раз і мне ўткнуў у руку 25 рублёў.

— Не вазьму нізашто!

— Мусіш узяць! Не смей адмаўляцца.

Ён так уладна на мяне прыкрыкнуў, што я ўзяў. А пасля і рады быў, бо дапамога ў тых умовах аказалася салідная і вельмі

патрэбная. І я пераканаўся, што лягчэй даваць ахвяру, як прымаць, нават у вялікай нястачы.

Другое здарэнне крыху падыходзіць да гэтага і не падыходзіць.

Я тады не быў такі няшчасны, бо ўжо атрымоўваў з Беларусі лісты і пасылкі, хоць і нерэгулярна. Я пачуваўся як чалавек, якога з вады дасталі, але апранулі толькі ў адну кашулю і яго трасе ліхаманка. Значыць, я галодны бываў толькі перыядычна. Якраз прыйшоў Вялікдзень 1953 года. Пагода цягнулася мокрая і сцюдзенаватая. Інваліды чамусьці не любяць такой пагоды, а старыя і худыя тады часцей сварацца. У лагеры дарожкі былі забалочаныя, але асцярожна можна прайсці, абмінаючы лужыны… Супольнага сняткавання не арганізаваў ніхто: госці, праўда, ахвотна прыйшлі б, каб меў хто чым іх пачаставаць. Хоць «бацька» Сталін ужо, на шчасце, памёр, аднак ягоны рэжым яшчэ трымаўся моцна, і мы баяліся чагосьці горшага. Наш настрой не складаўся па-святочнаму: мы ўвесь год пасцілі як пустэльнікі і добра прыгатаваліся да Каляд. Але як надышоў Вялікі Дзень, дык мы мусілі разгавецца такім самым нішчымным крупнікам. У мінорным тоне мы жадалі сабе ўзаемна вясёлых Святаў, аднак нашае «Алілуя» было вельмі кіслае, як вясной асенняя капуста.

І вось, калі я адзін-адзінюсенькі лазіў па дарожцы, сумны і пануры, спаткаў мяне (ён спецыяльна выйшаў са мною прывітацца) адзін летувіс, святар з Вільні; віншаваў, казаў «Алілуя» і адразу перастроіў мяне на святочны тон. Кажа мне:

— Ведаеце, што ў мяне?

— А што сталася?

— Я атрымаў пасылку — важную, велікодную, з Вільні.

— Ну, і вашае шчасце…

— …і я хачу вас угасціць. Пойдзем!

— Дзякую! Іду…

А ў нашым лагеры тады быў добры звычай, што ніхто ад пачастунку не адмаўляўся. Іду. А ў маёй фантазіі рысуюцца велікодныя прысмакі — яйкі, каўбасы, пірагі… І ўвесь арганізм пабудзіўся, як гаворыць Паўлаў, на «вонкавыя імпульсы» — аж слінка цячэ… І дух і арганізм прыгатаваліся зусім.

Увайшлі мы ў барак. Якраз добра выпала, што жыхары тут пераважна спалі.

— Эх! Будзе пачастунак…

Значыць, мы адны заселі пры велікодным стале. Мой дабрадзей, кунігас, гутарыў вясёла: ён расказваў нешта вельмі цікавае, а я хоць вонкава ўважліва слухаў, дык папраўдзе не

цяміў нічога, бо мая ўся ўвага была «велікодная». І вось ён дыскрэтна адхіліўся да свайго закутку, каб дастаць пачастунак; а я чуў, як у мяне моцна б'еццa сэрца. Аж ён дастаў і палажыў на стале… Што? Гэта быў яблычак велічыні невялікай мандарынкі. Я здзівіўся і думаў, што гэта толькі пачатак. Але хутка з ягонага тону зразумеў, што тут пачатак і канец усяго трактаманту. Сяджу — гляджу: збянтэжыўся і не ведаю, што рабіць? Аднак гаспадар вывеў мяне з клопату: разрэзаў яблычак на дзве палавінкі, адну ўзяў сам, а другую падсунуў мне. Я з'еў не спяшаючыся, падзякаваў, як умеў, і пайшоў такі задаволены, як той у казцы мядзведзь, што за камаром сем міль гнаўся. Злавіў і з'еў: «А ўсё ж такі, кажа, пасілак маю!»

Што ж? Усё бывае з чалавекам. І жыццё — гэта казка. А гэты дабрадзей, здаецца, рабіў усё шчыра, дый выйшла насмешка вельмі жалосная…

## ХТО МОЙ БЛІЖНІ?

Чужую бяду пальцам развяду,
А на сваю рады не знайду.

Між сабою мы жылі наагул згодна, нават завязвалася прыязь шчырая і сардэчная; а часамі сыходзіліся між сабою адзінкі з народаў адвечна варожых. Магчыма, што дзеля гэтага ўлада раздзяляла і рассылала вязняў родных і прыязных. Вечныя этапы забіралі шмат часу; у канцылярыях блыталі спіскі і спрычынялі лішні кошт. Інваліды больш слабелі; работнікі адбіваліся ад прывычнай працы, а начальства нажывала больш шкоды як карысці, бо этапнікі, як дрожджы, уводзілі фермент, разносілі «крамолу» — благія весткі і плёткі па ўсім Савецкім Саюзе.

А вось прыклады вялікай ахвярнасці і любасці бліжняга паміж вязнямі.

Калі, бывала, чалавек, сам бяздольны, скажа другому бедаку добрае слова, дык і гэта ёсць акт любові бліжняга. А нярэдка здараліся выпадкі, якія сведчылі аб высокай духовай культуры, нават у простых людзей і ў цвёрдых з натуры мужчын. Паслухайце!..

Адзін раз у Тайшэце 1950 годзе, сярод зімы, калі мы стаялі на праверцы, а мароз заходзіў за сорак «С», я стаяў худзенька апрануты, без рукавіц і не мог ніяк сагрэцца. Вецярок пацягваў сцюдзёным варам, але я не папускаўся: тупаў, падскакваў, біўся рукамі па бакох і — усё надарэмна. Аж я пачуў, што нехта

пацягнуў мяне ззаду за вопратку. Аглядаюся і бачу, што незнаёмы чалавек падае мне кажуховыя рукавіцы. Я сумляваўся браць, а ён кажа:

— Бяры! Я маю другія.

— Дай Бог здароўе!

Ахвяра аказалася поўная, бо дабрадзей назад рукавіцы не прыняў, а сам застаўся з горшымі. Пасля я даведаўся, што ён з Уладзімерскай вобласці. І ён мусіў ведаць, што я — каталіцкі святар, бо ўсе людзі аба мне тут ведалі. А рукавіцы даў цёплыя, што прыйшлі мне ў самую пару і добра пасавалі. Словам, выйшла паводле савецкай праграмы — «кожнаму паводле патрэбы». Але мой таварыш кіраваўся толькі словамі Хрыста:

— Я быў неапрануты, а вы мяне апранулі… атрымайце валадарства… (Матв. 25, 34–36).

Вось другое здарэнне. Позным вечарам, калі я на верхніх нарах гаварыў пацеры, пачуў, што нехта падбіраецца да мяне. Аж убачыў чужога чалавека, які, нічога не кажучы, падаў мне бляшаную банку: быў там гарачы крупнік з гарохам, густы і звараны на мясе. Ішла тады ранняя вясна ў Тайшэце: кармілі нас голай поліўкай і я пачуваўся як галодны воўк, худы як шчэпка. Нашая вячэра трывала даслоўна пару мінут: мы выходзілі з сталоўкі раздражненыя і яшчэ больш галодныя. І раптам у маіх руках — царскі пачастунак! Я дзякаваў Богу, як тая душа, што неспадзявана вырвалася з самага глыбокага чысца. А хто мяне ўгасціў?

— Ну, я ж яго падлаўлю, як прыйдзе па бляшанку!

Добра! Аж на чацвёрты дзень шэрай гадзінай ён прыйшоў. Я толькі меў дзякаваць, як ён знік! І як я заўтра ні глядзеў, як ні шукаў, так і не пазнаў яго ў натоўпе. Затое на гэтым месцы яму і гэнаму — за крупнік і за рукавіцы, — а таксама ўсім сваім Дабрадзеям, дзякую ад душы, што мяне ратавалі ад пякельных мукаў голаду і холаду. Каб Бог памілаваў іх усіх! Аман.

І яшчэ ўспомню аб адным здарэнні, як бы цудоўным. Мы, вязні, жыва помнім аб усіх дробязях, якія нас ратавалі. Аднойчы латышскі святар падараваў мне кусок сала. Можна было б раздзяліць на дзве раты, каб з’есці з хлебам. Але дзе там галодны чалавек будзе дзяліць! Дык я спешна скіраваўся да свайго ложа, каб прылегчы і, успёршыся на локаць, змалаціць шчаслівы кусочак. Але зара маё вока ўперлася ў ляжачага насупраць японца, майго прыяцеля. — Мідзумі-сан. Ён гэтай раніцай вярнуўся з лагернага шпіталя пасля доўгай хваробы. Маё сумленне падказа-

ла, што Мідзумі слабейшы за мяне і ў яго ў Японіі ёсць чацвёра дзяцей, да якіх ён павінен вярнуцца. Значыць, яго трэба пільней ратаваць, як мяне. Я стараўся адагнаць назойлівую думку, але яна ўядалася ў маю душу. А перада мною ляжаў у запасе ўжо кавалак хлеба, у таварыстве да сала. Я пачуваўся такі слабы ў гэтай барацьбе, што, не давяраючы сабе, каб не перадумаць, хапіў той запаветны кусок і падбег да японца і ткнуў яму ў руку! Мідзумі аж падскочыў: у адзін міг ён і спалохаўся, і здзівіўся, і ўцешыўся. Сведкаў не было…

Я ж вярнуўся да сваёй пасцелі адначасна вельмі задаволены і надта сумны; лёг на цвёрдае ложа без ніякай надзеі заснуць, бо сэрца калацілася дужа неспакойна. Ля мяне яшчэ былі пустыя пасцелі. Толькі воддаль ляжалі два незнаёмыя, здаецца, стараверы: яны, лежачы, сцішка штосьці гутарылі і, мусіць, закусвалі. Я адвярнуўся ў той бок спіною, каб надарэмна не спакушацца чужым шчасцем.

У сваіх думках і ў жываце я пачуваўся такі пусты, як выціснутая цытрына; а сон так далёка ўцёк ад мяне, што я ніяк не мог яго прыклікаць. Тут я пачуў, што нехта мяне штурхае: аж гэны старавер падпоўз да мяне і тыча кусок сала — такой самай меры, вагі і формы, як той, што я даў японцу. А другі, ягоны сябра, насыпаў мне прыгаршчы белых сухароў. Падарунак прыйшоў неспадзяваны і такі цэнны, а прытым з'явіўся адплатай (і з працэнтам!) за таго японца, — аж у мяне пасыпаліся слёзы. Я не патрапіў ім падзякаваць, не сказаў ні слова, як не трапляе дзякаваць сваім дабрадзеям чалавек, якога выратавалі з глыбокага водавароту.

А і не маглі яны бачыць мае добрае справы, бо японец не быў на іхных вачох і яны не зналі, ці я меў што ў руках, ці даваў таму, ці не даваў? Зрэштай, каб і зналі, дык не страцілі б заслугі перад Богам. Так тройчы ратавалі мяне добрыя людзі ў цяжкой патрэбе і ўсё незнаёмыя, не кажучы ўжо аб выпадках забытых ці меншых ці аб помачы ад прыяцеляў і г. д. Я ж малюся за іх, каб Бог аддаў ім, нават за найменшае, паводле вялікага свайго міласэрдзя! Бо Хрыстос высока цаніў ахвяру два грашы беднай удавы, што кінула ў скарбонку з свайго недастатку, «яна дала больш, як тыя, што давалі са збытку».

*

Аднак у нашай агульнай нястачы не ўсе роўна цярпелі. Некаторыя з сваёй натуры патрабавалі большай вопраткі і ежы, як

людзі магутнай фігуры, росту і вагі. А тым часам норма (пайка) ішла роўная — і нам, драбнейшым людзям, і тым гігантам, што былі двойчы цяжэйшыя. Дык нарэшце лагерная ўлада манілася споўніць загады Маркса—Леніна, каб даваць «кожнаму паводле патрэбы». І вось пачалі мераць наш рост.

А мы, грэшныя, не маглі спачатку разгадаць той меры: ці лепш будзе прысядаць? А мо лепш станавіцца на пальчыкі? Дагадкі рабіліся туды і сюды. Аж у канцы загаварылі, што гігантам — ад 180 сантыметраў — будзе ў норме падвышка. Дык усцешыліся, аж скакалі з радасці нашыя веліканы; а мы, карлікі, дужа засумавалі: яны дзерлі нос угару, а мы паглядалі на іх панура; але насупраць натуры не было рады. Найгорш абураліся тыя, якім меры «чуць-чуць» не хапіла. Гаварылі:

— Я меў поўных 180, а зрэзалі на 179!

— У мяне ўкралі аж 2 сантыметры!

— А я такі самы як вунь той… і мяне дактары паменшылі, каб ім!..

Тым часам лекары і санітары выяснялі:

— Ніхто ў вас меры не краў: чалавек стары і худы адрастае, і на гэта няма ніякай рады.

Аднак ім не верылі: пайшлі спрэчкі, жалі, нараканні і злосці — аж крыўда ўядалася ў сэрца і ў жоўць.

Ну, пачалі чакаць той паступовай рэформы, але яна мусіць заблудзіла ў нейкіх камісіях або зайшла ў такую далёкую інстанцыю, што дасюль не вярнулася. Бо тады трымаліся такога парадку, як і цяпер: «Маркс — сваё, а Мікіта — сваё!»

*

Адзін з гэтакіх нашых доўгіх, Іонас Дыдэліс, летувіс, быў найбольш галодны з усяго лагера. Ён вечна выпрошваў «дуона» — «клеба», а ягоны жывот быў як доўгі мяшок без дна. Дыдэліс быў мужчына касцісты і моцны, высокі і плячысты. Схуднеў ён так, што, здавалася, ягоная скура шуршэла, а косці скрыпелі. Калі аднойчы выявілася ў бараку пакража, дык без рызыкі бяду звалілі на Іонаса і адразу задумалі яго пабіць. Ніхто за яго не заступаўся. А ў лагеры існавала такая «нібы традыцыя», што калі хто пасягне на пайку хлеба, той можа заплаціць галавою. «Пайка» — падстава жыцця: значыць, калі злодзей бярэ пайку, ён гэтым хоча забіць чалавека, а затое можна забіць і яго. І няма тады ні грэху ні судоў!..

Такі балаганскі закон здаваўся ў лагернай апініі самым разумным і справядлівым. Гэтак, слова па слове, закіпела ўся брыгада:

— Біць Іонаса, біць!..

Звалілі яго на зямлю і пачалі штурхаць нагамі, але больш для прынцыпу і для навукі, як са злосці. А ён, вялікі як званіца, сільны як мядзведзь, з рукамі атлета, а з кулакамі каваля, быў ціхі, як авечка, і безабаронны, як цялё, — пакаціўся на зямлю, як гнілое бервяно, дрыгаў нагамі без ніякага толку і жаласліва галасіў:

— Аш (я) не браў і не браў!

Натоўп думаў, што споўніў свой цяжкі закон; а ў галубіным сэрцы Іонаса не засталося да нікога ні злосці, ні жалю. Ажно справядлівасць хутка заяснела, як сонца пасля навальніцы, і то адразу, у першую ноч. Над раніцай падняўся крык, які разбудзіў увесь барак:

— Злодзей, злодзей!

— Хто, дзе? Што?..

— Я злавіў яго за руку, як цягнуў маю торбу з-пад галавы.

— Хто цягнуў?

— Вось ён, Карль Ваўчук…

— Ай-я-яй!..

Карль быў мяшанец: бацька — украінец, а маці немка. Яго ўсе называлі немцам. Ніхто ад яго таго, што сталася, не спадзяваўся. Слава Дыдэліса, а з ім слава ўсёй Летувы, была ўратаваная, і самога Іонаса трэба было публічна перапрасіць, аднак усе тады аб ім забыліся. Затое трэба было пабіць Карля і то двойчы, ці мацней, як учора Іонаса, бо ён быў злоўлены за руку і краў у след учарашняга бою ды сам моцна брыкаў Летувіса! Дый у бараку воля аслабела і рукі апалі: толькі крыху на немца накрычалі і больш не чапалі. Бо ўжо не было сілы і гневацца!

Аж якраз гэтага дня той самы Карль стаў героем усяго лагера: ён дастаў пасылку, але такую, што ўсе ахнулі! Як адчыніў скрынку, дык з яе разнёсся наймілейшы табачны дух, а было там аж 5 кілаграмаў. Дый на тытунь быў тады ў нас вялікі голад; дык вось тая кража хлеба адразу і назаўсёды затанула ў табачным дыме. І не толькі наш барак стаўся слаўны і шчаслівы, але ўвесь лагер цешыўся і смяяўся ды палюбіў «добрага» немца Карля. У яго цяпер знайшлося столькі прыяцеляў, колькі было курцоў у лагеры, значыць, чуць не ўсе. А бедны Іонас Дыдэліс і далей быў галодны і прасіў «клеба», бо летувісы не могуць выгаварыць «х»…

## КРАЖЫ

> Хто хоча прапасці,
> няхай пачне красці.

Першая кража ў цягніку — з Чыты ў Іркуцк — вельмі нас стрывожыла: мы тады гатовы былі ўсіх блатных, а нават чуць не ўсіх расейцаў, лічыць за зладзеяў. Аднак пасля, калі шмат горшага бачылі і перажывалі, мы перамянілі «гнеў на міласць». Бо блатныя — няшчасныя людзі. Яны ад малога гадаваліся ў голадзе-холадзе, бачылі найгоршыя прыклады, самі цярпелі крыўды, чулі бессаромныя словы і жылі ў вечнай няпраўдзе, — як жа яны маглі вырасці на сумленных людзей? Да іх не дакранулася хрысціянская культура, а толькі лаянкі, кары і прымус. Высокія лозунгі бязбожнікаў твораць спрытных блатных, часта горшых ад дзікіх звяроў. І дзяржава, знішчыўшы святыні, ратуецца турмамі: тут і школа не створыць грамадзяніна, калі вучыць, што Хрыстос не існаваў, што няма Бога, ні душы, ні граху, ні цноты, ні сумлення… Застаўся люты прымус, тэрор, агітацыя — «двойчы герой, тройчы хуліган». А да блату належаць кражы — з самой натуры. І чым мацней заціснеш спружыну, тым страшней яна зрываецца. У Савецкім Саюзе так узрасла хітрасць, выкруты, ашуканства, фарысейства, што ані законы не могуць прадбачыць, ані міліцыя і суды выследзіць! Бо немагчыма саву перавучыць, каб ела зярняты, ці каб штодзень неслася як курыца. Дрэсуру трэба ўжываць паводле натуры звераня; а дзіця трэба гадаваць паводле натуры чалавека — не звярынай манерай.

*

Найперш у цягніку, як нас везлі з Чыты ў Іркуцк, у архімандрыта Андрэя ўкралі сутану: толькі палажыў ля сябе, а за хвілінку яна знікла. Ведама, каб адразу падняў трывогу, дык канвой мусіў бы знайсці, бо дзе ж яна магла б западзецца ў замкнёным купэ? Але затое колькі паўстала б злосці, праклёнаў, лгарства, а пэўна і помсты з боку блатных?! Яны б дружна заступіліся за свайго чалавека і за гонар банды. Дык вельмі разумна зрабіў а. Андрэй, што пажаліўся толькі Богу, а нас ціханька перасцярог.

А ў Тайшэце першай ахвярай стаўся я сам. Трэба ж таго, што і я тады стаўся багацеем, бо ўжо меў торбу! Жабрак цешыцца новай торбай, дык і я перабіраў сваю маёмасць кожны дзень.

У ёй хаваў хлеб і цукар, ручнік і харбінскія пантофлі, акуляры і… больш нічога. Але хто з талковых вязняў пакідае на ложку торбу з такім багаццем? Такі разявака ёсць той, хто гэтае піша: пакінуў скарб і, зразумела, не знайшоў! А пасля добрыя суседзі гаварылі:

— Дурны ты! Торбу трэба заўсёды насіць з сабою, а нанач класці пад галаву.

— Так, цяпер буду ведаць: толькі ж торбы няма…

Сваю страту я перажываў так, як на волі людзі перажываюць пажар. А другія, пацяшаючы, гаварылі:

— Ані думай шукаць, ці пытацца, ці скардзіцца! Хутчэй у Савецкім Саюзе знойдзеш іголку на дзіравым мосце, як украдзенае дабро.

Але добрыя прыяцелі злажыліся па кусочку хлеба, і мне на сэрцы палягчэла.

Ну, цукар я неяк працярпеў да заўтрашняга (12 грамаў!). Аднак страта акуляраў здалася мне катастрофай. Пасля турмы ў Чыце я ўжо зусім не мог без акуляраў чытаць. Кажу аднаму суседу:

— І нашто таму злодзею мае акуляры? Шкло ж у іх камбінаванае, а левае мацнейшае…

— А ты таго не ведаў, што ў лагеры няма нічога лягчэйшага, як «загнаць» акуляры? Тут і цана на іх усім ведамая: за акуляры — два дні хлеба, за добрыя — тры дні, а заграні́чныя — куды больш!..

— Якія яны «добрыя»? Яны спецыяльна — толькі для аднаго чалавека.

— Але ў нас на гэта не зважаецца, што крышку не пасуюць — тут вам не заграніца!

*

Іду да начальніка санчасці, у амбулаторыю. Ён аказаўся «людскім» чалавекам, а меў шкло на плюс $3^1/_2$. Я прымераў — больш-менш добра! Зрэштай, выбару не было. Далі мне шкло і аправу асобна. Але — як уставіць, бо шкло завялікае? Папрабаваў, як мне разумныя параілі, абпілаваць на цэгле, але чуць не папсаваў і ледзь не заплакаў! На маё шчасце знайшоўся зручны тэхнік, які за дзве пачкі табакі пагадзіў шкло з аправай. На табаку «загнаў» свой хлеб: хоць быў галодны, але меў акуляры. І нат былі лепшыя ад украдзеных, бо тыя ўжо дрэнна пасавалі да вачэй — усё ад той «адзіночкі» ў Чыце і ад паганай

лямпы, што гарэла там у мяне дзень-ноч… Дык цяпер я павінен быў маліцца не толькі за здароўе начальніка, што даў добрыя акуляры, але і за здароўе злодзея, што ўкраў благія. Але на гэтым не канец: калі я ўжо маніўся з радасці затанцаваць, начальнік кліча мяне і кажа:

— А ты заплаці за шкло 12 рублёў і за аправу рубель!

— Грамадзянін начальнік! Я — ахвотна, але скуль мне ўзяць такія грошы? Хіба дазволіце заганяць на плату свой хлеб?

Ён паглядзеў на мяне, што я выглядаў горш дрэннага, і кажа:

— Ну, не! Хлеба збываць нельга: вы як-колечы дастанеце грошаў у сваіх знаёмых.

— Дзе ж я дастану, калі яны такія багацеі, як і я?

— Ну, вы там як-колечы…

Падумаў я сабе так:

— Ён — начальнік — чалавек зусім не благі і, бачу, што мне спрыяе. А жыве ён у поўнай выгадзе, а я — у поўным знемажэнні. Неяк ён з лагера тыя грошы выкруціць, як захоча… А скуль жа я іх зцыганю? Пасылак не атрымоўваю, красці не ўмею, жабраваць тут няма дзе, заработку — ніякага. Дый, зрэшты, савецкія вязні мяне абакралі, а самі Саветы ўкралі мяне самога з Кітая… дык… Так я сафізмамі неяк супакоіў сваё лагернае сумленне, што можна затрымаць акуляры «па блату». Начальнік яшчэ мяне пару разоў добра «журыў», а я ўважліва слухаў, моцна ўздыхаў і на тым кончылася. Бо што ж ён, «бедны», мог са мною зрабіць?

*

Як прыбыў я ў 0,20-ты, падышоў да мяне летувіс Юргіс Шэльмукас, чалавек такі ўкладны, мілы і спагадлівы («як да раны прылажыць!»), што я даверыўся яму, як роднаму брату. Абавязкова ён хацеў мне чым-колечы памагчы, бо бачыў маё цяжкое палажэнне. А ў мяне яшчэ захавалася харбінская духоўная сутана: хоць і паношаная, але матэрыял заграанічны! Летувіс узяўся прадаць яе за зонай, ведама, неафіцыяльна: там можна было выкруціць лепшую цану. І ўжо я загадзя цешыўся як дзіця: рабіў камбінаваныя праекты і ў маіх планах усё каціласа, як па масле. Юргісу меўся памагаць ягоны брат, які таксама быў у лагеры. Гэты Пятрас больш маўчаў, а Юргіс гаварыў за дваіх. Абодва віталіся са мною ветліва і прыязна, давалі авансам дапамогу, праўда, самую дробязь; абяцалі неўзабаве заладзіць справу і прадаваць найбольш карысна. А я чакаў доўга і цярпліва,

ажно пачаў чакаць нецярпліва ды пачаў сумлявацца… А абодва летувісы пачалі мяне зручна вымінаць, абыходзіць, тушавацца і проста згінулі з маіх вачэй. Аднак удалося мне спаляваць Юргіса і прыперці да муру:

— Што сталася? Давай мне маё назад!

— Калі ж ужо няма…

— Дык давай грошы!

— І грошай няма…

— Э-э-э! Значыць, вы мяне абставілі… Пайду да начальніка.

— Ідзі! І ў яго дастанеш 5 дзён карцару, бо ты намаўляў мяне прадаваць за зонай.

Я ўсумніўся — што рабіць і што злодзею сказаць? Аж сказаў незнарок, не падумаўшы, так:

— Ну, добра! Разлічымся канчаткова на Божым судзе.

— Глупства! — сказаў Юргіс.

Але, хоць ён гаварыў гэта моцным тонам, мне здалося, што ў яго нотка задрыжэла. Я адказаў яму:

— Тады там пабачыш…

Так закончылася нашая прыязнь і знаёмасць, а таксама мая надзея на ратунак. А назаўтра спаўвязні мяне перасцерагаюць:

— Будзь ты асцярожны з братамі Шэльмукасамі: яны ўсіх новых святароў правакуюць і абдзіраюць.

— Дзякую, — кажу, — вам за добрую раду. Але дзе ж вы перш былі?

А сам тым часам думаю:

— Чаму я такі шчаслівы, што мяне заўсёды перасцерагаюць тады, калі я ўжо даўся злавіць і абскубаць?

З нас траіх — толькі наш філосаф Тамаш умеў хаваць сваю сутану ў бяспечным месцы: ён акуратна складаў яе штодзень і засоўваў у пасцель у галавах, і толькі адзін раз не знайшоў яе там, дзе палажыў, бо… знайшоў яе нехта другі. Здарылася гэта, паміж намі кажучы, у Брацку.

Трэба адзначыць, што ў лагерах, дзе не было блатных, кражы здараліся вельмі рэдка. У бараках бывалі дзяжурныя, якія на работу не хадзілі, а даглядалі і адказвалі за ваду, за печ і за ўсё дабро. У большых аб’ектах назначалі і начных дзяжурных. Дык наагул у лагерах, можна сказаць, тварылася жыццё як бы аседлае і сталае. Іншая справа ў Тайшэце, лагеры перасыльным: там публіка пераплывала свежая, густая, мяшаная з блатнымі, толькі прысланая з турмаў і вельмі неспакойная. Там усе былі ў

сваёй вопратцы: багатыя і абарванцы, згаладаныя ежы і табакі. Шукалі спосабу адкарміцца і накурыцца, дык і кралі ўсё, што «не добра ляжала».

Пасля Тайшэта інвалідаў рассылалі па лагерах, упісвалі ў брыгады і ганялі прымусова на «дабравольную» работу. Кожны даставаў вопратку (звыкла дрэнную), бялізну і абутак ды пасцель. Штодзесяць дзён — у лазню, мылі і адразу там жа голых галілі. Што мы пры тым мерзлі, чакаючы чаргі, дык гэта справа звычайная.

## ЯК ПАПАЎСЯ І Я САМ

> Папаўся ў рукі юрыста,
> будзеш чысты.

Не цяжка апісваць іншых, але сябе апісваць праўдзіва — гэта тое, што самому рваць сабе зубы. Аднак жа дзеля справядлівасці мушу адважна прызнацца, як разгубіўся я сам і як мяне злавілі.

Помню з тых дзён кожны свой крок і кожнае слова. Надышла восень 1950 года. Канец лета быў незвычайна прыгожы, а восень дужа багатая. Не ведаю, які ўдаўся ўраджай на сібірскіх палёх, бо мяне тады на гаспадарскія работы не ганялі. Але лагерныя гароды паказвалі, што восень мусіла быць шчодрая гаспадыня.

Інваліды не толькі лакамым вокам паглядалі на гароды, але рвалі і каштавалі кожную траўку. Пасля аперацыі і мой арганізм дамагаўся падмацунку, так як кожная расліна патрабуе вады, паветра і сонца. Нашая ежа давала гэтулькі клёку, каб не памерці, але не давала досыць сілы, каб жыць. Чалавек не жыў, а трываў, мучыўся і знемагаў.

Наш лагер ляжаў на поўдзень на схіле гары: можна было б з яго аглядаць далёкія прыгожыя прасторы, каб не высокая (праклятая!) загарадзь, якая адрэзала нас ад Божага свету. А ў лагеры мы мелі шырокія вытаптаныя дарогі, на якіх мы ўсцяж кружылі, як сляпыя коні ў манежы. Прыемнай аздобай былі на берагах лагера і паміж баракамі гародныя ўчасткі, на якіх расла бульба, гарбуза, крыху кветак і — краса ды надзея курцоў — табака. Гароды належалі да кіраўніцтва лагера, але малыя дзялянкі належалі да некаторых гурткоў вязняў, пераважна да блатных «прыдуркаў». Мы, «фраеры», мала цанілі такія прыватныя гароды, бо рэдка маглі з іх карыстаць, найбольш з прычыны частых этапаў. Толькі блатныя ўмелі нейкім таямнічым спосабам заручыцца спадкаемствам: пры этапах перадавалі і сплачвалі свае

пасевы адны другім. Яны рабілі між сабою слоўныя кантракты і разрахункі. Ім памагала вусная традыцыя, якой мы, «фраеры», не зналі.

Гэтым летам лагерныя гароды давалі вялікую надзею, а найлепш урадзілі агуркі. Гароднік быў «спец». Як усе «прыдуркі» — ён таксама быў вязень. Старшы гароднік з памочнікамі пад восень рабіліся ў лагеры самымі моцнымі «кулакамі». Іх шанавала нават улада. Цяпер працаваць у гародзе маглі толькі прыяцелі гародніка або самыя даверaныя слугі і служкі ягоныя. Іншыя «фраеры» маглі трапіць выняткова на гарачы сезон «жніва». А чужому чалавеку ўціснуцца на сталую працу — гэта было тое, што ўлезці ў змяінае гняздо ці ўставіць пальцы ў дзверы. І якраз такое шчасце спаткала мяне, нават без маёй просьбы ці заслугі. Ведама, што старыя работнікі сустрэлі мяне як інтруза: не прынялі ў сваю хеўру, не паказалі працы, а нават не гаварылі слова. Я мусіў аб усім пытацца самога гародніка: ён мне адказваў прыхільна, а яны аж скрыгаталі зубамі! Я ж хацеў паканаць іх цярплівасцю і добрым словам. Усе старыя работнікі працавалі хутка і зручна, а прытым ласавалі на свежую моркву, агуркі і інш. Яны ўважна сачылі кожны крок гародніка: чуць адышоў, паспешна грызлі, што пад руку папала! А ледзь паказаўся, працавалі як святыя.

Пайшла ў гародзе спешная работа — зборка агуркоў. Пры добрай пагодзе, у гармоніі сонца і дажджу, здаецца, можна вокам бачыць і вухам чуць, як растуць агуркі. А якая пышная зямля ў Іркуцкай вобласці! І як ручыць пагода: на рост збожжа ідуць буйныя дажджы, а на жніво прыходзіць яснае сонца, чыстае неба і ласкавыя вятры. Тут не бывае той сушы, як у стэпах на Волзе ці на Доне, і не заліваюць зямлі трапікальныя дажджы, якія здараюцца ў Маньчжурыі; тут няма ангельскіх туманаў, ні амерыканскіх бураў, ані прыбалтыцкай непагоды. Каб тут не сібірская зіма! І каб тут не сібірская машкара!.. І каб мы былі вольнымі працаўнікамі!

Мае практычныя таварышы паспешна загрызалі сваю работу неафіцыяльнымі агуркамі або шустра хавалі іх за пазуху. А я не меў той зручнасці ў рабоце, толькі быў больш ад іх галодны і слабы, дык таксама пачаў загрызаць сваю бяду маленькім агурочкам. Аж гароднік нязначна падышоў да мяне і прыкрыкнуў:

— Развяжы пояс!

Я паслушна развязаў і… няшчасная палавінка агурка звалілася на зямлю. Ягоная злосць не мела межаў. Шчасце, што ён

мяне не пабіў, а большае шчасце, што не даў у рукі начальніка, а толькі выгнаў, тупаючы нагамі, і з гарода і са службы. А Святое Пісьмо кажа: «Не завязвай пыску рабочаму валу!»…

Ну, што ж? Даўней у прыгоне, калі дзяўчынка, збіраючы ягады, паласавала сама, дык магла атрымаць 25 розаг. А цяпер за галоўку капусты з-пад снегу, за падабраныя каласы ў калгасе, за пару цвікоў у фабрыцы (закон з 7.VIII.1932) можна адхапіць расстрэл. Пры змякчальных варунках — лагер да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Дзеці ад 12 гадоў зраўнаныя з дарослымі (закон з 7.VII.1941). І нават за неасцярожную шкоду — такая самая кара! Калі ж (ад 2.V.1947) скасавалі кару смерці, дык тады лагер падвысілі да 25 гадоў. Калі ж кару смерці вярнулі, дык лагер застаўся ў норме 25!

Мы, 25-годныя, пачуваліся наскрозь забяспечаныя сваёй поўнай бядою, бо далей ішла толькі смерць. Але і нам ставала яшчэ досыць загрозы. Нам маглі яшчэ даць:

1) Лагерны карцар: норма 5 дзён, але пасля «перадышкі» норму маглі паўтараць.

2) Маглі нам забараніць пасылкі на 2–3 месяцы і болей.

3) Таксама лісты. Мы мелі права на 2 лісты ў год: за кару маглі яшчэ адзін зняць. Ад лістоў залежалі пасылкі, дык інвалід мог зусім страціць сувязь з домам і без дапамогі згінуць.

4) «БУР» — «Барак Узмоцненага Рэжыму» — гэта адгароджаная турма ў лагеры, з якой, аднак жа, ганялі на работу. Каралі «БУРам» на 2–3 да 6 месяцаў.

5) Высылка ў штрафны лагер.

6) Катаржная турма, або катаржны лагер.

7) Новае перасьледства і перасуд.

Вось савецкі «смок»-гідра, што мела 7 галоў і пагражала нам, засуджаным на 25 гадоў інвалідам!

Дык, як бачыце, я быў пястун лагернага лёсу: нарываўся шмат разоў, а сядзеў у карцары толькі тры гадзіны! І апошняя няўдача з агурком, відаць, выйшла з даносу: «настукалі» на мяне мае агурочныя калегі.

А ў позную восень, калі бяда яшчэ ўзрасла, а пасылак тады ў мяне не было, і я пaглядаў смерці ў вочы, я карыстаў «з добрай паслугі» аднаго таварыша, які частаваў мяне сырой капустай. Капуста добра смакавала і падтрымала мяне значна, толькі ж… не мелі мы на яе права. Я моцна ламаўся ў сумленні: што рабіць? Запярэчыць сябру — ён не паслухае; ці я мушу рэзка адказацца ад такога гасцінца? А я ж даваў маўклівую згоду. Не ведаю: мусіць, трэба было перацярпець і адкінуць такую незвычайную

дапамогу, каб не скрыпела тая загваздка ў маёй збалелай душы?.. Рассудзіце, чытачы, самі! Бо, ведаеце, голад — благі вучыцель: адбірае розум і даводзіць чалавека да шалу.

У «Дон Жуане» аўтар расказвае, што ў страшэнным голадзе на моры людзі з'елі свайго таварыша. Аднак тыя, што елі, усе пагінулі. Адзін Дон Жуан не еў і ацалеў.

На шчасце, тое баламуцтва доўга не цягнулася. Мяне ўзялі на работу пры гародніне. Тут ужо ніякая забарона не мела сэнсу, бо ўсе елі ўсё, што трапляла пад руку. І тут ніхто не аглядаўся на ніякую ўладу, а і само начальства забывалася аб савецкіх вар'яцкіх законах. Дайшла свабода да таго, што і наглядчыкі, а нат афіцэры і іншыя яўна падыходзілі да нашых вазоў, выбіралі самую чырвоную моркву і публічна хрумсталі, як і мы, простыя вязні. Як морква прайшла, мы кінуліся на бручку (турнэпс), на агуркі, на зялёныя памідоры (у Сібіры не спеюць), на буракі, на капусту і на цыбулю. За капусту ўжо пачалі на нас сварыцца, але мы мала баяліся. А за цыбулю крычалі і гразілі, дык трэба было баяцца. О, бо цыбуля тут самая ласая цукерка — яна найлепшая абарона ад цынгі. Але цыбулі ў нашым лагеры нам, вязням, не паказвалі і кухня мусіла яе сцерагчы ад усякай напасці. Часнок быў бы нам яшчэ больш прынадны, дый лагер часнаку чамусьці не гадаваў. Калі нарэшце кончылася зборка гародніны і калі шаткавалі і квасілі капусту, тады ўсе накінуліся на яе, але начальства стала гразіць карамі. Цяпер паганыя вязні, з гора ці з роскашы, грызлі сырую бульбу. І тут начальства не ведала, што рабіць — забараняць ці маўчаць?..

Пры сваёй непамернай прагавітасці мы ведалі, што ў гародах і ў складах трэба цяжка працаваць: нас дужа моцна падганялі: «давай, давай!». Дый мы і самі стараліся з усёй сваёй інваліднай сілы, бо кожны баяўся, каб не прагналі ад працы карыснай да працы пустой, як дровы, вада ці рамонт будынкаў і інш. Дык праца ў нас проста гарэла ў руках і была відавочная. Мы заквасілі два чаны капусты — на 2750 і на 3500 кілаграмаў, некалькі чанаў агуркоў і зялёных памідораў. А усё ж такі нам у сталовай давалі зяляніны вельмі скупа, нават і ўвосень.

Чаго, бывала, інвалід не «сажрэ»? Я сам чуў калісьці ад старых, што ў голадзе людзі ратаваліся лебядою, дык цяпер у лагеры і я паляваў на лебяду і магу паручыцца, што яна можа заступіць салату, бо ні разу мне не пашкодзіла. Інваліды выядалі траву як коні, хоць лекары сварыліся, а начальства забараняла. Хоць Сібір — «зялёнае царства», якое купалася ў траве, у кветках, у збожжы, і хоць лагеры мелі даволі гародаў, угнаення

і рук да працы, — аднак жа нам заўсёды не хапала зелені і ў нас панавала цынга, жаўтуха, малакроўе і дыстрафія (знямога), а таксама скурныя хваробы — экземы, раны, скулы, нарывы і розныя балячкі.

Сібірскія лясы — гэта найбагацейшае царства ягадаў: чарніцы, суніцы, маліны, журавіны, касцянкі і іншыя, а найбольш брусніцаў. Мы не ведалі назоваў розных сібірскіх ягадаў, аб якіх нам гаварылі, хвалілі ці мы чыталі або і самі бачылі. Мы не верылі вачам і баяліся каштаваць ядомыя ягады, якія тут бачылі ўпершыню. Аднойчы, як мы ішлі праз лес на работу і чапляліся за кусты, я сарваў некалькі ягадак вельмі смачных і аглядаўся яшчэ на больш — аж дастаў ад канвойнага добрым паленам у плечы. Ён здалёку добра трапіў у мяне і гэтым прыпомніў, хто я і хто ён! Справа на тым і скончылася, а магла стаць трагічнай, бо ён, паводле савецкіх законаў, мог мяне застрэліць за «крок убок». Таксама безліч тут арэхаў — кедравых і ляшчынавых, грыбоў, не гаворачы ўжо аб зверыне і рыбе…

Але пры ўсім непамерным багацці прыроды і пры ўкладзе прымусовай дарэмнай працы бязбожнікі, замест увесці народ у абяцаны рай, не патрапілі вывесці яго з савецкага пекла.

У 1952 годзе, калі вясной расцвілі кветкі і ў гародах усё памысна расло, раптам выйшаў загад вынішчыць гароды! Не думаю, што загад датычыўся ўсіх лагераў, але ў нашым і ў суседніх пачалі рваць і таптаць усё жывое, а нават нішчыць дрэўцы… Якая была прычына вандалізму? Няведама: нам давалі загад, а прычыну ведала начальства. Магчыма тое, што з гэтых лагераў бывалі ўцёкі?.. Гароды давалі, аднак, вялікую карысць, кветкі лагодзілі наш суровы рэжым, а тытунь сваім дымам саладзіў горкую долю вязняў.

Гэты дзівосны загад ці капрызная выдумка нашай улады пасля смерці Сталіна адпала (ах, як Сталін мудра зрабіў, што хоць раз памёр!). Цяпер дрэўцы засадзілі зноў, гароды ажылі гароднінай і кветкамі; нашыя курцы ажылі тым больш, што ў тым жа часе пачало прыходзіць шмат табакі ў пасылках і пачалі больш прадаваць яе ў ларках. Прадуктаў ларок даваў скупа, але затое ў апошніх часах папяросаў, сярнічак, нават муштукоў і ў канцы люлек не было недахопу. Казалі, што гароды скасавалі таму, што быццам бы «…дзесьці недалёка, у нейкім лагеры, нехта, некуды, некалі ўцёк…».

А іншыя, разумнейшыя, гаварылі, што «…можа, і праўда?..».

А яшчэ іншыя тлумачылі, што «…уцекачы нейкую пару хаваліся ў лагернай бульбе ці ў табацы…».

А мой добры знаёмы казаў, што «быццам бы іх там злавілі…», «…можа, і хаваліся?..».

А незнаёмы гаварыў, што «…Гм, можа, іх там і не злавілі?..»

## ЦІ Я ЗАРА ПАМРУ?

Таму і хворы,
што ў горы…

Зіма з 1951 на 52-і год вельмі мяне мучыла: вострыя маразы і праніклівы вецер, пры дрэннай вопратцы. А без ніякай жаласці выганяюць інвалідаў на работу — на сібірскія маразы! Бесканцовыя клапы (плюскі), марная яда, навокал згрызлівыя суседзі — старыя інваліды, безнадзейная будучыня, нуда і маркота… Да ўсяго і з прычыны ўсяго далучыліся ў мяне скулы, верады, нарывы і флегмона. Бягу ў амбулаторыю: там паспешна аглядаюць, мажуць і клеюць. «Дзякуй!» але, пакуль прыйду ў барак, наклейка злазіць. А скулы глыбокія… Што рабіць? Разрэзаў ручнік, сшыў бандаж і пачаў кампрэсамі лячыцца сам. Добра, што скулы ішлі па чарзе. Зноў да лекара! Робяць аўтагему: пераліваюць кроў маю з аднаго месца ў другое. Памагло і адлягло… але толькі на 2–3 тыдні. Здавалася, што дакачуся да глыбокай магілы, бо лекар не знаходзіў ужо ніякай рады.

Аж прыйшоў нечаканы ратунак — першая пасылка. Надзор кліча:

— Ад каго чакаеш?

— Чакаю ад усяго свету і ад усіх родных ды знаёмых з усяе Беларусі…

— Называй фаміліі і месца, бо інакш табе не дадзім.

Прытым наглядчык закрывае ад мяне скрынку, каб не падгледзеў адрасу. Як жа мне ўгадаць? Праз Маньчжурыю і вайну, праз турму і лагер я затраціў кантакт з сваімі роднымі і прыяцелямі ў Беларусі. Не ведаў, ці хто з іх жыве і дзе жыве. Пачаў наўгад называць адрасы і неяк на адзін трапіў.

— А хто пасылае?

Ніяк не магу згадаць! Але наглядчык быў даволі прыхільны і згадзіўся аддаць. Дый зноў перашкода! Не тое бацькавае імя…

— Сам ты разумееш, што нельга аддаць.

— Я разумею, — кажу яму, — але вы падумайце: нікога больш у лагеры з маім прозвішчам няма. Маё імя і прозвішча

тут без памылкі: значыць, няма вам ніякай небяспекі. І я… тое — гэта… Аднак калі не дасцё, дык што ж я на гэта параджу? Бывайце здаровы!

Адыходжу вельмі сумны, але спакойны. Бяда! Першая пасылка — ратунак ад смерці — і пойдзе назад, а я больш не дастану! Але зварухнулася і іхнае сумленне: яны бачылі, да чаго я дакаціўся, дык вярнулі мяне і пасылку аддалі. Усе мае знаёмыя так і ахнулі, што наглядчык аказаўся неспадзявана разумным і нечувана людскім… Магчыма, што прысутны лекар шапнуў сваё слова ў маёй абароне, бо ён ведаў аба мне больш ад начальства. Але пастанова залежала ад дзяжурнага наглядчыка.

Дасюль не ведаю, хто выслаў мой адрас маім знаёмым, а прытым змыліў імя майго бацькі? А ў гэтай шчаслівай пасылцы знайшлося самае важнае: цукар, сала, каўбасы і цыбуля. Прадукты, праўда, ужо прыстарэлі, бо пасылка пайшла маім следам — на Брацк, пасля на Цэнтральную бальніцу і на 0,20. Але вязні на гатунак не зважаюць, абы толькі прапусціў лекар. Былі там нават салодкія сухарыкі, якімі я тут жа ўгасціў наглядчыкаў, а яны ветліва не адмовіліся прыняць.

Мушу падкрэсліць, што ў лагерах нашыя пасылкі не прападалі. Пры выдачы некаторыя кантрольныя рэвідавалі вельмі сурова: забіралі прадметы Божай службы (аплаткі, кніжкі, ружанцы) або рэзалі і крышылі прадукты без толку і патрэбы. Також псаваліся прадукты летам пры перамене лагераў. І трудна было спісацца з сваімі роднымі, маючы толькі два пісьмы ў год. Быў выданы закон, што на пасылку можна адпісаць звыш нормы пісьмо на 15 слоў; аднак да нашых лагераў гэтага закону чамусьці не дапусцілі. І мае дабрадзеі дзівіліся і пісалі:

— Чаму не адпісваеш на пасылку? Бо іншыя пішуць тады «15 слоў», а ты чаму маўчыш?

А я не мог вытлумачыць ім на гэта нічога, бо баяўся, каб і з двух пісьмаў не сканфіскавалі аднаго «за клевету», калі напішу ім праўду.

Дастаўшы такую важную пасылку, хоць і нясвежую, я даслоўна аджыў: яна падзеяла, як аджыўчы дождж на завяўшую расліну. Як рукой зняло з мяне тыя скулы: раны пачалі гаіцца і больш не паўтараліся. Асталіся толькі знакі ад ранаў, якія сведчаць аб маім тадышнім здароўі.

Але, як усё на гэтым бедным свеце, так і мая памыснасць мела свае цені. Не маючы знікуль помачы да таго часу, я ўпаў у вялікія даўгі: мне дасюль памагалі мае таварышы, дык цяпер трэба было ім адпамагчы. Мяне ратавалі, гасцілі… Належала также загадзіць брыгадзіра, дзяжурных барака, суседзяў добрых

і благіх, каб улагодзіць адных і зачыніць рот другім. Былі перад вачамі сапраўдныя «лазары» і ўсе яны — мае бліжнія. Усё добра разважыўшы, я вельмі стурбаваўся і сказаў сам сабе:

— Божа мой, што мне рабіць?

Бо і 10 такіх пасылак не хапіла б на ўсё. А я ж сам быў «лазар» на сто працэнтаў і гінуў на вачох людзей… Дык вось скажу лаяльна, што і бліжнія мяне зразумелі і ўважылі: не абсядалі мяне, а ўмелі захаваць належную дыстанцыю, нейтральнасць і цярплівасць. Іншыя нават сумысна адхіналіся, каб я неразважна не расшастаў неабходнага сабе ратунку. І я з падзякай успамінаю сваіх разумных сяброў.

І вось ад гэтай пары беларускія прыяцелі памагалі мне ў нядолі, каб без пары не паваліўся: пасылкі ішлі да канца маіх лагераў — да 27 красавіка 1955 года. Праўда, ішлі яны рэдка і скупавата, бо памагалі мне людзі самі нямоцныя; а я не мог з імі спісацца, паквітаваць, падзякаваць ці папрасіць. Не мог, ведама, нічым адплаціць, апрача малітвы… І цяпер малюся, каб Бог літасцівы зжаліўся над іхнай доляй і каб аддаў ім — жывым, ці памерлым — паводле сваёй ласкавасці! А з заграніцы нельга было нічога дастаць, ані туды да каго пісаць. Дык уся надзея клалася толькі на нашую родную Беларусь, якая сама падпала ў нядолю і няволю. А мае родныя пагінулі або павыязджалі: значыць, ратавалі мяне людзі чужыя, часам — незнаёмыя.

Цяпер мушу сведчыць перад Богам і ўсім светам: каб не меў помачы ад Братоў і Сясцёр Беларусаў, я не перажыў бы гора і пераследу ў лагерах Савецкага Саюза! Вялікі ім дзякуй!

*

Толькі я паправіўся ад хваробы голаду, як пачала аднаўляцца апераваная ў 1950 годзе хвароба — крывавы гемарой, ды яшчэ ў горшай форме. Смерць назойліва закрадалася да сэрца і пыталася пра маю адзіную душу. Кроў зыходзіла багата, дык беднае сэрца не магло выжывіць убогага арганізму. Я пачаў дакучаць лекару, каб мяне паўторна выслаў у Цэнтральны шпіталь. Доктар Коган, вельмі паважаны тут медык, не мог не прызнаць майго няшчасця і наглай патрэбы ратунку. Ён заклікаў сваіх памочнікаў, д-ра Тарноўскага і д-ра Караля, на кансіліум. Яны згодна прызналі маю хваробу цяжкой і назначылі выезд у бальніцу. Аналізы і дыягназы паказалі, што ў мяне кроў добрая, але яе мала і сэрца б’ецца пустое, і аперацыя мусіць рабіцца адразу, бо кроў зыходзіць гвалтоўна.

Тут мушу аддаць справядлівасць свайму суседу з Харбіна, д-ру Тарноўскаму, з якім я перад тым горача паспрачаўся на рабоце. Ён паказваў там сваю зверхнасць, а я яе не прызнаваў. Тады Тарноўскі гразіў, што папомніць мне тое. І вось я сумляваўся, ці не захоча ён цяпер адыграцца? Але Тарноўскі патрапіў быць лепшым, чым я спадзяваўся; а нават не паказаў віду, што помніць тое здарэнне. Я выйшаў з кансіліуму абнадзееены на ратунак і ўдзячны лекарам, якія згоднай апініяй і націскам прапхнулі мяне ў бальніцу. А перашкод тады не бракавала. На аперацыю пасылалі толькі патрэбных работнікаў 1-й і 2-й катэгорыі, а інвалідаў — толькі ў заразных хваробах, як сухоты ці скурныя хваробы, а также звар'яцелых. У іншых слабасцях інвалідаў лячыў сам лагер у сваёй амбулаторыі. Дык я меў вялікае шчасце, што мне адразу далі ратунак ад пэўнай смерці.

Коган і Тарноўскі былі жыды, Кароль — з «тутэйшых». Усе мелі ў лагеры добрую славу; але нашая аптэка пуставала, і лекары заставаліся бязрадныя, як нямы спявак на сцэне. Інваліды Когана цанілі, Тарноўскага паважалі, а Караля любілі.

Мне ручыла і далей: пасля таго кансіліум, без затрымкі, улада лагера згрупавала кандыдатаў у бальніцу; знайшліся вялікія сані — «развалінкі» і добры каняга, які трухтам пацягнуў нас у бальніцу, у якой я ўжо быў на першай няўдалай аперацыі. І мне трэба было паўтараць з прарокам Давідам:

— Запалілася сэрца маё і я сышоў на нішто… аслабела цела маё… А мне добра ёсць прымкнуць да Бога майго: палажыць надзею маю ў Богу… (Пс. 72).

Прыяцеляў я меў шмат, і пры развітанні яны жадалі мне памыснасці. Пагода стаяла сонечная і прыгожая, мая прышласць зацягнулася густым туманам. Ці я знайду ратунак, якога так вытрывала дабіваўся?.. Аднак, надзеючыся на Бога, я пачуваўся вясёла і ехаў адважна.

## ЗНОЎ У БАЛЬНІЦЫ

Хвароба нічога не красіць.

Падыходзіла вясна 1952 года, але зіма не хацела здавацца. У сакавіку бываюць тут такія вострыя маразы, як у лістападзе, бо сібірская зіма прыходзіць і адыходзіць з трэскам. Сярэдзіна зімы больш памяркоўная: снежань не такі «снежны», як лістапад, а люты — не такі «люты», як сакавік. Калі на сваіх берагах зіма

дае маразы да 50 і болей, то ў сярэдзіне спускае да 20 і 15, а людзі цешацца і кажуць:

— Ах, як прыемна! Настала поўная «адліга».

Красавік не мае ніводнай краскі, але патроху робіцца стракаты: маразы ўцякаюць днём ад сонца, а трашчаць ад вечара да рання. Гаспадары падбіраюць самыя сонечныя дні, калі снег падпарыцца на стрэхах, і адразу ссоўваюць яго далоў.

Гэты год снегу навaліла багата: нашая дарога ў бальніцу свяцілася на сонцы як люстэрка — гладкая, выслізганая і бліскучая. Сані шоўгаліся на бакі, стукаліся ў снежную бар’еру і гразілі перавярнуцца, але ім не ўдалося, і мы шчасліва зрабілі свае 5 кіламетраў. Толькі ўжо мароз пачынаў добра шчыпаць за вушы, як мы пачулі:

— Стой, кабыла, прыехалі!..

Мы ўбачылі моцную шчыльную браму бальніцы, якая выглядала, як даўнейшая цвярдыня. Узброены наглядчык, які ўпускаў нас, меў такую абыдзенную міну, як бы прымаў дровы, а не жывых людзей. Мы прыбылі ззябшы, бо былі дрэнна апранутыя і самі старыя, худыя, хворыя. Тая нашая лагерная ўлада, як мачыха, не пабаялася пусціць нас слаба апранутых у зімовую дарогу. На шчасце, сонейка пажалела нас і не дало марозу прычыніць нам крыўду.

У аперацыйным корпусе лекары (Зазуліна — вольная і Панікоў — вязень) агледзелі мяне і сказалі старшаму санітару:

— Хворы — зусім дрэнны: ён не вытрымае аперацыі, дык яго трэба добра адкарміць. Пастарайцеся!

Далі мне лепшую дыету. А ў мяне — ані сну, ані апетыту! Дый кроў зыходзіла так, што смерць стаяла за плячыма. Пачалі мне рабіць уступныя аналізы, але я бачу, што з кроўю ўцякае з мяне жыццё. Паказаў Панікову, як ляціць з мяне кроў… Ён затурбаваўся — што рабіць? Нельга адкладваць аперацыі і няможна слабага рэзаць… І вось яны ўлілі мне 300 грамаў крыві 2-й групы. Я пачуў адразу, як супакоілася і ўзмацнела сэрца. Як тая машына, што пачынала слабець і станавілася, а як улілі балон бензіну, дык адразу пачула сілу і пайшла нармальна. Цяпер мяне хуценька палажылі на знаёмы аперацыйны стол. Рэзала Зазуліна, але я чуў, як камандаваў Панікоў, якога ўсе вязні хвалілі, як самага найлепшага аператара. Не ведаю, чаму Панікоў аказваў мне спецыяльную прыхільнасць? Яшчэ перад аперацыяй сказаў мне:

— Не бойцеся, мы вас наскрозь адрамантуем.

Пасля аперацыі яшчэ далі мне 200 грамаў крыві, і я пачуў, як прыбыла новая сіла. Кроў улівалі кансерваваную, што

бралі ад вязняў, якія мелі надцісненне. Потым, як я працаваў рэгістратарам і меў у руках сваю «гісторыю хваробы», я прачытаў, што мне ўлівалі кроў вязняў Нікіфарава і Шаўчэнкі. Значыць, зрабілі з беларуса інтэрнацыянал ці поўны Савецкі Саюз: беларуска-маскоўска-ўкраінскі. Але здаецца, што мая душа ад гэтага не перамянілася.

Д-р Зазуліна была працавітая, ціхая, без фанабэрыі, сімпатычная маладая жанчына. Адносілася да хворых спагадліва. Камуністкай яе ніхто не лічыў. Гаварылі, што рэжа без ніякіх дрыжыкаў. А найчасцей трапляла ў інвалідаў язва жывата. Казалі, што ад дрэннай яды, бо тады арганізм, не маючы добрай пажывы, пачынае з'ядаць самога сябе. І гэтыя язвы найбольш тут рэзалі.

Наагул аперацыі ў нас удаваліся, апрача аднаго прыкрага здарэння. Стары інвалід меў на пераноссі дакучлівую рану, што не давалася вылечыць. І вось нашыя лекары зрабілі яму аперацыю новым спосабам: надрэзалі над носам пласт цела, завярнулі ўніз, прылажылі да раны і зашылі. Мы цікавіліся, што будзе? Але хворы пачаў наракаць на боль галавы.

— Дактары мяне сапсавалі, — казаў ён. — Яны такой практыкі дасюль не мелі і на мне зрабілі пробу, каб пераканацца… А мяне скалечылі.

Я гавару дзеду:

— Пацярпіце! Яно будзе напачатку балючае, а пасля пяройдзе. Толькі вам трэба супакоіцца.

— Няма мне чаго чакаць лепшага. Яны… дактары… тое і гэта… «сапсавалі».

Ён так скуголіў і скрыпеў, што ўсім у палаце псаваў нервы: не разумеў дзед, што і сябе заганяе ў горшую хваробу ды і нам не дае супакою. Аж я ўздыхнуў вальней, як мяне адтуль забралі. І больш з тым наракайлам, ані з другімі сябрамі я ўжо не спаткаўся.

*

Здарыўся ў бальніцы незвычайны выпадак: сама лекарка мусіла ісці на аперацыю, хоць была зусім здаровая. Загаварыла аб гэтым уся больніца: адны дзівіліся, а другія смяяліся:

— Як з ёй гэта сталася?

— А так: прымала ў хаце лякарства і раптам дастала завароту галавы і… праглынула сярэбраную лыжачку!

— Шкода лыжачкі…

— Ужо была ў рэнтгене: лыжачка ляжыць папярок у жываце. Трэба зара рэзаць.

— Так-так! Гэтулькі рэзала людзей, дык і самую хоць раз…

Аперацыя прайшла памысна.

А я скажу ад сябе: каб у кожнай бальніцы былі такія акуратныя, ахвярныя лекары, як нашых двое, дык, мусіць, смерць пайшла б з торбамі. А самую бальніцу так разбудавалі ад 1950 года, так абставілі сучаснай тэхнікай і фаховымі сіламі, што надзівіцца! Але, як усё ў Саветах, адно псуе другое: на падабенства казкі «Трышкін кафтан», дзе майстар рэзаў полы, каб надтачыць рукавы. Бо вось харчаванне хворых засталося без ніякае паправы. Натварылі шмат дыет, катэгорыяў і «пеляргаў»; абцяжылі кухню фармальнасцю, але гэта ўсё былі толькі назовы, бо давалі недастаткова акрасы, зелені, малочных прадуктаў і ў канцы згаладаных хворых лячылі голадам.

*

Былі тут два вялікія корпусы для сухотнікаў, два для нервовых і псіхічных, адзін для вочных, адзін для наскурных, два аперацыйныя, два для нутраных, два для здаравеючых. Была лазня, розныя склады, вялізарная кухня, асобная рабочая зона і г. д. Ага! — не забыцца — бальнічны карцар — паўзямлянка ў дзве калючыя загародкі, з двума варотамі на замках. Карцар — вельмі цікавая ўстанова, якую я часта наведваў, але аб гэтым будзе далей.

*

У нашым корпусе ляжалі абапал два маладыя хлапцы, якія мелі аднолькавую долю. Кожны меў задзёртую ўгару нагу з падвешанай гірай: у іх было па два зломы на назе, вышэй і ніжэй калена. Перад калецтвам абодва працавалі ў лесе ў адной брыгадзе. І абодва, як бы згаварыўшыся, дасталі тыя паломы — перш беларус, а за тры дні — украінец. Ляжалі ўжо трэці месяц і падружылі з сабою як родныя браты. Згодна цярпелі, гутарылі, жартавалі — усё ішло добра, а толькі баяліся, каб іх не раздзялілі. Яны ўжо папраўляліся, як я іх адведаў. І вось беларус аздаравеў: яго паставілі на кастылі і назначылі ў этап. Пры развітанні яны плакалі, як дзеці, а мы дзівіліся і спачувалі, але ніхто нічога не мог парадзіць. Але трэба ж дзіва?! Беларуса за пару тыдняў вярнулі ў бальніцу.

— Я, — казаў ён, — расстагнаўся, пасварыўся з начальствам, і мяне вярнулі.

Аднак жа нічога не памагло: беларуса да ўкраінца не дапусцілі. Яго тут крышку падлячылі і накіравалі ў другі лагер. Бо начальства не любіць нашай дружбы. А ўкраінец далежваў сіратою і быў бязмерна сумны-адзінокі…

У бальніцы шмат людзей хварэла на ціск крыві. Даўней лекары забаранялі ставіць п'яўкі і пускаць кроў. А ў нашай Цэнтральнай бальніцы толькі такім спосабам і лячылі, што ад пары да пары пускалі кроў. Часова хворыя папраўляліся, але ненадоўга. Адзін паважны доктар мне шчыра сказаў:

— Мусім прызнацца, што мы дасюль тутка не вылечылі ніводнага такога хворага: вось так толькі працягваем і жыццё і хваробу.

Калі я пасля, як рэгістратар, пазнаёміўся з «гісторыямі хваробаў», дык аж жахнуўся, што так шмат людзей пакутуе ад надціснення. А я не меў і палавіны іхнага і пакутаваў ад малакроўя.

З адным з такіх заавансаваных я меў вялікую сутычку: ён спаў на ніжэйшых пада мною нарах. Чалавек гадоў за 50. Вонкава выглядаў на моцнага мужчыну: рослы, плячысты, чырвоны і энергічны. Балгарын — македонец: належаў да тых даваенных партызанаў-«македонцаў», што вялі змаганне палітычным тэрорам супраць захопнікаў Македоніі, найбольш супраць Сербіі. У майго суседа рэвалюцыя-бунт запанавалі ў душы: ён проста азвярэў, а рукі бывалі ў крыві вышэй локця…

І паміж вязнямі — чуць здарылася яму якая прыкрасць, гэты «македонец» лаяўся ганебнымі словамі. А я не мог сцярпець, хоць балгар мяне не чапаў, і я наважыўся яго пасароміць. Але куды мне слабасільнаму і мізэрнаму парывацца на грознага людабоя, якога баяліся блізка 120 жыхароў нашай падвойнай палаты?! Ніхто не смеў яму пярэчыць: ён меў такі тыранскі выгляд, уладарны тон, рэзкі голас і бліскучы зрок, што ўсе перад ім замаўкалі і расступаліся, як перад лютым тыграм. Ён проста здумеўся, што я не толькі яго не збаяўся, але смела сам атакаваў яго! Тут увесь прысутны народ разявіўся шырока і чакаў катастрофы. Але я быў такі пэўны свайго права, такі спакойны і адважны, што сусед-звер сам змоўк, пачмыхаў носам і паволі асеў. Так часамі цёмная хмара, з траскучымі перунамі, пакружыць і адсядзе, не зрабіўшы ніякай шкоды. Пакрыху македонец пачаў са мною загаворваць. Дзень за днём мы гутарылі з ім нямала: ён мне расказваў аб сваіх падзеях, прыгодах і жудасных пагромах.

А я слухаў яго — то настрашаны, то цікавы, а то прыгнечаны… Не перарываў расказу, бо баяўся падражніць, дый хацеў даць яму свабоду выказаць перамогу і няўдачы, каб ён мог аблягчыць стурбаваную сваю душу.

І так гэты гарачы патрыёт і страшэнны тэрарысты, чалавек абсалютна мне чужы і далёкі, прыбліжаўся да мяне штораз больш. Гаварыў ён з поўнай шчырасцю, як бы адбываў таварыскую споведзь, магчыма, першую ў сваім неспакойным жыцці і апошнюю. Я не таіў перад ім свайго святарства, але ён гэтым не бянтэжыўся. І ў мяне нават будзіўся нейкі сантымент да чалавека брата, такога дзіўнага і жудаснага. Ажно мы, самі не ведаючы аб тым, пачыналі даходзіць да тэмаў паважных і глыбейшых. Македонец часам зрываўся, лаяўся і крычаў на таварышаў. Але таго было менш і радзей. Хоць я ўжо не мяшаўся да яго і маўчаў, аднак сусед, відаць, разумеў, якую мне робіць прыкрасць…

Аж аднойчы я яго не знайшоў у палаце: яго неспадзявана, ціха забралі ад нас і накіравалі некуды назаўсёды. А я пачуваў боль сэрца і жаль да яго і да сябе: шкадаваў сабе, чаму мы не прадбачылі расстання і не дагаварылі некаторых важных тэмаў? Шкода мне было разумнага, хоць і запальчывага чалавека, які неразважна ішоў на спатканне з вечнасцю і з самым Богам, маючы на душы вялізарны цяжар.

Даручаю ягоную душу бясконцаму Божаму Міласэрдзю! Каб Бог яе супакоіў у ціхай вечнасці. Бо на гэтым свеце ён шукаў праўды і справядлівасці ды дабра, хоць і фальшывымі дарогамі, і не меў ні дабра, ні шчасця. Вялікі разбойнік і слабы чалавек… і вельмі няшчасны…

## «НЕ ПАМРУ, АЛЕ ЖЫВЫ БУДУ»

Вось папраўляюся відавочна і хутка. Цяпер і ўмовы ў мяне лепшыя, бо зноў дастаў з Беларусі пасылку і хутка другую! І якраз на самы крызісовы перыяд, калі ўставаў з ложа сваёй немачы. Мяне перавялі ў перасыльны корпус. Наш барак стаяў на самым вышэйшым пункце лагера. Адсюль гарызонт адчыняўся на поўную вольную волю. А Бог, які і сам незалежны і вольны, стварыў і нас «на абраз і падабенства сваё», дык вось згэтуль і ўся цяжкасць лагернага жыцця. Каб не тая цяга да волі, дый каб не злыбеда няволі, дык лагер тым людзям, што маюць рэгулярныя пасылкі, быў бы добрым прытулкам, далёка лепшым як калгас ці вольнае пасяленне, дзе так цяжка зарабіць і пражыць. Дык,

калі чалавеку несправядліва адбяруць волю, тады чуецца найстрашнейшае мучэнне і крыўда. Ады ж і такі частковы пробліск волі, як адкрыты для вока краявід, — і гэта ўжо прычыняе вязню вялікую радасць.

Пад поўдзень паветра награвалася і ўся інвалідная брацьвылязала з сваіх бэбахаў на прызбу, каб нагрэць азяблыя косці. Але пачатак лета бываў часамі капрызны: як павее, бывала, паўночны вецер — «сівер», дык інваліды бягуць, пхаюцца ў баракі і марынуюцца там у цясноце і гармідары.

Аж вось лета ўгрунтавалася зусім. Так нам добра на дварэ, што мы павыносілі сталы і будзем есці на вольным паветры. А ў перасыльным корпусе рэжым лягчэйшы. Мы разварушыліся і павесялелі: нашыя галасы і смех разлягаюцца па ўсім лагеры. Каб нам не было, аднак, лішне добра, дык прырода і людзі мелі тут шмат спосабаў затруваць нам жыццё. Ведамая сібірская машкара так развялася, што сыпалася нам у міскі, як дробны мак. Немагчыма есці! І шкода выліваць суп, бо што ж будзем есці? Адны старанна выкідалі і брыдзіліся, але зара насыпалася новая. А другія без цырымоніі елі той суп «трэфны», як бы засквараны…

Старшы санітар, якога мы баяліся больш чым лекараў, быў сібірак, з мешанай расейска-бур'яцкай сям'і. Такіх за Байкалам жыве тут нямала. Яны вонкава падыходзяць з выгляду больш на манголаў, як славян: рослыя, касцістыя, з круглымі абліччамі. Колер скуры — светла-бронзава-медны. Яны бывалі часта патомкамі даўнейшых звольненых катаржнікаў, якія пажаніліся і прыжыліся ў Сібіры. Людзі вынослівыя, упартыя, маларухавыя, бо прывыклі доўгай зімою хадзіць у цяжкой вопратцы. Характары мелі скрытыя, недаверлівыя і цяжкія.

Наш старшы санітар быў у сярэдніх гадох — мусіць з крыміналістаў. Мужчына моцны, характар станоўкі, голас рэзкі, твар насуплены. Меў у горле кусок устаўленай трубкі, праз якую дыхаў. Сваім штучным голасам грымеў на нас, як Юпітар, а вачамі страляў, як Марс. Ніхто не мог яго не паслухаць. А начальства любіла такіх грозных хуліганаў ставіць на брыгадзіраў, на старшых санітараў, на камендантаў і на нарадчыкаў. Яны траплялі наводзіць вонкавы бліскучы парадак. І тады «ўсім было добра», апрача інвалідаў…

У першых днях майго там жыцця я меў інцыдэнт з старшым (і страшным) санітарам. Неяк рана, наводзячы парадак у палаце, наш Юпітар так раз'юшыўся, што стаў сыпаць самымі паганымі блюзнерствамі. Усе, ведама, стулілі вушы і пакорна маўчалі, а я востра запратэставаў:

— Вы не маеце права зневажаць нас, веруючых людзей!

— Цябе не датычыць! Ты чаго мяшаешся? Да цябе не гаворыцца…

— Як «не датычыць»? Вы лаеце ўсіх агулам, а я таксама тут жыву.

Прысутныя так і струхлелі! Савецкія людзі прывыклі маўчаць, як пустэльнікі. Я і сам тут падумаў:

— Куды ж мне выступаць супраць такога? Каб ён мяне бразнуў аб зямлю, дык я і касцей не пабраў бы! Аж вось сталася рэч небывалая: Юпітар бліснуў вачамі, захрыпеў металічным горлам і… замоўк. А пасля таго мы адзін другога не чапалі: ён абмінаў мяне моўчкі, а я абыходзіў яго асцярожна і здалёку.

Памочнікам санітара быў раздатчык, дужа несімпатычны тып. Гэты Іван Міронавіч выдзяляў нам яду, бо ў бальніцы кожная палата есць у сябе. Іван быў чалавек сухі і целам і духам: насуплены і недаступны. Даволі рухавы, але скрыты, як бы за пазухай трымаў схаваны штылет. Мусіць, ён меў на сумленні затоенае злачынства. Відаць, заядала яго нуда, немарасць і цяжкія ўспаміны… Я чамусьці яго не баяўся: падыходзіў, гаварыў з ім свабодна, хоць не ахвотна.

І вось здарылася, што нашага «Юпітара», як спецыяліста, начальства паклікала да нейкай пільнай гаспадарскай работы, і ён ад нас адышоў. Тады Іван Міронавіч авансаваў на старшага ў палаце. Патрэбны быў новы раздатчык. Ахвотнікаў хапала, але Міронавіч назначыў… мяне! Я ж мог бы адказацца, дый, не падумаўшы, сказаў: «Добра! Папрабую…»

Я працаваў як артысты, бо ўжо бываў і дасюль раздатчыкам у брыгадах. Толькі ж тут гаспадарка аказалася шырэйшая. Былі і памочнікі. Аж вось прыйшоў да нас «Юпітар». Заўважыў мяне на высокай пасадзе раздатчыка, відаць, моцна здзівіўся, але палітычна не паказаў віду, што яму не спадабалася мая кандыдатура. Так я і застаўся. Служба раздатчыка вельмі цяжкая і адказная: дзяліць прадукты пры паўгаладоўцы… не дай Ты, Божа!

З кухняй я часамі не мог зладзіць, бо там не ўмелі ці не хацелі нашай нормы дамераць ці далічыць; а затое дамагаліся, каб я ім верыў без кантролі. А калі чаго ў мяне не хапала пры раздачы, дык я мусіў надрабляць сваёй роднай порцыяй, бо інакш сказалі б, што я ўкраў. Затое калі б што заставалася, тады я мог бы свае страты адбіць. Але, на маю бяду, нічога лішняга ніколі не заставалася! Дый у шпітальнай кухні ўсё мералі, як у аптэцы. Наагул у Саюзе нічога звыш нормы не даецца; а калі нормы не хапае, кухня надрабляе вадой або абразае і так скупую норму ці стараецца недамераць…

Значыць, мне трэба было першаму трапіць у чаргу пры кухні і там добра навастрыць вока, вуха і нос, каб хутка ўсё ад іх прыняць і палічыць у лёт. І злосць бярэ і смех, бо кухня не любіць, калі я ўслед рэгіструю рыбу, селядцы, булачкі, порцыі і інш. Бо пасля ўжо рэкламацыі не прымуць, а шэф-кухар толькі скажа:

— Як ты адышоў, дык і канец! Прэтэнзіі не прымаю.

Гэты «шэф», ці Іван Калодавіч, як яго празывалі, меў гэтулькі злосці, колькі вагі, а важыў 160 кілаграмаў. Для яго ў кухні прадуктаў хапала…

Быў яшчэ ў нашай палаце «капцёршчык», які меў апеку над вопраткай і бялізнай. Высокага росту, добрай тушы, стары, але яшчэ моцны. Трымаўся фасоніста, як стары ваенны афіцэр. Мала таварыскі, а вельмі фанабэрысты. Інтанацыя голасу — начальніка: сказы кароткія, абрывістыя, цвёрдыя. Так мы і меркавалі, што меў ён у арміі нямала людзей пад сваёй камандай. Я спачатку працаваў у ягонай «капцёрцы» пры направе бялізны. На мае пытанні адказваў праз зубы, уважаючы гэтыя справы за дрэнь і дробязь. Кажа мне раз дужа задзёрыста:

— Я такога глупства не знаю!

— Як-то не знаеце? Гэта ж датычыць вашай работы…

— І не хачу знаць!

— Чаму ж так?

— А вы знаеце, хто я?

Я пакруціў галавою. Кажу:

— Не, не магу разгадаць.

— Я — генерал-палкоўнік! Вось хто я…

Цяпер я зразумеў, чаму ён «таго» не знаў. І больш зразумеў, што ён быў стары камуністы і што ў наглай небяспецы вайны зайшоў у іх высока і дастаў чын генерал-палкоўніка. А пасля вайны не дапасаваўся да новага курсу і, як збракаваная манета, выйшаў з абароту, бо зашмат знайшлі ў ім «лігатуры» і яго «зліквідавалі» ў лагер, дзе зрабілі «капцёршчыкам». Таксама «чын» вялікі і працавіты…

*

Да нашага корпуса належала апека над карцарам. Бальнічны карцар трымалі больш строга, як у лагерах. Каб карміць замкнёных вязняў, трэба было адамкнуць пяць замкоў: 2 у падвойнай загарадцы, адзін — у самы карцар, адзін — у дзвярах камеры і адзін у «кармушцы»! Я насіў (як раздатчык) туды для замкнёных гарбату, цукар і хлеб, а ў 4-ты дзень — міску супу.

Здарыўся пры мне вязень, якога з вагона пасадзілі чамусьці адразу ў карцар. Ён аб'явіў там галадоўку: браў ад мяне ваду, а хлеба не браў: я рэгулярна прыносіў, а ён упарта адкідаў. На 5-ты дзень яго зноў узялі ў этап. Тады ён запытаў есці і смагла паабедаў. І толькі ў канцы я даведаўся, што ён быў у блатных важнай асобай, мусіць атаманам?..

А быў другі тып яшчэ цікавейшы: блатны — хворы на ногі. Гадоў трыццаці. Худы як шчэпка. Гаваркі і вясёлы. Меў такія прыгожыя вусы, што мог бы хоць на якім конкурсе дастаць 1-шы прыз ды і сам дужа быў прыгожы. А з ягонымі нагамі выходзіла нейкая загадка: лекары цвердзілі, што хворы павінен рухацца і хадзіць на кастылях, а ён ляжаў «покатам», курыў, балбатаў і не даваўся рухаць. Нарэшце навялі на яго кансіліум высокіх спецыялістаў, якія пацвердзілі дыягназ. Хворы, аднак, упіраўся далей. Дастаў пяць дзён карцару. Я непамерна дзівіўся, як ён перацярпеў. Але праз яго цярпеў і я: ледзь мы зацягнулі яго да карцару, а ад брамкі я нёс яго «на барана». Карміў яго ў карцары; а пасля зацягнуў у лазню, мыў і даў назад у палату. А ішлося далёка і пад гару… Усяго майго шчасця, што калека быў худы.

Ён зноў залёг і не згаджаўся хадзіць. Яшчэ — карцар! А мне новая пакута… Аднак найгоршая спаткала мяне бяда і экзамен, як калегі блатныя прымусілі занесці яму папяросы і сярнічкі! Небяспека пагражала мне з двух бакоў: адказацца я не мог, бо блатныя маглі б памсціцца. А перанесці папяросы… як надзор зловіць, дык мне самому — карцар або і суд ці штрафны лагер. Тут ужо я страціў увесь свой рэзон. Аднак панёс і перанёс! Дый недабыў я з ім тых другіх пяці дзён, бо, на шчасце, мяне назначылі ў этап. Толькі брала цікавасць, што сталася з маім пацыентам, з ягоным карцарам, з нагамі і з закруцястымі вусамі? А тыя «вусы — як у пакусы», ледзь мяне не з'елі…

## ЛАГЕР 0,7

Турма — красна, ды чорт ёй рад.

Ішоў 1952 год, 15 жніўня. Год для нас, вязняў, вельмі цяжкі і безнадзейны. Ніякай прадухі! Ані нават на 70-я ўгодкі Сталіна вязні, хоць шмат сабе абяцалі, не дачакалі лепшага нічога. А і далей аніякія савецкія святкі не ўносілі новага нічога, і аніякія камісіі, што часта наязджалі — таксама. А калі здараліся якія рэформы, дык толькі на горшае. Часамі камісія нам давала надзеі або абяцанкі, але надарэмна! Часамі камісія грымела на нас і

на начальства, але таксама ў пустое, як сухім летам бывае, што хмара пагрыміць, але абыдзе бокам.

Не толькі не прыходзіла амністыя, але і тым вязням, што канчалі тэрмін, начальства цягнула лагер далей. А іншых вязняў перад канцом кары выклікалі на перасьледства і суд даваў ім новую кару за тую самую старую справу. Або бывала «дабаўка» без суду, толькі завочным дэкрэтам. І яшчэ адзін спосаб: давалі такую «свабоду», што вязень ад яе адмаўляўся… гэта — «вольнае пасяленне», дзе была воля агранічаная да невялікага раёна. Практычна рабілася так, што вязня пасля кончанай кары пасылалі з нашай Іркуцкай акругі ў Краснаярскі край, а там вастрэйшы клімат і цяжэйшае жыццё. Інвалід ледзь мог зарабіць найніжэйшую норму, якой там не хапала на ежу-адзежу, на кватэру, на розныя адлікі ды іншыя выдаткі. Дык як жыць? Згінеш! Хіба красці?.. Але як у Саветах украдзеш, калі трэба ўсім добрым людзям красці? І калі там нават блатныя, якія крадуць з прафесіі, і то пападаюцца… хоць з’елі на гэтым зубы, ды і то больш «сядзяць» як ходзяць…

Сапраўды, цяперашні свет атамнай бомбы і сатэлітаў у сваім жыцці на зямлі стаўся зусім ненармальным! У багатых краях лянівыя людзі крадуць вялікія сумы і выкручваюцца ад малой кары; а ў Саветах працавітыя людзі крадуць самую дробязь і дастаюць да 10 і больш гадоў!.. Там рабуюць гангстэры і бандыты з распусты і збытку; а ў Савецкім Саюзе крадуць самыя сумленныя людзі, якія пры цяжкой працы не могуць пражыць…

Вось жа інваліды зусім не хацелі выходзіць на «такую» волю, што ім давалі, і трэба было іх выганяць. Аднаго ў нас вынеслі на насілках і выкінулі за браму ў поле, на поўную свабоду. Я сам бачыў, як аднаго ўпартага вялі да брамы пад рукі ўдвух; а трэці цягнуў яго спераду, а чацвёрты папіхаў ззаду, пяты накладаў яму шапку; а інвалід трос галавою, каб яе скінуць, і шосты ішоў наперадзе з паперамі, — так давалі волю…

Малады лекар, савецкай школы і гадоўлі, беларус, расказваў мне, што дастаў на судзе 10 год і выслалі яго ў Алтайскі Край. Там яму паручыла: ён працаваў звольнены ад канвою, — рана выходзіў на вольную практыку, а вечарам мусіў вяртацца ў лагер. Алтайскі Край — самы багаты і мае найлепшы клімат, дык доктару жылося не дрэнна. Але па 4 гадох ён дастаў перасьледства ў той самай справе і новы суд, які яму даў новых 25 год.

Колькі падобных, нязмерна цікавых падзеяў я наслухаўся ў турме і ў лагерах! А год 1952 даводзіў нас да роспачы, бо не споўніў ні адной савецкай абяцанкі, — аж цягнула нас, каб гэты

год праклясці, як у Старым Запавеце няшчасны Іоў кляў дзень свайго нараджэння, страціўшы ўвесь свой дастатак і здароў’е… і сям’ю — сем сыноў і тры дачкі. І мы страцілі ўсё — аж хацелася клясці:

— Каб гэты наш паганы год выкінулі з усіх календароў! Каб яго ніхто не ўспомніў добрым словам! І каб тыя, што нас пакрыўдзілі, самі трапілі на нашае месца!..

Не! Лепш будзем жадаць паводле Новага Запавету…

— Каб Бог прасвяціў народы Вольнага Свету! І каб прасвяціў маіх чытачоў, — каб усе пазналі і прынялі да сэрца праўду аб бязбожніках і іхным пякельным «раю»! І каб справядлівы Бог тых нягоднікаў, што нас дарэмна мучылі, пакараў для іхнага навароту! Каб бязбожнікі зразумелі, што і яны — людзі, з душою несмяротнай.

У гэтым годзе рэжым узмацніўся яшчэ больш. Напрыклад, перш давалі ў барак газету (ведама, савецкую), і кожны мог яе чытаць. Цяпер мусіў чытаць голасна адзін для ўсіх: усім слухаць і маўчаць. Дыскусія забаронена, а брыгадзір адказвае за парадак. Дый і гэта аказалася небяспечна, і хутка выйшла забарона чытаць публічна, бо некаторыя слухачы смяяліся не там, дзе трэба, і не так, як трэба; або рабілі неадпаведныя міны. Дык ужо дазвалялі чытаць толькі ў адзіночку, прыватна і без агаворкі. А пакрысе і зусім газета знікла. Толькі пасля смерці Сталіна газету мог чытаць хто хацеў і як хацеў.

Каб нам дагадзіць, добрае начальства дазваляла пісаць просьбы, скаргі, заявы, пратэсты, пытанні і выясненні, — да пракурора раённага, абласнога і Генеральнага, а нават і ў Вярхоўны Савет. Вязні тады пісалі і прасілі аб паўторным разглядзе справы, аб перасуд, аб амністыю і іншае. Я сам напісаў у сваёй справе тры заявы ў Маскву. Карысць была такая, што вязням станавілася лягчэй на сэрцы, бо ажыўлялася надзея перамены. Чалавек тады чакаў адказу, гаварыў аб сваёй справе з другімі, жаліўся, крыўдзіўся, згадваў, або злаваўся, або маліўся — адным словам — жыў! І сапраўды, трэба прызнаць ласку ўлады, што за два гады на 700 вязняў у 0,7-м штось пяці ці шасці людзям быў дадзены на іхныя просьбы адказ! Я сам бачыў і чытаў вось што:

— Вашая заява ў нас зарэестраваная пад нумарам… дня… месяца і года…

Або другая папера:

— Вашую скаргу мы пераслалі да вашага абласнога пракурора дня… месяца…

Эх, як тады ажыўляўся ўвесь лагер! Бо шчаслівы вязень паказваў тую важную паперу направа-лева. Усе чыталі, разважалі і пісалі яшчэ і яшчэ… І здарыліся два-тры выпадкі перасследства. Я сам, праўда, не дастаў ніякага адказу, але спадзяваўся доўгі час. Думаю, што нашыя заявы наагул не ішлі далей нашага канцылярскага кошыка, бо квітанцыі нам ніхто не даваў і кантролю не было. А калі б і даходзілі да Вярхоўнага Савета, дык хто б там здолеў прачытаць скаргі ад дзесяткаў мільёнаў пасаджаных вязняў і разглядаць ды даваць рэзалюцыі… Сталін драбязой не турбаваўся, Швэрнік не прачыхаўся, а Варашылаў наагул ніколі нічога не ведаў і нічым не цікавіўся. Толькі падпісваў, што разумнейшыя яму загадалі — аж пакуль папаўся сам…

У нашым лагеры пражываў чалавек, якога нельга абмінуць у гэтых успамінах, Кастусь Касач з-пад Ашмяны. Тыповы беларус: ціхі — як авечка, працавіты — як вол і верны служка — як сабака. Даглядаў лагерных свіней. Цэлымі днямі ён саматугам насіў і вазіў свіны корм з кухні ў рабочую зону. Сам з сабою вечна штосьці мармытаў, маліўся і пяяў набожныя песні. Дружыў з свіннямі сардэчна і, як блудны сын, сам пры іх карміўся, хоць, як блуднаму сыну, і яму не было гэта дазволена. Працаваў так старанна, што яму, хутчэй як іншым, трэба было б даць адзнаку «Героя Савецкага Свінарніка»; але тут з яго толькі смяяліся. Ніхто не ведаў, як Касач перажываў расстанне з сям’ёй і лагерны здзек. Я пісаў яму скаргі да Генеральнага Пракурора, і я адзін ведаў аб ягоных крыўдах. Бо вось пры немцах стараста іхнай вёскі паслаў Касача на варту. Казаў:

— Ты, Кастусь, ідзі пастаі на канцы вёскі і павартуй. Калі хто пакажацца з лесу, дык ты бягом бяжы да мяне і кажы! Пільнуй добра і глядзі не прапусці…

— Пайшоў я: пастаяў гадзіны дзве, глядзеў пільна, але нікога не ўбачыў. Аж прыбег да мяне старастаў сынок і кажа: «Тата казаў, каб дзядзька ішоў сабе дахаты». Ну, я і пайшоў сабе…

А як прыйшлі бальшавікі, Касача з іншымі арыштавалі, і ён на судзе даведаўся, што тады вартаваў супраць савецкіх партызанаў. Яму далі 10 год.

Касач быў чалавек просты і непісьменны, баязлівы, цярплівы, паслухмяны і працавіты. У галубінай прастаце ён не ведаў, што трэба быць «хітрым як вужака», і за гэта дастаў дзясятку. Я ўсё тое апісаў дакладна, але пракурор, відаць, не чытаў, бо не адказаў ані слова.

Другі беларус, мне памятны, называўся Ігнат Падгорскі з-пад Смаргонь. Мы доўга з ім працавалі ў адной брыгадзе і спалі по-

бач на адных нарах. Грызлі нас адны плюскі ў бараку і машкара на рабоце. Быў ён сільнейшы за мяне і практычны гаспадар; а я быў і слабейшы, і непрактычны, і не гаспадар. Прытым мяне дражніў назойлівы крык брыгадзіра «давай-давай!». А Падгорскі ад таго ані здрыгнуў, як бы каркала варона. Мой Ігнат умеў да мяне дапасавацца: або памагаў мне ў рабоце, або зручна марудзіў і надчэкваў мяне, або мітыгаваў мяне ў поспеху. Брыгадзір на Падгорскага не крычаў, бо ніяк не мог яго падлавіць, а толькі паглядаў на нас дваіх крыва. Ігнат быў моцны духам і целам: яго можна параўнаць да цярплівага Іова, бо страціў усё: тры сыны — у лагерах, дачку і зяця — таксама. Чацвёрты сын згінуў у партызанах; а жонка з наймалодшай дачкой працавалі ў калгасе. Хутар і ўся салідная гаспадарка — змарнаваная. Сам Ігнат з прычыны сына — партызана — арыштаваны. На следстве яму казалі:

— Прызнайся, што ты ведаў, дзе твой малодшы сын!

— Нічога я не ведаў.

— А ён прыходзіў да вас з лесу ад партызанаў, ад тых «краёвых»…

— Зусім не прыходзіў.

— Тут ёсць сведкі, якія бачылі.

— Сведкаў няма, бо мой сын не прыходзіў.

— Зара пабачым.

Следчы паклікаў суседа-«стукача», які набрахаў на Падгорскага і пытае таго:

— Ці ты знаеш Падгорскага?

— Знаю.

— Што ты ведаеш аб ягоным сыне?

— Ведаю, што быў у краёвых партызанах: прыходзіў з лесу да бацькі. Я сам бачыў.

Тады суддзя да Падгорскага:

— А ці ты знаеш сведку?

— Я яго не знаю.

— Як не знаеш? А чаму ён цябе знае?

— Я — такі гаспадар, што мяне знае ўвесь раён, а я ўсяго раёна знаць не магу. І ён на мяне брэша, бо мой сын да мяне не прыходзіў.

— У карцар!..

Засудзілі Ігната ў карцар на 8 дзён на холад — толькі ў бялізне. Не было там нічога, апрача парашы. Казаў мне Падгорскі:

— Увесь час я тупаў па каморцы: прысяду на парашу і падрамлю мінут дзесяць. Але мяшае сядзець тое, што стырчаць

вушкі і ручка зверху. Прыхілюся да сцяны, пастаю. Далей тупаю, малюся. Так я вытрываў усе 8 дзён. Пасля, як выпусцілі у зборную камару, таварышы казалі: «Падпішы, а то згінеш, бо ніхто не вытрываў другой нормы».

Але Ігнат упёрся і вытрываў другія 8 дзён. Як ён мог выжыць, проста дзіва! І меў ён недалечаную нагу, прыкульгваў у хадзе. І меў немалую грыжу. Але так — быў моцны і здаровы. Я пераканаўся, што здаровая беларуская натура ёсць здольная да змагання ў большай меры, як людзі, што жывуць у выгадзе і ў цяпле ды не дасведчылі голаду і холаду. Але яго больш падтрымала моцная вера і малітва, якая давала помач Божую.

На судзе іншых сведкаў не было, значыць, віна Падгорскага не была ўстаноўленая, але яму далі 10 год. А таму «стукачу»-даносчыку далі 15 год.

Ігнат, паміма ўсяго перажытага, не захістаўся: не наракаў ніколі, пагодны і зраўнаважаны, маліўся ўсёй душою. Не паддаваўся і не баяўся правакатараў: жыў поўнай верай і надзеяй. Мая дружба з ім не была гарачая, але моцная і шчырая: ён не саромеўся крытыкаваць і спрачацца са мною, але мы не сварыліся. Надзеюся, што Падгорскі ператрываў сваю дзясятку і вярнуўся ў Беларусь. Але куды? Тры сыны працавалі ў лагерах: Ігнату аб іх пісала толькі жонка, бо паміж лагерамі пісьмы не дазволеныя. І такі характар як Ігната лягчэй ператрывае турму і лагер, як калгас. Хутчэй да калгаса падыдзе Кастусь Касач, прыгонная душа, як Ігнат Падгорскі. Касач сагнецца і будзе ў калгасе гадаваць свіней, хоць і не дадуць яму «Двойчы Героя». Такія «касачы» пойдуць следам сваіх дзядоў, што перанеслі прыгон, паноў і розгі: яны дажывуць да новай эпохі і да поўнай волі. Але што стане з такім незалежным характарам, як Падгорскі? Праўда, затое Падгорскі ўмеў быць і вальнадумцам: умеў зжыцца са мной і з гарпагонам-брыгадзірам, бо ведаў «змяіную хітрасць». Бо самой «галубінай прастатой» не пражывеш! Беларусы павінны гэта помніць…

# *Частка трэцяя*
# ПАСЛЯ СМЕРЦІ СТАЛІНА

## КАМІСОЎКА

Кожнаму свая болька баліць.

Ці хто з чытачоў ведае, што такое «камісоўка»?

Гэта — квартальная праверка здароўя лагернікаў і класіфікацыя іх для работы: 1-я і 2-я катэгорыя і інваліды.

Вось на 0,7-й падняўся крык:

— Камісоўка! Хутчэй у амбулаторыю…

— Як там ідзе?

— Бяда! Лекары ўсіх гоняць на работу.

Нас збіраюць брыгадамі. Цяпер яшчэ вядуць нас старыя брыгадзіры, а пасля камісоўкі перасартуюць нас па-новаму.

— Раздзявайся!

А лекары былі дзве жанчыны. Вельмі цяжка было прывыкнуць, што мужчын — усю грамаду разам — пераглядаюць заўсёды жанчыны, але ў лагерах такая мода, і тут не нашая воля. Мяне прыпісалі да інвалідаў рабочых. Савецкія законы забараняюць ганяць інвалідаў на работу вонках лагераў, але нас выпіралі сілай, пад пагрозай карцару; а ўсюды аб'яўлялася, што мы ідзём добраахвотна. Трудна! — такі тут парадак (ці беспарадак?).

Я трапіў пад руку брыгадзіра, прыткага, крыклівага армяніна. Дзіўны ўдаўся чалавек: ягоныя выклікі на рабоце — «Давай-давай!» — разлягаліся па цэлым полі. Ён проста вылазіў са скуры, каб паставіць брыгаду на высокае месца, дый надарэмна! Толькі псаваў нам нервы, і нашая брыгада не ішла перадам, а цягнулася ззаду — аж другія з нас смяяліся.

Рана, пасля худога снедання, мы хутка круталі на развод і зара спяшылі на далёкае поле капаць бульбу. А бульбы, як кінуць вокам, вялізарнае поле! Урадзіла дужа добра, а мы — нязграбныя дзяды. Брыгадзіры заўзята нас падганялі, і мы самі стараліся, бо абяцалі нам даваць плату: а ўсё ж начальства нас крытыкавала, што павольна працуем і нячыста капаем. Яны самі — «дэмакра-

ты» — ў бліскучай ваеннай уніформе, выпасеныя і чырвоныя, а мы — «капіталісты» — замурзаныя ў вільготнай зямлі, поўзаем на каленях і не можам новым панам дагадзіць.

Хоць у Савецкім Саюзе гаворыцца, што ўсё змеханізавана, але ў нас машынамі былі нашыя рукі і кароткія гачкі, так што мы мусілі паўзком прынікаць да самага грунту; а як здараўся дождж, мусілі корпацца, як жабы ў балоце. Адзін наперадзе падкопваў лапатай, а іншыя раскопвалі гачкамі і бульбу кідалі ў драўляныя кубічныя скрынкі. Скрынка не мела ручкі і поўная бульбы была для мяне stationоўка зацяжкая. Кожны нёс скрынку перад сабою — у самай невыгоднай пазіцыі, а ўдвух нельга было за яе ўчапіцца. Бульбу мы высыпалі ў кучы; запісвалі скрынкі на кожнае звяно. Там другія перасыпалі на вазы і звозілі коньмі. Таксама капалі бульбу і 50 і 100 гадоў таму назад. Я ж лішне стараўся і пад вечар змогся. А заўтра кажу брыгадзіру:

— Не магу так капаць: на каленях і сагнёны, а скрынка не па маёй сіле — не дам рады цягаць цэлы дзень! Я ўжо меў ішыяс і нядаўна з бальніцы, пасля аперацыі крывавага гемарою, — дайце мне іншую работу.

— Ідзі капаць! Іншай работы табе няма.

— Не, не магу капаць, самі вы бачыце…

— Дык сядзі так!

— Добра, буду сядзець так.

І я сеў і злажыў рукі. Упёрся я. Думаю сабе:

— Няхай робіць, што хоча, а я не магу ўступіць.

Але і брыгадзір упёрся: маўчыць, як нямы, і пазірае воўчым вокам. А брыгада паглядала цікава і не ведала, хто з нас разумнейшы? Так мы працягнулі да паўдня. Нарэшце ён здаўся: даў мне лапату і паслаў падкопваць бульбу. А якраз была адна вольная лапата, значыць, я не адабраў у нікога лепшай работы. Я рашуча прыступіў да новай працы; а я яе помніў з сваіх малых гадоў, дый стараўся так, што і брыгадзір да вечара размяк. Праўда, у канцы месяца ён моцна зрэзаў мне заработак, адылі я падумаў:

— Хоць це хрэн з тваёй платай, абы мне захаваць наймілейшае здароўе!

А бульба ўрадзіла, бо зямля тут — глыбокі чарназём. Не дарма кажуць, што сам Сібір мог бы пракарміць цэлы свет. Толькі ж іхняя гаспадарка — марнаванне часу і дабра, як і нашая — «казённая» работа. Нас лічаць, гуртуюць, гоняць па забалочаных дарогах пяцёркамі тры кіламетры.

Вязуць паромам праз раку Чуну, а далей зноў пехатою, зноў кантроль, тычкі («стой — страляю!»)… А мы — недалугі і няўмекі: прафесары, педагогі, святары; інжынеры, архітэктары, лекары, юрысты, артысты, урадоўцы, камерсанты і г. д. І мы — з розных народаў і краёў… Ці ж такая стракатая публіка, пераважна слабыя, старыя інваліды, магла працаваць прадуктыўна? Каб тут паставіць машыны і даць здаровых работнікаў, хаця б з гэтых маладых канвойных і з наглядчыкаў ды з лішніх канцылярыстаў, дык зрабілі б хутчэй, лягчэй і спарней. Форд у Амерыцы плаціў работнікам за гадзіну па тры даляры з палавінай, а ў калгасах даставалі за працадзень адзін кілаграм дрэннага збожжа, а то і менш! Ці так перагоніцца Амерыку?

І супраць праграмы Маркса—Леніна, каб кожны працаваў «у сваёй прафесіі», — тут вялікія вучоныя грэбаліся ў балоце на каленях падчас непагоды, капаючы бульбу, буракі, моркву, бручку, хоць шмат хто з іх ніколі не бачыў, як гэта па-савецку робіцца… Або інжынер з непісьменным тунгусам пілаваў дровы, а той на яго крычаў, што не ўмее. Чэскі адвакат побач з земляробам румынам капаў бульбу: чэх зарабіў за месяц 8 рублёў, а румын 35. Татарын-тэхнік камандуе будоўляй, а немец архітэктар сее пясок і месіць гліну. А ў Брацку ў 1950 годзе адзін інжынер мне паказваў:

— Вы гляньце, як яны крыюць дах! Збаламуцілі ўсе планы і праекты, абы збыць і хутчэй здаць заказ. За пару гадоў трэба ўсё перарабляць.

А немец, які быў адміністратарам у вялікім шпіталі ў Берліне, як мы з ім пілавалі дровы, казаў мне:

— Вось за гэтае файнае бервяно лістоўніцы ў Нямеччыне далі б вартасць чатырох суконных мужчынскіх гарнітураў, а мы яго пілуем на дровы. — І мы, хоць жалелі, мусілі пілаваць, бо нам загадалі працаваць па-савецку. Дрэва было першаякасным матэрыялам: у сярэдзіне мела колер маёвага жоўтага масла.

*

У другім месяцы пайшоў халодны, пранікліві дождж, а мы дакопвалі бульбу і пэцкаліся ў слізкай зямлі пры моркве і бураках. Перад работай, пакуль расстаўлялі тычкі і планавалі працу, канвой даваў каманду: «Сядай!» — у балоце… Добра, што я ўмеў сядзець на кортачках, па-кітайску. Зрабілася кіслая пагода. Пасля пахаладнела: прыходзім на поле, а яно ўсё ў шэрані (іней). Прыгожа выглядае пушыстае, шурпатае, бліскучае на сонцы

поле. Сонца жыва з’ядае замаразь, толькі капелькі серабрыстай расы зіхацяць у праменнях, але ў заломах грунту трава застаецца белая. Аднак працаваць тады голымі рукамі — бяда! Мы рвалі бручку (турнэпс). І ў рукавіцах нельга: яны зара намакаюць. Турнэпс сядзіць у грунце моцна, а нам за ўсю матарызацыю служаць голыя рукі: мы не мелі ніякага інструменту, нават ні ражна… Нельга з-пад стражы адхіліцца — пашукаць чаго… Адразу мароз пранікае пад пазногці — аж даходзіць да сэрца і ў мяне на вачох слёзы… «Давай-давай!»

На самым канцы чакала на нас капуста, ды пайшоў снег. Праўда, мароз не быў вялікі, а снег упаўдні таяў. Мусілі вельмі спяшацца і добра нацярпецца. Толькі чуліся галасы: «Ах, рукі, рукі!» Такі побач мяне летувіс Іонас Дыдэліс — ён не адчувае: у яго скура на руках ад вечнай гаспадарскай работы згрубела як слановая і холаду так не прапускае, а мая — «пісарская» рука…

— За другі месяц я ўжо зарабіў 11 рублёў (кілаграм цукру ў той час — 10 руб., але яго даўно не прывозяць!). На чыгунцы плацілі лепш, а ў тартаку — няшмат. У рабочай зоне за пілоўку дроў і за перавозку іх саматугам, за ваду, за ачыстку снегу, за перавозку бярвення (вельмі небяспечная работа!), за вываз нечыстотаў (дужа брудная работа), за разгрузку вагонаў і наагул за працу ў лагеры, у начальнікаў, у рабочай зоне, у сабачай зоне, у канвойнай зоне і г. д., не плацілі нічога. Праца ў гародзе, пераборка бульбы і варыва, рамонты баракаў і іншае — бясплатна.

Прытым вечна нас пераганялі ў меншых работах: як мы крыху прывучыліся да чаго і ўжо ішло нам лепш, хутка гналі на другую работу, не скончыўшы першай. Якая прычына? А Мікіта іх ведае! Затое ўсе інваліды-дамаседы нам зайздросцілі.

— О, вы там на полі зарабляеце!

— Вы там наядаецеся бульбы, морквы, а мы тут прападаем…

Ну, наш заработак на полі быў меншы ўсякай нормы. Відаць, што на нас таксама нехта зарабляў, бо мы тады ў лагеры не абедалі, а наш абед у іх пісаўся… Мы на абед варылі бульбу на полі і цешыліся з таго прысмаку, хоць і поснага. Ідучы дамоў, адважныя інваліды хавалі бульбу ў кішэні і за пазуху, а добрыя наглядчыкі ў браме бульбу адбіралі і нас лаялі. Іншы раз бульба шчаслівая прайшла, і ў нядзелю яе варылі ў летняй кухні.

*

Пасля смерці Сталіна канвой фактычна перастаў страляць «за крок убок», хоць кожны раз па старой прывычцы гаварылі пры браме: «Будзем страляць без заказу».

Аднак цяпер стралялі толькі для страху ў паветра. Каб Сталін жыў, дык я б не жыў, бо двойчы праз памылку перакрочыў лінію. У нас перад тым застрэлілі кунігаса Бараўскага, старога і глухога, за адзін крок.

Наш канвой любіў распальваць сабе вогнішча. Тады выклікалі аднаго з нас і давалі загад:

— Эй, мужык, прынясі дроў, распалі вогнішча!

Калі было халадней, яны рабілі сабе два агні — з двух нашых бакоў; але цяпло да нас не даходзіла, а толькі зводзіла. Нам дазвалялі на агонь выняткова, з сваёй ласкі, і мы маглі грэцца пачародна. А ўся брыгада магла зляцецца толькі на агульны «перакур». Аднойчы па абедзе, калі мы вярталіся зноў да работы і асенняе сонца пачало прыграваць, мы заглядаліся на лес і так нам не хацелася гнуцца да працы! А я ўздыхаў з усяго сэрца і казаў таварышам:

— Так люблю лес і так мне захацелася пахадзіць па лесе!..

А калегі смяяліся з мяне:

— Вунь чаго табе зажадалася!

Мы якраз працавалі ля самага лесу. А дзень асенні вельмі ўдаўся — так і красаваўся у падфарбаваных лістках дрэваў! Такія дні асталіся ў маёй памяці з дзіцячых гадоў, калі бегаў па грыбы, па ягады ці арэхі. У Сібіры якраз птушкі цягнулі на вырай. Ішоў пералёт жураўлёў: мы праводзілі іх вачыма, услухоўваліся ў іхную пераклічку і жаласна, глыбока ўздыхалі. Бачылі часамі вялікія хмары дробных незнаёмых птушачак. Усё жывое ўцякала ад сібірскіх маразоў у далёкія цёплыя краі. І толькі мы, разумныя і хітрыя людзі, чамусьці заставаліся на зіму там, дзе нам вельмі дрэнна жылося… Сіняе неба, шэрая даль палёў, наш суседні лес і ўся прырода пры ціхай пагодзе стаяла ў задуме і роскашы асенняга цёплага дня. Душа чалавека, замучаная благім жыццём, напаўнялася набожным супакоем і жывой цягай да ўтрачанай волі. Лес вырываўся да сонца, падстаўляючы яму сваё аблічча і ўсе бакі, а на дрэвах не варухаўся ні адзін лісток. Дрэвы ўжо не раслі, але жылі і хацелі жыць — працярпець сібірскую зіму: яны мудра лячылі свае раны, замазвалі і заклейвалі іх сокам і смалою; яны адкладалі запасы корму на худую вясну; яны скідалі сухія галіны, старыя кускі кары і пускалі на вецер ужо непатрэбны

ліст. Дрэвы пачыналі асеннюю песню і плач па памерлых, бо надыходзіў лістапад і жалосныя Задушкі.

Вось яшчэ раз калегі прыпомнілі маё «ўздыханне» і пачалі мяне дражніць:

— Эх, захацелася яму ў лес… Гэ-гэ-гэ… Пачакай «25» і тады пойдзеш сабе буяць па лясох, па палёх.

Я маўчаў, але маё сэрца білася як злоўленая птушка. Аж чуем голас канвойнага:

— Эй, мужык, ідзі сюды!

Я тады быў наперадзе, бо падкопваў бульбу. Іду да яго, а ён кажа:

— Прынясі мне дроў на вогнішча!

Мы ўсе аж жахнуліся! Дый ён не мог чуць нашай папярэдняй гутаркі, бо стаяў далёка. Я ж так ахвотна паспяшыў, што забыўся аглянуцца і паказаць таварышам язык. Пачаў збіраць побач у лесе галлё і дровы, ламаў сухія сукі, цягаў залеж і насіў на вогнішча патрошку, каб мець больш хадні… Запускаўся ў лес далёка, колькі хацеў, каб набраць у грудзі запасу паветра і каб начэрпаць у душу вольнай волі. Мармытаў сабе пад нос, паспеўваў і прысвістваў. Гэта ж была роскаш! Сталася нешта незвычайнае: канвой як бы аба мне забыўся. Бо дасюль нікога аднаго ў лес не пускалі — услед ішоў канвойны. А я зыходзіў ім з вачэй, лазіў па кустох без ніякай наўды, блукаўся па лесе і прыносіў сёе-тое на агонь — больш для вока, як з патрэбы. І ўжо лезла назойлівая думка ўцячы, аж мусіў сароміць сам сябе ды смяяцца з сябе. А лес уцягваў як магнэсам: магутны, валадарны дуб, стройная сасна, размашыстая лістоўніца, нашая беларуская бяроза і хілая рабіна — усё тут жыло памяшанае і думала сваю таемную думу. Часам чырыкнула незнаёмая птушка і замаўкала. Толькі дзяцел, працавіты тэлеграфісты, адбіваў роўна такты, здабываючы свой кусок хлеба. Але ж трэба мне вярнуцца… а так не хочацца!..

Калегі капалі бульбу. «Давай-давай!» — адбівалася рэха па лесе. А як ішлі мы дамоў, я сказаў сваім таварышам:

— Калі Бог так хутка і так цудоўна споўніў маю малітву, як просьбу капрызнага дзіцяці, і дазволіў мне нявольнаму пабыць у вольным лесе, — дык гэтым даў знак, што споўніць і маю сардэчную малітву ды дазволіць мне вольнаму бываць у вольным лесе і ў вольным свеце…

Цяпер ніхто мне не запярэчыў — толькі ўсе задумаліся — кожны аб сваёй уласнай волі:

— Дзе ж ты, нашая воля-нявольніца?.. наша беларуская доля — бяздольная?..

## СНЫ І ВАРОЖБЫ

Баба варажыла,
Пакуль галавою не налажыла.

Калі доўга не паказваецца сонца, дык людзі выглядаюць хоць месяца і зорак. І мы шукалі прадухі, а хоць бы якой маленькай шчылінкі… У нас рэдка хто не маліўся. Нават атэісты, забыўшыся, гаманілі ў знемажэнні: «Ах, Госпадзі, пранясі гэтае гора!» Яны таксама хацелі б верыць, але не ведалі, як гэта пачынаецца. Але добры Бог чуў і прымаў і іхнае маленне ў нядолі.

Апрача таго, вязням давала палёгку лагерная варажба і сны. Варажбіт спецыялісты, а нават самавук ці самадур, калі быў артыстам ці меў крышачку спрыту, мог з гэтае крыніцы выгадаць сабе кусок хлеба. Я і сам пераканаўся, што і без варажбы — адно добрае слова — змякчае бяду, як аліва рану, бо нуда паступова грызе і заядае няшчаснага чалавека. Дый няма горшае хваробы, як нуда!

Дык вось варажбіт кладзе запалкі, гарох ці каменьчыкі, паперачкі ці карты (з газет) або глядзіць на далонь і ў вочы: я ж добра ведаю, што ўсё тут пустое, але бярэ мяне цікавасць, што мне выпадзе? І я дужа жадаю сабе памыснага выніку… А варажбіт умее гаварыць і ведае, як сумнага пацешыць:

— Бачыш? Вунь дарога — яна ідзе проста, але вось уваходзіць перашкода. Ты пацярпі яшчэ гадок, а там выйдзеш на роўны шлях: вунь-вунь ён!..

Мне цяпер становіцца лягчэй на сэрцы: адыходжу спакайнейшы і мне прысніцца прыгожы сон. А майму сябру ён варожыць тое самае, толькі іншым сказам. І той чалавек, якому застаецца сядзець яшчэ 22 гады і ён заўсёды з кіслай мінай хадзіў асалавеўшы, цяпер весялее і робіць планы новага жыцця.

Усе прысутныя прымаюць варажбу паважна: ніхто не паважыцца смяяцца ці пярэчыць. А сам варажбіт, здаецца, перажывае тыя з'явы, якія «бачыць» у сваім дзіўным трансе. Ён быццам адпраўляе нейкае містычнае набажэнства. І сам варажбіт і ўсе прысутныя сведкі былі б моцна абражаныя на таго, хто б выражаў сумлеў, а найбольш той пацыент, які прыйшоў пытацца пра сваю долю. Ён сядзіць перад варажбітом, як хворы перад лекарам, і чакае вырашэння свайго лёсу — ці яму жыць, ці згінуць? Але спадзяецца ратунку…

Некаторыя баяцца, што ў варажбу ўваходзіць злы дух і што гэта грэх варажыць і верыць у яе. Але варажбіт гатоў прысягнуць, што ніколі злога духу не кліча, не бачыць і не мае з

ім нічога супольнага. На знак гэтага ён тут жа пры вас можа перахрысціцца і пацалаваць крыж. Пасля сеанса варажбіт пераходзіць да прыватнага жыцця і аб сваіх прароцтвах не любіць успамінаць:

— Я нічога не ведаю: я цяпер прыватны чалавек…

Здавалася, што ў тую хвіліну ён меў кантакт з гэным светам: цяпер кантакт сарваўся, і ён перастаў быць праваднікам прарочых вестак.

*

Адзін з нашых святароў чытаў з далоні: ён заўсёды меў шмат кліентаў, хоць не гадаў будучыні. Ён толькі па лініях рук гаварыў аб характары, аб здольнасцях, аб памысных і няшчасных падзеях свайго кліента. Пасля казаў, чаго можна спадзявацца з такога характару, і даваў рады на прышласць, чаго трымацца, чаго асцерагацца. Бывала, кліент чырванеў і хацеў бы ўцячы ад «прарока» — так бянтэжыўся ці саромеўся! А варажбіт гаварыў так знаёмым, як і чужым людзям пэўна і спакойна: не ўгадваў, не заглядаў у вочы, не бунтаваўся і не цырымоніўся. Гаварыў — як бы чытаў з кнігі: а так трапна і цікава, што з усіх бакоў лезлі з рукамі. Не здаралася, каб хто спрачаўся, што няпраўда. За сеансы «прарок», як яго называлі, не браў нічога. Ад яго адыходзілі не стрывожаныя, ані пацешаныя, але задумаўшыся. Людзі разумелі, што жыццё — не забаўка, не выпадак, не нажыва, ні нашае высокае — «Я!». Але жыццё мусіць быць справай вельмі паважнай перад людзьмі, перад сабою і ў вачах Божых. Аднак сам гэты святар пытанняў рэлігійных ці канфесійных спецыяльна не чапаў. І ён меў нейкае дзіўнае шчасце ці такі характар, што для яго абсалютна ўсе былі роўна бліжнімі: як я яго доўга знаў, ён не меў ніякіх ворагаў. І да яго кожны падыходзіў, як да свайго брата.

А на маю далонь «прарок» вельмі круціў лысай галавою і не мог нічога, так як іншым, сказаць пэўнага:

— У вас лініі абрываюцца. І дужа няясная лінія жыцця і долі… Наагул, рука для мяне загадкавая.

Дык я задавольваўся тым, што слухаў характарыстыку сваіх калегаў.

Ён — філосаф-псіхолаг меў глыбокую інтуіцыйную веду чалавечай душы: ён трапна прастаў і развязваў заблытаныя вузлы, калі хто пытаў ягонай рады, а такіх у лагеры было нямала. Умеў заваражыць сваім магічным словам цэлыя грамады, хоць сам у сваім прыватным жыцці быў мала практычны. Затое ўмеў добра слухаць людзей разбітных.

*

А сны?..

— Паслухайце, калегі, мой сон!

Так нярэдка пачыналі свой дзень інваліды. І трэба паважна слухаць ягоны сон, хоць у ім няма для мяне нічога цікавага. Дый прытым стары дзед блукае, забываецца, паўтарае… Але яму нельга перашкодзіць, ці (не дай, Бог!) смяяцца, бо ён бядулька, можа заплакаць. І трэба старацца растлумачыць ягоны сон, ведама, у добры бок. Затое другі раз ён паслухае і патлумачыць мой сон: тады я зразумею, колькі выйграў сваім добрым словам.

Часамі бываюць, як гаворыцца, сны «ў руку», якія надзіва хутка і дакладна спаўняюцца ды якія можна назваць прарочымі. Аднаму майму сябру ў лагеры чатыры разы падрад з'ўлялася ўва сне ягоная маладая жонка, якая згінула ў катастрофе на чыгунцы. Яна яму гаварыла: «Мяне да цябе прысылаюць адтуль, каб я табе сказала…» І прыносіла яму весткі вельмі для яго важныя.

Дык вось, мілыя чытачы, паслухайце мой сон і будзьце ласкавы мне яго добра патлумачыць.

Калі ў нас на 0,7 была самая цяжкая пара, мне прыснілася, што ў лагеры стаяў высокі крыж з фігурай Хрыста. А я стаяў пад крыжам з групай 6–7 сяброў: мы, падняўшы галовы, паглядалі на крыж і маліліся. Раптам мы заўважылі: фігура Хрыста ажывае — мы аж патрухлелі! І тут я ўбачыў, што між намі стаіць новы чалавек: высокі, хударлявы, у сярэдніх гадах. Гарнітур добры і стройны, колеру кававатага. Стаяў ён без шапкі. Твар цьмяны і чыста выгалены. Валасы кучаравыя, чорныя. А з валасоў ледзьледзь стырчэлі невялікія рогі. Я адразу пазнаў, што ён — злы дух! І я крыкнуў на ўвесь голас:

— Як ты смееш уваходзіць між людзей, якіх Хрыстос адкупіў сваёй крывёю?

Ён уздрыгнуўся, але маўчаў. Я тут заўважыў, што з ягоных вачэй выглядае жудасны сум. І вось я пачаў на яго наступаць. Праўда, што я прытым сам баяўся, бо помніў, хто ён ёсць. Але я пачуў у сабе энергію, сціснуў свае кулакі і пачаў мерыцца ў яго. А ён пачаў адступаць задам, паўбокам і пільна слядзіў, каб я яго не стукнуў. А мае калегі махаюць на мяне рукамі і з-пад крыжа галосяць:

— Пакінь яго, пакінь!

Я ж вельмі на іх у душы ўзбурыся, што мне не памагаюць, і далей змагаўся сам. Так я адагнаў таго нягодніка аж да канца лагера. Тут ён убачыў пры дарожцы новы венік, хапіў яго і

палажыў упоперак на дарожцы перада мною. «Ага, ты так?!» Я зразумеў, што ён дае мне знак, што назад за гэтую лінію больш не пераступіць, і я затрымаўся і… абудзіўся. На яве я перажываў свой сон далей, паўтараў яго сабе, каб не забыцца і паспяшыў расказаць калегам. Слухала мой сон немалая грамада вязняў. Казалі:

— Дзіўны сон!

— Цікавы сон!

— Характэрны…

Але ніхто не папрабаваў яго тлумачыць, хоць я гэтага чакаў. Некаторыя толькі гаварылі:

— Гэты сон зразумелы сам сабою: яго не трэба і тлумачыць.

*

Чалавек у важкіх абставінах жыцця перажывае і ўва сне свае справы: дзеля таго сон бывае натуральным з’явішчам. Але могуць быць сны і незвычайныя, як бы прарочыя. Вось паслухайце другі мой сон.

Быў тады Вялікі Пост 1953 года. Снілася мне, што я адпраўляў Св. Службу ў лацінскім абрадку ў вялікай святыні. Людзей было паўнюсенька! Алтар стаяў даволі высока, так што я мог бачыць усіх прысутных на набажэнстве. Прэзьбітэрыя[1] вялікая, але пустая і толькі па баках сядзелі ў лаўках святары, мае калегі. Усё адбывалася на волі. Пасля літургіі я ўзяў з алтара келіх і, як звычайна, вяртаўся ў закрыстыю. А калегі-святары мне голасна, але толькі каб я чуў, гавораць:

— Чаму ты адпраўляў Велікодную Службу, калі ўжо два тыдні па Вялікадні?

Затрымаўся я перад самай закрыстыяй. Аж тут у маё сэрца ўступіла такая радасць, што я вярнуўся да алтара, узышоў касячком на тры ступенькі, адвярнуўся да народа і голасна запяяў на велікодную ноту:

— Ite Missa est. Alleluja, alleluja!

І тут жа з вялікай радасцю прачнуўся. На гэты сон мае калегі сказалі:

— Справа ясная: цябе выпусцяць два тыдні па Вялікадні, значыць, за чатыры тыдні. Ну, ну!..

Так мне гаварылі, але ніхто з нас у тым часе свабоды не мог спадзявацца. Хоць Сталін ужо быў памёршы, але ягоны рэжым трымаўся старым разгонам. І так прамінуў Вялікдзень

1953 года — вельмі цяжкі і безнадзейны: також 1954 года — крыху лепшы, але маланадзейны. Аж нарэшце ў 1955 годзе на Вялікдзень я быў прызначаны на волю. Зара па свяце выходзіў на волю вялікі этап, да якога я павінен быў увайсці. Але мяне чамусьці абмінулі, і я ў сваю групу не трапіў. Мы тады групаваліся ў лагеры Поцьма Разанскай вобласці. Ужо я пачынаў баяцца неспадзеўкі, што могуць вярнуць, як здаралася часам з іншымі, назад у Сібір. Аж нарэшце пад канец красавіка мяне прыпісалі да чужога этапа і праз Маскву павезлі на свабоду. Мы выязджалі з Поцьмы ў нядзелю — якраз у два тыдні па Вялікадні! Значыць, выглядала, што мяне як бы сумысна прытрымалі на месцы да майго тэрміну, каб споўніўся мой сон… І што вы на гэта скажаце? І вось у памятку таго я тую самую нядзелю раніцай, перад ад'ездам, маючы магчымасць адправіць сакрэтна св. Літургію, з вялікай радасці закончыў яе словамі: «Ite Missa est. Alleluja, alleluja!»

Тады праз Маскву, без затрымкі, павезлі нас проста за граніцу.

*

Зусім малаважны, але дужа трапны сон сасніўся з 1 на 2 ліпеня 1954 года. Дзень 2 ліпеня — гэта свята Наведжання Маткі Боскай у св. Альжбеты, дзень для мяне вельмі важны, бо ён ёсць памяткай маёй першай Божай Службы ў 1913 годзе ў Вільні, у касцёле Святога Духа. Так гэта нядаўна было, а ўжо праляцела паўстагоддзя!

Снілася тады мне, што ў нашым бараку на 0,7 зламалася сцяна: не зрабіла нікому шкоды, а вывернулася на двор — якраз супраць майго логавішча. Пралом адчыніўся такі вялікі, што мы раніцай праз яго выходзілі з барака. А ўвесь лагер збегся на такую незвычайную катастрофу. — Такі быў той сон, а на яве здарылася вось што.

Гэтай самай раніцай, пасля таго сну, я яшчэ ляжаў на нарах і так нязручна павярнуўся на сваёй пасцелі, што з верхніх нараў паляцеў уніз і бразнуўся аб падлогу. Такія выпадкі ў лагерах не раз канчаліся калецтвам або і смерцю. А мае нары былі дужа высокія. Паляцела з берага дошка, а я за ёй… Аднак мне ўдалося зваліцца з малой шкодай.

І ў гэты ж дзень раніцай нам абвясцілі этап на 60 чалавек, у якім быў і я: этап штрафны! Дзеля таго ўвесь лагер нас праводзіў з вялікай цікавасцю і спачуваючы. Як мы выходзілі, збегліся

ўсе да брамы, хто толькі меў ногі: на нас дзівіліся, паказвалі пальцамі, махалі рукамі, як малыя дзеці: а мы, старыя інваліды, героямі ішлі на спатканне новай долі! І тут мне прыпомніўся той сон, які так дакладна споўніўся ў мяне двойчы ў той самы дзень. І этап быў зусім неспадзяваны…

## ТАВАРЫШЫ І ПРЫЯЦЕЛІ

Таварыш у ядзе —
таварыш у бядзе.

І яшчэ ў нас гавораць: «Лепшы адзін прыяцель, як дзесяць ворагаў». Дзеля таго, што я ў жыцці бываў у шматлікіх краях, а ў Сібіры мяне пераганялі туды-сюды, дык у мяне завялося нямала знаёмых, калегаў і прыяцеляў. Дазнаў я ад іх досыць дабра. Вось жа тут хацеў бы з імі сквітавацца хоць гэтым добрым словам:

— Адплаці, Госпадзі, усім нашым дабрадзеям, дзеля Твайго Імя, вечным жыццём! Аман.

Бывалі ў нас пераходам мілыя госці з Беларусі, з Маньчжурыі і інш. Вялікая цяжкасць была ў тым, што ані мы гасцей, ні госці нас не мелі чым угасціць! Што ж на гэта парадзіць? Прынамсі ўспаміналі супольных знаёмых, перадавалі паклоны далей і весткі на волю і з волі. І нашае жудаснае жыццё аднаўлялася і свяжэла. Такая жывая пошта давала нам больш, як афіцыяльная. Мы, як вядома, высылалі толькі два лісты ў год; а паміж лагерамі перапіскі не дазваляліся і з заграніцай сувязь не існавала, а ў Савецкім Саюзе — на ўсё кантроль і страх… Дый афіцыяльныя весткі акуратна не згаджаюцца з праўдай.

Успомню тут адно дзіўнае спатканне.

Аднойчы я ўбачыў на 0,13 паміж новымі этапнікамі знаёмага чалавека з сімпатычнай бародкай. Прывітаўся з ім і пытаюся:

— Дзе мы з вамі спатыкаліся? Я вас пазнаю.

— Я вас таксама пазнаю — вы, я ведаю, духоўная асоба.

Добра! Селі мы і пачалі вылічаць, калі і ў якіх лагерах мы былі? Разабралі мы свае падзеі грунтоўна і пераканаліся, што мы з ім… не спатыкаліся нідзе! А публіка нас слухала і вельмі з нас смяялася.

— Што ж гэта такое? — пыталіся мы самі сябе.

Мы, аднак жа, не маглі сабе гэтага дараваць: сышліся другі раз і спакойна палічылі свае гады, свае лагеры, усе заходы і выхады… Мы разважалі так:

— Ну, так! Мы ж не маглі б абодва, без ніякай прычыны, з налёту адзін у другога ўкляпацца…

Але зноў мы дарэшты пераканаліся, што не маглі дасюль нідзе з сабой сустрэцца… Хіба ў якім іншым свеце? Але мы ў метамарфозу не верылі! Ці, можа, ува сне? Але гэта быў бы забабон ці чары?.. Сорамна нам зрабілася абаім, бо зноў да нас прыбіліся цікаўскія сведкі, якія падхапілі нас на языкі — аж смяяўся з нас увесь лагер! Дык мы з барадачом тут жа разышліся і раззнаёміліся назаўсёды. А пасля, як спатыкаліся, дык хутка праходзілі міма.

*

У найбольшую дружбу я ўвайшоў з адным грэкам: называўся ён Андрэй Фіоратас. Мы з ім аднагодкі. Першы раз мы сышліся ў Тайшэце ў 1949–50 гадох. Ён — грэк адважны: смела спаў пад нарамі. А я не мог сябе прымусіць, бо вельмі баяўся мышэй. Дык я туляўся як мог па розных закутках, абы не лезці пад нары, але ўсё ж такі прыйшлося і мне. На нарах спалі тады «старажылы», што перш заваявалі сабе месца. У два словы мы з грэкам пазнаёміліся, а ў пару дзён сышліся, а ў пару тыдняў падружыліся. Мы з ім шчасліва сустракаліся ў чатырох лагерах, і кожны раз нашая дружба мацавалася. З нікім бліжэй і больш я не сустракаўся гэтулькі разоў. Так ужо нам Бог даваў.

Чалавек ён бывалы. Радзіўся на абтоку Кефалонія. Ад 12 да 17 гадоў жыцця ён з бацькамі прабываў у царскай Расеі. Стуль хлапец эміграваў у Канаду. Працаваў і вучыўся. Дарабіўся немалой маёмасці ў Канадзе, у Злучаных Штатах Амерыкі, у Кітаі і ў Маньчжурыі. Розныя фірмы давяралі яму будову млыноў, элеватараў і дамоў — у Шанхаі, у Дайрэне, у Харбіне і ў іншых месцах Кітая. Аж у Дайрэне захапіла яго вайна, і ў 1945 прыйшлі туды бальшавікі. Фіоратас даверыўся іхнай ваеннай уладзе, думаючы, што з Саветамі можна таксама добра весці інтарэсы, як з усімі іншымі на свеце. Ён добра знаў кітайскі рынак, такжа кітайскую, ангельскую і расейскую мовы ды лёгка дабываў прадукты для савецкай арміі. Затое, выходзячы з Маньчжурыі, савецкая ўлада забрала з сабой Фіоратаса ў 1946 годзе. Ягоная маёмасць змарнавалася, а самога забралі ў сібірскую турму. Следства і суд — усё па савецкай сістэме прайшло нармальна, а яму далі «25» за «ангельскі шпіянаж» і за «супрацоўніцтва з загранічнай буржуазіяй». Ад 1907 года ён у Расеі не жыў, ніякай

палітыкай не займаўся, як тыповы бізнесмен, з Саветамі не меў ніякага дачынення, быў чужым грамадзянінам — вось якія ягоныя «правіны»!

Закінуты ў лагеры, каб там памерці, Фіоратас заставаўся цярплівым і спакойным філосафам у страшэннай няволі. Ніколі не ставіў дарэмнага пытання: «За што?» Ён пераносіў гора так проста і натуральна, як калісьці Сакрат. А быў дужа нездаровы. На волі жыў у поўным дастатку і не быў так загартаваны на голад і холад, як той, хто гэта піша. Але грэк не бедаваў: ён з гумарам і пагодай духу падтрымліваў другіх небаракаў. Толькі я адзін ведаў аб трагічных падзеях Фіоратаса і аб яго зламаных магчымасцях. Яго трымала і давала сілу простая, шчырая і глыбокая вера ў Бога, і з гэтай крыніцы ён чэрпаў супакой і пакору перад Божым Правідам. І перахаваў ён гэтую веру праз доўгі перыяд памыснага жыцця і праз жудасныя гады няволі, хваробы ды пагрозы смерці.

Грэк-філосаф як пачне, бывала, гаварыць, дык няможна адарвацца. І якраз у найгоршым для мяне часе, калі ўсе трацілі дух і мая душа таксама слабела, Андрэй, хоць сам загрожаны немачай, умеў падтрымаць мяне і ўцешыць, а нават рассмяшыць і забавіць. Ягоныя глыбокія думкі, атыцкі гумар і шчырая дружба — усё гэта мяне лячыла і ратавала ад нуды, ад суму і ад роспачы, дык я не забуду Андрэя навек! Спадзеючыся, што спаткаемся ў шчаслівай вечнасці і там пры Божай ласцы не разлучымся ніколі. Бо ўжо тут яго жывога, мусіць, не ўбачу, вельмі бядак быў нездаровы…

Сваё гора мы дзялілі на дзве роўныя часці, дык яно — разбітае — не магло нам моцна шкодзіць. І вось мы, поўныя інваліды, галодныя, як вядзецца ў Савецкім Саюзе, а тым больш у лагеры (не ў паказным, а ў нармальным), мы — у дыстрафіі і немарасці — смяяліся і жартавалі, як малыя хлапчукі, крытыкавалі сябе наўзаем, часта спрачаліся, але не сварыліся. Мы кпілі з сваіх ворагаў, дзяліліся апошнімі крошкамі — жылі сапраўды па-братэрску. На пачатку зімы я рабіў генеральны рамонт ягонай падзёртай вопраткі, якую ён маніўся выкідаць, але я не даваў, бо другой тады нам не давалі. І я тады стаў слаўным краўцом — самавукам.

Пад апошні час паміж намі не было ўжо ніякіх сакрэтаў: усе хваляванні душы ў нас адкрыліся. Мы далі сабе слова, што на волі будзем шукаць адзін другога. Рабіліся ў нас планы прышлага жыцця — кожны для сябе і для прыяцеля. Перадумалі, дзе і што

ў нас ёсць самае важнае ды якія ў нас будуць патрэбы?.. І так мы развіталіся і ўжо больш аб сабе нічога не ведаем.

— Ах, Андрэй! Дзе ж ты цяпер? Як мне цябе шкода, мілага Брата, праўдзівага Прыяцеля, а такога гаротнага Чалавека!..

Мусіць такі памёр мой дарагі Андрэй. Калі б хто што важнае ведаў аб ім — на міласць Божую, — прашу прыслаць мне вестку!

*

Другі сябра, прыяцель мілы, беларус, зваўся Язэп Гарох, з-пад Горадні. З гэтым жылі мы ў лепшым часе, калі даставалі з Беларусі больш-менш роўныя пасылкі і варылі ў летняй кухні супольную кашу. Мы ладзілі планавую гаспадарку: мае крупы, а ягонае сала, і наадварот. А елі ўважліва, каб не захапіць аднаму лішняй скваркі. Кухарам ставаўся Гарох, а я паляваў на дровы. У кухню пхаліся інваліды-кулакі. А «дырэктар» не даваў прыступу да печы такому басяку, што ціснуўся без сваіх дроў. А як здабыць дровы? Або трэба ўхітрыцца і перанесці з рабочай зоны; дый мусіць лягчэй было б перанесці гарачых вуглёў за пазухай, як пераступіць з дровамі браму… Або купіць, ці выменяць на што другое, ці дастаць дроў «па блату», або… украсці! А да нядзелі трэба дровы перахаваць, бо кухня працавала толькі ў «выхадныя» дні. А як схаваць, калі ўсюды поўна людзей? І той якраз падгледзіць, ад каго я хаваю… Але бяда навучыла нас такой мудрасці, якой напэўна не меў і Саламон, каб трапіў у савецкі лагер.

Калі ж усё ў нас удалося і Гарох пралез праз шчыліну ў людскім натоўпе, тады мы пільна ўважалі, каб каша не прыгарэла, каб яе не адапхнулі, каб не вывернулі…

— Гатова! Дзякуй Богу…

— Ох, гарачая! Чакай, дзьмухай, мяшай…

І няможна дачакацца, бо апетыт падступае аж да горла, слінка цячэ багата, а мне ўжо слаба… Не, ніколі ніякая на свеце каша, каб у яе клалі хоць і «салеры-поры-каляфіёры» — не была такая далікатная, як нашая ў лагеры! І так мы наядаліся на цэлы тыдзень. І тут я пераканаўся, што значыць кашу акрасіць. А калі ўдалося яшчэ здабыць цыбульку, або часнаку, або перцу, дык каша выходзіла князёўская! І кожны раз мы праектавалі, што на волі ўложым у кашу лыжку масла, лыжку смятаны і курыную лапку. Але мы яшчэ дасюль не сустрэліся і нічога аб сабе не ведаем… А я пасля, дзе толькі бываў, дык ні ў Варшаве, ні ў

Рыме, ні ў Парыжы, ні ў Лондане, ані ў Нью-Ёрку ці ў Чыкага — і нідзе на вольным свеце такой смачнай кашы, як тая нашая, не спаткаў! Гаварыце ці думайце сабе, што хочаце!

На бяду, у нас часта наплывалі «сухія дні», калі нам не хапала то таго, то сяго, а то і зусім усяго! Мы хвалілі кашу і з цукрам, але трэба было злажыць разам абедзве нашыя порцыі — з усяго дня на адну кашу… А самая апошняя каша збяднела наскрозь: выскрабалі мы рэшту круп і зварылі з салёнай рыбкай, а пасля ледзь асілілі з’есці з горкай слязою: але ж у лагеры не выкідаецца нічога, як і ў цэлым Савецкім Саюзе. Эх, каб амерыканцы паелі такой кашы, ведалі б, як шанаваць Божае дабро, а то са збытку вар’яцеюць, як падсавецкія людзі — з нястачы…

Дый каша — для цела, для душы — малітва. Значыць, мы з Гарохам сышліся і ў пабожнасці. Вельмі мы любілі маліцца да свайго Патрона, св. Язэпа, да якога мы адправілі шмат навэнаў (9 дзён). А інтэнцыя пераважала такая:

— Каб Бог даў нам здароўе і свабоду для большай Сваёй славы!

Да нас прылучаліся і іншыя вязні. Дый у гэтым нагодным часе я ў святочныя дні мог сакрэтна адпраўляць Св. Службу, а такжа спавядаў сваіх пакутнікаў і ўцягваў народ пад сваю духоўную апеку. Нам асабліва спрыяла тое, што па смерці Сталіна крышачку аслабеў націск супраць рэлігіі.

І трэба ж было такога гора, што Язэпа Гароха ад мяне забралі! Праўда, ён жыў у суседнім філіяльным лагеры, куды нашыя работнікі хадзілі на працу і я праз іх пасылаў яму прывітанні і весткі, а ён мне. А ў Вялікім Посце Гарох так зажурыўся, што зрабіў Богу дзіўны зарок (прырачэнне):

— Дай, Божа, каб я, хоць праз карцар, вярнуўся да свайго калегі!

Так яму хацелася перад Вялікаднём спаткацца са мною, каб адправіць Велікодную пакуту і прыняць св. Сакрамант. І Бог дапусціў гэта: праз нейкіх «стукачоў» пайшлі на Гароха плёткі, што ён плануе ўцякаць з лагера. Яго адразу пасадзілі на 5 дзён у карцар, а пасля адразу вярнулі ў наш лагер. Цяпер мы зноў маглі дакучаць свайму Патрону. І не надарма, бо ў 1955 годзе, 27 красавіка, якраз у дзень Апекі св. Язэпа, я выехаў з Савецкага Саюза. Спадзяюся, што і мой прыяцель, Язэп Гарох, таксама дазнаў апекі свайго добрага Патрона Язэпа.



Яшчэ ўспомню аб адным: зваўся ён Крывун-Зарэчны, украінскі шляхціц, дый наскрозь абруселы. Марскі афіцэр Чарнаморскага флоту, уцякач у Румынію. Там зрабіў кар’еру: у румынскай марской службе здабыў рангу, славу і капітал. Хваліўся, якую меў харашуню жонку з стараверскай сям’і.

— Ну, яны не хацелі за мяне выдаць, бо, значыць, я ў іх — «ерэтык». Прымусілі ісці на іхную веру і прыняць новы іхны хрост. А мне дык усё роўна, і я пайшоў. І загадалі пост! Ну, я там неяк і адпасціў… Аж нарэшце нас ажанілі.

Так Крывун стаўся стараверам. А фактычна ён не знаў і не прызнаваў ніякай веры. Не магу яго назваць атэістам, а хутчэй лібералам, бо ў сваім жыцці ён шукаў толькі выгады, славы, бляску, а найбольш грошаў, якія давалі і выгаду і славу. Аб жыцці праўдзіва разумным, чалавечым, ён не думаў і не цікавіўся. Такія тыпы скрозь родзяцца і пленяцца ў буржуйскім капіталізме — гэта прагорклая смятанка цяперашняга грамадства, бо атэізм ліберальны куды горшы ад атэізму камуны. У камуне трымаецца, прынамсі ў праграме, упартая ідэя, якая, пакуль не выкрывіцца, варта пашаны і ўвагі. А буржуйскі лібералізм — гэта ані ідэя, ані праграма — гэта растаўсцелая гушча, для якой «бог — гэта бруха», як казаў св. Паўла. Характэрна, што і савецкі камунізм, выкрыўляючы праграму, што ўжо і Маркс яе не пазнаў бы, хутка коціцца да тыпу скрозь буржуйскага лібералізму.

Так Крывун дачакаў у Румыніі бальшавікоў. Як Саветы прыйшлі, ён адразу да іх дапасаваўся. Ён быў тады прадстаўніком Румыніі ў перамовах з Саветамі. Як практычны дыпламат, Крывун моцна трымаўся румынаў, верна дагаджаў Саветам і з усяго цягнуў карысць сабе. Без сумлеву Саветы ахвотна прымалі паслугі Крывуна, але, як стаў ужо непатрэбны, адплацілі яму па-свойму: арыштавалі і вывезлі. Меў суд і дастаў «25» лагера ў Сібіры.

З такім тыпам я не мог здружыцца, але прыйшлося жыць у адной брыгадзе. Ён меў арыстакратычныя манеры і навыкі, панскую фанабэрыю, але немалую веду. Паміж румынскімі буржуямі Крывун умеў дорага прадаваць свае таленты і сістэматычна ўзвышаўся па ўрадавай драбіне — аж раптам зваліўся сам разам з драбінай…

Яго неспадзявана назначылі брыгадзірам, а ён мяне заклікаў на раздатчыка. Мне тут давялося нямала перанесці ягоных прычэпак і капрызаў. І вельмі мне тады не ручыла: здароўе ня-

важнае, нервы расстроеныя, а брыгада паўгалодная і злосная. Дык ніяк я не хацеў брацца за тую службу. Але Крывун-Зарэчны то просьбай і лайкай, то грозьбай і прымусам прышпіліў мяне так моцна, што я не мог адарвацца. А ў маёй службе здараліся непаладкі: кражы, недаборы і памылкі, дык для святога супакою я пакрываў дэфіцыт з сваёй нормы. А кожны разумее, як цяжка напіцца з пустой чаркі пры пустой бутэльцы…

Да ўсяго Крывун любіў падчыркнуць свой недавер і то без ніякай наўды. А я стараўся стрымаць сябе, каб не збіваць ягоных сафізмаў, і не адказваў на зачэпкі. Бо ж што паможа тлумачыць такому матэрыялісту аб духовых справах? Не будзе артысты спяваць арыі глухому чалавеку. Так мы неяк і ладзілі. Мне і шкада было здольнага суседа, які сваім самадурствам так груба грашыў супраць Духу Святога. І я нічога не мог парадзіць. Аж парадзіў сам Бог: Крывун пачаў западаць у здароўі. Тым часам у лагеры не хапала лекаў: у амбулаторыі давалі ўсім нейкія цудоўныя парашкі, якія памагалі ад усіх хваробаў, апрача тых, што было трэба. Ані назову, ані вартасці тых парашкоў ніхто з нас не ведаў: кожны хворы адчыняў рот, а санітар сыпаў парашок на язык і паказваў на ваду. І ніхто не скардзіўся, што яму пашкодзіла. А наш Крывун стагнаў штораз мацней і вельмі мучыўся. Ён спаў на ніжніх нарах пада мною і з болю забываўся аб сваім атэізме, але часта ўздыхаў:

— Божа мой, Божа мой!

І ўжо супраць веры не гаварыў нічога. Як забралі яго ў бальніцу, я не мог аб ім дастаць ніякай весткі. Думаю, што памёр і там спаткаўся з Богам, аб якім не дбаў на зямлі.

*

Трэба было б расказаць яшчэ шмат аб кім, але на гэта не хапіла б і валовай скуры. Дый нельга ясна гаварыць аб тых, якім маё слова магло б пашкодзіць, бо яны — там… Мушу, аднак, успомніць аб цікавым чалавеку, інжынеру-прафесару Х. Знаў дасканала класічную мову грэцкую і лацінскую, так што перакладаў старых грэцкіх драматургаў на расейскую мову. З новых моваў уладаў французскай, нямецкай, ангельскай, галандскай і іспанскай. Працаваў у хімічнай лабараторыі на вайне ў Іспаніі супраць Франко і на сусветнай — супраць Гітлера. Пасля вайны мусіў лячыць вочы, папсаваныя ў хімічных доследах. І калі ў бальніцы ладзілі яму аперацыю, раптам Сталін сарваў яго на следства, а суд даў яму дзесяць гадоў. Чалавек паважны,

дзіўна мілага характару, камуністы старога калібру. Але нечым не дагадзіў верхаводам новага ладу. Быў гаваркі і даступны, але аб справах палітычных гаварыць не дапускаў. Яму пагражала поўная слепата дзеля таго, што яго ў бальніцы не далячылі. Такога чалавека маглі засудзіць толькі супервар'яты.

Жыў са мною прафесар гісторыі, украінец, глыбока веруючы і з пераканання пабожны. Таксама я жыў даўжэйшы час з украінцам К. Ён — прафесар сацыялогіі — чалавек як золата: культурны, разумны, шчыры і добры прыяцель. Любіў гаварыць і меў аб чым, але ўмеў разумна маўчаць і быў дужа скромны.

Яшчэ я пазнаў прафесара літаратуры П. Падчас вайны яго паслалі за граніцу. Як навуковец ён меў спецыяльную працу. Але пасля вайны, калі наагул Сталін спешна адклікаў работнікаў з заграніцы і даваў па 10 гадоў лагера, гэты прафесар таксама дастаў дзесяцігодку. Ён пераносіў лагер вельмі цяжка, хоць даставаў ад сям'і рэгулярныя пасылкі. Яго заядала несправядлівасць савецкага ладу, няпраўда і крыўда, якая ішла на згубу народу. Я баяўся, што ён не ператрывае, і шкадаваў яго як здольнага і сімпатычнага навукоўца-інтэлігента. Ён быў поўным атэістам, але як чалавек добрай волі, разважыўшы глыбей загадкі жыцця і смерці, Бога жывога і Усёмагутнага і прыроды нежывой і неразумнай, прызнаў нонсенс атэізму і прызнаў патрэбу Бога, каб не ўпасці ў абсурд і роспач.

Цэлая маса прафесараў, інжынераў, лекараў, юрыстаў, святароў, пісьменнікаў адбывалі тут свой лагер. Хто з іх трапіў да 1947 года, той быў шчаслівейшы, бо дастаў толькі дзесяць. А хто спазніўся, дастаў поўную «катушку», «шпулю» ці «кручолку», значыць, «25». Да чаго давёў бы Сталін увесь Саюз, каб у пару не памёр? І Берыя, якога так позна расстралялі?! Але ўладу захапілі іншыя — з найгоршых крышку лепшыя — ну, што ж, добра і гэта…

Дагаварыліся раз нашыя лагерныя вучоныя да таго, што шукалі падабенства ў другіх установах — на вольным свеце — да савецкіх лагераў. Адзін шукаў падабенства аж у далёкім старым Егіпце, казаў, што калісьці фараоны мелі лагеры, падобныя да нашых сібірскіх, для работнікаў пры пірамідах. Другі казаў, што рымскія арыстакраты мелі падобныя прыватныя лагеры для нявольнікаў. Трэці раўнаваў нашыя лагеры да гітлераўскіх. Нарэшце доктар Крамер, чалавек бывалы, кажа:

— Я бачыў вялікія бальніцы ў Амерыцы для вар'ятаў, дык цяпер магу іх параўнаць да гэтых лагераў. Але розніца паміж імі немалая: там кормяць па-панску, там даюць больш свабо-

ды і не лаюць так, як нас тут. Даглядаюць дужа старанна, але сцерагуць падобна як нас, толькі няма дратоў, ні канвою, ні сабак… А пляц для шпацыраў вялізны і цудоўны: усюды лаўкі для адпачынку…

Тут умяшаўся доктар Акунь з-пад Віцебска:

— Эх, вы ж і дагаварыліся! Налічылі гэтулькі пунктаў самай дробязі, а галоўнага не бачыце: у Амерыцы замыкаюць і сцерагуць людзі разумныя вар’ятаў, а ў Саветах — наадварот…

*

Паказвалі мне ў лагеры жыда, правадыра камуністаў з Амерыкі. Вельмі з яго смяяліся, што ён у Амерыцы арганізаваў камуністаў ехаць у Савецкі Саюз. Адразу пасля вайны ўрад Задзіночаных Штатаў дазваляў камуністам выязджаць. І вось гэты рухавы агітатар выслаў у Савецкі Саюз адну партыю, другую — аж яму сталі закідваць хітрую правакацыю:

— Ты толькі зводзіш бедных, недасведчаных людзей, а сам ты баішся ехаць і не верыш Саветам.

— Ну, як я не веру? — казаў ён. — Вось зара вазьму і паеду я сам!

Запісаў ён сябе і ўпэўнена паехаў і, мала пачакаўшы, дастаў дзесяць гадоў за… «амерыканскае шпіёнства». Сядзеў ён са мною ў лагеры 0,7. Чалавек ён быў немалады, гадоў пад 50. Малы, тоўсты і нязграбны. Хадзіў па лагерных дарожках адзінокі і ў вечнай задуме. Ніхто з вязняў да яго не падыходзіў, бо ўсе ведалі, што ён фанатычна трымаецца камуністычнай лініі і ні аб нічым больш не гаворыць, як толькі аб камуне. А лагернікі чамусьці на такую прапаганду зусім не былі цікавыя.

Да сваіх прыяцеляў мушу далічыць беларуса з адною рукой Л. Вось дзе, як кажуць, іронія лёсу, і то вельмі злоснага лёсу! Чалавек з натуры майстравы: купляў, як толькі мог, гаспадарскія машыны, сам іх ладзіў, рамантаваў; наймаўся з імі на працу да другіх гаспадароў і ў тым занятку выпадкова страшэнна скалечыўся. Аб ніякай палітыцы зроду нічога не ведаў і не займаўся, а трапіў у лагер на дзесяць гадоў… сапраўдная «ахвяра рэвалюцыі» — гэтай ненасытнай гідры, што пажырае нявінныя ахвяры. Л. быў ціхі і маламоўны, чалавек галубінага сэрца: вечна стараўся што-колечы майстраваць, але адной толькі рукою, бо другая была адрэзана да самага пляча. Жаль было глядзець на няшчаснага калеку! Затое душу меў зусім здаровую, поўную любасці да Бога і да бліжняга і… цікавую да ўсякіх машынаў.

## УЦЕКАЧЫ

Уцёк — не ўцёк, а пабегчы можна.

Не ведаю, як караюць за ўцёкі ў вольным свеце. А ў Савецкім Саюзе караюць вельмі жорстка, бо «пабег» уважаецца там за вялікае злачынства. Дэкрэт з 15 красавіка 1919 года даваў за ўцёкі значна большы тэрмін, а за паўторны раз судзілі ўлучна да кары смерцю. Ведама, што ў царскай Расеі лавілі ўцекачоў і садзілі ў карцар: назначалі вастрэйшы рэжым ці пасылалі ў штрафны астрог. Аднак тэрмін кары заставаўся стары. Відаць гэта хаця і з таго, што сам Сталін у расейскага цара ўцякаў з Сібіру 5 разоў! А ў Гітлера за аднаго ўцекача каралі страшэннай смерцю (голадам) 10 невінаватых. Значыць, пасля Гітлера найвастрэйшая кара за ўцёкі існуе ў Савецкім Саюзе.

У Саюзе сам вязень павінен прызнацца да віны, і фактычна пад тэрорам прызнаваліся зусім не вінаватыя. А калі пасля справа выяснялася, што трэба было невінаватых звольніць, дык суд мусіў судзіць іх за фальшывае прызнанне. І родныя павінны даносіць адны на другіх, бо таксама будуць суджаныя за неданос… І падсудны павінен пастанову прыняць і падпісаць… Дык вось бачым, якая блытаніна ў кодэксе і ў практыцы. Савецкія законы без параўнання перавышаюць сваёй жорсткасцю і царскія і фашыстоўскія, за выняткам Гітлера.

*

У 1953 годзе ў 0,7 уцякаў адзін інвалід, але вельмі нерасторопна. Загадзя прыгатаваў сабе хлеб і драбязу і на рабоце перакуліўся праз загарадзь. Пасля работы ягоныя ўцёкі сталіся пры паверцы ведамыя. Пагоня з сабакамі яго злавіла за пару дзён. І зара ў лагеры начальства з вялікім трыумфам нам яго паказала. Нас склікалі на публічны мітынг, а яго вывелі на ганак канцылярыі і выставілі на паказ. Я бачыў яго зблізку. Ён выглядаў моцна пабіты: меў напухлы твар, падбітыя вочы і крывавыя сінякі. Начальнік публічна абсмяяў ягоную нязручнасць і вельмі ганьбіў яго і нас усіх за ягонае злачынства. Прытым з пагардай вытыкаў яму і нам, святарам, што ён — «духоўная асоба» гэтак зрабіў (ён быў лютаранскім пастарам):

— Як жа мы можам цяпер духоўным верыць?..

А мне прыпомнілася тады гісторыя Хрыста, як яго саромілі фарысеі, што ламаў іхныя фальшывыя законы. Таксама абсмяяў

Хрыста Герад перад усім сваім дваром. А Пілат паказаў Хрыста ўсяму народу: Хрыстос быў пабіты і ў цярновым вянку, а Пілат гаварыў:

— Вось Чалавек.

І гэтага нашага няшчаснага ўцекача забралі ад нас на суд. Што з ім пасля зрабілі, не ведаю.

*

Пасля гэтага ў нас вельмі завастрылі рэжым: зрабілі генеральную рэвізію ў бараках, у нашых пасцелях і асабістую. У нашай вопратцы абрэзалі кішэні, нашылі нам на трох месцах вопраткі нумары, і былі яшчэ іншыя спосабы дакукі.

Уцякаць з лагера ў такіх умовах стала абсалютна немагчыма: савецкую турму ці лагеры можна толькі параўнаць да пекла, скуль ніхто ніколі не ўцякае. Можа, яшчэ блатныя, якія ведаюць усе абставіны савецкага жыцця ды маюць падтрымку ад сваіх сяброў, маглі б прабаваць уцёкаў. Але і тыя маюць толькі цень надзеі на трываласць такой няпэўнай, зыбкай свабоды. Аднак жа людзі прабуюць шчасця.

Дык вось і ў нас здарыўся другі выпадак уцёкаў, вельмі ўдалы! Уцякач аказаўся сляпы на адно вока і крыху кульгавы. Якраз такому прыкметнаму чалавеку цяжэй зацерціся ў масе. Тады ж з гэтага паўстала на нас вялікая нагонка. Лагерная ўлада бэсціла нас і брыдзіла рознымі лаянкамі, што, як яны казалі:

— Інваліды толькі прыкідаюцца хворымі і ашукваюць…

— У інвалідаў трэба адбіраць палкі і кастылі: гнаць іх без ніякай літасці на работу! Ім нельга патураць, як дасюль бывала…

Адным словам, мы ўсе былі адказныя за таго бегуна. А тым часам з усяго лагера, можа, пара ягоных калег-блатных ведала аб планаваных уцёках. Аднак трэба шчыра прызнацца, што мы ўсе цікавіліся ўцекачом і ў душы жадалі яму поспеху. Хоць улада мсцілася на нас за ўцёкі, але мы на ўцекачоў не гневаліся, бо кожны з нас ведаў, на якім баку праўда, а на якім крыўда.

А наш сляпы з маладых гадоў быў спартсменам і ўцякаў ад нас двойчы. Першы раз ён уцёк дужа зручна і планава: падабраў летнюю імглістую раніцу, калі знялі начную варту. Днём з чатырох вышак для варты застаюцца толькі два канвойныя, якія вартуюць і паглядаюць на два бакі. Дык наш сляпы падставіў у парожны вугал жэрдку, знятую з гарода ад агуркоў, хітра пралез праз драты і праз высокую загарадзь, а там праз пустую вышку нармальна прайшоў па сходах уніз і пабег у густым

тумане… У пару гадзін на паверцы аказаўся недахоп аднаго інваліда. Пачалі шукаць у лагеры — аж як апаў туман, убачылі тую фатальную жэрдку ля загарадзі. І аказаліся ясныя сляды на выграцаванай зямлі паміж калючым дротам і галоўнай загародкай. Адразу ўслед паслалі пагоню, але сабакі сталі чхаць і не пайшлі следам, бо сляпы нечага насыпаў на свае пяткі (расцёртай табакі?). А без сабак канвойныя хутка згубілі след.

І так сляпога не злавілі, і мы аб ім забыліся. Аднак за год яго вярнулі. Тады мы даведаліся, што сляпы папаўся ў таварным цягніку на запасной лініі, дзе яго знайшлі спячага. За гэты год ён прайшоў суд, адбыў турму ды з даўжэйшым тэрмінам вярнуўся да нас. А нам за яго дасталася таксама. Між іншым, наш лагер залічылі да бунтарскіх і правялі такія рэформы:

1) Унутры лагера пазносілі ўсе платы і перагародкі.

2) Нанач забаранілі трымаць у лагеры ўсякі інструмент, а нават мётлы, шчоткі і венікі: усё гэта перад ноччу забіралі ў рабочую зону.

3) Усе палкі, тычкі і падпоркі выкінулі вон.

4) Паадбіралі палкі ў старых і калек, а кастылі ўзялі пад вострую кантролю.

5) Наглядчыкі абвастрылі дысцыпліну: часцей нам дакучалі, мацней крычалі і брыдчэй лаялі.

Хутка пасля гэтай нагонкі прыйшла да нас вестка, што той наглядчык, які найбольш адбіраў палкі і кастылі, падпіўшы, сам падпаў пад цягнік, які адрэзаў яму абедзве нагі. Адразу няшчаснага ўзялі на аперацыю. Ці ён з гэтага выжыў, мы не даведаліся. Доўга ад выпадку гаварыў і дзівіўся наш лагер.

І трэба ж таго ліха, што наш сляпы, пасля трох-чатырох месяцаў, уцёк другі раз! Ну, цяпер наехала на нас спецыяльная камісія, якая падняла цэлую буру супраць лагернай улады, а гром і перуны на нас. Найбольш мелі клопату з тым, што ніякія эксперты не маглі выкрыць спосабу ўцёкаў. Пачатак плана адкрылі, а канец згубілі, бо сляпы, як чарадзей, «скрозь зямлю праваліўся». І ні слыху, ні дыху…

Ён загадзя разбіў на загарадзі адну электрычную лямпачку супраць свайго барака. І падабраў цёмную ноч, калі разгулялася снежная бура. У бараку ён рассунуў краты ў старым падаконніку і вылез уночы праз вакно. Сляпы пробаваў жалезнай міскай падкапацца пад плот, але мерзлая зямля не паддалася. Тады ён узяў іншы план… але які план? Тут камісія і эксперты проста падурнелі! Усе гаварылі:

— Хіба нейкія чары? Бо ніякага людскога спосабу ён не меў…
Як жа ён мог бы peралезці праз высокую загарадзь, аблытаную густа калючым дротам? І не меў ніякіх прыладаў падняцца… і не меў памочнікаў… і сам на адно вока сляпы… і на адну нагу накульгваў… А сабакі зноў не пайшлі следам: зрэштай гэты раз след замяло снегам. Начальства нам сказала:

— Абавязкова сляпога зловім і вам пакажам!

Забурчэлі тэлефоны, забарабаніў тэлеграф, забубніла радыё на ўвесь Савецкі Саюз! І, праўда, за дні тры сляпога злавілі і набілі, як патрэба. Аднак як прыйшлося нам паказваць, дык ён, хоць сляпы на адно вока і з выгляду падобны, але аказаўся не той… Ну, гэтага выгналі вон, хоць ён пэўна мусіў прызнацца да віны, як яго добра пастрашылі… А той, праўдзівы, згінуў зусім.

Улада сваю няўдачу спагнала на нас. Камісія трымала нас на марозе гадзіны чатыры і грэла нас гарачым словам. Сляпы ў тую ноч абакраў у бараку каталіцкага святара Бр. Грынявіцкага з Вільні. Ён быў стары і недалужны, але яму закінулі, што «памагаў сляпому ўцякаць» ды што «даў яму новыя чаравікі і кажушок». Грынявіцкага павезлі на суд: яму пагражала вялікая кара. Абодвух брыгадзіраў з гэтага барака пасадзілі на два месяцы у БУР (Барак Узмоцненага Рэжыму), а пасля кудысьці вывезлі. Ува ўсіх бараках папраўвілі вокны, а краты пералютавалі і ўмацавалі. Цяпер праз вокны не магла пралезці ніякая жужла, апрача нашых плюскаў. Яшчэ завастрылі ў нас рэжым: рэвідавалі пільней, рахавалі шчыльней і лаялі бессаромна. Мароз браўся да нас па-сібірску. Мы хадзілі «пад струнку» і толькі ўздыхнулі вальней пад вясну, як памёр «вялікі» Сталін.

*

Расказваў мне адзін сябра, што ў іхным лагеры быў нямы інвалід. І вось калі нямога мелі выпусціць на волю, дык блатныя нямога падмянілі і выпусцілі свайго падобнага сябру, які прыкінуўся нямым. А праўдзівы нямы нічога не ведаў і сядзеў далей пад прозвішчам таго ашуканца. А група блатных пільнавала новай сітуацыі: калі выклікалі таго ўцекача, дык блатныя выпіхалі нямога і стараліся за яго гаварыць. Нарэшце справа выдалася: па трох месяцах фальшывы нямы вярнуўся з доўгім носам у лагер, а праўдзівы — пайшоў на волю.

У нас, пасля ўцёкаў сляпога, наглядчыкі раніцай лёталі па бараках, крычалі-лаялі, каб хто не праспаў пад'ёму, асабліва ў

дзень святочны. Якраз на Новы год (1953) нашая палата заспала: звон адбіў пад'ём, а мы — нічога… Тут ускочыў наглядчык і засыпаў нас апошнімі словамі — аж мы не ведалі, куды падзецца! І ніколі нам не было так цяжка ўставаць, як у гэты першы дзень года. Дый у бараку вельмі захаладала, а нам балелі ўсе косці. Вось усе падняліся, але яшчэ сядзелі на пасцелях — так нібы прыбіраліся, а папраўдзе, дык толькі цямяшыліся. А юркі наглядчык перабягаў паміж нараў і даваў нам перцу: востры крык і расейская лаянка так і сыпаліся ў яго як з рукава. Аж адзін з нашых таварышаў, седзячы на верхніх нарах, калі наглядчык кіпеў у гарачцы, паважна загаманіў:

— Гражданін начальнік!.. (Наглядчыкі вельмі любілі, калі іх называюць «начальнікам».) Гражданін начальнік!

— А? Што такое?..

А наш інвалід (так паважна, як бы да самога Сталіна) кажа:

— Віншую Вас з Новым годам!

Наглядчык збаранеў — так гэта выйшла нечакана! — буркнуў нешта, як бы «дзякую!», як бы штосьці другое і выскачыў за дзверы. А мы, хоць галодныя і халодныя ды хоць так ганебна на Новы год віншаваныя, смяяліся з таго здарэння ўвесь дзень. Да вечара ўжо ведаў аб гэтым цэлы лагер і ўсе living розным галасамі дражнілі наглядчыка, але толькі… за вочы.

## ПРАКУРОРЫ (І АДВАКАТЫ)

> У нашым горадзе адзін пракурор — прыстойны чалавек, ды і той, праўду сказаць, свіння.
>
> ***Гогаль***

Мы, харбінскія, перайшлі ў Чыце праз доўгае следства і дасталі па «25» без пракурораў і адвакатаў. Дык я не ведаю, да чаго яны ў Саветах прыстасаваныя? А пасля, як я адзін з нашай групы трапіў на «народны суд» (на 0,13, дня 8 верасня 1954, як аб гэтым будзе далей), тады я сам і шмат іншых — абыходзіліся без адвакатаў. Вось жа я стараўся выведаць, якое значэнне маюць у Саюзе адвакаты? Але ніхто мне не мог нічога пэўнага сказаць, і наагул так мне выяснілі, «што аж цёмна стала». Значыць, там адвакаты бадай што толькі патрэбныя для большага шыку на вялікіх «паказных» судах. Дык вось хачу парадзіць савецкай уладзе, каб зусім адвакатаў выкрасліць з судоў і з жыцця, бо яны

так у іх патрэбныя, як і ўвесь ўрад, калі досыць там дыктатара і міліцыі. Дзеля таго і я тут выкрасліў адвакатаў.

Ну, пракуроры — справа іншая: іх нават Гогаль, як мы бачылі, моцна бараніў. Нават і на маё следства аднойчы прыйшоў пракурор: крыху паслухаў маю справу і, смеючыся, запытаўся мяне:

— Ці ён цябе не б’е?

— Не, — кажу, — следавацель мяне не б’е, але страшэнна лаецца.

— Ну, гэта — глупства!

Так пракурор мяне пацешыў і больш не паказаўся. Таксама ў маю «адзіночку» не заглянуў ні разу. Пасля, як я быў у зборнай камеры (нас там сем чалавек), раптам да нас надышла група вайсковых. Пасярод іх стаяла агромная жанчына ў вопратцы цывільнай, але з генеральскай мінай. Але гэтая таўстуха мела на сабе такую кароткую модную спадніцу, што сапраўды была б добрым пудзілам на вараб’ёў. Тут яна акінула нас грозным вокам і загрымела жаночым басам:

— Я — пракурор! Хто мае якую скаргу ці просьбу, зара гаварыце. Слухаю…

Але мы з вялікага дзіва стаялі здурнеўшы і не адказалі ані слова. Я ж першы раз у жыцці бачыў жанчыну-пракурора і то такую «бамбізу»! З таго, што афіцэры кружылі ля яе з вялікім савецкім набажэнствам, мы змеркавалі, што яна ў іх — нейкая важная шышка.

Як яны адступілі, тады мы толькі агледзеліся, што змарнавалі добрую аказію, бо кожны з нас меў нямала чаго прасіць, жаліцца і пытаць… Затое мы стараліся прыгатаваць матэрыял на другі раз і ўсё «запісвалі» ў памяці, каб не змыліцца і не скапыціцца, як прыйдзе пракурор. Нам хацелася б усё запісаць на паперцы, але ані алавіка, ані паперыны ў турме не дазваляецца, як толькі на просьбу да начальства. Каб знайшлі кавалачак алавіка пры рэвізіі, была б кара.

І вось нам зноў пашанцавала: за месяцы два прыйшла зноў тая пракурорка. Але мы цяпер не спалохаліся: кожны смела прыступіў з сваім клопатам. А яна ўсіх праслухала, перапытала і аказалася даволі цярплівая: давала парады, рабіла перасцярогі, тое-сёе абяцала — аж усе засталіся задаволеныя. Калі я не мяшаўся, яна сама папыталася:

— А ў вас ёсць пытанні?

— Я, —кажу, — прашу мяне вызваць аднаго.

— Добра, вызаву!

І адплыла яна ад нас паволі і паважна, як пава. А мы цанілі ў ёй добрую душу ў вялізарным целе.

Вось цяпер мы, падмацаваныя ейнымі абяцанкамі, пачалі чакаць палёгкі, як каня дажджу. Але прайшоў тыдзень і два, а яна чамусьці мяне не кліча. Аж напісаў я ёй просьбу і прыпомніў ёй пракурорскае слова; дый надарэмна! І ніхто з нашых калегаў не дачакаў ад той патарочы нічога з усяго абяцанага. Хто вінаваты, ці сістэма, ці асоба?

Вось і ўсё, што можна сказаць аб пракурорах! Яшчэ адзін раз наведаў мяне пракурор — у гуртку з другімі, як на следстве спакушалі мяне супраць веры ў Бога (аб гэтым сказана ў першай частцы ўспамінаў). Дый тады, як іншыя на мяне насядалі, пракурор маўчаў. І таксама, як чыталі нам дэкрэт Масквы, якая нам давала «25» без суду, пракурор стаяў і маўчаў. А ўвесь парадак вёў следчы Іваноў. Чаму ж тады савецкія пракуроры і адвакаты так старанна маўчаць? Відаць, што яны не з'яўляюцца незалежным голасам грамадства…

Яшчэ ўспомню аднаго пракурора з «белых афіцэраў», з якім я спатыкаўся ў бальніцы і ў лагерах. Ён браў удзел у першай вайне супраць немцаў. А пасля рэвалюцыі 1917 года прыклеіўся да белых генералаў. І вось характэрна тое, што мой знаёмы Н. тады працаваў ваенным пракурорам і меў шмат падсудных бальшавікоў. Савецкі бок кляйміў яго як свайго ненавіснага ворага. І нарэшце, пасля Другой вайны, бальшавікі злавілі яго! Следства трывала доўга: следчыя і пракуроры затрацілі шмат часу, спісалі шмат пратаколаў і ў канцы далі яму «25». Баяўся, што расстраляюць. Але ў гэтую вялікую трагедыю ўблытаўся кусок камедыі: ані пракуратура, ані следства не дакапалася, што ён быў белым пракурорам супраць чырвоных. Як яны прасляпілі такую важную віну? Павыцягвалі самыя дробныя малаважныя факты і далі «25» проста за нішто! А да галоўнага ані дакрануліся, хоць чалавек быў выдатна ведамы. Давялося яму сядзець у тых самых турмах, якія калісьці, як пракурор, сам наведваў і кіраваў лёсам іншых людзей.

## ЯК ДРЭННА, ДЫК ДОБРА!

Аднаму шчасце ракою плыве, а
другі ў няшчасці цэлы век жыве.

1954 год. Зноў камісоўка. Ах, як я на яе надзеяўся! Але і баяўся… Бо пасля бальніцы, ад 15 жніўня 1952, я ўжо цягаўся па розных работах — і на гаспадарцы, і ў лесе, на чыгунцы, у тартаку (лесапілоўцы), у рамонтах, а найбольш пілаваў дровы ў рабочай зоне. Дык вось я цяпер спадзяваўся, што санітарная камісія нарэшце мяне забракуе, бо і гады мае нараслі і сіла здзёрлася. Тут я ўспамінаў усялякія метады, як прыпсаваць сваё сэрца так, каб ім паказалася дрэнным, а мне каб засталося здаровым. Ну вось, пасля такой падрыхтоўкі, іду на тую паганую камісоўку. А там пераглядалі інвалідаў дзве, як звычайна, жанчыны-лекаркі: адна стукае-слухае, а другая, што тая чуе — піша. Прыходжу я: першая абслухала і кажа той:

— Чуднае сэрца! На работу…

А другая так і запісала. А я, няшчасны, ледзь не заплакаў… І адразу пасля камісоўкі мяне ўміг перапісалі ў брыгаду спецыялістаў рабочых на будаўляныя работы. Гэтая брыгада якраз будавала нейкую спецыяльную стройку для перагрузкі дрэва. Кожны з маіх новых сяброў меў сваё месца і ведаў сваю работу. Брыгадзір мяне спытаўся:

— Ці ўмееш працаваць сякерай?

— Дровы то я пілаваў і сек, а ўсё іншае…

— Дык будзеш на тых бэльках круціць дзіркі, па дзве — адну пры другой.

Добра! Праўда, нас малых вучылі, што «круціць» грэх! Але круціць дзіркі ў бэльках — нічога… Працаваў я там увесь дзень і вельмі баяўся, каб не зваліцца, бо было вельмі высока. Работа ішла нязручна, але я стараўся. Аднак вечарам ніхто мяне не пахваліў, нават ніхто на мяне не звяртаў увагі, хоць я нагнаў сабе добрых мазалёў.

Назаўтра мяне з таго «круцельства» знялі і далі яго лепшаму работніку. Затое брыгадзір аддаў мяне пад апеку Мацею Петрусевічу, які перад вайною быў важным суддзёю. Мой правадыр, хоць чалавек невысокага росту, аказаўся значна мацнейшым ад мяне: лагерная бяда яшчэ не паспела высмактаць з яго прыроднай сілы.

Загадалі нам насіць доўгія сырыя кроквы. Каб хутчэй загнаць назначаную норму, там, як я бачыў, усё будуюць ці рамантуюць з сырога матэрыялу. Петрусевіч, маючы моцнае і добрае сэр-

ца, хацеў і мог мне памагчы: хапаў крокву за тоўсты канец, а мяне, як нядужага, гнаў на тонкі. Але мне і той тонкі здаваўся зацяжкім. Што ж мне рабіць? Але ў тым ніхто не вінаваты: маіх зверхнікаў падганяюць вышэйшыя, і так далей і вышэй аж да самага дыктатара, а ўніз дайшла чарга да мяне… І я сам бачыў, што працаваць трэба, бо ўсе калегі ў брыгадзе працавалі згодна, шчыра, хутка і вельмі зручна. Я любіў глядзець на іхнюю працу, як яна «гарэла ў руках». Сякера ў цесляра — шырокая і тонкая, а вострая як брытва! Ён не сячэ калоды, не рубіць яе, але чэша, стругае і гладзіць, ды наводзіць такі глянс, што яна блішчыць, як люстра. Тады майстра сам адступіць, прыжмурыць вока, зірне, палюбуецца, засмяецца, пакажа, а скажа адно толькі:

— Ну, як?

А ты быў бы тупіца ці даўбешка, калі б таксама не палюбаваўся і не пахваліў. Дык ты скажаш:

— Так, цудоўная работа!

Тады ён пасадзіць цябе на сваю калоду, папляскае па ёй рукою і дасць табе закурыць. А тое дрэва расло ў векавечнай пушчы і дайшло да гадоў 50–60 і было роўнае, гонкае як машта. Яно само сабой ачышчалася ад сукоў і поўнай каронай цягнулася ў неба, да сонца. Яно — прыгожае і стройнае, як паненка, моцнае і здаровае, як юнак, — аж стала даходзіць да поўнай сілы і мужнага веку. Але дрэву і цяпер пашанцавала: яго цясляр не псуе і не марнуе, бо ён — першарадны майстра, ён — мастак. Ён толькі шкадуе і гневаецца, што такі цэнны матэрыял не трапіў у важнейшую работу і што паложаны сыры — згіне і не адслужыць, як павінен, стогадовай службы. Але нам шкада і гэтага тэхніка, што яго з маладых гадоў не накіравалі ў школу на інжынера ці архітэктара…

І вось я ўбачыў, што я сам да гэтай работы абсалютна не пасую, бо не маю ні прыгатавання, ні здольнасці, ні сілы. Падобна — як не здатны да конскіх гонкаў стары і кульгавы гаспадарскі конь. Магу толькі марнаваць час, псаваць работу, нарваць сабе якую хваробу або скалечыцца і буду перашкодай іншым. Ім трэба хутчэй выгнаць назначаную норму або і перавысіць яе, а кожны няўмека у брыгадзе абніжае норму. На трэці дзень Петрусевіч мне кажа:

— Цяпер будзем пераносіць прыгатаваны матэрыял наверх, а сыры для апрацоўкі. А насамперш пачнём пераносіць бэлечкі.

— Добра, пачнём! Няхай сабе будуць і бэлечкі…

А ў нас усё рабілася такой машынай, якая называлася «сама»: хадзілі на работу сваімі нагамі — «самаходамі» і г. д. Працаваць

удваіх лягчэй і весялей, але трэба мець спрыт і навык: па камандзе трэба падымаць бэльку, класці сабе на плечы, ісці пад бэлькай у крок роўна і скідаць яе адначасна, без нерваў і без страху. Інакш можна скалечыць сябе і калегу. І вось Петрусевіч лагодна, але станоўка прывучаў мяне пад свой манер да гармоніі ў працы. І я ўжо добра ведаў, як трэба рабіць, але ў практыцы яшчэ пудлаваў і даставаў вострыя наганяй. І ён далей таксама браў на сябе таўсцейшы канец бервяна, але мне і лягчэйшы бываў зацяжкі. Значыць, трэ рызыкаваць — сарваць сэрца або нарваць грыжу… А я ўжо ў бальніцы бачыў нямала такіх рызыкантаў, якія пасля аплаквалі сваю неразвагу. Сеў я на калоду і гавару Петрусевічу:

— Годзе! Я больш не магу…

Якраз надышоў брыгадзір і пытае:

— Ну, чаму не падымаеш?

— Я, — кажу яму, — яе падымаю, але бэлька чамусьці не падымаецца.

Затое вечарам таго ж дня мяне перамясцілі ў другі барак і перапісалі ў рамонтную брыгаду. А назаўтра новы брыгадзір пагнаў мяне з грамадою да рамонту барака. Там мне далі качаргу і загадалі мясіць цеста: два інваліды насілі і сеялі пясок, адзін вазіў саматугам ваду, а я з другім мясілі тое цеста. Нам двум выпадала самая цяжкая работа.

— Давай, давай! — крычалі майстры.

— Дрэнна размешана… — гаманілі яны.

— Зашмат вады: давай больш пяску!

Прыйшоў камендант, пабачыў работу, пакруціў носам і кажа брыгадзіру:

— Далучы да іх шостага, бо ім, як я бачу, зацяжка. — Мы вельмі ўсцешыліся, але надарэмна, бо наш брыгадзір не любіў, каб работнікам было лёгка. Калі ж мы сталі дапамінацца шостага, дык ён забраў ад нас і пятага. Ой, ліха! Я тут збунтаваўся зусім. А брыгадзір яшчэ пачаў даліваць вару. Кажа мне:

— Тут табе не тое, што было там! Ты ў мяне пазнаеш, як трэба працаваць…

І вось, калі пасля абеду далі званок на працу, я не пайшоў. Брыгадзір ганяў і страшыў, але я ўпёрся. Брыгадзір ужо пачаў лагодзіць; але я не паддаваўся і не пайшоў на ніякую іншую працу!

Назаўтра я напісаў нарадчыку такую запіску:

1) Я цяжка хворы на малакроўе (анемія), і мне ў 1952 годзе двойчы ўлівалі кроў і так адратавалі ад смерці. Цяпер я зноў

моцна аслабеў. Калі вы хочаце, каб я далей цяжка працаваў, дык адразу пасылайце ў бальніцу, давайце новай крыві, тады магчыма, што на якія паўгода буду здатны да такой працы…

2) Мне ўжо пайшоў 65-ты год, і я даўно перакрочыў гранічны тэрмін да працы; а ў Савецкім Саюзе забаронена прымушаць такіх інвалідаў. Мяне прызналі інвалідам ужо ў 1949 годзе.

3) Я ўжо ў 1950 і ў 1952 годзе быў у Цэнтральнай бальніцы і прайшоў дзве аперацыі, дык назначаць мяне на цяжкія работы, як перш у будаўлянай брыгадзе, а пасля ў рамонтнай, ніяк немагчыма і незаконна.

Падаўшы запіску, я доўга чакаў выніку і на работу не хадзіў, хоць і вельмі баяўся, што скончыцца дрэнна. І сябры моцна страшылі:

— Ты задумаў страшную ігру, бо наогул у Саветах сабатаж цяжка караюць, а ты — у Сібіры і ў лагеры. Падумай, што робіш?

Але я ўпёрся супраць усяго свету! Цяпер я сам дзіўлюся, што мне тады сталася? Я нікога не радзіўся і нікога не слухаў. Так прайшло да трох тыдняў. Увесь лагер глядзеў на мяне з дзівам: мусіць, думалі, што я здурэў. А ўсе брыгадзіры паглядалі на мяне злосна, бо я пасеяў у лагеры «смуту». Але ўлада чамусці мяне не чапала. Такога выпадку яшчэ тут не бывала, бо ўсіх упартых рэгулярна заганялі ў карцар. І я пачаў думаць, што або выйграю нешта вялікае, або прайграю рэшткі… І баяўся і ўпіраўся.

Аж нарэшце звалілася на мяне такая адплата, што ўсе ахнулі. Я ўжо прывык да сваёй незалежнасці: сядзеў на прызбе з хворым доктарам немцам і выграваўся на сонцы. Мы наўзаем вучыліся і вучылі: я яго па-расейску, а ён мяне па-нямецку. Карысці з таго я атрымаў смешна мала, бо мая памяць кульгала на абедзве нагі. І вось клічуць мяне: «Этап!»

Этап у лагеры — справа звычайная; але цяпер мяне далучылі да штрафной групы і пасылалі ў спецыяльны рабочы лагер. Такой кары ніхто ў нас дасюль не меў і ніхто не ведаў, у які мы трапім рэжым. Але абодва брыгадзіры з нашага барака ўздыхнулі з палёгкай. Адзін з іх сказаў мне:

— Так табе і трэба! Каб ты пайшоў хоць на якую малую работу, а то ты як казёл упёрся адзін супраць усіх… Ну, і што ж? Будзеш цяпер ведаць…

Паказалася ясна, што мая кара выйшла ад іх. А мае сябры і прыяцелі — адны мяне шкадавалі, а іншыя смяяліся і ўсё гаварылі:

— Сам вінаваты: з агнём гуляць нельга…

А я пачуваўся, як у ваду апушчаны.

Але ўсё-такі надзеяўся на сваю Нябесную Патронку, Матку Боскую, бо ў дзень ейнага свята я выходзіў з лагера, 2 ліпеня. Думаю сабе:

— Калі ўсё складаецца на маю шкоду, то як дасюль Божая Маці мяне выводзіла з небяспекі, дык і цяпер паратуе.

Але пабачым далей… А паміж нашымі штрафнымі інвалідамі праходзіў ціхі трывожны шэпт:

— Нас гоняць на нумар 0,13, значыць, у самы цяжкі рабочы лагер.

— Эх, папаліся мы, ратуй, Божа!..

## «ЗВОЛЬНІЦЬ!»

Ужо забыўся, як у іх дзверы адчыняюцца.

№ 0,13-ы, Віхараўка. Тут адразу ўсе на нас скрывіліся:

— Нашто нам прыслалі старых дзядоў? Яны нам будуць абніжаць норму: каб іх духу тут не было, гнаць іх вон!

Навокал нас стаялі, смяяліся і злавалі рабочыя 1-й і 2-й катэгорыі — маладыя, здаровыя і дужыя — цеслі, сталяры, пільшчыкі, будаўнічыя, тэхнікі — усе яны спецыялісты ў апрацоўцы дрэва. Лагер і рабочая зона, што звалася «фабрыкай», прытуліліся да самай магутнай тайгі. Работнікам плацілі, і яны стараліся выгнаць найвышэйшую норму. Іх тут і кармілі лепш, дый яны самі дакуплялі яду з запрацаваных грошай. А мы, інваліды, хоць бы і выраблялі іхную норму, усё роўна мелі сваю вельмі худую і скупую інвалідную порцыю (паёк). І выглядалі яны здарова (куды нам да іх): іх нават можна было б назваць нармальнымі людзьмі. Толькі нейкі дзіўны знак — адбітак няволі, які затруваў іхнае жыццё, прасвечваў праз іхныя вочы і прыхіляў людзей да зямлі. Не відаць было ў іх юнацкай бравуры, энергіі, маладой вясёласці; не чуваць песняў, гоману і смеху. Яны выглядалі як здаровыя, моцныя бугаі, што прыгнуліся ў штодзённым ярме: яшчэ не скаштавалі жыцця ў поўнай волі, а ўжо пачалі старэць у прыгоне. Блатных тут не аказвалася ці яны прытаіліся, бо паміж такім моцным народам ім самым не было б весела. Лагер называўся Віхараўка: ляжаў на схіле закругленай гары, так што з аднаго боку адкрываўся вольны далёкі прастор.

Мы доўга стаялі сваёй групай на пляцы лагера, і ніхто не спяшаўся нас прыняць. Так мы выглядалі як новыя дзікія звяры, прывезеныя напаказ, а грамада вітала нас зусім непрыхільна.

Таго толькі бракавала, каб яны кінуліся на нас і выпхнулі назад праз браму. Вось гэта было б відовішча. Але нашыя маладыя сябры забыліся аб маладых жартах: яны мала мелі падабенства чалавечага — кожны з іх еў, спаў і жыў паміж сібірскіх лясоў на падабенства «дрэва хадзячага».

Мяне адразу і тут упісалі ў рамонтную брыгаду. Я тут пачуваўся паміж чужым густым народам больш адзінокі, як Рабінзон на бязлюдным абтоку. Далі мне набіваць дранку-лучыну на сцены барака, дзе меліся тынкаваць сцены, Работа — не цяжкая, але нудная, як нашая нішчымная каша, і брудная, як нашае штодзённае жыццё. Але і ў такой простай рабоце патрэбныя навык і ўмеласць; а я біў сабе малатком па пальцах, спяшаўся без толку, мучыўся без карысці і не выгнаў патрэбнай нормы. Мне стала сорамна перад калегамі; на маіх «пісарскіх» ручках аблязала і здзіралася скура. А ў гэных муляраў, у печнікоў, у бляхароў, у кавалёў і слесараў я бачыў, што скура на руках згрубела, заскарудзела і мазалі на далонях зацвярдзелі, як падэшва: іх не раз'ядае ні вапна, ні соль, ні цэмент, ні фарба, ні воцат. І яны не калечаць рук пры дошках і пры інструментах: а я чуць дакрануўся, дык зара і кроў! Мне баліць і небяспечна і сорамна, а да таго мушу завязваць раны і перарываць працу… Я згадваю, што мяне празывалі «недапека», няўмека, беларучка і г. д. Адзін раз я злосна адказаў такому насмешніку:

— Тваю работу я навучуся за некалькі дзён, а ты маю не навучыўся б і за 15 гадоў!

Ён аж жахнуўся і задумаўся… Бо і сапраўды, яны такія разумныя, што ўмеюць набіваць дранку, а я такі… Ну, дранка скончылася, і мяне перавялі на работу лягчэйшую і адзіночную — асыпаць бульбу. А я з малых гадоў знаў гэтае, дык узяўся ахвотна; дый праца ішла «на лоне прыроды», а ніхто не падганяў, не перашкаджаў і не закурваў. І толькі што прайшоў прыемны, асвяжаючы дожджык: пагода цёплая, паветра чыстае і дыхаецца поўнымі грудзьмі.

Але… каб гэта было ў Беларусі, а не ў Сібіры! Не забывайцеся, што тут малюсенькая машкара так кусае, тне і запускае сваю атруту, што аж жыццё становіцца пеклам. Вораг вельмі малы, але шустры, дык не ўцячэш, бо ў мяне тут праца, і не прагоніш, бо іх мільёны… і не адмахнешся, бо рукі занятыя працай… Няма ратунку — хіба плакаць? Але ж я — стары… Абвесіўся травою, але мушка пралазіць праз завесу… І сам я даю прычыну, бо выганяю яе з травы, як торгаю бульбянік. Можна

сабе ўявіць, як хмары чуць відавочных ворагаў колюць чалавека затрутымі іголачкамі — лезуць у вочы, вушы, за каўнер, у рукавы і за кашулю! Скура аж гарыць, а як патрэш тое месца, паліць як агнём і выступае кроў.

А не працоўныя старыя інваліды прыязна да мяне ўсміхаюцца. Яны маюць вольныя рукі — могуць адганяць; ды на іх не так яна нападае на адкрытым месцы; а зрэштай, яны могуць уцячы ў барак, бо машкара ў хату не ляціць. Яны з мяне смяюцца, бо не знаюць майго няшчасця: кажуць, што я лішне нервовы… Я цяпер лепш згадзіўся б насіць тыя бярвенні на 0,7-м, ці мясіць тое цеста-гліну з пяском… Дык чаму я тады адмовіўся? Значыць, дурны!

Тая бяда, што прамінула, здаецца меншай ад прысутнай. Але як іх не мяняй, усе беды ўядаюцца ў душу і ў цела. Прамучыўся я так некалькі катаржных дзён — аж у лагеры закрычалі:

— Камісоўка! Хутчэй у амбулаторыю-ю-ю…

Пытаюся ў інвалідаў:

— Чаму такая нечаканая камісоўка?

— Нічога няведама: нешта важнае нас спаткае, бо лекары вельмі шчыльна слухаюць, стукаюць, разглядаюць і пытаюцца… Інвалідам трэба спадзявацца новай бяды, бо нас прыслалі сюды за кару.

Так, так. У нас ніколі не бывала, каб новыя падзеі былі лепшыя, як старыя. Увайшоў я на камісоўку з вялікім страхам: бачу, што там сядзяць, як звычайна, дзве жанчыны-лекаркі. Але, як я пераступіў парог, старшая толькі зіркнула на мяне і адразу ад стала замахала рукою і загаласіла:

— Ідзіце сабе! Не трэба, не трэба…

Я здумеўся і стаю яшчэ. А яна паўтарае:

— Ідзіце, не трэба!

Я выйшаў і зусім не разумею, ці тут што добрае, ці благое? А сябры пытаюць:

— Што ты так хутка? Як там у цябе?

— Так і так, — кажу, — зусім не разумею, што сталася?

— Дурны ты! — кажуць. — Чаго сумляешся? То ж яна цябе звольніла ад працы.

— Але ж яны мяне і не абслухалі ды нават не дапусцілі да стала!

— Нічога не значыць! Ідзі спаць…

— Калі так, дык дзякуй Богу!

І я ўжо пасля абеду да той міленькай бульбачкі не вярнуўся.

— Бывайце, — кажу, — здаровы і вы, заўзятыя брыгадзіры з 0,7-й, і ўсякая мушка з усяго свету! Я ўжо непрацоўны інвалід…

Цяжка цягнуць саначкі на гару: але, як далезеш, дык тады забываеш аб клопатах і цяжкасцях — ляціш з гары як маланка! Такі момант аплочвае ўсе цяжкасці, каб жа толькі не перакуліцца! Дык вось і я апынуўся на самым вяршку інваліднага шчасця. За 3–4 дні мяне перапісалі ў непрацоўную брыгаду. Цяпер і я ўжо паходжваў па лагеры — вольны ў няволі… І цешыўся і баяўся — проста не мог паверыць у тое, што ўжо было запісаным і абвешчаным фактам. Як гэта сталася? Я апынуўся ў палажэнні чалавека, якога паведамілі, што ў ягонай непрысутнасці згарэў ягоны дом і ўся маёмасць. І вось ён у роспачы вярнуўся на пагарэлішча — аж убачыў, што згарэў дом суседа, а ягоны цэлы і ўся маёмасць на месцы. І ён не верыць сваім вачам: ці пажар сніўся, ці гэты цуд яму цяпер сніцца?

*

Зарганізавалася новая брыгада непрацоўных інвалідаў. Нам далі асобны цесны барак, у самым кутку лагера. У брыгаду ўвайшлі пераважна японскія палонныя, а брыгадзір называўся Баба-сан. Ён трымаўся па-генеральску, бо і сапраўды быў японскім генералам; а выглядаў ён дужа смешна: кароткі, тоўсты і нязграбны. Японцы вельмі яго паважалі, бо ён меў у іх нейкую высокую ваенную заслугу ды немалую навуку і розум. Намі, беспрацоўнымі, ніхто цяпер не цікавіўся і не займаўся, як бы нас не было на свеце. Усяго трэба было дабівацца, каб не згінуць з голаду. Японцы не ўмелі па-расейску, а Баба-сан ледзь крышку, і мы не ведалі, чаго чакаем. Ішлі дні за днямі, а ўлада маўчала. Нарэшце мы пераканаліся, што і ўлада не ведае, чаго мы чакаем. І найбольш смешна было тое, што мы, адсядзеўшы гэтулькі часу, не пазналі духу камунізму, у якім ніхто не ведае, што яго чакае? Бо інакш трэснула б і партыя і сама дыктатура. А калі б хто цікавіўся ведаць, дык хутка падпаў бы пад параграф 58-ы, пункт 6-ты, значыць — шпіянаж! Без сакрэту і без поўнай ізаляцыі камуна мусіць знікнуць!

Аж вось наехала да нас новая камісія, якая пачала рабіць запіс: хто хоча ехаць? Да каго і куды? Хто возьме персанальную адказнасць за інваліда? І хто прыме яго на сваё ўтрыманне?… Але я не меў ужо ў Беларусі нікога з родных: паўміралі або пагінулі ад вайны, ці ў лагерах нямецкіх, ці ў бальшавіцкіх.

А пасылкі мне прысылалі мае прыяцелькі, пераважна чужыя старыя жанчыны, і я не ведаў, ці яны самі могуць зарабіць на сябе. Дык я з вялікім сумлевам падаў пару адрасоў, каб не змарнаваць нагоды. А на тое, каб спісацца, згаварыцца ці выпытаць, каго мне патрэба, я не мог дастаць дазволу і не меў часу. Тым часам мне заставалася яшчэ 20 гадоў лагеру…

— Божа, ратуй мяне з «дому няволі»!

Праўда, калі паеду ў Беларусь, дык дастану волю ў паняволенай краіне, як з цеснай клеткі — у шырэйшую. Але каб толькі мне выйсці з-пад старожы, дык і то ўжо была б вялікая ласка Боская!

Ну, запісаўся! Чакаю далей. Грызе няпэўнасць. А наш вялікі лагер цяпер мне здаваўся такі цесны і загушчаны, што я не мог знайсці сабе спакойнага кутка. І прытым галаснік радыё роў і скрыгатаў і дзёрся на ўвесь двор. Нарэшце нуда загнала мяне ў бібліятэку. Тут ёсць на што пагледзець: кніжак нямала, добра апраўленыя, стаяць стройна, а… чытаць няма чаго. Найбольш ваенных і калгасных расказаў і раманаў, напісаных аднолькава на загаданую тэму і бясконца нудных: няма матэрыялу для навукі, ні для цікавасці, ні для адпачынку. Знайшлося пару кніжак з апісаннем прыроды. З старой літаратуры — Салтыкоў, Дабралюбаў і нічога больш паважнага. Ні беларускіх, ні ўкраінскіх кніжак аніводнай!

Нашыя ўсе кандыдаты на волю сталі цяпер дужа асцярожныя: гаварылі мала і цішком, каб не прабалтацца. «Стукачоў» ужо цяпер не спатыкалася; але ў Саветах не толькі гаварыць, а і маўчаць трэ ўмеючы. Аднак жа пасля смерці Сталіна жыццё ў лагерах станавілася больш натуральным. Нервы паспакайнелі, і наглядчыкі гаварылі да нас людскім голасам. Вязні рабілі планы, як уладзіць жыццё на волі. Шмат чаго перамянілася там, дома, і тут, у лагерах. У некаторых вязняў дзеці дома дараслі і пайшлі здабываць свой хлеб. У іншых — хто памёр, каго вывезлі ў Сібір, ці на цаліну, або ў лагеры. А яшчэ ў іншых жонкі паадракаліся і павыходзілі за другіх. Гэтых інвалідаў жыццё было затручанае, і яны зусім не цешыліся з волі. І падобна гаравалі тыя, якіх чакаў калгас: не чулася, каб хто ахвотна збіраўся ў калгас.

Аднак уся надзея на Бога, бо пакрысе ўсё пачало складацца на лепшае, як памёр той «Вялікі Найгоршы». І памёр Сталін у самы добры час: тады канчалі свой тэрмін 10 год тыя людзі, што папаліся ў 1945–46 гадох. А пры жыцці Сталіна досталі б новы тэрмін або «вольнае пасяленне». І яшчэ для мяне самае важнае: каб жыў Сталін, дык я б не дажыў да волі, бо я мусіў

бы выканаць свае «25». А яны канчаліся ў 1974-м, і мне было б тады 84 гады!..

## МАРУДНАЯ ВОЛЯ

Кукавала зязюлька на голы лес.

Ужо нам была абяцаная і назначаная воля, але радзілася яна доўга і ў цяжкіх муках. Часам матка, даючы жыццё дзіцяці, сама плаціць сваім жыццём. Можа, і Малянкоў заплаціў сваёй воляй за нашую? Дык вось нам у Віхараўцы абвясцілі, што кожны інвалід, калі хоча ісці на волю, перш мусіць пераступіць праз два высокія парогі: «акціроўку» і Народны Суд. Пасля бальшавікі ўбачылі, што такая працэдура зойме шмат гадоў, каб выпусціць дзесяткі мільёнаў нявінных вязняў. Дык пачалі выпускаць без гэных пунктаў і «парогаў». Але нам яшчэ загадалі на тыя перашкоды драпацца.

Найперш нас выслалі ў бальніцу № 0,11 на «акціроўку», каб сцвердзіць нашую няздатнасць да працы. Там нас узялі на абсервацыю. Пасля пайшоў рэнтген, аналізы, дактары-спецыялісты і Галоўная камісія. Мяне палажылі ў палату да лекара, чалавека рэзалютнага і дужа галасістага. Ён узяў мае аналізы і пытае:

— Што табе далягае?

— Нічога: толькі агульная слабасць.

Як наваліўся тут лекар на мяне (ён аказаўся жыдам):

— Што ты сабе думаеш? Ты не называеш ніякай хваробы! Чаго ты сюды прыехаў? Цябе зусім не актывіруюць! і г. д.

Я спалохаўся і замоўк. Але ўсё роўна не ўмеў паказаць ніякай хваробы. Тут ён мяне проста прагнаў з вачэй, а сам нешта ў пратаколе нагрызмоліў без мяне. Тут жа я выскачыў ад яго як апараны! І пабег да рэнтгену. Там на мяне свяцілі і нешта пісалі ды пыталіся. Але і тут я зрэзаўся, як недавучаны студэнт.

— Ці сэрца баліць?

— Не.

— Ці баляць лёгкія?

— Не.

— Ці кашляеш? Ці ёсць адышка?

— Не і не!

Гэтыя не крычалі, але нешта мармыталі і сказалі: «Гм…» А пасля я доўга хадзіў па зоне, апусціўшы галаву, як прыглушаны. Я пытаўся сам сябе і не ведаў, што сабе адказаць:

— Што мне трэба было гаварыць? І што цяпер са мною будзе? Каб я сам сабе не папсаваў волі?..

А мае разумныя сябры паказалі цэлую уйму самых моцных хваробаў, дык мае шансы яшчэ больш аслабелі і з’ехалі на нішто!

— Не, не ўмею я жыць з цяперашнім хітрым светам! А той крыклівы лекар мусіць мяне не прапусціць? Што ж будзе?

Заўтра выпала нядзеля, але Галоўная камісія працавала як у будні, бо яе моцна падганялі. Мая чарга ішла пасля абеду, але доктар-маёр, які быў начальнікам бальніцы і старшынёй камісіі, чамусьці на далейшы пасляабедны перагляд не прыйшоў. Мяне аглядалі без яго: цяпер я хоць не меў страху, але таксама не патрапіў добра паказаць хваробаў. На мяне напала нейкая дзіўная адранцвеласць, як бы параліч розуму і волі: усюды я путаўся і саромеўся. Так калісьці я капыціўся на экзаменах у школах. Але тут галоўная лекарка гаварыла са мною спакойна і выпытала ўсё, што ёй было патрэбнае, а сакратарка пільна пісала ў пратакол.

*

Нарэшце на дзень 8 верасня 1954 года, якраз у свята Нараджэння Дзевы Марыі, у лагеры Віхараўка назначылі Народны Суд. Засядалі: старшыня, два асэсары, пракурор, сакратар і эксперт-доктар, — значыць, поўны «паказны» суд, паводле савецкай формы. Пакуль дайшло да мяне, дык ужо некалькіх звольнілі, аднаго затрымалі і аднаму перарвалі суд, бо яго падлавілі на нейкім фальшу. Усе прысутныя так і ахнулі, пачуўшы ягонае нязручнае круцельства.

— І нашто ён зманіў? Толькі сам сябе замазаў… і нам можа зашкодзіць.

Яго адразу арыштавалі і кудысьці адправілі. Мы ўсе цікавіліся, што з ім будзе, але даведацца нам не ўдалося.

Вызвалі мяне. Я стаяў перад судом першы раз ад стварэння свету. У жыцці шмат чаго пераражыў, а цяпер меў за сабою год турмы і пяць гадоў лагеру, з тых «25», што дала мне Масква без суду. У гэты момант я пачуваўся як бы завешаны паміж пеклам і небам, воляй і няволяй. Страху не меў, але мяне агарнула дужа цяжкая змора: быў як учадзеўшы ад усяго пераражытага. Стараўся загадзя не прыгатаваць ніякай абароны.

— Няхай будзе, што мае быць! Скажу, што мне «дасца ў тую часіну».

Суд. сакратар прачытаў мае пункты: 4, 6, 10 і 11, § 58-га — цяжкія пункты, за якія маглі мяне тады расстраляць, каб у тым

часе не была скасаваная кара смерці. Толькі ж тады (1949) не набралі на тыя пункты доказаў, каб мяне засудзіць, як было ў іх загадзя пастаноўлена, дык далі «25» без суду, нібы з сумлення… Сакратар прачытаў і тую, зручна зрэдагаваную, пастанову маскоўскай «Тройкі» — «ОСО» («Особое Совещание») — завочнага суду. Але цяпер, паміма майго доўгага тэрміну, увесь склад суду, як мне здавалася, паглядаў на мяне прыхільна.

Пасля доктар-эксперт прачытаў пратакол Галоўнай камісіі з шпіталя № 11, якая сведчыла аб маім здароўі. А я слухаў і дзіву даваўся: аказалася, што той доктар-крыкун, які так мяне настрашыў, сам надумаў і паказаў гэтулькі няведамых мне хваробаў, што я павінен быў бы цешыцца з самага благога стану свайго здароўя! Меў я там важныя дэфекты сэрца, дыстрафію 3-й катэгорыі і нейкую другую — без нумару, замалы ціск крыві, анемію ды яшчэ штосьці, чаго я не зразумеў. Суддзі слухалі эксперта ўважна і паглядалі на мяне цікава; пракурор сядзеў спакойна і не мяшаўся, а сакратар толькі ўважаў на паперы. А ўся публіка, як мне здавалася, стаяла на маім баку. І я ўжо прачуваў, што перамога будзе мая. Яшчэ старшыня паставіў мне некалькі пытанняў адносна маіх чатырох пунктаў; але пракурор мяне не збіваў, і я гаварыў свабодна, хоць і баязліва. Не скажу, аднак жа, каб я быў задаволены сваім экзаменам: у кожным маім сказе, як заўсёды са мною бывае, з'яўляліся недахопы. Але было ўжо відавочна, што яны маняцца мяне апраўдаць і выпусціць. І вось суддзі крышку сакрэтна пагаманілі і старшыня папытаўся пракурора, чаго ён дамагаецца? А ён устаў і ўскрыкнуў на ўсю залю:

— Асвабадзіць!

Тады суд выйшаў на нараду: усе чакалі з цікавасцю, а я з надзеяй на Боскае міласэрдзе. Аж вярнуліся на месца і сакратар прачытаў пастанову суду:

— «Звольніць ад далейшай кары лагера!»

Так я атрымаў урачыстае народнае разграшэнне. Прытым суд не сказаў, што кару мне дараваў, ці што дае мне амністыю, ці што звальняе з прычыны здароўя, але проста пастанавіў «Асвабадзіць!» (звольніць). Значыць, як бы той рэзалюцыі з 1949 года не было, а я сядзеў толькі адміністрацыйна. Ім, відаць, сорамна было прызнацца, што мяне арыштавалі і трымалі ў турме і ў лагеры бясправўна, бо ўсе чатыры пункты былі сфабрыкаваныя без суду і за вочы. Значыць, паводле савецкіх законаў, мне павінны заплаціць за ўсе гады прымусу і за страчанае здароўе. Гэтае платы я не зракаўся і чакаю яе да гэтага часу…

Вось жа цяпер дамагаюся, каб Савецкі Саюз заплаціў мне за час — 6 гадоў, 4 месяцы, 5 дзён (ад 22 снежня 1948 да 1955, 27 красавіка) на падставе прыродных, хрысціянскіх і міжнародных законаў. А калі Савецкі Саюз Божых і людскіх законаў не прызнае, дык паводле іхных уласных законаў маю права да поўнай платы. Або буду жаліцца ўсяму Вольнаму Свету, што мяне, чужынца, савецкая ваенная дэлегацыя купіла ў кітайцаў і трымала без суду ў турме і ў лагеры, а пасля Народны Суд у Віхараўцы звольніў, не даказаўшы мне ніякай віны. А за страчанае здароўе, за адарванне ад працы і за страчаны час не заплацілі мне ні гроша!

Апрача таго, дамагаюся платы ад Кітайскай Народнай Рэспублікі за прыватную сваю маёмасць. Ніякага суду Кітай нада мною не рабіў, а прадаў мяне савецкай ваеннай дэлегацыі.

Калі Савецкі Саюз выступае ў абароне людзей чорных, жоўтых і чырвоных, а мяне, белага, пераследвалі і скрыўдзілі ў самым гэным Саюзе, а пасля на Народным Судзе звольнілі, дык дамагаюся рэстытуцыі і справядлівасці!

## ЧАКАЙ!

Мая доля ў канцы поля.
Тваё «зара!» як панскае «пачакай!».

Яшчэ сядзім у Віхараўцы. Тутэйшыя вязні спачатку нам зайздросцілі такой хуткай свабоды, але пакрысе да яе прывыклі і нарэшце пачалі з яе смяяцца, празываючы яе «куртатай» свабодай. Бо мы, звольненыя судом, сядзелі і далей на месцы і падлягалі старому рэжыму. Ужо даўно суд зладжыў свае манаткі, забраў паперы ды паехаў. Ужо і восень пайшла ўпрочкі, а сібірская зіма сядала на карак, а мы чакалі… Нарэшце загаманілі, закрычалі: «Этап, этап!»…

— Куды нас павязуць?..

— Я так ведаю, як і ты…

Дый нейкая падсвядомая дагадка нам падказвала, што яшчэ перамена ішла тымчасовая. Пасля вялікіх звычайных цырымоніяў нас вывезлі з 0,13 і выкінулі з цягніка на глухім пункце 0,5-м. Нашто ён нам здаўся? Тут мы чакалі далей больш 6 тыдняў, нічога не робячы, надаядаючы адзін другому і не ведаючы, што з намі будзе.

Лагер ляжаў на ўзгор'і. Летам магло тут быць прыгожа і спакойна ў поўным аднаселлі. Але цяпер, у пачатку зімы, месца

здалося нам такой пустыняй, у якой жывуць манахі-анахарэты, што праводзяць час у пасце і малітве і ў спецыяльнай працы. Але мы мелі толькі пост і маглі маліцца, хто колькі жадаў. Нас ізалявалі і сцераглі паводле ўставу — з поўным апаратам начальства і канцылярыі ды з звычайным складам наглядчыкаў, канвою і сабакаў. А нас, інвалідаў, было не больш 70 чалавек. Па платох таксама гарэлі лямпы, на вышках дзяжурылі чатыры канвойныя. Нам здавалася, што і адзін наглядчык мог бы нас упільнаваць: каб нам прыгразілі, што адымуць свабоду, дык ніхто не асмеліўся б падысці да брамы. Зрэштай, мы не мелі тут ніякай спакусы: месца — пустое поле, ні людзей, ні лесу. Трашчаў мароз, веяў вецер, ішоў снег… Мы былі ўжо не вязні і не лагернікі: каб нас адсюль выганялі, мы не мелі б куды ісці, бо за брамай нам гразіла згуба…

У Сібіры наагул вялікіх вятроў зімою не бывае, але на гэтым узвышшы днём і ноччу гудзеў, свістаў ці плакаў праніклівы вецер, а мы мерзлі, колькі не хочучы! Лагер не быў прыгатаваны да зімы, а зіма ўдарыла ранняя і суровая.

Мяне зацікавіла і здзівіла тое, што мае знаёмыя сябры запісаліся на выезд за граніцу, а я адзін выбіраўся ў Беларусь… Дык чаму мяне прылучылі да заграніўных? Я мазаліўся з сваімі думкамі і не меў каго запытацца. Людзі хадзілі як цені: вестак ні лістоў не мелі ніадкуль. Аднолькавая, нішчымная яда прыелася да смерці. Кожны шукаў месца сагрэцца; а з усіх кутоў выглядала на нас пустка, сцюжа і нуда, нуда, нуда… Каб хоць з кім пасварыцца?!. Але ніхто не хоча.

Аж, дзякуй Богу, этап!

Прывезлі нас зноў у Тайшэт, № 0,25; у той самы, ад якога мы пачалі ў 1949-м сваю Кальварыю. Я не пазнаў Тайшэту: ён абнавіўся зусім. Баракі, што былі з хлявоў і стайняў, замянілі новымі, можна назваць, шыкарнымі. Яны выглядалі на падабенства казармаў: збудаваныя планава, высокія і прасторныя. Але дрэва абраблялі сырое і будавалі паспешна, каб толькі здаць камісіі, якая мусіла прыняць з пахвалой, бо вонкава ўсё здавалася прыгожае і практычнае — як «з іголачкі»!

Нашыя нары былі супольныя, і ўсе спалі покатам, без сеннікоў і пасцелі. Сабраліся і сціснуліся інваліды з розных лагераў Ангар-Лагу. На шчасце, дроў у нас хапала, дык мы мерзлі ў самую меру. Мяне цягнулі да сябе розныя незнаёмыя — аж я не мог змеркаваць, хто з іх лепшы, і апынуўся на верхніх нарах у групе жывых, шустрых людзей, якія вельмі шмат і хутка

гаварылі, бо яны аказаліся палякамі. Я з вялікай цікавасцю іх слухаў, бо яны мелі нямала вестак з савецкіх лагераў, з Польшчы і з усяго свету. Тут я меў аказію параўнаць польскі характар з іншымі ды бачыў, як далёка палякі адыходзяць ад нас. Здаецца, што беларускі характар бліжэй да славацкага ці нават харвацкага, як да польскага. Мае таварышы ставілі мне шмат пытанняў, але перабівалі мае словы і адказвалі самі, бо яны былі палякі. Іхныя думкі і сказы бывалі арыгінальныя і смелыя, але не дагаварвалі да канца, збівалі адны другіх, забываліся, аб чым гаварылі, а ў канцы тварыўся хаос і гармідар. Яны разбівалі маю нуду і лёгка рабіліся маімі прыяцелямі; але я, не плануючы нічога, адрываўся ад іх і ахвотна гутарыў з другімі, а тыя былі ўкраінцамі. Беларусаў я чамусьці тут не спаткаў.

У Тайшэце я даведаўся, што савецкая ўлада перасылае мяне ў Польшчу, замест у Беларусь. Чаму ў Польшчу? Фармальна я лічыўся польскім грамадзянінам і меў польскі пашпарт. Але фактычна я радзіўся ў Віленшчыне на тэрыторыі Савецкай Беларусі і ўжо запісаўся на выезд у Беларусь. Пагаварыў я з другімі і даведаўся, што ёсць у Тайшэце ўкраінцы і жыды, якія таксама паедуць у Польшчу. Але я сумляваўся, ці трэба пратэставаць? Не тое самае важнае, дзе варожыцца лепшае жыццё, а тое важнейшае, чаго дамагаецца большая хвала Божая. Мае таварышы інфармавалі, што ў Беларусі не толькі жорсткі пераслед рэлігіі, але святары не дапускаюцца да духоўнай працы.

Сабралася ў Тайшэце маса народу. Хоць лагер быў вялікі, але цесната стварылася яшчэ большая. Грамадства складалася вельмі стракатае — ад японцаў і карэйцаў да немцаў і югаславаў. Ніхто не шукаў сваркі, аднак не маглі з сабою зжыцца, бо ўжо страшэнна адны другім надаелі! Кожны толькі аб тым мроіў, каб хутчэй разляцецца. Хоць даўно нам прысудзілі свабоду, але ўсцяж паўтаралі выпіскі, анкеты, дакументацыі і г. д. А ўсё ж той самы Тайшэт вісеў яшчэ над нашай галавою! Толькі тры чалавекі ля нашага барака ўхітрыліся і, як згаварыўшыся, у адным часе вырваліся на волю без дазвалення і без дакументаў — японец, жыд і паляк — проста ўзялі і памерлі! А мы, рэшта, цягнулі сваю нуду далей.

Я пасля даведаўся, што некаторых беларускіх святароў нідзе на волі не хочуць мэльдаваць (прыпісваць), а не прыпісаных выганяюць з месца на месца... Значыць, яны туляюцца як «жыд — вечны блуднік». Вось жа мне трэба было хапацца за першы найбліжэйшы бераг, але толькі не за свой...

Нарэшце ў наш лагер зірнула сонца свабоды! Першых выклікалі японцаў. Недарма на іхным сцягу красуецца чырвонае сонца на белым полі. Японцы знікалі ціха: іх забіралі невялікімі групамі. І тут жа ішлі карэйцы: іх знайшлося чалавек 30, маладых, бойкіх людзей. На развітанні (не з намі, але з сабою!) яны ўладзілі шумную вячэру з прамовамі, з песнямі і з дружнай, брацкай гутаркай. Мы ўбачылі між імі такую прыязнь і сардэчнасць, якой не спадзяваліся. На свой баль яны прынеслі толькі агульную, лагерную вячэру і пару баначак мармеладу. Затое прамовы былі гарачыя: іхныя косыя вочы блішчэлі, іхныя рукі жыва краталіся і штораз разлягаўся звонкі смех, па-дзіцячаму радасны і шчыры, як толькі ўмеюць смяяцца ўсходнія народы. Адзін прамаўляе, а ўсе ўважліва слухаюць, прытакваюць, ківаюць галавою, або не! спрачаюцца — аж злуюцца! І ў канцы ўсё пакрываецца раскошным гучным смехам. Нам, белым, было сорамна, што мы не ўмелі так дружна весяліцца, так па-брацку жыць і так культурна развітацца, як жоўтыя азіяты.

І вось у Тайшэце аставалася адна старая Еўропа, якая ўмела адбіраць свабоду і ў двух войнах змагалася за свабоду, а не хацела даваць свабоды. Так часам стары гадзіннік доўга шыпіць, скрыпіць і стогне, пакуль праб’е дванаццаць. Ну, і наш урэшце прабіў — закрычалі:

— Этап, этап!

Высылалі вялікі этап: румыны, немцы, славакі, угорцы, балгары, палякі, жыды, да якіх прыткнулі пару ўкраінцаў і аднаго беларуса. Засталіся на месцы югаславы і драбяза рознага іншага складу.

Развітаўся я з Тайшэтам без ніякага жалю, бо гэта — найнуднейшы лагер у Сібіры. Паставілі яго між балотамі, абгарадзілі высокімі слупамі, закрылі ад Божага свету і так стварылі вялікую клетку для «людскіх звяроў», якія пераважна былі найлепшымі людзьмі ў Саветах. Улада тут вельмі мала займалася гэтымі вязнямі, бо на работу іх не ганялі, значыць, яны толькі абцяжвалі канцылярыю.

Толькі наглядчыкі і канвой старанна іх пільнавалі ды шчыльна лічылі. Толькі нам зрабілі тую дагоднасць, што забралі ад нас крыміналістаў і блатных. Кармілі нас неадменна старой нормай, толькі ўжо хлеба пасля смерці Сталіна не бракавала, а нават можна было выпрасіць дадатак. Але вечная аўсянка і ячменка так прыелася, што людзі не маглі глядзець у міску. Аж трэба было сябе прымушаць да яды, каб перад свабодай не памерці. Людзі не жылі, а толькі вегетавалі.

Для большай немарасці знайшлі мы тут, у Тайшэце, знаёмага з 0,7 начальніка «культуры», Танцуру. Ён там ужо, як галоўны «выхаваўца» лагера, у 1953 годзе асмяшыў сябе навекі, калі востра прыгразіў інвалідам:

— У каго знойдзем рэлігійныя кніжкі, ці запіскі, ці абразкі, або штосьці такое, дык няхай пасля наракае сам на сябе!

Танцура тады завастрыў бязбожны курс, каб знішчыць усе праявы веры. І трэба ж было яму выступіць у самы благі час, бо якраз тады памёр Сталін і пераслед рэлігіі аслабеў. Але Танцура дастаў павышэнне, і мы яго спаткалі ў Тайшэце. Аднак жа тут найбольшая была ягоная заслуга, што маўчаў. Праходзіў праз лагер вельмі паспешна, не гледзячы на нікога, як бы штосьці ўкраўшы. Як я яго помню, Танцура заўсёды хадзіў насуплены: нуднейшага атэіста я ў жыцці не бачыў.

Дый наагул вельмі дзіўна, як атэісты і бязбожнікі могуць пачувацца рэзвымі і вясёлымі, калі яны ўроілі сабе, што імкнуцца ў цемру і абярнуцца ў нішто: цела — у гной, а душа развеецца, як балотны туман ці як фабрычны дым… І як можа разумны чалавек упіцца недаверствам да таго, што публічна хваліцца, як ён па смерці будзе смеццем, а душа абсалютным нулём?! Яны называюць свае выдумкі «навукай». Яны кажуць:

— Прырода мае свае сілы… Ёсць законы прыроды… Прырода мае сваю мэту. Прырода дала і развівае жыццё.

Але ж падумайце вы, разумныя людзі! Прырода — сама нежывая і неразумная — скуль яна мае «сілы» або «законы» ці «мэту»? І як яна магла стварыць жыццё, калі сама вечна нежывая? Навука мае права разважаць і выследжваць праявы і законы прыроды, але пачатак існавання ды мэту жыцця трэба аддаць рэлігіі, каб не ўпасці ў абсурд. Толькі рэлігія можа даць адказ на ўсе трывожныя пытанні нашага бытавання, бо рэлігія паказвае нам «Тварца неба і зямлі», які ёсць адвечна Разумны і Магутны. Дык жыць і працаваць дзеля Бога і дзеля нашага вечнага шчасця і для прышлых пакаленняў — толькі гэта разумна. А жыць і мазаліцца, як атэісты, дзеля шчасця чалавецтва, якое будзе гноем і нулём на вякі — гэта страшэнны абсурд! Лепш ужо хутчэй памерці… А нават, як бачым сваімі вачыма, матэрыялістычная філасофія ў практыцы даводзіць да голаду і роспачы (Кітай).

*

Нам ніхто не сказаў, што едзем на свабоду. Аднак мы самі прачувалі, калі ўбачылі, што нас скіравалі на Захад па Вялікай Сібірскай Магістралі, і што мы даганяем сонца, і што наш дзень прыбывае ды нас чакае Еўропа. А нашая надзея расла, як мы аддаляліся ад няшчаснага Тайшэта, які выпіў гэтулькі нашых слёз!

— Дай, Божа, у добры час!

## НА ЗАХАД!

Яшчэ той не прапаў,
што на Бога здаўся.

Дарога нам, магу пахваліцца, гэты раз удалася: яе нельга параўнаць да нашых даўнейшых, бо ўсё перамянілася на лепшае. Найперш, што выпушчалі нас з-пад ключа кожныя 6 гадзін, замест 12. Значыць, хто не прымаў селядца, а жыў адной вадой з хлебам, той мог так-сяк ператрываць. Ваду давалі часцей, хоць і халодную, замест варатку, як належала паводле ўставу. У купэ ўпіхалі шмат, але з бядою можна было ляжаць, праўда, на голых дошках і без пасцелі. Блатных не было: мы мелі супакой і нас не лаялі, як дасюль бывала.

У важнейшых пунктах нас здымалі на «адпачынак» і заганялі ў турмы — у Краснаярску, у Омску, у Новасібірску, Свярдлоўску і ў Маскве. Каб нам далі волю ў вагоне і большую выгоду, лепшую яду і пасцель, то мы маглі б абмінуць усе тыя пункты, абысціся без канвою і скараціць дарогу на якія тры-чатыры тыдні.

Аб кожнай затрымцы гаварыць не варта. Турмы ўсюды мы знаходзілі запханыя. Усюды мы праводзілі па 4–5 дзён на голых дошках і ў вопратцы, прытым больш мучыліся, як адпачывалі. Усюды яны спаўнялі поўную праграму: нас лічылі, рэвідавалі, мылі, размяшчалі і кармілі. Рэвідавалі старанна: у Омску адабралі ў мяне іголку, бо і рэвізору яна патрэбна. У наступнай рэвізіі знайшлі старое пяро і адабралі. А ў Свярдлоўску знайшоў рэвізор кусок зламанай жылеткі; значыць, я заслужыў на кару. Аднак добры чалавек мяне не пакараў, затое даў такую праборку і так пасароміў, што я моцна пачырванеў — не за сябе, а за яго, што ён такі недарэка. Дый яны перакананыя да шпіку касцей, што вязень і на волю павінен ехаць нявольнікам.

Ад Омска нашая грамада расшчапілася на дзве часці: румыны, балгары і інш. паехалі на Чэлябінск, а рэшту нас накіравалі паўночным шляхам на Свярдлоўск, праз Урал і Маскву. А ў нашым купэ зрабілася так прасторна, што аж не было цесна! І неяк дзіўна гэты раз зладжылася суседства, бо немец ляжаў абапал з жыдам, паляк з украінцам, славак з угорцам, а іншыя ўперамешку. Так, не падбіраючы, мы зрабілі цесную «дружбу народаў».

Толькі адзін славак Клімент Х., вялікі непаседа, псаваў усю нашую гармонію. Гэты чалавек быў нязносным стварэннем. Вонках выглядаў сімпатычна: малады, гладкі, як маляваная лялька, вяртлявы і страшэнны балбатун. Але маральна аказаўся наскрозь калекам. І прытым быў веруючым каталіком! Як ён мог пагадзіць веру і малітву з распустай і брахнёй, немагчыма зразумець! Аб сваіх прыгодах лапатаў цэлымі днямі — падрабязна, цынічна, дый з звярыным смакам. Не зважаў на іншых, што не хацелі слухаць і брыдзіліся. І, калі здавалася, што скончыў, ён зручна падлазіў да іншых, пачынаў зноў тое самае сцішка — аж уваходзіў у азарт, рагатаў, як конь, і так бясконца… Сварыліся на яго, але ён нічуць не саромеўся. Здавалася, што самы паганы чорт не мог бы так спакушаць людзей, як гэты бессаромны тып.

Пробаваў я прагаварыць да ягонага сумлення: ён слухаў уважна і, здавалася, што клаў кожнае слова ў сэрца. Але хутка лез да другіх, і я мог чуць, як ён зручна перакладаў маю гутарку на свае юрлівыя гісторыі. І не магу сказаць, што ён дражніў мяне ці гаварыў на здзек, не! Гэты славак меў здаровы розум і быў па-свойму чэсны. Але ён так зжыўся з грахамі, што піў іх як ваду і дыхаў імі як паветрам. Каб хто няведама як адукаваў свінню, дык яна памытая, як здарыцца нагода, палезе зноў у балота, а пасля абатрэцца аб чыстага чалавека. І мільён анёлаў не ачысціць аднаго чорта, хоць ён мае вялікі розум і хоча быць шчаслівым!

І трэба ж такога сораму, што з сімпатычнага і ад вякоў каталіцкага славацкага народа вырас такі вырадак, якога я не бачыў і паміж хуліганамі! І чаму Бог трымае такое зелле? Але ж Бог дапускае спакусы, бо яны прабуюць і гартуюць нашую цноту: спакуса, як гімнастыка ці як спорт, мацуе нашую волю і так мы дабываем заслугі на неба. Але той няшчасны чалавек-звер сам углыбляецца ў пекла…

На бяду, спакусы даводзяць людзей да граху; тады трэба пакутаваць, уніжацца прад Богам і маліцца. І вось грэх і пакута нас муштруе, дае практыку жыцця, каб чалавек не зазнаваўся,

а каб верыў і хінуўся да Бога. Значыць, Бог у сваёй прамудрасці не надарэмна дапускае спакусы, а нават грахі, як бацькі дапускаюць дзіцяці паваліцца і акрывавіць носік, каб навучылася цвёрда стаяць ды хутка бегаць. Дык і той шалапут-славак, які ахвотна і на сваю згубу заступае сто чартоў, у Божым плане мае сваё няшчаснае месца, як той Юда Іскарыёт. Трэба маліцца за такога шкоднага грэшніка ды сцерагчыся яго як заразы.

*

Уночы мы пераваліліі праз Уральскія горы і не прыкмецілі граніцы паміж Азіяй і Еўропай. І вось дакаціліся да Масквы! А дзеля таго, што ў Маскве сядзела ўлада Савецкага Саюза, якая сказала нам на судзе ў Віхараўцы «Асвабадзіць!», дык мы спадзяваліся, што ў Маскве нам гэтую свабоду дадуць без ашуканства. У кожным выпадку тут нас спаткае нешта новае і, мусіць, дужа прыемнае… Зара і пабачым.

Так мы гаворым, згадваем, цешымся авансам. Цікава нам і на хвалёную Маскву паглядзець, дый з нашага боку ў цягніку вокны былі забітыя дошкамі, а з нашых закуткаў касячком, праз калідор, Масква ледзь нам мільгае і зусім не можам прыгледзецца. Толькі відаць, што Масква пакрытая грубым пластом снегу, а дамы нагадваюць нашыя гарадкі, як Ліда або Ашмяны. Але, нічога! Зара выйдзем з цягніка і ўбачым самы цэнтр сталіцы, як яна ёсць!

І вось вывелі нас з цягніка і… бачым — і не верым сваім вачам! У Маскве акружыў нас сталічны канвой і накіраваў на нас вострыя штыхі, і ў прысутнасці грамады народу павялі ў такой працэсіі да знаёмага «ворана».

Так мы і паехалі ў Маскве «на волю» — у турму на «Краснай Прэсні». А прысутныя пагладалі на нас з вялікім дзівам: яны пэўна думалі, што мы злачынцы вялікай маркі. Пасля доўгага, цяжкога падарожжа мы ледзь валачылі ногі; а затое канвой быў малады, здаровы і ўзброены «да зубоў». Мы ў гэтай адмене так выйгралі, як старая мыш, што вырвалася з лапаў худога ката, а трапіла ў кіпцюры сытага і гладкага: ёй цяпер і ўміраць не было сорамна.

Мы спадзяваліся, што Матушка-Масква пакажацца нам, заграрічнікам, у поўнай красе; але нас замкнулі ў маскоўскі «воран», які, як і сібірскі, быў бляшаны, без вакон, з маленькім ваконцам у дзвярах, дый і тое канвойны закрываў сваімі плячамі. Так што мы не маглі бачыць ані «самі сябе, ані друг друга!».

Мы хутка таксама параўноўвалі маскоўскую турму да сібірскіх і магу засведчыць, што яна гэным ні ў чым не ўступае. Іншая справа з турмой на Лубянцы! Бо там, як мне расказваў знаёмы святар, ёсць часці «паказныя», дзе «паказныя лёкаі» падаюць «паказную» ежу 4 разы ў дзень у рукавічках. Паказныя турмы, як і паказныя калгасы і фабрыкі, служаць для загранічнікаў, якія пасля агляду, як некрытычныя турысты, раўнуюць да амерыканскіх. А на Краснай Прэсні мы знайшлі вялікі ўраджай на людзей: там, як у вежы Вавілонскай, стаяў разнамоўны гоман. Але той сціснены народ у вялікай зале прыняў нас даволі прыхільна, нават і блатныя, якія мітусіліся ў сваім куце і заглушалі палітычных. Блатныя вучылі нас маскоўскага парадку: нікога не баяцца, нічога не саромецца і ўсяго дамагацца з трэскам! Яны зручна ўвязвалі ў ражончыкі ад венікаў жылеткі і так галілі адзін другога. А нас, сібіракоў, такая навасць вельмі дзівіла, бо ў Сібіры за жылетку грaзіў моцны карцар, а маскоўскі дазор глядзеў праз пальцы.

Зараз і мы пастараліся згаліць з сябе сібірскую шэрсць і наслухацца маскоўскіх навінак. Наагул тутэйшыя блатныя больш выглядалі на людзей: не чувалася такіх брыдкіх слоў і блюзнерстваў, як у Сібіры. Прытым ніхто з нас не быў абкрадзены, што было б вялікім дзівам, калі б у нас знайшлося, што ўкрасці. Дык у канцы мусім сказаць, што маскоўскія блатныя былі самымі культурнымі хуліганамі з усяго Савецкага Саюза!

У Маскве мы яшчэ сустрэлі новы тып маладых турэмнікаў, з якіх з часам вырасце характэрная катэгорыя ці банда савецкіх хуліганаў. Яны зусім не баяцца турмы: уважаюць яе за свой нармальны перапынак і дом. Ім вельмі спрыяе тое, што па смерці Сталіна савецкая ўлада змякчыла рэжым і зменшыла тэрміны. Гэтыя зладзюжкі (варышкі) лёгка прымаюць 2–3 гады кары, уважаючы яе за смешна кароткі прыпадак. А на волю выходзяць, як на адпачынак, на пару месяцаў, і добра ведаюць, што вернуцца ў турму як у бацькаву хату. Паміж маладымі хуліганамі і старой савецкай міліцыяй ідзе безупыннае спаборніцтва, і яны даходзяць да такіх высокіх «нормаў» спрыту і зручнасці, якія не сніліся ні амерыканскім бандытам, ні паліцыі. Спосабы кражы дайшлі да такой дасканаласці, што савецкая міліцыя апускае рукі.

## НА ПОЎДЗЕНЬ… ПОЦЬМА № 1-Ы

Абы скакаць навучыцца,
А работы гора навучыць.

Замест на захад Масква павярнула нас на поўдзень — аж нам станавілася штораз больш дзіўна і страшна — куды нас валакуць? Праехалі мы праз Разань і далей нашая чыгунка пачала паварочваць на ўсход… Мы не мелі каго пытацца і ніхто з нас сам не ўмеў разгадаць, куды нас западзенуць? Ці камедыя, ці трагедыя? Бо я ў Сібіры спатыкаў такіх палякаў, якіх па 2–3 разы вазілі на польскую граніцу, а іншых на Каспійскае мора, каб праз Іран выпусціць на свабоду; а стуль чамусьці, аднак жа, завярталі назад у Сібір і зноў пакавалі ў лагер… Дый нас нарэшце затрымалі, каб адправіць у групу лагераў Саранск–Поцьма ў Мардоўскай АССР. Нас накіравалі ў Поцьму № 1-ы. Тут нам адразу не пашанцавала: зіма яшчэ не адышла, а вясна не наступіла. Пагода стаяла падобная да паўдзённай восені. Ішоў дождж, а мы мелі добрых пару кіламетраў забалочанай вясковай дарогі. Добра, што грунт нам удаўся пры пяску: а балота, лужыны і каўдобіны мы маглі абмінуць, абысці ці пераскочыць. Бо нас цяпер не строілі па пяць, а кожны ішоў, як яму выпадала. І нас ужо не страшылі, што будуць страляць за «крок убок» — так на нас адазвалася свабода! Вялі нас як простых вязняў, а стража ішла спераду і ззаду. Але з манаткамі выйшла турбацыя. Вось ужо маем выходзіць.

— Чакайце! Прыедзе грузавік.

Чакаем, аглядаемся: няма яго доўга…

— Пойдзем! Грузавік не прыедзе.

Сталі закідаць мяшкі на плечы, вузлы — таксама, а скрынкі — у рукі, ці як хто мог, так валок.

— Стой! Нясі рэчы сюды: пакінем іх на станцыі. Кладзі ў кут! А грузавік прывязе іх пасля.

Добра! Мы і рады: зложылі рэчы ў кут, а самі ідзём. Зручна скачам праз лужыны, жвава і паспешна крочым у лагер, бо і вечар надыходзіць, а мы галодныя і мокнем. Ну, прыйшлі на месца пад вароты, і толькі маніліся адпачыць, ажно крычаць на нас:

— Станавіся! Ідзём назад па рэчы, бо грузавік не прыйдзе…

Аніяк ісці не хочацца Але ж даецца каманда. Хто абыходзіць лужыны, а хто і не! Былі ўжо добра зморaныя, калі з мяшкамі, скрынкамі, кашолкамі вандравалі цяпер абы-як праз лужыны і балота. І было ўжо цёмна і зябка, а пасля — горача і бязмерна

цяжка! Дый тут споўнілася пагроза: «Гора вам, багатыя!» Бо некаторыя валаклі з Сібіру шмат дрэні, а сваю сілу пакінулі там. Гэты раз я моцна цешыўся, што быў дастаткова бедны.

*

Жыццё ў Поцьме, як і сам назоў, выглядала цёмна — без ніякага прасвятлення: рэжым крышку аслабілі, але стражу над намі трымалі моцна. Мы тут мелі досыць выгоды, але нямала ўціску.

У Поцьме нас ужо не ганялі, але клікалі, як людзей, і часамі гаварылі нам «вы» замест сібірскага «ты». Не крычалі на нас: «эй, мужык!» і г. д. Хлеба ўжо хапала, але давалі, як і ў Сібіры, чорны, цяжкі на вагу, непрыемны на смак і няпэўны на здароўе. Порцыю шэрага (падсітковага) выдавалі паводле рэцэпту лекара толькі інвалідам дыетным. Хоць яда давалася лепшая, але далёка не даходзіла да нармальнай. Інваліды наракалі і хварэлі не з прычыны недахопу ежы, а з прычыны яе якасці: усё аднолькавае, нішчымнае, вечныя крупы, недахоп зелені, цукру, акрасы і малочных прадуктаў. Хто не хацеў уставаць, паспяшыць у сталовую, таго ніхто не трывожыў. Толькі ж кухня спозненым не выдавала нічога. Аднак дзіўна, што кандыдатаў праспаць чамусьці не было.

У палатах курылі дзень і ноч: не курыў адзін на дзесяць, ды і той шкадаваў, што змоладу не навучыўся, бо табака не давала выседзець у бараку адну гадзіну, а трэ было сядзець 24! Уцякалі мы на двор, але дрэнная вясна і благая вопратка гналі нас назад. І яшчэ адна радасць: галаснік радыё! Яго ўлучалі ад 6-й гадзіны раніцы да 12-й ночы. Без перапынку грымела музыка, спеў, гімнастыка, а найбольш — лекцыі і прапаганда, якой ніхто не слухаў. Аднак прымкнуць галаснік палата не дазваляла, бо ўсе плацілі па рублю на месяц за яго. Мае нервы не маглі перанесці піску-скрыгату і гуку радыё з гармідарам палаты, а ўцячы нельга, бо вярнулася зіма! Затое ёсць газеты! Нават бывалі польскія. Хапаю-чытаю і… аддаю другому, бо і Варшава вядзе падобную прапаганду, услед Маскве.

Чаму толькі адны немцы ў Поцьме дастаюць багатыя пасылкі з Чырвонага Крыжа?

Уся рэшта інвалідаў толькі паглядала на немцаў і з прыкрасцю маўчала. А яны мелі кансервы, цукар, мёд (!), мармеладу і інш. А мы ўсе маглі свабодна ў іх купляць…

— Ах, немцы прадаюць мёд! Так мы даўно яго не бачылі…

Пабеглі мы: пытаем па-нямецку, каб лепш трапіць ім да сэрца. Дый усюды аднолькавы адказ:

— Быў — няма — прадалі…

Аж у адным месцы знайшлі: мёд натуральны, пахучы, салодкі — толькі цана «салёная»! Ну, неяк адважыўся я і купіў: але ж той мёд вельмі хутка ўзяў і разышоўся… Пасля таго жыццё яшчэ больш згарчэла!

*

Ларок наязджаў у Поцьму часцей, як у Сібіры, ды адзначаўся большым багаццем. І тавару выкладалі шмат, абы толькі грошы! Гадзіннікі — практычныя, прыгожыя, недарагія і казалі, што трывалыя. Ножыкі, жылеткі, брытвы… Гадзіннікаў нам у Сібіры не дапускалі, а за ножыкі і падобнае цяжка каралі. А тут — поўная воля! Прадавалі валізкі, партфелі, прылады для курцоў і масу папярос. Каўбасамі завальвалі сталы; але, як збегся народ, пахапалі навыперадкі, а палавіна людзей адышла без каўбас. Потым нездаволеныя засталіся і тыя, што куплялі, бо ў пару дзён паелі, а грошы разышліся… Я ж купіў нейкага хвалёнага расліннага сала (воўк бы яго еў!): яго вельмі рэкламавалі і яно доўга ў мяне трывала, бо «гадка было есці, а жаль пакінуць». Цукру мы чакалі шмат тыдняў, а ў ларку яго не бывала — аж я зачапіў самога начальніка. Ён праходзіў побач, з шыкам апрануты, у вайсковай форме. Кажу яму:

— Нездаровіцца мне: ці будзе калі ў ларку цукар? Гэтулькі часу чакаем…

— У мяне для дзяцей цукру няма, а вы тут яшчэ…

Я і не рад быў, што наступіў яму на мазоль. Мне абсалютна і думка не прыходзіла, што пад Масквой і ў такога начальніка магло здарыцца такое гора ў 1955 годзе!

Так мы шыкаваліся на волю. Ратаваліся ад нуды шахматамі, а нават картамі, якіх тут ужо не забаранялі. Мне ўдалося падружыцца з двума мілымі людзьмі — з балгарам і сербам. Дабраліся яны, як блізнюкі — не з твару, а з характару — гаваруны і вясёлыя чалавечкі. Шчырыя, як чыстае золата, а дружныя, як родныя браты. Толькі ж я хутка прыгледзеўся, што балгар лішне цёмны, а серб лішне светлы. Аж яны абодва аказаліся «штучнымі», бо балгар быў армянінам, а серб — расейцам. Яны калісьці эміґравалі ў Балгарыю і ў Сербію ды мелі тамашняе

грамадзянства. Абодва аказаліся інтэлігентнымі, веруючымі, бывалымі і, як большая частка вязняў, сядзелі без ніякай віны. Прыемна гаварыць з такімі людзьмі, якія маюць што сказаць, умеюць гаварыць і любяць паслухаць. А мне тым больш было цікава, што яны інтарэсаваліся рэлігійнай тэматыкай. Я забягаў да іх пару разоў у дзень і знаходзіў адпачынак для сваіх нездаровых нерваў. Яны мяне забавязалі трымаць кантакт і на волі, запамятаць іхныя адрасы і пісаць. Я ж быў з таго рады: абяцаў, помніў і… ні разу не пісаў, бо якраз даведаўся, што і ў тых краях воля — нявольная, а свабода — цесная. Дык нашто рабіць прыкрасць сваім прыяцелям?

Найбольш сімпатычна прайшлі ў Поцьме Каляды 1954/55 года. Лагерная ўлада ўжо не фарсавала свайго атэістычнага напрамку і не перашкаджала нам святкаваць, як хто жадаў, з вынятка публічнага набажэнства. Куццю строілі нацыянальнымі групамі. Найбольш прыгожа ўладзілі ўкраінцы грэка-католікі. Паміж імі верхаводзіў малады святар І. Р. Украінцаў знайшлося нямала, і яны раздзялілі ролі: адны заняліся вячэрай, другія перапісвалі калядкі і шыкавалі хор. За прыкладам украінцаў пайшлі другія. Нават парушыліся індыферэнты і атэісты: самі, праўда, не рабілі сабе асобнага нічога, але прыхільна прыглядаліся да веруючых, а пасля далучаліся да сваіх суродзічаў і шчыра ім памагалі, асабліва пры сталох.

Вось прыйшла куцця! У нашым бараку першыя былі ўкраінцы. Запрасілі і мяне. Іхняя куцця была брацкім спатканнем у няволі: уся рэлігійная, у меру патрыятычная, а нават даволі не бедная. У гутарцы і ў кароткіх прамовах прабівалася туга да родных, да дому і волі. Пажаданні сыпаліся адпаведныя дню:

— Маемо апошнюю куццю ў няволі… Каб Бог даў хутчэй дамоў!

— Шчасліва ўсім вярнуцца да сваіх!

— Каб Бог даў волю ўсёй Бацькаўшчыне!

— Дай, Божа! Дай, Божа!..

Паліліся мілыя калядкі: у іх дзіўна лучылася — радасць і сум, неба і зямля, Магутны Бог — у постаці Дзіцяці, ясная зорка — ў цёмнай ночы, песні анёлаў і лютасць Ерада, Светлыя Каляды — у беднай стайні, — усё выклікала ў нас святочны настрой, а часам і слёзы на вачах… Украінская песня не мае канкурэнцыі: прыродныя галасы, прывычныя да песні — так у каталіцкай царкве, як і ў хаце, у полі ці на вяселлі, у адзіноцтве ці ў хоры — гэтая песня пацягвае і захоплівае, падбівае і супакойвае.

Якая вялікая крыўда і страта для беларускага народа, што пад варожым націскам ён забыўся і згубіў сваю рэлігійную песню! Якое ганебнае няшчасце, што нашае каталіцкае і праваслаўнае духавенства так доўга было адлушчана ад народу і вучыла сваіх братоў аб святых праўдах веры ў чужых і варожых мовах… А вялікія войны і штучныя граніцы рвалі нашыя землі і дзялілі наш жывы народ. І варожая рэвалюцыя збройнай і варожай рукою адбірае ад нашага народа ягоную веру, родную мову, зямлю і волю ды так імкнецца забіць ягоную душу…

«А хто там ідзе —
У вялікай такой грамадзе?
Беларусы!»

## ЗНОЎ МАСКВА!

Едзеш у дарогу,
Памаліся Богу!

Як бы там дасюль ні было, хоць і 8 месяцаў мы чакалі, але ўжо едзем на свабоду! Ранняя вясна: зямля толькі пачала адпарвацца. Снегу ўжо няма: але жыцця на зямлі яшчэ не відаць. Прыпамінаецца той час, калі «зямля была парожняя і пустая. І сказаў Бог:

— Няхай зродзіць зямля зялёную траву, што прыносіць насенне… І сталася так». (Кніга Роду I, 10–11).

Цяпер кожную вясну «становіцца так», што зямля родзіць траву і дрэвы «паводле гатунку свайго». «І ўбачыў Бог, што ўсё было добрае». А благія, сляпыя людзі гэтага не хочуць бачыць і плануюць знішчыць наш добры, прыгожы свет… і ўжо трымаюць у руках гатовыя гарачыя бомбы. Усё жыццё можа раптоўна скончыцца на зямлі, і астанецца Вялікае Сусветнае Папялішча!.. Каму яно патрэбнае?

А мы тым часам падымаемся на поўнач, едзем у Маскву. Усюды наступае вясна, але ўсюды голае, чорнае поле: гэта ж усё паганая зіма, з лютым марозам і ветрам, так збыткавалася і нішчыла жыццё на зямлі! Аднак гэты вораг вельмі аглядны, хоць і раз’юшаны: зіма толькі прыбівала, але не забівала жыцця, кансервавала і адагравала халодным лёдам і снегам бедную зямлю, ачышчала марозам паветра і ўрэшце пакорна заплакала вясною і хутка адступіла ў належным часе.

Пагода была хмурная: ні сонца, ні цяпла, ні холаду, ні дажджу і ні ветру… Зямля мусіць прабудзіцца, але яшчэ не мае ні сілы, ні адвагі. Як той гультаяваты чалавек, што і не спіць і не ўстае, а толькі пацягваецца і пазяхае: чакае, пакуль сонца засвеціць у вочы і прыгрэе ў бок…

Да Масквы нас давёз і добра сцярог звычайны вайсковы канвой, да якога мы прывыклі, як коні да сваіх паноў. Аж раптам мы пачуліся адзінокімі, калі канвой адышоў і нікому нас не даручыў. Аглядаемся, як той абадраны чалавек, якога бандыты абгалілі і пакінулі на вуліцы раздзетага. Аж вось з'явіўся нейкі цывіль і, нічога не кажучы, пачаў энергічна нам камандаваць: а мы, прывыклыя да ярма, ахвотна пачалі яго слухаць. Ніхто нам яго не рэкамендаваў, не паказаў ён нам ніякага дакументу: як ён узяў лейцы і пугу ў рукі, мы паслушна пайшлі баразной. У вольным свеце так зрабіў бы толькі жулік, але ў Савецкім Саюзе мы ведалі, што ён — афіцыяльная асоба. Чалавек ён быў ветлівы, але станоўкі. Апрача яго яшчэ здалёку кружылі ля нас нейкія іншыя ананімныя тыпы: калі ж я на такога глядзеў, дык ён на мяне не глядзеў. Масква. З цягніка перасадзілі нас у пусты пасажырскі аўтобус, у якім не было krataў і вокны — незавешаныя, а мы маглі глядзець свабодна. Аўтобус прайшоў з паўдня на захад праз цэнтр горада. Хто не бачыў вялікіх гарадоў, як Рым, Парыж, Лёндан, Нью-Ёрк, Чыкага, таму і Масква здасца дзівам. Масква змяшчае ў сабе ўсю Расею: як пад'язджаем да яе, перш бачым вёску, далей ідзе тыповае мястэчка, далей выглядае як гарадок, пасля — горад і ў цэнтры — сталіца. Ёсць хаткі з садочкамі, на якія прыемна глядзець, але наагул да цэнтра пахваліць магу нямнога. Масква — горад вялізарны і рух вялікі ды багацце паказное. Але папраўдзе гэты горад перастаў быць Масквой: яго падмянілі. Гэта ўжо не ёсць той старадаўні царскі, баярскі і царкоўны горад, але тыповы вялікі, абноўлены і мала чым выдатны гарадзішча. Часам выстраліць здалёку фабрычны комін, часам выплыве навамодны ў цукеркавым стылі высокі дом-прапаганда, а рэшта — старое падлатанае або новае тандэтнае ці падцацканае; часам трапіць штосьці цікавае і прыгожае, але часцей — абыякавае. Ці ж гэта — Масква?

А дзе ж тыя, ведамыя ўсяму свету, «сорак саракоў» цэркваў, якія будаваліся на працягу 800 гадоў? Значная частка з іх былі прыгожыя, стылёвыя, пышна залочаныя, вялізарныя і бязмерна багатыя… Няма іх! А калі так, дык няма і Масквы! Ёсць горад вялікі, прамысловы, цэнтр камунізму, дый усё яно тандэтнае.

А цэрквы пайшлі на склады, на памяшканні або панішчаныя ці запушчаныя — стаяць без вакон, абдзёртыя… І нашто іх так яшчэ трымаюць?

Калі перайменавалі Петраград, Ніжні Ноўгарад, Самару, дык і Масква павінна быць перахрышчана на нешта камуністычнае, каб назоў адказваў характару, як «Марксград» ці «Марксхоз», або проста — «Маркс»!

Крэмль. Толькі тут Масква засталася сама сабою: прыгожы стылёвы закутак, у паважным, старым гусце. Аднак яму цесна паміж новых будынкаў. І цяперашняму ўраду тут цесна, і ён бы без жалю даўно ўсё старое збурыў бы, але не адважыўся… Урад, як мы там бачылі, аднаўляе крамлёўскую царкоўку, якая ўся загубілася ў рыштаваннях — так густа імі абстаўленая, што не можа прабіцца да неба ні адной сваёй кручанай вежай. Гэта — сімвал: так абгароджана ўся праваслаўная Царква ў Савецкім Саюзе пад апекай бязбожнага ўрада…

Нас не выпускалі з аўтобуса ні на хвілінку: толькі праз вокны мы бачылі і дзівіліся на гістарычную Маскву. Праязджаючы міма грабніцы-маўзалея Леніна–Сталіна, аўтобус звольніў ход, і мы маглі бачыць і параўноўваць маўзалей да акружэння. Ані размерам, ані стылем грабніца не пасуе да крамлёўскіх палацаў, як бы хто на здзек паставіў на фронце класічнага гістарычнага палаца піўную будку. Нашыя інваліды адразу абазвалі тую прыбудоўку «овощехранилище», значыць склад на варыва. Вось жа дзіўна, якую думку мелі тыя архітэктары, якія планавалі гэтую патарочу? Ці хацелі зняважыць Крэмль, ці абсмяяць саміх нябожчыкаў? Удалося ім адно і другое.

Ані маскоўскага штучнага мора, ані цудаў падземнай чыгункі, ані, тым горш шкода, музеяў нам не паказалі. Здаецца, што хоць з мэтай прапаганды за граніцай павінны былі б гэта зрабіць… А цэркваў, апрача тых запушчаных і той крамлёўскай, мы праз вокны не бачылі ніводнай. Новы ўніверсітэт на Вараб'іных горах бачылі на гарызонце. Здаецца, што збудаваны ў стылі варшаўскага «палаца культуры», толькі вышэй стаіць і сам вышэйшы і большы. Калі так, дык і не шкода, што блізка не былі, бо палякі свой «палац» абсмяялі, як дарагую і негустоўную цацку. Не паказалі нам і «паказной турмы». Але гэтага мы не шкадуем, бо ўжо досыць іх мелі ў Сібіры! Праўда, не паказных…

Затое нас пасадзілі ў першарадны заграначны цягнік. Кожнае купэ брала па чатыры асобы: а там мы сядзелі ў люстрах і ў поўным камфорце. Усе мы мелі спальныя месцы, але цвёрдыя і без пасцелі. Да такіх люксусавых выгодаў мы зусім не

пасавалі. На дарогу нам выдалі новую вопратку, але ейная форма і матэрыял быў турэмны і ардынарны, дый усё гэта ў дарозе, у перасадках і турмах, абшмальцавалася, і мы выглядалі, як класічныя хуліганы. Пасля сібірскіх цягнікоў і «воранаў» гэты светлы, чысты, прыгожы і бліскучы вагон нас здзівіў і проста анясмеліў — аж мы баяліся прысесці!

Хутка, як рушыў цягнік, правадыр заклікаў нас на абед у вагон-рэстаран. Як адстаў ад нас канвой, мы перасталі лічыцца фармальнымі вязнямі, а кіраўнік трымаў нас у руках, як заграмічных турыстаў. І рука ягоная была добра цвёрдая! А ягоныя ад’ютанты назіралі збоку і не лезлі нам у вочы. Абед нам выдалі бясплатны і не зусім скупы, хоць мы пачуваліся значна недаеўшымі. Першы раз я ад 1948 года меў у руках нармальны нож і відэлец. Перад абедам кіраўнік станоўка забараніў прасіць алкаголю, але прыватна дазволіў «па адной», разумеецца, кожны за свае грошы.

Да поўнага балю нам не забракавала і музыкі. Як вярнуліся са сталоўкі, пачулі ў вагоне грымучае радыё. Цяпер старыя дзяды цешыліся, як малыя дзеці. Скрывіўся толькі адзін, а гэтым быў… я! Пакуль пілікала музыка, дык няхай сабе! Але як пачалася няважная лекцыя, якой ніхто не слухаў, я закраўся і дыскрэтна вылучыў галаснік. Ух! Як скрывіўся на мяне «вольны» народ, як загаманілі галасней ад таго радыё, дык я падумаў:

— Ну, перацярпеў гэтулькі гадоў, сцярплю і гэты апошні дзень…

*

Хутка ўязджаем у Беларусь. Як жа мне ўбачыць Менск, бо маем трапіць туды ў глыбокую ноч? А прытым мучыла няпэўнасць, як пераедзем савецкую граніцу? Мала то мы наслухаліся аб няшчаснай бальшавіцкай граніцы? І што варочалі вязняў назад, і што рабілі рэвізію кожнаму да голага, і што забіралі ўсе паперынкі, адрасы… Знерваваны такімі думкамі, перамучаны дарогай і ўсімі падзеямі, я наагул няздатны быў да сну. Аж задумаў сабе такі план:

— Лягу, але спаць не буду. А калі задрамлю, дык у Менску ўсё роўна разбуджуся… А можа, каго знаёмага ў Менску ўбачу?

Добра! Лягу я і разумею, што не сплю, бо так мне, худому чалавеку, без пасцелі цвёрда спаць, так мне ныюць косці і баляць бакі, што я кручуся, як сліж на патэльні, мармычу сам

не ведаю што, стагну, як бы збіраўся канаць і… бачу, што ўжо шарэе і святлее.

— Божа мой! А дзе ж Менск? Фю, фю! Я яго праспаў.

Я, значыць, уграз у той сон, як п’яны падарожны ў дрыгучае балота. Аднак і то яшчэ прыемна, што бачу беларускую зямлю. Цягнік плыве мякка, торгае лагодна, ківаецца ў такт, як бы гаворыць раннія пацеры. Дык і мне трэба з ім дамаліцца:

— Ах, мой Божа, веру Табе!
Усю надзею ў Табе маю,
За ўсё Цябе выхваляю…

Бачу і цешуся сваёй краінай, якая будзіцца ад доўгай зімы. А і ў мяне настаў новы дзень — яшчэ нявольны, але хутка мае быць вольны. Толькі ж калі я цяпер знайду волю на захадзе, дык пакіну сваю Бацькаўшчыну ў няволі на ўсходзе. Калі ж мы, Божа Ты наш, злучым сваю асабістую свабоду з вольнай воляй усяго паняволенага Народа?

— «Бо трэба свабоды, зямлі чалавеку…»

Мінаем Белавежскую Пушчу. Яна мне родная і цікавейшая ды мілейшая, як тая крыклівая, гордая, чужацкая Масква! Лагодны шум сасны, паважны шэлест дубовых лістоў, ціхі шэпт бярозавых лісточкаў і пужлівы свіст асінавых лісткоў, што трапечуцца на тоненькіх ножках — усё мне напамінае маладосць і маё дзіцячае шчасце. Дык вось тут блізка нашая Белавежская Пушча, хоць пакалечаная дзвюма чужацкімі войнамі, хоць цяпер разрэзаная бессаромнай граніцай, але яна аднолькава скрозь нашая, «белая-чыстая», як і ўся Беларусь! Я абавязкова хачу ў ёй затрымацца і пагасціць, бо так даўно тут быў… Дый гэты раз няможна!.. Цягнік грыміць і нясецца на захад — без адпачынку, без памяці — ён кур’ер. Ён становіцца толькі на хвілінку: пап’е вады, закусіць вугалем, пусціць пару і ляціць, ляціць… Раптам загалосіць на алярм — аж рэха аддаецца па Белавежы і там напужае баязлівага ваўка, патрывожыць соннага мядзведзя і здзівіць старога зубра. І вось зубр устаў, пацягнуўся і ўздыхнуў так, што задрыжэла зямля! Ён падумаў:

— Цяжка нам жыць, калі жалезныя коні ўгрызаюцца ў нашую вольную, жывую пушчу! Трэба нам бараніцца…

Тут зубр падышоў да магутнага дуба, каб навастрыць рогі. З гэтым старадаўнім дубам ён сябраваў ад малога, гаварыў яму аб сваёй долі-нядолі. А цяпер зароў так, што аж лісцё з дуба пасыпалася! Аж задрыжэла пушча абапал граніцы. Рэха даляцела да нашага цягніка, аж стрывожаныя пасажыры глядзелі ў вокны і дзівіліся ды гаварылі:

— Ці то магчыма, што неба чыстае, а такі жудасны гром?

І я сам аглядаўся і дзівіўся, дый не ведаў, ці ўсё тое мне здавалася, ці яно мне снілася?..

*

Прыехалі ў Берасце. Чакаем некалькі доўгіх гадзін. Кіраўнік і далей аказвае нам прыхільнасць, а прытым старанна нас пільнуе. Ці ж ён баіцца, каб мы не засталіся ў Савецкім Саюзе? Думаю, што каб хто з нас быў звар'яцеўшы, дык і то не застаўся б. Пускае нас на гадзінку па двах у горад.

— Толькі далёка не адыходзіце і не баўцеся!

— Добра, добра!

Ходзім, страляем вачыма. Горад такі тандэтны, што нічым не можа нас задзівіць. Нашыя нервы нацягнуліся, як струны, але ў душы поўны дысананс — мы не можам нічым супакоіцца і хутка вяртаемся да групы. У Польшчу нас едзе чалавек сорак: палякі, украінцы, жыды, а я адзін «тутэйшы». Гаворым з сабою мала: ужо нічога не маем з сабою супольнага, апрача кіраўніка. Падчас бязмэтнай хадзьбы па станцыі я пачуваў на сабе назойлівыя нейчыя вочы, якія мяне свідравалі. Пачаў я тайную контрдаведку: народу там было нямнога і ўсё прыгодныя людзі. Аж аказаўся «той» у самым куце: ён сядзеў за выступам сцяны і сачыў за намі пранырлівым вокам. На секунду нашыя вочы спаткаліся, і мы ў момант зразумелі адзін другога: па мне прайшлі мурашкі, а ён прыкінуўся абыякавым. «О, шэльма! Пазнаў я цябе…»

Тут на станцыі гандляваў вялікі кіёск: кніжкі, брашуры, газеты. Я агледзеў, але ўсё тут было толькі расейскае! Пытаюся:

— Ці ёсць беларускія кніжкі?

— Беларускія? Не, няма!

— Чаму няма?

— Ну, няма, і ўсё!

Я вельмі здзівіўся: а яны дзівіліся, што я здзівіўся. Далей гаварыць аб гэтым было б для іх клапатліва, а мне небяспечна. Хоць у сібірскіх лагерах і турмах нацыянальныя справы быццам не існавалі, але і там выяўлялася перамога старога царскага рэжыму. Расейцаў у нас бывала прапарцыянальна куды менш, як іншых, а ў чытальнях і бібліятэках давалі ўсё толькі расейскае. Ані ўкраінскіх, ані беларускіх кніжак ці газет нам ніколі не паказалі, хоць украінцаў было ўдвая больш, як расейцаў.

*

Польскі дэлегат рэгістраваў нас у вагоне і сам выпісваў кожнаму вялікую анкету: «Хто? які? дзе быў? куды хоча ехаць? і да каго?..» Кожнаму выдаваў цэтлік на бясплатны білет да ягонай станцыі, якую сабе ў яго запісаў, і на рукі па сто польскіх злотых (папяровых). Цяпер мы падыходзілі да польскай білетнай касы, даставалі білет і шукалі сабе месца ў цягніку, як вольныя грамадзяне. Нашая брыгада, якая ад Поцьмы трымалася разам, рассыпалася зусім, і ніхто больш намі не браўся кіраваць. А той маскоўскі апякун непрыкметна знік і з намі не развітаўся. І паміж сабою мы не развіталіся: проста нікому гэта не прыйшло ў галаву! А я пачуваўся, як чалавек, што пасля вялікага падарожжа і небяспечнай буры сышоў з параплаву на сушу: усё мне здавалася нястойкае і пад нагамі гойдаўся грунт.

Граніцу ў Польшчу я пераехаў дня 27 красавіка 1955 года а гадзіне 16-й, якраз у дзень Апекі св. Язэпа, майго Патрона.

Сонца пахілялася на захад. Дзень быў спакойны, і на дварэ пацяплела. Я хадзіў па пероне ля цягніка, чакаючы, калі адыдзе. Сонца выглянула з-за хмары і засвяціла мне ў самыя вочы. Я агляну ўся навокал: ніхто мяне не пільнаваў і не падглядаў, бо я стаў вольны. Але мне яшчэ было не свойска, як птушцы, што адвыкла ад волі, а яе выкінулі з клеткі ці як турэмніку, з якога знялі ланцугі і выпхнулі за браму. Я ніяк не мог агарнуць сваёй волі…

Ах, дзякуй Богу! Не патрабую больш апекі «народнага ўрада» — і бясплатнай варты. Еду на захад у горад Седльцы. Там прыняў мяне біскуп і накіраваў у духоўную семінарыю, дзе я 28 красавіка, у дзень св. Паўла ад Крыжа, адправіў св. Службу, дзякуючы Богу, што мяне звольніў ад крыжа і Кальварыі Сібіру.

А з Польшчы ў Рым я ледзь мог дастаць у польскім урадзе загранічны пашпарт. Пасля доўгіх клопатаў выехаў 23 лістапада 1959 года.

# ЛІСТЫ З ВОЛІ

Змяшчаю тут ліст (у перакладзе) свайго прыяцеля француза: ён вельмі жыва і рэльефна апісвае жыццё і адносіны ў Ангарлагу.

## I

*Парыж, 11 траўня 1960.*

Дарагі айцец Я.!

Не ведаю, з чаго пачаць. Хацеў бы я гэтулькі расказаць! Я так спадзяваўся з Вамі сустрэцца ў Парыжы з таго часу, як даведаўся, што Вы памысна дабраліся да Вечнага Горада. Я ведаў таксама, што збіраецеся ў… Дзеля таго я думаў, што Вы абавязкова пераедзеце праз Парыж… Я рады, што Вы нарэшце канчаткова выбраліся на волю. Шкада толькі, што Вы не выцягнулі разам з сабою ў вольны свет беднага нашага айца Т.

У лагерах я толькі крыху ведаў аб вашых падзеях, але вельмі мала, бо ж мы былі ў розных аддзелах. І ўсё ж такі мы ледзь не сустрэліся! З Тайшэта я адразу трапіў у адзін з самых найлепшых лагераў, на 0,13, у Віхараўцы. Мяне ўтрынілі ў лес (спускаць дрэвы) пасля таго, як п’яны палкоўнік усю калонію ўпёр у першую катэгорыю! А за тры месяцы 60% калоніі выйшла са строю. І я мусіў дайсці, ды трапіў у другую катэгорыю «Б». Значыць, я ўжо больш не выходзіў за зону, а працаваў памочнікам дзяжурнага ў адным бараку, дый хутка нас перавялі на інвалідную пайку і маё палажэнне стала катастрафальным. Я сам прасіўся назад на работу за зону, і я быў пры камені-шчэбню ды на чыгунцы ў дэпо. Аднак не мог вытрымаць доўга, і перавялі мяне зноў у зону. Варункі сталі горшыя дзеля сабачага опер-паўнамоцнага. Я не выходзіў з ізалятара-карцара, або з БУРу (Барак Узмоцненага Рэжыму). Мяне выратаваў начальнік лагера: ён паслаў мяне з трыма іншымі на лагпункт 0,11, у суседстве, у характары «спеца». Начальнік 0,11 разгневаўся, калі ўбачыў, што яму за «спецаў» падсунулі 4 здыхлякоў! Ён загадаў, каб мяне тут жа выправілі ў бальніцу, на 0,42 у Брацку, куды я трапіў 8 верасня ў свята Найсвяцейшай Дзевы! Перад ад’ездам я паспеў пагаварыць з Партнягіным, які «даходзіў» на 0,11. Ён мне прызнаўся, што ўва ўсім пакаяўся, і прасіў нас, каб яму даравалі. Я пасля страціў яго з вачэй.

На 0,42 я застаўся блізка год у аддзеле для сухотнікаў: там было спакайней і мяне забралі на далёкі этап за Ангару.

Я вярнуўся на 0,11 як работнік другой катэгорыі. Аднак доўга не працаваў: на наступнай камісоўцы я стаў інвалідам. Пасля зноў — другой катэгорыі і зноў у бальніцу, дый гэты раз у Віхараўку. Там прабыў блізка год, спаткаў Марчышына, які там і памёр наступнай зімою пры мне, пасля аперацыі ягонай шышкі на галаве. З катэгорыяй інваліда мяне адправілі ў інвалідны лагер 0,45 у глыб тайгі. Там было для мяне поўнае пекла. Маё шчасце, што за год лагер расфармавалі. Нас падзялілі на дзве групы. Адну адправілі на 0,13, другую на 0,11. Я быў у другой. Лагпункт 0,11 быў для мяне як рай: гэта адзіны лагер, дзе я не скаштаваў роскашы ізалятару. У канцы 53-га года я быў накіраваны ў трэці аддзел Брацк 0,43. Адсюль яшчэ ў бальніцу ў Віхараўку. Зноў 0,43. Пасля пачалі збіраць інвалідаў у дарогу і мяне паслалі ў другі аддзел 0,33. Я быў ужо «актыраваны» (збракаваны ад работы). Адтуль мяне пераслалі на 0,37, дзе я спаткаў Н. Ён мне пераказаў апошнія словы ўладыкі Андрэя (Цікоты). У бальніцы ў Віхараўцы адзін лекар-вязень, украінец, і адзін опер-паўнамоцны мне сказалі, што ўладыка Андрэй памёр у бальніцы 11 лютага 51-га года пасля цяжкой хваробы. У лютым 1955 года ўсіх чужынцаў Тайшэцкай трасы адправілі спецыяльным цягніком у далёкі этап. Нам сказалі, што ў Поцьму. Але нас кінулі ў Тайшэце і заперлі ў перасылцы для «бытавікоў». Там мы заставаліся да ліпеня. У чэрвені да нас прыехала адна вялізная група чужынцаў з… Караганды — іх таксама адпраўлялі ў Поцьму!!! (Увага: гэта так, як бы хто ехаў з Парыжа ў Рым праз… Маскву!) Яны вельмі былі збянтэжаныя, і гэта зразумела, але супакоіліся, як мы ім расказалі сваю гісторыю. Там я даведаўся аб Вас і асабліва аб айцу Тамашу.

У ліпені нас адправілі далей у глыб тайгі, каб начальніку можна было рамантаваць свой лагпункт. Там нас хацелі прымусіць да работы ў лесе, але мы адмовіліся, і яны не прымусілі. Увесь дзень мы гулялі ў карты-брыдж! 25 жніўня, на ўрачысты дзень св. Людвіка, апекуна ўсіх французаў за граніцай, мне абʼявілі, што я вольны «гражданін». У той самы вечар я адʼехаў пасажырскім цягніком у Поцьму, дзе знайшоў групу 20 французаў. За тры дні нас пакіравалі блізка Масквы ў Быкава, дзе мы прасядзелі 15 дзён у віле генерала Паўлюса, што быў «героем» Сталінграда. Адтуль цягніком у Берлін, дзе я мог служыць сваю першую літургію на волі ў дзень Найсвяцейшай Дзевы Марыі Дэла Мэрчэдэ («Ад выкупу нявольнікаў»), апякункі вязняў. І гэтак міла кончылася справа, як і пачалася ў 48-м годзе 22 снежня ў

дзень Непарочнага Зачацця. З Берліна ў Парыж — на самалёце. Вось усяго пакрысе…

Як я Вам ужо сказаў, я сустрэў Н. толькі перад адправай ягонай у этап. Ён мне расказаў, што перш быў агітпроп-бязбожнікам, што служыў правакатарам і нарэшце папаўся сам. У лагеры ён пазнаёміўся з а. Андрэем, які навярнуў яго да Госпада Бога і сам асабіста яго ахрысціў. Ён мне паказаў свой хросны крыжык, які падараваў яму ўладыка Андрэй пасля хросту. Як дзіўна, але пасля майго публічнага выступлення падчас прыезду маскоўскай камісіі на 0,33, начальнік памсціўся і выслаў мяне на 0,37, тады як мы ўсе, інваліды і чужынцы, чакалі актыроўнай камісіі. Я тады сказаў: гэта ўсё на дабро, хутка паедзем дамоў, нам перш трэба пабалтацца і пабачыць яшчэ іншых людзей. А і сапраўды, як я толькі прыехаў на 0,37, я знячэўку звярнуў увагу на нейкага цыбатага дзецюка, які выходзіў з імбрыкам з сталовай: ён выдаваўся мне нейкім нігілістам, што выйшаў з балонак раманаў Дастаеўскага. Я зараз жа звярнуўся да яго. Ён сказаў мне, што ў гэты самы вечар ідзе ў этап, каб нам уступіць месца і што ўладыка Андрэй загадаў яму як-колечы спаткаць мяне і паведаміць, дзеля таго, што «француз мае шансы вярнуцца дамоў». Я толькі даведаўся аб дэталях смерці ўладыкі Андрэя і аб тым, што МГБ доўга яго мучыла, каб ім выдаў свае «сакрэты». Яны думалі, што ён ёсць ваенны. Дый дзеля таго, што айцец Андрэй не хацеў адказваць, то яны падумалі, што як «генерал» ён не хацеў гаварыць з простым афіцэрам. Тады яны паслалі да яго сапраўднага ці падстаўнога генерала савецкай арміі. Яны сулілі ўладыку Андрэю свабоду з тым варункам, каб ён у Беларусі верхаводзіў беларускай царквою з даўнейшых уніятаў, каб прылучыць іх да Маскоўскага патрыярха, думаючы гэтым спакусіць беларускіх хрысціян. Уладыка Андрэй адказаў ім, што ягоная справа скончаная, што ён жадае толькі аднаго: «спакойна памерці на катарзе за свае грахі і за памыснасць Каталіцкай Царквы». Тады яго кінулі на самадурства лёсу і адмовілі яму нават помачы медыцыны. Ён пачуваўся ўсё горш і горш. Ягоныя раны загнаіліся, немагчыма было з ім абапал жыць. Тады прыйшлося яго адправіць у бальніцу, дзе ён памёр 11 лютага 51 года. Я больш не бачыў Н. пасля гэтага кароткага і правідэнцыйнага спаткання.

Я яшчэ не напісаў сваіх успамінаў. Магчыма, што я калі-колечы да гэтага прыбяруся. Нядаўна я прачытаў па-нямецку (я навучыўся па-нямецку ў лагерах) кніжку аб лагерах Тайшэцкай трасы. Загаловак «Мэншэн ін мэншэн ганд». Аўтар, здаецца, быў у нашым аддзяленні.

У Харбіне блізка нікога з нашых не засталося. Моладзь адправілі ў СССР, а інвалідаў выгналі на захад. Што датычыць пытання, колькі людзей было і колькі застаецца ў лагерах, адказаць не лёгка. Лічаць, што ў сталінскую пару было ад 20 да 30 мільёнаў вязняў, дый ніхто не можа даць поўнага ліку. Аб цяперашнім часе не маю ніякага паняцця. Мне толькі здаецца, што большая частка лагераў так ці гэтакператворана ў адчыненае жыллё для ранейшых вязняў і для «добраахвотных» камсамольцаў, што прыбылі з еўрапейскай часткі СССР дзеля таго, каб асвоіць цаліну!

Перасылаю Вам ад свайго імя і ад майго супрацоўніка Д. маё самае сардэчнае прывітанне.

Ваш у Хрысце

*айцец Х. Х.*

II*

Даражэнькі а. Язэп!

Аб а. Андрэю (Цікота) маю аўтэнтычны запіс, зроблены рукой айца М. Т. Ён на маіх вачах запісаў і перадаў мне наступную вестку: «Цікота Андрэй памёр 11.2.52 — Свята Аб’яўлення Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Люрд, пахаваны на могільніку, 38 шпіталь, 2 аддзел». Вось дакладная копія. Пасля ён адразу прыбавіў: «Цяпер магу забыцца аб усім, бо да гэтага часу мусіў

* Гэты (II) ліст я атрымаў з горада Грудзёндз у Польшчы ад свайго прыяцеля з лагераў Сібіру. Цяпер уважаю, што дата смерці архімандрыта Андрэя Цікоты канчаткова ўстаноўленая: 11 лютага 1952 года, а месца смерці і магілы — бальніца 38, 2-гі аддзел у групе лагераў «Ангар-Лаг», на лініі чыгункі Тайшэт–Брацк–Заярск, што ідзе да ракі Лены на поўнач ад возера Байкала.

Характарыстыка а. Андрэя, я перакананы, пададзена тут вельмі трапна, хоць няпоўна. Трэба было б асабліва адзначыць фенаменальную працавітасць Андрэя Цікоты — наагул практычную і прадуктыўную. Праўда, здараліся непаводзіны, аднак найчасцей яны выплывалі з шкодніцтва ворагаў, таксама з памылак памочнікаў або часамі з вялікае паспешнасці работы. Яшчэ хачу адзначыць у характары Цікоты поўную справядлівасць, чуткасць, станоўкасць, а прытым далікатнасць да асобы, з якой меў ён справу, ласкавасць і ветлівасць, што пры ягонай моцнай волі і некаторай цвёрдасці характару не было справай лёгкай. Тут была ў ім відавочная духовая праца над сабою і поступ у дасканальнасці — аж да гераізму!, асабліва ў цноце любові Бога і бліжняга да поўнай ахвяры з сябе самога.

усцяж паўтараць сабе ў памяці, каб не забыцца і перадаць гэта прыяцелям, калі каго-колечы з іх спаткаю». Далей я даведаўся ад яго, што сам ён пры смерці а. Андрэя не быў, бо незадоўга перад смерцю іх разлучылі, але да іх прыязджалі з той калоніі і адзін з навочных сведкаў яму гэтую вестку перадаў. Дату вышэй пададзеную лічу зусім пэўнай.

Аб чым а. Андрэй у турме гаварыў, прыпомніць цяжка, а факт, што лепш ад нас усіх перанёс следства і што здабыў уплыў на начальства ў астрозе, гэта, па-мойму, найважнейшая рэч. Кардынальныя цноты, як і тэалагічныя, зусім выразна праявіліся ў яго ў ступені гераічнай у гэтым часе. Найважнейшай ягонай цнотай была растаропнасць, блізка ў роўнай ступені чыстасць, адвага, ахвярнасць, самавырачэнне і цярплівасць. За 50 гадоў жыцця я не бачыў чалавека так дасведчанага праз Бога і каторы так знасіў бы і выкарыстаў усе крыжы ды цярпенні, як а. А. Ц. Па-мойму гэта быў знак з неба ягонай высокай святасці.

## УВАГА АЎТАРА

Прозвішчы, дадзеныя ў гэтых успамінах, з’яўляюцца або аўтэнтычныя, або замененыя асобнымі літарамі ці псеўданімы. З ведамай прычыны самі некаторыя вязні былі асуджаны пад псеўданімам, які не быў расшыфраваны савецкім судом. Але найбольшай тут перашкодай было тое, што я сам не мог спатыканых асобаў называць іхнім імем, каб не выставіць іх там на небяспеку. Ведама таксама, што пры такой безлічы народу ў лагерах, я не мог запамятаць прозвішчаў нават вельмі дарагіх для мяне прыяцеляў.

*1962*

# МАЕ ТАТА І МАМА

Маё жыццё — гэта «бег з вялізнымі і небяспечнымі перашкодамі» (такі ён аж дасюль!): труднасці ўзнікалі ці то з прычыны хваробаў, ці з заўчаснай смерці бацькі або недастаткаў і інш.

Аб сваім бацьку магу сказаць вельмі нямнога: ён быў у нашым мястэчку (Гальшаны, Ашмянскага павета, Віленскай губерні) прыездны. Паходзіў ён — Станіслаў с[ын] Язэпа Германовіч — з м-ка Жмуйдкі, Вілкамірскага павета, Ковенскай губерні. А якой быў нацыі?.. Паводле цяперашніх варункаў выглядае, што мусей быць летувіс, але ў тыя часы… Чытаў я ў аднэй гісторыі, што якраз Жмуйдкі былі на самым паграніччы, дзе сходзіліся беларусы з жмудзінамі. Цяпер у Летуве называюцца Жмуйдкі — Жэмайткеміс. Ну, і няхай сабе!

Як я навучыўся чытаць па-расейску, дык у бацькавых дакументах вычытаў, што ён быў «безземельный крестьянин». (NB. На следстве ў турме — гор. Чыта ў 1949 — мой следавацель вельмі недаверліва дзівіўся: «Як гэта магчыма, каб «крестьянин» быў беззямельны?»)

А нарадзіўся мой бацька ў 1854 і быў наймалодшым з сямі братоў. (NB. Пасля расказвалі, што ўсе сем памерлі заўчасова і асталося сем удоваў!)

Пра далейшае бацькава жыццё, астаўшыся 2-гадовым сіратою пасля ягонай смерці, я магу сказаць надта мала: ведаю, што недзе скончыў рамеснае вучылішча і быў спец.-сталяром, працаваў у Пецярбургу ў экіпажнай сталярні дый у апошнім часе — да выезду ў Гальшаны — быў там поўным майстрам. Аб гэтым сведчыла фота, на якім сядзеў пасярод рабочых, як галоўная персона.

Пра ягоны характар — паводле расказаў — мушу прызнацца — ведаю толькі тое, што быў гарачы, нецярплівы, даволі вясёлы і добры расказчык, таварыскі і трэзвы, выдатна працавіты і надта зручны спец, які любіў сваю прафесію дый маніўся ў прышласці і мяне накіраваць на свой шлях працы. Дзеля таго і

хрысцілі мяне Язэпам, даючы імя слаўнага патрона Св. Язэпа, які — паводле традыцыі быў цясляр.

На няшчасце, бацька ў Пецярбургу дастаў сухотаў, якія паволі падточвалі ягоны арганізм. Аднак лячыўся і змагаўся з сваёй слабасцю даволі паспяхова, з надзеяй поўнае перамогі.

Тут пяройдзем з маім бацькам з Пецярбургу ў Гальшаны.

У Гальшанах (назва ад роду князёў Гольшаў ці гальшанскіх — «Альшанскіх») быў пабудаваны касцёл мураваны ў 1618 г. — цудоўны рэнесанс, вялізны будынак; а пры ім кляштар францішканаў, які быў скасаваны і манахі выгнаны пасля 1863 г. — паўстання. У гэтых, б[ылых] законных мурох, пастаўлена расейскае войска.

Пад той час быў там фельфебелем Флёрыян Дубіцкі з сваёй сям'ёю, а ягоная жонка была ўроджаная Германовіч, сястра майго бацькі Станіслава. Дык вось яна з сваім мужам пачалі пісаць да майго будучага бацькі і выхваляць Гальшаны: «Што ты там мучышся ў вялікім горадзе і нажываеш сабе хваробу, калі тут такое слаўнае мястэчка? Тут табе касцёл, як бы віленскі, пабудаваны князем Сапегам, тут рэчка, млын, вялікі важны гандлёвы пункт, войска. Наўкола багатыя маёнткі: работы будзеш мець, колькі захочаш і г. д.! [»]

Да гэтых пахвалаў далучалі, што тут на месцы ёсць і яшчэ такое «багацце» — вялікі ўраджай на прыгожых паненак — гэта «ліцвінкі», з якімі не могуць ніякія іншыя прыгажуні на свеце [раўняцца]! Бо і Адам Міцкевіч сведчыць аб гэтым у сваёй паэзіі… А Станіслаў Германовіч, дайшоўшы да 30-ткі, моцна адчуваў брак жанчыны, добрай, гаспадарнай памочніцы ў працавітым сваім жыцці, а тым больш і прыгожай…

Дык вось так яно і стала! Ст. Германовіч прыехаў… Гэта сталася важнай падзеяй у невялікім мястэчку: усеклясы грамадства — вайсковая ўлада, духавенства, паны і мяшчане прынялі гарадзкога — сталічнага майстра ў сваё таварыства з поўным даверам. Прытым жа ягоная рэпутацыя як саліднага чалавека — разумнага, трэзвага, гаваркога — усцяж узрастала, асабліва ў стане жаночым, бо Германовіч не быў жанаты, а ўжо ж яму — усе разумелі — жаніцца было неабходна!

Ст. Г[ермановіч] наняў кватэру на так называнай Юрздыцы, у суседстве касцёла і казармаў на Трабскай вуліцы. Дубіцкія прынялі яго незвычайна радасна, знаёмілі з навакольнымі суседзямі і ўводзілі у новыя яму варункі мясцовага жыцця.

Трабская вуліца недалёчка і канчалася, упёршыся ў рэчку — Альшанку: з правай стараны вуліцы быў агромны стаў, зараслы аерам, а з левага — балота, называнае «пад Пеклам». На рэчцы — млын і мост, дый ішоў вялікі тракт у Трабы.

Насельніцтва Гальшан склада[лася] з 3–4 тысяч жыхароў: мясцовых беларусаў («тутэйшых», як сябе называлі), а з іх — каталікоў каля 60 %, правасл[аўных] 10 % і жыдоў 30 %. Інтэлігенцыя — гэта былі адзінкі — палякі і расейцы. У гэты лік не ўмяшчаюцца вайсковыя, бадай са дзве роты, не больш 200–300 чалавек.

Агульная мова была «нашая — тутэйшая», а фактычна беларуская, спецыяльна «альшанская» гаворка — такая асаблівая, што рознілася ад усяго наваколля. Гэтую гаворку альшанцы ўважалі за нешта больш важнае — «нашае», мяшчанскае і далікатнае, а ўсе іншыя называлі «мужыцкімі»: нават цвярдзілі, што і ў самым павятовым горадзе Ашмяне гавораць па-мужыцку!

У «альшанскай» гаворцы найбольшая асаблівасць, што пануе перавага гуку «і» супраць агульнай вымовы на «е» ці «я». Напр[ыклад], па-альшанску нельга ўжываць «я» ў пярэчанні, бо гэта будзе «па-мужыцку».

Па-«альшанску»: ні трэба, ні магу, ні хачу, ні ем, ні пайду і г. д. Пірайду, піхатой…

Таксама: у міне, цібе, сібе, у іе… Але ўсё ж: у яго, у таго ці гэтаго…

Далей: сікера, сідзець, бірэзьнік, ціпер, сцімнела, ні шмат, ні мала, ні многа, ні той… Паліцеў, пасідзеў, нібошчык, нідзеля, панідзельнік, сірада…

Дый ёсць у Гальшанах і словы свае, якіх не бывае ў літаратуры дый у іншых гаворках: напр[ыклад], «спанатрыць» — зразумець на ляту; «капітульшчына» — могільнік; «апрандаваць» — прызнаваць, разумець. «Кальканаццаць» = ад 10 да 20. «Шматнаццаць» = тое самае (жартаўліва). І інш.

Ведама, навакольныя жыхары высмейвалі «альшанскую» гаворку і не маглі да яе ўвыкнуць. Аднак самі альшанцы трымаліся яе настойліва і ганарыліся ёю. («Узяў сікеру і паліцеў па бірэзьнічку…»)

Мне здарылася спаткацца з такою мовай у невялікім мястэчку Прыдруйск — насупраць Друі, за Дзьвіною, у Латвіі. Гэта мяне вельмі здзівіла, і я пачаў даследаваць прычыну такога з’явішча. І вось мне адказаў на гэта д-р Янка Станкевіч ( ён сам паходзіць з вёскі Урляняты Альшанскай воласці). Казаў вось што: Гэта

даказвае, што Гальшаны і Прыдруйск калісьці належалі да засягу ўлады князёў Сапегаў, якія выменялі часамі людзей і перавозілі цэлыя аселішчы. Такая гаворка з асаблівым гукам «і» знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй Віцебшчыне. Аднак фаміліі жыхароў у Гальшанах і Прыдруйску з сабою не сыходзяцца і адлягаюць ад сябе да 300 кіламетраў.

Ст. Германовіч добра ўладаў мовай расейскай і польскай (віленскай), а беларускай не ведаў зусім, дзічыўся яе і не хацеў прызнаваць. Маючы справы вылучна з інтэлігенцыяй, лёгка абыходзіўся мовай польскай, якую альшанцы, паланізаваныя ад вякоў праз касцёл, наагул разумелі, хоць калечылі яе страшэнна. У інтарэсах з жыдамі таксама мог згаварыцца, бо яны (дзеля гешэфту) на хаду тварылі польска-расейскі жаргон. Аднак на кірмашах Германовіч проста ўпадаў у расстройства: ні папольску, ні па-расейску не мог дагаварыцца!

Аднак у практычным жыцці трэба было неяк уладжвацца, і ён уважаў, што Гальшаны яго сталае аселішча. Прытым трэ было зара жаніцца!

Дубіцкія, сястра і швагер, гаманілі, што выбар у Гальшанах багаты, але і зусім не трэба выбіраць, бо на гэтай жа Трабскай вуліцы і якраз насупраць былі дзве паненкі на выданні, Ганна і Антаніна Савіцкія. Усё гаварыла на іхнюю карысць: абедзве — прыгажуні, асабліва малодшая; абедзве — працавітыя, з чэснай хрысціянскай сям'і. Прыкладныя, набожныя… ну, проста, лепшых не найдзеш!

І тут Дубіцкія падзяліліся: сястра радзіла ўзяць замуж старшую, а швагер — малодшую, а пасля — наадварот… То яны згаджаліся з сабою, то заўзята спрачаліся! Нарэшце згадзіліся на адно: няхай Станіслаў сам выбірае, бо гэта будзе ягоная жонка, а не іхняя…

Тым часам Германовіч думаў глыбокую думу: вока ягонае больш загаралася да Антолі, розум і сэрца скланялася да Ганны.

Антоля была больш вяртлявая, гаварлівая шчабятуха, рагатушка; але працавітая, акуратная, паслушная — словам, дзяўчынка хоць куды! Чарнявая — брунетка, з ружовымі шчокамі, што ёй вельмі пасавала. Толькі адзін — нельга сказаць — недастатак, але як бы пахіба, што была малога росту, і гэта надавала ёй характар дзіцячы.

Затое Ганна перавышала сястру не толькі павагай і ростам, але была сапраўды стройнай і прыгожай дзевай дый поўнай

гаспадыняй у хаце. Сапраўды, было люба паглядзець, як яна даглядала ўсіх людзей у хаце, а скаціну — ува ўсім абыходзе! Мачыха была больш занята сваімі дробнымі дзяцьмі, якіх нарадзіла адзінаццаць, а гадавалася дзесяць. А Ганна была першай ад першага жанімства майго дзеда Францыся Савіцкага. Так што мой дзед меў усіх дзяцей 14 чал[авек], а Ганна і Антоля былі ад ягонай першай жонкі. І Ганна дзяржала ў сваёй увазе і дзейнасці ўсю гаспадарку і проста неяк на думку не прыходзіла нікому, каб Ганна магла ўсё пакінуць дый пайсці замуж, нават мусіць і ёй самой.

Але ж вось здарыўся чалавек, і ўсе наўкол дагадваліся, што ён мусіць будзе Ганне «суджаны»? Ды і праўда: з першага дня, як Ст. Германовіч прыбыў на сваю новую кватэру, яму адразу кінуліся ў вочы дзве сястры — маладыя, рухавыя, вечна занятыя і асабліва прыгожыя. Абедзве да сябе падобныя, але разнаякія — так у красе, як і ў захаванні. Ды якраз выпалі хаты Германовіча дый Савіцкіх насупраць — праз вуліцу. Дык хіба быў бы малады чалавек нежывым каменем ці гнілым паленам, каб не адчуў такога цікавага суседства! І гэта прыйшло так натуральна, як бы нейкім самацёкам, як тая вада ў рэчцы Жыганцы, што так блізка праплывала, а вялізная яе частка звальвалася то пад адно, то пад другое млынава кола: таму цяжкія, намоклыя колы не маглі ўстаяць непарушна, а круціліся роўна, стала і з магутнай сілай, круцячы агромныя валы, якія ў сваю чаргу пераносілі рух на млынавыя жорны, а тыя сціралі між сабою зерне — збожжа і размолвалі яго на далікатную муку. Цяжар каменняў быў такі вялізны, што аж награвалася збожжа і мука; аднак усё было так дапасавана, што вельмі рэдка выскоквалі лёганькія іскрачкі, якія не выклікалі небяспекі пажару. Так размолваецца і людское жыццё і спатыкаюцца з сабою зусім чужыя людзі і раптам — нярэдка — ад першага ўзгляду — запальваецца цікавасць, прыемнасць, пацяг, што родзіць іскру і агонь цела і душы — сапраўдную любоў — зрадненне дасюль далёкіх душаў — на ўсё жыццё, сказаць, навекі!

Так спаўняецца заўвага і загад Старога і Новага Запавету: «Пакіне чалавек бацьку і матку сваю і прылучыцца да жонкі сваёй і будуць двое ў адным целе…» Дзяўчына пакідае родных сваіх, а чужы становіцца ёй раднейшым і мілейшым: ахвотна мяняе фамілію, дом, нават край і родную мову, часам нават і рэлігію…

Нешта такое здарылася з абедзвюма сёстрамі, Ганнай і Антоляй; аднак іскрачка ў Антолі была маленькая і то запальвалася, то гасла: ейныя вочкі стралялі ў той бок вуліцы, каб добра ўбачыць новага чалавека, на жаночы суд, вельмі прыгожага — з элеганцкімі вусамі і з буйнай завіхрастай чупрынай, не гаворачы ўжо аб ягонай сталічнай адзежы, з бліскучымі манішкамі, залатымі запінкамі і такім жа ланцужком пры гадзіннічку! Дый наагул усе местачковыя дзяўчаты паглядалі на навічка і з цікавасцю і з затоенай надзеяй.

І Ганна была нарэшце злоўлена: нат і не думала прыглядацца, была вечна занятай — без нерваў і без лішняй паспешнасці, але… сталася тое, што ад вякоў было ім суджана. Ганна несла з рэчкі карамыслам два поўныя вядры вады: ейныя рукі былі растапыраныя, а грудзі — здаровыя, пышныя — так ідэальна прыгожа хвалявалі ў гэтай позе, што толькі бракавала мастака, каб гэты момант падхапіў дый пасля ўвечніў — выкаваў у мармуры ці адбіў на палатне маестатычную фігуру беларускай прыгажуні! Аднак якраз, на шчасце абаіх, знайшоўся насупраць сапраўдны мастак, які спаткаўся серад вуліцы з ёю, маючы таксама занятыя рукі, бо трымаў на плячы дзве пагабляваныя дошкі, з якімі ішоў да млына дзеля нейкага там рамонту.

Праўда, і Станіслаў і Ганна спаткаліся першы раз і былі бы разышліся, ледзь глянуўшы на сябе, — але свяціла і смяялася летняе ранняе сонейка, а на вуліцы гулялі дзеці і ў гэты момант, даганяючы адны другіх, чародна перабягалі паміж нагружанымі маладымі працаўнікамі — так, што яны мусілі абое затрымацца і ўбачыць адно другога. Усё сталася так неспадзявана, што абое раптам і збянтэжыліся і засмяяліся. А Ганна пачула ў сэрцы дзіўны ўзрух: яно забілася так моцна, што як віно ўдарыла ў віскі і ў галаву, што яна ледзь не самлела! Забылася аб усім на свеце і стаяла, як укапаны стоўп, хоць дзеці ўжо прабеглі. А Станіслаў выкарыстаў палажэнне і, нібыта не хочучы, накіраваў свае дошкі ўпоперак перад дзяўчынай, так што яна не магла зрушыцца, — а ён меў нагоду разгледзець яе і ўважна і цікава…дый ацаніць вартасць.

Ён пэўна — у другіх варунках — загаманіў бы да яе і затрымаў бы; а ёй выпадала бы паставіць вёдры і, хочкі-няхочкі, наслухацца кампліментаў… Але ж яны былі затрыманы пасярод рухавай вуліцы, дый гэта быў значны схіл узгор’я да рэчкі, так што фурманкі набягалі знячэўку, а вуліца была пачаткам тракту ў Трабы — Міхалоўшчыну — Ліпнішкі — Іўе… Ды зара быў на

рэчцы вялікі млын… І вуліцай надыходзілі ці пераходзілі розныя прыгодныя людзі, бо да таго — тут ля рэчкі — крыжаваліся два перавулкі.

І ўсё ж Станіслаў не ўступіў бы так паспешна з дарогі, каб не спасцярог, што Ганна была на граніцы вытрымкі, каб не ўпасці ў непрытомнасць. Дык вось ён, сказаўшы ветліва: «Выбачце!», прапусціў Ганну і, весела засвістаўшы, пайшоў у млын.

Падзея на Трабскай вуліцы, хоць, здаецца, не вельмі важная, аднак для абаіх маладых людзей стала пераломным фактам у іх жыцці; а для мяне — гэта здэцыдавала аб маім існаванні, бо гэта ж — Станіслаў і Ганна — мае прышлыя бацькі! Дык і не дзіва, што я тут затрымаўся даўжэй дый апісаў (паводле расказаў маёй цёткі, Антаніны Савіцкай) з такім захапленнем іх першае і прыпадковае спатканне!

Хоць яно трывала, можа, пару хвілінак, але нярэдка бывае ў жыцці, што падобныя хвіліны дэцыдуюць аб усей прышласці чалавека, нават сям'і, а нават і цэлага народа! Вось ты разважыў справу, улажыў план дзеі ды ідзеш простай выткненай дарогай, каб дабіцца акрэсленай мэты — аж раптам нешта цябе ткнула ў сэрца і ты несвядома затрымаўся, — хвіліну стаіш, а пасля раптоўна павернеш назад ці ўбок! Тады ўсе планы будзеш перайначваць, мучыцца ці дурыцца, ламаць жыццё ды нізашто не дапускаеш тае, перш абдуманае мэты! Аж дзівяцца людзі ці смяюцца з цябе блізкія ды і ты сам даходзіш да тупіка, аднак трымаешся новага напрамку проста да ўпаду! Што з табою? І чаму так бывае?... Няхай на гэта адказваюць вучоныя псіхолагі. Але сапраўды так з людзьмі бывае, што хвіліна дэцыдуе аб вечнасці, памыснай ці шкоднай. Можа на гэта ўплысці нейкае спатканне, кніжка, успамін або і проста, як кажуць, дзеіць «без дай прычыны»…

Ганна Савіцкая мела 23 гады: была поўная сілы, развіцця і ўзросту, значыць, упоўні даспелая і ўжо пераходзіла ў граніцу даспеласці, 24-х гадоў! Дасюль збывала аматараў, якія так ці гэтак заляцаліся, і двойчы адказала фармальным жаніхам, што прыязджалі ў сваты: так зарабіла назву «пераборніцы». А прытым гальшанскія дзяўчаты не надаваліся да вясковага жыцця, бо не ўмелі ткаць ні палатна, ні адзежы. Было наўкол ведама, што мястэчка мае сваю спецыяльнасць: купляюць воўну, яе чэшуць на ручных шчотках (пасля ўвяліся машыны да часання), прадуць на верацёнах грубыя ніткі (пасля ўвяліся калаўроты

ў кожнай хаце) і робяць пяццю іглiцамі рукавіцы — з адным пальцам (вязёнкі) або з 5-ю пальцамі. Кожную суботу вечарам гаспадыня несла — адпаведна памытыя, пасушаныя, сшытыя ў вянок — 20 пар — «пачак» на продаж да жыдоў. Гандляры скуплівалі дэталь і, сабраўшы ў гурт, завозілі ў Вільню, а там прадавалі ў войска для рас[ейскай] арміі. Гэта быў сталы занятак гальшанскіх жанчын і дадатковы заработак у гаспадарцы. І з гэтым мы яшчэ спаткаемся ў далейшых успамінах.

Бацька і мачыха Ганны Савіцкай ужо паважна разважалі, што рабіць з дзвюма старшымі, асабліва з Ганнай? Сватаўся вельмі адпаведны кандыдат, які меў, здавалася, усе шансы, але яна нізашто на яго не згадзілася, хоць ён і багаты быў і шляхціц! Казала: «За нялюбага не пайду!...» А ізноў жа не маглі бацькі ўявіць, як без Ганны абысціся ў такой паважнай гаспадарцы і з такою сям'ёй (у іх было апрача Ганны і Антолі сямёра сваіх жывых дзяцей, а спадзяваліся, што і больш будзе)…

Ганна прыйшла з поўнымі вёдрамі, ледзь могучы ступаць на свае невысокія сходы — аж вадой іх заплюскала ўсе, чаго дасюль ёй не здаралася. Яна была як у агні: чула, як лапоча сэрца, галава кружылася і рабілася ёй млосна.

— Сядзь! Ці лепш прыляж… — казаў бацька. Ён аб нішто не пытаўся, але ў лёт усё зразумеў: якраз быў на ганку і бачыў іх абаіх, як затрымаліся сярод вуліцы… Пацалаваў яе і гладзіў па галаве, як малое дзіця. — Супакойся, дочанька! Нічога дрэннага не сталася.

Прылягла, і разліліся гарачыя слёзы, але не пякучыя, нават радасныя, хоць тужлівыя, — аж неспадзявана заснула. Прабудзілася поўная энергіі і надзеі: зара схапілася да работы, каб забыцца аб усім. Але дзе ж там, калі гэты новы чалавек стаяў у яе перад вачыма — такі, якога добра запамятала ў самых дробных рысах. Асабліва вусы, далікатна і акуратна закручаныя, праймалі ейнае ўяўленне. Проста не магла адагнаць гэтых назойлівых пачуццяў, хоць старалася думаць аб сваёй рабоце, гаманіць з людзьмі ці нават з жывёлай, ля якой хадзіла, карміла і даглядала!

Так прайшло некалькі дзён, і надышла нядзеля. У касцёле Ганна і Антоля стаялі ў гуртку жаночым, прытым Ганна ўсцяж малілася — ці з кніжкі да набажэнства, ці з ражанца, або лучылася з народам у агульных спевах. Перад самай імшой праходзіў сярэдзінай касцёла Станіслаў, зручна вымінаючы

іншых і праніклівa зіркаючы на жаночую групу. А Ганна зараня пастанавіла стрымліваць свае вочы ад цікавасці, аднак, зусім не хочучы, зірнула пералётна якраз у тую самую хвіліну, як мінаўся Станіслаў і вочы іхныя спаткаліся! Яна пачула, што гарачая таемная іскра, як маланка, праляцела з вока ў вока і супачыла ў глыбіні сэрца і душы. Ну, і малітвы ўсе зусім папсаваліся: не помніла і не разумела ані кніжкі, ані навукі і прыйшла дамоў гнеўная на сябе, прыстыджаная, сумная і… радасная — міма сваёй волі. Словам, душа [яе] цалкам расклеілася: так чуецца дзяўчына, калі неспадзявана расшпіліцца блузка і людзі ўбачаць ейныя жаночыя аздобы, што нельга паказваць анікому!

Папалудні, каля гадзіны трэцяй, калі ў Савіцкіх Ганна і Антоля збіраліся пайсці на пагулянку ў кірунку рэчкі, праз мост і аж да магільніку, каб наведаць і памаліцца на магіле сваёй памёршай маткі, якой ні адна не помніла, раптам пачулі стук у дзверы і ўбачылі госця… Станіслава Германовіча.

Неспадзяванка і здзіўленне, цікавасць і няёмкасць, здаваленне і сарамлівасць — усе разам пачуцці стварылі цяжкаватую атмасферу і завязалі языкі. Але госць, чалавек бывалы і гаваркі, адразу патрапіў стацца сваім блізкім суседам і знаёмым: назваў сябе і коратка выясніў сваё палажэнне, прывітаўся з усімі, нават з самымі малымі і даў прычыну свайго візіту. Простымі словамі расказаў, як пару дзён таму на вуліцы сустрэўся з Ганнай…

— Мы так, з нагляду, былі ўжо з паннай Ганнай знаёмы — аж раптам спаткаліся вока ў вока і то ў асаблівых абставінах: яна з поўнымі вёдрамі, а я з дошкамі на плячах і абое ў работніцкіх блюзах. Каб не дзеці, якія ўблыталіся між намі, мы бы так і размінуліся, але дзетвара нас затрымала… Дальш я прызнаюся, што не абышлося там без маёй віны, і я прыйшоў перапрасіць паненку…

— Але ж не было там ніякае вашае віны! — жыва запярэчыла Ганна.

— Пачакайце, калі ласка! Я дакажу фактамі, толькі пабачце: я стаю з дошкамі вось так… — Ён стаў серад хаты і паказаў, як трымаў дошкі. — А паненка стаіць з вёдрамі і трымае на карамысле рукі вось так… — Тут ён зручна падхапіў рукі Ганны і растапырыў іх перад сабою. — А пасля, — кажа, — я накіраваў дошкі ўпоперак — вось так… — Ён пусціў Ганніны рукі і паказаў ясна, што тады Ганна з вёдрамі не магла зрушыцца з месца.

Ведама, што ўсе хатнія шумна засмяяліся. А Германовіч загукаў:

— Чакайце — я скончу! Цяпер я мушу панну Ганну публічна перапрасіць, бо я серад вуліцы ў белы дзень яе публічна сканфузіў…

— І як гэта будзеце перапрашаць? — Ганна яшчэ больш застыдалася.

— А вось як! — Станіслаў падхапіў ейную правую руку, сціснуў моцна сваёй сталярскай, як стальною, і, голасна цмокнуўшы, пацалаваў!

Ганна аж збялела і зараз пачырванела да вушэй, але прыняла факт паважна і замоўкла. Але прысутная Антолька ўсклікнула: «Ах!» і закрыла вочы рукамі. А Станіслаў звярнуўся да яе і кажа:

— Ах, выбачце, што я вітаўся з усімі, а маленькай паненачкі не заўважыў. Дык прывітаемся! — Ён падаў ёй руку і, вітаючыся, затрымаў моцна, гаворачы: — У нас такі сталічны звычай, што мужчыны цалуюць рукі жанчынам — не толькі дамам, але нярэдка і дзяўчатам. Дык для раўнавагі з сястрой дайце мне сваю міленькую ручку! — Антоля пачала вырываць руку, але не дала рады, і Станіслаў голасна цмокнуў і ейную.

Так пачалася бліжэйшая знаёмасць, якая неўзабаве перайшла ў дружбу.

Патрошку ўсе да Станіслава прывыклі, а дзеці яго нецярпліва чакалі, бо ён прыносіў цукеркі — не толькі паненкам, але і ўсім, а гэта ў тыя часы была незвычайная справа…

І не прайшло шмат вады ў рэчцы Жыганцы, як Германовіч пачаў з бацькам дзяўчат, Францішкам Савіцкім дзелавую гутарку. Паставіў такое пытанне:

— Пане Савіцкі, ці гэта магчыма, каб хто сватаўся адразу да дзвюх дзяўчатак?

— Пэўна, што немагчыма! Але мы разумеем, аб што Вам ідзе, дык скажыце нам ясна, якія ў Вас меркаванні?

— Кажу ясна: я ўлюбіўся адразу ў дзве вашыя дочкі, дык каторую Вы хацелі б за мяне выдаць?

— Ведама, — казаў Савіцкі, — кожныя бацькі хочуць перш выдаць старшую, бо калі выдасца малодшая, дык тады вартасць старшай спадзе ўдвая! Але бываюць выняткі, і гэта ўжо залежыць ад кандыдатаў — маладога і маладухі, а мы прынявольваць не будзем. Праўда, нам асабліва будзе цяжка выпусціць з дому Ганну: яна ў нашай гаспадарцы, як правая рука, проста

неабходная. Хоць мая жонка ёсць для Ганны і Антолі мачыхай, аднак яны заўсёды шануюць яе, як родную матку і ніколі ў нас не бывае ані ценю нязгоды. Дык калі Вам вылажыў шчыра свае сакрэты, то і Вы скажыце нам ясна аб сваіх намерах.

— Прызнаюся, — казаў Германовіч, — што я крышку схітраваў, бо хацеў выведаць вашыя меркаванні, — аж цяпер бачу, што нашыя погляды сходзяцца: праўда, я Антаніну люблю — і за прыгожасць і за вясёласць, жывасць ды за добрае выхаванне, але ў Ганну я цалкам улюбіўся, як кажуць, па вушы ці з галавою!.. Асабліва мне імпануе ейны розум і развага, працавітасць і акуратнасць, а прытым натуральная ветлівасць і пашана да людзей…

— Ну, так, — казаў Савіцкі, — яна хоць і сама ведае, што і як рабіць, аднак не абміне нас, бацькоў, каб не выясніць справы ці не даць справаздачы або не перапрасіць у пахібах. Значыць, нашыя планы сыходзяцца і…

Абодва засмяяліся і ўдарылі па руках.

— Але мы і не спыталіся самой галоўнай асобы, Ганны, — казаў Савіцкі. — Хоць тут можна зарызыкаваць, калі мы пэўныя абодва, што яна згодная на ўсе працэнты.

— На сто працэнтаў, я думаю, — сказаў Станіслаў, — аднак папрасіце яе да нас!

Бацька паклікаў, і яна ўвайшла — уся чырвоная, як цвет макаўкі.

— Панна Ганна, — сказаў Германовіч, — я асмеліўся прасіць у вашага айца васпанінай рукі; але я вінаваты, што не спытаўся перш Вашае згоды, дык зраблю гэта цяпер…

Тут ён узяў яе руку і ўпаў на калені:

— Панна Ганна! Я палюбіў Вас ад нашага першага спаткання на сярэдзіне вуліцы і мая любоў увесь час трывала і ўзрастала, так што не магу без Вас жыць. Скажыце тут пры сваім Айцу, ці прымаеце маю прапанову? Скажыце сваё дарагое мне — «так»!

А якраз праз вакно свяціла сонейка, і [ў] яго праменні заіскрылася яе сляза — радасці, сарамлівасці, шчасця і любові, калі яна адказала ціхім, але станоўкім голасам — «так»!

Тут і яна ўпала на калені і ўсклікнула: «Ах, тата, багаславі!»

Бацька падняў у неба вочы і адказаў: «Няхай Бог Вас багаславіць, дзеці мае, і я багаслаўляю на вечнае шчасце і тут і на векі!»

Ён пеажагнаў іх і пацалаваў кожнае, а яны пацалавалі яго ў рукі. А як усталі, бацька сказаў: «А ну ж, пацалуйцеся і самі!»

Станіслаў абняў Ганну і цалаваў яе так шчыра і багата, колькі мага!

— Аднак паслухай! — казаў бацька. — Мусіш узяць ад нас Ганну паводле ўсіх нашых звычаяў: значыць, трэба прыйсці ці прыехаць у сваты і зрабіць умову, каб была ведамая і публічная. Пасля паводле касцельнага абавязку — запішаце запаведзі і назначыце шлюб. Дзеля таго, што ты ёсць чалавек прыездны дый не маеш тут свайго дому, то ўсё вяселле спраўляем у нас… — На тым і згадзіліся.

*Сваты — Запаведзі — Шлюб — Вяселле.*

На свата Станіслаў папрасіў гальшанскага арганіста Ізыдора Бурака: гэта быў паважны і немалады чалавек, а прытым бывалы і належна адукаваны. Дасталі і прыгожую павозку і моцнага каня; усё ўладзілі паводле звычаю: пад дугою галасісты званочак, а на шыі каня — шумлівыя бразготкі. Самі ўбраліся па-святочнаму, а Стась надта старанна накруціў вусы.

Фурманка была замоўлена ў канцы Ашмянскае вуліцы: гэта была вярста з гакам, дык пад вечар абыходнай дарогай за рэчкай абышлі мястэчка і там, дачакаўшы змроку, селі ў вазок — з шыкам і з званком і з бразготкамі — праехалі праз усю Ашмянскую, праз рынак дый завярнулі на Трабскую.

Калі пад’язджаюць такім манерам госці, дык ні адно дзявочае сэрца жывей залапоча: кідаюцца ўсе да вокнаў, адзін нехта выходзіць адчыніць вароты, супакоіць сабак і запрасіць гасцей у хату. Звычайна тут у парозе або на ганку найстарэйшы гаспадар спатыкае такіх госцяў.

У Савіцкіх, хоць і спадзяваліся сватоў, усё ж усе захваляваліся: Ганна найбольш з усіх адчула біццё сэрца і хваляванне грудзей. Затое Антоля не магла перамагчы нязмернай цікавасці і перабягала ад вакна да вакна; хоць не магла нічога ўбачыць, дык прынамсі наслухвала, каб улавіць знадворку хоць слоўца.

Нарэшце конь прыняты і госці ўваходзяць: паважны, грубы, з вялізнымі вусамі сват, а за ім тонкі з меншымі вусікамі, элегантна закручанымі, Стась Германовіч. Далі «пахвалёнку», і сват распачаў здалёку — паводле абычаю:

— Не ведаю, ці мы добра трапілі? Бо то мы — купцы і нас сюды добрыя людзі накіравалі, што тут ёсць добры тавар на продаж?

— А што ж вам патрэбна? — пытаўся Савіцкі.

— Ну, можа, ёсць пшанічка залатая? Мы добра заплацім, бо наш гаспадар — асоба не скупая.

Тым часам у бакоўцы дзяўчаты паспешна прыбіраліся, заглядаліся ў люстэрачка, але і лавілі, што там госці гамоняць.

— Каб я жыла, — што гэта, ці здурнелі яны?... — пыталася Антоля.

— Ціха ты будзь! — сварылася Ганна. Яна ведала, што сват гамоніць так, як кажа звычай.

— Дык, можа, што іншае ёсць прадаць? — пытаўся сват і ўважліва разглядаўся па хаце…

— Бо мой гаспадар шмат чаго патрабуе — ён жа тут прыездны і ў яго пустая кватэра, але аб грошы ён не стаіць, абы тавар быў прыгожы.

— Не, у нас самых вялікая сям'я і нам самым шмат чаго бракуе — ці збожжа, ці то са статка…

— Ах, так! Праўда, Бог вам даў людзей не скупа: толькі большых дзяўчатак мы не бачым: можа бы мы і аблягчылі гэты дом ад лішніх дармаедаў?... О, каб мы маглі пабачыць якраз тых, што ад нас хаваюцца, то мы адразу такі тавар і патаргавалі?

— А, вось што? Дык чаму ж вы адразу і не гаворыце? Бо то ў нас гэтага багацця Бог не паскупіў: пабачце, будзьце ласкавы! Ганна, Антоля, выходзьце да гасцей! — стаў клікаць бацька.

Ганна выйшла пэўным крокам, а Антоля, за яе хаваючыся — то паглядала адным вокам з-за хустачкі, то хавала твар і гатова была ўцячы… Але, папраўдзе, не ўцякла бы нізашто!

Госці ўсталі, пакланіліся ветліва і прывіталіся з паненкамі.

— О! — усклікнуў сват. — Бачыш, Станіслаў, што мы добра трапілі… Толькі вось бяда, якую выбераш? Бо тут абедзве — прыгажуні, як ягадкі… Дык спытаймо бацьку, якую за нас выдаць хоча?

— Ведама, што старшую, бо гэна — самі бачыце — яшчэ зусім маленькая, дык няхай падрасце!

— А я спытаюся, якая за мяне пайсці хоча, — пытаў Германовіч…

— Што ж будзеш пытацца? Сам кажы перш, — перабіў сват, — бо я ясна бачу, што абедзве хочуць!

— Але ж я не турак, каб браць абедзвюх! — бараніўся Станіслаў. — Я згаджаюся з бацькавай воляй, бо якраз і я ад пачатку выбраў Ганну і толькі чакаю, што яна сама скажа.

— Дзякую! — сказала Ганна. — Татава воля — мая воля. Толькі яшчэ спытаюся маму.

— Ах, мая дочанька! І я багаслаўляю цябе за Станіслава. Калі ты ідзеш па бацькавай волі, дык будзеш шчаслівa; бо мяне як выдавалі, дык зусім не пыталіся маёй волі, — толькі тата сказаў мне: — Пойдзеш за Францішка: ён хоць удавец, але добры чалавек і гаспадар: я плакала, але пайшла і бачыце, я — шчаслівая — колькі дзяцей нарадзіла, а яшчэ не ўсе тут…

— Як то не ўсе тут? Мы ўсе папрыходзілі… — здзівілася Антоля. — А дзе ж яшчэ хто?

— Эй, дочанька! Замуж выбіраешся, а нічога не разумееш: яшчэ другія тымчасам у Бога. Як Бог захоча, то і іх пакліча ў хату…

Тут усе, хто зразумеў, засмяяліся, але Антоля пачырванела да самых вушэй!..

У суботу вечарам пайшлі Станіслаў і Ганна «даваць на запаведзі». Пробашч іх прыняў ласкава: падаў усім крэслы, чаго не рабіў такім іншым. Адразу запісаў у кніжку дый пачаў распытваць аб усім жыцці Станіслава. Германовіч расказваў так ясна і гладка, як «па кніжцы чытаў». І тут толькі Ганна даведалася, за каго выходзіць замуж, што Стась — не толькі адукаваны і сталяр, але скончыў паважную школу і быў ужо майстрам, што меў пад сабою групу работнікаў у майстэрні ў Пецярбургу; а яна сама — простая дзяўчына, аб якой ёй усе гаманілі: «Ганначка, ты маеш вялікае шчасце!».

У гэтую нядзелю Ганна пайшла да касцёла з Антоляй, хоць яе асцерагалі, што будуць чытацца яе запаведзі, «дык мо лепш не прыходзіць да касцёла», бо «ўвесь свет будзе ўглядацца на цябе!...» Але яна сказала сабе: «Стану пры самай сцяне, за другімі, дык ніхто мяне і не ўбачыць». Так і сталася: Ганна так шчыра малілася, што не бачыла нават свайго ўлюбёнага, які стаяў з другога боку і вельмі пільна прыглядаўся на яе. Але вось настаў час навукі і ў канцы пачаліся запаведзі, якіх было з паўтара дзесятка. І Ганна не змеркавала, як сталася, што людзі адхінуліся ад яе, а яна стаяла сама з сваёй кніжкай у руках — сама адна — на вачах «усяго свету», які паглядаў на яе, як на асуджаную — не на смерць, але на вяселле!... Зірнула на Станіслава, як чыталася ягонае імя, а ён з выразнасцю ўсміхнуўся, бо зразумеў ейную сітуацыю».

Як вярталіся з касцёла дый ішлі праз рынак дамоў, дык Ганна адчувала, што была на вачах усяе парафіі і на языках усіх жанчынаў — аж некалькі разоў упадала ў ейнае вуха слова: «О, якая шчаслівая!»

Ганна ведала, што шлюб — падзея вырашальная, у якой, як кажуць, «запад[з]е клямка» і няма павароту — аж да смерці! Дык і не дзіва, што збіралася да шлюбу не так занятая сукенкай і іншымі ўборамі, ані нават сваім прышлым жыццём і абавязкамі, як самым фактам жанімства і стварэннем уласнае сям'і з улюбёным чалавекам. Яна з нейкім дзівам заўважыла ў сваёй душы выразную перамену, што ўся Савіцкіх гаспадарка і дом, а нават браты і сёстры дый мачыха, якую любіла, як матку, а і родны бацька неяк адыходзяць на другі план — аддаляюцца. Ганна Савіцкая лавіла сама сябе на тым, што найбольшыя сакрэты ўжо забывалася гаварыць бацьку і матцы і наагул Савіцкім, але ахвотна, асабліва па першай запаведзі, гаворыць Станіславу Германовічу, бо ўжо, значыць, сама зараз стане не паннай «Савіцкай», але паняй «Германовічыхай»… Таксама ўжо клапацілася аб патрэбах ужо новай сям'і, а найбольш аб здароўі свайго прышлага мужа, які быў чамусьці худзенькі і тонкі, хоць наагул моцны і поўны энергіі і гумару. І цяпер Ганна асабліва і спецыяльна пачала гаманіць у малітве з Богам — найбольш за свайго ненагляднага, які станавіўся найбольш блізкім родным, што заняў у душы месца ўсіх шматлікіх сваякоў і ўсю радню.

І ўжо ёй вельмі было балюча — пачуць хоць маленькае слоўца крытыкі ці насмешкі адносна Станіслава, калі без вялікае ўвагі пераносіла крыўды, плёткі ці абмовы, якія датычылі яе самой. Наагул у сваім жыцці не мела ворагаў і бадай сама нікога не ўмела закрануць абразлівым словам дый нават не любіла слухаць, а тым больш збіраць ці пераносіць плёткі ці няспелыя навінкі. Чужыя сакрэты берагла, як дарагое золата, і патрапляла памагчы, пацешыць ці парадзіць другім у паважных бедах і патрэбах.

Станіслаў адразу заўважыў гэтыя дадатныя рысы ейнага характару і ўжо цяпер пачаў пытаць ейнай рады ў важных патрэбах свайго дому і новай сям'і. Ён гаварыў да сваёй сястры і швагра:

— Я проста дзіўлюся, як гэтая невучоная дзяўчына трапна развязвае заблытаныя квэстыі! Праўда, ёй бракуе культуры і трэ будзе яе развіваць, каб было магчыма паказацца ў людзях.

— Яна ўсё ж вельмі пабожная і добрая: будзе надта адпаведнай маткай вашым дзецям.

— А ўжо ж як возьмецца за якую работу, дык робіць шыбка і акуратна, і гэта мне вельмі падабаецца. У нас у школе гаварыў адзін прафесар: — Акуратнасць у выкананні — гэта найлепшая рыса добрага майстра.

*1970*

# УЧОРА, СЯГОННЯ, ЗАЎТРА

Не радзіся красны, а радзіся шчасны!

Трэба падумаць і сказаць: «Шчаслівыя дзеці, якія нарадзіліся і ўзрасталі ў нармальным жыцці; якія ў радасці і ў суме маглі прытуліцца да маткі і да бацькі. А раслі між другімі дзецьмі — сваімі братамі і сёстрамі, а прытым у сваёй хаце!..» Так, яны ад малога прывыкалі і памагалі ў гаспадарскай хаце і ў працы.

Такім пагодным жыццём цешыўся і я: сапраўды, нарадзіўся я, як гаворыцца, «на лоне сям'і» і быў сярэднім між сястрой і брацікам. Бацькі чакалі майго нараджэння — угадвалі, што будзе *сын*, а зараз і прынялі ў сям'ю з радасцю і надзеяй, як шустрага, бязмерна вясёлага, здаровага і… хто з малых не быў прыгожым? Асабліва матка думала, што я — «найпрыгажэйшы з усяго свету»! Праўда, я нарадзіўся яшчэ ў чужой, нанятай хаце — на Трабскай вуліцы, ля берага рэчкі Гальшанкі. Але была надзея, што бацька, як дасужы майстар, заробіць досыць грошай — пабудуе ўласны дом; а матка ўладзіць там свой гарод, сад!..

Прышласць рысавалася прыгожая і ў поўным дастатку, бо мой бацька быў чалавек бывалы і паступовы. Перад вяселлем прыехаў з Пецярбургу, дзе быў майстрам у экіпажнай майстэрні.

Матка была дзейная жанчына — найлепшая жняя ў суседстве, хоць мы тут свайго загону і не мелі. Прытым мая матка, Ганна з Савіцкіх, у сваёй хаце прайшла добрую «школу» жыцця: была яна першай дачкой у свайго бацькі, Франціся Савіцкага, які стаўся ўдаўцом; а пахаваная жонка пакінула яму трох дзяўчынак — Ганульку, якая была пасля маёй маткай, Антаніну (пасля была маёй цёткай) і Марыльку, якая зараз памерла. Тады Францісь Савіцкі (мой будучы дзед) не меў іншае рады, як хутка ажаніцца і даць дзвюм дачушкам новую матку — папраўдзе — мачаху! Ганулька мела ўжо 6 гадкоў, а Антолька — 4-ы. Гэтая маладая дзедава жонка, Анеля з Жукоўскіх (ведама, не родная матка для няродных дачок), хоць заўсёды называлі маткай, стала такой шчырай і сардэчнай маткай, што дай, Божа, усім такое шчасце! У літаратуры і традыцыі паказваецца, што доля дзя-

цей пад мачыхай не бывае руховай і ўспаміны астаюцца самыя цяжкія, а часта трагічныя. Аднак я не помню ні аднае скаргі на мачыху ні з боку маёй маткі, ані цёткі; а сапраўдная прыязнь і любоў між імі трывалі да самай яе смерці!

Трэба прытым выясніць, чаму гаварылася, што Ганулька Савіцкая вынесла з дому «добрую школу жыцця»? Як я заўсёды бачыў, мая матка была ўва ўсялякай працы самай лепшай работніцай: і я сам, і другія людзі любілі глядзець, як матка прыгожа працуе: складна, хутка і чыста! За што бралася, дык усё з яе рук выходзіла найлепшае — ажно наўкола гаспадары любілі заклікаць маю матку на помач, бо і другія з ёй працавалі ахвотней і выдатней. Тым больш, што матка была з натуры чэсная, справядлівая, спагадлівая і ўважлівая для другіх. Не любіла вырозніваца, ні апераджаць іншых, каб не прычыніць дысгонару ці прыкрасці. Калі суседкі пачыналі абмовы, крытыку ці нараканне, дык матка, як і бабуля, нязначна, бывала, перавядуць размову на другое, так што абмова ці плёткі перарвуцца, а пагода і згодлівасць увойдуць у стурбаваныя душы.

Каб я жыў, у гэтых паважных жанчынаў не бачылася нічога зараня надуманага, ані нават неразумнай боязі грахоў: яны проста з натуры былі добрымі людзьмі. Не магу прыпомніць ні аднаго выпадку, каб яны мелі злосць, заўзятасць ці антыпатыю да каго-небудзь; а нават выразную крыўду нейк незаўважна прапускалі міма і не гаманілі пра яе!

Дык, мусіць, таму, калі ў 1918 годзе мая матка памерла падчас маёй непрысутнасці (я сам быў тады аддалены і дзеля цяжкай хваробы не мог прыехаць), дык матку хавалі без мяне. Але ўжо з расказаў я зразумеў і з фота бачыў, што на пахаванне сабралася маса народу, хоць матка была простай жанчынай і нічым асабліва не адзначалася…

*

Пра дзеда Францішка Савіцкага я мусіў бы сказаць больш, бо ён варты добрых успамінаў. Аднак не магу яго апісаць дакладна, бо я астаўся ад яго 4 гадоў, дык толькі помню тое, што мы прыйшлі з сястрой да яго развітацца. Помню — ён ляжаў на ложку, але падняўся на ложы, сядзеў, нешта гаварыў; пасля нас абдымаў і багаславіў. Гэты адзін факт, што я помню з тых гадоў: я тады быў сумны, прачуваў нешта значнае, але не даваў сабе справы і не разумеў павагі моманту. Затое пасля я чуў ад другіх нямала

пра гэтага слаўнага чалавека: быў ён добрым гаспадаром і ўмеў выхоўваць дзяцей дый трымаць сям'ю ў належнай дысцыпліне і парадку. Меў усяго 14 дзяцей і дагадаваў усіх, апрача дваіх, што памерлі малымі. Усіх сыноў вучыў у народнай школцы, а двух старшых паслаў у павятовую школу ў г. Ашмяну. Аднак спаткала яго няўдача, і яны не скончылі той школы. Тады старшага Антона паслалі ў Амерыку, а другога ў г. Севастопаль на работы.

Савіцкія адзначаліся пабожнасцю і таксама кіравалі дзяцей. Ніколі не прапускалі набажэнства ў касцёле, балазе было да касцёла зусім блізка: сам Францісь спяваў пры святары суплікацыю, а хлапцы прыслужвалі міністрантамі. Адным словам, бацьку вялікай сям'і ўсё мястэчка называла «патрыярхам». Быў ён добрым дарадчыкам у кожнай патрэбе і даваў помач у недастачах суседзям.

На вялікі жаль, дзед не змог дагадаваць усёй сям'і: толькі адну дачку Ганну выдаў замуж за прыезднага Станіслава Германовіча. Другая, Антоля, не хацела выходзіць, хоць была красуня, замуж, дый ахвотна выехала ў г. Вільню на службу, каб мець аказію бываць у касцёле: яна адзначалася выдатнай пабожнасцю, працавітасцю і чэснасцю. Мела ў Вільні сталую службу ў паважных людзей і дажыла да глыбокіх гадоў — аж памерла ў часе Другой вайны.

Як паміраў Францісь Савіцкі, мой дзед, дык пакінуў дома вялікую сям'ю; наймалодшы сынок тады нарадзіўся, як бацька паміраў: яшчэ паспеў яго багаславіць, будучы прытомным. Такім спосабам малы Франачка быў на 4 гады малодшым ад мяне, хоць лічыўся маім дзядзькам; а Галенка была на 2 гады малодшая і была маёй цёткай. Яшчэ яна недзе і цяпер жыве ў Амерыцы як старая ўдава — Галена Ляшчэвічыха.

Ад самага пачатку жыцця маёй маткі з ейным бацькам Францісём Савіцкім здарылася труднасць, што першая дзедава жонка, пакінуўшы трох дачушак, памерла.

*

Як дзед ажаніўся, хутка чакаў, што новая жонка народзіць яму сына — аж так ім і сталася: не прайшоў год, як сынок нарадзіўся, і далі яму імя Антось. Радасці не было меры, ні вагі — аж захацелі паказаць радна: паехалі ў госці! Але маладая, непрактычная жонка так з вялізарнае любові захутала сваё малюе, што, прыехаўшы і раскрыўшы, знайшлі, што ў ім няма і духу! Як ні хукалі абое, так і хутка вярнуліся ў Гальшаны з не-

жывым… Плакалі ўсёй сілай і бацькі, і абедзве сястрычкі, Ганна і Антолька — аж прычыталі над мёртвай калыскай!

З таго страшэннага гора не было ніякага лепшага выйсця, як зараз трэба было адрадзіць лютую страту наступным сыночкам, якому затое далі паўторнае імя Антось, — гэта сталася ў рэкордным часе ў памяць памерлага! Тады жонка набрала практыкі і нарадзіла ўсяго 8 сынкоў і 3 дачушкі!.. — аж да самай смерці мужа.

Дый Анеля з Жукоўскіх Савіцкая ўмела не толькі радзіць, але і гадаваць дзяцей дый хадзіць за гаспадаркай: у тыя часы дзеці паміралі вельмі часта; а ў Савіцкай былі здаровыя, чырвоныя на твары, заўсёды сытыя і здаволена-вясёлыя, а дружныя да працы, апрача аднаго, які быў гультаём з прафесіі, што і празывалі яго імем ведамага ў Гальшанах «Тамаша Балтушкі»! Аднак вось цікавая спасцярога, што ў Амерыцы гэты Тамаш Балтушка дастаў найлепшую і самую разумную жонку з усіх сыноў майго дзеда!..

Памёр Францісь Савіцкі ў 1894 г., калі Ганна, старшая дачка, была ўжо замужам ад 1887 г. за С. Германовічам і ад 1892 г. асталася ўдавою, маючы трое маленькіх дзяцей (Людвіню каля 4-х гадоў, Язэпа 2-х гадоў — гэта я! — і малога Станіслава, які хутка памёр).

Практычна бабуля мая, Анеля Савіцкая, маёй маткі мачыха, не хацела дапусціць да падзелу гаспадаркі, бо мелі толькі паўвалокі зямлі, дык накіравала дзяцей пасля смерці мужа паступова на Амерыку. Найбольш старшы, Антон, выехаў і ўладзіўся ў Нью-Ёрку — у Брукліне — краўцом. Зарабіў грошаў і выпісаў 2-га, Язэпа, прыслаўшы яму шыф-карту, дый і яго прыбраў да сябе на краўца, але з варункам, каб выплаціў выдаткі за дарогу. Дык гэтак ужо ішло з другімі — аж сабралася ў Брукліне пяць братоў Савіцкіх і дзве сястры, якія адны другім памагалі, але тыя мусілі сплачваць старшым расходы дарогі. Нарэшце забралі да сябе і старую матку, Анелю з Жукоўскіх Савіцкую. Гэтую прыняў самы старшы сын, Антон, на няньку для дзяцей. Там яна і памерла ў належным веку жыцця.

Савіцкія жылі дружна: святкавалі адны ў другіх памятныя дні — а рэха даходзіла да нашых Гальшан, дзе і гаварылі, што «ля Нью-Ёрка ёсць вялікая вёска, што называецца Бруклін: там жыве найбольш гальшанскіх, а сярод іх найбольш Савіцкіх!..».

У Гальшанах асталася адна з дачок Франціся, Марыля, замужам за Антонам Трэцяком, вельмі добрым чалавекам. Але

лёс іхны не злажыўся шчасліва: дзеці паміралі адно за другім, здаецца, сямёра. Гадаваліся пры мне, як мы ў іх пражывалі, і былі незвычайна сімпатычныя; але нейкае няшчасце ішло за імі ўслед, аж асталася Марыля ўдавою з адным сыночкам, наследнікам, які таксама памёр малым!..

З іншых наступнікаў у родзе Савіцкіх разляцеліся ўсе: і вайна разагнала, і другія прычыны злажыліся. Так слава старога «патрыярха» Францiся Савiцкага пакрысе меркла — ажно і згасла зусім, бо, здаецца, у калгасы ў Гальшанах з гэтага слаўнага роду не трапіў аніхто!..

А ў Амерыцы «лаві вецер у полі»! Як я прыехаў у 1960 г. у Нью-Ёрк і ў Бруклін, дык жыў яшчэ мой малодшы дзядзька Францісь, сын Францiся, майго дзеда. Гэты Францісь 2-гі, малодшы ад мяне, не быў жанаты і памёр ад старасці кавалерам. Яшчэ я знайшоў жывым старшага дзядзьку, Міхала. А з іхнымі патомкамі я не ўмеў па-ангельску згаварыцца…

## МЫ — СІРОТЫ

Сірата: «Беспрытульны, бездаглядны,
Каму будзе ладны?»

Мястэчка Гальшаны — гэта мая найбліжэйшая радзіма, з якой я зросся ад малога, якую я палюбіў аж да сёння — такое прыгожае з сваёй рэчкай Гальшанкай (яна і Жыгянка), з сваёй гарою ў дзвюх вёрстах — даўнейшай крэпасцю — Гарадзішчам, з сваім замкам на канцы Замкавай (Вішнеўскай) вуліцы і з сваімі трыма млынамі… Бо мястэчка цягнулася ўздоўж рэчкі, толькі перарэзана накрыж вуліцамі (кароткімі), Трабскай і Барунскай; а доўгія — Ашмянская і Замкавая — канчаліся двума млынамі, дый Трабская мела млын пасярод. Само мястэчка ляжала ў даліне рэчкі: паўночны бок і паўдзённы былі ўзвышшам з групы так называнага Ашмянскага гарба, дык сапраўды рэльеф узгоркаў, раздзеленых ракою, даваў малюнкі жывыя і яркія, аздобленыя лясамі і пералескамі, хмызнякамі і зараслямі… Тут было дзе гуляць і хавацца, пераклікацца і співаць, пасвіць быдла дый хадзіць па грыбы. Нават самыя назвы месцаў прыпамінаюць ажыўленае палажэнне Гальшанаў, як «Горкі» — сасновы лес і магільнік, Вапніца, Крывуля, Гарадзішча, Клін, Сценка і г. д. Затое назвы вёсак наводзілі на нешта старое і забытае, як Чуркі, Карабы, Каранды, Рамейкішкі, Вашнарышкі, Слабада… Назвы

гарадоў і мястэчак напаміналі нешта ў памяці цалкам страчанае, як Ашмяна, Смаргоні, Крэва, Баруны, Солы, Трабы, Жупраны…

Самыя мае Гальшаны — гэта слаўны калісьці ўмацаваны і агароджаны крапасны пункт-горад князёў Гольшаў, з якіх Зося Гальшанская была апошняй жонкай караля Ягелы, а з іх і роду Ягелонаў. Пасля Гальшаны падпалі пад князёў Сапегаў, далей пад паноў Корсакаў і нарэшце трапілі ў сям'ю генерала рас. Гарбанёва, які яшчэ за маёй памяці разбіваў апошнюю з 4 вежаў замкавых, а замкавы касцёл абярнуў на склад дроваў. Павал Сапега пабудаваў цудоўны рэнесансавы касцёл у 1618 годзе. У нейкім часе Сапегі сталі кальвіністамі і касцёл зрабілі кальвінскім зборам. Дый ізноў разам з Сапегамі касцёл вярнуўся да каталікоў. Помню добра нагробак князя Паўла Сапегі з трыма жонкамі: князь — магутны рыцар у зброі, першая жонка — вялікага росту, другая меншая, а трэцяя — значна меншая. Гэтая група цікавіла ўсіх турыстаў сваім выдатным мастацтвам. Перажылі фігуры Сапегаў розныя гістарычныя падзеі, войны і напасці і дзве вялікія сусветныя вайны — аставаліся непашкоджаныя. Але падзеі эпохі атэізму і калгасаў не пашчадзілі ні гістарычных, ні рэлігійных памяткаў, ані мастацкіх памятнікаў: касцёл абернены на склад дроваў: вокны павыбіваныя, — так пайшлі дзеіць новыя «культурнікі» ўслед генерала Гарбанёва!.. Што дзеецца з быўшым францысканскім кляштарам, мне не ведама.

*

Мы з сястрой асталіся ў маткі сіротамі, як бацька ў 1892 г. мяне пакінуў двухгадовым. Пра той перыяд я нічога не магу ўспомніць, бо яшчэ лішне быў малым. Найдзіўнейшая і страшная прыгода здарылася са мною, калі меў год — яшчэ пры жыцці бацькі. Мяне пакінулі на даўнейшай высокай цаглянай печы, і мы сядзелі з Людвіняй: ну, яна была апякункай, бо мела аж два гады з палавінай! Але я, як «мужчына», не хацеў сястры, як «бабы», слухаць і папоўз на бераг печкі, хоць сястра і сварылася: «Не лезь, бо…» Дык і зваліўся, а галавой стукнуў у ляжанку: расквасіў галаву так, што і цяпер магу ашчупаць добры равок ад чала ўглыб… Які быў вынік і небяспека, можна судзіць з таго, што я перастаў хадзіць на цэлага паўгода! Аднак, як бачыце мяне, дзякуй Богу, ацалеў і, мусіць, з таго ўпадку аставаўся нейкі зігзакаваты ў мяне розум… (Толькі ж, прачытаўшы гэта, нікому пра тое не кажыце!)

Першыя два гады пасля смерці бацькі зусім зацёрліся ў маёй памяці, хоць і ўспамінаюцца абломкі ўспамінаў з жыцця нашых родных, як Дубіцкія і Савіцкія, або суседзяў Жызнеўскіх. На вялікае дзіва, я нічога не магу сказаць пра сваю матку і сястру: здаецца, што я з імі зусім не спатыкаўся, хоць яны напэўна жылі ў Гальшанах і мяне не адракаліся! Аднак жа заіснавала нештанейкае, што матка Ганна і сястра Людвіня чамусьці зніклі з майго гарызонту? Цяпер, добра разважыўшы, прыходжу да пераканання, што я праз тыя гады аставаўся не палавічным сіратой — без бацькі, але фактычна круглым сіратою… Як жа гэта сталася?

Трэба заўважыць, што, як бацька мой паміраў, дык і матка была пры смерці, без памяці: ад яе таілі смерць бацькі, што нібыта яго вывезлі ў шпіталь у Ашмяну. Толькі ад нас, дзяцей, матка даведалася пра смерць бацькі. Ды і пасля матка ад пары да пары западала ў нейкую паважную немач — аж яе вывозілі ў шпіталь!.. Аднак здароўе ўрэшце ўстаткавалася, і матка мусіла зарабляць на жыццё, як наймітка, на гаспадарскіх работах. Не могучы забіраць з сабой абое сваіх сіротак, матка брала толькі старшую, Людвіню, а мяне пакідала на доўгі час у сям'і Савіцкіх, дзе матчына мачыха Анеля, а мая бабуля, улічала мяне ў сваю вялікую сям'ю. У значным перыядзе часу мая матка бывала на далёкіх працах — аж я, маючы 3–4 і 5-ты год, проста пра іх забыўся!

Такая доля сіраты-прыблуды, ведама, незайздросная. Такім чынам я ўзрос у пазіцыі вандроўнага чалавека, што трывала ўсё маё жыццё, як аб гэтым будзеце далей чытаць. На маё шчасце, мушу прызнацца, што я не лішне бываў пакрыўджаны, бо ў Савіцкіх мяне асабліва любіў адзін з маіх старшых (ад мяне 7 гадоў старшы) дзядзька Міхась Савіцкі, хлапец-весялун дый вельмі шустры, а незвычайна сімпатычны. Ён мяне вучыў плаваць, але не даў рады з гэтым і пакінуў недавучкам. Дый ён мяне пасля давёў у народнае вучылішча і неяк не мог вучыцелю растлумачыць пра майго бацьку; а мяне страшэнны смех праймаў, як яны талкавалі з вучыцелем па-расейску, бо я першы раз чуў гэтую цудачную мову. Неяк не доўга пасля таго дзядзька Міхась зусім знікнуў з майго гарызонту і паехаў у Амерыку, не развітаўшыся са мною, — ажно я сам у 1960 годзе, будучы ў Амерыцы, пастараўся да Міхася дапытацца. Жыў ён далёка ад Брукліна, у Нью-Ёркскім штаце і быў ужо інвалідам і дзедам шасці немалых унукаў. З вялікай радасцю вітаўся я з дзядзькам Міхасём, аднак (да чаго даводзіць недалужная старасць?) я не змог з сімпатычным Міхасём пагаманіць: ён толькі пазглядаў

на мяне і ўвесь час усміхаўся, а ў гаворцы нешта лепятаў з невялічкім сэнсам… Не дай, Божа, мне такой старасці, лепш ужо памерці — на Божую хвалу! Ну, дзядзька Міхал незадоўга памёр, але мне ўдалося дапытацца да аднаго з ягоных унукаў, які быў клерыкам у законе: з гэтым я згаварыўся па-французску: ён аказаўся вельмі сімпатычны, на падабенства свайго дзеда з маладых ягоных гадоў.

Яшчэ я падружыўся з унукам майго найстарэйшага дзядзькі Антона, Уладзіславам Тармасевічам (гальшанцам) па сваім бацьку. Гэты ўжо інжынер Уладзіслаў Тармасевіч напэўна быў бы маім найлепшым прыяцелем, каб мы мелі супольную якую-колечы мову, але ён гаварыў толькі па-ангельску і па-іспанску, а я… Як той «цуд» аднаго разу, што «дзед гаварыў да абразу і абраз да яго — ні слова: — такая ўся размова!..».

Да тых ружовых успамінаў пра маё круглае сіроцтва скажу, для цікавасці: было такое прыгожае лета, што мяне забываліся раніцай разбудзіць: уся сям’я вельмі спяшалася на работу ў поле. Праца, ведама, была ў гарачую пару смаглая і пільная, а я, пакінены адзін, спаў доўга, колькі хапала духу. Ну, устаўшы, я аглядаўся па хаце не доўга і выбягаў да іншых дзяцей гуляць. Так праходзіў цэлы дзень: добра помню, што дзень чамусьці цягнуўся вельмі доўга і мне было млосна. Дзеці змяняліся, але не меў да каго прыгарнуцца да самага вечара. Тады валачыўся да рэчкі і пляскаўся ў вадзе — аж ужо вечарам мяне знаходзілі і прыводзілі дамоў. О, добра помніцца, як пасля бедавалі дзядзькі і цёткі, што «дзіця аставалася цэлы дзень без пацераў!..». Іншыя патрэбы «дзіцяці» не былі вельмі ўзятыя пад увагу.

Не магу скаржыцца, што такое дзіва бывала штодзённа, але і не так рэдка. Толькі дзіўна, што гэтае «дзіця» не мела розуму ў каго папрасіць хоць кусок хлеба; чамусьці ў «дзіцяці» была праціўная натура: нічога не шукаў на месцы, ані ўлез куды ў шкоду, але неяк трываў сам з сабой… Дый такое няздатнае дзіця і гадавалася далей: у школе, чаго не зразумеў, не патрапіў спытацца ў іншых і няўмекай абыходзіўся без чужой помачы, нават і пасля ў духоўнай семінарыі. Цяпер толькі разумею, што, мусіць, таму матка агледзелася і змеркавала, што хлапец запушчаны і не расце, дык трэба нешта перамяніць. Тады знайшла хату ў добрых людзей на Барунскай вуліцы: там далі на нейкіх варунках асобны куток з адным аконцам, дзе мы зажылі па-панску. Ужо матка магла нас дваіх пакідаць у хаце: мяне пад апекай Людвіні, якая была вострай настаўніцай, якой я не мог не слухаць, бо яшчэ яна была дужэйшая — аж мне прыйшлося бараніцца зубамі: «Мама, Юзюк кусаецца!..»

*

Мушу даць з пабыўкі ў Савіцкіх адзін інцыдэнт надта характэрны. Цётка Ядвіга была нянькай маленькага Франачкі, майго дзядзькі, які ляжаў у калысцы. А да Ядзі прыходзіла ў госці суседка, Мэлька, з якой вышывала Ядзя нейкія ласкуткі. Работа ў іх была паважная, бо мелі і каляровыя ніткі і якраз згубілі чырвоны клубочак! Як ні шукалі, не маглі знайсці: на ложках і пад ложкамі і ўсюды… Не было рады, аж кажуць: «Чорт украў!» Я пачуў і вельмі спужаўся. А яны кажуць: «Трэба яму закруціць бараду, дык аддасць…» А я зацікавіўся, бо справа здавалася мне рызыкоўная: як яны яго зловяць і як будуць круціць бараду?.. Але і страх мяне браў, як я яго пабачу?.. А яны закрыліся ад мяне і нешта там круцілі, вярцелі — аж кажуць: «Гатова! Трэба выйсці ў сені і зачыніць хату. А што рабіць з дзіцяткам, бо яно спіць?» Мэлька казала: «Няхай спіць! Пакінем — яно нявіннае, і яму нічога не будзе!» Ну, мы ўсе вышлі. А ў мяне — і дзіва, і цікавасць, і страх: хачу яго ўбачыць дый страшэнна баюся! Але дзеўкі, прачакаўшы добрых пару мінутак, вярнуліся: давай разглядацца, аднак — нічога! Усё ж рэзону не траццяць — шукаюць і… знайшлі! Аж кажуць: «Гэта ён усё ж такі адкінуў. Мы добра закруцілі…» Так і дасюль я не ведаю, што там круцілася. А шкада!

*

За Барунскай вуліцай цягнуўся доўгі выган — аж да Гарадзішча. На ім гарнізон жаўнераў рабіў муштроўку, гімнастыку, бягі і стральбу. Адразу, як падымаліся з рынку на ўзгор’е, пачыналі біць у барабаны. Гэта нам, хлопчыкам, давала вялікую радасць: я не пытаўся пазвалення ў Людвіні і адразу прылучыўся да другога «маршу», — да грамады хлапцоў, якія зараз і сядалі да жаўнераў-барабаншчыкаў. Далей нас не пускалі, але нам было добра і вясёла тут пры барабаннай музыцы!.. Каля 1896 года жаўнераў забралі з казармаў, што былі ў кляштары пры касцёле і з Гальшанаў.

## ПАБЯГУН

Трэба вялікай адвагі, каб пісаць успаміны, пачынаючы ад малых гадоў і працягваючы аж да… хто яго згадае, да якога часу? Значыць, гэта ўжо разрахунак з жыццём і справаздача чытачам, можна сказаць, споведзь перад грамадствам. Дык прызнавацца не вельмі прыемна да сваіх пахібаў, непаводзінаў, няўдачаў і няўмеласці; а хваліцца — нязручна дый няма чым…

Не дзіва, што людзі не вельмі любяць спавядацца, хоць чуюць патрэбу гэтага, так што і самыя смелыя адкладаюць або і адмаўляюцца. Падобна і я адцягваў успаміны аж да гэтых 83 гадкоў. А якраз я ўпёрся ў здарэнне труднае і балючае. Ішоў мне, мусіць, пяты год і я нечым моцна правініўся (не магу прыпомніць, што было такое?), аж мама закіпела на мяне, але я — драла!.. Каб я жыў, ніколі датуль ад маткі не ўцякаў, а тут выскачыў на Барунскую нашую вуліцу, а матка давай гнацца і лёгка дагнала: схапіла за руку і… нічога! Прывяла дамоў, гаманіла спакойна — ажно я думаў, што на тым і скончыцца. Але яна стала нібыта мяне аглядаць і лагодна прыхіліла, дый як рэзнула па голым — аж мне заняло дух! Кажуць, што гэта называецца «бярозавая каша» і што бывае вельмі «смачная» дый «гарачая». Дык я праканаўся, што людзі кажуць праўду — аж папамятаў на ўсё жыццё! На шчасце, гэта быў першы і апошні раз. Каб бацька жыў, дык пэўна паўтараў бы такую порцыю; але матка мне больш не давала; аднак дзякую ёй і за тое, бо навука «ў лес не пайшла»…

Не ведаю, як гэта растлумачыць, але хлопцы мяне не білі, хоць я быў добры задзірака. Калі ж што там і здаралася, дык я ніколі матцы не жаліўся. Наагул нашыя вясёлыя гулі і перагонкі не бывалі ані крывавыя, ані нават злосныя. Аднойчы, помню, як мы гулялі на вуліцы ў кацёлку, а я даваў адбой праціўнай партыі, дык так нязручна стукнуў, што кацёлка скочыла ўбок і трахнула ў чужую шыбу! Ну, праціўнікі мяне злавілі і даказалі пашкоджанаму гаспадару: «Гэта — Гарманіхі сын!», хоць я і не ўцякаў. Што ж? Гаспадар глянуў на мяне скоса і больш нічога. Маткі не было дома, і я вельмі баяўся — не таго, што будзе са мной парахунак, бо матка не карала за памылку, але было стыдна і шкада, што бедная матка будзе плаціць за шыбу… Аднак скончылася нічым: той гаспадар не звярнуўся да маткі і не спаганяў сваёй крыўды, і я астаўся вінаватым аж дасюль!

На Барунскай вуліцы мы жылі ў Аляксандра Ганусевіча, які быў шаўцом і заўсёды длубаўся з ботамі, чаравікамі: я

любіў глядзець на ягоную работу і аж часамі стараўся памагчы — нешта падаць, патрымаць, прынесці. Ганусевіч любіў мяне: забаўляў размовай і, мусіць, прывучыў бы мяне да сваёй работы. Добра, што хоць за жаўнерамі мы цягаліся, наглядалі іхныя муштры і сядзелі пры барабаншчыках. Сам-адзін я па вуліцы не брадзіў, асабліва вечарам, як гналі з поля быдла, бо я вельмі баяўся злыдня-казла, якога баялася ўсё мястэчка, а нават хатнія заганялі яго качаргой! І я лічыў, што казёл горшы ад самога чорта…

Дый не магу пахваліцца сваёй адвагай, бо мы з Людвіняй доўга баяліся барадатых жыдоў. Досыць было крыкнуць: «Юдка ідзе!», як мы хуценька хаваліся ў хату, бо Юдка аднойчы шчапіў нам воспу; а хадзіў, як фэльчар, з вялікай сумкай і з барадой.

У гэтым часе матка брала і мяне на сваю работу. Ейныя таварышкі любілі мяне ў сваёй кампаніі: спявалі, смяяліся, жартавалі, а нярэдка і пазводзілі. Аднойчы зручная жнейка так умела мяне ўцягнуць у інтрыгу, што нібыта мы будзем з ёй жаніцца, — аж я не ведаў, як адгрызціся! Да таго давяла, што ў канцы я здаўся на ейныя планы — «будзем жаніцца!». Але ёй толькі таго і трэба было: як я згадзіўся, дык яна і адстала дый забылася пра мяне; а нават, адходзячы дамоў, не развіталася са мной… Тады я і праканаўся, што жанчынам верыць нельга: дастаў навучку на ўсё жыццё. Прытым мне было страшэнна стыдна перад маткай, што я ёй здрадзіў — роднай матцы дзеля той свавольніцы!

Не ведаю, якая была прычына, што матка перанесла нашую кватэру з Барунскай на Ашмянскую вуліцу? Але тут з маткай і з Людвіняй мы мелі лепшую кватэру: большую і святлейшую, бо вокны выходзілі на вуліцу дый тут жа праплываў ручай, у якім можна было мыць ногі і плёскацца. Матцы была выгода, што мела зусім блізка да касцёла. Адну мы мелі невыгоду, што наўкола былі самыя жыды: хоць яны ў суседстве не былі прыкрыя, але ўсё ж — гэта людзі для нас чужыя.

Адносна касцёла мама ўмела захаваць меру пабожнасці і абавязкаў: ніколі дзеля набажэнства не апускала службы для дому і апекі для нас, дзяцей. Дый нас не націскала да набажэнства, а пацеры нам зусім не цяжылі, і мы іх ахвотна адмаўлялі. Матка мяне брала з сабой да касцёла, а ў набажэнстве я меў свае духоўныя рэкрэацыі: не мог наглядзецца на высокую гладкую сцяну за алтаром. Там былі вельмі цікавыя малюнкі — камбінацыі абразоў неба і прыроды, нябесныя сходы і пераходы, са ступенькамі і рознымі аздобамі. Мае вочы ўзносіліся

вышэй — аж да самага эмпірычнага неба! Анёлы буялі па тых аркадах надта смела, бо мелі вялізныя крыллі і не баяліся, каб не зваліцца, бо самі былі лёгкія, як Божыя духі! А ў цэнтры на доле Ян Хрысціцель стаяў на беразе ракі і хрысціў Госпада Ісуса Хрыста; ягоны плашч трымалі тры анёлы.

*

Мама мяне пакідала ізноў у Савіцкіх, але ўжо не адрывалася ад нас. Ну, мне цяпер паводзілася добра, бо дзядзькі-цёткі ўсё хадзілі на поле дый мяне бралі з сабой. Я ж ужо, як падлетак, даставаў малую работу — нешта паднесці або памагаць, як вяжуць снапы: падаваў салому ці трымаў перавясла. Аднойчы мне далі паднесці збанок з халадніком, бо другія неслі жанцам важнейшую яду. Мне казалі: «Асцярожна нясі — не спяшайся!» Праўда, пакуль ішлі дарогай, я ішоў акуратна і думаў, што і я памагаю, бо я ўжо не такі малы… Але пасля трэба было кусок ісці мяжой, а мяжа — вузенькая, дык дзядзька Міхал прыпамінае: «Асцярожна!» Дый я сам ведаю, як трэба, бо я ж — не малы! А перада мной бяжыць сабака: ён на мяне аглядаецца дый круціць хвастом і скача шыбка — аж я не магу за ім паспець. Аж мая нага раптам з’ехала з мяжы — баяўся, каб не паваліцца і даганяў сабаку дый — трах-бах! — і паваліўся… Збанок — ліха яго ведае! — узяў дый развязаўся, а халаднік разліўся! Ах, уся бяда на мяне, бо жнеі найбольш чакалі халадніку… «Нашто давалі малому несці?» Усе крыўдуюць, а я горка плачу!..

Кажуць: «Ты яшчэ замалы: пачакай — падрасцеш!» А ці ж я вінаваты, што сцежка была кульгавая і сабака круціўся пад нагамі?.. Але дзядзька Міхал казаў: «У сабакі — чатыры нагі, дык ён шыбка бяжыць, а ў цябе — дзве». Я ж паглядзеў на Лыску дый палічыў, — праўда, што чатыры, а паглядзеў на свае, ну — толькі дзве і кароценькія!

Цікава, што са мной здаралася ўва ўсім жыцці? — або памылка, або правал! А прычына — усё тая самая, што я — сірата, дык ніхто мяне ні ў чым не павучыў, але смяяліся ці сварыліся, што няздатны да нічога. Проста я ж быў — недавучка, аж стыдаўся, што не ўмеў плаваць, хоць надта хацелася і толькі, дарастаючы, навучыўся сам сабой. Дый пасля ў школах, калі я чаго не разумеў, дык так яно і трывала: не ўмеў нікога турбаваць, каб памог мне. Так і нават пісьменнікам дый паэтам я стаў вельмі позна — не смеў за тое ўсё брацца! Іскра ў душы гарэла і тлела без полымя…

Малым я вельмі хацеў ездзіць конна — аж аднаго разу пасадзіў мяне нехта: быў я рады і шчаслівы; як жа той дабрадзей адняў руку ад мяне, у мяне закруцілася галава і я бразнуў аб зямлю! Значыць, была гэта першая і апошняя навука — аж прайшоў добры час, калі я сам праз сябе адважыўся і перастаў жыць няўмекам.

*

Казаў я, што мы з мамай і з Людвіняй перайшлі на Ашмянскую вуліцу да высокага і паважнага гаспадара, вельмі энергічнага, але няўдачлівага з жонкай і з сям'ёй. У іх былі два сынкі; старшы быў кволы, няздатны, а прытым зусім дурны, але не шкодны. А малодшы — сімпатычны і вельмі прыгожы. Сам гаспадар быў нам мала прыступны, але жонка — спакойная і маўклівая, і ёй як бы нечага бракавала. Я гэтага не разумеў, аднак дзівіўся, што ў іх няма ладу. А сам гаспадар голасна наракаў, што ажаніўся нятрапна: трэба было ўзяць замуж старшую сястру з сям'і, а ён паквапіўся на малодшую, бо была прыгажэйшая. Значыць, ён уляпаўся на ўсё жыццё… Не раз ён выражаў жаль перад нашай маткай, але ўжо я трапляў чуць і слухаць дый рабіць высновы, хоць гэта да мяне не датычыла. Я ж думаў: чаго ён чэпіцца да беднай жонкі? Яна працавітая, маўклівая, а ён балбатун. Цяпер жа я мяркую, што такі энергічны чалавек мусіў і жонку мець паводле свайго генію: ён быў датуль і ў Амерыцы дый зарабіў грошаў, паставіў добрую хату на два канцы, бо і сам быў сталяром… Дык тая старшая сястра якраз падыходзіла яму сваім характарам, аднак ён сам выбіраў з іх адну і… зусім нятрапна!

Хоць новая кватэра нам добра пасавала, аднак мы ў ёй доўга не пагасцілі: думаю, што прычына была тая, што мы не змаглі аплачваць шыкарную для нас хату. Дык мы яшчэ раз асталіся бабылямі: матка хадзіла па заработках і брала з сабой Людвіню, а мяне закінула да Савіцкіх, праўда, на карацейшы тэрмін. У гэтым перапынку здарылася няшчасце: матка цяжка захварэла на дызентэрыю! Толькі Бог сцярог, што не памерла, бо хвароба пагражала смерцю.

У гэтую восень старшыя ад мяне дзядзькі яшчэ даканчвалі народную школку, аднак ішло ім няроўна: малодшы заўсёды прыходзіў на абед, а старшаму давалі «лусту» ў школу, бо ён аставаўся там без абеду. Помню, што паўтаралася такая гісторыя нярэдка. На мяне школка рабіла рашучае ўражанне, і я дамагаўся, каб і мяне паслалі туды, — аж ледзь мяне праканалі, што ў

сярэдзіне года нельга пайсці і ледзь мяне праканалі чакаць да восені!

Я ж быў у гэтым часе хлопцам вельмі вясёлым, скакуном, крыкуном — нястомным і неспакойным — усюды мяне было поўна! Аднойчы лютай зімой вечарам, калі пільна было нагрэць печ, а запасных дроў бракавала, дык у Савіцкіх унеслі калоду ў хату: адны яе трымалі на зямлі, а другія пілавалі, а я ўсім мяшаў, круціўся каля рук — аж не ўмелі мяне ўспакоіць, — нарэшце як бразнуў на зямлю сам, — і галавой аб нешта як стукнуў, дык засвяцілі мне іскры ў вачах! Мяне паднялі, нечым да шчакі прыкладалі, каб адцягнуць гарачку; а я так плакаў нястрымана, што і цяпер часамі хапаюся за тое месца ў галаве!..

Разам са школкай у мяне пачаўся новы этап жыцця, а якраз з гэтым мы перайшлі на новую кватэру да цёткі Марылі Трацячыхі; а тут гаспадаром быў Антон Трацяк, муж Марылі. Іхны дом быў на той самай Ашмянскай вуліцы, толькі значна далей ад рынку і ад касцёла, у другой палавіне вуліцы. У іх была маленькая дачушка, вельмі прыгожая дзяўчынка, якая незадоўга пасля памерла. Сам гаспадар Антон Трацяк быў чалавекам зусім адменнага складу і характару, чым той папярэдні гаспадар-сталяр.

У маім жыцці наступіў новы пералом: я адразу дастаў два ганаровыя абавязкі: зімой стаў вучнем народнае школы, а летам стаў пастухом цётчынай каровы і цялушкі. Гэта трывала 4 гады, ад 1898 да 1902 года вясны. Пачуваўся я нязмерна здаволены новым назначэннем: пачуў у сабе вартасць чалавека, з якім ужо лічыцца грамадства, як і матка сказала: «Ну, сынок, дарма хлеба есці не будзеш!» Людвіня — сястра таксама паглядала на мяне з большай увагай і адпаведна настроілася ў размове на больш паважны тон: ад гэтае пары мы ўжо менш сварыліся.

Аднак пра ўсё гэта скажацца ў наступным артыкуле.

## ВУЧАНЬ І ПАСТУХ

### I

Такія два чыны, якія я дастаў намінальна адразу, былі ў маім жыцці здарэннем нязмерна выдатным: я ж ганарыўся імі перад усім дробным народам на Ашмянскай вуліцы. Тая драбяза — дзеці — трымалася яшчэ матчынай спадніцы, калі мы — хлапцы — ішлі ўжо ў людзі. Наогул малых дзяцей было поўна ў

хатах, затое мне тут вельмі спадабалася, бо кожны роўны быў маім прыяцелем, а старшыя рабіліся верхаводамі — яны вялі забавы ў гульнях, бралі ў рукі каманду, асабліва ў школцы.

Настаў асенні — і зімовы сезон, калі паказваўся снег і калі быдла заганялі ў хлявы на ўсю зіму.

Ведама, у школцы было найвесялей, хоць спачатку было непрывычна, бо аж зацесна! Якая была нашая школа, можна судзіць з таго, што намі камандаваў адзін настаўнік, а класаў меў ён чатыры, і ўсе таўкліся ў адной зале — у пакоі такім прасторным, як адрына. Фактычна класы лічыліся тры, але першы дзяліўся на дзве групы. Я ж мог трапіць адразу ў 2-ю групу, але тады быў я такі малы — ледзь не найменшы з усяе школы, што утнуў мяне настаўнік у першую, без ніякага экзамену, а зрэшты я і не ведаў аніводнае літары па-расейску!

Настаўнік наш, строгі педагог, меў вострае вока на ўсіх адразу і не жалеў ні штуршкоў, ні «накаленкаў», ані «завувушкнеў»: не страшнае ўсё, апрача «лапы» — доўгай грубой лінейкай. Дзякуй Богу, я такой не дастаў аніразачку! Хоць баяўся падчас усяе школы. Было і «без абеду» і «пасля класа».

Жыдоў у школе не было ніводнага, хоць у мястэчку яны займалі ўвесь рынак і вуліцы ад рынку; нават тры іхныя сям'і мелі ўдзел у местачковай гаспадарцы — «у шнурах» поля. Аднак жыдоўскія хлапцы вучыліся ў сваім хедары пры сінагогах, якіх мелі дзве вялікія, побач з сабою. Праваслаўных у мястэчку было нямнога і ў школе — таксама. Да іх прыходзіў на Божы Закон іхны святар, які называўся Уладзімір Юзвюк: гэта быў салідны і паважаны духоўнік, якога шанавалі навакол усе.

Я заўсёды бываў акуратным: ніколі не пазніўся на лекцыі, бо ўважаў сабе школу за святы абавязак. Але трэба ж таго, што аднойчы я дастаў самую вострую кару: мяне пакінуў настаўнік пасля класа! На жаль, не помню, за што? Вам прызнаўся б, каб помніў. Аўдзей прыкрыкнуў на мяне і затрымаў ад усіх. Якраз усё зладжылася на маю некарысць: западаў цёмны вечар; а дамоў мне трэ было ісці вельмі не блізка!Аставацца ў пустым класе аднаму — аж я жахнуўся, бо найбольш страшнай мне выдавалася печ і цёмны вугал за ёй. Старшыя хлопцы ўважалі, што малога нельга пакідаць адзінокім, і нагаворвалі пайсці да настаўніка — перапрасіць. Але я не згаджаўся: сядзеў на лаўцы і так плакаў, што слёзы цяклі праз пальцы і я ўвесь тросся са страху і гора! Вучыцеля я не баяўся, але ў маёй душы аб'явіўся зацяты адпор і я казаў: «Не пайду!» Закрываўся рукамі, мокрымі ад слёзаў. Аднак хлапцы цягнулі мяне пад прымусам, хоць я ўпіраўся

рукамі і нагамі. Нарэшце ўпхнулі мяне ў пакой настаўніка, а дзверы трымалі, каб не ўцёк. Вучыцель грозна буркнуў і па-бацькоўску дзёрнуў за вуха дый пусціў вольна. Ну, у хлапцоў запанавала радасць з перамогі; але ў мяне злосць да іх не астыгла. Я ішоў ззаду, надуўшыся з канфузіі, і толькі на вуліцы пакрысе адпусціўся, а нават у душы цешыўся з свабоды і што той пракляты кут за печкай астаўся пусты і я яго не баяўся… Трэба прызнацца, што хлопцы мяне абаранілі ад няшчасця, бо сапраўды я ж хіба захварэў бы ад вялізарнага страху; усё ж у хаце я не прызнаўся да такой паважнай прыгоды.

Першыя два гады — гэта былі страчаныя дні, тыдні і месяцы, — такія нудныя, што толькі нашая простая натура магла ператрываць такую «навуку»: мы не мелі ў кніжцы ні абразкоў, ані цікавай лектуры. Нашая мова ў хаце і ў школе была беларуская, але настаўнік не сказаў ніколі ні аднаго слоўца папросту, і мы змушаны былі адказваць па-расейску, нам убілася ў душу такая казёншчына на ўсё жыццё! Толькі помню, што аднойчы Аўдзей паказаў нам «жывы абраз»: адзеў аднаго вучня ў расейскую сарочку і той увайшоў у клас, спяваючы расейскую песню. Я ж не зразумеў той песні, але жывы абразок помніцца мне дасюль! Вось што значыць чужацкая школа з чужой мовай: так цар-бацюшка марыў нашых дзяцей і забіваў народную душу! Аднак драпежны лёс зводзіў несвядомых людзей для свайго духавага панавання.

*

Нарэшце я перайшоў у 2-гі клас і мая навука пабегла жвава: мы ўжо разумелі расейскую мову і нас цікавілі вершы і проза. Матэматыка мне ішла трудней, і мяне некаторыя пераганялі. Аднойчы настаўнік узбурыўся, што вучні забыліся таблічку множання і назаўтра назначыў адказны экзамен: прынёс у клас сваю смаглую лінейку. Маё сэрца ўпала: я страціў усялякую адвагу — думаў, што прападу! Ну, пайшлі допыты: хлапцы аж прысядалі ад болю! Слёзы пацяклі багатыя і шчырыя, а літасці — ніякае…

Не ведаю, як я здаў той люты экзамен, бо ў падобных спробах я заўсёды капыціўся? Ён добра мяне мучыў, але не падлавіў. Мяне ён уважаў за спраўнага вучня і адносіўся лагадней.

Пайшоў 3-ці клас. Хоць быў я меншы ад іншых, але ўважаў сябе за старшага ў школе, хоць не ўмеў верхаводзіць між другімі. Сам настаўнік не ставіў нас на калені і гаманіў з намі больш уважліва: пакінуў нас пасля Вялікадня ў школе, каб

прыгатаваць да апошняга экзамену. Надта яму ішло аб тое, каб мы памысна здалі экзамены, дык укладаў усю сваю мудрасць у муштроўку нашага класа. З расейскае мовы я дастаў адказаць верш «Русь» — доўгі верш, — аж баяўся, што зрэжуся! Але неяк адсыпаў усё без памылак: «Под большим шатром голубых небес…» Аж дасюль, больш як семдзесят гадоў, я добра не мог адрозніць «голубого» колеру, пакуль у слоўніку не знайшоў, што «голубой» значыць «блакітны» — нябесны. Інспектар Ашмянскага гарадскога вучылішча прыязджаў на наш экзамен і астаўся вельмі здаволены маім вершам «Русь».

Так скончыўся мой вучоны этап у першай школе.

## II

Апрача школкі да мяне належаў абавязак пашы ў гаспадара нашага дома Антона Трацяка і ягонай жонкі Марылі Трацячыхі, якая была сястрой маёй маткі, а маёй цёткай. У іх бывала карова і празімак-цялушка. Паша пачыналася вясной, калі сыходзіў снег, а паказвалася трава і зямля абсохла. Тады аўтаматычна перарывалася школка. Звычайна гэта больш-менш сходзілася з Вялікаднем: пасля Пасхі ўжо ў школку не збіраліся, але ніякага роспуску ніхто ў настаўніка не пытаўся. Тады канікулы бывалі, як каму ўдалося: ужо само быдла раўло і ўпаміналася на пашу, бо і корм-салома — ужо старэла дый лішняе яе не было; а часам і зусім бракавала. Быдла худзела — ажно некаторыя падымалі свае каровы і спяшаліся выгнаць іх на пашу.

Дома матка з цёткай згаварыліся, як убраць пастуха: яшчэ раніцы бывалі халодныя, а дзень ужо цёплы, дык трэ было мець нешта цяплейшае. Абмундзіраванне ішло самае прымітыўнае: кашуля, споднікі, рубашка і порткі, а з вясны яшчэ нейкі халат, кафтан ці нешта падобнае. Далей абавязкова трэба надзець праз плячо торбачку — гэта на хлеб і сыр ці кусочак каўбасы, часам спечаная бульбіна ці ўчарашні блінок — вось і ўсё! Тут разам і абед, бо вясной у палудзень дахаты не прыганялі. Я ж не быў ані капрызны, ані пераборлівы: што далі, тое і добрае. Здаралася, матка ўлажыла і яйка, цвёрда зваранае — гэта ўжо — багаты абед! Ах, да адзетку павінен ісці абутак, але на гэта служылі самі ногі: я цэлае лета хадзіў басанож. На шчасце ў нас грунт быў пясчаны, крыху камяністы, і часам ногі збіваліся і раніліся, але гаіліся самі сабой хутка і служылі ідэальна! Аднак вясной трапплялі замаразкі, дык у пяску было нічога, але на дзірванах і на малой траве, ох, халадок праніклівы — аж даходзіў да сэрца!

Тады палюеш, каб пабачыць вялікі камень і стаць на яго: ён трымае цяпло яшчэ ад учарашняга, бо трава трымала замаразь… Дый яшчэ трэ было мець біч або хоць дубчык ці стусінку.

Першы дзень: выганяем у поле. Выходзяць з хаты ўсе людзі, аглядаюць скацінку: перш трэба было падлажыць пад парог хлява яйка, а прытым нешта там шапталі і жагналі, а часам свянцілі святой вадою. Усіх цырымоніяў я не помню і не вельмі дбаў пра гэта. Каровы ўглядаліся цікава на надвор'е і пры спатканні з чужым быдлам абавязкова мусілі пабасціся, каторая каторую пераможа. Гэтая ў іх цырымонія служыць пераважна на ўвесь далейшы курс пашы і быдла добра ведае іерархію сілы і перамогі — ажно часам слабейшым штукам надта цяжка даецца захаваць адпаведную пашану мацнейшых іншых — аж мусіць нярэдка пастух бараніць загнаных слабейшых! Бо іх зганяць з лепшае травы і з выгаднейшага месца.

Цікава таксама тое, што між быдлам адзываецца агульнае «выхаванне» ў гаспадарцы: дзе пануе парадак у хаце і дысцыпліна, а і дастатак гаспадарскі, там і быдла жыве больш спакойнае і падатлівае, нат і паслушнае. На пашы такое быдла не мсціцца на слабейшых і не завідуе ім: часта ўзаемна вылізваюцца і бароняць сваё таварыства. Праўда, гэта залежыць найбольш ад пастуха, як ён умее шанаваць сябе і сваю жывёлу.

## ПАСТУХ: ПРЫРОДА — НЕБА І ЗЯМЛЯ

Ад самых малых гадоў я вельмі цікавіўся з'явішчамі на небе і на зямлі. Пакуль мы жылі на Трабскай вуліцы ля берага рэчкі Гальшанкі-Жыгянкі, дык на ёй млын, мост і стаў — вялізны, зарослы аерам і воднымі ліліямі, белымі і жоўтымі, — вечна шумная вада з-пад двух колаў, розны народ ля млына — усё гэта ажыўляла наваколле і адбілася жывымі ў мяне ўспамінамі.

Вада ў быстрай рэчцы была чыстая і празрыстая, дно пясочнае, светла-жоўтае, а прытым маса рознай рыбы і рыбіны, ідэальнае купанне для вялікіх, малых і найменшых — таксама сталася памятнае мне на ўсё жыццё.

Вада была сапраўды жывая і рухомая, павольная ў ставе, а шыбкая ў сплыве, што для нас, малых, замяняла цяперашнюю тэлевізію, тэатр, кіно і панараму! А зімой на рэчцы — коўзанка: санкі, на якіх з'язджалася на ўсім працягу не доўгай вуліцы — аж да самага става, дзе была палонка на ваду. Як біліся снежкамі, дык заганялі слабейшых аж да става ці на млына. Дый яшчэ

трэ ўспомніць: як адчыняў мельнік застаўку на лішнюю ваду і спускаў збытак, дык гэта была роскаш усім купальшчыкам, бо голенькім сядалася на струмень вады і звальвалася з вадой у спуск, куляючыся і смеючыся! А якое відовішча, калі гуляла сонейка, адбівалася ў спуску вады, як вясёлка, як маланка, у тысячах люстэрак вадзіцы!

А ўспомніць прасторы лугоў за ракою, шырокія нівы жыта, аўса і іншае збажыны. Далей ішоў лес «Горкі» і вялізарны бор у напрамку м-ка Трабаў дый Ашмяны…

І неба лучылася з вадою, — адбівалася гарманійна раніцай ці пад вечар, калі ў пагоду бачыўся маестатычны касцёл і мястэчка на прыродным фота ў вадзе Гальшанскага става. Перш адсвечваліся вольхі і цудоўны малады бярэзнік з татарскага фальварка.

Дарожка між млыном вуліцы Трабскай і другім млыном на вуліцы Вішнеўскай (Замкавай) была пагулянкай першага класа! Бо рэчка то хавалася ў зараслях, то выскаквала на від і бляск сонейка, то фатаграфавала сасоннікі, што раслі на ўзвышшы і на ўзгорках, а прытым рабіла неспадзяваныя згібы і петлі або затокі — гэта праймаючая паэзія ў прыродзе! Бывала, ідзеш доўга, але ніколі не справішся з бегам вады і з працягам ракі, якая гіне ўдалечыні, плывучы праз Багданава, Вішнева і ў прасторы Налібоцкае пушчы, каб дагнаць бойкую Бярэзінку і разам з ёю ўпасці ў магутны Нёман!

Гальшанка кіравалася на поўдзень, а недалёка Ашмянка, наадварот, паплыла на поўнач да Віліі, каб з ёй спаткацца з Гальшанкай у водах Нёмана. Між гэтымі нашымі рэчкамі праходзіў водападзел, што называлі «Ашмянскі горб», і ад яго пачыналіся рэчкі Ашмяншчыны. Азёр у нас не было аж да ланцугоў азёр Троцкага і Свянцянскага раёнаў. І я не быў прывычны да азёр і баяўся ў іх купацца — ажно вельмі ўпадабаў слаўнае возера на поўнач ад Вільні Корве, дзе навучыўся кіраваць лодкай, веславаць і на каньках шмыгаць на ўсю ягоную даўжыню!

Другое возера, што я бліжэй пазнаў — гэта Троцкае, якое, раскідаючы свае рукавы, творыць замкавы востраў і абгінае горад Трокі. Яно ёсць чаруючым перлам усяго краю! Не дзіва, што на нашай зямлі нарадзіліся два выдатныя паэты-лірыкі і абодва Міцкевічы: Адам, які, на жаль, пісаў толькі па-польску, і Кастусь (Якуб Колас). Абодва сталіся паэтамі сусветнае вартасці. Значыць, нашая прырода мае без сумніву вартасць сусветнага характару. Каб яе не марнавалі камуністы сваімі вар’яцкімі эксперыментамі, дык яна дала б народу і даволі хлеба, бульбы і

ўсяго, а тым важней багаццямі выкапнёвымі і вартасцямі духу! Тут нарадзілася б больш цудоўных паэтаў, мастакоў, артыстаў і філосафаў…

Калі Трабская вуліца спускалася ў даліну да рэчкі, дык Барунская падымалася на гару і вяла да пасьбішча-выгану, на якім расейскае войска, што займала кляштар францысканаў, адбывала свае муштры, вучэнне і манеўры. А за дзве вярсты ад мястэчка падымалася гара Гарадзішча, дзе стаяў калісьці замак князёў Гольшаў. Гэта было другое ідэальнае месца для пагулянак-спацыраў і экскурсіяў. Тут ужо не было збытку вады, як на другіх вуліцах, Ашмянскай і Замкавай, якія канчаліся млынамі і былі перарэзаны трыма ручаямі. Ручай Барунскай вуліцы, багаты вадою, выплываў воддаль Гарадзішча і праразаў лугі ўздоўж усяе вуліцы. Які ён быў вартасны для вуліцы, можна судзіць з таго, што быў абсаджаны вольхамі ў два рады — аж пакуль Барунская перадала яго вуліцы Ашмянскай! Тады ён хуценька, перарэзаўшы Свіны (Кляшторны ці Казарменны) перавулак, упадаў у Гальшанку.

Найглыбейшае ўражанне асталося ў мяне ад навальніцаў, бураў, а і ад грому, маланкі і перуноў! Мы, малыя, абавязкова жагналіся, як засвеціць маланка, а як ударыў пярун, тады біліся ў грудзі — не так гэта выходзіла ад набожнасці, як ад страху… Аднойчы на пашы, гонячы быдла дамоў, я адзінокі знайшоўся на ўзвышшы: дождж ліў як з вядра, а перуны білі па наўкольных узгорках; а трэба было абавязкова ісці за быдлам, якога недзе было затрымаць. Ніколі датуль не здаралася мне перажыць гэтулькі грому і сілы грому і такога акружэння вялізных, густых і нізкіх хмараў! Мне здавалася, што б'юць вось-вось у мяне. І я перажываў навалу адзінюсенькі! Не магу апісаць таго жудаснага страху, і відаць, што Бог мяне шкадаваў, бо я не адчуваў пасля ніякага благога выніку ў сэрцы і ў душы!

Не магу таксама забыцца, што на Ашмянскай вуліцы такія грозныя хмары наступалі з Ашмяны: найперш падымаўся віхор, які замятаў усю вуліцу. Пасля дождж пачынаў капаць буйнымі кроплямі, рэдкімі і цяжкімі; а гром набліжаўся і ўзмагаўся. Нарэшце наступала самая цэнтральная бура з перунамі, што калыхалі хату! Затое якая была радасць, калі канчалася немарасць і паказвалася сонейка, даючы вельмі ажыўляючую вясёлку. Не ведаю, чаму цяпер і хмары блудзяць лягчэйшыя, і маланка бывае рэдка дый гром цішэйшы? А ўжо ж вясёлкі тут не бывае зусім: ледзь, можа, пару разоў я яе бачыў, дый то худую, як сухотніцу…

Зімою затое, бывала, снягі ападаюць рэгулярныя — глыбокія і трываюць цэлую зіму: адліга іх як прыб'е, дык становяцца яшчэ трывальшыя. А саначкі — роскаш! І месцы ў нас бывалі складныя, бо навакол узвышша, дык знайсці дагоднае месца для спуску не трудна. Дый зімою калёс не зналі, а падарож санкамі — самая дагодная і прыемная. Дый толькі аднойчы на ўсё маё жыццё я быў у небяспецы падчас дарогі з Ашмяны ў Гальшаны з гарадскога вучылішча. Вёз мяне і майго таварыша Яна мой дзядзька Пётра Савіцкі. Выязджалі мы з Ашмяны ўжо добра пад вечар. Быў я добры абсерватар: заўважыў, што вее добрая завіруха і шугае снегам, а востры вецер вее нам у вочы. Прытым мароз моцны і мацнее яшчэ больш. Кабылка ў дзядзькі добрая і моцная, значыць, у нармальных варунках даехаць нам — 20 вёрст — няма чаго баяцца. Але ў гэты вечар жартаў няма! Я ўжо загадзя баяўся і меркаваў па дарозе, колькі мы праехалі і колькі асталося, бо дарогу я знаў як пяць пальцаў! Цэлая рэкрэацыя было тое, што стаялі па дарозе тэлеграфныя слупы. Паміма ветру кабылка бегла рэзва і вытрывала, але я ўсё ж баяўся…

Адзетыя мы былі дастаткова, але дзядзьку было горш тым, што ён трымаў лейцы і мусіў уважаць на дарогу, каб аб'язджаць гурбы, якія фармаваліся наваччу. Я ўважаў пад канец дарогі, што кабыла вельмі змучылася, бо вецер увесь час быў у вочы, а пасля пачаў задуваць з левага боку. Нарэшце кабыла так змучылася, што проста аслепла і накіравалася направа, каб пайсці з ветрам… Мы ўпалі ў канаву, але не глыбока і выехалі на гладзейшы шлях. Я спачатку не змеркаваў, што мы сышлі з дарогі, але зараз пачаў глядзець уважліва і закрычаў: «Дзядзька, мы дрэнна едзем!» — «Маўчы! — адказаў ён. — Якое дрэнна?» А я цвярджу сваё: «Дрэнна! Бо дзе слупы тэлеграфныя?» Тут ужо і дзядзька спужаўся, бо мы сапраўды сышлі з гасцінца на поле. А ён не знаў, куды кіравацца. На шчасце, я добра знаў тое месца, бо ўжо было вярсты тры да мястэчка, і я пасвіў тут быдла летам, дык я кажу: «Вярні налева!» Так мы вярнуліся і знайшлі гасцінец, бо інакш мы паехалі б у кірунку ракі — па далінах-горах і маглі б згінуць. Не прайшло шмат часу, як мы ўжо даехалі дахаты на гэтай самай Ашмянскай вуліцы. А мой таварыш, Янка Варсоцкі, ані разу не пснуў, як бы яго справа і не датычыла, хоць і ён быў у небяспецы разам з намі… Так Бог нас ратаваў, што я магу спакойна апісаць інцыдэнт, які так мне добра запамятаўся!

Снягі наагул бывалі такія багатыя, што нашая (цётчына) хата бывала рубяжом, што затрымліваў мяцеліцу, і аднойчы так

надало, што падарожнікі мусілі затрымлівацца з найлепшымі коньмі і заходзіць да нас, каб раскапаць горбу снегу. Затрываўся тады і вялікі пан Ягмін, гаспадар замка, што ехаў бойкай парай коней. Сапраўды быў «вялікі» і фігурай і павагай дый з вялікага панства нават не ўмеў папросту гаварыць, але высокім тонам і па-расейску! Раптам, убачыўшы робленыя рукавіцы, якія ў Гальшанах рабілі на продаж, Ягмін сказаў: «Ну, хорошо, сколько хотите за пару?» Узяў адну гатовую і прымераў на руку. Нашыя жанчыны, мая матка і цётка, не паважыліся назначыць цаны, а сказалі: «Колькі пан сам дасць?» Тут узнікла труднасць, бо пан не хацеў у думках ні пераплаціць, ні не даплаціць. І бабы таксама баяліся запрасіць лішняе ці аддаць танней. Так абедзве староны змоўклі і абдумвалі справу. Трывала гэта мінутку, аднак кожны думаў аб думках другой стараны. Нарэшце пан заплаціў па сваёй думцы, узлажыў рукавіцы на рукі і выйшаў, бо снег ужо быў пракапаны. А нашыя жанчыны загаманілі: крыху пасудзілі, што слаба ж ён адплаціўся; але згадзіліся з сабой, што ён нас не пакрыўдзіў.

Наагул Беларусь не мела такіх суровых зімаў, як цэнтральная Расея і асабліва як Сібір; ані такіх бураў, як Амерыка, ані такой сушы, як Украіна ці Надволжа. Бывалі гады паўгалодныя, але поўнага голаду ў нас не здаралася. Толькі помню адзін год, што ў Савіцкіх забракавала вясной хлеба, аднак калі ўсе населі на бульбу, дык аніяк яе не пераелі да новае! А дагледжанае варыва заўсёды давала добрыя ўраджаі, асабліва капуста…

Да з’яваў у прыродзе — асаблівых, якія мне помняцца, мушу залічыць наступныя:

1) 24 чэрвеня, у дзень Св. Яна, раненька мяне разбудзілі нагла: «Хутчэй устань: сонца кіпіць!» Я саскочыў з пасцелі на двор і ўбачыў, што сапраўды сонца пералівалася так, што можна было, не плюшчачы вачэй, глядзець на яго — аж было ўражанне, што кіпіць-пераліваецца!.. Пасля казалі людзі, што на Яна гэта з сонцам бывае. Аднак ніколі больш нічога падобнага я на сонцы не бачыў. А здарылася гэта, як я вылічаю, у 1900 годзе.

2) Здаецца, што якраз у гэтым самым леце прайшла ўночы такая бура ў вёрстах трох ад Гальшан, што будучы на пашы я здалёку бачыў паложаную ветрам лясную дзялянку, не вельмі шырокую, але доўгую: маладыя сосны ляжалі на ёй зламаныя ў рост чалавека, такія прыгожыя і роўныя — аж мне зрабілася шкада бедных дрэваў!..

3) У 1904, калі не памыляюся ў гадах, я хадзіў у працэсіі з Гальшан у Вішнева (17 вёрст). Гэта было 2.VII. на фэст Божае

Маці, і бачыў я сам, што пярун пабіў тэлеграфныя слупы пад самымі Гальшанамі на гэтым тракце: на працягу 3 вёрст былі пашкоджаныя падрад усе слупы — кожны іншым спосабам. Адны ляжалі, другія былі пашчапляныя, а некаторыя ледзь мелі саструганыя ліштвы ці шчыліны, але абсалютна ацалелых не было ніводнага!

4) Каля 1906 г. на рацэ здарылася вясной добрая паводка, так што лёдам у хвілінку знясло дабры мост на Трабскай вуліцы; але млын ацалеў і мост пабудавалі лепшы і мацнейшы, умацавалі грэблю дый крыху абсушылі балота, якое ляжала між млыном і хатай Савіцкіх. Балота мела славу, што было здаўняе і называлі яго «Пеклам»: таму і млын зваўся «Пад Пеклам». Але адзін беззямельны папрасіў пазвалення паставіць там хату. Добра! Пазволілі — і ён навёз зямлі і вывеў зусім моцную будыніну. Толькі ж усе наўкола дзівіліся: «Як ён будзе жыць у самым Пекле?» Але нічога яму і не сталася.

Вось і ўсе з маёй памяці асаблівыя з'явішчы прыроды на Гальшанскім наваколлі. Але 1-я вайна мела спаленыя будынкі праз расейскае войска, як уцякала ад немцаў: проста з дуру, бо ніякага тут бою не было! Згарэлі будынкі толькі на Ашмянскай вуліцы, ад канца да палавіны вуліцы. У тым ліку згарэў дом удавы Трацячыхі, маёй цёткі, у якім і мы жылі (у 1915 г.). Змарнавалася ўсё нашае дабро і Трацячыха сама мусіла шукаць сабе кватэры. Пасля Марыя Трацячыха збудавала маленькую хатку з помачай брата Пётры Савіцкага; але мая матка і сястра Людвіня ўжо з Марыяй жыць не змаглі ў той халупінцы… А 1-я вайна затрымалася за 10 вёрстаў ад Гальшан.

*1973–1974*



# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## ДУМКІ АБ УНІІ

Святая справа Уніі мае шмат праціўнікаў. Маючы нешта слабое проціў Уніі, а часцей і саўсім не маючы нічога, прывыклі мы толькі махаць рукой — абы супакою не трывожыць. Аднак справа Уніі — справа важная, святая!

Хрыстус маліўся: «Каб усе былі адно». Яго жаданнем было і ёсць, каб была «адна аўчарня і адзін Пастыр». Хто ж проціў гэтага? Хто ж, калі не злыдзень пякельны, пасеяў сваркі між Усходам і Заходам? І для таго пажаданнем усіх пазнейшых Сабораў касцельных было заклікаць Усход да святой Уніі.

У нашым краі Унію загубілі рускія цары. Царскія апосталы: Мураўёў, Хаванскі, Шчэрбоў і сотні меншых нагайкамі, розгамі і другімі падобнымі спосабамі пераварочвалі ўніятаў. Некаторыя сведкі яшчэ жывуць. Кроў мучанікаў уніятаў, як кроў Авеля нявіннага, дамагаецца Божай справядлівасці. Чаму ж Унія мае ворагаў між каталікамі? Яны забываюцца, што прычыняюць Уніі гістарычную несправядлівасць. Касцёл каталіцкі не скасаваў Уніі, яна жыве ў Галіччыне, толькі ўрад, чыноўнікі, жандары выкасавалі Унію з нашага краю, забралі яе святыні, абразы, царкоўныя прыборы. Якім парадкам і дзеля якой прычыны каталіцкае духавенства хоча зацвердзіць крывавую крыўду, зробленую расейцамі?…

Вялікае значэнне тут мае палітыка.

Місіянер павінен углыбіцца ў душу чалавека, пазнаць ягоныя прывычкі, мову, думкі. Зусім немагчымая рэч, каб праваслаўныя з праканання прысталі да каталіцкага касцёла, калі мы абдорым іх лацінскім набажэнствам, польскімі казаннямі і новым календаром.

Іншыя талкуюць, што Унія ўвядзе калатню, нязгоду, а ў нас, кажуць, без нарушэння супакою, настае еднасць у лацінскім

касцёле. Добра. Але прыгледзьцеся, якая цяпер існуе розніца між «палякам» і «рускім», гэта знача між каталікамі і праваслаўнымі? У нас народ так глыбока раздзелены верай, што да злучэння на польска-каталіцкім грунце ніколі не дойдзе. Цяпер жа дзесяткі тысяч варочаюцца з Расеі. Яны разам з «калужскім» языком прыносяць думкі з шалёнай расейскай рэвалюцыі. Духавенства праваслаўнае ўплыву на іх не мае, а і папоў мала; на тры, чатыры прыходы адзін сядзіць і той без хлеба. Перажыўшы рэвалюцыю, праваслаўнае духавенства таксама маральна заняпала. Як жа ж у такіх варунках можна шукаць «святога супакою»? Гэта не будзе супакой Божы, а супакой нізкага ляніўства. Святыя Апосталы не шукалі такога супачыўку. Вялікія воі за св[ятую] Унію не баяліся звягі ворагаў, але смела ішлі да мэты — злучалі ў адно стада Божыя авечкі. Некалі Унія ў Беларусі красавала, жыла поўным жыццём і выдала вялікіх людзей і мучанікаў. Цяпер жа яна злучыць у адно цэлы наш Родны Край, засыпле роў глыбокі між Заходнім і Усходнім Касцёлам.

Працягнімо руку да праваслаўнага духавенства. Браты свяшчэннікі, хочам згоды з Вамі! Хадзіце да святой еднасці — Уніі! Хрыстус даў нам адну праўду, адну веру, а людзі зрабілі раздваенне. І з вас некаторыя выходзяць з уніяцкай сям'і. Нашто нам раздзелы, сваркі? Разам працаваць нам трэба дзеля беднага беларускага народа, каб паправіць ягоную ліхую долю.

Няхай жа збудзіцца ў каталіцкім духавенстве голас Божага прызыву, каб узяць на сябе цяжар працы, каб у Беларусі падняць Унію. Адвагі больш трэба!

Першыя апосталы, місіянеры мусяць пасці ахвярай здзеку людскога, насмешкаў. Але падыме іх Хрыстус і ўмесціць у Сваім высокім Сіёне. Хай будзе Яму хвала!

*1919*

## МЫ БЕЛАРУСЫ…

Дарагія Браты Беларусы! Пэўне будзеце дзівіцца, што я вас Беларусамі называю, але чакайце — вы такі сапраўды Беларусы. «Што ж гэта Беларусь?» — пытаюць мяне суседзі. Адзін стары, дзядзька Міхал, казаў: «Я ўжо шэсцьдзесят гадоў жыву, а зроду не чуў, што мы Беларусы». Вось і гавары з людзьмі: здзівіўся Гнедка, што яго канём называюць. — Вось, Браты Беларусы,

мы, як і шмат другіх народаў, таксама есмо асобным народам. Вы бачылі немцаў, — яны, ці салдаты, ці афіцэры, ці ксяндзы — усе немцы; бабы іхнія — немкі, дзеці іх — немчаняты. Таксама французы — і малыя і старыя — у іх усе французы. Маюць свой край, маюць сваю гутарку, асобныя прывычкі. Цяпер жа назаві ў вочы немца французам або француза немцам, дык дасць табе перцу, ледзь уцячэш. Як жа ж у нас? Мы таксама, як і другія народы, маем сваю гутарку; простая наша гаворка, але родная і для нас дарагая. Маем свой Край, зямлі многа, прастору, бароў, рэкаў, азёраў. Маглі б мы быць шчаслівы, толькі ўся бяда, што не ведаем, як называемся. Кажам, што мы «тутэйшыя». Яно то праўда, але гэтага мала, бо кожны ў сваім краі «тутэйшы». Другія паблыталі народ і веру; кажуць: «мы польскія» або «рускія». Не, браткі, мы ані польскія, ані рускія, мы саўсім інакшыя. Мы Беларусы.

Расказваў мне адзін бывалы чалавек. «Перш, — казаў ён, — я таксама не разумеў, хто я такі. Я думаў і называў сябе «польскім». Здарылася мне быць прад вайной у Польшчы. Сэрца маё цешылася: я каталік. Быў у касцёлах пекных, ламаў язык, каб пекна па-польску гаварыць. Аднак палякі крыва на мяне пaглядалі. Як прыйшлося работы шукаць, то яшчэ горай выйшла.

Так і вярнуўся дахаты. Не далей як у два гады пасля таго ўцякалі мы ад вайны да Расеі. Там ізноў бяда: маскалі лаюць нас «паляцкай» мордай. Хто ж мы, калі гэтак? Нідзе нас не прымаюць. У Расеі і ў Польшчы мы чужыя. Па-літоўску не ўмеем — то ж мы не ліцвіны. Мы Беларусы — вось хто мы!»

Але пісаць годзе! Наш рэдактар, каб ён быць не ведаў, не любіць, як хто доўга піша.

Кланяйцеся знаёмым і скажыце ім, што і яны Беларусы.

*1919*

## НАША ІМЯ — БЕЛАРУСЫ

Дарагія Браты Беларусы!

Сабраўся народ у нашай вёсцы: беларускую газету чытаюць. Хто мы? Хто мы? Гудзяць сяляне. Добра піша газета, зразумела, складна, але нашто ж гэта Беларусь патрэбна? Ад веку былі мы «тутэйшыя» і добра было. Дзядзька Міхал спанатрыў: «Што з гэтай Беларусі, ці яна хлеба дасць? Не ўсё нам роўна, хто мы?»

Дзядзька, кажу, што вы так роднага народу чураецеся? Беларусь гэта наш Край Родны.

Я нядаўна чытаў у газеце: у Францыі адзін салдат быў крэпка ранены ў галаву, што яму памяць адабрала. Так ляжаў ён без памяці некалькі месяцаў, а пасля, як ачуняў, хацелі дактары адаслаць яго дахаты. Але з гэтым салдатам сталася рэч дзіўная: ён забыўся сваё імя, фамілію і мейсца, дзе радзіўся. Вось і не ведаюць, што з ім рабіць і куды дзець яго.

Падобная штука з намі выходзіць. Праз некалькі вякоў мы былі паднявольнымі.

У такой путаніцы мы забыліся, хто мы. А тут пытаюць. Цяпер у Парыжы даюць усім народам свабоду. Чэхі, народ удвая меншы за нас — маюць сваё гасударства, Літва таксама невялікая — дастала свабоду. Хочуць і нам даць волю. Пытаюцца ў нас, хто мы. А мы сталі, развялі рукі, кажам «тутэйшыя». Не, брат, гэтага не прымаюць, кажы акурат, хто ты гэтакі. Мы, як тое дзіця, заблудзіўшы ў вялікім горадзе. Пытаюць яго, чыё ты; кажа: таты і мамы. А як яны называюцца, гдзе яны жывуць, не ведае. Беднае дзіця аддаюць у прытулак.

Браты Беларусы! Скарэй прыпамінайце сваё *Імя*, бо пара вялікая. Цяпер можаце трапіць альбо ў сваю хату, альбо ў чужы прытулак. Свая сярмяжка не цяжка, прыказка навучае. Няхай жа не будзе цяжкім для нас Беларускае Імя — яго нам Бог даў. Смела ўсюды запісвайцеся, што Вы Беларусы.

Бывайце здаровы, браточкі!

*1920*

## ЗЯМЛЯ НАША — БЕЛАРУСКАЯ

Дарагія Браты Беларусы!

О, памагае зямля шмат
У кожнай хваробе свая.

Хто ж з нас не любіць роднага загона?
Каму з нас не любыя нашыя палі, лясы, рэкі?
Мы жывём з імі.

Браток мой! Прыпомні, як на ўсходзе сонца ты ішоў з сахою аж на самы канец шнура-палетка. Дзень быў ясны. Радасна ўздыхнуўшы, ты браў саху ў рукі, звонка крыкнуў на Гнедку і пайшоў араць першую баразну.

Колькі поту выліў ты на сваю ніву! Далічы да гэтага бацькаў пот, дзедавыя труды і ўсіх сваіх продкаў працу, — тады ты пазнаеш, што гэтая зямля табе родная. Яна, як добрая маці, корміць цябе.

А зямлі ў нас вялікія прасторы. Аж суседзі нашыя, паглядаючы з-за мяжы, нам завідуюць. Толькі ж мы сваёй зямлі і свайго Краю не знаем. Нам здаецца, што мы народ малы. Не, браточкі, Беларусь — Край вялікі: Віленская, Гродзенская, Мінская, Віцебская, Смаленская, Магілёўская губерні. Ці гэта мала? Беларусаў 12 мільёнаў — то не жменя. Мы самі сабе гаспадары. Досыць нам апекуноў! Нянек нам не трэба.

Беларусь для нас маці. Толькі злое або дурное дзіця не любіць сваёй маткі. Бог даў нам зямельку: мала яе ў кожнага гаспадара, але світаюць лепшыя часы — будзем мець больш зямлі. Любіце, Браты, Край свой і сваю дарагую зямлю! Бедная яна — не дае нам золата, срэбра, але даволі хлеба. З зямелькі наша адзежа белая, дзеля гэтага мы называемся беларусы. Якія ж цудоўныя зёлачкі ў нас растуць, каторыя немцы купляюць за нішто, а вырабляюць з іх дарагія лякарствы. Любімо ж сваю зямлю, як добрыя дзеці сваю матку — карміцельку. За нашую зямельку немцы з маскалямі ваявалі, а цяпер палякі бальшавікоў б’юць. То, мусіць, наш Край варт нечага, калі столькі за яго крыві пралілося.

Дай нам, Божа, болей розуму, каб мы сабе цану пазналі. Свет разбудзіўся, а мы спімо.

Браты беларусы, уставайце!

Гэй, да працы! Рукі Бог і нам даў. Хто сільны, ідзі ў Беларускае Войска; хто малы — учыся. Не стыдайцеся роднага слова, чытайце беларускія газеты, бо Вы **беларусы**, так як і я.

*1920*

## ЦІ БЕЛАРУСЬ ХЛЕБА ДАСЦЬ?

Дарагія Браты Беларусы!

Завёўся звычай у нашай вёсцы, каб вечарам дзе-колечы пагутарыць: збяруцца суседзі ў адну хату, закураць люлькі… дудуду, гаду-гаду да дзесятай або і пазней. Дурная рэч курэнне, але бывае часам карысная, як у нас. Калі падпусцяць дыму, ніякая баба не дадзержыць; а як бабаў няма, то і плётак не будзе. Асабліва такія сяброўскія сходы бываюць цікавы, калі прыходзе

беларуская газета. Наш дзядзька Міхалка ўжо ж як не любіць Беларусі, а беларускую газету слухаў бы дзень і ноч. Якраз сягоння чытаў я газету цэлай грамадзе. Прыйшлося мне чытаць і сваё пісанне. «Наша імя беларусы» ў 1-м нумары «Крыніцы», дзе я ўспамінаў і дзядзьку Міхалку. З гэтага зрабілася цэлая бура. «Хто аба мне пісаў у газету? — крычаў дзядзька. — Гэта хіба ты, Вінцук?» Я не мог ніяк аднекацца. Усе адразу дагадаліся, што гэта я напісаў у газету. Бадай цябе, з няшчасцем! «Што ж ты на мяне налгаў?» — «Дзядзенька, — кажу, — родненькі, даруй! Толькі налгаць то я нічога не налгаў, а напісаў чыстую праўду. То ж дзядзька пытаўся тады, ці Беларусь нам хлеба дасць». «Пытаўся, пытаўся, бурчэў дзядзька, то што ж, што пытаўся? Ён яшчэ смаркач, жужла будзе мяне па газетах распісваць. А ты ж мне адказаў акурат — і цяпер пытаюся, што нам бедным з гэтай вашай Беларусі, калі яна хлеба галоднаму мужыку не дае?»

Паскрабаўся па галаве; як тут адказаць дзядзьку? Бо і грамада на мяне вытарашчыла вочы. А гаварыў я гэтак:

Беларусь край бедны, — залатых пяскоў у нас няма, пшаніца расце слаба, мора ад нас далёка. Гаспадары па вёсках ледзь не ледзь самі сябе перакормліваюць.Толькі ж дворнай зямлі і казённай зямлі ў нас многа, казённых лясоў пропасць. З двароў і казёншчыны найбольш дабра плыло прад вайной за граніцу. Вялікая часць паноў толькі таго і глядзела, каб набіваць кішэні грашмі ў нашай беднай Беларусі, а паражнілі іх у багатай Францыі, у Парыжы. А пасля наракалі на Беларусь, што яна бедная, што народ у ёй дурны. Нават цэлыя кніжкі аб гэтым паскладалі. А што народ у нас дурны, то гэта праўда, бо нявучаны, а цёмны, як сажа ў коміне. Як той вол рабочы, прывыклі мы лезці ў чужое ярмо. Меў я раз шчыгла ў клетцы; хацеў жа даць яму свабоду. Адчыніў дзверцы і паставіў клетку на акне, вакно было таксама адчынена. Цэлы дзень стаяла гэтак клетка, а мой шчыгол, здурнеўшы, сядзеў у няволі. Раз нават выскачыў з клеткі, але ізноў вярнуўся. — Добра ж пісаў аб нас Бурачок у Дудцы Беларускай:

Дурны мужык, як варона…
Дурням умрэ, як радзіўся
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама, мужык-хамула,
Ад навукі адвярнула.

Няма ў нас навукі. На свеце белым, ведама, кажды чалавек сам сабе найлепшы прыяцель. А мы канечне пажадаем чужой апекі; думаем, што хто другі аб нас бедаваць будзе і клапаціцца і нам памагаць. Былі мы пад расейскай нагайкай доўгія гады, цяпер ізноў аглядаемся на ўсе бакі, дзе тут да каго прытуліцца. Добра людзі кажуць: свой кут найцяплейшы, а чужая апека вылезе бокам. Беларусь хлеба дасць, гэта пэўна, як сонца на небе, калі мы не будзем ані свайго народа, ані свайго Краю выракацца, але дружна як браты працаваць будзем. Інакш хлеб беларускі паядуць чужыя людзі, а мы пойдзем упрочкі. Не дай гэтага, Божа!

Браты Беларусы, ці добра я адказаў дзядзьку Міхалку?

*1920*

## ДА ЗДРАДНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Дарагія Браты Беларусы!

Не дзіўна, што людзі простыя не ведаюць, хто яны. У нас у Беларусі школак было мала; дзясяты або дваццаты пападаў прад вайной у народнае вучылішча. А ў школках тых больш мучылі як вучылі. Вучыцелі ўгаворвалі дзецям, што яны расейцы і што Расея для нас Бацькаўшчына. Не дзіўна, кажу, што людзі цёмныя або мала граматныя не ведаюць, хто яны такія. Але вот дзіва, над дзівамі, што ёсць такія франты, якія шмат вучыліся, а былі і ў вышэйшых школах, былі запісаны да беларускіх кружкоў, а цяпер саромяцца Маткі Беларусі. Я не буду тут пісаць аб тых, якія проста зракаюцца Беларусі, а прыстаўшы да чужога народа, крыўдзяць або абсмейваюць сваю Бацькаўшчыну. Такія людзі гэта звычайныя здрайцы-Юдашы, каторыя будуць упісаны ў чорныя страніцы беларускай гісторыі. Але вось я пішу аб астрожных і вельмі саромлівых беларусах. Будучы ў школах, такі беларус быў адважным, гаварыў па-беларуску, пісаў стацці да беларускіх газет, нават думаў нешта важнае зрабіць для свайго Краю. Але вось скончыў наш студэнт навукі. Знайшоў места і на ім прыгрэўся. Беларуская думка стала застыгаць. Ужо цяпер інакшым зрабіўся: нібыта трымае беларускую газету, але нікому яе не паказвае. Аб сабе ледзь патрапіць сказаць: «Я власціве тэж з тамтых строн». Нібыта праз памылку пішацца ў пашпарце не беларусам. Калі загаворыш да яго па-людску, пачырванее і аглядаючыся скажа: «Я власціве тэж бялорусін, але з вашым

праграмэм не могэм ісць». А усюды ўлепіць «власціве»; гэта значыць, браток, што ты ўжо запрапасціў міласць айчыны, толькі адно «власціве» асталося. У такім гістарычным часе, як цяпер, калі важыцца доля народаў, такія нізкія людзі ў Чэхіі або Украіне проста называюцца здрайцамі народа. Дык што ж аб вас, нашыя здраднікі, сказаць? Вы ў сумленні хочаце быць спакойны, бо самі прад сабой прызнаяцеся, што вы беларусы. Але якую, аднак, карысць мае з вас Маці Беларусь? Такая з вас карысць, як… ды што і гаварыць! Хто стыдаецца сваёй маткі, той сын выродны. Калі матка ў няшчасці, а дзіця праз стыд фальшывы ёй не дапаможа, спадзе на яго пракляцце матчына і Божае.

Пытаюцца ў нас, дзе нашы вучоныя беларусы, дзе беларускія ксяндзы, папы, дактары, адвакаты?.. Ой, маем мы іх даволі, ад Беластока да Гродна, Вільні, Менска; і далёка на ўсход расселіся яны па становішчах і самых сабе, народа свайго саромяцца; прыкрыліся іменем «власціве» беларус, а папраўдзе здраднікі і Юдашы.

Часамі такі «власціве» беларус прабуе ў спрэчцы бараніць свой народ прад чужымі, але паказваецца нейтральным, быццам беларуская справа яго асабіста не абходзіць. Браток мой! Слабую падмогу зрабіў ты роднай Беларусі, — бароніш ты яе быццам пастаронні чалавек. Але ты для нас сам чужым зрабіўся. Дзеля гэтага мы не прызнаём паўбеларусаў. Калі вы ў найважнейшы момант чураецеся свайго народа і саромееццеся гаварыць па-беларуску, то вы ўжо на дарозе да здрады. Адчапіцеся ад нас сусім, не паганьце Беларускага Імя і будзьце адступнікамі, але помніце, што пракляцце Маткі Беларусі спадзе на вашыя галовы, а нядоля народа ляжа на ваша сумленне.

Нам трэба Беларусаў шчырых і адважных — зайцаў і трусоў нам не трэба!

*1920*

## ДАРАГІЯ БРАТЫ БЕЛАРУСЫ!

Дарагія Браты Беларусы!

Часць Беларусаў прызнае каталіцкую веру, а часць — праваслаўную. Гэта значыць, што ўсе людзі, каторыя ў хаце гавораць па-беларуску (папросту) паводле веры раздзяляюцца на дзве часці: адны ў нядзелю ідуць да касцёла і на-

зываюцца каталікамі, другія ходзяць да цэрквы і называюцца праваслаўнымі. У каталіцкім касцёле Імша адпраўляецца па-лацінску, нешпар таксама; каталікі прызнаюць папежа, каторы жыве ў Рыме. Каталікоў на свеце многа і паміж разных народаў: ёсць каталікі французы, немцы, італьянцы, чэхі і шмат другіх. Ксяндзы іхныя адпраўляюць Імшу па-лацінску — гэтак на цэлым свеце — гэтак і ў нас. Апроч лацінскага набажэнства ўсюды гаворацца навукі для народа. Вось навукі кожны народ мае ў сваёй роднай мове. Французскія ксяндзы кожную нядзелю гавораць навукі па-французску, нямецкія — па-нямецку, чэшскія — па-чэшску, — гэтак на цэлым свеце, толькі ў нас інакш. Толькі ў нас чалавек, напрацаваўшыся цэлы тыдзень, мусіць у нядзелю сушыць галаву і крэпка думаць, што ксёндз хоча сказаць у навуцы. У нас навукі па касцёлах гавораць ксяндзы па-польску; няведама, на што і на якое? Чаму мы інакшыя ад цэлага свету? Але гэта, можа, другім разам скажу.

Праўда, маліцца можна і на чужой мове: так, некаторыя паны моляцца з французскіх кніжак. Але трэба ведаць, што малітва — гэта размова душы з Богам. Найпабажней той моліцца, хто моліцца з цэлай душы, хоць слоў мала гаворыць. Дзіця як туліцца да маткі, то не выдумлівае слоў мудрых, але проста-просценька скажа: мама, я цябе люблю, абдымі мяне! І Богу добраму таксама проста, без ніякай хітрасці трэба маліцца. Браты дарагія! Ваша доўгае чытанне з польскіх ксёнжак карысці мала прыносіць, бо мала душы ў гэта чытанне ўкладаеце, бо польская мова для нас чужая.

Прыгледзьцеся, браточкі, і падумайце крыху, а ўбачыце, што я праўду кажу. Вот матка плача над труной дзіцяці, над сваёй доляй гаруе, да Бога уздыхае — усё гэта ў сваёй роднай беларускай мове. Чаму ж яна не моліцца тады па-польску? Бо словам родным лепш аблягчыць сваё сэрца. І кожная малітва павінна быць сардэчнай, дзеля гэтага нам трэба маліцца па-свойму, значыць па-беларуску.

Расейскія цары хацелі нам паблытаць нашу мову і наш характар, вось яны і не дазвалялі друкаваць беларускіх кніжак. Не маючы кніжак у сваёй мове, сталі людзі заводзіць польскія і маліцца па-польску. Толькі у Віцебскай губерні ў некаторых касцёлах утрымаліся аж да гэтай пары беларускія навукі і песні, як песня «О мой Божа, веру Табе» ў парафіі Хвашчоўка. Пасля 1905 году з друкаваннем кніжак па-беларуску палягчэла. Цяпер маем ужо беларускі малітоўнік «Бог з намі». Біскуп Роп[1] 1917

года, аб’язджаючы парафіі ў Дзісненскім і Ашмянскім паветах, дазволіў гаварыць навуку па-беларуску. Спачатку дзіўна было, але пасля як прыслухаліся людзі, то і спадабалі. Адзін чалавек з нашай вёскі быў у Маладзечне на беларускай навуцы, то пaказвае, што людзі як бабры плакалі. А ксёндз гаварыў: «Браты мае! Доўга мы бедавалі і прасілі Бога, каб злітаваўся над намі; а было нам цяжка на сэрцы, бо ў нашым касцёле па чужым парадку ішло набажэнства. А цяпер жа сонейка і для нас узышло: мы можам ужо хваліць тут Бога, як і дзяды-прадзеды нашыя, у сваёй роднай мове».

*1920*

* * *

Дарагія Браты Беларусы!

«Пайшоўшы, навучайце ўсе народы!» Гэтымі словамі пасылае Хрыстус Апосталаў на цэлы свет, каб яны ўсе народы па усей зямлі навучалі і хрысцілі. Як адважацца ісці і што будуць гаварыць гэтыя простыя людзі, невучоныя рыбаловы? Свет такі вялікі, а іх так мала! Не маюць войска, ані аружжа, чым жа свет зваюють? Аднак Хрыстус даў ім моц Духу Святога і абяцаў памагаць ім і быць з імі да канца свету. І пайшлі гэтыя простыя людзі і свет зваявалі: не мечам, ані стрэльбай, толькі моцай Боскай.

У першых пачатках святой веры Апосталы чынілі дзіўныя цуды: адным слоўцам лячылі цяжкія хваробы, ажыўлялі памёршых. Гаварылі разнымі языкамі: калі, бывала, збярэцца вялікая грамада людзей, Апостал так навучаў, што кожны яго мог зразумеці. І дзівіліся людзі і гаварылі: «Што гэта такое; мы тут сабраліся з розных народаў, а кожны з нас чуе ад Апосталаў сваю хатнюю гутарку?»

Аднак, калі пашырылася святая вера і Апосталы за веру паўміралі, цуды і знакі Божыя не так часта былі аб’яўлены свету. Біскупы, ксяндзы і дыяканы сталі навучаць кожны народ у ягонай роднай мове. І цяпер ёсць яшчэ людзі, каторыя навукі Хрыстовай не знаюць, а моляцца богам фальшывым. Тыя ксяндзы і законнікі, каторыя навучаюць недаверкаў і хрысцяць іх, называюцца місіянерамі. Місіянеры маюць працу вельмі цяжкую. Трэба перш навучыцца труднай гаворкі, каторай розныя дзікія

недаверкі гавораць. Пасля місіянеры навучаюць тых бедных, цёмных людзей аб Богу, святой веры і Божых прыказаннях. Вучаць іх пацераў і малітваў у іхнай труднай мове. У гэтакай цяжкой працы не адзін душой загавее. Але чаго ж не зробіць місіянер, каторы Бога мілуе і ў дзікіх, чорных людзях відзіць братоў найміленйшых? Праца, пот, цярпенне і смерць крывавая — вось доля місіянера, каторы зрокся свайго краю і родных для чужых і незнаёмых дзікароў.

У нашай старонцы вера святая заведзена ўжо даўно, толькі мала людцы яе разумеюць. Прыйдзе чалавек да касцёла і не ведае, што рабіць: стаіць, калі другія стаяць; укленчыць, як убачыць, што ўсе прыкленчылі. А дзеля чаго, нашто, мала хто разумее. Польскую навуку трудна сцяміць; Бог яго ведае, што і да чаго ксёндз гаворыць. Толькі добра граматныя і спрытнейшыя сцямяць блізу ўсё, а тыя, каторым найбольш патрэба навукі, скарыстаць не могуць, бо не разумеюць чужой мовы. Ксяндзу лягчэй навучаць па-польску, бо ён сам па-польску вучыўся, але ўсё ж такі цемната беларусаў найбольш з польскіх навук выводзіцца. Трэба, адкінуўшы ўсякую палітыку, хоць другую навуку гаварыць народу па-беларуску.

Ад польскіх пацераў і навук цёмныя людзі ўсю каталіцкую веру называюць польскай верай. Іншыя думаюць, што цэлы свет па касцёлах моліцца па-польску. Адзін раз у гутарцы прыйшлося мне з суседзямі гаварыць аб Папежу. Я сказаў, што Папеж не ўмее па-польску гаварыць. Дасцё веры? З мяне сталі смяяцца і назвалі лгуном. Вось грамацеі! Ім здаецца, што кожны ксёндз, усе біскупы і Папеж гавораць па-польску, і то не абы-як, але як рэпу грызуць. А я вам скажу, што польскай веры саўсім няма! Наша вера каталіцкая, але не польская, і мы каталікі, але не палякі.

Як спытаюць цябе — хто ты? — кажы смела: *верай каталік*, а па народу *Беларус*.

А гэта ўсё датычыць роўна як ксяндза, так папа — як Беларуса каталіка, так і Беларуса праваслаўнага. Дык калі запытаюць Беларуса праваслаўнага: хто ты? — кажы: верай праваслаўны, а па народу Беларус, і няхай цябе Бог сцеражэ казаць: я рускі, я рускай веры.

*1920*

* * *

Дарагія Браты Беларусы!

Нябожчык Папеж Піус X 1914 году даў багаславенства рэдактару газеты «Беларус», пісьменнікам і чытачом гэтай газеты. Папескае багаславенства, як раса з неба, упала на засохлую беларускую ніву, і зараз беларускае жыццё ў нас ажывілася. Ці ж хто з нас сніў прад вайной, што мы будзем мець свае школы, сваё войска? Школаў, праўда, у нас яшчэ мала, але чакаем лягчэйшых законаў і будзем мець больш. Хутка прыйдзе лепшы час і школы беларускія паўстануць па ўсей Беларусі, бо вучыцялёў маем досыць і кніжкі маем. У Вільні заложана беларуская гімназія, у Менску таксама і ў Слуцку. У Менску ўжо запісваюцца ахвотнікі ў Беларускае Войска, у Менску існуе Беларуская Рада і жывуць міністры, якія дабіваюцца свабоды, волі, зямлі і незалежнасці для Беларускага Народа. Мала яшчэ зроблена, але больш не было магчыма, бо Беларусь найбольш ад усіх перацярпела праз вайну. Падумайце! Немцы з маскалямі цягаліся за грудзі — усё ў нас! Пасля немцы баламуціліся з бальшавікамі, таксама ў нашай Беларусі! Бальшавікі разганялі Беларускую Раду, Усебеларускі з'езд. Цяпер палякі ваююць з Расеяй, таксама і гэтая вайна вядзецца ў Беларусі. Вось, браты дарагія, абразок нашай цяжкой долі. Не дзіўна, што нам цяжэй устаць, як другім шчаслівейшым народам. Апроч таго, мы раздзелены верай на дзве часткі, на каталікоў і праваслаўных; з гэтага няшчаснага падзелу хочуць скарыстаць нашы ворагі і пачалі нас расцягваць у бакі. Мы толькі злучаны гутаркай, мовай беларускай, каторай цаны не знаем, бо нам яе ворагі праз некалькі сот лет хацелі асмешыць і падаць на здзек. Вот прычына, чаму Беларусь асталася ад другіх народаў. Бо да самай вайны мы не мелі ані крыхі свабоды і не маглі прыгатавацца, як палякі, чэхі, ліцвіны, латышы. Бо вайна найбольш нас акрывавіла і знішчыла наш і да таго бедны Край. З намі выйшла так, як кажа наша пагаворка: пад кім лёд трашчыць, а пад намі ломіцца.

Што ж скажам сваім праціўнікам, агітатарам і стражнікам крэсавым? Яны здзекуюцца, што Беларусь слабая. Я сказаў бы ім так: «Паны агітатары! Адзін чалавек па доўгай цяжкой хваробе выйшаў са шпіталя. Але не мог устаяць і паваліўся. Калі ён хацеў падняцца, надбегла хмара жулікаў і стала яго папіхаць, наругацца і здзекаваць…» Да гэтага хворага чалавека падобны

наш Родны Край — Беларусь. Перайшоўшы страшэнныя мукі пры маскоўскіх, нямецкіх і бальшавіцкіх апекунах, Беларусь сілуецца паўстаць, бо Польшча прынесла свабоду.

Дык чаму вы, паны агітатары, капаеце нам магілу і нас так ненавідзіце?

*1920*

## ТАМАШ МЭРТАН[1]

Спадзяёмся, што чытачам будзе цікава даведацца аб цяперашнім амерыканскім пісьменніку-манаху, якога кніжкі па-ангельску і ў перакладах на розныя мовы разыходзяцца па ўсім свеце.

Тамаш Мэртан нарадзіўся ў Новай Зеландыі ў 1915 годзе. Ягоны бацька Оўэн Мэртан, мастак і музыкант, любіў падарожнічаць: пераехаў у Лондан, пасля ў Парыж. У вандроўках спаткаў мілую амерыканку, з якой і ажаніўся. Падчас першае вайны ў іх нарадзіў сынок: далі імя Тамаш. І з Парыжа ўцяклі ад вайны ў Пірэнеі — аж апынуліся ў Амерыцы! Там ім жылося бедна. Оўэн Мэртан маляваў абразы і займаўся гародніцтвам — недалёка ад Нью-Ёрка.

Бацькі Тамаша, хоць былі людзьмі чэснымі і развітымі, не далі дзецям ніякага рэлігійнага выхавання. Матка належала да пратэстанцкай веры квакераў, але да ніякае святыні не хадзілі. Толькі выпадкова бабуля навучыла Тамаша малітвы «Ойча наш…».

Тамаш любіў слухаць, як званілі ў касцёлах. Ён часта гаварыў бацьку: «Тата, вунь усе птушкі маюць свае гнёзды, як святыні: чаму мы не ідзём да сваёй?»

Але бацька адказваў: «Цяпер ужо позна, мы пойдзем у другую нядзелю». Тамаш меў шэсць год, як памерла ягоная маці, але ён за яе не ўмеў маліцца. Дзяды забралі Тамаша і Яначку — унукаў — да сябе; а бацька, Оўэн Мэртан, мастак-маляр, выехаў у Францыю, пасля ў Афрыку і яшчэ недзе. А ў дзядоў гаварылі, што «ўсе рэлігіі добрыя, апрача каталіцкае».

Маючы 10 год, Тамаш разам з бацькам ездзіць па Францыі: ягоны бацька шукае пейзажаў для малюнкаў. Разам адведваюць старыя касцёлы і кляштары. Тамаш навучыўся па-французску і, маючы 11 з паловай гадоў, быў памешчаны ў ліцэй. У 1928 г. зноў

пераехалі ў Англію. Тут быў залічаны да рэлігіі англіканскае, але выхавання і рэлігійнае навукі не атрымаў і тут!

У 1939 памірае бацька Тамаша, а дзед адклікае яго ў Амерыку.

У дарозе Тамаш насмерць улюбіўся ў адну прыгожую пасажырку — проста не меў ад гэтага супакою!

У Амерыцы падпаў пад уплывы камунізму: пачаў студыяваць Маркса і іншыя кніжкі партыі. Але зноў вярнуўся ў Англію. У 1931 здае экзамен ва ўніверсітэт у Кембрыдж і пасля едзе ў Італію.

У Рыме Тамаш Мэртан, сын мастака і сам мастак, ходзячы па музеях і касцёлах, асабліва быў захоплены мазаікай у касцёле Св. Казьмы і Дам'яна: адведваў шмат касцёлаў, але ўсё варочаўся да Казьмы. Асабліва яго пацягвала постаць Хрыста. У міжчасе разважаў: «Хто такі Хрыстос?» — Так мала аб ім ведаў!.. Тады ж купіў кніжачку «Новы Запавет»: чытаў, разважаў і пазнаваў сам сябе. І вось з дзівам заўважыў, што пачаў маліцца — не вуснамі, ані розумам, але ўсёю душою: прасіў Бога, якога ніколі не знаў, каб развязаў яго ад «тысячы ланцугоў няволі». Назаўтра пайшоў да касцёла святой Сабіны і першы раз у жыцці абмачыў руку ў свянцонай вадзе; падышоў да алтара і ўпершыню ўкленчыў і адмовіў «Ойча наш» — малітву, якую ўмеў змалку. А пасля запісаў сваю думку: «Каталікі не разумеюць таго страшнага клопату, які адчувае навернены, калі моліцца публічна… Яму здаецца, што ўсе з яго смяюцца».

Пасля гэтага Тамаш Мэртан чытаў Біблію, але ўжо не кленчыў і больш не маліўся і скора зусім астыг. Зноў вярнуўся ў Кембрыдж. Меў 21 г. і пасля пакінуў Еўропу назаўсёды.

Студыюе ў Амерыцы ва ўніверсітэце ў Калумбіі. Зноў прыстае да камунізму. Вучыцца і чытае вельмі шмат, але справамі рэлігіі не займаецца зусім. «Але дзіўная рэч: студыюючы шмат і рознага матэрыялу, я пачуваўся зусім пусты», — кажа аб сабе Мэртан.

Нарэшце трапіў на кніжкі, якія гаварылі аб Богу: гэта была філасофія рэлігіі, у якую пачаў заглыбляцца і цікавіцца. Найбольш паказалася яму рацыянальнай філасофія каталіцкая: у каталікоў вера акрэслена глыбока, проста і ясна. Прыяцель Мэртана, індус Брамахара, парадзіў яму чытаць кнігу «Наследаванне Хрыста» і «Споведзь»-Вызнанне — св. Аўгустына. Гэтае чытанне прывяло Мэртана да жыцця наднатуральнага, і яму раптам стрэліла думка, каб пасвяціць сваё жыццё Богу ў святарстве.

Аднак не мог яшчэ адважыцца на каталіцкае набажэнства. «І вось, — кажа, — я пачуў унутраны голас: “Ідзі на імшу!” — голас мяккі і моцны». Гэта было ў жніўні, якраз у нядзелю. Ён пайшоў да касцёла Божага Цела на вуліцы 121-й у Нью-Ёрку. Касцёл быў у панадворку каледжа.

«Касцёл, — ён кажа, — напаўнялі не старцы і не старушкі, што стаяць аднэй нагою над гробам, але найбольш маладыя мужчыны і жанчыны і дзеці: людзі ўсякіх класаў з сваімі сем’ямі. Усе яны — я ўважаў — былі занятыя Богам, а не самі сабою. Пасля я даведаўся, што гэта было Евангелле. Аж увайшоў на амбон малады святар. Ён гаварыў аб Хрысце, аб Ягонай Боскай натуры і аб людской, аб збаўленні і аб патрэбе ласкі. Якраз мне тады трэба было аб гэтым ведаць. Я тут знайшоў новы свет і выйшаў адтуль шчаслівы». Далей чытаў новыя патрэбныя кнігі, але на св. імшу больш не хадзіў! Ізноў вярнуўся да сваіх прыяцеляў і прыяцелек і весяліўся з імі. Толькі ж кожны вечар адмаўляў «Вітай, Марыя!».

Якраз тады шыкавалася Другая вайна, а Мэртан ненавідзеў вайны! У гэтым часе Божая ласка вельмі пачала яго непакоіць: «Чаго ты чакаеш? Ты ведаеш, што трэба рабіць: чаму не робіш?»

Нарэшце адважыўся: у касцёле Божага Цела папрасіў ахрысціць. Прыгатаванне адбыў пад рукой а. Маорэ, таго самага, што чуў навуку.

«Катэхізм — цудоўная справа: ён укараняе Божае слова ў душы добрай волі. Я гарэў пажаданнем хросту і не апускаў прыгатавання».

Хрост адбыўся 16 лістапада 1938 г. Пісаў пасля: «Усё ішло вельмі проста. Вялізныя горы зваліліся з маіх плеч: я веру, веру, веру!!!»

Тамашу было 23 гады. Канверыты пасля хросту — без духоўнага правадыра — пачуваюцца апушчанымі і безнадзейнымі. Так і Мэртан стаў няздольны ўтрымаць энтузіязм і пабожнасць: маліўся мала.

Піша аб сабе: «Я жадаў быць пісьменнікам, паэтам, крытыкам, прафесарам. Асцерагацца забаваў. Мая мэта была — рэпутацыя і паводзіны».

Пісаў паэмы, навелы — то ўдалыя, то няўдалыя. Вярнуўся ў Нью-Ёрк у восені 1939. І вось нечспадзявана аб’явіў таварышам: «Ведаеце вы, я пайду ў кляштар і стану святаром!»

Прыяцелі думалі, што ён дзівачыцца. Але Тамаш сказаў і сваёй паненцы: «Ведаеш, я буду святаром!»

Нейк позным вечарам зайшоў у касцёл св. Францішка Ксаверыя, у якім перш не бываў. Там адбывалася набажэнства.

«Там я сказаў Хрысту: “Так, я хачу стаць святаром. Калі твая такая воля, памажы, каб я быў святаром!”»

Асабліва пацягваў яго францысканскі ідэал, і Тамаш напісаў просьбу ў кляштар св. Францішка ў Нью-Ёрку. Аднак раптам захапіў яго прыпадак апендыцыту: аперацыя і даўжэйшы адпачынак. Тады чытаў «Рай» Дантэ і кнігі філасофіі Марытэна. Быў на вакацыі ў свайго дзядзькі і ахвяраваўся Матцы Боскай, калі паможа стаць святаром, дык першую святую імшу адправіць у Яе чэсць.

У гэтым часе заклікалі яго ў войска, бо трывала вайна, аднак дактары прызналі яго няздольным да вайсковай службы.

Нарэшце, маючы 26 гадоў, Тамаш Мэртан скіраваўся да закону трапістаў. Гэта вельмі суровы закон. Там у сціслым маўчанні, у працы і ў малітве (устаць уночы а 2-й гадзіне на малітву!), у цвёрдай адзежы і пасцелі праводзяць час у пакуце.

І яшчэ што дзіўнае: некаторыя амерыканскія маладыя людзі, кончыўшы вышэйшыя студыі, ціснуцца ў такія суровыя законы, пакідаючы распушчанае жыццё і вялікія выгоды…

Ужо здавалася, што Тамаш устаткаваўся ў кляштары, але ён і яшчэ не ўступіў у закон! Паехаў у Нью-Ёрк і там працаваў у дабрадзейным таварыстве для неафітаў (навернутых да веры) і ўжо меркаваў гэтым займацца заўсёды, разам з працай літэрацкай. Тут трапіла яму ў рукі кніжка-жыццяпіс св. Тэрэсы з Лізье і абяцаў ёй: «Пакажы мне, малая Тэрэска, што маю рабіць? Калі пайду ў манастыр, буду тваім манахам!» І вось гэты раз пастанова была неадменная: ніколі не пачуваўся такім спакойным і пэўным. І тады спаткала яго другая вялікая радасць: ягоны малодшы брат, Ян-Павал, навярнуўся і ахрысціўся і прыняў першую Святую Камунію (Прычасце).

Першыя законныя шлюбы Тамаш, пад іменем Людвіка, меў у 1942 г. Тады таксама і ягоны прыяцель Боб Лякс ахрысціўся і гасціў у манастыры ў Мэртана.

Якую ж будзе мець працу Тамаш Мэртан у суровым манастыры трапістаў? У сваіх думках і пастановах ён цалкам развітаўся з пяром і паперай! Аднак галоўны Абат-Генерал загадаў яму, што — апрача малітвы і ручной працы — павінен пісаць прозай і вершамі, як і даўней, толькі аб справах Божых — для духовага дабра людзей. Бо гэтага вымагае законнае паслушэнства.

Цяпер Мэртан шыкаваўся да святарства, студыяваў і пісаў.

Закончыўшы духоўную навуку, быў пасвечаны ў 1949. Да гэтага часу напісаў некалькі кніжак асцэтычных, стылем лёгкім, вобразным, цікавым і глыбокім. Ягоныя кніжкі перакладаюцца на розныя мовы і разыходзяцца па ўсім культурным свеце. Мэртан уважае, што гэта ягоная місія для вялікага дабра людзей і для Божае хвалы. Паміж іншымі ў сваёй аўтабіяграфіі паказвае жыццё трапістаў — цвёрдае, простае, з людскімі слабасцямі, — падобнае да Хрыстовага жыцця, якое вёў у поце і трудах і малітве — жыццё, якое не падабаецца грэшнаму свету, але якое ёсць вялікай Божай Місіяй…

«Хто можа паняць, няхай разумее!»

Пусты свет, які марнее пры тэлевізіі, абкураны табачным дымам, адурманены алкаголем, у пагоні за далярамі, выгодамі і распустай — такі свет не цяміць жыцця працы і малітвы, посту і маўчання, такі свет не разумее ні Хрыста, ні Ягонае навукі…

А атамная бомба вісіць над галавою гэтага грэшнага свету. Вось да чаго даводзіць фальшывая культура, якая — дзеля марнасці не дбае аб веры ў Бога, аб разумным жыцці на зямлі і вечным шчасці з Богам!

Дык няхай жа хоць выбраныя ў Бога і пакліканыя да бліжэйшае Яго службы заступаюцца за нас і вымаляць для нас сапраўдны жаль за грахі і наварот да Бога!

«Хто можа паняць, хай разумее!»

*1966*

## СЛОВА АБ ПАКУЦЕ

Што значыць пакута? І чаму трэба пакутаваць?

1. Пакутай называюць людзі ўсялякую цяжкасць у жыцці, у здароўі, працы ці ў суседстве або ў сям'і. Кажуць, напрыклад: «Пакута нам з нашымі суседзямі або з такой праклятай работай!»

Аднак тут мова аб пакуце духовай.

Гэтая пакута будзе тады, калі пакорна ўніжаемся прад Богам з жалем за грахі, з малітвай і добрымі ўчынкамі, як пост, ахвяра, цярплівасць… А пакута, як сакрамант-таінства — гэта ёсць жаль за грахі са споведдзю. І гэта ўжо самая важная пакута, таму што добрая споведзь дае поўнае адпушчэнне грахоў: такі чалавек, адпакутаваўшы, адыходзячы чуецца як бы нанава ахрышчаны!

І яшчэ ў практыцы называюць «пакутай» тую маленькую кару, як малітвы ці добрыя ўчынкі, што спаведнік назначае «за пакуту» — «епітымія». Але гэта ёсць толькі частковая адплата — узнагарода Богу за нашыя грахі.

Хоць нам грэшным трэба заўсёды пакутаваць, асабліва калі хто ўпаў у цяжкі грэх, але ёсць і асобныя дні і час пакуты, як Вялікі пост і перад Калядамі (Адвэнт-Філіпаўка). А наагул пакутным днём лічыцца кожная пятніца.

А ёсць яшчэ спецыяльнае набажэнства для пакуты, як Крыжовая Дарога і пакутныя песні-«псалмы». Дзеля таго, што Давід быў прарокам і паэтам дый улажыў псалмы, у якіх славіць Бога, дзякуе Богу, просіць аб помачы і пакутуе за свае грахі, дык гэтыя псалмы-малітвы ўвайшлі ў набажэнства ўсіх хрысціянскіх народаў.

ІІ. Чаму трэба пакутаваць?

Сама натура чалавека вымагае паправы і дасканаласці, значыць, пакуты. І ў прыродным жыцці трэба пільнасці і паправы, напрыклад, будынкі вымагаюць рамонту, перабудовы, аздобы; вопратка патрабуе чысткі, папраўкі, прасушкі… А ў хваробе трэ лячыцца; а гэта вымагае цярплівасці, агранічэння, лякарства, дыеты, супакою, нават часам аперацыі, значыць, пакуты. Таксама пакутай з’яўляецца праца, навука, выхаванне, парадак, чыстата і інш., а нават забава! Напрыклад, колькі трэба напацецца, каб навучыцца добра танцаваць! А вазьміце спорт: які сціслы пост практыкуюць гімнасты, цыклісты, джакеі і атлеты або астранаўты! Усім ім трэба асобных лекараў дый інструктараў, што іх гартуюць і даглядаюць. І ніхто гэтага не асуджае; а нават уважаецца, што разумна робяць тыя дзяўчаты, якія «для таліі» назначаюць сабе вострыя і працяжныя пасты.

А бывае часамі пост штучны ці нават злачынны. Такі «вялікі пост», што трывае больш як паўвека, назначылі камуністы ўсяму прымусоваму Саюзу. Бо і як зразумець такое агранічэнне ў такой багатай краіне?.. Ад пары да пары прарываюцца ў іхных верхаводаў такія прызнанні, што «галодны чалавек не здатны да бунту…». Так апісаў савецкі быт адзін з нашых паэтаў:

На будоўлі, пры рабоце,
Ён у пыле, у балоце
Так згубіўся ў тым народзе,
Што забыўся аб выходзе,

Аб парадку, аб свабодзе
І аб норме, аб сістэме,
Бо… хлеб чорны быў ў праблеме!

І так худзенькі конік у дрэннага гаспадара, выпражаны з плуга, стараецца скубнуць траўкі: яму не ў галаве пабегаць, паскакаць, павесяліцца ці пазнаёміцца з іншымі коньмі.

Дык тым больш у надпрыродным парадку, дзе трэба ратаваць-лячыць хворую душу, якая ўпала ў цяжкі грэх — тут трэба вельмі сціслай пакуты, каб паўстаць з грахоў, каб паправіцца дый вытрываць у добрым жыцці і каб адплаціць Госпаду Богу за прычыненае зло!

Святы Павал Апостал заклікае вернікаў да пакуты і паказвае ім прыклад спартсменаў у Грэцыі, як яны пакутуюць: посцяць для таго, каб атрымаць «крохкую нагароду, якая псуецца»; а мы — кажа — бяжым да мэты, што не псуецца, не гіне, значыць, да вечнага шчасця.

Аднак найлепшая будзе пакута, калі з ёй лучыцца споведзь; але яна ёсць і самая трудная! Дык вось тут трэба і малітвы, і ахвяры, і цярплівасці, і сораму… Гэта ёсць, як бы назваць, духовая аперацыя або лазня, дзе наступае абмыванне і чышчэнне — з мылам, шчоткай і гарачай вадою! А якраз тут самае істотнае — шчырасць прызнання, слёзы пакуты, поўная ахвяра з свайго самалюбства і пакора перад Богам і людзьмі.

А найважнейшае, што ў споведзі дзеіць спецыяльная Божая помач — «ласка сакраманту — пакуты», праз якую чалавек вяртаецца да Бога, як блудны сын да Айца. І вось вялікаму грэшніку шчырая споведзь зачыняе пекла дый адчыняе неба. І ўсё гэта мы дастаём праз заслугі нашага Збавіцеля Ісуса Хрыста — праз ягоную крыжовую смерць. Да гэтага далучаюцца заслугі і пакута Найсвяцейшай Дзевы Марыі і Божых Святых. І таксама мусяць да гэтага прылучыцца і нашыя малітвы, ахвяры і добрая пакута.

III. Значэнне пакуты

Пакута мае вялікае значэнне для чалавека, для сям'і, для грамадства і для ўсяго свету. Родзіцца чалавек не толькі для свайго шчасця, але і для славы і карысці іншых: калі ж чалавек праз грахі і злачынствы псуецца, дык шкодзіць і другім; а калі пакутуе і папраўляецца, дык наступае ягонае адраджэнне. І як кожная будова патрабуе догляду і паправак, а кожны камень і цэгла нясе сваю цяжкую службу ў будынку, так і мы, слабыя людзі.

Затое і вялікі пакутнік Ян Хрысціцель клікаў да пакуты: «Пакайцеся, бо набліжаецца Нябеснае Валадарства. Гатуйце дарогу Госпаду» (Мат. 3, 2–3).

І Сам Хрыстос, найбольшы Пакутнік свету, заклікаў: «Споўніўся час… пакутуйце і верце Евангеллю» (Марк 1, 15).

А Хрыстос прыгразіў: «Калі не пакаецеся, усе разам загінеце!»

І святы Пётр Апостал у навуцы да жыдоўскага народа казаў: «Пакайцеся і навярніцеся, каб былі знятыя з вас вашыя грахі» (Апост. Дзеі 3, 19).

Колькі цяпер старых і слабых людзей хацела б адмаладзіцца, аднак ніякія сістэмы, ні лякарствы не памагаюць! А вось у духовым значэнні магчыма — праз пакуту — і адмаладзіцца і ўваскрэснуць да новага жыцця ў Богу!..

Асабліва ў цяперашнім часе, калі бязбожны Антыхрыст трымае ў крывавых руках атамную бомбу над няшчасным светам, каб яго загубіць, цяпер надышоў найпільнейшы час пакуты. Дык труднасці свету ўсцяж нарастаюць: небяспека — атручанне паветра і вады, а таксама голад і недаяданне ў бедных краях, нязгода Усходу і Захаду — усё гэта пагражае згубай усяму людству!

А Хрыстос, гаворачы аб канцы свету, казаў: «І вы будзьце гатовы, бо Сын Чалавечы прыйдзе ў гадзіну, у якую не думаеце».

Бо можа Бог дапусціць, што нягодны Злыдзень спрычыніцца да згубы нягодных людзей, якія не дбаюць ці не хочуць быць «гатовымі», значыць, не думаюць аб шчырай пакуце. А затое тым, якія старанна служаць Богу, а ў памылках і грахох пакутуюць, Бог-Гаспадар скажа: «Добра, слуга добры і верны! Ты ў малым быў верны, а я над вялікім цябе пастаўлю: увайдзі ў радасць Госпада твайго!» (Мат. 25, 23).

На шчасце, для свету ёсць людзі, якія з самай чыстай любові да Бога і бліжняга пакутуюць і за сябе, і за другіх: ахвяруюць усе свае цярпенні, працу, малітвы, ахвяры і ўсю сваю пакуту за грэшны свет, за наварот грэшнікаў і бязбожнікаў і на адплату Богу за ўсё зло, якое дзеецца на свеце. Яны не толькі памагаюць Хрысту несці крыж, але і самі сябе аддаюць на крыж і смерць. О, Бог вельмі патрабуе такіх «дзесяці справядлівых і праз іх яшчэ трымае гэты грэшны свет. І я сам — таксама праз шчырую пакуту — пастараюся да іх ліку прыпісацца!..

*

Як жыў Сталін, дазваляў сябе называць «бацькам усіх народаў» — тытул, які належыць толькі Богу. І называлі яго «абаронцам міру і патронам згоды». А ён вынішчыў дзесяткі мільёнаў нявінных людзей, а колькі мучыў у лагерах і турмах! Дык ягоны «мір» — гэта было ашуканства, бо не можа злы дух — анёл злосці — быць анёлам міру і згоды!

І наш народ, вынішчаны суседзямі і далёкімі ворагамі, асабліва многа выцерпеў ад гэнага «бацькі народаў»: з нашага прыгожага краю зрабілі «Вялікую Пустыню» — аж пакасавалі вобласці і раёны! Сапраўды, наш народ — вялікі Пакутнік. Дык трэба нам пакутаваць з думкай аб Богу і нашых братах. Каб мы не пакутавалі тупа і неразумна. Малімося шчыра, з верай і любоўю, а Хрыстос споўніць, што сказаў Апосталам: «Я не пакіну вас сіротамі: прыйду да вас». Аман.

***1971***

## ЛЮРД[1]

Дзень 11 лютага пасвечаны Маці Божай у Люрдзе. А мне так жыва ўспомніўся факт, калі я трапіў у Люрд у 1936 г. пасля доўгай валакіты з Маньчжурыі і Харбіна цягніком праз Цяньзін, Пекін, Нанкінг у Шанхай. Усё гэта варта апісаць, каб быў час. Аднак важнейшае тое, што прыбыў параплавам праз Сінгапур, Каломба і праз Суэцкі канал дый Міжземнае мора — у горад Марсель у Францыі і стуль у Люрд! Знайшоўся я там 5.II.1936.

Горад Люрд у перадгор’і Пірэнеяў разлажыўся раскошна. Сапраўды, Божая Маці мае густ, бо выбрала проста цудоўнае месца для аб’яўлення ў 1858 г. А там энергічная рака Гаўя з шумам спяшаецца праз даліну Масабіельскую, каб праз горад Біярыц трапіць у мора.

Туды якраз люрдскія дзяўчаткі хадзілі праз рэчку ў даліну і ў горы, каб набраць адпадкаў ці наламаць сухастою-дроў. Яны не мелі часу, ані нават цікавіліся відамі цудоўнае прыроды ў гэтым месцы: ім трэба было спяшацца прынесці дроў, каб мама магла хутчэй зварыць хоць і скупаватую ежу. У адной групе дзяўчатак была і Бернардэта Субіру, з беднае сям’і ў Люрдзе. Простая працавітая дзяўчынка нічым асаблівым не адзначалася, але магчыма дзеля яе чыстасці і шчырай пабожнасці выбрала яе

Багародзіца, каб праславіць Бога. Калі Бернардэта адлучылася ад грамадкі дзяўчат і падышла да грота між масабейскіх гораў, пры самым гроце паказалася ёй прыгожая Дзева ў светлай шаце з нябесным поясам, з якога звісаў ражанец. Хутка між імі завязалася шчырае знаёмства, бо Дзева была прыязная і ласкавая. Дзяўчаткі бачылі здалёку, што Бернардэта з некім гутарыць, але не бачылі там нікога, дык пыталі яе, хто там быў? Бернардэта прызналася дый сама дзівілася, што сяброўкі нікога не бачылі.

Дзяўчаткі ўзбудзілі цікавасць у людзей. А калі Бернардэта збіралася ізноў, каб пабачыць Спадарыню ці Дзеву, дык ужо былі і другія людзі. Ніхто, аднак, апрача Бернардэты, нікога не ўбачыў. Калі на час новых аб'яўленняў пачалі збірацца большай грамадой людзі, тады ўмяшалася паліцыя і мясцовыя ўрадоўцы, якія пад уплывам вальнадумцаў баяліся рэлігійна-царкоўнага ўплыву і звыклага шантажу. Забаранялі Бернардэце хадзіць у грот, бралі яе на допыты і следства. Таксама і бацькі дзяўчынкі баяліся дзіўнага і незразумелага і не верылі ў ніякія з'явы: падазравалі, ці не будзе тут шайтанскае спакусы?

Бернардэта, аднак, не паддалася аніякім перашкодам: цвярдзіла сваё і аднойчы накіравалася да мясцовага святара, пробашча парафіі, кажучы, што гэтая Дзева просіць, каб духавенства збудавала ў гроце капліцу. Але пробашч адказаў: «Няхай тая Дзева дасць якісьці знак, што яна ёсць ад Бога. І няхай скажа сваё імя, бо інакш няведама, з кім мы маем дзела». Усе дагадваліся, што аб'яўляецца Божая Маці, і вельмі чакалі: што Яна адкажа? Нарэшце аднойчы Дзева сказала: «Я ёсць Непавіннае Пачацце». Хаця Дзева сказала ў мясцовым дыялекце, сама Бернардэта не зразумела такога імя, але было ясным, што Марыя аб'явіла сваё пачацце без першароднага грэху, а гэта ёсць догмат Каталіцкае Царквы.

Аставалася яшчэ даць знак, што дзяўчына гаворыць праўду. І вось аднойчы пры з'яве Дзева Марыя загадала Бернардэце: «Ідзі да крыніцы — абмыйся!» Дзяўчынка аглядалася наўкола і нідзе не бачыла той крыніцы, дык надумалася бегчы да рэчкі, але Марыя сказала: «Тут абмыйся!» Дык тады дзяўчынка пачала грэбаць рукамі ў зямлі ля грота і выціснула крыху вільгаці і пачала мазацца. Тады з групы людзей, якія не давяралі, паўсталі ўсмешкі, што… дзіця не пры сваім розуме, што яно проста рэхнулася. Ажно пачалі адыходзіць, махаючы рукамі. Тыя аднак, што аставаліся, заўважылі, што ў тым месцы вада пачала прыбываць і ўжо паплыў ручай. Так стварыўся крынічны паток, які цяпер

дае ваду на 11 адчыненых кранаў і да басейна, дзе ўладжаныя два аддзельныя пункты для пагружэння хворых, бо там часцей здараюцца цуды аздараўлення.

Вада выцякае проста са скалы, са збоча гары. Ніхто яе не кантралюе ад 1858 г., чыстая горная вада, без ніякае прымешкі шкоднае для здароўя. Таксама кожны, хто толькі жадае, бярэ ваду з адчыненых кранаў і выносіць ці высылае бясплатна. А ў басейнах хворыя, апушчаныя ў халодную ваду — пры Божай ласцы, — могуць ацалець ад сваіх надалужнасцяў. Хаця сапраўдныя цуды здараюцца не часта, але жывая вера і гарачая малітва не бываюць страчаныя, прынамсі кожны вяртаецца дамоў аздароўлены духова. На вялікае дзіва, ніхто не адыходзіць разжалены. Не наракаюць, ані сумуюць, як з хворымі бывала дасюль, наадварот, цешацца і набіраюць рэзвасці, згаджаюцца з Божай воляй. А здараецца і так, што цуд павароту да здароўя наступае неспадзявана ў паваротнай дарозе ці нават дома і то раптоўна і поўнасцю.

Калі цуд здароўя здарыцца ў самым Люрдзе, дык пацыент павінен замальдавацца ў бюро, дзе спецыялісты розных хваробаў сцвярджаюць дакананы факт. У хроніках бюро выпадак аздараўлення запісваецца толькі пад умовай, што хвароба не вярнулася пасля года. Але і тут здараюцца недагляды, бо хворыя цуды проста «крадуць», бо пасля аздараўлення хутка знікаюць з вачэй дактароў ці прысутных сведкаў, нават забыўшыся падзякаваць Богу і Святой Дзеве. Ну іх ніхто не ловіць, а справа астаецца пад Божым наглядам…

*

А мне Бог дазволіў наведаць Люрд перад веснавым сезонам пілігрымак, які пачынаецца 11 лютага, а я прыбыў у Люрд 1936 г. 5 лютага. Я адбыў сваю прыватную пілігрымку на працягу чатырох дзён без лішняга спіску і гармідару, які звычайна ўсюды бывае, калі збіраецца маса народу. І цяпер горача ўспамінаю тую мілую нагоду і дзякую Багародзіцы, што мне ласкава дазволіла адведаць тое святое месца, якое сама выбрала, дзе я сапраўды ўцешыўся і ўзмацніўся духова і фізічна. Я тады ехаў з Маньчжурыі ў Еўропу на адпачынак, а ў Люрд дазнаў вялікага аблягчэння і пачуў значную паправу здароўя, што — пры маёй кволай недалужнасці — дало мне больш гарту, у якім трываю ажно дасюль.

Дзякую Табе, Божая Маці, за праўдзівую апеку нада мною, старым і слабым чалавекам, што ў сваіх 86 гадах яшчэ магу інтэнсіўна працаваць. Праўда, што раблю досыць паважных памылак, але ўсё ж нават і свае няўдачы ахвярую на большую Божую хвалу і на славу нашай цудоўнай Маткі Боскай у Люрд, як і ў нашай дарагой Вільні і ў Жыровічах і — дасць Бог — можа, дачакаю, што і ў маіх суседніх (ад Гальшан) Барунах, дзе трэба будзе ўспомніць даўнейшую апеку Барунскай Божай Маткі, даўнейшыя цудоўныя месцы, ніколі ў нашай Ашмяншчыне не забытыя!

Так нам памажы, Божа ласкавы і міласэрны, і Ты, Дзева найпрыгажэйшае надзеі!

*1975*

# ЛІСТЫ

## 1. АЙЦУ ФРАНЦІШКУ БУЧЫСУ[1]

***7 студзеня 1928 г., Друя***

JMJ[2]

Вельмі Дастойны Ойчу,

Я дужа дзякую за выбар і мяне да працы місійнай — ус-ходняй. Але пасля адарвання ксяндза Абрантовіча[3] ад нашага Краю і пасля выступлення кс. Чарняўскага[4], да гэтай працы ў Беларусі астаюся адзін я. Маю ў Богу надзею, што, добра прыгатаваўшыся, не буду ў гэтым дзеле бескарысным. Гэта прыгатаванне разумею так: належала б выслаць мяне на ўсходні Інстытут у Рым. Там, мне здаецца, я мог бы і сам вучыцца і пісаць у роднай мове, падгатаўляючы для другіх і для сябе хоць малую частку самага неабходнага літаратурнага матэрыялу. Ужо і цяпер езуіты і іншыя дамагаюцца элементарных падручнікаў рэлігійнага зместу, ды ў беларускай мове няма блізу анічога. Калі наш беларускі дом возьме ўдзел у працы унійнай, а я думаю, што павінен, дык толькі пасылаючы мяне, як Дастойны Айцец Генерал выбраў,можна было б да гэтай мэты крыху прыблізіцца. Бо ксяндза Цікоту[5] выслаць з Друі няможна, а іншых адпавяднейшых кандыдатаў цяпер няма. Да пісання, паводле суду людзей кампетэнтных, я маю здольнасці. Думаю, што, развіваючыся далей, я мог бы быць карысным для Касцёла. Калі бы Бог пазволіў, па загаду Старшых[6], прыгатаваўшыся належна, я жадаў бы стаць і да чыннай місійнай працы. У Друі без мяне далі бы раду, трэба было б толькі растаропна зрабіць падзел працы.

Гэтым шчыра і ясна выказваю сваю думку і ўва ўсім паддаюся волі Старшых.

Прашу аб далейшыя прыказы.

Servus in Christo[7]

*Я. Германовіч.*

## 2. АЙЦУ ФАБІЯНУ АБРАНТОВІЧУ

*2–3 жнійня 1928 г., Друя*

Даражэнькі Ойча Прэлаце,

Сёння Анельская[1]: людзей на фэсце многа. Але лепш сказаць — не людзей, але бабаў. Былі два ксяндзы з Слабодкі і адзін [з] Леанполя[2].

Шлюбы братоў: кс. Я. Дашута[3] — аднавіў
Кс. В Хамёнак[4] — [аднавіў]
Казімер Найловіч[5] — [аднавіў]
Юрка Кашыра[6] — [аднавіў]
Ёзэф Гайдзель[7] — [аднавіў]
Ян Вайноўскі[8] — [аднавіў]
Болеслаў Клепацкі[9] — [аднавіў]
Казімер Урбановіч[10] — [аднавіў]
і Станіслаў Баговіч[11] прысп[ешаны] на адзін дзень.

Пішу далей 3.VIII.

Антон Эрдман не дапушчаны, бо стаў праяўляць вялікі дэфект у галаве, і Бог ведае, ці не прыйдзецца яго везці ў шпіталь.

Кс. Андрэй вярнуўся з падарожы[12] толькі аж на Анельскую рана, а шлюбы прымаў вечарам а гадз. 8.30. Яшчэ не паспелі мы Ім нацешыцца, аж вось ізноў выязджае ў Навагрудак на нейкія рэкалекцыі да кс. Вэнцкевіча.

Абмінула нас і апошняя бура, што з 28 па 29/VII гуляла на Віленшчыне, з перунамі і іншымі пажарамі. Ураджаі [summa summarum] сярэднія; у Забароўшчыне[13] гарох першага класу, жыта — другога, пшаніца — трэцяга, ячмень — пятага.

Здаровіцца нам усім так сабе: мне так, як і другім; Віталіс[14] — добра, але стогне; Дашута — «не ведае»; Смулька[15] вечна сядзіць у Забароўшчыне, балазе праз Друйку правялі мост. Суперыёр не мае часу падумаць. С[ястра] Ванда[16] дастала запаленння нерву ў руцэ і сядзіць у кляшторку.

Пагода пераменная: цёпла, зімна, дождж, бура, вецер, суха etc. Дзвіна апала: пяскі з вострава чуць не злучыліся з беражнымі. Жыта яшчэ не жнецца; у панядзелак пойдзем касіць на востраве ячмень, што астаўся ад вераб'ёў.

А што там аба мне, ксёндз Прэлат, у пісьме ўспамінаеш? Тут кс. Зянкевіч[17] стараецца для Друі Васточныя парафіі ў Мікалаеве каля Дзісны. Але, мусіць, так дадуць, як і Беразвеч[18]!

Бывайце здаровенькі. Маліцеся наўзаем і за нас.

Мы ўсе вашы.

*Кс. Я. Г.*

## 3. КС. АДАМУ СТАНКЕВІЧУ[1]

***5 сакавіка 1935 г., Харбін***

Дарагі Адамка!

Сапраўды Ты добры чалавек (хоць цяпер то не вельмі!), бо пішаш досыць часта і дужа цікава, але заўсёды скупа. Найгорш, аднак, тое, што і я не паспешны адпісваць; а яшчэ горш, што паправіцца не магу. Аб сабе напішу цяпер больш, чым заўсёды. Здароўе, ведаеш, такое, што гатоў быў бы памерці… але і паміраць не хочацца, і жыць цяжка. Нейкі нэврытус залез у нагу, дакучае, аж за сэрца бярэць! Наагул праца вельмі нервовая, хоць і здзержываю сябе. Як той кажа: «Гадка есці і жаль пакінуць!» Каб ведаў, што ўжо воля Божая пакінуць гэта мейсца і працу і вярнуцца дахаты, дык прасіў бы сваю Уладу аб гэта; аднак вось не ведаю! Дык афіцыяльна прасіць не буду. Праца не па мне: бо і нервовая бясконца, а я з натуры імкнуўся заўсёды да супакою, і перавышае маю падгатоўку, бо я ж тут дырэктар! Не думай, што маляваны, але акуратны! Прытым выхаваўства ўсіх хлапцоў у інтэрнаце — 108 — пад маім галоўным загадам. Вось гэта найгорш і выцягвае нервы!

Прыезд на Далёкі Усход даў мне даволі многа: дагэтуль я блізу саўсім не знаў свету. А пераход у Усходні абрад даў пазнаць ягонае багацце і прыгожасць. Але далей ужо карысці вялікай нямашака з Дал. Усх. і з абраду — кажу — карысці для майго таленту, бо ўсё ж такі пацяг да працы яшчэ не замёр. Працаваць далей пяром у гэтых варунках, пры такім натоўпе нервовых абавязкаў, я бадай што не змагу саўсім. Дзеля таго я не адпісаў Гляку[2] на ягоны прызыў пісаць у часопісі для дзяцей; проста не ведаў, што адпісаць! Адказацца было стыдна, абяцаць не мог. У якойсьці другой новай часопісі (навуковай) тож супрацоўнічаць не змагу… нават забыўся, як Вы яе ахрысцілі! Значы, калі Вы думаеце, што я быў бы карысны дзеля працы ў Бацькаўшчыне, дык выцягвайце мяне адгэтуль. Мне самому не падыходзіць адсюль вырывацца. Як манах, я з поўнай рэзыгнацыяй іду, ці астаюся, — спрачацца не магу; зрэшты, я сам дабравольна сюды паехаў, дык буду чакаць, пакуль нервы выганяць адгэтуль.

Туга па Бацькаўшчыне прытупілася, бо і наагул прытупіўся дух ад гэтых абавязкаў. Прыходзяць парывы да вершавання; хочацца часамі пісаць прозай, паслаць якую-колечы карэспандэнцыю ў газету, але дзе ж там! Каб не выезд залеташні ў Цынг-Тао,

дык мой «Хлапец» не радзіўся б на Божы свет. Я магу пісаць толькі ў поўным скупленні духу, што магчыма пры поўным вонкавым супакоі. Тагды магу працаваць па некалькі гадзін без адпачынку, а фантазія проста не вычэрпваецца!

Вельмі хацелася б скончыць пачатыя паэмы; прысланую з Вільні значна падагнаў («Казюк»[3]); увайшоў у другую часць і … затармазіўся! Чаму? Прычына ўжо апісана. Можа, як-колечы давяду да канца?

Як там друкуецца «Хлапец»? Нешта «Крыніца» да нас не даходзіць, дык і не ведаю, у якім палажэнні «Хлапец» знаходзіцца. Ці скора скончыце яго друкаваць? Колькі будзе страніц? Як выпадае крытыка? І г. д. Апішы ўсё дакументна; напішы аб сваіх і грамадскіх падзеях.

Я думаў бы нават зарызыкаваць і друкаваць тут некаторыя брашуры; што сказала бы ваша цэнзура? Ці прапусцілі бы вашы праз граніцу? Тут значна танней абышоўся б друк і папера: ведама, кітайская работа каштуе вельмі нядорага. Нават Рым маніцца перанесці некаторыя выдавецтвы сюды. Беларускія літары друкарня магла бы дарабіць. Праўда, у нас сваёй друкарні няма, але ёсць на выбар многа друкарняў кітайскіх, а кожны кітаец надрукуе табе, у якой мове хочаш і што захочаш. Бачыш, які новы праект! Толькі баюся, што ўладыка Фаб[іян][4] грошай на гэта не дасць, а нават пабаіцца тутэйшай апініі. Можна было бы рабіць без разгалосу. Напішы Яму аб гэтым праекце, нібыта ад сябе; цікава, што Ён скажа?

Шкада для Беларусі страціць такіх, як нашы рымскія Падзява[5] і Найловіч!

Будзь здароў!

*Твой іераманах а. Язэп*



# ДАДАТАК

## АБ ЖЫЦЦІ І ТВОРСТВЕ В. А. (ВІНЦУКА АДВАЖНАГА)

Іграю, ігранці я мушу.
Тут ноты жыццём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны:
Як струны жывыя парушу…

Вось бачу — прыходзяць грамады
Сярмяжна-працоўнага люду
(Хвіліны я тэй не забуду!)
І песні маёй яны рады.

*В. А.*

### І. Аб жыцці В. А.

Сярод беларускіх сучасных у Зах. Беларусі пісьменнікаў і паэтаў В. А. займае адно з найбольш пачэсных месцаў. З-пад пяра В. А. выйшаў дагэтуль значны лік твораў, якія сапраўды маюць літаратурную, а такжа і грамадска-народную вартасць.

В. А. — гэта ў беларусаў, здаецца, адзіны літаратар, які сёння яшчэ не то што не хоча, а не можа назвацца ўласным імем і мусіць крыцца пад азначанай у загалоўку мянушкай. У гэткіх жывём мы грамадска-палітычных варунках!..

Дзеля гэтага скажам тут аб В. А. толькі тое найменшае, што сказаць аб ім можам, каб хоць крыху пазнаёміць яго з грамадзянствам і народам.

В. А. — гэта каталіцкі духоўнік. Радзіўся ў 1890 г. у адным з мястэчкаў Ашмянскага пав. Паходзіць з беднай пралетарскай сям'і, глыбока рэлігійнай і шчыра адданай Каталіцкаму Касцёлу. В. А. гадаваўся ў горы і недастатку. На самай зары дзяцінства памёр яго бацька. Увесь цяжар узгадавання і ўтрымання лёг на матку і старэйшую сястру, якія, зарабляўшы з працы рук сваіх, атулілі старанна апекай будучага духоўніка і паэта і далі яму ў меру сіл сваіх адпаведнае ўзгадаванне і навуку.

Матчыны і сестрыны мазалі не гінулі марна — В. А. вучыўся і спраўляўся добра. Першае школьнае знаёмства з навукай было ў народнай расейскай школе, пасля ў школе меставай у Ашмяне.

Скончыўшы гэтую школу ў 1909 г., В. А. аб далейшым кірунку свайго жыцця і навукі доўга не думаў. Для яго быў адзін шлях і адзін ідэал — духоўная семінарыя і стан каталіцкага духоўніка, якім ён і стаўся ў 1913 г.

Ад прыроды рэлігійны і склонны да глыбейшай набожнасці, гадаваны ў атмасферы матчыных і сестрыных малітваў, часта прабываючы ў таемнай цішы касцельнай, затапляючы маладое вока сваё ў містычнай красе набажэнстваў і вяселячы вуха сваё ў магутных тонах аргана, В. А. няўстрымана імкнуўся да стану духоўнага.

Але апрача гэтых асаблівасцяў асабістых, якія вялі В. А. да гэтага стану, вялі яго такжа туды і тагачасныя варункі сацыяльна-палітычныя. Кругом жыва адчуваўся імперыялістычны наступ расейскай царскай палітыкі. Адчуваўся ён у жыцці беларускага народа рэлігійным, палітычным, эканамічным. Маладой душы В. А. тагачаснае жыццё прадстаўлялася нейкім вялікім морам несправядлівасці, сярод якога віднеўся збаўленны астравок — Касцёл Каталіцкі, які ўсцяж будзіў у беларускім народзе веру і надзею на лепшае заўтра.

Але гэнае лепшае заўтра не канечна мела быць беларускім. Царская недалёкая палітыка спляла каталіцтва ў нашым краі ў адно суцэльнае з польшчынай, а палякі для сваёй самалюбнай палітыкі вузел гэны заціснулі яшчэ крапчэй. Малады В. А. хутка спасцярог гэта, а спасцярогшы, тым больш імкнуўся стацца каталіцкім духоўнікам, каб, адкінуўшы з каталіцтва палітычныя плевы, пасвяціцца цалком чыста духовай працы сярод беларускага народа.

Беларуская народная свядомасць прыйшла да В. А. хутка. Далі яе «Дудка» і «Смык» Багушэвіча, якіх яму дастарчылі ягоныя аднапаветнікі, беларускія адраджэнцы кс. А. Лісоўскі і паэт кс. А. Астрамовіч (Андрэй Зязюля). Гэтыя ж адраджэнцы ў кірунку свядомасці беларускай В. А. працавалі нямала і жывым сваім словам. Прыродная кемкасць В. А., уніклівасць, быстрасць думкі, любасць да навукі і кніжкі даканалі рэшты ў кірунку яго народнага ўсведамлення.

Ужо будучы ксяндзом і працуючы сярод беларускага насельніцтва ў розных кутках нашага краю, В. А. пастырскую сваю працу праводзіў пераважна па-беларуску. Гаварыў па-беларуску казанні, вучыў сваіх парафіян беларускіх рэлігійных песняў, усюды, дзе толькі мог, пры выкананні сваіх пастырскіх абавязкаў, гаварыў з народам па-беларуску. Вольны ж час ад пастырскіх сваіх абавязкаў В. А. выключна пасвячаў беларускай народнай справе: закладаў беларускія школы, пашыраў сярод сялянства беларускія кніжкі і газеты, усведамляў народ на розных зборках, а такжа пакрысе займаўся беларускім пісьменствам.

Талент пісьменніка і паэта В. А. чуў у сабе змоладу, але праз сваю скромнасць доўга не выяўляў яго. Бліжэйшай аказіяй нясмелага выступлення яго на беларускую літаратурную ніву было наступнае здарэнне. У гадах 1919–1920 В. А. пішучага гэты нарыс, тады рэдактара «Крыніцы», пачаў закідаць лістамі, поўнымі крытычных уваг аб заганах «Крыніцы» і аб тым, як яна павінна рэдагавацца. Увагі гэныя сапраўды былі слушныя, але не пад сілу рэдактару з так нямногімі тады супрацоўнікамі. Вось жа В. А. ад рэдактара «Крыніцы» ў адказ на яго алярмы пачаў атрымліваць лісты, у якіх звычайна гаварылася, што крытыка — добрая рэч, але было б яшчэ лепш, каб В. А. пафатыгаваўся ды сам пачаў пісаць. В. А. урэшце паслухаў рады і ўзяўся за пяро. Пісаў спярша артыкулы, а часам і вершы ў «Крыніцу», а пазней пачаў пісаць і рэчы большыя.

Усе творы В. А. разгледзім у парадку храналагічным іх паявы на свет друкам асобнымі кніжкамі.

## II. Аб творстве В. А.

**1. «Як Казюк сабраўся да споведзі» (1928)**

Ёсць гэта апавяданне аб тым, аб чым чытаем у загалоўку. Падзелена яно на трынаццаць невялічкіх раздзелаў, у якіх знаёмімся з цэлай гісторыяй Казюковай споведзі, а такжа і аб самай споведзі: аб яе сутнасці і значэнні. Усё апавяданне ўложана ў гутарку між Казюком і студэнтам.

Студэнт — гэта малады акадэмік, хлапец глыбока маральны і практыкуючы каталік. Грунтоўная навуковая праца веры ў ім не толькі не аслабіла, але яе ўзмацавала і ўцвярдзіла.

Казюк — вясковы хлапец, які пад уплывам мясцовага аптэкара апусціўся ў сваіх рэлігійных і маральных абавязках, а пад уплывам гэнага студэнта паволі да гэтых абавязкаў зноў вярнуўся.

Напісана кніжыца жыва, ясна, дасціпна, жывой і чыстай мовай, з яўным літэрацкім талентам, з даволі ўдатнымі малюнкамі псіхалагічнымі.

Уся тэндэнцыя кніжыцы навучальная — павучыць беларуса, як ён мае жыць на свеце паводле Хрыстовай навукі, каб быць здаровым на душы і на целе.

Мэты сваёй аўтар дапяў сапраўды: кніжыца яго ў народзе абудзіла зацікаўленне і шчырую прыхільнасць, чытае яе наш народ з ахвотай і з карысцю.

**2. «Казюковае жанімства» (1929)**

У наступным годзе В. А. напісаў новую кніжыцу, большую ад першай, такжа аб Казюку, але ўжо аб ягоным жанімстве. Апавяданне гэтае змяшчае ў сабе васемнаццаць раздзелаў і на асобе вясковага хлапца Казюка імкнецца належна павучыць чытача аб сутнасці каталіцкага

жанімства і аб яго значэнні. Спатыкаем і тут студэнта, як вернага друга, шчырага і светлага litaradчыка Казюковага. Казюк меў жаніцца. Меў на воку дзве дзяўчыны: бедную, нявучаную, але добрую і стройную вясковую Стэфку, каталічку і падгляджаную, скончыўшую шэсць класаў гімназіі, местачковую, багатую, але легкадумную і абмаскаленую праваслаўную Веру. Якую выбраць — радзіцца ў студэнта. Рада, ведама, выпадае карысна для Стэфкі, як дзяўчыны высокай цаны маральнай і такжа як аднаверкі з Казюком, бо разнавернасць жэнячыхся адбіваецца пасля на жыцці іх ад'ёмна. Казюк студэнтавай рады паслухаў і ажаніўся з Стэфкай і быў шчаслівы.

Але на канве гэтай галоўнай думкі ў апавяданні нямала спатыкаем — куды больш як у першым — праўдзівых красак літаратурных. Спатыкаем там і цалком удатнае апісанне беларускай прыроды, беларускага жыцця і псіхалагічныя малюнкі беларускіх тыпаў. Ёсць у кніжыцы некаторыя раздзелы, якія з літаратурнага боку сапраўды выглядаюць на самастойныя, прыгожыя навелкі.

**3. «Як Ганула збіралася ў Аргенціну» (1930)**

Гэта першая проба пісьменства В. А. вершаванага. У гэтай кніжыцы бойкім харэем апісана смяхотлівая гісторыя, аб якой гаворыць загаловак. Смяхотнасць уся ў тым, што на перашкодзе выезду Ганулі ў Аргенціну стаў няправільны запіс метрыкі яе сына Паўлюка, які запісаны Паўлінай. Арганіст, да якога Ганула звярнулася па метрыку, пашукаўшы заявіў:

Усё запісана сумленна,
Толькі імя ёсць адменна,
Бо у кнізе замест сына
Пішацца дачка — Паўліна…

Далей у вершы апісваецца ў смяхотлівай форме ўся тая валакіта і здзекі, якіх дазнала цёмная жанчына, шукаючы ў ксяндза і ў гміне метрыкі, пераадзяючы Паўлюка за Паўліну і трапляючы ў рукі дарадчыкаў-ашуканцаў і, ведама, тэй метрыкі не знаходзячы.

На гэтым і канчаецца апавяданне аб Ганулі. Але гэта толькі першая частка. Ёсць частка і другая — у рукапісе.

Верш гэтага твора роўны, стройны, правільны. На бачынах галоўнага апавядання В. А. сапраўды па-мастацку і праўдзіва малюе тыпаў, ад якіх няўважлівасці і чужацкасці душы так многа церпіць Ганула.

Уся смяхотнасць паэта можа быць названа смехам праз слёзы.

**4. «Адам і Анэлька» (1931)**

Ёсць гэта даволі значнае апавяданне, зложанае з чатырнаццаці раздзелаў, аб тым, як палюбіліся і, паканаўшы вялікія перашкоды, пабраліся амерыканец Адам з сіратой Анэлькай.

Як гэтыя галоўныя асобы, так і ўсе іншыя пабочныя, можна сказаць — жыўцом узяты з добра вядомага аўтару мястэчка Гальшан. Хто знае гэтае мястэчка, яго жыхароў, іх звычаі і прывычкі, той, прачытаўшы гэтае апавяданне, сапраўды сцвердзіць, што ёсць яно верным яго абразом. Людзі і іх жыццё, апісаныя ў апавяданні, цікавы такжа і тым, што яны паходзяць з беларускага каталіцкага асяродку, бадай цалком нязнанага і незакранутага пяром беларускага пісьменніка.

Адам і Анэлька — гэта тыпы сімпатычныя, дадатнія. Яны вялікім запасам сілы этычнай перамагаюць жыццёвыя труднасці, не ўходзячы з імі ў ніякія кампрамісы, а такжа ніколі не братаючыся са злом. Дужа такжа сімпатычны тып — Анэльчына цётка Агата: разумная і добрая вясковая жанчына, якая дабратой сваёй так многа спрыяе і памагае Анэльцы.

Да тыпаў ад'ёмных належаць: бацька амерыканца Міхал Якубель, які на ўсім хоча рабіць інтэрас, нават на жаніцьбе свайго сына, і Анэльчын дзядзька, ведамы махляр, несумленны гандляр коньмі, у якога жыве сірата Анэлька і якая дазнае ад яго нямала крыўды.

Асобнае месца, як тып, займае ксёндз, мясцовы пробашч, які арыгінальна змагаецца з усякімі благімі паступкамі сваіх парафіян, запісваючы іх у «чорную кніжку» і чытаючы іх па прозвішчы публічна прад народам у касцёле. У гэную кніжку пападаюць часта такжа цалком людзі нявінныя, як гэта было і з Анэлькай, якія з гэтай прычыны церпяць нямала.

Некаторым сваім героям аўтар апавядання надае асаблівыя рысы — яны ў яго з'яўляюцца ўжо свядомымі беларусамі. Да гэткіх належаць малады ксёндз вікарый, арганіст, Адам і Анэлька. Усе яны жывуць у згодзе, адны адных бароняць, а такжа пашыраюць беларускую ідэю і за яе змагаюцца.

Усё апавяданне напісана лёгкім, простым і ясным стылем, а такжа чысцюсенькай беларускай мовай. Мае яно значную літаратурную вартасць.

**5. «Канёк-Гарбунёк» (1932)**

Гэтак завецца шырока вядомая, даволі вялікая расейская байка Яршова, якую беларускай літаратуры прысвоіў В. А. Беларускі «Канёк-Гарбунёк» — гэта не ёсць сціслы пераклад, а вольнае апрацаванне паводле арыгінала.

Змест байкі ведамы. Датычыць ён фантастычнай гісторыі Янкі, уважанага ў сям'і за дурнога, і яго вернага прыяцеля канька-гарбунька. Развязка байкі ў тым, што Янка, даканаўшы пры помачы свайго канька вялікіх чыноў, жэніцца з самой царэўнай.

Напісана байка ўлюбёным харэем, лёгкім, дужа гарманійным вершам і, як заўсёды ў В. А. — чыстай, багатай беларускай мовай. «Канёк-Гарбунёк» гаворыць ужо недвухзначна аб цалком пэўным таленце паэтыцкім аўтара.

Кніжыца гэта мае вялікае значэнне практычнае, перадусім для беларускіх дзетак, якія чытаюць яе нарасхват.

**6. «Унія на Палессі» (1932)**

У тым жа годзе, што і «Канёк», выйшаў такжа ў свет яшчэ адзін твор В. А. пад вышэйазначаным загалоўкам, зложаны з сямі даўгаватых вершаў, датарнаваных да ўніяцкай працы ў Альпені і пасвячаных апосталу яе, уніяцкаму свяшчэнніку, беларусу а. У. Аношку, з нагоды пяцілецця Альпенскага прыходу.

У змесце ўніяцкім рэлігійным гэтых вершаў знаходзім такжа і ноткі беларускія патрыятычныя, што асабліва відацца ў вершы «Вялікая Ектэнія»:

…Накармі Родны Край, прыадзень, ласку дай,
Дай памыснасць у полі, у хаце!
У бядзе памажы, ад граху сцеражы,
Дай духовае шчасце, багацце…

Тэхніка і агулам форма вершаў «Унія на Палессі» ўжо багацейшая, як у вершах папярэдніх. Тут ужо з улюбёным аўтарам харэем спатыкаем анапест, а такжа нямала вобразнасці, маляўнічасці, параўнанняў. Апрача гэтага, увесь твор адзначаецца жывым натхненнем і пад'ёмам духу.

**7. «Батлейка» (1932)**

Даў такжа В. А. і пробку творства драматычнага. Такой ёсць «Батлейка», пяцісцэнічны абразок у адным акце. Галоўныя асобы: Давід, стары пастух і тры падпаскі, што ў ноч нараджэння Хрыста сцерагуць сваё стада, а такжа анёл, азнаямляючы ім «добрую навіну».

Бадай уся галоўная думка «Батлейкі» ўложана ў байку, якую Давід расказвае пастушкам аб страшным цмоку і Божым Чалавеку, гэнага цмока пераможцы. Думка гэта глыбокая, а такжа проста і прыгожа выказаная.

Увесь змест агулам празрысты, ігра дзеючых асоб лёгкая, натуральная.

Трэба лічыць, што проба драматычнага творства В. А. агулам удалася, а беларуская літаратура, па шаснаццаці гадах — першая «Батлейка» была выдана ў 1915 г., — узбагацілася новай «Батлейкай».

**8. «Беларускія цымбалы» (1933)**

Смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробіць, а там была дудка — вот мы і зробім музыку…

*З прадмовы Ф. Багушэвіча да «Беларускага смыка»*

Патрыярх беларускага сучаснага адраджэння Ф. Багушэвіч любіў, як ведаем, называць зборнікі сваіх вершаў музычнымі інструментамі.

Шырокавядомыя і яго «Дудка», і яго «Смык». Была такжа ў яго напісана і «Скрыпка», толькі яна дагэтуль не ўбачыла свету і знаходзіцца ў рукапісе. Аднак без «Скрыпкі» беларуская літаратура не абышлася. Яе напісала Цётка.

Лёгка дадумацца, што гэныя музычныя назвы Ф. Багушэвіча беларускіх твораў і сваіх і якія па ім выйдуць — «а хтось скрыпку, можа, даробіць» — гэта назовы пераносныя, сімвалічныя. Азначаюць яны прарочае пракананне Ф. Багушэвіча, што прыйдзе час, калі пасля яго пачатку на беларускім Парнасе паявяцца многія і разнародныя паэты, песняры беларускага народа, што будуць граць хоць кожны сваім складам — як музычныя інструменты ў аркестры, — але іграць будуць у згодзе з сабой, іграць будуць гарманійны гімн, пабудку і славу беларускаму народу.

Вось сапраўды прыйшоў час, калі ў рады гэтых беларускіх — «пяўцоў-музыкаў» — паэтаў далучыўся такжа і В. А. з «Беларускімі цымбаламі».

Добра В. А. зрабіў, што зборнік сваіх вершаў назваў такжа беларускім, ужо выміраючым, інструментам — цымбаламі.

Думаем, што зрабіў ён гэта цалком свядома. Унікнуўшы ў змест «Цымбалаў», можна лёгка спасцерагчы, што дух Ф. Багушэвіча, затоены ў «Дудку» і «Смык», у пэўнай меры адбіўся ў «Цымбалах» В. А. Выглядае нават так, што аўтар «Цымбалаў» часам стараўся наследаваць свайму слаўнаму папярэдніку. «Цымбалы», апрача загалоўка, прыпамінаюць Багушэвіча назовам двух вершаў («Панскае ігрышча» і «Адказ Юрцы»), а такжа ідэйным сваім зместам. В. А., як і Багушэвіч, — гэта перадусім пясняр-народнік-грамадзянін. Лірызм уласных духовых перажыванняў, а такжа апісанні беларускай прыроды, як і ў Багушэвіча, цалком заглушае ў паэзіі В. А. тон народна-грамадскі.

Прыпамінае В. А. Багушэвіча такжа і спосабам пісання — як той, так і гэты пераважна карыстаецца сатырай, высмейваючы тое, ад чаго жадае адвесці народ свой.

Але гэтае падабенства паэзіі В. А. да Багушэвічавай ні ў чым не змяншае яго самастойнасці ды, наадварот, — сведчыць аб арыгінальнасці яго таленту, які чутыя матывы пяе нанова, развівае іх і паглыбляе, а такжа творыць з іх цалком новыя вартасці.

У «Бел. цымбалах» апрача матываў агульнабеларускіх народных і грамадскіх спатыкаем такжа жывы патрыятызм і глыбока рэлігійны настрой. Рэлігійны элемент у «Цымбалах» займае выбітнае і цікавае месца — ён для песняра з’яўляецца — хоць на выгляд займае скромнае месца — першым і апошнім пунктам апоры, нягаснучым святлом, у бляску якога ён піша і снуе свае разважанні аб жыцці беларускім. Гэта на вершах В. А. кладзе асаблівы адпячатак суцэльнасці, супакою, жыццёвай мудрасці — без таго мучэння, якім адзначаюцца вершы К. Сваяка. Спакоем і раўнавагай духовай В. А. прыпамінае часткова А. Зязюлю, ад якога, аднак, ён куды глыбейшы.

У «Цымбалах» В. А. аказаўся як цалком арыгінальны беларускі паэт «з Божай ласкі», які піша пад прымусам унутранай духовай патрэбы, здольнасці і веры ў добры вынік свайго жадання. Аб гэтым выразна чытаем у першым высока ідэёвым вершы «Цымбалы»:

…Іграю, іграці я мушу,
Тут ноты жыццём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны:
Я струны жывыя парушу.

Сваё прызванне паэта В. А. разважае высока і паважна. Яго на гэту працу:

…Казаць праўду
Да цвёрдых сэрцаў свайго люду —

кліча Бог, якога анёл агнём чысціць песняру вусны і пасылае яго ў народ:

…Ідзі, — мне кажа, — пасылаю;
Я тваю слабасць добра знаю,
Ты маёй сілай будзеш сільны,
Ты маёй праўдай непамыльны.

*(«Прарок»)*

Заслужвае такжа на ўвагу верш «На 25 сакавіка», поўны любові Бацькаўшчыны і веры ў яе лепшую будучыню, а такжа верш «Сірата», у якім пясняр чыстасардэчна апісвае прычыны, чаму ён пасвяціў сябе на службу Богу, сцвярджае яшчэ раз, што Бог даў яму паэтыцкі талент — «голас на дзіва» — і ў натхнёнай візіі малюе народ беларускі адроджаны, дружны, шчаслівы.

А вось слаўныя «Панскае ігрышча на новы лад» і «Адказ Юрцы» — дань Багушэвічу — горкія сатыры на паноў і ўрадоўцаў, якія на пустой гульні, на картах, п’янстве і абжорстве марнуюць час і грошы.

Урэшце — памінаючы вершы драбнейшыя — трэба адцеміць некалькі дужа ўдатных баек, а за імі ўрэшце проста цудоўныя сатыры: «Спрэчка пад касцёлам» — сатыра на падпанкаў, якія змагаюцца па нашых сёлах з беларушчынай у касцёле і школе, «Перапіс у Луконіцы» — сатыра на ўрадоўцаў, якія ўсякімі спосабамі запісваюць беларусаў палякамі, і ўрэшце «Пан прафесар» — сатыра на чужацкае сярод беларусаў вучыцельства, якое займаецца ўсім чым, толькі не тым, чым трэба, і прад народам нашым асмяшаецца дарэшты і народ да якога не мае ніякага даверу.

Агулам — скажам на заканчэнне — В. А. у сваім паэтыцкім творстве стаіць на грунце несмяротных ідэалаў Хрыстовай рэлігіі і этыкі, як бы

паказваючы гэтым найвышэйшую мэту мастацтва і паэтыцкай тэхнікі: з гэтых ідэалаў чэрпае паэтыцкае натхненне, да іх кліча народ свой і ў іх бачыць непарушную веру ў поўнае здзяйсненне беларускіх народных ідэалаў, бо справа народная ў В. А. — гэта частка справы Божай.

У некаторай меры тасуюцца да В. А. словы вялікага У. Салаўёва, які казаў аб сабе:

…Я хочу средь царства заблуждений
Войти с лучом в горнило вечных снов,
Чтоб отблеском бессмертных озарений
Вновь увенчать умолкнувших певцов…

*А. Станкевіч.*
*6.01.1933, Вільня*

## ЗАЦЕМКІ АБ ПОВЕСЦІ ВІНЦУКА АДВАЖНАГА «ХЛАПЕЦ»

Ужо бадай паўгода, як выйшла ў свет пад гэткімназовам беларуская повесць. Пасля выхаду гэтай кніжкі давялося мне чытаць і чуць вострую яе крытыку. Вось жа з некаторым упярэджаннем узяўся я за чытанне «Хлапца», а думкі, што ў мяне пры гэтым паявіліся, выражаю на паперы.

Назоў повесці ёсць звычайна больш-менш тым, чым ёсць рэклама для якога тавару. Чуў я, што адна нямецкая Handelsakademie мае ўжо адмысловую кафедру рэкламы. Хоць патрэба адпаведнага назову повесці ёсць меншай у параўнанні з патрэбай такога ж назову газетнага артыкула і хоць не раз добрыя повесці, нават выбітных аўтараў, маюць назовы малой вартасці, — аднак можна і трэба ад маладой яшчэ беларускай повесці вымагаць, каб яна легкадушна да гэтай справы не адносілася, бо вымоўны фронтавы назоў заўсёды прыдасца. Вось жа назоў гэтай повесці «Хлапец» уважаю за не найгоршы, бо галоўнай у ёй асобай усё ж такі з’яўляецца без сумліву хлапец Вінцук Паўловіч, а не Гануля ці ксяндзы, і таму гэтыя назовы не былі б тут на месцы. Апрача гэтага, нарацыя пачынаецца і канчаецца выразна на Вінцуку, а ўсе іншыя асобы настолькі маюць у гэтай повесці апраўданне свайго быту, наколькі адыгрываюць там меншую ці большую ролю ў Вінцуковым жыцці.

Ці «Хлапец» — гэта сапраўды повесць? Так. Мае яна ў сабе ўсе асноўныя складовыя элементы, якія, як гэта нават відаць з кожнага падручніка літаратуры, даюць падставу назваць яе повесцю. Аднак, з прычыны навасці гэткага роду літаратуры сярод беларусаў у Польшчы,

дзе, па-за спробамі М. Гарэцкага і С. Грынкевіча, нічога такога не спатыкаем, мог бы, ясная рэч, аўтар назваць сваю дэбютавую працу неяк скрамней, напр.: нарысы, абразкі ці як інакш. Магчыма, што крытыка тады ставіла б Адважнаму менш вострыя вымаганні, хоць сама рэч усё роўна асталася б тым, чым яна сапраўды ёсць, гэта значыць — повесцю. Сёння ўжо спрачацца аб родзе гэтага твора няма патрэбы. Як відаць з самага псеўданіма, аўтару свяціла ў працы рымскае: «Sapere aude!»*

Адносіны маці ўдавы да свайго адзінага сына, а аўтара да галоўнай дзеючай асобы, ёсць выбітна чуццявыя, аднак не значыць гэта яшчэ, што хлапца можна адразу ўважаць за wunderkind. Дый не мае права гэтак рабіць ані чытач, ані тым больш крытык, бо кожны з іх можа праканацца, што хлапец больш старанны, як здольны, і што заўсёды астаецца дзіцём, міма крыху ранейшага, як у равеснікаў, развою, што зноў не належыць да так рэдкіх з’явішчаў, калі справа ідзе аб адзінага сына, які, зразумелая рэч, больш прабывае з маткай ці бацькам, як з таварышамі гульняў.

«Фабула зусім нецікавая», — кажа адзін крытык. Вось жа знаў я і знаю людзей, якія не маглі дачытаць да канца «Боскай камедыі» Дантэ або адзначаных нагародай Нобля «Хлопаў» Рэйманта. Гэтак адноснымі ёсць паняцці: цікавае і нецікавае. Калі ж ідзе аб повесць, дык сапраўды, ці не больш у ёй значыць *як* (id quo), чымся *што* (id quod). Праціўны для вока і смуродлівы сметнік можа, аднак, быць адмаляваны на палатне памазком геніяльнага маляра сапраўды па-мастацку — і малюнак гэны будзе творам мастацкім. З повесцю бывае так, як з прамовай, у якой аб уражанні рашае — паводле нямецкага рэцэпта: Vortrag, Vortrag і яшчэ раз — Vortrag, што значыць — спосаб, як яна была сказана. Ведама, вялікі пісьменніцкі талент патрапіў бы фабулу «Хлапца» змаляваць без параўнання больш па-мастацку, выкарыстаўшы ўсе, якія ў ёй знаходзяцца — Адважным жа прапушчаныя — магчымасці, збудаваў бы повесць лепш архітэктанічна, стварыў бы пластычнейшую галерэю тыпаў, даў бы повесці больш жывую і цікавую акцыю, цікавейшыя дыялогі, далікатнейшыя паглыбленні псіхалагічныя, больш колерныя апісанні прыроды і стараннейшую мову. Наш жа Адважны толькі яшчэ дэбютуе ў повесці, стаўляе першыя крокі, не маючы бадай ніякіх родных папярэднікаў і ўзораў. І расейская літаратура мела раней Ламаносавых, а толькі пасля Пушкіна. Няхай бы хто з крытыкаў повесці «Хлапца» папрабаваў выступіць з уласнай, дык і яго праца была б толькі пэўным этапам на дарозе натугаў, спробаў і нічым больш. Ніякаму народу лёгка не прыходзяць яго шэдэўры. Патрэба доўгай, нарастаючай працы і да таго многіх калейна людзей.

* Май адвагу быць мудрым!

А ці ж вінавaціць нам Адважнага за тое, што ён у сваю повесць увёў элемент нацыянальны і рэлігійны? Не забывайма, што ўся акцыя адбываецца ў першых гадах XX ст., калі ўжо ў нас бруняў беларускі рух, а рэлігія нашага сяла мела характар патрыярхальны, дык як жа мог бы аўтар усё гэта ў повесці памінуць, якой акцыя адбываецца выключна на сяле ці — што тады было зусім тое самае — у малым беларускім мястэчку? Ці мог маўчаць аб уніятах і аб іх падзеях? Нават камуністычны пісьменнік не мог бы ў такой перадваеннай повесці замаўчаць аб гэтым. А калі Адважны зусім не падаў у сваёй повесці каларыту нацыянальнага, дык зноў спаткаў бы яго закід з нацыяналістычнага лагера, што недаацэньвае важнасці гэтай праблемы, пашырае ў гэтай справе раўнадушнасць або і проста нейкі рымскі касмапалітызм.

Нуднага маралізатарства ў аўтара повесці бадай зусім няма, з выняткам таго выпадку, калі ён неміласэрна заўзяўся на курцоў.

З гумарам, а гэта такжа нялёгкая рэч, удалося Адважнаму раз лепш, а другі раз горш. Сям-там ён занадта прымітыўны і наіўны. Памятаваць, аднак, трэба, што гэта повесць мае сваёй мэтай хутчэй адтварыць гумар народа, паколькі гэты знайшоўся пад абсервацыяй аўтара, і такім, якім ён ёсць, чым стварыць нейкія самастойныя тыпы а la Заглоба або жартаўлівыя «кавалкі», якія жылі б далей сілай творчай сугестыі пісьменніка на чытача.

Акцыя ў повесці «Хлапца» спачатку сапраўды крыху сонная і заўсёды занадта палітая слязьмі («бесканечныя слёзы!»), у дальшым, аднак, цягу ажыўляецца і асягае ў канцы твора тэмп цалком нармальны. Мала інтрыгі, мала руху — можа нехта сказаць, хто хацеў бы, каб повесць чыталася лёгка і хутка. Вось жа, хто чытае повесць толькі каб заспакоіць даволі прымітыўную сваю цікавасць, можа тут сапраўды дазнаць свайго роду расчаравання. Трудна! Кожны пісьменнік мае сваю пісьменніцкую індывідуальнасць і сваю методу працы. Іншую Крашэўскі, іншую Арэшчыха і яшчэ іншую Кажанёўскі (Conrad). **De gustibus non est disputandum**… Нават Сервантэс, Юго, Хашэк і інш. ужывалі не раз ліцэнцыяў і «трікаў», як наш Адважны, калі піша напр.: «Ну, але аб гэтым скажу другім разам»; дык і гэты закід хутчэй трэба залічыць да прычэпкі крытыкаў.

З пункту псіхалагічнага повесць вытрымана і, як на першую пробу, здаваляюча. Папяровых людзей аўтар зусім не паказаў. Усе тыпы — гэта жывыя асобы, добра падгледжаныя і адтвораныя, часамі з дакладнасцю люстра. Такой, не іншай была перадваенная беларуская вёска ў нашым краі. Зналі мы гэткіх Ганупяў і Тамашоў, а таксама Вінцукоў і яго таварышаў. Расейскія школы з іх вучыцелямі, плябаніі з ксяндзамі эндэкамі, беларусамі, літоўцамі, вясковыя расейскія ўстановы і інш. таксама адтварыў Адважны дасканальна і праўдзіва. Толькі чалавек,

які не памятае добра — або і зусім — часаў з прад 30–40 гадоў таму, толькі праваслаўны, які ніколі ў жыцці не быў у лацінскай плябаніі, у кватэры вікарыя, арганіста, у касцельным «шпіталі» і дзеля таго не знае іх жыхароў, можа рызыкаваць проста недарэчнае цверджанне, што гэта ўсё тыпы… з фантазіі. Ахвотна згаджаюся, што Адважнаму горш удаліся тыпы благачыннага, семінарыстаў і дзяка, хоць і тут стараўся ён святло і цень разлажыць раўнамерна і, як гэта відаць з усёй повесці, зусім не ідэалізуе духавенства каталіцкага, што сцвярджаецца на прыкладзе несімпатычнага ксяндза Марціноўскага.

Аднаго крытыка повесці дужа такжа здзівіла тое, што аўтар повесці ўсю трагедыю старога Марцука звёў быццам да… нястачы тытуню. Адкажу і на гэта: бываюць такія глядзельнікі ў тэатры, якіх прыводзіць да вясёласці сцэна, калі шэкспіраўскі маўр Атэла, у найбольш патэтычным моманце ўспомненай трагедыі таго ж назову, у пачуцці шалёнай зайздрасці з прычыны падазрэння ў нявернасці сваёй жонкі Дэздэмоны, дамагаецца… насаткі, якую яна згубіла, а якая мела быць доказам яе здрады. Тым часам як там тытунь, так тут насатка не з'яўляюцца яшчэ галоўнай прычынай усёй трагедыі. Няма наіўных! Рэальнасць яшчэ не выключае таго, што, наперакор лацінскай пагаворцы, часта іменна мыш гару родзіць. Чытаў я нядаўна, што аўто, едучы праз афрыканскую пустыню, раптам затрымалася дзеля таго, што іголка ад грамафона, якую нехта вытрас на пясок, пракалола гумавае кола. Гэткім ёсць жыццё і гэткія бываюць яго дзівосы.

Здалося такжа некаторым крытыкам непраўдападобным тое, што разважная Ганулля не раз пыталася рады ў справе сына ў ворага школьнай асветы старога Матусевіча. Але ж гэты закід адразу падае, як толькі мы сабе ўпрытомнім, што ўся справа дзеецца ў патрыярхальнай сялянскай сям'і, дзе гутарлівыя старычкі ахвотна і многа гавораць дарэчы і адрэчы. Сяло такжа мае сваіх рэзанёраў і дзівакоў.

Яшчэ дзіўней выглядае прэтэнзія крытыка, чаму слабы і хваравіты Вінцусь астаўся пры жыцці, як бы такі развой здарэнняў ужо згары быў непраўдападобны.

Моднай ёсць сёння «ўплывалогія» ці шуканне ў кожным літаратурным творы чужых уплываў і залежнасці ад чужых. Такім чынам лірычныя адступленні Адважнага могуць быць наследаваннем Т. Гушчы, апісанне расейскай школы — наследаваннем «Сізіфавых працаў» Жаромскага, зверхняе прадстаўленне жанчыны носіць на сабе ўплыў К. Сваяка.

Адчуваюцца ў повесці ноткі аўтабіяграфічныя і спатыкаюцца рэальныя асобы, як біскуп высланы пад Урал (Звяровіч), рэктар віленскай семінарыі (Ушыла), кс. дэкан Кішкеліс (літовец кс. Бурба, што часам гаварыў беларускія казанні) і інш.

Не без іроніі прабавала неспагадная крытыка падсунуць думку, як развязку ўжо па-за граніцамі повесці, што Вінцусь напэўна станецца ксяндзом, уступіць у партыю БХД і, можа, будзе лаяць беларускую

санацыю… Вось жа ў беларускім жыцці хватае прыкладаў і адваротных: што Вінцусі траплялі спачатку ў Грамаду, а пасля і ў Скарынію…

А як выйшла ў повесці Адважнага прырода? Некаторыя кажуць, што павярхоўна і слаба. Я такжа далёкі ад захаплення. Аднак у вымаганні глыбіні і сілы трэба такжа мець нейкую меру. Колькі ж, напрыклад, лекцыяў мае апісаць аўтар, каб яго не спаткаў закід павярхоўнасці пры адтварэнні расейскай пачатковай і гарадской школы?! Ці ж повесць толькі тады дасць дакладнае апісанне беларускага мястэчка ў нас, калі аўтар намалюе ў ёй адначасна сільвэты: ксяндза, бацюшкі, рабіна, настаўніка, лекара, ветэрынара, аптэкара, фельчара і г. д., нікога не мінаючы?! Геніяльная якая повесць можа і змагла б даць іменна такі абраз, такую візію месца і людзей, але не пачынаючы пісьменнік, які яшчэ як бы вучыцца пісьменніцкага рамяства.

Закіды дыдактызму і тэндэнцыі былі больш актуальнымі прад вайной, а сёння яны ўжо сталіся звычайным анахранізмам, бо дыдактызм і тэндэнцыя, хоць трохі ў адменнай форме, уліліся сёння магутным ручаём у сусветную літаратуру і знайшлі многа староннікаў, як справа (фашызм), так і злева (камунізм). Дзе ж сёння літаратура, вольная ад дыдактызму і тэндэнцыі?! Дарэмна мы шукалі б яе.

Апісанні прыроды ў Адважнага сапраўды маглі б быць лепшыя, стараннейшыя і больш выканчаныя. Аднак недахопу адчуцця і прыязні з красой прыроды Беларусі я не адважыўся б яму закінуць. Аўтар разумее яе па-свойму і любіць сапраўды, але, як той земляроб, не забаўляецца ў захапленні і ў апісанні. Прырода з усёй сваёй красой — гэта нешта так для яго зразумелае, што шкада яму слоў на гэта траціць.

Душы беларускага земляроба даволі нявыказаных скарачэнняў яго ўнутраных перажыванняў. Апісанняў прыроды даў Адважны ў сваёй повесці зусім даволі, іншая толькі рэч, што яны маюць не раз характар іменна гэтых скарачэнняў. Смакуны літаратуры і дэкламатары, зразумелая рэч, не будуць з іх здаволены.

Мова Адважнага мала мае ў сабе паэзіі і не носіць на сабе слядоў большай мастацкай абробкі. Некаторыя вобразныя звароты, як анёла механіка, віленскага каралевіча (св. Казімера) і інш., звіняць даволі дзівосна.

Часамі здараюцца непатрэбныя і дражнячыя паўтарэнні прозвішчаў (бабскі стараста, Бугава і інш.). Спатыкаюцца такжа выражэнні чужыя, як «квадратура», «распаложаны» і інш.

Урэшце некаторыя сітуацыі ў повесці выглядаюць няпраўдападобнымі: тлумачэнне вершаў і баек ксяндзом Галузам падчас развітання з моладдзю, высыланне тэлеграмы такжа ксяндзом і свяшчэннікам да губернатара, сумнівы ксяндза Марціноўскага, ці вольна хаваць таго чалавека, што прыпадкам утануў, спатыканне бацькі свайго адным папай з рэлігійнай працэсіяй…

Канчаючы гэтыя ўвагі для характарыстыкі Адважнага як аўтара повесці, скарыстаю з наступнага параўнання: Вінцук Адважны сёння

яшчэ гэта пачаткавуючы фатограф-аматар, які здраджае даволі прыгожыя мастацкія магчымасці. Дык няхай застасуе ў сваёй працы новую тэхніку, як зрабіў гэта Ян Булгак у фатаграфіцы, а тады зможа стацца праўдзівым мастаком-пісьменнікам повесці.

Гэтага сардэчна яму жадаю.

*А. Саладух*[1]

## АЙЦЕЦ ЯЗЭП ГЕРМАНОВІЧ — ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ
*(З нагоды 50-х угодкаў святарства)*

### I

29 чэрвеня 1963 г. а. Язэп Германовіч святкаваў *залаты юбілей* свайго святарства. Для юбіляра — гэта была хвіліна радасці і шчырай падзякі Богу, які, паклікаўшы яго да сваёй службы, прабаваў вернага свайго слугу ў розных абставінах жыцця, вёў яго да ўсцяж большай дасканаласці. Для нас, прыяцеляў юбіляра, і для ўсяго беларускага грамадзянства — гэта нагода, каб уважней пазнаёміцца з жыццём і творчасцю яго, каб «следам за дзедам» у шмат чым маглі павучыцца ад яго грамадскай працы, а такжа каб лепш пераносіць вялікія асабістыя цярпенні.

Айцец Язэп Германовіч (Вінцук Адважны) радзіўся 4 сакавіка 1890 г. з бацькоў Станіслава і Ганны з дому Савіцкая ў старадаўнім беларускім гарадку Гальшаны. Бацька яго быў сёмым і наймалодшым у сям'і, а матка найстарэйшай у сваёй сям'і з грамады 14 дзяцей. Бацька скончыў рамесніцкую школу і працаваў да часу свайго жанімства ў Пецярбургу ў экіпажнай майстэрні, дзе быў ужо старшым майстрам. Выкліканы сваімі сваякамі ў Гальшаны, тут ажаніўся з Ганнай Савіцкай. Жыццё спачатку складалася памысна, але нядоўга: бацька захварэў на сухоты, трэба было лячыць, грошы разышліся і памёр, пакінуўшы трое дробных дзетак — Людвіня 4 г., Язэп 2 г. і Станіслаў 2 мес. (гэты апошні скора памёр). Палажэнне зложылася крытычнае, бо і матка мела слабое здароўе, а маёмасці не асталося ніякай. Дзеля таго, што бацька быў прыездным у Гальшанах, ягоная радня была ўдаве незнаёмая; а ў Савіцкіх была поўная хата сваіх дробных дзяцей, зрэшты, бацька Ганны Германовічыхі Францісь Савіцкі таксама хутка памёр, а там асталася мачыха Ганны… Значыць, і ў матчынай радні сіроты Германовіча не маглі мець помачы… І вось удава Ганна Германовіч узяла на сябе цяжар узгадавання дзяцей, і яна патрапіла мазольнай працай зарабляць у чужых гаспадароў і рабіць рукавіцы — асабліва зімой, — каб з продажы неяк пражыць. (Усё мястэчка Гальшаны за-

ймалася гэтым рамяством — рукавіцамі.) Ганна такжа вучыла сваіх дзяцей чытаць. Сваё дзяцінства апісаў пазней В. Адважны ў вершы «Сірата», дзе чытаем:

Браты, хто з вас быў сіратою?
Хто быў так прыгнечан, забыты,
Як я, у куточак забіты?
Хто жыў з бядой-маткай ліхою?

Будучы святар і паэт у школу пачаў хадзіць у тых жа Гальшанах. Як лёгка прыходзілася хлапчуку здабываць першую веду, можна судзіць хоць бы і з таго, што жылі яны ў цёткі, якая вымагала, каб ад ранняй вясны да познай восені Язэпка адпасвіў статак — гэта лічылася за памяшканне і часткова за ўтрыманне. Зімою хлапец хадзіў у школу; але, прыйшоўшы дамоў, трэба было памагаць рабіць рукавіцы, бо ў Гальшанах і дзеці ўжо памагалі зарабляць кусок хлеба. Школа, як ведама, была расейская. Нягледзячы на ўсялякія цяжкасці, Язэп скончыў пачатковую альшанскую школу з добрым вынікам. Было яму тады 12 гадоў.

А што далей?

Сямейная «рада» абсудзіла аддаць хлапца ў шаўцы. Сам, аднак, Язэп, клікааны да далейшай і вышэйшай навукі, ніяк не мог на гэта згадзіцца. Ён праз вялікія слёзы перамагае перашкоды і трапляе ў гарадскую школу ў горад Ашмяну. Тут першы раз у сваім жыцці спатыкаецца з беларускім друкаваным словам — «Дудкай» Багушэвіча, якую дае яму і ягонай сястры Людвіні беларускі каталіцкі святар Гуневіч. Гэтая кніжачка адчыніла ім вочы, што яны беларусы, і з гэтай пазіцыі яны не сышлі праз усё жыццё.

Пасля 4 гадоў скончыў Язэп Германовіч гарадскую школу і пешкі выбраўся ў Вільню (80 км) — здабываць далейшую асвету і здзейсніць летуценні — стацца святаром!

Перш чым быў прыняты фармальна ў віленскую катал. дух. семінарыю, Язэп Германовіч праз тры гады разам з Кастусём Стэповічам, пазнейшым свят. і паэтам Казімірам Сваяком, кватаруецца і вучыцца ў Вільні ў сёстраў Шаблоўскіх. Хваробы і матэрыяльныя нястачы не збіваюць юнакоў з выбранага шляху: абодва — Германовіч і Стэповіч — вучацца, здаюць экзамены і ўрэшце ёсць прынятыя ў віленскую семінарыю. Семінарыя гэта, хаця і знаходзілася ў той час пад загадамі архібіскупа Эдварда Ропа, ведамага са сваёй прыхільнасці да беларускай мовы ў святынях, аднак дзеля яго адсутнасці ў Вільні і дзеля перавагі польскіх прафесараў, дух семінарыі быў нацыянальна нездарова польскі. Нягледзячы на гэта, выйшла з яе паважная колькасць ведамых беларускіх святароў. Сябрамі Германовіча ў семінарыі былі: успомнены ўжо Стэповіч, Андрэй Цікота, Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Вінцэсь Гадлеўскі, Аўгустыновіч, Пятроўскі, Міхась Борык,

Цыпр Лазоўскі. Усе яны, стаўшыся святарамі, папрацавалі шмат для беларускага духовага адраджэння.

У 1913 г. — акурат 50 гадоў таму назад — Язэп Германовіч скончыў віленскую семінарыю і праз рукі літоўскага біскупа Каросаса атрымаў святарскія свячэнні. Першую службу Божую адправіў у Вільні ў касцёле Св. Духа ў асысце сваіх выдатных сяброў К. Стэповіча і А. Станкевіча. Так першы цяжкі этап быў шчасліва закончаны, але крыжовая дарога на святарскім шляху была яшчэ наперадзе…

Малады святар распачаў душпастырскую працу ў Далістове (павет Беластоцкі) у характары вікарыя ксяндза Гуневіча. Пасля году перанеслі яго духоўныя ўлады ў Беласток, пасля ізноў у Далістова, адкуль па далейшых зменах, трапляе ў Крыпна, Мсцібова, а ў 1919 годзе ў Вялікую Лапеніцу.

Святарская праца сама па сабе не ёсць лёгкай, а што ж, калі выпадзе яна ў час вайны, голаду, заразлівых хваробаў і рэвалюцыяў. Тады святару патрэба большай разважнасці, маральнай і фізічнай сілы, каб сам не загінуў марна і каб другім дапамог. Аднак ідэёвыя святары пры помачы Божай перамагаюць усе цяжкасці і ў жыцці іхнім спраўджаецца тое, што ўсе дарогі вядуць да Бога. Гэтак яно сталася ў жыцці і дзейнасці а. Я. Германовіча.

У Вялікай Лапеніцы, апрача звычайнае душпастырскае працы, ён закладае беларускую школку. У гэтым памагае яму спадарыня Краўчанка, якую, аднак, хутка палякі арыштавалі, а сам Германовіч змушаны також пакінуць Вял. Лапеніцу. У 1920 г. пераехаў у Слонімскі павет у Луконіцу. Летам у тым самым годзе прыходзяць туды бальшавікі. Я. Германовіч цяжка хварэе на дызентэрыю. Бальшавікі ўсё роўна яго арыштавалі. Аднак, дзякуючы асаблівай Божай апецы і стаpанням парафіянаў, выйшаў цэлым з бальшавіцкіх рук. У Луконіцы прабыў наш юбіляр тры гады. Аб адносінах сваіх парафіянаў да беларускага святара, да беларускай мовы знаходзім шмат матэрыялу ў сатыры В. Адважнага: «Спрэчка пад касцёлам», дзе вуснамі селяніна Сымона аўтар адзываецца:

А кругом нас ўзялісь за рукі
І сталі нам даваць навукі,
І б’юць па носе, колькі ўлезе,
Як той каваль ды па залезе.
Ўсе проціў нас… а дзе прычына?..
Ты, Беларусь — мая Айчына!

Усюды, дзе толькі працаваў а. Германовіч, ён стараўся навучаць людзей праўдаў Божых у той мове, у якой яны гаварылі. Гэтая справа сама сабой зусім натуральная і ў гэтым ніякай заслугі, здаецца, няма; аднак у тую пару выступаць з беларускім словам у касцёле — трэба было

вялікай рызыкі — проста геройства! Польскім урадоўцам і рознага тыпу палякам ці спольшчаным беларусам гэта калола вока і выклікала на а. Германовіча нагонку. Чым большы поспех мела родная мова ў людзей, тым больш польская адміністрацыя яе баялася і праследавала.

У Шаркоўшчыне на пахароне ведамага беларускага катал. святара Зянона Якуця меў казанне а. Германовіч для вялікай масы народу, у прысутнасці 11 каталіцкіх святароў і 2 праваслаўных. Усе прысутныя, а асабліва правасл. святары, былі зварушаныя да слёз шчырасцю прамоўцы, яснасцю яго рэлігійнай думкі і глыбокім пачуццём народным.

З Луконіцы а. Германовіч быў перанесены ў Лужкі, дзе прабыў толькі год, бо ўжо ў 1924 уступіў у закон айцоў марыянаў, якія ў тым часе пачыналі сваю беларускую галіну ў Друі над Дзвіной. З гэтым закончыўся ў жыцці а. Язэпа перыяд працы свецкага святара, які трываў 11 гадоў.

## II

У Друі невялікая грамада айцоў марыянаў, сярод якіх выдзяляюцца айцы Андрэй Цікота і Фабіян Абрантовіч, кіравала вялікай парафіяй; коэдукацыйнай гімназіяй, дапамагала ў суседніх парафіях. Апрача таго, каб мець з чаго жыць і дапамагчы бяднейшай моладзі ў здабыванні асветы, працавалася цяжка на зямлі.

Айцец Германовіч, скончыўшы навіцыят, перш быў назначаны пробашчам у Друі, пасля магістрам навіцыяту, а такжа настаўнікам закону Божага і лацінскай мовы ў гімназіі. Ён умеў узгадоўваць хлапчукоў, зацікавіць іх, а асабліва ўмеў прышчэпліваць любоў да роднай беларускай мовы, якую ў Польшчы тады праследавалі і якой не маглі нават навучаць у самой друйскай гімназіі, дзе каля 90 % вучняў былі беларусамі, а кіраўнікамі яе былі такжа айцы марыяне беларусы.

На жаль, нядоўга працавалі разам марыяне беларусы. У 1928 г. выехаў у Харбін Ф. Абрантовіч, а ў 1932 яму на падмогу выехаў такжа а. Язэп Германовіч. Пасля шматлікіх гадоў не магу забыць таго сумна-прыгожага развітання з дарагім а. Язэпам у Друі. Усе былі ўсхвалёваныя, пачынаючы ад а. Цікоты, суперыёра Друйскага Дома, а канчаючы на наймалодшым хлапчуку з інтэрната. Спявалі мы тады песні: «О, край родны, край прыгожы», «Хмары, хмары, што па небе носіцесь гарамі…» і іншыя. Шчымела сэрца не толькі таму, што пакідае нас дарагі наш чалавек, які не для аднаго з нас стаўся новым бацькам, але і таму, што наша краіна траціла яшчэ аднаго святара і дзеяча, якога нельга было заступіць.

У Харбіне, хаця вонкавыя абставіны былі вельмі розныя ад тых у Друі, айцу Германовічу прыйшлося рабіць тое самае, па сутнасці, што

і ў Друі: узгадоўваць моладзь. У суравейшым клімаце, ва ўмовах, не лягчэйшых, чымся ў Друі, а. Язэп выконваў абавязкі дырэктара гімназіі, спавядніка жаночых манастыроў, выхаваўцы інтэрната, настаўніка. Усё гэта моцна падкасіла яго сілы, і ў 1936 г. ён павінен быў вярнуцца на бацькаўшчыну, гэтым разам у Вільню. Тут назначаны быў кіраўніком (пасля а. Юрыя Кашыры) беларускага марыянскага Дома Студэнтаў і пры вуліцы Жыгімонта. Дом гэты быў парасткам Друйскага Дома і меў за мэту прыгатаванне будучых святароў. Была моладзь, кіпела праца. Не раз пабывалі ў тым доме беларускія святары, дзеячы, мастакі і паэты. Помню, адведалі нас ксяндзы А. Станкевіч, У. Талочка, Навіцкі, Семашкевіч (паэт Быліна) і іншыя. Гасцілі ў нас такжа Антон Луцкевіч, Трэпка, Шутовіч, Дубейкаўскі, Максім Танк, Забэйда-Суміцкі.

Віленскі беларускі дом айцоў марыянаў быў сапраўднай клетачкай беларускага духовага адраджэння. Аднак праіснаваў ён толькі 3 гады. Польскія адміністрацыйныя ўлады, знішчыўшы беларускі кляштар у Друі, не далі змогі для існавання такжа віленскага дома. Айцец Язэп Германовіч і ўсе студэнты-семінарысты ў 1938 г. былі выселеныя ў цэнтральную Польшчу. Адтуль а. Германовіч ізноў праз Рым выехаў на працу ў Харбін і ізноў спаткаўся там з айцамі Абрантовічам і пасля з Андрэем Цікотам. Працуе а. Язэп аж да 1948 г., калі кітайскія камуністы разам з іншымі айцамі і настаўнікамі гімназіі яго арыштавалі і перадалі савецкаму НКВД. Падобна як і іншыя яго сябры, а. Германовіч быў завочна засуджаны на 25 гадоў прымусовых лагерных работ.

Бог, аднак, у сваім міласэрдзі скараціў той несправядлівы сталінскі прысуд да шасці з паловай гадоў і а. Язэп, хаця і знішчаны фізічна, бадзёры, аднак, і моцны на духу, у 1955 годзе высланы савецкімі ўладамі ў Польшчу. Адтуль у канцы 1959 г. удаецца яму вырвацца ў вольны свет. Тут ён напісаў свае «Успаміны» і паэтычны твор «Князь і Лапаць».

## III

Вельмі бурлівае і цяжкое жыццё нашага юбіляра не спрыяла яго творчасці. Аднак нягледзячы на ўсё з-пад яго пяра выйшла шмат твораў у форме аповесцяў і паэзіі.

Айцец Германовіч пачаў пісаць, будучы яшчэ пробашчам у Вялікай Лапеніцы. Першы яго артыкул быў надрукаваны ў віленскай «Крыніцы» ў 1919 г. падназовам «Хто мы?» Быў ён падпісаны псеўданімам «Хлопчык з-пад Горадні». Пасля таго, як стаў пісаць, здарылася яму спаткацца з Максімам Гарэцкім.

— Ксёндз, ты мусіш пісаць! Грэх, калі не будзеш! — сказаў ведамы пісьменнік-крытык.

Словы Гарэцкага былі добрай заахвотай. Германовіч — ён жа Вінцук Адважны — пісаў, дзе толькі быў і дзе толькі мог. Да пісання

падганяла яго не толькі хваля беларускага агульнага адраджэння, але такжа патрэба ўнутраная паэты. Ён пісаў аб сабе:

Іграю, іграці я мушу.
Тут ноты жыццём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны:
Як струны жывыя парушу…

Творчасць Вінцука Адважнага адзначаецца моцным патрыятызмам, глыбока рэлігійным настроем. Такжа ў ёй шмат далікатнага беларускага гумару. Дагэтуль паявіліся ў друку асобнымі кніжкамі наступныя творы:

1. Як Казюк сабраўся да споведзі, Вільня 1928
2. Казюковае жанімства, Вільня 1929
3. Як Ганулядзбіралася ў Аргенціну, Вільня 1930
4. Адам і Анэлька, Вільня 1931
5. Канёк-Гарбунёк, Вільня 1932
6. Унія на Палессі, Вільня 1932
7. Батлейка, Вільня 1932
8. Беларускія цымбалы, Вільня 1933
9. Хлапец, Вільня 1936
10. Кітай, Сібір, Масква (Успаміны), Мюнхен 1962
11. Князь і Лапаць, у друку.

Аб творах пад нумарамі 1–8 знаходзім іх агляд ва ўступе да кніжкі «Беларускія цымбалы» пяра кс. Адама Станкевіча. Ён жа там гэтак адзываецца:

«Агулам Вінцук Адважны ў сваім паэтыцкім творстве стаіць на грунце несмяротных ідэалаў Хрыстовай рэлігіі і этыкі, як бы паказваючы гэтым найвышэйшую мэту мастацтва і паэтыцкай тэхнікі: з гэтых ідэалаў чэрпае паэтыцкае натхненне, да іх кліча свой народ і ў іх бачыць непарушную веру ў пэўнае здзяйсненне беларускіх народных ідэалаў, бо справа народная ў В. Адважнага — гэта частка справы Божай».

Трэба заўважыць, што шмат твораў айца Германовіча загінула, асабліва шкада арыгінальных ягоных баек, а такжа тлумачэнняў Крылова, Красіцкага і іншых ведамых аўтараў. Усё, што было напісана ў Харбіне, там і асталося.

«Успаміны» былі даручаны вялікаму і Добраму Яну XXIII, каторы, калі прымаў нашага святара, казаў яму: «Не ўпадзі ізноў у рукі тваіх ворагаў!..»

Спадзяёмся, што наш юбіляр, атрымаўшы багаслаўленне ад таго ж Папы і шмат добрых пажаданняў з усіх куткоў свету, пажыве нам яшчэ і не адно напіша на славу Божую і Беларусі.

*Вучань Вінцука Адважнага.*
*1.VII.1963, Лондан*

# СВЯТОЙ ПАМЯЦІ АЙЦЕЦ ЯЗЭП ГЕРМАНОВІЧ (1890–1978)

На другі дзень Калядаў 26 снежня 1978 г. заснуў навекі ў Госпадзе а. Язэп Германовіч. Апошнім ягоным прыпынкам быў Дом беларускіх айцоў марыянаў у Лондане — Марыян Гаўз. Пражыў ён без мала 89 гадоў і памёр не дзеля якойсьці працяглай хваробы, але проста вычарпаліся сілы і астанавіўся матор — сэрца. Ён сам часта паўтараў: «На старасць няма лякарства!»

Пра а. Я. Германовіча — Вінцука Адважнага — пісалася ў нашай прэсе неаднойчы (глядзі: Я. Вучань, Вінцук Адважны, Конадні, № 7, 1963, 89–95. — Божым Шляхам, № 82, 1964, 9–12). Пісаў і ён сам аб сабе. На жаль, толькі распачаў свае аўтабіяграфічныя ўспаміны, але не меў сілаў іх прадаўжаць (глядзі: Язэп Германовіч, Учора, сягоння, заўтра, Божым Шляхам, № 137, 1973; № 138, 1973; № 139, 1974; № 140, 1974). Зрэшты, ягоная кніга «Кітай, Сібір, Масква», якая выйшла з друку ў 1962 г. у Мюнхене, па-мастацку апісвае частку значную ягонага жыцця. Творчасцю В. Адважнага маем намер заняцца ў далейшым у нашым часопісе. Тут абмяжуемся толькі да біяграфічных дадзеных.

Радзіўся 4 сакавіка 1890 г. з бацькоў Станіслава і Ганны з дому Савіцкай у старадаўнім беларускім горадзе Гальшаны. Хутка, аднак, ён і ягоная сястра Людвіна асталіся толькі з маткай сіротамі, бо іхні бацька памёр у 1892 г. Нягледзячы на вельмі ж цяжкія жыццёвыя абставіны малы Язэпка, як тая раслінка да сонца, імкнуўся да навукі. І так пачатковую школу скончыў у Гальшанах маючы 12 гадоў. Далей вучыцца ў Ашмяне. Тут кс. Гуневіч пазнаёміў юнака з «Дудкай» Францішка Багушэвіча. Ад таго часу Язэп Германовіч ёсць не толькі свядомым беларусам, але дзейным змагаром за лепшую долю свайго народа.

Духоўную семінарыю скончыў у Вільні ў 1913 г. і там жа быў рукапаложаны ў святары. Працуе ў віленскай дыяцэзіі ў Далістове, Вялікай Лапеніцы, у Лужках. У 1924 г. далучаецца да сяброў беларускага кляштара айцоў марыянаў у Друі. Працуе ў парафіі, выхоўвае моладзь, вучыць лацінскую мову ў гімназіі. Піша розныя творы і артыкулы для «Хрысціянскай думкі». У 1932 г. выязджае на цяжкую працу сярод расейцаў у Харбін на падмогу архімандрыту Фабіяну Абрантовічу. У 1936 г. вяртаецца ў Вільню і тут кіруе Домам Студыяў, якога было мэтай прыгатаваць новае пакаленне беларускіх святароў-законнікаў. Першым прэфектам або суперыёрам таго Дома быў а. Юрый Кашыра, жыўцом спалены немцамі ў час апошняй вайны разам з а. Антонім Ляшчэвічам у Росіцах. Айца Кашыру замяніў а. Я. Германовіч. Нядоўга, аднак, мог ён тут аставацца, бо ў 1939 г. ваявода Бацянскі, разагнаўшы друйскіх беларускіх Марыянаў, не дазволіў працаваць а. Язэпу ў Вільні. Ізноў ён тады выехаў у Харбін, на дапамогу гэтым разам айцу архімандрыту

Андрэю Цікоту, бо архімандрыт Фабіян Абрантовіч, адведваючы мітрапаліта Шаптыцкага на пачатку Другой сусветнай вайны, трапіў у рукі бальшавіцкага НКВД і яго ў Харбіне заступіў а. Цікота.

У 1948 г. харбінскіх Марыянаў арыштоўваюць кітайцы і прадаюць іх савецкім уладам. Свой лёс у савецкіх турмах і лагерах апісаў а. Язэп у ведамай кнізе успамінаў «Кітай, Сібір, Масква», перакладзенай сёння на мовы літоўскую, італьянскую і польскую. Пасля смерці Сталіна савецкія ўлады дазваляюць айцу Язэпу выехаць у Польшчу, але не ў Беларусь (1955). У Польшчы пачаў пісаць а. Язэп свае ўспаміны. У 1959 г. удалося пасля доўгіх стараннняў выехаць яму ў Рым, а адтуль адчынілася дарога ў вольны свет. Ён змог пабываць у Злучаных Штатах Амерыкі і летуцеў яшчэ пра Аўстралію, Нова-Зеландыю і г. д.

Апошнімі гадамі свайго жыцця а. Язэп быў вегетарыянцам. Умеў сабе прыгатаўляць мешаніну розных фруктаў і траваў. Кожнага дня рабіў гімнастычныя цвічэнні і прагулкі. Працаваў безупынна і шмат маліўся. Часта яго можна было ўбачыць сярод ночы ў капліцы перад Святымі Дарамі. Маліўся ён за ўсіх і асабліва за гаротную нашу Беларусь. Блізу да апошняга дня свайго жыцця ён цікавіўся светам і рознымі падзеямі. З ім можна было гутарыць на кожную тэму. Ён з нічога не дзівіўся і нічым не абураўся. Ведама, столькі сам бачыў, столькі перажыў! Памёр, прыняўшы апошнія Святыя Тайны. Калі яго цела ляжала яшчэ на ложку, была адпраўленая паніхіда. Усе сябры з Марыян Гаўз былі сумныя, але нейкі глыбокі боскі супакой валадарыў сярод прысутных. Успаміналіся словы св. Пісання: «Прыйдзі ўлюблёная Хрыста і атрымай карону жыцця!» Мы ўсе добра ўсведамлялі, што адышоў ад нас вялікі чалавек, пабожны святар, таленавіты пісьменнік, які ператрываў савецкія турмы і лагеры і які ніколі і нідзе не пахіснуўся, калі трэба было сведчыць аб Богу і Бацькаўшчыне.

Паховіны адбыліся дня 8 студзеня 1979 г. пры ўдзеле шматлікага духавенства і вернікаў. Святую Літургію служыў біскуп Ч. Сіповіч у саслужэнні з мітратам А. Надсанам у капліцы ў Марыян Гаўз, куды была прывезена труна з целам памёршага. Пасля Евангелля гаварыў казань па-ангельску а. Язэп Сельскі, цяперашні генерал Марыянаў, які прыехаў з Рыма, а пры канцы Літургіі біскуп Сіповіч.

На могілках адмовіў малітву за душу памёршага таксама а. Янка Пякарскі, святар БАПЦ, які стала жыве ў Сцівэнэдж. Ад імя ЗБВБ прамаўляў ягоны Старшыня Управы сп. Янка Міхалюк. Усе, што прымалі удзел у паховінах, сабраліся пасля на абед у залу школы св. Кірылы Тураўскага. У той жа зале была зладжаная прынагодная выстаўка здымак а. Я. Германовіча і артыкулаў, якія ўспелі з'явіцца і пісалі пра ягонае жыццё і смерць.

Дзіўна яно бывае ў жыцці: пасля столькі розных пройдзеных шляхоў айцом Язэпам і архімандрытам Гарошкам абодва супачылі ў

той самай магіле. Тут не спраўдзілася тое, што казаў а. Язэп за жыцця: з Гарошкам не сыдзешся! Ведама, што а. Леў вельмі хутка хадзіў… А цяпер сышліся!.. Гэтым самым яны быццам засведчылі, што былі дзяцьмі той самай Хрыстовай Царквы, сынамі той самай Маці Беларусі, належалі да той самай Кангрэгацыі Марыянаў, абодва былі рэдактарамі «Божым Шляхам», а што важнейшае, што абодва ўлучна да геразізму імкнуліся сваім жыццём апраўдаць гэты магутны лозунг. Не сумняваемся, што абодва ёсць нашымі заступнікамі перад Богам.

*

Усім тым, хто з нагоды смерці а. Я. Германовіча прыслаў спачуванні, а некаторыя і ахвяры на розныя мэты: «Б[ожым] Шл[яхам]», Бібліятэку і т. п. выказваем шчырую падзяку.

*Біскуп Ч. Сіповіч*



# КАМЕНТАР

Літаратурная спадчына Вінцука Адважнага (айца Язэпа Германовіча) досыць вялікая па колькасці і памерах надрукаванага, разнастайная ў жанрава-тэматычных адносінах, а таму змясціць яе ў адным томе ніяк немагчыма. З гэтай прычыны і дзеля таго, каб паказаць шматграннасць творчай асобы пісьменніка, унікальную адметнасць і змястоўнасць кожнага перыяду яго творчасці, вылучыўшы з яе найлепшае, укладальніку прыйшлося вельмі ашчадна адбіраць творы для дадзенага выдання. Пісьменнік прадстаўлены тут як паэт, празаік, публіцыст, мемуарыст, аўтар эпісталярыя. Выразна акрэсліваюцца таксама два перыяды яго творчасці: ранні, або віленска-друйска-харбінскі (1920–1930-я гг.), звязаны з публікацыямі ў газеце «Беларуская крыніца», часопісе «Хрысціянская думка» і іншых віленскіх беларускіх выданнях; і позні — эміграцыйны (пераважна лонданскі), звязаны з публікацыямі ў часопісе «Божым шляхам».

Паэзію прадстаўляюць нешматлікія, але паказальныя для творчай манеры аўтара вершы пераважна ранняга перыяду творчасці, якія ўваходзілі ў першы паэтычны зборнік В.Адважнага «Беларускія цымбалы» (Вільня, 1933) і змяшчаліся ў віленскіх беларускіх перыядычных выданнях 1930-х гг. Некалькі ўзораў духоўнай паэзіі позняга (эміграцыйнага) перыяду прадстаўляюць вершы з цыклаў «Малітвы Сьв. Кірыла Тураўскага» і «Прыповесці паводле Евангелляў Мацвея, Марка, Лукі, Яна», якія друкаваліся ў лонданскім часопісе «Божым шляхам». На жаль, у гэтым выданні мы не знайшлі магчымасці прадставіць В.Адважнага як байкапісца і сатырыка, ахвяраваўшы гэтым творчым амплуа пісьменніка дзеля таго, каб найбольш поўна прадставіць яго як таленавітага празаіка і мемуарыста.

Проза В.Адважнага ў віленска-друйска-харбінскі перыяд творчасці мела выразны мастацка-аўтабіяграфічны характар. Яе ў выданні прадстаўляюць такія вядомыя ў сваім часе творы, як апавяданне «Адам і Анэлька» (1931) і аповесць «Хлапец» (1935). Духоўна-патрыятычная ідэйная скіраванасць і высокамастацкі стыль абодвух твораў робяць іх актуальнымі і цікавымі для сучаснага чытача. У эміграцыйны (лонданскі) перыяд творчасці проза пісьменніка набывае яскравы мемуарны характар. Ён піша ўспаміны з свайго багатага перыпетыямі падзей жыцця, захоўваючы пры гэтым па-ранейшаму жывы, вобразна-мастацкі і ў той жа час праўдзіва-дакументальны стыль падачы матэрыялу. Падпісваў гэтыя творы аўтар звычайна не псеўданімам, а сваім уласным прозвішчам.

Мемуарны раздзел у гэтым выданні найбольш прадстаўнічы. Сюды ўключаны шырока вядомыя ўспаміны «Кітай, Сібір, Масква» (1962), дзе глыбока і пераканаўча апісаны перыяд сталінскіх рэпрэсій, якія давялося перажыць аўтару. Гэты твор па праву лічыцца бестселерам у жанры сусветнай мемуарнай літаратуры. Свайму дзяцінству і юнацтву прысвяціў аўтар успаміны «Учора, сягоння, заўтра», якія друкаваліся ў часопісе «Божым шляхам» і засталіся няскончанымі. З лонданскага рукапісу, копію якога перадаў укладальніку айцец Аляксандр Надсан, упершыню ў кнізе друкуюцца прачулыя ўспаміны пра бацькоў пісьменніка «Мае Тата і Мама».

Невялікі, але надзвычай цікавы раздзел кнігі складае публіцыстыка, якая таксама адлюстроўвае два перыяды творчасці аўтара: на радзіме і на эміграцыі. Ранняя публіцыстыка ўяўляе сабой карэспандэнцкія допісы адраджэнска-патрыятычнага характару ў газету «Беларуская крыніца», якія датуюцца 1919–1920 гг. Гэта самыя першыя друкаваныя творы будучага вядомага паэта і празаіка, якія выступіў у іх пад псеўданімам *Хлопчык з-пад Гродны*. Дапаўняюць раздзел некалькі артыкулаў духоўна-пазнавальнага характару з часопіса «Божым шляхам».

У эпісталярным раздзеле змяшчаюцца тры лісты Я. Германовіча: два з Друі (1928) і адзін з Харбіна (1935). Рукапісы двух першых лістоў былі прадстаўлены для надрукавання з лонданскай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны айцом Аляксандрам Надсанам. Яны закранаюць няпростую сітуацыю, што склалася ў Друйскім кляштары айцоў марыянаў напрыканцы 1920-х гг., калі харбінская місія фактычна адцягвала свядомыя нацыянальныя сілы ад працы на Бацькаўшчыне і паслабляла наваўтвораны рэлігійны адраджэнскі рух у Заходняй Беларусі. Трэці, больш позні, ліст з Харбіна да кс. А.Станкевіча таксама ўскосна закранаў гэтую ж сітуацыю і даводзіў, наколькі драматычную, калі не сказаць трагічную ролю адыграла каталіцкая ўсходняя місія ў Харбіне ў жыцці беларускіх святароў.

Завяршае кнігу раздзел «Дадатак», у якім змешчаны крытыка-біяграфічныя матэрыялы пра жыццё і творчасць Вінцука Адважнага. Гэта найперш рэдкія публікацыі з выданняў 1930-х гг.: кс. Адама Станкевіча «Аб жыцці і творстве В. А. (Вінцука Адважнага)» — прадмова да зборніка «Беларускія цымбалы», 1933; і палемічная рэцэнзія А. Саладуха (кс. У. Талочкі) на аповесць «Хлапец», змешчаная ў часопісе «Калоссе» (1936). Два артыкулы (прыжыццёвы — да 50-й гадавіны святарства і пасмяротны ў характары некралога) духоўнага вучня Язэпа Германовіча а. Ч. Сіповіча з часопіса «Божым шляхам» дапаўняюць светлы, напоўнены малітвай, працай і змаганнем жыццяпіс пісьменніка-святара.

Большасць фотаздымкаў, выкарыстаных у дадзеным выданні, захоўваецца ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане. Некаторыя з іх друкаваліся ў час. «Божым шляхам», кнізе А. Надсана «Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938)» (Мінск, 2006),

а некаторыя друкуюцца ўпершыню. Асобныя фотаздымкі захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

## ВЕРШЫ

### *Беларускія цымбалы (с. 17)*

Упершыню — час. «Шлях моладзі», 1932, № 5–6, пад крыпт. W. A.
Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały». Wilnia, 1933.

### *На 25 сакавіка (с. 20)*

Упершыню — газ. «Biełaruskaja Krynica», 27 сак. 1932 г., пад крыпт. W. A.
Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały».

### *Прарок (с. 22)*

Упершыню — час. «Хрысціянская думка», 1932, № 4, пад крыпт. W. A.
Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały».

### *Мудрасць Саламона (с. 24)*

Упершыню — час. «Хрысціянская думка», 1932, № 6, пад крыпт. W. A.
Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały».

### *Элегія (Паводле Ю. Славацкага) (с. 26)*

Упершыню — час. «Хрысціянская думка», 1932, № 7–8, пад крыпт. W. A.
Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały».

### *Спрэчка пад касцёлам (с. 27)*

Упершыню — газ. «Biełaruskaja Krynica», 10, 20 верас., 16 кастр., 1932, пад крыпт. W. A.
Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały».
[1] *Кламіць* — хлусіць (*пол.*)

### *Народ беларускі (с. 42)*

Друкуецца паводле выд.: Беларускі каляндар на 1933 год (Вільня. Выданне Я. Малецкага), дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Вінцук Адважны.
[1] *Ёна* (Іона) — біблейскі прарок, які не падпарадкаваўся Божай волі ісці прапаведаваць у Ніневію (горад тагачаснага Асірыйскага царства), сеў на карабель і самавольна адправіўся ў іншае месца.

### *Ліст з чужыны (с. 43)*

Друкуецца паводле газ. «Biełaruskaja Krynica», 14 мая 1933 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. W. Adważny з пазнакай: Charbin, 19.III.[19]33. Пад загалоўкам у дужках маецца прысвячэнне : «Paświaćaju Bratu J. G.». Верагодна, ініцыялы належаць марыянскаму клерыку-законніку Язэпу Гайдзелю, колішняму вучню а. Я. Германовіча ў Друйскай гімназіі, які пазней працягваў вучобу ў Вільні. Гл. таксама каментар у раздзеле «Лісты».

### *Малітва да Св. Тройцы (с. 43)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1967, № 1 (100), дзе апублікаваны ўпершыню ў цыкле «Малітвы Св. Кірыла Тураўскага (пераклаў на навачасную белар. мову а. Я. Г.)». Цыкл складаўся з «Малітвы да Божае Маці», «Малебнага Канону» (у 5-ці песнях) і дадзенага твора. Пакладзены на музыку Гаем Пікарда.

### *Фарысей і мытнік (с. 47)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1970, № 4, дзе апублікаваны ўпершыню ў цыкле «Прыповесці паводле Евангелляў Мацвея, Марка, Лукі, Яна».

## ПРОЗА

### *Адам і Анэлька (с. 51)*

Друкуецца паводле выд.: A. W. Adam i Anielka. Apawiadańnie. Wilnia, 1931 h. Wydańnie «Biełaruskaj Krynicy». Паралельна з верасня 1931 г. апавяданне друкавалася ў газеце «Беларуская крыніца».

### *Хлапец (с. 90)*

Упершыню — газ. «Беларуская крыніца», з 6 мая 1934 г. па 30 чэрв. 1935 г.

Друкуецца паводле выд.: Wincuk Adważny. Chłapiec. Powieść. Wilnia, 1935 h. У канцы тэкста заўвага: 2.1.1934. Charbin. Верагодна, гэта дата заканчэння аповесці, якая пісалася на працягу 1933 г., калі ён меў для гэтага спрыяльныя магчымасці, што вынікае і з ліста да кс.Адама Станкевіча ад 5 сак. 1935 г. з Харбіна: «Каб не выезд залеташні ў Цынг-Тао, дык мой «Хлапец» не радзіўся б на Божы свет» (гл. ліст № 3).

[1] *Навэнна* (ад лац. novenna) — малітва, якая чытаецца на працягу 9 дзён перад пэўным рэлігійным святам.

[2] *Жмудны* (ад пол. żmudny) — карпатлівы.

[3] *...вадзіла па стацыях...* — Стацыямі называюцца пэўныя эпізоды і месцы мукі Езуса Хрыста: ад прысуду Пілата да Галгофы. Падчас Вялікага посту ў касцёле адбываецца спецыяльнае набажэнства

«Крыжовы шлях», калі вернікі ідуць «ад стацыі да стацыі», прыпыняючыся на кожнай з іх і чытаючы адпаведныя ўрыўкі з Евангелля і малітвы. Усяго стацый 14.

[4] *Экзеквія* (ад лац. exsequiae — пахаванне) — жалобная, памінальная імша.

[5] *Звёнзак* — саюз (*пол.*).

[6] *Маестатычны* (ад пол. majestatyczny) — велічны, вялікасны.

[7] *Сума* (ад лац. Summa) — галоўная імша тыдня, якая звычайна цэлебруецца ў нядзелю раніцай або ў першай палове дня.

## УСПАМІНЫ

### *Кітай, Сібір, Масква (с. 251)*

Друкуюцца паводле выд.: Язэп Гэрмановіч. Кітай, Сібір, Масква. (Успаміны). Мюнхэн, 1962. Гэта — першая публікацыя твора. Асобы, пра якіх ідзе гаворка ва ўспамінах, каментуюцца самім аўтарам у тэксце. Таму мы не палічылі патрэбным даваць дадатковы каментар. Апрача таго, многія асобы каментуюцца ў раздзеле «Лісты».

[1] *Прэзьбітэрыя* (прэсвітэрый, ад лац. presbyterium) — алтарная частка храма, дзе падчас літургіі і знаходзяцца святары.

### *Мае тата і мама (с. 484)*

Друкуюцца ўпершыню паводле рукапісу, які захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане. Датуюцца 1970 г. Рукапіс уяўляе сабой белавы аўтограф на 16 старонках і мае тытульны аркуш з пазнакай «London. 1970. 21/IX. Успаміны, а. Язэп Гермaновіч».

### *Учора, сягоння, заўтра (с. 500)*

Друкуюцца паводле час. «Божым шляхам», 1973, № 3 (137) і № 4 (138), 1974, № 1 (139) і № 2 (140). Публікацыя ўспамінаў засталася незавершанай.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

### *Думкі аб Уніі (с. 525)*

Друкуецца паводле газ. «Kryniсa», 9 лістап. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам «Ksiondz Jazep Hermanowič».

### *Мы беларусы... (с. 526)*

Друкуецца паводле газ. «Kryniсa», 25 снеж. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Chłopćyk s pad Hrodny.

### *Наша імя — беларусы (с. 527)*

Друкуецца паводле газ. «Krynica», 1 студз. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Chłopćyk s pad Hrodny.

### *Зямля наша — беларуская (с. 528)*

Друкуецца паводле газ. «Krynica», 26 студз. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Chłopćyk s pad Hrodny.

### *Ці Беларусь хлеба дасць? (с. 529)*

Друкуецца паводле газ. «Krynica», 7 сак. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Chłopćyk s pad Hrodny.

### *Да здрадных беларусаў (с. 531)*

Друкуецца паводле газ. «Krynica», 21 сак. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Chłopćyk s pad Hrodny.

### *Дарагія Браты Беларусы! (532)*

Серыя нататак друкуецца паводле газ. «Krynica», 2 мая, 6 чэрв., 20 чэрв. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўд. Chłopćyk s pad Hrodny.

[1] *Біскуп Роп* (Ropp) Эдвард (1851–1939) — рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч Літвы і Беларусі, з 1917 г. — арцыбіскуп Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі. Спрыяў увядзенню беларускай мовы ў касцельнае жыцце, быў супраць атаясамлівання каталіцтва з польскасцю.

### *Тамаш Мэртан (с. 537)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1966, № 6 (99), дзе апублікаваны ўпершыню пад уласным прозв. а. Я. Германовіч.

[1] *Мэртан* Тамаш (Merton Thomas, 1915–1968) — сусветна вядомы духоўны пісьменнік, манах-трапіст, святар. Нар. у Францыі ў сям'і мастака, рана асірацеў, дзяцінства і юнацтва правёў у ЗША, Францыі, Англіі. У 1937 г. скончыў Калумбійскі ун-т па курсу англ. літ. У 1941 г. паступіў у трапісцкі манастыр Дзевы Марыі Гефсіманскай непадалёку г. Луісвіля (штат Кентукі). Рукапаложаны ў святары ў 1949 г. Літаратурную славу Т. Мэртану прынесла яго аўтабіяграфія «Сяміярусная гара» (1948). Аўтар шматлікіх духоўных твораў. Адна з асноўных тэм Т. Мэртана — сузіранне як Божы дар і як шлях кожнага чалавека да адкрыцця ў сабе «ісцінага я».

### *Слова аб пакуце (с. 541)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1971, № 4 (127), дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. а. Я. Г.

### *Люрд (с. 545)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1975, № 3–4 (145–146), дзе апублікаваны ўпершыню пад уласным прозв. а. Я. Германовіч.

[1] *Люрд* (Lourdes) — горад у Паўднёва-Заходняй Францыі, адзін з найбуйнейшых хрысціянскіх паломніцкіх цэнтраў у Еўропе, санктуарый Божай Маці. Знаходзіцца каля падножжа Пірынеяў. 11 лютага 1858 г. тут адбылося цудоўнае аб’яўленне Багародзіцы, якая з’явілася чатырнаццацігадовай дзяўчынцы Бернардэце.

## ЛІСТЫ

### *1. Айцу Францішку Бучысу (с. 549)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане. Упершыню амаль поўны тэкст ліста быў апублікаваны ў кнізе: Надсан Аляксандр. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938). Мінск: Бібліятэка часопіса «Беларускі гістарычны агляд», 2006. С. 82–83.

[1] *Бучыс* Францішак (1872–1951) — манах-марыянін, біскуп, прафесар багаслоўя Пецярбургскай духоўнай каталіцкай акадэміі; у ліпені 1927 г. стаў айцом-генералам (галоўным кіраўніком) закону марыянаў пасля смерці першага айца-генерала марыянскага закону арцыбіскупа Юрыя Матулевіча.

[2] *JMJ* — Jezus, Maryja, Jazep (Святая Сям’я) (*лац.*).

[3] *Але пасля адарвання ксяндза Абрантовіча… — Абрантовіч* Фабіян (1884–1946) — каталіцкі святар усходняга абраду, архімандрыт, манах-марыянін, доктар філасофіі, адзін з заснавальнікаў беларускага рэлігійна-адраджэнскага руху першай паловы XX ст. Скончыў каталіцкую духоўную семінарыю і акадэмію ў Пецярбургу, два гады вучыўся ў Лювэне (Бельгія). Вярнуўшыся, быў прафесарам Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Пецярбургу (1915–1918). У 1918–1920 гг. — рэктар новаўтворанай Мінскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Удзельнік і адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці (у Петраградзе, затым у Мінску). Уступіў у ордэн айцоў марыянаў і з 1926 г. знаходзіўся ў Друі. З 1928 г. стаў кіраўніком усходняй каталіцкай місіі ў Харбіне. У 1939 г. выехаў у Рым , а вярнуцца ў Харбін ужо не здолеў: у канцы верасня на зваротным шляху быў арыштаваны ў Львове сталінскімі органамі бяспекі. Прайшоў пакутніцкі шлях турэмнага зняволення і катаванняў, памёр у Бутырскай турме (Масква). На час напісання ліста а. Фабіян Абрантовіч быў ужо высланы Бучысам на місію ў Харбін. Гэта сталася, як піша а. А. Надсан, «вялікім ударам для Друі», а. А. Цікота пісаў да Бучыса 7 студзеня 1928 г : «Нас і так мала, і ад нас яшчэ адбіраюць». У 1928 г. а. Ф. Бучыс меў намер выслаць з Друі ў Харбін таксама і а. Я. Германовіча, якому,

як бачна з ліста, удалося тады адтэрмінаваць свой выезд і на некаторы час яшчэ застацца для працы на Бацькаўшчыне. Пазней ва ўспамінах «Кітай, Сібір, Масква» а. Я. Германовіч напіша аб гэтым часе: «Вялікай перашкодай у беларускай працы была ўсходняя місія, якую мусіла весці яшчэ слабая Друя ў Маньчжурыі і якую мы мусілі весці ў расейскай мове і ў расейскіх школах».

[4] *Чарняўскі* Францішак (1893–1979) — каталіцкі святар, скончыў Віленскую духоўную семінарыю і папскі Усходні інстытут у Рыме (1924), пасвечаны ў святары ў 1920 г. Працаваў у парафіях Кузніца і Саколка, у душпастырскай дзейнасці карыстаўся беларускай мовай. У 1927 г. стаў навіцыянтам Друйскага марыянскага кляштара, дзе на той час было ўжо сем святароў, трох з якіх (Ф. Абрантовіч, Я. Германовіч, Ф. Чарняўскі) рыхтаваліся для працы ва ўсходнім (унійным, беларускім) абрадзе. З студзеня 1928 г. а. Ф. Чарняўскі добраахвотна пакінуў навіцыят у Друі, бо, паводле яго пазнейшага прызнання, ён не хацеў, каб і яго раптам паслалі ў Харбін, як а. Ф. Абрантовіча. Адсылка ў Харбін Абрантовіча і выхад з кляштара Чарняўскага значна аслабілі беларускую рэлігійна-адраджэнскую працу на Бацькаўшчыне, менавіта таму а. Я. Германовіч скрушліва піша ў сваім лісце, што «да гэтай працы ў Беларусі астаюся адзін я». У далейшым кс. Ф. Чарняўскі вёў місіянерскую душпастырскую дзейнасць у Францыі, Бельгіі, Злучаных Штатах Амерыкі.

[5] *Цікота* Андрэй (1891–1952) — каталіцкі святар усходняга абраду, архімандрыт, манах-марыянін, актыўны ўдзельнік беларускага хрысціянска-адраджэнскага і грамадска-палітычнага руху першай паловы XX ст. З 1909 г. вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, рукапаложаны ў святары ў 1914 г. У 1917 г. скончыў Пецярбургскую каталіцкую акадэмію. Удзельнічаў у беларускім грамадска-палітычным жыцці: у 1918 г. абраны сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, у 1919 г. увайшоў у склад Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. Выкладаў у беларускай каталіцкай семінарыі ў Мінску. У 1920 г. уступіў у навіцыят ордэна айцоў марыянаў у Марыянпалі (Летува), у 1921 г. склаў законныя шлюбы і стаў манахам-марыянінам. З 1923 г. ён апынуўся ў Друі. Тады ж пры хадайніцтве Ю. Матулевіча быў атрыманы дазвол на стварэнне кляштара ў Друі. А. Цікота актыўна спрычыніўся да гэтай справы. Арганізаваў Друйскую гімназію, а пазней марыянскі Дом студэнтаў у Вільні (1935). Пробашч і супэрыёр (настаяцель) Друйскага кляштара з 1924 г. У 1933–1939 абраны генералам ордэна айцоў марыянаў у Рыме. З 1939 Апостальскі адміністратар усходняй місіі ў Харбіне (Маньчжурыя), куды быў прызначаны пасля таго, як таямніча і беззваротна згінуў а. Ф. Абрантовіч. У 1948 г. арыштаваны кітайскімі ўладамі і выдадзены савецкім органам бяспекі. Асуджаны на 25 гадоў канцлагераў. Па-пакутніцку загінуў у Тайшэтлагу.

[6] *Па загаду Старшых...* — Маюцца на ўвазе кіраўнікі марыянаў: на той час гэта былі айцец-супэрыёр марыянаў Друйскага кляштара

Андрэй Цікота і сам адрасат айцец-генерал усяго закону марыянаў Францішак Бучыс.

[7] *Servus in Christo* — Слуга ў Хрысце (*лац.*).

### *2. Айцу Фабіяну Абрантовічу (с. 550)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане.

[1] *Анельская* — каталіцкае свята, якое святкуецца 2 жніўня.

[2] *Леанполь* (цяпер Лявонпаль) — вёска недалёка ад Друі.

[3] *Дашута* Язэп (1891–1966) — каталіцкі святар, манах-марыянін. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, Люблінскім каталіцкім універсітэце. Рукапаложаны ў святары ў 1918 г. Служыў вікарыем у Лідзе. У 1925 г. уступіў у Друйскі кляштар айцоў марыянаў. Пасля навіцыяту выехаў у Рым на далейшую вучобу, абараніў дысертацыю па кананічным праве. Вярнуўся ў Друю ў 1927 г., выконваў абавязкі пробашча парафіі. Выселены з Друйскага кляштара ў 1938 г. Быў душпастырам у марыянскім кляштары ў г. Скурцу (Польшча).

[4] *Хамёнак* Віталіс (1889–1971) — каталіцкі святар усходняга абраду, манах-марыянін, выкладчык рэлігіі. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1922), пасланы вікарыем у Друю. Пашыраў беларускую мову ў касцельным набажэнстве, выкладаў па-беларуску рэлігію ў пачатковых школах Друйскай парафіі. У 1925 г. стаў манахам-марыянінам у Друйскім кляштары. З 1938 г. прымусова выселены з Друі разам з іншымі манахамі і клерыкамі. Быў вікарыем, спаведнікам сваіх законнікаў і законніц у розных жаночых кляштарах у Варшаве. Скончыў жыццё ў кляштары марыянаў у г. Скурцу (Польшча). Пахаваны ў Варшаве.

[5] *Найловіч* Казімір (1910? – пасля 1949) — беларускі каталіцкі святар усходняга абраду, манах-марыянін, рэлігійны пісьменнік-публіцыст, друкаваўся ў віленскім часопісе «Хрысціянская думка», аўтар шэрагу брашур на тэмы хрысціянскага жыцця. Вучыўся ў Друйскай гімназіі, дзе далучыўся да беларускага рэлігійна-нацыянальнага руху. Вучыўся ў Рыме, там жа быў рукапаложаны ў святары ў 1934 г. У 1935 г., як і Т. Падзява, накіраваны на місію ў Харбін, а значыць, быў адарваны ад чыннай працы на радзіме. У 1943 г. у Харбіне К. Найловіч адышоў ад святарства і марыянаў і ўзяў шлюб у праваслаўнай царкве з расіянкай.

[6] *Кашыра* Юрый (1904–1943) — каталіцкі святар, манах-марыянін. У 1925 г. уступіў у навіцыят у Друйскім кляштары айцоў марыянаў. У 1935 высвечаны на святара. У 1935–1936 гг. — узначальваў Беларускі дом марыянаў у Вільні. У 1938 г. выселены з Друі разам з іншымі манахамі і клерыкамі. Тры гады правёў у Летуве. У 1942 г. вярнуўся ў Друю. Па-пакутніцку загінуў — быў спалены зажыва разам з парафіянамі нямецкімі карнікамі ў в.Росіца 17 лютага 1943 г. У 1999 г. папам Янам Паўлам ІІ абвешчаны святым.

[7] *Гайдзель* Ёзэф (Язэп) — марыянскі брат-законнік, таленавіты музыка. Звестак пра яго захавалася мала. Вядома, што ў 1935 г. разам

з іншымі клерыкамі ён прыехаў з Друі ў Вільню, вучыўся ў школе арганістаў. Пазней працаваў арганістам.

[8] *Вайноўскі* Ян — звестак пра яго не захавалася, вядома, што ён выйшаў з ордэну айцоў марыянаў.

[9] *Кляпацкі* Баляслаў — звестак пра яго не захавалася, вядома, што ён выйшаў з ордэна айцоў марыянаў.

[10] *Урбановіч* Казімір — звестак пра яго не захавалася, вядома, што ён выйшаў з ордэна айцоў марыянаў.

[11] *Баговіч* Станіслаў (Мікола; 1903–1980) — марыянскі брат-законнік. У 1933 г. выехаў з Друі на місію ў Харбін, дзе правёў 18 гадоў. Быў сведкам арышту ў 1948 г. кітайскімі камуністамі айцоў Цікоты, Германовіча і Падзявы, якіх перадалі савецкім уладам і засудзілі на 25 гадоў зняволення. Брату Мікалаю дазволілі свабодна выехаць з Кітая. Некаторы час знаходзіўся ў Рыме, а ў 1951 г. прыехаў у Лондан, дзе ўжо існавала Беларуская Місія. Вёў сціплае, пабожнае, працавітае жыццё, служыў закрыстыянам у капліцы, быў заняты пры гаспадарцы (кухарам і на іншых працах).

[12] *Кс. Андрэй вярнуўся з падарожы…* — Маецца на ўвазе супэрыёр кляштара А. Цікота.

[13] *Забароўшчына* — маёнтак, які належаў Друйскаму кляштару.

[14] *Віталіс* — маецца на ўвазе кс. В. Хамёнак.

[15] *Смулька* Казімір (1894–1965) — каталіцкі святар, манах-марыянін. Пасля сканчэння духоўнай семінарыі (г. Влоцлавэк, Польшча) у 1923 г. прыехаў у Друю. Рукапаложаны ў святары ў 1926 г. Прызначаны вікарыем у Друі. Выступаў з беларускімі казаннямі. Займаў таксама пасаду аканома (загадчыка гаспадаркі) Друйскага кляштара. Пасля разгону польскімі ўладамі Друйскага кляштара ў 1938 г. дэпартаваны ў Польшчу, жыў у марыянскім кляштары ў г. Скурцу (Польшча), дзе і памёр.

[16] *Сястра Ванда* — маецца на ўвазе полька Ванда Еўтэ, якая стала першым дырэктарам утворанай пасля заснавання кляштара Друйскай гімназіі, выкладала польскую мову. Належала да жаночага закону служэбніцаў Ісуса ў Эўхарыстыі («эўхарыстак»). Супрацоўніцтва з А. Цікотам у яе не склалася, і ў 1928 г. яна пакінула Друю.

[17] *Зянкевіч* Антон (1888–1949) — каталіцкі святар, удзельнік беларускага хрысціянскага руху першай паловы XX ст. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю, рукапаложаны ў святары ў 1911 г. Быў пробашчам Друйскай парафіі перад айцамі марыянамі, з 1924 г. ксёндз-дзекан у Глыбокім. Прыхільнік беларусізацыі касцельнага жыцця і пашырэння каталіцкага ўсходняга абраду ў Беларусі.

[18] *Беразвеч* (Беразвечча) — вёска, дзе, як і ў Мікалаеве, мелася быць грэка-каталіцкая парафія, але тагачасныя польскія ўлады не далі дазвол на яе ўтварэнне.

### *3. Кс. Адаму Станкевічу (с. 551)*

Друкуецца ўпершыню паводле машынапісу з аўтарскімі праўкамі, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва: Ф. 3, воп. 1, спр. 279, арк. 18.

[1] *Станкевіч* Адам (1891–1949) — беларускі каталіцкі святар, грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч, заснавальнік і гісторык беларускага хрысціянскага руху першай паловы XX ст., публіцыст, крытык, выдавец, рэдактар газ. «Беларуская крыніца», час. «Хрысціянская думка» (1927–1937). Двойчы арыштоўваўся сталінскімі органамі бяспекі ў Вільні: у 1944 і 1949 гг., пасля другога арышту прыгавораны да 25 гадоў лагераў. Памёр або, што больш верагодна, быў закатаваны ў Тайшэтлагу. Пасля атрымання гэтага пісьма А.Станкевіч паспрыяў таму, каб а.Германовіча адклікалі з Харбіна на Бацькаўшчыну з увагі на дрэнны стан яго здароўя і немагчымасць творчай працы. Ён напісаў ліст ад 20 красавіка 1935 г. да а. супэрыёра (настаяцеля) Друйскага кляштара А.Цікоты, у якім настойліва падкрэсліў, што «ўжо вялікая пара вам рэалізаваць паварот Язэпа з Харбіна». Цікота нарэшце прыслухаўся і дазволіў вяртанне. У снежні 1935 г. а.Я.Германовіч змог пакінуць Харбін.

[2] *Дзеля таго я не адпісаў Гляку...* — Маецца на ўвазе Станіслаў Глякоўскі (1896–1941?) — беларускі каталіцкі святар, асветнік, дзеяч рэлігійнага і культурнага адраджэння, публіцыст, выдавец. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю, папскі Усходні інстытут у Рыме. Доктар тэалогіі. Пасвечаны ў святары ў 1921 г. у Вільні. У душпастырскай практыцы свядома карыстаўся беларускай мовай. У 1930-я гг. у Вільні выдаваў беларускі каталіцкі часопіс для дзяцей «Пралескі». На пачатку Другой сусветнай вайны — святар касцёла св.Сымона і Алены ў Мінску, актывіст нацыянальнага рэлігійнага і культурна-асветнага руху. Арыштаваны гестапа ў снежні 1941 г. і, відаць, неўзабаве па-пакутніцку загінуў, бо далейшыя звесткі аб ягоным лёсе адсутнічаюць.

[3] *«Казюк»* — вядомыя раннія аповесці Вінцука Адважнага «Як Казюк збіраўся да споведзі» і «Казюкова жанімства» былі на той час ужо выдадзеныя ў Вільні пад крыпт. A. W. адпаведна ў 1928 і 1929 гг. Магчыма, тут маюцца на ўвазе паэтычныя перапрацоўкі на матывы дадзеных твораў, якія аўтар так і не скончыў або яны засталіся ненадрукаванымі ў ягоным харбінскім архіве. Апошні, як вядома, не захаваўся.

[4] *Уладыка Фаб[іян]* — маецца на ўвазе Фабіян Абрантовіч.

[5] *Падзява* Тамаш (1906–1975) — беларускі каталіцкі святар усходняга абраду, манах-марыянін, рэлігійны пісьменнік. Скончыў Друйскую гімназію пры кляштары айцоў марыянаў (1929), а затым папскі Грыгарыянскі ўніверсітэт у Рыме. Рукапаложаны ў святары ў 1934 г. У 1935 г. накіраваны на місію ў Харбін. Шкадаванне а. Я. Германовіча выклікана менавіта гэтай акалічнасцю: адарваннем нацыянальна свядомых беларускіх святароў ад чыннай працы на Бацькаўшчыне. Т. Падзява, як і Германовіч, быў арыштаваны ў 1948 г. кітайскімі ўладамі і

перададзены савецкім органам бяспекі. Да 1955 г. знаходзіўся ў лагеры (Тайшэт). Пасля вызвалення апынуўся ў Польшчы, у 1969 г. выехаў у Рым, а затым у Лондан, дзе заставаўся да канца сваіх дзён. Часта выступаў як культуролаг і гісторык рэлігіі на старонках лонданскага беларускага рэлігійнага часопіса «Божым шляхам».

# ДАДАТАК

### *Адам Станкевіч.*
### *Аб жыцці і творстве В. А. [Вінцука Адважнага] (с. 553)*

Друкуецца паводле выд.: W. A. «Biełaruskija Cymbały», дзе ўпершыню апублікаваны ў якасці прадмовы.

### *А. Саладух.*
### *Зацемкі аб повесці Вінцука Адважнага «Хлапец» (с. 561)*

Друкуецца паводле час. «Калоссе», № 2, 1936 г., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Саладух А.* — літаратурны псеўданім беларускага ксяндза Уладзіслава Талочкі (1887–1942).

### *Часлаў Сіповіч.*
### *Айцец Язэп Германовіч — жыццё і творчасць (З нагоды 50-х угодкаў святарства) (с. 566)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», № 82, 1963 г., дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам: Вучань Вінцука Адважнага. Пад тэкстам заўвага: Лондан, 1.7.1963.

[1] *Сіповіч* Часлаў (1914–1981) — тытулярны біскуп Марыямітанскі, беларускі грэка-каталіцкі святар, належаў да закону айцоў марыянаў, апостальскі візітатар для беларусаў каталікоў усходняга абраду на эміграцыі, тэарэтык і прапаведнік экуменізму, рэлігійны пісьменнік-публіцыст. Вучыўся ў Друйскай гімназіі пры кляштары айцоў марыянаў (з 1928 г.), там жа ўступіў у навіцыят (1934). Вучыўся ў Віленскім ун-це. У 1938 г. разам з іншымі беларускімі марыянскімі клерыкамі і святарамі быў выселены з Друйскага кляштара. Вучыўся на тэалагічным факультэце папскага Грыгарыянскага ўн-та ў Рыме, у папскім Усходнім інстытуце. У красавіку 1947 г. як рэктар Беларускай Каталіцкай Місіі прыехаў у Лондан, дзе заставаўся да канца свайго жыцця.

### *Часлаў Сіповіч.*
### *Святой памяці айцец Язэп Германовіч (1890–1978) (с. 572)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», № 150, 1979 г., дзе апублікаваны ўпершыню за подпісам: Біскуп Ч. Сіповіч.

# SUMMARY

Vintsuk Advazhny (*the Brave*) is a literary pen-name of Belarusian priest, Marian Yazep Hermanovich (1890–1978). Graduated from Vilnya Theological seminary and ordinated to priest in 1913, he joined the Marian order in Druya in 1924. At the same time Yazep Hermanovich took an active part in Belarusian spiritual and religious renovation. Nevertheless, in a while he was to stop the fruitful work on his Motherland and was assigned as a missioner to the Far East to the town of Kharbin. There in 1948 Father Yazep Hermanovich was arrested by Chinese Communists, delivered over to the Soviet security service and condemned to 25 years in camps. Discharged in 1955 and deported to Poland, he later on moved to Rome and afterwards to London.

The writer's creative development can be divided into two fruitful periods: the early, called Vilnya-Druya-Kharbin, and the late ones, in exile. One should admit that Yazep Hermanovich's literary talent is peculiar in genre-thematic catholicity and distinctive style. His creative legacy comprises verses and fables, short stories and stories, memoirs, articles, sketches and letters. The creative personality of Vintsuk Advazhny is characterized by deep spirituality, innate sense of humor and true patriotic feelings. All these traits of character can be observed in his literary works.

The present volume edition comprises verses from the verse collection «Belarusian cymbals» (1933), the verse «A Letter from Abroad» written in Kharbin and some examples of spiritual poetry from the period in exile. The short story *Adam and Anelka* and the story *A Boy* from Vilnya period prove the bright literary talent of Vintsuk Advazhny. Nevertheless, the memoirs depict the literary genius of the author even more. These are the well-known memoirs of camp life *China, Siberia, Moscow* and memoirs of the childhood *Yesterday, Today, Tomorrow* published in the journal «The Lord's Way» («Bozhym shliakham») in the 1970s. For the first time the letters and memoirs of parents from the writer's archive in London are published. Among social and political essays are the early articles of patriotic character to the newspaper «Belarusian Spring» («Belaruskaya krynitsa») as well as some articles of spiritual character from the period in exile. The «Addition» comprises important critical and biographic materials by Stankevich A., Talochka U., Sipovich Ch. who were well acquainted with and, thus, had a profound knowledge of Yazep Hermanovich in different periods of his life. All the materials help to understand adequately the personality of the writer and priest. The texts are compiled and edited as well as the preface and comments are written by Candidate of Philology Iryna Bahdanovich, a poetess and literary critic.



# ЗМЕСТ

## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## ЛІСТЫ



## ДАДАТАК

**Адважны, В.**

**А28** Выбраныя творы / Вінцук Адважны; уклад., прадм., камент. І. Баргановіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 592 с.: [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-6976-82-0.

У кнізе прадстаўлены найбольш значныя творы вядомага беларускага пісьменніка-святара, айца-марыяніна Язэпа Германовіча (1890–1978), увайшоўшага ў беларускую літаратуру пад псеўданімам Вінцук Адважны. Шматграннасць яго творчай асобы прадстаўляюць творы паэзіі, прозы, а таксама ўспаміны, публіцыстыка і лісты, напісаныя ім у ранні перыяд творчасці (віленска-друйска-харбінскі) і позні, эміграцыйны, калі пасля перажытых рэпрэсій ён жыў у Лондане (Марыян Гаўз). Сярод іх такія знакамітыя ў свой час творы, як вершы з віленскага зборніка «Беларускія цымбалы» (1933), напісаная ў Харбіне, а выдадзеная ў Вільні аповесць «Хлапец» (1935), успаміны з лагернага жыцця «Кітай, Сібір, Масква» (1962). Упершыню друкуюцца лісты і ўспаміны пра бацькоў з лонданскага архіва паэта.

Пяцьдзесят восьмы том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Вінцук Адважны**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Лідзія Карамазава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 18.04.2011.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 31,08 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 24,91.
Наклад 700 асобнікаў. Зак. 295.

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск. **Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86,** e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-6976-82-0




Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Агрбуд». Ліцэнзія № 02330/0494197
ад 03.04.09. Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

